# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



## ТВОРЫ

ДЗВЕ ДУШЫ
АПОВЕСЦЬ

АПАВЯДАННІ

ЖАРТАЎЛІВЫ ПІСАРЭВІЧ
П'ЕСА

ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА І ПУБЛІЦЫСТЫКА

ЛІСТЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



## ТВОРЫ



Рэдактар тома
М. І. МУШЫНСКІ

Укладанне і каментарыі
Т. С. ГОЛУБ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84Бел 7
Г21

В данное издание входят повесть «Две души», рассказы, пьеса «Шутливый Писаревич», литературно-критические и публицистические статьи, эпистолярное наследие писателя.

В литературном комментарии дается научная оценка материала, который содержится в книге. Это еще одна возможность глубже заглянуть в творческую лабораторию писателя.

Г $\frac{4702120200-159}{М\ 302(05)-89}$ БЗ 51—89

ISBN 5-340-00580-1

◇ ◇ ◇

# I

Памешчык сярэдняй заможнасці пан Абдзіраловіч заўдавеў у 1890 годзе дужа трагічна.

У адну душную, цёмную летнюю ноч варочаўся ён з жонкаю дамоў з балю, на якім гуляла шляхецтва з усяго павету.

Баляванне было вялікае. Шампанскае лілося, як рака. Клум, гоман, грыменне прывезенага з N. аркестра далёка нясліся з ярка асветленага панскага палаца па старыннаму заглохламу парку, насаджанаму рукамі падданых за каралём Панятоўскім, пераляталі заплытае возера з шумячым чаротам і трапетна шэпчучым уночы трасніком, каціліся, засмутнела слабнучы, цераз сонны фруктовы сад іканалі на дварах спячай вёскі.

Сярод агульнай несудзержнай весялосці і скокаў, пад налязаннем начы і музыкі, маладую нервовую паню знянцейку агарнуў нез'яснімы сум, і яна вельмі напужала мужа, настойліва бажала зараз а зараз ехаць дамоў, дзе астаўся іх першачок, трох месяцаў Ігналік.

— Але ж, дуся,— уставаў з-за картэўнага століка, прабаваў рассеяць прадчуцці аб няшчасці агорчаны панмуж,— яшчэ гэтак рана... Усё спакойна... У нас сышлася добрая партыя...

Паня раптам уся задрыжэла. Слёзы пырскнулі з воч і апяклі яго руку.

— Ігналік мой!.. Ігналік... Барзджэй дамоў, да яго...

Дзіўнай трывозе і клопату маладой жонкі баляваннікі надта не падзівілі і без думак гулялі аж да шэрай гадзіны рання, калі мужыкі, схапіўшы косы, беглі ў макраватай імгле золку на сенажаць і прыкра чулі на хаду слабнучыя гукі панскай гульні.

А накаванае прадчуццё не ашукала яе: сярод чорнай цямноты, у Чартовым Барку, апоўначы на іх без меры смела напалі імслівыя людзі і без следу ўцяклі.

Коні паціху і асцярожна перастуналі па дарожнаму лесавому карчэўю, вадзілі вушмі і, чуючы, пырскалі. Фаэтон гоцаў і гутаўся. У няцямлівай дрыготцы прытулілася да мужа паня.

Нешта крэхнула, штосьці зашумела... І блізюхтанька ў лесе, каля дарогі, дзіка гэйкнулі, схапілі коні за паводдзе і першы раз дзіўна і голасна вухнулі ў лесавой нямой цішы калом па будцы фаэтона, прабілі яе.

Другі раз меркавалі пану і далі ў вісок яго жонцы.

Коні ірванулыся на дыбкі і быццам шалёныя паляцелі. Жудасна, як звер, роў здурнелы пан, сціскаў ліпкімі ад крыві пальцамі халадзеючы бязвольны труп. Хурман знямеў ад страху і сударжна ўпінаўся нагамі, намагаўся, каб не зваліцца з казлоў, не адарваць абкручаных вожкамі рук.

Сонныя птушкі неспакойна, нездаволена трапыхалі крыллем у макушках сярод нявіднага ў чарноце веццяя.

...Ігналік астаўся нядужы сірацінка. Пан Абдзіраловіч атупеў з гора і злабы на падазраваных забойцаў з навакалічных сялян, забіўся пасля хаўтур у габінэт з каньяком і цыгарамі, здаецца, зусім забыўся аб быццю дзіцёнка.

Верныя слугі ўзялі ў панскі двор мамку з далёкай вёсачкі, а з ёю і яе дзіцёнка-хлопчыка, панічовага блізка што аднадзённічка.

У дзяцінымпакойчыку паставілі яшчэ адну калыску, наспех збітую дваровым сталяром і надта невыгодную побач з прыгожанькай люлечкай паніча. Але ж абодва дзіцянёткі былі амаль неадзначныя і абодва — у поўным загадзе мамкі.

— Еш, пі, ні аб чым не клапаці! — сказаў неяк раз пан мамцы,— толькі аднэй прашу ласкі ў цябе: не рабі няроўнасці ў дзяцёх, калі будзеш карміць і даглядаць.

Сказаў і ўзноў забіўся ў габінэт.

Маланняя была ціхая, маўклівая, але разумная і рахманая баба, жонка здадзенага ў салдаты і ў скорым часе памёршага там мужыка, і прыйшлася якраз да новага жыцця.

Добра гадаваліся хлопчыкі. Ігналік падымаўся на ногі дужым і харошым мальцом. Трошку слабейшы і цішэйшы быў Маланнін Васілёк.

Дзеці дружылі, бавіліся разам, гулялі, як браткі, слухалі Маланніны казкі і не хацелі спакідацца, калі прывязлі ў двор паважнага настаўніка ў даўгім чорным сурдуце і акулярах, каб вучыў паніча пісьменству.

Нянька любіла свайго панічочка незвычайна. Здавалася, яна любіць яго болей, чымся роднага сына.

І дзіўныя чуткі папаўзлі былі ў далёкай вёсцы, але, добра, да пана ніякае дзейканне адтуль не дахадзіла.

І ён гардзіўся Ігнасём, чуў у ім сваю белую костку і сінюю кроў, сваю пароду.

Толькі адзін раз, адзін нядобры мамент быў, здалося Маланні, як быццам пан занадта доўга і пільна а пільна ўглядаецца ў Ігналіка і на вялікую карціну на сцяне, дзе быў намалёваны сам і з нябожчыцаю жонкаю...

Васілёк, каб хацеў, мог бы выйсці на панскага лакея, кухара ці нават аканома, адылі матка, як слова наўмысля, выдаляла яго ад сябе, і як дайшоў сямёх гадкоў, хлопчык бегаў падпаскам у старога Яромы, пасвіў авечкі.

Яна давала яму, сустрэўшыся, смачныя гасцінцы з панскага ўжывання, але была стродкая. Яна не любіла, калі ён вельмі часта залучаў у панскі дом, і ўважала бачыць яго ў людской хаце або ў будцы ў дзеда Яромы за фруктовым садам на папасе.

## II

Поезд прыйшоў у Маскву са спазненнем, і прапаршчык Абдзіраловіч быў здаволены, што прыехаў уранні, а не ўночы.

Нават шкадаваў пакідаць зацішнае купэ.

Ноч мінулася так добра. Ехалі яны толькі ўдвух, у купэ першага класа, куды і яму дазволілі сесці як хвораму; унізе — грэбліва маўклівы, панскае пароды гвардзейскі афіцэр, а на спальнай паліцы — ён, «прапаршчык армейскі».

Шпарка імчаўся поезд сярод ціхой ліпнёвай начы. У расчыненае вакно блішчэлі далёкія, далёкія, рэдкія зорачкі з чорнага густога і цёплага бяздоння. Унізе за вакном хапаліся ўцячы назад курганкі і лагчыны з паснулымі кустамі, прыніклым нанач да зямлі жытам і араматнаю травою; сунуліся, аставаўшыся, цёмныя стаўбы з дратамі, што плывуць патроху ўгару, то раптам скідаюцца ўніз і ўзноў то паволі, то барзджэй усплываюць з мёртвым бліcканнем ад святла ў вакне.

Некампанейскі папутнік Абдзіраловіча паважна зняў з сеткі падарожную лазобачку, звонка адамкнуў яе, дастаў пакуначкі з ядою, расклаў на століку, выцягнуў бутэльку і чарачку, не ўважаў на троху нясціплы пагляд су-

седа з паліцы, і пачаў апетытна, са смакам есці вялікі кавалак пражонага парасяці,— хрупаў зарумяненай скурачкай,— потым — нейкую дзічыну, тварожнічкі, піражкі. Доўга ачышчаў жоўтую, прыгожую, надта вялікую ігрушу і чмокаў, ад'ядаў буйныя, сакавыя кускі.

Абдзіраловіч пашуршэў газетаю, каторая тхнула свежаю друкарскаю фарбаю, зморана паляжаў нейкі час у нерухомых моўчках з выцягнутымі ўздоўж цела рукамі і неадназначнаю думкаю.

Гвардзеец выцер чырвоны, мяккі і губасты рот (на верхняй голенай губе, збоку, чорная барадавачка) салфеткаю з вялізнымі на ёй ініцыяламі пад каронаю; потым ручніком — пульхлыя, холеныя рукі і пачаў усё класці назад у лазобачку.

Абдзіраловіч меўваўчыны апетыт за ўвесь час лепшання пасля хваробы і цяпер надарма з ім змагаўся, глытаў слюню, чуў нейкую знялюбеласць да гвардзейца, што сам не можа гэтак пад'есці.

Закурыў папіроску і высунуўся ў вакно пад прыемны халадок лёгкага дзьмухання ночы.

Пасля месяца цяжкой хваробы ў дывізійным лазарэце, пасля мучэнняў і турбот на пазіцыі, дзе быццам у захвіцэнні быў даўнейшы, маладых лецяў, дух яго, пасля прыкра-надакучлівай маруднасці на пунктах і вакзалах, доктарскіх камісіях, ён з радасцю і бясклопатным чуццём лёгкасці і спакою ў ачунялым целе ўглядаўся ў соннае поле і дыхаў араматам сена і красак. Яму здавалася, што ізноў адраджаецца да жыцця... Заварочаліся ўспаміны аб далёкіх гадах маленства, калі аднойчы ўцёк з двара ў поле, глядзеў, як косяць сена, абедаў з касцамі і качаўся на свежым пахучым сене, бегаў басанож па колкай сенажаці.

Ах, як гэтыя думкі і гэтая прынадная ноч сярод палёў, у грымячым поездзе, на мяккіх, зыбкіх падушках, ах, як ізноў захвалявалі яны сэрца, што ўзята ад зямлі і вечна туды, да яе цягнецца, ёю вабіцца і да яе гукае сярод чужога і непрыемнага.

Гвардзеец выняў коўдрачку, падушачку, пазваніў праваднiку і з яго памаганнем асцярожна здзеў бліскучыя, кволыя боцікі; потым, адпусціўшы яго, раздзеўся, склаў сцеражліва фрэнч, скінуў з яго пухавінку, лёг, увінуўся і заснуў з маленькім свістаннем у носе.

З грыменнем налятаў поезд на масты, паціху сіпеў пад гару, лёгка імчаўся па раўнядзі сярод чорных кучак

хат і садоў, дзе там а там блішчэлі жоўценькім і ціхім вясковым святлом вакенцы, а далёка, у розных канцах, чуваць было, гаўкалі сабакі ў невядомым рускім сяле.

Летуцелася аб працы ў вольнай старонцы, аб дзейнасці...

Усё здавалася цяпер харошым, ясным і духоўна, нез'ясніма на словах, зразумелым.

Нават абраз грознага, няправеднага бацькі, каторы адрокся ад народалюбца і апрашчоніка і быў рад, што яго выкінулі з універсітэта, нават ён не быў цяпер балючым яму зданнём.

І гледзячы на гэтага сытага, крывістага гвардзейца, ён з сумнымі думкамі нагадаў баявы вучастак свае роты ў Палессі, у лесе і балоце... Рота таяла. Цынга і крываўка адменелі яе склад так скора! І ах,— тыя часы, калі пад вясну запаланілі роту быўшыя жандары і кадравыя з запасных батальёнаў... І ах,— тыя часы, калі велікаросы пабілі капітана N.— украінскага самасційніка... І ах,— тыя часы, калі мусіў з фальшам на душы ўмаўляць людзей, каб цярпліва знасілі гэтае абрыдлае жыццё.

Ён пачуў прыкрасць і што чырванее, адылі зараз уздыхнуў лёгка і спакойна.

— Лепшаю,— казаў ён сам сабе, адхіляючыся ад вакна і кладучы замест падушкі шэрую, шорсткую, але якуюсь люба-блізкую шынель,— лепшаю!

Уранні, пад Масквою, прачнуўся ціхамірны і здаволены ўсім наўкола і сваёй доляю.

А па небу хадзілі хмары, ужо курыўся ля закапцелых фабрычных комінаў дробны дожджык і часам гусцеў і буйнеў.

«У дождж прыехаў: шчасце»,— думаў сабе.

Калі злазіў па сходнях на перон, заўважыў і пачуў, што дужэй ступаюць ногі, што не дрыжаць так, як там, палохаючы, дзе падсаджвалі яго ў вагон санітары Чырвонага Крыжа.

Абдаўся вакзальным клумам і сумятлівасцю.

Беглі нашэльнікі, важка пхнулі вялізазны воз скрынак, вузлоў і кошыкаў. Дробненька стукалі ножкамі даўно нябачаныя гарадзянкі.

Ціхамірны і здаволены сабою пазіраў на іх, уцяшаўся, што не чуе таго даўнейшага, што пачынаецца так салодка і прыгожа, а мае па сабе нуду і пусткі.

У буфеце праштурхаўся, сярод падарожнікаў і груду рэчаў, да стала і прасіў чорнай, крэпкай кавы.

Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі заўважыў наўпроці сябе і спакойна і лёгка адхіліў вочы, збялелы, лёгкі і шчыры пасля хваробы. І пачуваў яшчэ на сабе той радасна-вясёлы, ціхі смех бліскучых дзявоцкіх вачэй. А не глядзеў і ўцяшаўся, што зрабіўся новым, другім.

На галоснай, макраватай, клумнай і сумятлівай вуліцы доўга, доўга дарма чакаў сярод сярдуючых і раздражнёных людзей, прапусціў некалькі паўнюхтанькіх вагонаў трамвая, быў, аднак, цярпліва-спакойны і з цікавасцю прыглядаўся, ці няма чаго новага цяпер, у часе волі, на гарадской вуліцы.

І нічога, заміляўся з усім, хаця ж вознік быў не па кішані, хаця ж грошы было надта мала, і яго, зведаўшага ўсю салодкасць пралетарскага быцця (калі пагневаўся з бацькам), цяпер, у шынелі афіцэра, хаця і не лічаць, можа быць, за ворага, але не прымаюць і за свайго брата.

## III

Блізка два месяцы прайшло ў Маскве, у лазарэце, у прыкрым чаканні, калі пашлюць лячыцца на Каўказ.

Афіцэры бязмальна ўсе мелі радню ў горадзе, бязмальна ўсе былі болей-меней здаровыя (яго такога, як быў вольнаапрадзяляючымся, зараз пагналі на фронт), блізка што не жылі ў лазарэце, прыходзілі толькі абедаць, вячэраць і зрэдку пад ранне на начлег, калі ён, устаўшы, пазіраў у вакно на пустую вуліцу, на дворніка ў белым хвартуку з мятлою ў руках і на рэдкіх, марудна паўзучых дамоў, зморaных начавых вознікаў.

І гэтая адзінота была яму даспадобы.

Толькі дужа не давалі спакою мухі, і Абдзіраловіч выходзіў у садок у будачку, абвітую дзікім вінаградам,— ці чытаў кніжку, ці проста сядзеў на сонейку. Хворае цела перашкаджала думаць, і было толькі адно троху-многа рэльефнае чуццё: бурлячая рэвалюцыя праходзе, вось, міма...

А ўжо значна ачуняў, ужо не мучыўся на жывот, не млеў, і было досыць добра. Ужо іншы раз увечары ішоў слухаць музыку ці сядзеў у скверы, хадзіў сярод людзей — і ўсё ўцяшаўся з свае вольнасці і незалежнасці.

А час ішоў, і рабілась не дужа цёпла, нават у горад убіваліся гукі і фарбы недалёчкай восені. Паменшала мух, але ж кусаліся яны вельмі балюча і ліплі, як смала.

Чарод адпраўкі не падхадзіў, і тонкая, маўляў джала вужакі, нуда на незлавімае мгненне датыкалася да сэрца і надта пужала.

За сталом афіцэры гаманілі аб хамстве народа; пад маскаю прылікі, але са злосцю ў душы, як быццам жартліва, спіраліся аб палітыцы з *таварышам-няняю*, што насіла стравы на стол, ці вылічалі волю пакарнейшаму і найцішэйшаму бежанцу, *таварышу-санітару*, каторы не разумеў, аднак, за якую волю ён знялюбеў ім.

Можна было йзноў распусціцца з нервамі. «Трэба барзджэй, барзджэй выязджаць»,— думаў Абдзіраловіч, седзячы ў скверы і гледзячы на гуляннікаў.

Нейкі работнік, у сіняй замасленай блюзе, пад выпетранай шынелькаю без пагонаў, ішоў, хапаўся; ён пацягнуў за сабою пагляд сваім, здаецца, надта знаёмым абліччам.

— Васіль! — гукнуў зняцейку для сябе Абдзіраловіч, і работнік прыстоіў, пазнаючы яго.

— Ігнат Восіпавіч? — з нясмелаю радасцяй прамовіў ён; не ведаў, парукацца яму ці не.

— А я, а я, любы Васілёк, я самы! А як жа рад нечаканай сустрэчы з табою ў чужой Маскве! — і абшчапіў яго шчыра і проста. Пацалаваліся.

— Васілёк, як быццам мяне чаго саромішся,— казаў Абдзіраловіч,— што ты, галубец? Прысядзь, родненькі. Пагамонім. Цяпер, аджа, не тая пара — памятаеш, як цябе, ніжняга чына, не пусцілі са мною ў залю першага класа ў Смаленску?

— Так,— ухільна адказаў Васіль, марудна трапляючы на патрэбны тон. А быў і ён здаволены.

— Ці ж ты не салдат ужо? — спытаўся Абдзіраловіч.

— Не, мяне выпісалі з часці, і я працую на фабрыцы. Жыву з маткаю.

— Што? і мамка тут! — крыкнуў той, не ведаў, як сказаць аб ёй, а казаць, як калісь, *Маланка* — саромеўся.— Ай, як ба добра з ёю пабачыцца. А што, здарова, тупаець, як тады?

— Ат, якое там здароўе, Ігнат Восіпавіч,— а злашча пры гэткай дарагоўлі. Каб хаця стравaванне лепшае.

Яны троху памаўчалі.

— Калі не пагрэбуеце...— невясёла і нясмела ўсміхаўшыся, казаў Васіль,— пойдзем, старая будзе надта ж рада. Успамінае вас штодзенна. Адрас вельмі старалася даведацца. Клапацціла, ці не забіты вы?

— А я, няўстыдны, і не пісаў ніколі сваёй мамцы. Пойдзем, пойдзем... Ай, як добра. Дай веры, Васіль, рад табе, як роднаму брату. З бацькам я блізка што нічога супольнага не маю. Ты, напэўна, ведаеш. І нікагенька ж няма ў мяне. Сустрачаўся, праўда, з рознымі людзьмі. Ат, успамінаць не хочацца. Вось ізноў адзін...

Яны ўсталі і пайшлі на трамвай. Былі абодва радыя. У непарадку казалі адзін аднаму аб сваіх падзеях апошніх гадоў. І прапаршчык не пазнаваў даўнейшага Васіля, неклапатлівага, вясёла-няўважнага пастуха, потым работніка ў прудзе (млыне). У яго на вачах быў сур'ёзны, удумлівы, крыхачку хмарны работнік, каторы найлепі разважаў аб значэнні падзей і быў гарачы паклоннік недалёчкай сацыяльнай рэвалюцыі. Той, афіцэр, нават некалькі разоў счырванеў за сваё няведанне і збочнае сугляданне крывавага змагання.

Ехалі амаль не цэлую гадзіну ў незнаёмы край горада. Яшчэ доўга ішлі па нячыстых вуліцах, загароджаных вялізарнымі, непрыгожымі дамамі, сярод фабрычных комінаў і каля высачэннага плоту.

— Мне добра: блізка да фабрыкі,— хваліўся Васіль.

Збочылі ў вузенькі завулак, узышлі на аграмадны панадворак з некалькімі паваротками, са смуродам ад дзёгцю і вапны з-пад абы-як збітых дашчаных патрэбных каморак і, урэшце, ачынуліся каля нізенькага ўвойсця ў падвал.

Васіль пастукаў.

— Наш палац,— сказаў ён.

— Хто там? Ты, Васілька? — пачуўся Абдзіраловічу знаёмы, знаёмы голас няньκі.

— Я, мама, я... з госцем. Адчыні.

Аббітыя калматаю рагожаю дзверы скрыгнулі, і тады на парозе паказалася яна, без пары вельмі старая, з абгаркам свечачкі ў руцэ.

— Зробце ласку! — пусціў Васіль гасця наперад.

— Нічога, нічога, смеленька, панок,— з пытаннем у вачах запрашала і яна, устаўляла абгарак у адбітае дно бутэлечкі з паперлю.

— Не прызнаешся, мамка? — працягнуў Абдзіраловіч рукі.

— А хто ж вы, панок? — І трошку памаўчала і паўзіралася.— А!! — раптам неяк пісклява айкнула яна і кінулася да яго.— Панічочак наш! Ігналік! Ах, Ігналік...— і схапіла за рукаў.

Слёзы папаўзлі ў яе па зморшчынах; яна згубілася ў парадку.

— Здароў табе, мамка,— паспеў ён прытуліць яе з прыкрай, аднак, трывогай, каб яна не цмокнула ў руку, як гэта было зазвычаена ў іх у двары, і пацалаваўся з ёю.

— Ах, панічок! Ігналік... Даруйце ўжо мне, буду гукаць Ігналікам, як маленькага. Воля цяпер,— сарамліва дадала яна і зусім згубілася ў парадку, не ведала, як прыняць, куды пасадзіць яго.

— А як жа, а як жа. Можаш, мамка, нават за вуха падраць і сказаць: «А-а, ты, нягодны Ігналік, не пісаў». Але дай веры, мамка, жыццё так выпадала. І адрасу не ведаў.

Васіль маўкліва барабаніў трубою самавара і з чорным ад вугалля кошыкам у руцэ шмыкнуў некуды за дзверы.

— А я во гарую тутака. На крылліку, здаецца, вылецела б. Адылі ўсё мадзею з Васільком.

Яна агледзелася.

— Ах, божухна, як жа гэта я? На самавар дык і забылася. Не паставіла, думала, Васіль у камітэтах сваіх заначуе. Бальшавік жа ён у мяне, ай, бальшавік. І бог святы ведае, да чаго яно дойдзець, усё гэта... Пэўне, да Карпавіча па вугалле пайшоў. Той таксама за бальшавікоў цягнець, яшчэ злей. Збівае з розуму і нашага мальца; заўсёды гамоняць а гамоняць ды шашакаюцца.

Пакой быў досыць вялікі, але гнёў сваімі гмурымі сцюдзёнымі сценамі і нізка навіслаю, аблупленаю каменнаю столлю. За паркалёваю фіранкаю стаяў адзін ложак, ля печы — другі. На стале ў сіняй паперцы ляжаў селядзец. На паліцы, каля высокага, за кратаю, вакна ляжала некалькі нумароў газеты, брашур і тоўстая кніжка ў добрай вокладцы. Нахіліўшы галаву, Абдзіраловіч прачытаў цісненне: «Капітал».

«Няўжо Васіль чытае Маркса?» — падумаў ён пра сябе.

Тым часам прыйшоў і ён з вуталлем. Старая забегала з селядцом і ўсё пыталася.

— Авохці, божачка наш, бацюхна,— казала яна,— каторы год свет увесь круціцца. Воля прыйшла, а ўсё канца няма. Карпавіч наш яшчэ злейшы цяперацька. Толькі й ведае хлопца баламуціць. Ай, каб не дарагоўля,— памякчэў ба народ.

Калі елі селядца і пілі гарбату з брушнічным экстрактам, у дзверы нехта пастукаўся.

— Васілёк! А Васілёк,— пачуўся грубы, але прыемны

мужчынскі голас,— адчыні, браток, іду на гасця вашага падзівіцца.

— А каб яго качкі... знайшоў калі час,— нездаволена шапарнула старая.— Завядзець цяпер сваю дуду.

Увайшоў нізенькі, з сівымі кучаравымі валасамі дзядок у шырокім пільчаку зверху палатнянай вышыванай кашулі, у апорках; цырымонна пакланіўся і працягнуў Абдзіраловічу руку.

— Іван Карпавіч Гаршчок,— сказаўся ён,— Васілёў таварыш, работнік на метале.

— Прапаршчык Абдзіраловіч,— адказаў той.

Дзядок чуў сябе вольна і гаварыў з пэўнасцю і плаўнасцю. Падзякаваў гаспадыні за гарбату і зараз запытаўся ў афіцэра, разглядаючы на грудзях значок з вучылішча:

— А якіх вы, так сказаць, паглядаў на палітыку ўжываеце?

— А вось пакуль што яшчэ самаазначаюся, а на фронце гэта мала карціла,— жартліва адказаў Абдзіраловіч.

— Ігнат Восіпавіч бліжэй за ўсяго падходзіць, пэўне, да сацыялістаў-рэвалюцыянераў,— дзялова заўважыў Васіль.

— Ці мала яму, галубчыку, і без таго клопату было,— быццам заступалася старая,— зазнаў гора даволі. Можа, бачыў троху дабра, як дзіцёнкам у двары жыў. У навуку рана пайшоў, потым з татулькам нешта пасварыўся, потым вайна. Як выхвараў, збялеў...

— Усё гэта недарэчы,— сербануў гарбаты, перабунтаваў яе гутарку Карпавіч і дастаў пушачку з махоркаю.— Дазваляеш, цётка? — звярнуўся да яе і потым ветліва падставіў афіцэру: — Не пагрэбуйце: што душа мае, тым і прымае. Яно добра,— казаў ён далей,— значыцца, калі чалавек гора зазнаў, барзджэй працоўнага чалавека абстоіць. Толькі з самаазначэннем бавіцца не выпадае, каб нойды не спазніцца,— зірнуў ён на Васіля.— Мне малец казаў троху чаго аб вас. Аб бацьку вашым казаў... Значыцца, вы за народ, калі з ім за нашага брата пасварыліся. Ну, скажыце мне па шчырасці: каб давялося нам з панамі падужацца, на чый бок станеце вы?

— З кім яшчэ дужацца хочаце? Ат, не мае стары лепшай гутаркі,— замінала матка.— Ці мальска крыві хрысціянскай пралілося. Бывала толькі: «Ай, каб зямелькі! Ай, каб зямелькі!» А цяпер і зямля будзе, дык яшчэ мала здаецца, немаведама чаго хочацца.

— О не, цётачка, гэта пахнець старыною... Не, даволі мы ў іхныя рукі нацалаваліся,— раптам загневаўся Карпавіч.— Сячы трэба да карэння. Шкадаваць іх? Як нашы Гальшанскія — князі? Старэйшы сялян у пятлі давіць, а маладзейшы тут у камітэтах бегае, за народ быццам,— не!

Позняю начою варочаўся Абдзіраловіч у лазарэт. Васіль правадзіў яго да вялікай вуліцы. Крэпка жмаў яму руку і прасіў не браць у крыўду словы Карпавіча, бо і Карпавіч добры чалавек і аб ім нічога благога не думае і ведае, што ён — афіцэр, а стаіць за народ.

## IV

Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі; і ў тых вачах радасна-вясёлы, ціхі смех,— вось гэткая Аля Макасеева, старэйшая дачушка N-га дамаўласніка, што нажыў за вайну вялікія міліёны.

Апошнія два гады Макасеі з пачатку вясны і да астатніх дзён сезона жылі на каўказскіх курортах, а з прыгоды рэвалюцыі і голаду ў N. стары Макасей, хаця ж сам бавіў найболей у N., надумаўся купіць у Пяцігорску ці Кіславодску дом і пакінуць там сям'ю сваю на ўсю зіму.

Пад канец сезона курорт быў бязлюдны, і ў небыццё свайго старога мадам Макасеіха, ад нуды, ахвотна запрашала да сябе афіцэраў, што лячыліся там. Не бачыла яна ў тых знаёмствах нічога асаблівага і старалася толькі бавіць сябе і сваю капрысную супярэчніцу Алечку.

Часам пісала ў лазарэт пісульку, рыхтавала стол з фруктамі, віном і папіросамі, і моладзь з'яўлялася скакаць і весяліцца, піць і есці.

Алечка летуцела быць балерынаю, танцавала многа і з вялікай прыемнасцю, а матулька бавіла час на балконе ў гутарках з князем Гальшанскім, каторы не любіў сябраваць з афіцэрамі простага роду, дзеля таго што яны, зазвычай, нядобра ўзгадаваны. І чорная маленькая мецінка, падобная да барадаўкі, на верхняй губе, збоку, не магла змякчыць яго грэблівай замкнутасці, а давала нават часам выгляд дурнаватай, здаволенай пышнасці.

Князь не хаваўся, што не люб яму Абдзіраловіч, другі паўсёдны гасцяваннік макасееўскага дома. А той чуў да князя тое самае: памятаў ліпнёвую ноч у купэ, як князь еў парасёнка. І калі ў прысутнасці князя маці дражніла Алечку Абдзіраловічам, казала, што дзяўчына трызніць ім ува сне і ў яві і клоніцца яму, быццам богу,— гвардзеец

быў маўклівы, уважаў, што за нудою і так ужо вельмі рызыкоўна бярэ ў абшар сваіх знаёмых нежаданы элемент.

Аля яшчэ ніколі, бадай, не кахала і не ведала, ці так, наагул, кахаюць, як яна Абдзіраловіча.

У парку, зрання, сцярог ён, калі, ці скора пакажацца яе лёгкая фігурка з курчаваю, без хвусткі, чорнай галоўкаю сярод грудка маленькіх браткоў і сястрыц.

І быў несказана як рад, калі яны ўсёй вятачкай валілі к лавачцы, дзе сядзеў ён; хлопчыкі па-салдацку казыралі, а дзяўчынкі прысядалі, вітаючы, і потым лезлі яму на плечы.

Яна ж ведала, што яму салодка карціць адысціся з ёю ўдваіх у глыб парку ці лезці на гару і бавіцца там.

Яны часта ўздумавалі на сваю першую сустрэчу ў Маскве на вакзале, калі яна ўсміхнулася яму, а ён адхіліў свае вочы.

Яны даўно сказаліся сабе, што любяцца, і згаварыліся чакаць даналецця. Яна ж спадзявалася, што незабавам прыедзе бацька; вельмі хацела паведаць старому радасную тайну сваю і пахваліцца Ігналікам. Болей нікому не ймела яна веры. Ігналік павінен быў спадабацца Міколе Мартынавічу, яна была ў гэтым пэўна.

Аднойчы Абдзіраловіч распачаў гутарку аб яе паглядах на пахаджэнне з роду, багацце і — як уважае палітычныя пытанні, але яна, відаць, зразумела так, што каханак бяднейшы за яе, і зажмала яму рот бусямі, прасіла, каб болей не казаў аб палітыцы.

Ён пачуў прыкрасць і боль, адылі супакоіў сябе, што вінават, гэта, буржуазны лад жыцця, а яна не вінавата.

І зараз на тое забыўшыся, дзівіўся, што гэта ў душы яго з якоюсь прыкрасцю дваілася? Тым часам князь, як слова наўмысля, выдумляў паездкі вярхом у горы ці ў экіпажах у італьянскую калонію — есці мёд і купляць віно. І Абдзіраловіч мусіў сачыняць у галаве розныя добрыя прыгоды, каб адмовіцца, бо не меў на тое кампанейства грошы.

Цалюткі дзень меўся ён тады ў парку з яе браткамі і сястрыцамі, і яны пыталіся, што яму, што ён гэтак засмуціўся; і з дзяцінай прастасцю пацяшалі, што Аля ўвечары прыедзе.

Іногды чакаў бясплодна аж да паўночы і раздзіраўся балючаю бязверыцаю, разважаў: ці ж яна кахае, калі шукае прыемнасці без яго, пакідае яго аднаго, так лёгка

ймець веры, што ў яго галава баліць, калі трэба ехаць. Ці ж яна-ткі кахае?

Аднойчы ўранні хтосьці прынёс і вывесіў у лазарэце абвестку, што ў той жа дзень у Пяцігорску, у Лермантаўскай галерэі, адбудзецца першы арганізацыйны сход грамадзян-беларусаў, каторыя закінуты доляю на каўказскія мінеральныя воды. Згукае ініцыятыўная група.

І Абдзіраловіч з недаўменнасцю прачытаў сярод другіх салдацкіх і афіцэрскіх подпісаў: князь Гальшанскі.

«Таксама, значыцца, беларус,— падумаў ён,— забаўная штука».

А быў сам несвядомы і хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недаверласцю думаў аб руху адраджэння, аб якім некалі чуў краем вуха.

Калі ён прыехаў на сход, то пераверыўся, што князь, каторы непрыхільна кіўнуў яму галавою, нават кіруе ўсім карагодам, стоячы сярод груду сабраных на сцэне хлапцоў і дзяўчат, салдатаў і нейкіх, відаць, вучыцялёў-бежанцаў.

Збіраліся беларусы надта ж неакуратна і марудна.

А ўрэшце панайшло дужа многа ўкраінцаў, а потым прырынуў вялікі натоўп бежанцаў Горадзенскай губерні: старых і дзяцей, дзяўчат і баб.

З першаю прамоваю, па-руску, выступіў князь Гальшанскі.

Ён салідна казаў аб тым, што ён любіць і што ўсім трэба любіць забытую, акінутую намі няшчасную матку Белую Русь, бо цяпер усе самаазначаюцца. Запрашаў да працы і еднасці, каб забыліся на ўзаемныя крыўды з боку паноў і мужыкоў.

Няможна было зразумець, які чарвяк тут найпільней яго точыць. Але — нічога. Выступалі хворыя салдаты і нясмелыя, але заядлыя вучыцелі. Гарачых слоў было сказана шмат.

— *У нас, белоруссов, нет классовой борьбы!* — смачным, зычным голасам прагалашаў князь у заканчальнай прамове.— *Нет ее, не должно быть и не будет!! Мы все, от пана до Степана, как говорится, будем стоять за одно: тесный союз с Россией и законное наделение малоземельных крестьян землею!..*

Так казаў князь, і аніхто з прысутных, ахвяруючы ва імя бацькаўшчыны, не пярэчыў яму, калі быў і нязгодны.

Абдзіраловіч чуў, што сэрца ў яго тыхае, як молат.

І раптам штось падхапіла яго і занясло на трыбуну.

Абурлівым, гняўлівым голасам, надаючы шмат страснай шчырасці і гледзячы ў бок убогай бежанскай масы, казаў ён у яе роднай мове, на якую не паспеў яшчэ забыцца, казаў усё страшней і страшней:

— Вашых бацькоў паны забівалі бізунамі, і мянялі на заморскіх сучак, і прадавалі, як быдла... Вашых матак гвалтавалі панічы... З вас саміх высмактавалі кроў. За бярозавую хлабасцінку з панскага лесу вас гнаілі ў турмах...

Князь-старшыня патроху бялеў. Заля знямела і занзіла ў прамоўцу тысячы бліскучых вачэй.

— І цяпер вам кажуць: у вас няма змагання класаў перад агульным ворагам... О, не! Яно ёсць!! — высокай, хваравітай, звінячай нотаю крыкнуў ён, бачыў, як з туману выходзіць абраз Алі, яна едзе ў горы з маткаю і князем, пакідае яго.— Яно ёсць, гэтае змаганне, яно павінна быць! Хто яго не прызнае, той не ведае холаду, голаду, а вы, вы... Падзівуйцеся на сябе і ўздумайце, што было! Вы бедны, убогі, дзеці вашыя галодны, і няшчасны, і тысячы крыжоў укапалі вы па дарозе, уцякаючы з бацькаўшчыны...

Ён чуў, што кажа зусім не тое, што меўся казаць, што словы ірвуцца без парадку, без яго поўнай волі, а гаварыў, гаварыў доўга... адылі быў гром воплескаў, галасы, плак нейкай бабулькі,— прамова перарвалася.

Салдаты пакінулі князя і абгуртавалі яго, быццам абіралі так на свайго глаўнага. Князь, збялелы, як папера, але замкнуты і маўклівы, горды, нервова барабаніў па сталу пальцамі.

Сход гудам гудзеў.

## V

На другі дзень ён не сустрэўся з Аляю. Яна паехала з маткаю на станцыю Мінеральныя Воды: чакалі, што прыедзе Мікола Мартынавіч.

У парку Абдзіраловіч знайшоў макасееўскую няньку з дзяцьмі і нейкі час пабыў з імі.

Малодшы хлопчык, паміж гутаркі аб прыезджанню татулькі, сказаў:

— А наш татулька вельмі не любіць «таварышаў». І князь кажа, што яны — хуліганы.

— Калі падрасцеш і пачнеш цяміць усё сам, дык пабачыш, Валя, што гэта можа быць не зусім так.

— А чаму вы іх абараняеце? Князь казаў, што яны жалаванне ў афіцэраў адбяруць, а вы іх бароніце.

Дзіцёнак памаўчаў. Відаць, ён меркаваў нейкае пытанне і не важыўся папытацца.

— А любіце вы мужыкоў?

— Люблю.

— А я не. Яны ўсе вельмі дурныя.

— Няпраўда, Валя.

— А князь казаў, што праўда. Ён казаў, што за мужыкоў толькі тыя афіцэры, каторыя самі з мужыкоў.

— Дык ты, Валя, думаеш, што і я з мужыкоў, так? Ты хацеў спытацца ў мяне?

Хлопчык пачырванеў і ўтупіў вочы.

— Я не ведаю,— шапарнуў ён.

А Мікола Мартынавіч не прыехаў, і матка з Аляю зрабілі на другі дзень невялічкую вечарынку.

Пры сустрэчы, паміж слоў, запрасілі Абдзіраловіча, але ён пасля вячэры забавіўся ў лазарэце. У страўні да яго падсеў вайсковы чыноўнік, вядомы латышскі актор-мастак, хворы на сухоты, звычайна не гаварлівы надта чалавек. Ён пачаў распытавацца аб учорашнім сходзе беларусаў, запрасіў прапаршчыка да сябе ў палату, частаваў кавуном і вінаградам і даткнуўся яго палітычных паглядаў.

— Вы з пэўнасцю спачуваеце бальшавікам? — спытаўся ён.

— Не,— адказаў Абдзіраловіч па шчырасці,— мне не ймецца веры ў магчымасць існавання самастойнай улады радоў нашага пралетарыяту і, наагул, камуністычнага ладу жыцця. Гэта пакуль утопія.

У таго пайшлі на правай шчацэ плямкі, і ён раптам змяніў голас.

— А, та-а-ак,— працягнуў ён,— значыцца, я вас нядобра разумеў. Мне пераказвалі, з прыгоды вашага выступу на сходзе, зусім што іншае. Значыцца, вы за хаўрус з такімі ягамосцямі, як нашае сіяцельства, каторае, колькі мне ведама, не дужа, аднак, шануе вашую асобу і не адмовіцца, бадай, падставіць вам ножку хаця б у інтымных справах.

Латыш нерваваўся. Абдзіраловіча кальнула.

— Гэта другое пытанне... Але палітыку ўрада ў цяперашнім складзе я лічу справядлівай і буду, у разе патрэбы, бараніць яе так, як належыцца салдату, і проці ўсякага ворага.

— А, та-а-ак...— ізноў працягнуў той і насілу, а наўмысля ўсміхнуўся,— ну, ведама, проці ўсякага ворага... Балазе ў радах гэтых ворагаў няма роднага або блізкага чалавека. Балазе й самі ж вы, мяркуючы, так сказаць, па адзнаках звонку — белая костка.

Каб не пасварыцца, Абдзіраловіч хацеў ужо ўцячы ад сухотніка. А, добра — пастукалі.

— Зробце ласку! — крыкнуў латыш.

Адчыніліся дзверы, і дзяўчына-казачка, дагляданніца хворых, падала прапаршчыку сакрэтку.

— Вам пасланец пісулечку прынёс,— ласкава прамовіла і прыхільна паглядзела яна.

«Ігналік! Прыходзьце зараз. Чакаю. Аля»,— з радасным тамаваннем у сэрцы прачытаў ён і пачуў ізноў прыязнасць да раздражнёнага актора і трошку нейкую вінаватасць перад ім.

— Даруйце, як ласка. Прашу прабачэння... пайду,— з яснеючай усмешкай жмаў ён яго руку.

— Так, так... нічога. Не марнуйце часу: вам, здаецца, некалі,— безуважна і сцюдзёна адказаў хворы.

Абдзіраловіч ляцеў на крыллі да Макасеяў, аднак жа спазніўся.

Тут ужо было многа каго, у той лічбе і князь.

Ён сядзеў з гаспадыняй каля самавара і з паважным выглядам аб нечым гаманіў з ёю.

Прапаршчык Кунст іграў на гітары. Аля і дзве малыя сястрычкі вярцеліся ў вальцу з афіцэрамі.

Пакуль Абдзіраловіч падышоў да столу, князь паспеў адысці ў вугол, дзе быццам надта зацікавіўся нейкаю гравюраю.

Гаспадыня сянні высакасэрда падставіла Абдзіраловічу руку і не сустрэла паўсёднымі жартамі, як ён дружыць з Алечкаю, і запрашаннямі «пачаставацца».

Толькі Аля, як скончыўся танец, угледзеўшы, скоранька падбегла да яго. Чорныя вочкі блішчэлі і казалі тое, што толькі ён і яна разумелі. Дзяўчынка з пяшчотаю шлёпала яго па руцэ, кажучы: «Нядобры, нядобры! Няможна так пазніцца. Мы з мамаю ўчора бачылі вас у Пяцігорску два разы, а вы ніводнага разу не мелі ласкі заўважыць нас. Спачатку вы ехалі ў трамваю. Потым ішлі з нейкімі «таварышамі»... Мама вельмі здзівілася. А мне ўсё роўна, толькі няможна было падысці — шкода...— І потым дадала, заглядаючы знізу ў глыб яго вачэй: — Сакрэтачку атрымалі?»

— Ага,— адказаў ён нутраным, з дрыжачымі ноткамі голасам, і глядзеў на чорна-бліскучыя курчавыя пасмачкі, і незвычайна ясна зразумеў, якая ж дзяўчына яму блізкая і як яна люба яму.

Князь рана пайшоў; ён гэта прыкмеціў.

Матка Алі быццам і не змяніла ласку, хоць і была якаясь ужо не ранейшая.

Абдзіраловіч прагуляў вечар шчасліва і як ніколі. Скакаў з дзяўчынкамі, Алінымі сястрычкамі, сыграў для ўсіх штосьці на гітары з асаблівым мастацкім захапленнем; астаўся з Алечкаю на балконе, глядзеў на ясныя зорачкі на далёкім небе за чорнаю спячаю аграмадзінаю Бештаў. Апавядаў некалькі падзей з свайго жыцця; намаляваў ёй абраз свайго дзяцінства і маленства; развіваў планы на будучыню.

Яна, далікатненькая і кволая, са збялелым у цямноце тварыкам, з любасцю слухала яго, паклаўшы яму на плечы свае рукі.

Спачатку матка прыслала сястру з хвусткаю, а потым — каб гукнуць іх у пакоі, каб не застудзіліся.

## VI

І пачаліся дні балючай рэўнасці, адчаю і смяротнай тугі.

Аля як быццам зусім забылася на яго. Яна бавіла ўвесь час у паездках з маткаю і князем то ў Кіславодск, то ў горы, то ў італьянскую калонію.

Яго месца каля Алі забраў сабе князь — гэта было ясна.

І нават няня Макасеяў у парку, калі дзеці хацелі гуляць каля лавачкі, дзе сядзеў Абдзіраловіч, вінаватая, вяла іх ад яго.

На другую за той вечарынку ён не быў запрошаны.

І бесклапотныя прапаршчыкі, што хадзілі туды наядацца і піць віно, ласкава і па-прасцецку казалі яму:

— Эй, кіньце, прапаршчык Абдзіраловіч! Ці ж вы гэта сапраўды? Бо яна ж яшчэ зялёная дзяўчынка, ветрык... І ведаеце, надта спатвораная. Як яна выказуецца! Курыць, п'ець віно, троху чаго ні пры ўсіх цалуецца з князем і з кім пападзя. Нават князю сорамна.

Абдзіраловіч хацеў ба забіць іх за гэткія прыкрыя гутаркі аб яго ідэалу, але толькі наўмысля ўсміхаўся і піль-

наваў, каб як уцячы ад усіх і быць аднаму. І буркаў толькі ў адказ ім:

— Ну, вось яшчэ, любіце плесці нет ведама што,— нявартa слухаць.

Аднак яны ведалі, што ён мучаецца, вельмі тым уражаліся і ніякай рады даць не маглі.

Аднойчы ўранні і надта рана, калі ён, змучаны бяссонную начою, туляўся ў пустым парку і бязмэтна трапіў на вакзал якраз к адходу першага ранняга поезда, яго вочы стыкнуліся там ля касы з няняю Макасеяў з кошыкам у руках.

Дзяўчына кінула спуджаным вокам убок і прамовіла:

— Аля тут... Мы паедзем на станцыю Бештаў па пірог: Валя сянні імяніннік.

Ён нічога не адказаў і паспяшыў да вагона, дзе стаяла Аля і махала новенькім гнуткім стэкам.

З весялосцю, як быццам нічога не здарылася і ўсё добра, прывіталася яна з Абдзіраловічам і пачала апавядаць, як цікаўна з'ездзілі яны ўчора.

— Аля! — у трывозе, і запыхаўся, і хапаўся скарэй сказаць усё, і дрыжачым голасам прамовіў ён.— Скажыце мне, Аля, што гэта ёсць? Няўжо ўсё скончана?

— Вы задаліся мэтаю папсаваць мне настрой, хоць некалькі дзён не бачылі мяне. Слухайце, Ігналік, мне ж не выпадае бегаць за вамі... Што могуць усе падумаць! Ці я вінавата, што вы нейкі, нейкі...— яна памаўчала,— самотны нейкі і ўважаеце ўхіляцца ад паязджання з намі.

Сэрца яго балюча зазнібела.

— Чаму ж вы не адказавалі на мае пісьмы?

— Ай, ну вось... Вы ўва ўсім вінавапіце толькі мяне. Я не пісала таму, што спадзявалася сустрэцца з вамі. Спадзявалася кождага дня, і дні беглі адзін за адным. Падумайце,— без абы-якога звязку перапырхнула яна з радасным смехам,— падумайце: князь рыхтуецца прыйсці да мяне ў сваты! Чакаець толькі татусю. Ах, што за дурны чалавек, як усе мужчыны. Хоць, ведаеце, сапраўды, ён паважна гэта робіць. Гэткі знялюбелы! Ну што я адкажу яму? Падараваў мне стэк. Ляньце: срэбраная мышачка і якая прынадная манаграмка!

— *Бывайце здаровы*, Аля... так? — апаўшым голасам, абезнадзееўшы, спытаўся ён.

— Слухайце, Ігналік, калі не хочаце пасварыцца канец з канцом, дык пакіньце сваю драматычнасць і злуванне, чуеце?

Паравоз запыхкаў і дзьмухнуў белаю параю. Сірэна чыстым, звонкім і зычным голасам прапела ў свежым горным паветры.

Яны рассталіся.

Доўга стаяў Абдзіраловіч і глядзеў туды, дзе ў лесе хаваўся за дрэвы і кусты, уцякаючы, поезд.

Яна некалькі разоў, жадаючы пацешыць яго, махнула ручкаю, але скарэй, чымсі ён усё яшчэ спадзяваўся, схавалася за дзвярмі.

«Міласлівы пане гаспадару! Прашу адкінуць усякія думкі аб маёй дачцэ. І гэтае маё жаданне, зусім натуральнае пры поўным з майго боку няведанні аб тым, хто Вы і што Вы ў Вашым грамадскім стане па-за вайсковаю службаю, маю надзею, будзе Вамі, як афіцэрам, добра споўнена. Макасеева»,— прачытаў ён у прынесеным пасля снедання пісьме і зняможна лёг на канапку.

«Князь прадыктаваў! Аб яго залатой торбе яна добра ведае,— скрыгнуў ён зубамі.— А ты, Аля, Аля! Ах, навошта, навошта ўсё гэта было?»

І цяжкі гнёт наваліўся на яго, апанаваў яго.

Белы тварык з чорнымі бліскучымі вачмі і курчавымі пасмачкамі, дзявоцкі смех і жарты — гэта быў боль і мука без паратунку.

Душа двоілася. Адна палова несказанна плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі. І калі ён троху выстагнаўся, казала: «Уцячы, уцячы...»

## VII

Тая смутна-ціхая пара, каторую так любіў і каторая стаяла ўваччу, калі думкі ляцелі да хатак Беларусі, яна ўжо даўно мінулася, калі ён прыехаў.

Ужо даўным-даўно перайшлі тыя дні, калі слабнучае сонейка яшчэ прыпякала, а селянін першы раз сёлета паліў пад асеццю. Дым шэра-палавою стужкаю віўся па-над вільчыкам страхі і плыў угару чуць віднымі фарботамі. Цягнулася белая ніцявінка павучыння... Вераб'іная стая дружна хуркала з-за плоту на канаплянішча, і хлопчык бег па высокай і вузкай, нязручнай мяжы, сярод зялёных густых канапель, зганяць іх, а яны: хуррр! — паляцелі ў поле на снапы жоўтай пшанічкі ці ў лес. Ёмка кідаў ён шубнём і думаў з прыкрасцю, што — ах, колькі канапелек збіта, і з уцехаю, што — нічога: заўтра яго возьмуць лячыць жыта і паднасіць сяўню.

Перайшлі тыя дні.

Перайшлі ў яго там, дзе было прыгожае сонечнае ранне, курортны поезд бег ад Мінеральных Водаў пад Пяцігорск. Надта рана. Морыць сон. Пасажыры дрэмлюць. Усходзіць сонца. Далякосьці абгорнуты посіня-залатою імглою; яна пачынае таяць, і там а тут касулькі бліскуча-радаснага святла граюць ужо на кізілавых кустах, і на тэлеграфным дроце, і на полі. Дзе ж горы? Мясціна то ўжо гарыстая; то скідаецца тэрасамі ў шырокі і бясконцы дол, то карагодзіцца круглымі ад кустоўя курганкамі ўперамешку з роўнымі, кароткімі шнурочкамі чорнай, як сажа, раллі. З левага боку, у другое вакно, суніцца з туману якаясь цёмная грамада. Крутая паваротка дарогі, загрукатаў паравоз у правы бок,— і горы блізка, блізка... як на далоні, як на карцінцы або ў біноклі. Там голая скаліна, там зялёныя грудочкі кустоўя. Здаецца, не надта вялікая гара, стаіць на самоце, адна, як курган. Адылі бягуць мінуты, далёка забег поезд,— яна ўсё такая ж блізкая, блізкая. А вёрстаў дваццаць будзе да яе адгэтуль, а можа, і болей. І горны лес, што ўкрыў яе, рысуецца зялёнымі плямамі кустоў ці травы і моху. Гэта гара-волат Бештаў.

Як сон, прайшла тая пара. І светлы, залаты, і чорны, цяжкі сон.

Сядзіць ля вакна. Адзін. Мікола пайшоў у другую палову, дзе клас.

Па небе шпарка ляцяць цёмныя воблакі. Распаўзаюцца, чапаюцца, збіраюцца ў адзін груд і засцяць неба. Смоўжам звілася над зямелькаю брудна-шэрая аграмадная плёнка; яна хавае сонца. Пачырванелі дробныя ручачкі ў хлопчыкаў і дзяўчынак, што з кніжкавымі торбачкамі цераз плячо бягуць па апусцеламу шляху, абсаджанаму з двух бакоў чарадою смутных бяроз. Сцюдзёна. З неба белым курам пыляцца сняжынкі, сіроткамі сыплюцца знеткуль згары, з няяснасці; выплываюць і мякка кладуцца на зямлю, на суччо бяроз, на ўбогую вопратачку дзяцей, на зімовыя шапачкі і хвустачкі.

Няможна трываць! Як цяжка. Газет няма трэці дзень. У сяле ходзяць нейкія дурныя чуткі. Быццам у Расеі будуць забіваць усіх чыста паноў. Быццам панскія двары сахою ўзаруць.

І выплываюць абразы...

Князь, белы, як крэйда, кажа з трыбуны, што на Беларусі няма класавага змагання. Вялікі груд бежанцаў — старыя, дзеці, бабы — раптам шалёна кідаецца на яго.

Растоў ля Дону. Станцыя. Каўказскі і маскоўскі сустрэчныя паязды стаяць побач цэлую гадзіну ці блізка таго. Клумлівая куламеса людзей — там усе нацыі і класы — бітма набіла перон. Малады чарнявы прапаршчык, з глыбокім смуткам у карых прыгожых вачах (гэта ён сам), ідзе ў залю 1-га класа, дзе па застоллях сядзіць новая і даўнейшая публіка: паны і мужыкі ў салдацкіх шынелях. Вун там за асобным столікам, у вугле, селі ўдвух: чорны, лысенькі, разумны армянін і кастамары, сур'ёзны пан з калматымі чорнымі бровамі пры сівеючых валасах, з стродкім паглядам. Нешта ўздумаваецца... Ах, ды гэта ж яна казала, што такі яе бацька.

— Во, душа, Мікола Мартынавіч, дагуляліся вы, радыкалы! На Каўказ захацелі, на самоту?

— А трэба даведацца сям'і,— хмарна кажа той. Падаўга маўчыць.— Мы работалі, мы працавалі, з нічога стварылі многа, скажу я вам,— вядзе ён гутарку далей так, быццам адказвае на свае думкі,— і каб гэткіх, як я, як мы, болей а болей,— Расея была б слаўна, заможна і магутна. Ды ці мы ж вінаваты, што ідуць зладзеі і гультаі і лезуць на месца, здабытае намі.

Яны абодва злёгку аглядаюцца на яго і гамоняць паніжонымі галасамі.

А не думае Мікола Мартынавіч, што побач сядзіць той, каторы любіў Алю, яго папсаваную багаццем дачушку. Не, ён яму не паможа. Апошняя надзея праходзіць міма. І клумлівая куламеса людзей з перона раптам шалёна кідаецца на яго і лысенькага армяніна.

І душа дваіцца. Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі, цяпер цвярдзее, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасці і нават жорсткасці. Няхай сабе тая плача па нейкай паненцы. Ёй не шкода, і яна не здрыгнецца, калі дзікая людская куламеса пашарпае на шматкі і князя, і Макасея-міліёншчыка, і разумца-армяніна. Ёй не шкода... А тая, другая, падумала і здрыгнулася.

Плывуць абразы...

Бывае так, што сярод холаду, шэрасці, пустэльнасці і нуды асенняй прыроды, сярод прыкрага надвор'я самай позняй восені на небе неяк неўпрыцям прагаліцца маленькі сіненькі лапічак — адзін, другі, трэці. Вось ужо немалая частка неба вызваляецца з-за хмар, сіняя, радасная; яшчэ лёгка плывуць па яе берагах прыгожыя фарботы цёмных пасяродку і белых наўкол болачак. Яшчэ вісіць

чорная палавая туча далёка-далёка над лесам, як слова, яна там дужа добра ўчапілася. А зірніце, зірніце скарэй, як вун там шпарка перасунулася астатняя срэбная хмарка цераз сонца; блісну́ў з неба першы сноп светлага калосся на крыллі пруда-ветрака; перабег залатой пасцілкаю цераз папоў сад,— і ўсё весялее, робіцца прыгожым; ціхенька варухнуліся галінкі на старой бярозе, убачыўшы сонца, і мякчэйшай хоча быць мёрзлая груда пад нагамі дзяўчыны, што схапіла вёдры, бяжыць вады, бяжыць і нечага смяецца, а сонейка забылася, забавілася, любуецца на дзявоцкае прыгажство.

Бывае так.

А там ізноў — шэрая нуда.

Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі; а ў тых вачах радасна-вясёлы, ціхі смех,— стаіць Аля ў сонечным арэоле. І ўсё весялее, робіцца прыгожым. Аля! Аля!

Ах... аднойчы распачаў гутарку аб яе паглядах на паходжэнне з роду, багацце і — як уважае палітычныя пытанні, але яна, відаць, зразумела так, што ён бяднейшы за яе, і зажмала яму рот бусямі, прасіла, каб болей не казаў аб палітыцы.

А можа, і тады нават думала, што ўсё роўна ў іх нічога не выйдзе, дык няма чаго аб тым гаварыць, няма на што супакойваць яго.

А можа, і яшчэ гарэй зразумела яна? Напэўна! Яна думала, што на яе багацце галяцца!

Бывае так.

І тады — шэрая нуда.

— Так, так, так! Бывае!! — кінуўся ад вакна.

— Што ты крычыш тут адзін? — уваходзіць Мікола, добры, слаўны Мікола.

— Кажу: бывае... усё бывае! Вось уздумаў на аднаго знаёмага, Міколу Мартынавіча, цёзку, бач, твайго. Ніколі не бачыў яго, а як жывы стаіць мне ўваччу.

— Ну, так, бывае,— не зразумеў Мікола.— А ведаеш,— кажа ён наўмысля дужа звычайным голасам,— навіну пачуў ад дзяцей: Крупкі ўчора таксама, ведаеш, разбіты мужыкамі... Дом, ведаеш, братка, спалілі. Нічога, бацька паспеў уцячы ў Магілёў. Ездзілі нашы на станцыю, даведаліся. Дык вось, ведаеш. Цябе тут ніхто не знае, не думай. А бацька, аднак, паспеў жа ўцячы...

«Ах так, Крупкі... Дзе я радзіўся, дзе я рос, дзе вісеў партрэт надменнай прыгажуні-полькі, што людзі казалі:

«Твая матка, яна памёрла, як ты радзіўся». Забілі мужыкі,— даведаўся я. Крупкі, касавіца, сенажаць, маленства... Ану, чорт і з ім, ці не ўсё роўна? Так, ці не ўсё роўна? Дачка лясьнічага Іра кахала мяне, а не прызналася, бо не мела веры, каб я, багатыр, узяў яе, мяшчанку, без пасагу. Я люблю Алю, а павінен даць дарогу князю. Якая дурата! І чорт з ім, з усім!»

— Чорт і з ім, чорт і з ім,— мармочыць ён і палохае Міколу.

— Што ты кажаш?

— А? Бацька ўцёк? Чорт з ім...

— З кім? — зусім не разумее Мікола свайго Ігнася і ўзноў пытаецца: — З кім?

— Так, з усім. Не шкода.

— Бібліятэка, братка, згарэла.

— Ат, няхай сабе. Яны створаць сабе, калі ім будзе ў тым патрэба.

— Хто яны?

— Людзі аднэй з табою косці і аднаго з табою цела, браце Мікола, але з духам, не папсаваным цывілізацыяй, як у цябе,— аб іх кажу...

— Ну і што?

— Што? Нашы дзяды мардавалі вашых, а даўгі спаганяюць, бач, унукі з унукаў.

— Э, браце Ігнась, мне цяпер не ймецца веры ў цалебнасць каўказскіх мінеральных водаў,— з натугаю жартуе сціплы друг, каб скіраваць думкі з прыкрай, нейкай дурной сцежкі.

— Так... яны атручаны.

Мікола, згубіўшыся ў парадку, пабегаў па пакоі.

— Во што, Ігнась. Буду прасіць цябе. Пасядзі ў класе, пакуль я збегаю на сяло. Дзядулька там адзін памірае. Прыслаў па мяне. Нешта хоча, ведаеш, сказаць прад смерцяй.

— Добра. Зроб ласку.

— Даведаюся якраз, якія навіны ёсць. У Маскве быццам-то салдаты б'юцца з юнкерамі і афіцэрамі. Нешта, ведаеш, незразумелае. Не йму веры, пакуль не прыйдуць газеты. Трэці дзень няма іх.

Пайшоў Мікола.

Клас быў даволі раскошны.

Ціха сядзелі дзеці і ўкрадня, а пільна прыглядаліся да чужога, маўклівага, новага.

Абдзіраловіч сеў за стол, пісаў. Сажмаў галаву. Прайшоўся па класе. Раз, другі.

Дзеці прызвычаіліся і пачынаюць патроху шумець.

За печкаю, у куточку, дзе ў пагодлівыя дні можа добра прыгрэць сонейка, сядзіць дробненькі хлопчык з мізэрным, хударлявенькім цельцам і вялікаю галавою з валасамі ёжыкам. Спачатку ён кідае зладзейскім вокам на гэтага злога пана, але бачыць: не глядзіць той на яго ані-ні. І хлопчык захапляецца нейкай вельмі пацешнай гульнёю. Пад партаю, прыставіўшы да яе пакладзены на калені буквар, ён ставіць у парадку панскія партрэцікі, што прынеслі людзі з панскага двара, калі хадзілі разбіваць яго. Ставіць іх і з рознымі хітрыкамі і кпінкамі, з пануючай радасцю дае ім кукішы.

Абдзіраловіч нарэшце заўважае, што хлопчык вырабляецца.

— Што ты робіш?

— Нічога... вось яй жа богу нічогінька...

Картачкі валяцца на зямлю. Хлопчык утупіў вочы.

Абдзіраловіч падняў іх і надта ўразіўся: пабачыў сябе (маленькім хлопчыкам), пабачыў таго, што людзі казалі: «Твой бацька». Пабачыў яшчэ некалькіх далёкіх знаёмых, што часам гасцявалі ў бацькі.

«На вечную памятку аб шчаснай пары, прагасцёванай у мілых, прынадных Крупках у нашага каханага...» — прачытаў ён на адвароце.

— Таўкач паноў дражніць,— сказалі наперабой дзеці.— Яго бацька прыгожую кніжку з людзьмі прынёс сабе, як панскі будынак згарэў.

Разнародныя пачуцці збунтаваліся ў яго і пакаціліся вялікім непрыемным клубком.

Адна душа казала: «Мне ўсё роўна... Мне ўсё роўна...»
А другая прыкра балела і маўчала.

## VIII

На паўдарозе да станцыі ёсць невялічкія выселкі. Яны прытуліліся з боку шляху, пад узгоркам, і жывуць сваім асобным жыццём, у якім няма нічога супольнага з тымі, што ў балагольскіх будках едуць па шляху з N. на станцыю ці з поезда ў N. З тымі «ў чорным», што ўночы кураць папіросы, бліскаючы жоўтымі аганькамі, гамоняць то пацішу, то голасна, смеючыся і пытаючы з будкі: «Што? Коні паіць будзем?» А ўранні дрэмлюць, жмураць вочы у

халадкаватым паветры рання і пяўважна кінуць вокам раз-другі на зялёныя ад моху і пырніку стрэхі высялкоўскіх хат — і едуць сабе далей, і дрэмлюць сабе далей, аж да самага N. Ніхто не заязджае ў выселкі, бо коні там паіць нязручна: калодзеж дрэнны, вада гніллём тхне, вядро не скора знайдзецца. Заязджаюць у выселкі хіба падводнікі-сяляне, асабліва з «белага» боку, у якім людзі яшчэ і дагэтуль носяць белыя жупаны «на вілачках» і белыя маргелкі. А ў выселках таксама жывуць «белыя» беларусы.

Ціха заўсёды на шляху каля выселак. Улетку толькі, часам, гуляюць пад старой, каравай бярозаю дзеці з беленькімі ці жоўценькімі альнянымі валасамі, у даўгіх, да пят, белых кашулях, ды туляецца гультай-сабака з калматым хвастом і калматымі звіслымі вушамі.

Поле высялкоўскае за балотам, за хвайняком, па той бок ад выселак, і са шляху яго не відаць. А людзюхны ўлетку на полі.

А ўвосень яшчэ смутней у выселках. Жывой душы не відаць ад шляху на бруднай і шэрай вуліцы. Дзе ж іхныя хлопцы і дзеўкі, каторым належыцца весяліць усе выселкі,— багавіца іх ведае.

Глухая старана. Глухі народ.

Такімі якраз адбіліся выселкі ў памяці Абдзіраловіча, і надта быў ён здзіўлёны, што парушаецца чарада яго сумных думак нейкім рухам на шляху і ў выселках, што ў аднастайнасць маркоты ўбіваюцца звонку не гарманічныя для цішы ўспамінаў, звонкія гукі.

Паміж шляхам і выселкамі стаяла старэнькая капліч-ка на крутым курганку пры вузенькай дарозе. Размывалася дарога, спаўзала чырвоная гліна, і не давалі рады пакутныя вербы. А блізка шляху і каплічкі, каб ніхто не ездзіў па руні, добры селянін згарадзіў плот.

Стаялі пад каплічкаю, сядзелі на плоце, на карчах вярбін і нават на тым курганку пры дарозе, спусціўшы ногі на чырвоную размытую гліну, высялкоўцы і слухалі аратара, але не ўсе ўважна: апазіцыя, ці што, галдзела.

А гэты аратар — малады яшчэ хлапец, вучань Гарэцкага каморна-агранаміцкага вучылішча,— калі пад'ехалі калёсы з Абдзіраловічам, аратар гэты, стоячы на плоце і абшчапіўшы адной рукою кол, другою, змёрзлаю, грубаю і чырвонаю, быццам тая карэлая гліна, махаў у рытм прастуднага, сіплага але маладога і дужага голасу:

— Браты сяляне! Браты беларусы! Значыцца, будзем галасаваць за свой спісак! За беларускі спісак! Спісак ну-

мар восем, памятайце! — і ўсё махаў рукою, як слова бласлаўляў, як поп, сваіх слухачоў.

Старэйшыя людзі, дзядзькі і цёткі, ветліва і ўважна слухалі хлапца, таксама і частка моладзі, а невялічкі гурток хлапцоў наўмысля рагатаў, каб збянтэжыць аратара. Падбіваў іх кучаравы дзядок у гарадскім адзенні, каторы не пазнаў у лубяной дажджавой накідцы Абдзіраловіча, а той, пасля толькі, пазнаў, што гэта Карпавіч.

— Усім трэба ісці к урнам і ўкідаць свае білецікі. Хоць адзін дзень аджалейце ўжо, не працуйце і йдзіце. Няхай ідуць не толькі мужчыны, але ўсе: і вы, цёткі,— блаславіў вучань кіўком рукі бабскі грудок (тыя ані плюснулі і добра слухалі далей),— і вы, дзевачкі! — кіўнуў ён у дзявоцкі бок.

Дзяўчаты пачалі саромліва аглядацца па баках і пільнавацца паважнасці.

З гэтага ўзрос клум і непарадак, павялічаны дзяцвішчаю ў каплічцы і хлапецкімі жартамі ненаўмысля і Карпавічам і двума-трыма наўмысля.

— Брахня! Пара канчаць! — крыкнуў адзін з гэных двух-трох, нейкі абшарпанік — не то згалелы высялкоўскі гаспадар, не то п’янюга-каменацёс з N. або са станцыі; крыкнуў ён і азірнуўся на Карпавіча.

— Маўчы, Калістрат! Я цябе знаю з Горак! — злосна блаславіў крыкуна вучань-аратар і ўзноў гаварыў далей.

А Карпавіч прабіваўся наперад, каб гаварыць за бальшавікоў.

Абдзіраловіч зразумеў, што гэта выбары ў Устаноўчы Сойм, і захацеў пабыць да канца. Падводнік яго адпусціў каню падпінак і падкінуў яму жмуток сена.

Сход болей ужо зварочаваў увагі на калёсы.

А надвор’е было імгліва-халадковае, нуднае. І лепей ба сядзець у такую пару ў хаце.

Старэйшыя, слабейшыя, дзяды і бабы, так і зрабілі: патроху, патроху расхадзіліся да хат. Гэткім чынам беларуская старана, што была за вучня, аслабела, і Карпавіч узлез на прасла і абшчапіў другі кол. Вучань пачуў небяспеку і, яшчэ больш напружыўшы свой сіплы голас, крычаў:

— Браты беларусы! Браты сяляне! Дзядзькі і цёткі! І вы, маладзейшыя! Значыцца, будзем...

— Таварышы! Таварышы сяляне! — зазвінеў уперабой яму высокім галаском Карпавіч.— Паслухайце-ка мне, калі хочаце, каб быў вам мір і зямля. Паслухайце-ка мне, я

вам скажу самую лепшую праграму, каб быў ужо адразу мір і панская зямля! Паслухайце, таварышы, праграму бальшавіцкую, каб было вам усяго як найболей...

І да Карпавіча пасунуліся ўсе, хто быў у салдацкіх шынелях, і Калістрат, і нямала яшчэ каго, нават і дзеўкі ўслед за хлопцамі.

Вучань спазніўся ў пару змоўкнуць і гаварыў далей, хоць і слабеў ад прыкрасці, што Карпавічаў голас так звініць.

— Гэй, паніч, кінеш ты ай не? — схапіў яго за падол шынелі Калістрат.— Усё ж роўна не аддадзім табе галасоў.

— Мы доўга слухалі паніча, і хоць ён казаў, што належыць да сацыялістаў-рэвалюцыянераў,— вымаўляў акуратна па складах два астатнія словы Карпавіч,— і належыць нават да нейкіх беларускіх рэ-ва-лю-цы-я-не-раў, быццам-то самых наскіх, але ці пачулі мы ад яго, калі ж будзем дзяліць панскае дабро? Чаму не можам цяпер падзяліць? Ці чулі мы ад яго, чаму не можам зараз жа скончыць ім-пе-ры-ялі-стыч-ную вайну? Ці чулі мы ад яго, што гэта за людзі ідуць па беларускаму спіску нумар восьмы? Не, не чулі! А там ідуць напэўна адны паны, якія кіруюцца, каб як лаўчэй абдурыць мужыка.

— Так, справядліва! — крыкнуў Калістрат.

— Але ж гэта спісак беларускі, наш родны! — крыкнуў вучань і блаславіў слухачоў зусім крыва, губячы настрой.

— Не трэба нам панскай радні,— звінеў Карпавіч з заядласцю.

— Не трэба! Не трэба! — падхапіў Калістрат і хлопцы ў шынелях.

Дзяўчаты троху палахліва, троху сарамліва адсунуліся яшчэ далей ад вучня. Пачалі канфузіцца і дзядзькі.

— Не трэба нам, паніч, твая праграма, ну! — крыкнуў Калістрат і пацягнуў яго, спрабуючы, далоў за хвост шынелі.

Вучань скокнуў з плоту на зямлю. Быў ён нязграбны, касалапы, у вялікіх ботах, і захлюпаныя разрэзы шынелі з жоўтымі гузікамі і зялёным кантам цялёпалі па шырокіх халявах, калі ён ішоў.

— Вы едзеце на станцыю? — спытаўся ён у прапаршчыка.— Можа, падвязлі б мяне троху?

— Добра. Будзе весялей. Сядайце.

Яны паехалі.

Сход слухаў Карпавіча, і толькі мала хто, найболей з дзяўчат, правадзіў іх падводу маўклівым паглядам.

Ізноў пачалася імгліва-халадкаватая нуда ў апусцелым полі.

— Чаму ж вы не давялі змагання да канца? — запытаў Абдзіраловіч.

Вучань памаўчаў, пакрактаў, пахухаў на пальцы.

— Усё роўна,— сказаў ён.

— Чаму?

— Так... Няхай гэты дзядок-бальшавік выедзе ў Маскву, тады да галасавання можна будзе яшчэ падысці сюды, калі я ці хто з нашых паспее. А цяпер трэба агітаваць у С-й воласці. А тут нічога не выйдзе, бо селяніну бліжэй і знаямей цяпер пытанне аб міру і зямлі, чымся аб беларускім адраджэнню. Дзядок карыстае.

— І многа вас, вучняў, ходзіць так[?]

— Даволі...

— Ад партыі ці як?

— Не, мы так, самі па сабе.

Абдзіраловіч усё больш дзівіўся і цікавіўся.

— Адкуль жа ў вас гэткая стараннасць? — не мог ён прыдумаць далікатнейшага пытання і збоку ўзіраўся на просты, сялянскі і тыпічны беларускі твар хлопца.

— Адкуль? — весялей пачаў казаць хлапец, гледзячы проста перад сабою.— Ці вы не беларус, што пытаецеся?

— Беларус,— адказаў Абдзіраловіч роўна і проста, але з дробачкай спагаднага смеху.

— А калі беларус, дык скажыце ж вы мне: што вы робіце, каб адрадзіць нашую няшчасную бацькаўшчыну?

Абдзіраловіч няўмысля ўсміхнуўся, але здзержыўся і спытаў у вучня:

— Вы кажаце ўжо каторы раз аб адраджэнню. Што гэта вы хочаце тым словам сказаць?

— Аб ім вы лепей даведаецеся з беларускай літаратуры, чымся ад мяне,— сказаў хлапец непрыхільна, думаў ужо, што перад ім вораг,— а вы мне, аднак жа, адкажыце, што вы робіце для бацькаўшчыны, для маткі-Беларусі?

Абдзіраловіч ізноў няўмысля, але дужэй засмяяўся і не мог здзержыцца, хоць пасля і ўцяміў, што пакрыўдзіць хлопца, і несур'ёзна, як ужо пайшло адразу, смеючыся сказаў:

— Бацькаўшчына — матка-Беларусь? Ха-ха! Выбачайце, паночку, але мая бацькаўшчына — уся Расія.

— А! Так! — раптам выскачыў хлапец з калёс.— Ну,

2 Зак. 2541

дык мне не па дарозе з рэнегатам,— сказаў і, не глянуўшы назад, пайшоў пехатою па сцежачцы з боку дарогі, над бярозамі.

— Паночку! Што вы? Пажартавалі, ці што? Сядайце, паедзем шыбчэй! — не ведаў, што казаць, бо не разумеў хлапца, Абдзіраловіч.

— Які я вам, чорта, «паночку»? — зусім зло і ўзноў не паглядзеўшы, адгукнуўся хлапец,— я мужык-беларус і пасылаю да ўсіх чартоў змаскаленых паноў-рэнегатаў... Да ўсіх чартоў! Чуеце? — са злосцю крыкнуў ён і звярнуў на ўбочную вузенькую дарожку, пайшоў і пайшоў у імглі-ва-халадкаватую нудную восенную далечыню.

— Стой! — крыкнуў узлаваны Абдзіраловіч свайму хурману і схапіўся за вожкі, меўся ўжо бегчы за хлапцом: чаго ён і як ён паважыўся лаяцца?

— Едзь! — пусціў, падумаўшы, вожкі з рук.— Дурны нейкі, ці што,— казаў быццам сабе, быццам падводніку і пачаў супакойвацца,— яшчэ ён і лаіцца, вось дурань!

— Дурань нейкі,— згодзіўся і маўклівы падводнік і перасунуў белую маргелку з лоба на зморшчаную старую патыліцу.

А той пайшоў і пайшоў у сваіх вялікіх ботах.

## IX

Іншыя натуры, каб жыць далей і мець нейкі спакой, чуюць пільную патрэбу ў яснасці і добрай цямнасці ўва ўсім, што ёсць навакол і таксама ў сваім жыцці за астатні, пасля такога ж уразумення, час. Гэткіх натур найболей сярод славянаў і народаў Усходу. Яны патрабуюць нейкага здаваления і спакою духу ў адносінах да ўсяго, што ёсць і што дзеецца на свеце. Час да часу проста карціць ім упарадкаваць думкі свае — гэта азначае: хоць і не развязаць спрадвечнага пытання: «Адкуля ўсё і што яно?» — дык хоць супакоіць сябе, падумаўшы, палетуцеўшы і йзноў набраўшыся яснасці ў паглядах на спрадвечна няяснае. З аднаго боку гэта выглядае патрэбным чалавеку падрахункам, а з другога боку — непатрэбнай і шкоднай штукай у такую пару, калі «грошы — час».

Найбольш яснасці маюць людзі ў саўсім маладым ці саўсім старым веку. А людзі веку сярэдняга не маюць на тое часу сярод клопату і клуму жыцця. Дзе ж і калі ж тут падумаць і ўцяміць аб сабе і аб свеце, калі навокал усё

круціцца, казаў той, у скоках, раз навокал усё гручыць, як грузавы аўтамабіль па каменню.

Цямнасць тую часам неўспадзеўкі знаходзяць, аднак, і яны на глухой прасёлкавай дарозе, праехаўшы па ёй колькі дзесят вёрст.

Ціхая бязлюдная дарожка сярод жыта, ці сярод сумнай імглы восені, ці нават узімку, сярод белага, скутага сцюжаю поля, дае патрэбны спакой і родзіць у душы патрэбную, хаця ж невясёлую, але ціхамірную яснасць.

Залежыць тое і ад спосабу язды.

Патрошку цюхціў кары конь, браскаючы банячкаю на дузе. Ён паддаваў шпаркасці там, дзе дарога роўная-роўная, а яшчэ — з невялічкай горкі; але найчасцей выпадалаісці ступою: то з крутой гары, то па грэблі, то йзноў пад вялікую гару; а роўнасці па дарозе мала.

Калі патроху забылася прыкрасць з вучнем-агітатарам, калі сумная і родная імгла восені ізноў патрошку ахоплівала сэрца, Абдзіраловіч пачаў набірацца той яснасці.

І як маўклівасць белабрысага, з чырвонай зморшчанай шыяй падводніка ў белым жупане і белай маргелцы; і як аднатоннасць дарогі; і як хваравітая прыемнасць ад мулкасці на нядрогкіх калёсах, што з'явілася неўпрыцям намест мяккасці падсцеленага сена і пераходзіць няўзнаку ў нейкую анямеласць, калі праехаў, не вылазячы, дваццаць, а можа, і трыццаць вёрст; як самая дарога,— так цягнулася і такою была чарада яго думак, у канцы каторай павінна была наступіць яснасць, як станцыя ў канцы дарогі, хоць і тысячы станцый, апрача гэтай, ёсць яшчэ на свеце, хоць і шмат іх яшчэ давядзецца праехаць за ўсё жыццё.

Але якая ж яснасць? Няма яснасці... Ёсць тое, што ён не ведаў, як назваць, але прадставіў: вялікая мутная лужына, ці нейкія паводкі, ці поўная дажджавой вады канава, а ў ёй паволі плыве шчэпінка, то плыве, то прыстоіць, то націху перакруціцца там, дзе была...

Няма яснасці, бо няма глаўнага.

І куды цяпер паплыве тая шчэпінка? Ці ж ён ведае?

Няма глаўнага. Аля? не, яна не глаўнае. Што было, перагарэла. Каханне да яе сціхла, прытулілася ў куточку. А можа, зусім яго не было, і зусім яго няма. І цяпер, можа, нават і блізкасць дзяўчыны не змагла б яго настрою, які ёсць цяпер, які быў у Маскве на вакзале, калі белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі заўважыў наўпроці сябе і спакойна і лёгка адхіліў вочы, збя-

2*

лелы, лёгкі і шчыры пасля хваробы. І пачуваў яшчэ на сабе той радасна-вясёлы, ціхі смех бліскучых дзявоцкіх вачэй. А не глядзеў і ўцяшаўся, што зрабіўся новым, другім.

Дык што ж глаўнае? Курчавы дзядок, што паднасіў яму махорку ў пушачцы і казаў: «Што душа мае, тым і прымае» і што крычаў, абшчапіўшы кол, уперабой вучню: «Таварышы сяляне! Паслухайце-ка мне! Найлепшая праграма...» — гэты дзядок мае глаўнае: змаганне з панскай няпраўдай. А яму гэта не глаўнае; калі адзін голас кажа: «Ідзі ў партыю!» — другі голас насміхаецца над сваёю ж палавінкаю і быццам з нейкай нядобрай уцехаю шэпча: «Няма табе партыі! Няма табе партыі!» — «А вы мне, аднак жа, адкажыце: што вы робіце для бацькаўшчыны, для маткі-Беларусі?» — пытаецца касалапы хлапец-аратар. «Што раблю? Што раблю? Чакайце! аб чым гэта я думаў, апроч таго? Ага: вучань надта добра вымаўляе па-беларуску, а я гарэй; мне мала і слоў, асабліва на адўлячонныя паняцці. А нашто мне, нашто мне? Мая ж бацькаўшчына — Расія...»

Апанавала дрымота сярод сумнай імглы восені на нядогкіх калёсах з нейкай прыемнай, нямеючай мулкасцю боку і нагам. «Да універсітэту гаварыў найбольш па-беларуску. І думаў па-беларуску. Не: школа навучыла думаць па-руску. Ці ж праўда?» І лавіў сябе, як думае: па-беларуску ці па-маскоўску, і не мог злавіць. «А вы, аднак жа, адкажыце мне...» Ён нічога не можа адказаць. Ён нават не можа адчуць усяе глыбі гора і няшчасця гэтай старонкі, што цяпер усцяж укрыта акопамі, крыжамі і магілкамі. Не можа. «А вы, аднак жа...»

Так, аднак жа, ён штосьці павінен рабіць. Так, так. «Буду рабіць! буду рабіць!» — грукаталі калёсы з невялічкай горкі і разганялі дрымоту сярод сумнай імглы восені, што патроху робіцца святлейшай і весялейшай. Можа, і сонейка бліснe, і тады хочацца адарвацца ад прыемнай мулкасці калёс і бегчы па дарозе.

## X

Іван Карпячонак Гаршчок, або Карпавіч (так звалі яго ўсе, калі пабыў у свеце), належаў да той даўняй і немалой чарады выхаджэнцаў з беларускай вёскі, каторая чакае яшчэ ў літаратуры свайго пісьменніка.

Чарада гэтая мае свой пачынак у дужа далёкай мінуў-

шчыне, калі прадзеды нашыя, то той, то гэты, не прыкутыя да свайго загону, як цяпер унукі, абы-якой культураю, раптам кідалі грэчкасейства і беглі ўва ўвесь белы божы свет шукаць волі, ці тое: гамаваць свае атавістычныя пачуцці.

Чарада гэтая праходзіць таксама скрозь тыя слёзныя часы, калі дзяды нашы, то той, то гэты, і найбольш, як той казаў, з ганарыстых, уцякалі ад жорсткіх паноў сваіх, бадзяліся па чужой, тугою аранай, старане, туляліся па розных глухіх кутках, канчалі век свой ці ў цёмных лясах, ці ўзімку на бязлюдных дарогах на беленькай снегавой посцілцы, ці ў гарадах на каменні пад плотам, калі яшчэ раней таго не накладалі галоўкаю за скарынку пушнога старасвецкага хлебца.

Цягнецца яна даўно струпехлымі крыжамі і касцьмі ды згладжанымі ад даўгога часу могільнымі курганкамі і ў тыя жалобныя ліхія гадзіны, калі беларус у белай кашулі здабываў царам Сярэднюю Азію, і йшоў на вечныя часы за сваю веру ў Сібір, і вызваляў балканскіх «браткоў» з турэцкай няволі, і насыпаў чыгункі па ўсяму Усходу Еўропы, і дзе толькі, дзе толькі, апроч хіба свае бацькаўшчыны, не капаў у горах руду, не спушчаў ваду з гнілых балот...

Губіць свой стройны парадак і буяе ўва ўсе бакі чарада ў астатнія колькі дзесят гадоў, калі нарадзіўся людзей вялікі шмат, а зямля не вырасла, а ўсохла да вузенькіх, што й курыца пераскочыць, шнурочкаў. Пацягнуўся тады з вёскі народ куламесаю і хто куды: у Пецярбург і Маскву, Рыгу і Адэсу, Тыфліс і Варшаву, і ў далёкую заморскую Амерыку, дзе ёсць дзіўны горад Нью-Йорк, дзе ёсць глухія, а багатыя фермы ў немцаў і расейскіх духабораў і дзе можна заробіць добрую капейку, хаця ж і надта, надта цяжкою працаю.

Губіць свой стройны парадак чарада ў гэную пару, бо хлопцы з беларускай вёскі пачалі выхадзіць цяпер не толькі «ў свет», адылі і «ў людзі». Школы адчыняліся, і можна было выўчыцца на пісара і на вучыцеля, на чыноўніка, а то дык і яшчэ вышэй: ксяндзы, папы і нават афіцэры пачалі выхадзіць з-пад мужыцкіх стрэх.

Што ж, як каму таланіла. Мікола Мартынёнак Макасей пехатою і басанож у N. прыйшоў, бо ў дарозе лапці стаптаў, але пашчасціла хлапцу: цяпер ён — Мікола Мартынавіч і вялікія мілёны мае. Іван Гаршчок, ці тое Карпавіч, па чыгунцы прыехаў у Маскву (і дайжа ў ботах, што

дзед перад смерцю адказаў), а не меў ён гэткай удачы, хоць і нішто сабе ў манахах жыў.

Дужа псуе сабе кар'еру мужыцкі сын, калі няскора забываецца на хату бацькіну. Ташнуе тады немаведама чаго; у горадзе ходзіць як непрыкаяны, а дамоў прыедзе — да працы ахвоты не мае. Так і прамарудзіць задарма жыццё сваё: ні богу свечка, а ні чорту чапяла, ні пан, ні нашчанец, мужыцкі брат.

Іван Гаршчок быў хлопец удалы, змалку на ўсё здатны і здольны. Змалку ж ён і чытанню-пісанню добра наўчыўся. Як скончыў ён царкоўную школу, пасадзіў яго бацюшка ў школцы граматы вучыцелем.

А Гаршчок калі за што браўся, дык браўся шчыра: замучыў дзяцей малітвамі, а баб і мужчын — чытаючы ім «Душеспасительный листокъ» з дужа страшнымі малюнкамі: у п'янюгі з рота лезе вужака, пляткарка ліжа языком гарачае жалеза і да т. п.

І сасніў аднойчы Гаршчок, што ён вялікі нейкі праведнік ці манах, і пачуў голас ува сне, што павінен ісці ў манастыр, у манахі.

І пайшоў. Папоўніў чараду.

Быў ён з маладосці прыгожы: вочы зоркія, спрытныя, валасы кучаравыя, від да ўсякага чалавека спагадны і радасны.

І скора і лёгка ўбіўся ў ласку да архімандрыта; даручыў той яму стаяць ля машчэй, калі знаймуюцца багамолы, і пільнаваць, каб клалі грошы і каб не было абы-якога непарадку.

А манастыр быў знамяніты. Многа вялікіх паноў прыязджала сюды, асабліва з таго часу, калі забілі недалёчка ад манастыра важную асобу царскага роду; прыязджалі князі і графы, княгіні і графіні закупляць панахвіды.

І прыязджалі дзве князёўны.

Любілі яны да машчэй прыкладацца. А станавіліся недалёчка ад прыгожага паслушніка.

І неўпрыцям для самога сябе паслізнуўся ён.

І дайшоў да астатняй брыды. Грошы краў, цела брудзіў, а сумленне гарэлкаю заліваў.

Прапаў Іван Гаршчок.

Трапіў у самае басяцкае прадонне.

...Прачнуўся аднойчы на голых, запэцканых гразёю, шалупашкамі і слізкімі гурковымі і кавуновымі недагрызкамі, замасленых басяцкім шкумаццём палацях у начулішчы.

Ляжаў паміж кудлатага, чорнага басячугі і абшарпанай п'янай бабы.

І нічога не памятаў.

У расхрыстанай, з калматымі касамі абшарпанкі цякла са шчэрбы на збітую шчаку слюня. Адной рукой баба сцяла Гаршка за палу, а другую адкінула — голую, без ададранага рукава капоты. Жылаватыя брудныя ногі тарчэлі з-пад абмызганай спадніцы, звісаючы з палацяў.

Гаршчок намагаўся ўцяміць усё і абмеркаваць, але нудна было пад ложачкай, балела галава, гідзіла яго ад аблічча абшарпанкі.

Дужа карціла курыць, ды не было чаго. Ён вызваліў палу пінжака, і баба заварушылася і засмактала, а кудлаты басяк скрыгаў скрозь сонне зубамі.

Пацягнула знізу ў разбітую шыбу з мутнога надвор'я свежым ветрыкам і прыемна асвяжыла галаву.

Нылі ўсе косці, калі скрануўся Гаршчок і палез далоў.

Ён агледзеўся. Начлежны дом быў повен. Была самая пара сну. Стаяла густое цёплае смуроднае паветра, нёсся храп, свістанне і варушэнне.

У адным вугле ўзняўся глухі гоман, нейкая ваганіна, хрыпаты смех і лайба — усё паніжонымі, начавымі галасамі.

Пайшоў туды, каб дастаць табакі.

Гэта прыйшлі з начной працы гаспадары начулішча, яе паважаныя паўсёдныя жыхары. Месца кождага, зазначанае каменем або цэглінай (замест падушкі), пуставала, бо ўсе ведалі, што тут занята і што гаспадар прыйдзе і мае *права* стурыць.

Але на адным месцы скорчыўся блізка што голы, аброслы чорнымі валасамі дробненькі чалавечак, не то цыган, не то армянін ці жыд,— і гаспадар каменя загневаўся за гэткае зняважанне сваіх правоў. Ён злосна плюнуў, без усякай жаласці схапіў навічка, незнаёмага яшчэ з тутэйшымі парадкамі, за ногі звалок яго з палацяў і кінуў на памост, як нейкі мяшок, набіты мякінаю.

Ніхто і ўвагі не звярнуў.

А пабіты чорны перацягнуўся, як ніцы сабака, і заснуў проста на падлозе, слізкай і бруднай.

Гаршчок папрасіў табакі ў таго, хто кідаў. Той злаяўся, падумаў, патрос у кішані і дастаў шчэпаць махоркі, потым з маскоўскага суконнага картуза, маслянага ўжо, як бот, выдраў кавалачак газетнай паперы і даў Гаршку.

Падзякаваў у спіну басяку, пайшоў на двор і сеў на

тумбе; рупліва звярнуў цыгарку і зацягнуўся прыемна і соладка.

Палягчэла галава, не так нылі косці, і ён мог абдумаць сваё палажэнне.

Апошнія капейкі былі прапіты. У кішані анічога. На сабе чорны пінжак, там-сям пазашываны белымі ніткамі, надзеты проста на голае цела, абшарпаныя, дзіравыя штаны і стаптаныя, збітыя на нет бацінкі.

Срэбраны крыжык, на каторы неяк і ў п'янога і ўжо *бязбожнага* Івана не паднімалася рука,— бо то была памяць дзіцячых гадоў, бацькоўскай хаты і *праўдзівага*, яшчэ давучыцельскага і даманастырскага жыцця,— гэты крыжык згубіўся: ці адарваўся, ці яго хто адрэзаў у п'янога і прапіў.

Першы раз за ўсю гульбу паўстала пытанне: што рабіць?

На работу нідзе не возьмуць басяка, дый кепскі з яго работнік.

*Прасіць?* — страшная мільганула думка. *Красці?* — бліснула яшчэ страшнейшая і горкая.

Абчысціўшыся троху і падцягнуўшы штаны, паплёўся ён па сонных, яшчэ пустых завулках на ўзбярэжную.

Там ужо мялі белыя дворнікі, махаючы аграмаднымі мётламі, беглі на рынак бабы з кошыкамі і цягнуліся на начлег самыя позні я гулякі.

Недзе далёка за заставаю ўдарыў і загудзеў звон, будзячы на душы нешта колкае і балючае. Брызнула восеннае сонца па закапцелых вярхушках фабрычных каміноў, заскакала па дахах і главах і пабегла, бліскучае, па рэйках; з-пад трамвайнага парка заліўся, дробна і звонка, задрынчэў званок, і цераз раку па каменнаму мосту пабег з грукатам і гулам першы, з адным-двума работнікамі, вагон трама. Ціха калыхаліся сонныя лайбы на пляскучых водах ракі, а над імі трапыхаліся флажкі. Ізноў загудзеў далёкі звон.

Так пачыналася раніца горада.

Гаршчок асцярожна і быццам сонны злез па прыступачках даўгой лесвіцы да ракі, з нейкай дзіцячай радасцю заскрыпеў бацінкамі па берагавому жвіру, адчуваючы блізкасць да прыроды, уліваючай у людзей спакой, і сілу, і спадзяванне.

Свежы ветрык абдуваў гарачы твар халадком. Гаршчок скінуў кепку, прыгоршчамі набіраў вады і, смакуючы,

мыўся. Вецер уздымаў кучаравыя, даўно нячэсаныя валасы.

Павесялела яму, ёлкасць чуцця пачала знікаць.

А горад вясёла, як звычайна, прачнаваўся і ўсё гулчэй і званчэй гаманіў, гудзеў і званіў. Чырвонае сонца, усё болей залацеючы, узнімалася на празрыстым сінім небасхіле і залівала святлом шкло ў вокнах вышэйшых паверхаў, дахі, вывескі, дрот, вітрыны.

Зазванілі недзе яшчэ, запляскалі па бруку капытамі коні звозчыкаў, з громам і гулам цягнуліся ламавікі з даўгімі смоленымі бочкамі.

Сярод гулу Гаршчок ціха йшоў бачком, каб не біць у вочы дрэнным адзеннем, і думаў, што цяпер рабіць? Паехаць дамоў к брату і сабрацца з сіламі,— не, не выпадае. «На зіму, на гатовы хлеб прыйшоў валацуга,— скажуць людзі,— чаму не прыхадзіў раней, як меў грошы? Тады пазабыўся, што і браценнік ёсць»,— так скажуць яму ў вочы й за вочы. «А брат жа карыстаець з майго паўнадзела»,— упіраўся другі, свой, голас. «Аднак сам-то ты не хочаш *карыстаць* з яго»,— скажуць горкую праўду. Прыйдзеш дамоў і пачнеш хадзіць па лесе ды па дуброве за красою, а бульбу капаць ці каноплі браць — памажы вам божа, а я не хочу...

Ніяк няможна ехаць дамоў. Дый на што білет купіці?

Аставалася адно: пайсці да архімандрыта і спытаць колькі рублёў, што некалі разам «зараблялі».

Доўга так ішоў ён, куды ішлі ногі, а ногі давялі да сцен манастыра. Чатыры гады назад ішоў ён сюды адухоўнены, поўны веры і сілы духа: ішоў, каб быць бліжэй да бога. Цяпер ён ішоў злы і бязбожны з непрыхільнасцю і дайжа пагардай да гэтых муроў.

— Эт, будзь што будзе,— уголас прагаварыў ён сабе і сігнуў за чыгунную кратчатую калітку.

У прыдзелі адпраўлялі раннюю абедню. Зара павінен быў выхадзіць з царквы архімандрыт. Як усё да апошняй драбніцы знаёма тут было Гаршку. Няможна было ўгамаваць тую больку, той разлад прыкры, што сушыў яму сэрца, тую думку, што вось страціла ўсю тут для яго святасць, усякую духоўнасць.

Яго ўжо прыкмецілі. Таўсты Паісій, з чорнай, як лапата, барадою і бліскучай чырвонай лысінай, хітра ўхмыліўся пад густыя вусы, павёўшы вокам у бок Гаршка, дзеля чагосьці засунуў рукі за чорны кушак, выняў, ізноў зірнуў з-пад кліраса на Гаршка і гудзеў басам на ўсю царкву.

Худы, як шчэпка, Нікадзім палючымі, глыбокімі вачамі часта калоў Гаршка з несхаванай злосцю.

Прапелі ўсё як мае быць. Пацягнуліся чорныя бабулькі цалаваць абразы; ксціліся і пільнавалі, калі пройдзе архімандрыт. Гаршчок убачыў яго, як ён, надаўшы паважнасці і святасці, не гледзячы на баб, ксціў іх і падстаўляў цалаваць свае рыжыя валасатыя рукі.

Гаршчок патроху адхадзіў з чарадою да дзвярэй, дзе лаўчыўся падысці, як народ высыпле на цвінтар.

Хлопчык-паслушнік, знаёмы Гаршку, вінавата скаўзануў міма, патрос чорнымі кудзеркамі і пачаў гасіць свечы. Здаецца, ён непрыкметна кіўнуў Гаршку, як бы кажучы: «І т а к о г а я люблю цябе».

Не чакаючы і не просячы благаславення, падышоў да архімандрыта Гаршчок і загаварыў да яго, загарадзіўшы яму дарогу.

Шыя ў архімандрыта пачырванела.

Ён сцяміў, чаго той хоча ад яго.

— Арыштант! Сацыяліст! Ідзі туды, адкуль прыйшоў,— раптам прасіпеў ён.

Гаршчок згубіў панаванне над сваёю воляю.

— Я пайду, пайду,— закіпеў і ён, махаючы рукамі ад вялікага абурэння,— я пайду, але ты, ты... (няўзнаку з'ехаў з в ы н а т ы),— калі ты не аддасі мне маіх трохсот рублёў, што я зарабіў, пяючы з табою пры адправах, то ты пойдзеш яшчэ далей за мяне!.. Памятай панагію! [1]

І для нячулага старога архімандрыта гэтыя словы былі незвычайнаю крыўдаю. О, колькі клопату і страху дадала яму гэтая ўцішку прададзеная панагія.

— Гукнуць паліцыю!! —ківірнуўся да паслушнікаў архімандрыт, аж шугаў ад гнеўнасці.

— Гукай, гукай! — непрытомна галасіў Гаршчок.— Я пра панагію на ўсю Расею крыкну, няхай ведаюць, як рызнічыя перахоўваюць манастырскае старавечнае дабро. Не аддасцё мне маіх грошы, дык я з р а б л ю і н а ч а й з в а м і! — неасцярожна дадаў ён якраз словы з пісьма, што пісаў архімандрыту троху раней.

Надта дзікою выглядала такая праява ў царкве.

Паслушнікі выпіхнулі Гаршка на цвінтар, дзе ўжо беглі два гарадавых.

— У паліцыю хулігана! — быццам гусак, сіпеў і гагатаў айцец архімандрыт.

---

[1] Абразок на грудзях у праваслаўных архірэяў.

Вусатыя чырвоныя гарадавікі баяліся гэтага кандыдата на епіскапы, добра ведаючы яго вагу сярод паноў. Не спрачаліся і не распытваліся, схапілі Гаршка за рукі, дырганулі і павалаклі за чыгунныя кратчатыя варотцы на гаманлівую, бліскучую, звонкую вуліцу.

— Я сам... Я пайду... Я ж сам іду,— увесь белы ад крыўды і сораму, што ўчынілі над ім гвалт, кундыячыў Гаршчок гарадавым. Тыя маўчалі і цягнулі за рог вуліцы. Там агоўталіся.

— Ахвота чапацца з імі,— казаў старэйшы.— Ну ты, Баброў, ідзі на пост. Я адзін з ім саўладаю.

Баброў усміхнуўся, зірнуўшы на мізэрную фігурку шабадранага басячугі, і пайшоў.

Старэйшы, Сімановіч, знаў Гаршка яшчэ тады, калі ён быў у ласцы ў архімандрыта (раней, у тую пару — казначэя і потым — рызнічага); цяпер шкадаваў яго.

— Эх, Іване,— сказаў ён,— добра я цябе знаю: быў ты й сыты й абуты, у гонару і з грашмі, чаго табе было з імі сварыцца?

У Гаршка кожная жылка дрыжэла.

— А цяпер, Іване, пакінь ты іх і займіся чым-колечы другім, што табе падходзіць,— умаўляў гарадавы,— во да чаго дайшоў,— агледзеў ён Гаршка згары да зямлі.

— Я папрасіў у яго на дарогу. Як у чалавека прасіў,— казаў Гаршчок.

«Ну во што,— падумаў Сімановіч,— у паліцыю мы не пойдзем і пратакол пісаць не будзем, бо дзеля гэтага і ён павінен быў явіцца».

— Ану, на ўсё, можа, забудзецца. Але каб мне не даталося, калі хопяцца часам, то падушайся, што заўтра ў гэтую пару ты прыйдзеш да мяне. Спадзяюся, што не спытаюць аб табе, але на ўсякую прыгоду... сам ведаеш — служба, дзеці... Ну, раздабывай грошы, купляй білет і едзь сабе з богам у сваю вёску.

Гаршчок утупіў вочы.

— Жураўы там цяпер лятуць, бабы лён сцеляць, каноплі выбіраюць, пеўня на дабіркі зарэжуць,— гаманіў з летуценнем у шэрых вачах Сімановіч; ён дастаў партманет і штосьці поркаўся ў ім.

— Дык дэкляруешся?

— Ага. Дзякую вам.

— Ну дык во,— замітусіўся гарадавы,— мая рука лёгкая, будзеш мець на дарогу,— і сунуў Гаршку беленькі паўрубель,— ідзі сабе.

Пайшоў на пост і яшчэ па дарозе крыкнуў: «Глядзі ж, прыйдзі на ўсякую прыгоду!»

Астаўся быццам выніцаваны Гаршчок, варочаў у потных пальцах манету і чуў нямую прыкрасць.

— Кру-у! Кру-у! — крукала ў вушах, як слова, высака-высака ў небе лятуць жураvы над логам, дзе бабы сцелюць лён, а каб было чысцей — грабяць баграна-залатое асінавае лісце, што наляцела з лесу так далёка.

Сярод гоману і звону паплёўся Гаршчок прапіваць паўрубля і ўсё болей мякчэў ад думкі, што паедзе на жыццё дамоў.

А злосць так часам і падпірала яшчэ і была балючай, дужа войстрай ад зняможнасці і ўніжэння. «Арыштант, сацыяліст». Я ж табе пакажу, што я за арыштант! Я цябе дапяку.

Калі на другі дзень Гаршчок прыйшоў да Сімановіча на пост, той старанна перакасціўся.

— Ну, хваліць бога! — сказаў ён.— А я мысліў: не прыйдзеш. Пойдзем у паліцыю; гукаюць, што рабіць...

Потым яго вывелі на двор, дзе стаяла цёмная карэта. Адчынілі дзверцы, упіхнулі яго туды, пасадзілі да яго жандара, замкнулі ў цямноце і некуды павязлі.

Мякка каціліся аббітыя рызінаю каточкі па роўных брукаваных вуліцах, толькі пляцкалі конскія падковы. А думкі ў Гаршка заскакалі: «Што хочуць зрабіць? За якія ўчынкі?»

Прывязлі яго ў ахранку. Увялі ў раскошны пакой і пасадзілі паміж двух жандароў.

Зараз выйшлі з другіх пакояў жандарскія афіцэры. Адзін меў у руках Гаршкова пісьмо да архімандрыта, у каторым якраз і было тое — «Калі не аддасцё маіх грошы — з р а б л ю і н а ч а й з в а м і».

Ізноў пачаліся распытаванні, хто, адкуль, чым займаўся, завошта меўся з а б і ц ь архімандрыта, ці меў памагачых у нападзе?

— У турме сядзеў?

— Ні разу, пане палкоўнік.

Афіцэру не падабалася «пане» — Гаршчок чутка заўважыў.

— Брэшаш, латруга!

— Ніяк не брашу, вашскародзе!

— Ага. Ну, мы праверым.

Прывалаклі аграмадны альбом з фатаграфіямі розных злачынцаў і зачалі лістаць і шукаць.

Доўга цягнулася гэтая работа, было горача і прыкра.

— Так! Першы раз у нас, і ведамасцяў з другіх гарадоў аб табе няма,— сказаў палкоўнік.

— Анархіст, рэвалюцыянер, бальшавік? — папытаў у яго далей палкоўнік.

Гаршчок вытрашчыў вочы.

Капітан усміхнуўся.

— Мяркуючы па яго пісьму і правапісу, пане палкоўнік,— пстрыкнуў ён па пісьму.

Абодва засмяяліся. Гаршчок пачырванеў,— што смяюцца з яго цемнаты.

— Ну, ты добра спісаў тут манастырскія парадкі, толькі як паважыўся п а г р а ж а ц ь? што значуць словы: «З р а б л ю з в а м і і н а ч а й»?

— Тое, што буду судзіцца за свае грошы,— адказаў Гаршчок.

— Ага, так! Ну добра.

Яны пайшлі ў другі пакой і доўга рагаталі там, яшчэ раз перачытваючы Гаршкова пісьмо, перасланае ў ахранку архімандрытам.

Адылі выйшлі.

— Ну, што ж: хочаш, каб мы цябе адправілі на радзіну?

— Хачу, вашскародзіе,— узрадаваўся Гаршчок, думаючы, што яму дадуць бясплатны праезд як нічога не маючаму і не вінаватаму ні ў чым.

— Добра, пішы,— сказалі пісару і пайшлі сабе.

Пісар напісаў паперу, падаў яе салдату і сказаў:

— У N-ую перасыльную.

— Як, у турму, па этапу?! — скалануўся Гаршчок.

— А то як жа? Сам прасіў.

— Я не тое... Я не хачу,— узняў голас Гаршчок.

— Ну ўжо канец, зроблена. Вядзі яго.

Даўгім і стыдным быў час да турмы сярод двух салдатаў са штыхамі па самай сярэдзіне вуліцы, па каменню.

«Па этапу, з салдатамі дамоў... О, сорам, сорам»,— мысліў Гаршчок у адчаі.

Яшчэ доўга мучылі яго, пакуль прымалі ў турме, ізноў пісалі, ізноў пыталі. Цэлы дзень мінуўся — макавай расінкі ў роце не было. Потым упіхнулі ў смуродную, брудную, поўную арыштантаў камеру з палацямі.

«Яшчэ раз я прапаў»,— разважаў Гаршчок.

Толькі цераз тры месяцы, пацягаўшы па ўсіх пунктах і турмах, даставілі яго ў родны губернскі горад. І за гэты

час Гаршчок шмат чаго новага для сябе пабачыў і пачуў.

Не забавіўся цяпер у брата нават месяца, ізноў паехаў у свет. Выўчыўся рабіць па металу і чытаў безразборна ўсялякую нелегальшчыну з гэткай жа стараннасцю, як некалі «Душеспасительный листок». Здабыў пашану за розум свой ад таварышаў-работнікаў і стаўся Карпавічам. Але правадыры-інтэлігенты з іх характэрнай інстынктыўнай цямнасцю не мелі да яго асаблівай прыхільнасці. Чулі ў Карпавічу той гатунак людзей-самавукаў, каторыя хоць і вялікай высакосці даходзяць у мастацтве, палітыцы ці абы-якой навуцы, але назаўсёды застаюцца з нейкай хібаю ў самым грунтоўным, а дзеля таго неўспадзеўкі і страшна лёгка зваліваюцца часам на самы дол чалавечай думкі. Яны, гэтакія, нейкім дзівам сумяшчаюць у душы сваёй найлепшы, здаецца, гуманізм і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію і алхімію, марксізм і хірамантыю і з аднолькавай шчырасцю веруюць у тое і другое. Багі іхныя любяць завадзіць сварку, скідаюць адзін аднаго з пасаду і робяць у галаве свайго паклонніка незвычайны сумбур. Багоў гэных зазвычай надта многа, але бываюць часіны, што і няма нічога, вось тады людзі такога гатунку і выраляюць розныя неспадзеўныя штучкі.

«Нікоменьку не прызнаюся,— сам сабе думаў інагды Карпавіч,— але чую, што ў абы-якой партыі мог бы знаходзіцца з поўнай шчырасцю». І праўда: у пачатку вайны ён троху чаго не зрабіўся самым ярым ісціна рускім патрыётам, потым пад уплывам сваіх знаёмых студэнтаў — свядомых беларусаў — дужа скора асцюдзянеў. І нічога дзіўнога, што за недаўгі час перамахнуў ён аж да бальшавіцкага лагера. У бальшавізме Карпавіч пачуў нешта блізкое, роднае і любае. «Доўга шукаў,— дзякаваць богу, знайшоў-ткі»,— уцяшаўся дзядок і, пачуваючы дужасць і адвагу, зрабіўся нейкім пэўным ува ўсім чыста, гаварыў з людзьмі вольна і плаўна і быццам рос, нізенькі, з-пад сваіх сівых кучаравых валасоў.

— Сячы трэба да карэння! — любіў казаць і часта казаў цяпер Карпавіч, хоць і не траціў свайго паўсёднага гумару.

## XI

Алечка ведала, што ў яе жыцці ідуць чарадою то добрыя, то нядобрыя дні. Яна нават заўважала, што дрэнны настрой, гэная адзнака злыдняў, пачынаецца заўсёды звечара ў панядзелак.

І не так было Алечцы прыкра тое, што Ігналік паехаў не развітаўшыся, як тое, што ад'язджанне яго трапіла на пачатак нядобрай паласы жыцця. «Яшчэ падумаюць, што я аб тым шкадую»,— разважала дзяўчына і наўмысля хавала ад усіх свой брыдкі настрой.

— Зусім няможна было спадзявацца, каб прапаршчык Абдзіраловіч быў гэткі неўзгадаваны: выехаў, нічога нікому не сказаўшы, быццам уцёк,— так жартам казала яна і так наўмысля смяялася,— а хоць і ўночы выязджаў, каб ведала, схадзіла б на вакзал,— так яшчэ дадавала яна, каб кожны зразумеў, што ёй ані каліўца не карціць ні яго ўзгадаванне, ні яго ад'язджанне: яна гаворыць, каб пасмяяцца.

Князь, аднак, разумеў яе зусім іначай і без праўдзівага смеху паднімаў голеную, пульхлую губу з чорнаю меценкаю, паказваючы белыя, быццам пена, зубы. Заўважыў тое, што яна хавала ад усіх, і перш з прыкраю цярплівасцю, а далей з цярплівай злосцю скаліў ён свае зубы і не хацеў ці, можа, і не мог мецъ замкнуты твар перад раптам знялюбелаю дзяўчынаю.

А за гэта і сам знялюбеў ёй.

— Князь... падумаеш: наўда вялікая! — казала яна ў той дзень сваёй малодшай сястрычцы, клаўшыся спаць.— Усе за яго ніжэйшыя, усе неўзгадаваныя, толькі ён адзін харошы, падумаеш!

— Мне ён ні разу не падабаўся,— адмовіла маўклівая Лёля.

— А мне, думаеш, падабаўся? — спыталася Алечка і не ведала, што яшчэ казаць, трошку памаўчала.

— Хто цябе ведаець,— неяк здалёку і быццам з неахвотай казала сястра, закідаючы рукі за галаў, на падушкі,— пэўне падабаўся, калі прапаршчыка Абдзіраловіча прамяняла на яго, а той быў такі добры і слаўны.

Ад гэтых слоў Аля яшчэ болей усердзілася.

— Ат! нічога ты, Лёлька, не разумееш,— скаранька адказала яна,— не магла ж я сама бегаць за гэтым святым Абдзіраловічам, калі ён не хацеў гуляць з намі...

— Што там табе казаць,— звярнула Лёля размову на шчырасць,— пан Ігнат быў табе зусім не «гэты», і дарма ты завеш яго святым. Каб ты не слухала князя, хто якога роду, дык ба лепей было.

— Ну, што б было?

— А тое, што князю не выпадае казаць у нас аб тым, хто якога роду, калі мы самі з мужыкоў.

Аля пачырванела.

— Ты, Лёлька, малая, а лезеш у вялікае і нічога не разумееш... Ні-чо-гінь-ка, а нічымчагенька! І таксама было б лепей, каб ты ніколі не гаварыла аб нашым родзе. Мамачка, ведай, гэтага не любіць. Наша мамачка ўнучка генерала, а татулькін толькі дзед быў з простых, гэта ўжо даўно. А ты не ра-зу-ме-еш!

— Няхай сабе я не разумею, а ты, Аля, разумееш, а пана Ігната пакрыўдзіла... А цяпер шкадуеш, хоць ніхто ж табе не вінават.

— Лёлька, маўчы! Пакахаеш сама, тады будзеш ведаць, як казаць... Спі адна, калі ты гэткая,— скрозь слёзы скончыла гутарку Аля і пайшла спаць у пакой да няні.

У гэты час у сенцах зазвінеў званок.

Няня адчыніла і шыбка прыбегла назад сказаць, што прыехаў сам Мікола Мартынавіч.

Алечка была ў бацькі аблюбёнаю дачушкаю, аблюбёным дзіцёнкам і з прыемнасцю чула на сабе бацькаву любоў.

Алечка заўсёды бывала дужа рада, калі ён прыязджаў, і не ведала, што рабіць з тае радасці: чапалася яму на шыю, абляпляла яго бусямі, гладзіла яго сівую бараду і парослыя валаскамі рукі, тулілася да яго, чуючы, што ўва ўсім свеце толькі ён адзін разумее яе, даруе ёй памылкі і абмашкі і любіць яе так, што дзеля гэтага толькі й жыве. Яна была зачараваная бацькавым розумам, яго цвёрдасцю ў адносінах да людзей, яго багаццем. З маткаю ж не мела тых прыязна любых звязкаў і любіла матку менш, чымся яго. А з гэтых прычын чакаць татульку было для яе быццам нейкай дадатковай і паўседнай, у запасе, прыемнасцю, каторая ратавала ад вялікага смутку ў чарод нядобрых дзён і надавала асаблівай прынаднасці, салодкага прыгажства яе шчасным дням.

Цяпер жа, калі няня прыбегла і сказала, што прыехаў сам Мікола Мартынавіч, Алечка, замест радасці, пачула нешта новае, дзіўное, зусім нядобрае. Было ёй ці то прыкра, ці то боязна. Чула, што будзе нешта дрэннае, благое. Быццам апала яе сэрца.

Яна стаяла ў дзвярах пакоя, дзе жыла няня, глядзела ўздоўж па карыдоры, дзе з канца, з цямноты, выходзіла вялікая фігура бацькі, аб нечым разважала і ведала адно, толькі адно, што ёй боязна перад новым, невядомым...

— Што, Алюся, не пазнала таты? — з пяшчотаю, і негасцю, і наплываннем асабліва вялікай любасці ў сэрцы

пасля даўгога разлучэння сказаў Мікола Мартынавіч і далікатненька абшчапіў яе і пацалаваў яе.

— Татусю, пазна-а-ла! — адказала яна і прытулілася да бацькі, але тое новае не пакінула яе.

— Сцюдзёна табе, Алюся? — спытаўся стары, заўважыў, што яна не такая, як заўсёды, быццам мімаволі куксіцца.

І калі выйшла жонка, ён, павітаўшыся, перш-наперш спытаўся, што гэта з Алюсяй, ці здарова яна?

— Чаго ж ёй хварэць? — спакойна і нават трошку іранічна адмовіла матка.— Здарова, толькі непаседліва, нападалася за дзень, бо ў хаце не стыкаецца.

Аля чула, што сказала матка, і падумала, як яна нялюба кажа, і з прыкрасцю чакала, што зараз яна пачне яшчэ хваліцца князем, што ён напэўна прыйдзе ў сваты.

І нялюбасць да ўсяго чыста спавіла дзяўчыну і піхала на самыя неспадзяваныя ўчынкі,— толькі Аля ведала, што гэта пройдзе, што гэта — благая чарада жыцця, і дзеля таго толькі адзержывала сябе.

Цяжкі настрой не пакінуў Алю і ўранні на другі дзень. Яна сніла Ігналіка, быццам яна з ім і з нейкімі людзьмі плавала ў чаўне па моры. Човен абярнуўся, і яна з Ігналікам абшчапілася, і абое заліваліся ў сцюдзёнай, сцюдзёнай, сольнай і мутна-сіняй вадзе.

З беленькага катэра, знеткуль, кінулі ім вяроўкі з гумавымі паясамі, яна схапілася, а Ігналік з маўклівай, пакутнай і даруючай за крыўды ўсмешкаю адпіхнуўся і пачаў залівацца адзін.

Яна ўстала, як звычайна, і снедала разам з усімі, хоць і не мела апетыту, але ў парк гуляць не пайшла і лягла з кніжкаю на качалку. І не магла чытаць. Перш чула нейкую мляўкасць ува ўсім целе і, як слова, хмель у галаве, а потым зразумела, што пачынае гарэць.

Калі прыйшоў князь, каб паказацца Міколе Мартынавічу і адным заходам пашчупаць грунт у справе сватання (бо маруда была яму не з рукі і надакучыла яму), Аля ўжо ляжала, завінутая коўдраю, на пасцелі, ля яе сядзеў старэнькі вясёленькі дзядок, курортны доктар, і воддаль — Мікола Мартынавіч.

Князя ўвяла і сказала аб ім сама гаспадыня якраз у той час, калі доктар гладзіў Алю па ручцы і ласкава супакойваў яе, кажучы ёй і каб чуў бацька:

— Нічога, нічога, маё дзетка: маленькая нервовая хваробка... Трэба супакоіцца, выпіць мае мікстуркі, хоць ад іх

і невялікая польза, і як рукою здыме. Найлепшая ж рада й лякарства — спакой.

Мікола Мартынавіч быццам і цікавасці не меў прыглядзіцца да князя і безуважна кіўнуў рукою на крэсла, каб той садзіўся.

Такое прыманне было нялюба князю, і ён адразу пачуў нейкую непрыхільнасць да міліёншчыка. Аля яшчэ пабольшала яе тым, што адвярнулася да сцяны, калі князь прыйшоў.

І пасля візіту князь зразумеў, што абставіны спляліся так, што сватацца няма чаго патыкацца. Мець абы-якія справы з «лапацонам», як ён у думках аблаяў міліёншчыка, было нялёгка. Хвароба ж дрыжонай дачушкі, відаць, зусім у благі бок скіравала настрой і думкі Міколы Мартынавіча. Дарма зрабіў князь спробу завесці з ім размову аб ратаванні маёмасці ад розных у часе рэвалюцыі магчымасцей. Дарма казаў яму пасля абеду ў кабінеце аб лісце ад пэўнага чалавека з Масквы, што трэба — як га — ратаваць домы, і капіталы, і сваё ўласнае жыццё, бо раб бунтуецца не жартам і зжарэ і домы, і капіталы, і жыццё. Дарма падбіваў старога прадаваць усё і выязджаць за граніцу,— той слухаў няўважна і маўчаў, бо нават гаварыць аб тым не хацеў. Мусіць, не меў ён, вясковы выхаджэнец, веры, каб хам мог яго зжорці.

І князь пастанавіў выехаць у сталіцу. Той ліст аб чаканых грозных падзеях напалохаў яго і прымусіў парупіцца.

Прыкра было яму. І ён удаўся ў маркоту.

Увечары таго ж дня гасцяваў у яго вясёленькі старэнькі курортны доктар, каторы і памагаў яму развеяць гора і салодка патужыць. Выпілі яны кахецінскага, добра пад'елі, пачырванелі, пасядалі ў мяккія крэслы і курылі, сумна думаючы. Потым князь узяў у рукі гітару і навёў струны на мінорны лад. Гукі гітары, гукі тужлівыя, плылі ў дымна-сінім змроку цёплага пакоя да расчыненага балкона і таялі ў смутным паветры шумячай жоўтым лісцем восені. Замігцелі на цямнеючым небе зорачкі, адна, другая і трэцяя за чорнаю каўказскаю гарою. Гітара дрыжача варкатала, і князь маўчаў і думаў аб тым, што было і што мінулася...

— Эх, мінулася, мінулася,— казаў доктар і качаў галавою,— да вайны было, а цяпер мінулася, мінулася ўсё, эха-ха,— і ўздыхаў і ківаў галавою.

## XII

Пяць дзён не сціхала кананада.

Бесперастанку трашчэлі і трэскалі кулямёты і стрэльбы, то быццам заціхалі, то ўзноў набіраліся заядласці. Памаўчаўшы, бухалі пушкі, і чарада глухога, дужага гулу хавала ў сабе тое трэсканне.

Быў пяты вечар.

Хмурая восенная мга паўзла з сівага неба на цяжкахворы горад, на кананаду.

Карпавіча і Васіля адпусцілі дамоў, каб яны выспаліся і ўзноў прыйшлі змагаць буржуяў.

Абпэцканыя і абшарпаныя, з кулямётнымі патранташамі цераз плечы і ўкол пояса, з набітымі стрэльбамі ў руках перабягалі яны пад сценкамі, прабіраліся да свайго квартала.

Зрэдку там а там пёк з вакон і з люхтаў захаваны вораг.

— Не здаюцца, каб іх удушыла,— марматаў Карпавіч аб белагвардзейцах.

— Кажуць, нам ужо помач ідзець з Петраграду,— весяліў надзеяй сябе і старога Васіль.

— Ах, каб жа бог даў...— уздыхнуў змучаны Карпавіч і без асаблівай цікавасці і ўважнасці засудзіў сябе, што — бальшавік, а гаворыць — «бог даў».

— Каб жа бог даў, як той казаў,— падумаўшы і пераскачыўшы небяспечнае месца, дадаў Карпавіч.

— А як мы іх турылі па Газетнаму завулку,— весяліў успамінамі сябе і старога Васіль,— шкода, што не злавілі начальніка партыі, гэтага нягоднага князя.

— Гальшанскага? Шкода, праўда што. Партыйка-то яго так сабе: блазні, кадэты, юнкеры... Во сам б'ецца, як нячысцік. Усюдых паспее,— гаварыў стары.

— У страўню вегетарыянскую ці там нейдзе шмыкнуў і схаваўся. Пяць куляк пусціў яму я ў сугон, ды абмахнуўся: пашчасціла князю ўцячы.

Раптам загудзела міма граната і з вялікім грукатам бахнулася высока аб мур.

Сыпнулася вапна, цэгла, і закурыўся пыл.

Яны шпарка ўбеглі ў вароты.

— Пачакаем.

— Трэба.

— Ах, не ведаю, як маецца матка,— сказаў Васіль.

— Але, здалася старка. Каб ногды зусім не развітала-

ся з намі. І што ёй? Здаецца ж, век як не бог ведаець які.

— Каб толькі, кажа, яшчэ хоць раз на паніча Ігналіка зірнуць.

— З галавы ёй нешта не выходзіць гэны паніч.

— Ну, як жа: узгадавала яго, сіротку.

— А цікаўна, як ён цяпер? З чыйго боку? — пытаючы казаў Карпавіч.

І раптам неўспадзеўкі наперадзе нехта дужа свіснуў.

— Стой!

Сунуўся груд людзей.

Група ўсякіх мястовых паноў, з'ёжаных і падняўшых каўняры, нейкіх яшчэ шабадраных жулікаў і двух-трох чалавек у шынялях, абкружаная ўзброенымі чырвонагвардзейцамі, рушыла ўгору па вуліцы.

— Свае, свае!!

Яны прад'явілі паролі і сказаліся.

— А! Таварыш Гаршчок! З Газетнага завулка? Вы як мае быць усыпалі ім, калі яны ўцякалі.

— Нічога, як трапілася,— адказаў Карпавіч.

— Васілёк! — зняцейку пачуўся з групы арыштаваных абніжоны голас Абдзіраловіча.

— Ігнат Восіпавіч, як гэта вы папаліся? — пазнаў яго ў шынелі з адрэзанымі наплечнікамі і адгукнуўся Васіль.— Таварыш начальнік,— папрасіўся ён у галоўнага канваіра,— дазвольце паздароўкацца.

— Я ехаў на доктарскую камісію, я не ведаў, што дзеецца ў месце, і на вакзале мяне ніхто не задзержыў. Во — запіска, што ў мяне адабрана аружжа. Ішоў я, Васілёк, да вас; тут мяне арыштавалі. А я чалавек хворы і не магу змагацца з ніводнага боку. І я, таварышы, ледзь на нагах стаю,— казаў Абдзіраловіч.

— Вы яго знаеце? — спытаўся начальнік канвоя ў Васіля.

— Добра знаю.

— І я таксама,— адгукнуўся Карпавіч.

— Ну, дык можаце ўзяць яго да сябе.

Абдзіраловіч радасна выйшаў з прыкрага кола.

Яны пайшлі.

— А мама дужа хварэець,— зазначыў Васілёк.

— Ну, што ты?! — занеспакоіўся Абдзіраловіч.

— А так, дужа хварэець. Будзе рада, што вы прыйдзеце.

Ды толькі яны ступілі некалькі сігоў, як блізюхтанька з варот пасыпаліся рэвальверныя стрэлы.

Яны махам крутнуліся ўбок. Але Карпавіч, відаць, зачапіўся за нешта, спатыкнуўся і заваліўся.

— Таварышы! — нейкім пісклявым галаском завапіў ён.— Таварышы, ратуйце!

З варот выбегла некалькі чалавек белай гвардзіі са знаёмым Абдзіраловічу па лазарэце капітанам Гарэшкам за даводцу. Яны ўмамент абкружылі Абдзіраловіча.

Васіль некуды кінуўся наўцёкі і як наскрозьдоння праваліўся.

Высокі Гарэшка зладжыўся рэвальверам на ляжачага дробненькага Карпавіча.

— Капітан! Стойце! Здурнелі!! — праразліва загаласіў Абдзіраловіч і выставіў рукі перад Гарэшкам.

Той не мог ужо здзержыцца і стрэліў, але скіпірнуўся перад рукамі, і куля папала толькі ў нагу Гаршку.

— Ая-я-я-яй!! — заекатаў, як сабака, дзядок, схапіўшыся за нагу.

— Няма чаго шкадаваць такую дрэнь,— злосліва адказаў капітан.— Перытрэсці яго,— даў ён злёгку выспяткам у бок Карпавічу.— Ну а вы, прапаршчык, якім чынам укруціліся ў добрую кумпанію? Яны вас вялі пад канвоем?

— Так, пане капітане. Яны не далі веры маім паперам і вялі мяне ў свой камітэт.

— Хваліце ж бога за іхную дурнату. Даўно-о маглі б яны адправіць вас на лона святых радзіцелькаў. Што ж, ваaружайцеся. Спадзяюся, вы зробіце, як вам падкажа вашае сумленне і службовая павіннасць.

На вуліцы было зусім цёмна.

Гуд бою сцішыўся на ноч.

З Карпавіча паздзіралі патранташы і чырвоныя перавязкі, паклалі на насілкі і панеслі ў бальніцу.

Яны, як афіцэры, вялі перад і йшлі побач. Калі Абдзіраловіч зірнуў збоку на капітана, ён адразу выявіў тыя, быццам надта а надта даўно былыя часы, калі чарод ехаць на Каўказ не прыхадзіў яму і тонкая, нібы джала вужакі, нуда незлавімым маментам датыкалася болем да сэрца і на той мамент пужала яго. Фізічна чуў сябе тады ўжо досыць добра і нават іншы раз увечары ішоў слухаць музыку ці сядзеў у скверы, хадзіў сярод людзей, каб толькі даць абы-якую разрыўку думкам сваім. «Бурлячая рэвалюцыя коціцца вось міма»,— думаў тады, але не адно гэта смуціла яго. Ён баяўся, што пакуль выправіць паперы ў канцылярыях, сярод немагчымай маруды і куламесы рэ-

валюцыйнай пары, што йзноў пачнуць круціцца нервы, а пасля гэтага з'явіцца, можа, й тое, ненавіднае,— у вобразе спакусніцы. А другі голас спрабаваў шаптаць тады яму, што не ўсё ж і адзінота, самота, кнігі і думкі, што трэба нейкага іншага, агульнага з людзьмі і весялейшага бавення. І тры дні бадзяўся прапаршчык па камітэтах, саюзах і пунктах, пакуль-непакуль дастаў усе патрэбныя дакументы, і тым клопатам здушыў крыху вужачае джала. І ў астатні вечар, ідучы на бульвар па людназму тратуару з гэтым Гарэшкам, старым дзявочнікам і цынікам, афіцэрам яшчэ мірнага часу, чуў ад яго:

— Вы праз тое гэткі ціхоня святы, што не ачунялі як мае быць пасля хваробы...

Так казаў Гарэшка, па-конску рагочучы, і дадаваў:

— А я, пане-браце, люблю зірнуць у прыгожыя вочкі.

— Мне таксама люба бачыць прыгажство,— адказаў Абдзіраловіч,— калі нам хочацца смакаваць хараство ў абробленым па-мастацку камені ці на палатне, дык чаму ж не палюбавацца на жывое, богам створанае хараство?

— Дзіўны чалавек! Дальбо, дзіўны вы чалавек! — зарагатаў капітан, хоць і няўважна зусім слухаў, а можа, і не чуў, што казаў прапаршчык,— дзіўны вы чалавек, ведаеце, сучасны манах ці... ці хітры мудрагель, прытварака, каторы мае любасць у самаашуканстве,— разумееце вы, пане мой? А я, стары грахавод, люблю зірнуць у прыгожыя вочкі,— разумееце вы, прапар?

Яшчэ раз паглядзеў Абдзіраловіч збоку на сівеючыя каля вуха, на чырвонай, спечанай скурачцы, валасы капітана і здзівіўся ад успамінаў сваіх і падзівіў спакою свайму. Падзівіў сабе, што не чуе сораму, што не развітаўся з Карпавічам, нават не паглядзеў, калі яго панеслі ў бок ад іхняй дарогі. Нерваў быццам не было.

А капітан распытваўся ў яго, як жылося на Каўказе і як прапаршчык ачынуўся тут.

— Наш начальнік атрада,— казаў ён,— таксама толькі што з Каўказа і трапіў проста ў гэтую кашу. Ён гвардзеец, князь,— Гальшанскі, можа, чулі калі? — баявы, ведаеце. Ух, працуе! У палон чырвоных не бярэць, а хто і перадасца яму, не ўцешыцца: да сценкі!

— Я, здаецца, сустракаўся з ім у вайсковага начальніка ў Пяцігорску. Але ён не рыхтаваўся выязджаць так скора.

— Ён кажа, баяўся, што дарогі стануць, у яго тут справы ў штабу.

Абдзіраловіч размаўляў ціхім, аслаблым голасам. Ён не мог супоўна ўцяміць частых перамен свайго палажэння. Прыгода з дзядком-бальшавіком, яго айканне стаяла яму ўваччу.

— Пане капітане! я павінен вас пакінуць на нейкі час і залучыць тут у вадну знаёмую сям'ю. Заўтра ўранні яўлюся,— папрасіўся ён.

Гарэшка задумаўся і пацёр сваю рэдзенькую сівізну ля вуха.

— Ано, можаце пайсці! Ды пільнуйце, галубок, сценкі і плота. Смеху будзе варта, калі згінеце за неасцярожнасць.

— Зь! Зь! — зняцейку зазвінела міма вуха.

Людзі шурхнулі ўва ўсе бакі і прыгнуліся.

— Во, бачыце? — крыкнуў яму капітан удагон.— І чорт яго ведае, адкуль і хто, свой ці чужы.

Абдзіраловіч аддаў чэсць і трушком пабег за рог дома, спадзяваўся знайсці Васіля ці прабрацца на вакзал.

«Так, свой ці чужы,— падумаў ён з нейкім сорамам ці каяннем.— Я не ведаю, хто мне свой і хто чужы. Я дзяржуся дзікога нейтралітэту і ашукваю тых і гэтых і самога сябе. Няўжо панская кроў, каторая цячэць у маіх жылах, маець тут нейкае значэнне? Ату, што за дурныя думкі,— гэтага не можа быць».

І адна палова яго, каторая разумела белых, маўчала, знямела.

І другая палова яго, каторая разумела чырвоных, вымагала, каб ён знайшоў князя і забіў яго і каб ён дагнаў Гарэшку і даў яму выспятка пад грудзі, як той даў ляжачаму Гаршку.

Інстынктыўна, з агідаю матнуў ён рукою, каторую пажмаў Гарэшка.

## XIII

Яна ведала, што смертухна стаіць блізка — у галавах у яе.

— Васілёк, галубец, любінькі,— шаптала яна, трудна вымаўляючы словы,— што, не заб'юць яны паніча? Ай, Карпавіч, Карпавіч, дастаў, бедны, больку...

— За што ж ба яны забівалі афіцэра?

— А ён? За каго ж ён руку дзяржыць?

— Ды так ён нейк, што не магу яго ўцяміць: як быц-

цам за нас, як быццам — не. Бадай што ні за нас, ні за паноў.

— Не можа быць, каб Ігналік проці народа пайшоў, не такоўскі Ігналік, не павінен... А змусціцеля нашага, кажаш, падстралілі... Авохці, Карпавіч, даскакаўся стары, авохці...

Хворая ледзь шавяліла перасохлымі вуснамі, пазірала з глыбокіх вачавых ямін тужлівым і трудлівым зрокам і перабірала збялелымі, як белы воск, пальцамі па краюшку коўдры.

Лямпачка тускла мігцела, і ў падвале было нудна. Вася грукаў і барабаніў самаварам ля печы ў парозе. Зрэдку далятаў сюды глухі гул артылерыі і ціхае трашчанне кулямёта,— як слова, вартаўнік круціў кляпчотку. У вакне адбіваўся чырвоны бліск пажарышча.

— А божа мой, божа мой! — затужыла ўзноў хворая.— Памру во і не пабачу яго. І ты, галубок, ці жыў застанешся, хто ведае. Калі тая завіруха скончыцца? Карпавіч скакаў, скакаў і дастаў сабе больку...

— Заўтра ўранні скончыцца,— спакойна адказаў Васіль.— Заўтра ўранні штурм.

— Што ж гэта за штурм?

— Кінемся ўсе раптам на белых і саб'ём іх.

— А божа мой, божа мой! колька людзей паб'юць яшчэ. Дай вады. Авохці, сканаець твая матка, Васілёк, скора сканаець. Карпавіч наш, можа, *там* ужо: пабачымся.

Васіль маўчаў і быў невясёлы.

Стук! Стук! — пачулася, як нехта стукнуў пад дзвярмі.

Работнік схапіўся за стрэльбу і падбег.

— Хто? — крыкнуў ён.

— Я... Ігнат Восіпавіч... Адчыні мне, Васілька!

Хворая, забыўшыся на боль, узнялася на локцях і ўстроміла вочы ў дзверы.

— Ён, ён, ён,— шаптала яна.

Абдзіраловіч увайшоў.

— Жыў, цэл, мой любінькі, мой залаценькі! — працягнула да яго рукі хворая ў незвычайнай радасці і, калі ён схіліўся да яе, цалавала яго, дрыжачая, абнімаючы за галаву.

А калі ён апавядаў, як выбавіўся і прыйшоў да іх і калі ўспамянулі беднага Карпавіча, яе апанавалі прыкметна неспакой і нецярплівасць.

— Васілька! — з пакорнасцю і ласкаю звярнулася

яна.— Схадзіў ба, даведаўся, ці пайшлі шукаць Карпавіча? Сканаець гаротнік сярод чужых, ай, матачка наша навышняя...

Васіль пайшоў.

Хворая ўся раптам затрапяталася і падгукнула прапаршчыка. Той недаўменна і з чуццём жалю схіліўся над ёю.

Зірнуўшы на дзверы, яна, уся дрыжачая, абхапіла яго шыю рукамі і, прыжмаўшы яго вуха да мокрага ад слёз зморшчанага твару, як у трасцы зашаптала:

— Мо́й ты!.. Мо́й родны сынок... А Васілёк — панскі. Перамяніла я вас маленькіх, пераклала. Мяркувала: шчаслівейшы так будзеш... Мо́й ты, Ігналік... Не, ты — Васілька, а ён — Ігналік... Мой...

І ўсё дужэй і сударжней прыціскала яго канаючая маці да худых грудзей сваіх.

## XIV

І во з тае пары, як яна памёрла, мінула колькі месяцаў.

Абдзіраловіч меў такі характар, што што-небудзь незвычайнае ў жыцці не ўражала адразу душы яго болем ці радасцю.

У маленстве ён бачыў вялікі пажар перад самымі пакровамі ў вялікім сяле недалёчка ад Крупак. Шалёны агонь, як мятлою, змёў, злізаў і двары й хаты, гумны й сяніцы. Пагарэлі дзеці й бабы, згарэў увесь скот і сабраны за цэлае лета хлеб. Заможныя гаспадары парабіліся старцамі. Людзі з гора ірвалі на сабе валасы, ламалі рукі, горка плакалі, вылі і стагналі. І нават у старога пана Абдзіраловіча кранулася сэрца, і ён, прыляцеўшы на злую прыгоду з сваймі батракамі, кідаўся ў агонь і ратаваў падурнеўшых ад страху людзей. Ігналік тым часам хадзіў толькі асцярожна сярод абгарэлага бярвення і мужыцкай худобы-смяцця, хадзіў як староння асоба і не мог адчуць глыбкасці людскога гора.

Таксама, калі быў на фронце, бачыў з пачатку вайны шмат трупаў ды яшчэ ў адным груду. Іншыя таварышы яго ад гэтага бачання трацілі спакой, сон і апетыт, а ён даўгі час і ў гэтым разе быў толькі пабочным глядзеннікам і ціхім думаннікам.

Меў такі характар, што нічога не адчуваў глыбака адразу. Затое ж, калі міналіся дні, тыдні й месяцы і калі ў іншых людзей слёзы высыхалі, ён патроху ды болей а бо-

лей пераймаўся тым, што некалі фатаграфічна адбілася ў яго памяці, глыбей а глыбей адчуваў тое, што другіх збівала з ног адразу, а потым пераходзіла ў іх і забывалася імі.

Апасля таго пажару прабегла болей дзесяці гадоў, як давялося быць яму ў Магілёве ў справе паступлення ў войска. Любіў ён гэтае ціхамірнае тыпова беларускае места. Любіў яго ціхія завулкі сярод сонных садоў і маленькіх домікаў аб адзінаццатай гадзіне ціхога вечара ўлетку. Любіў магілёўскага чыноўніка ў жаўтавата-белым з непрыкметнымі плямкамі на грудзях кіцеля; ведаў, што ў таго ёсць ахвота загаварыць з прыезджым, добра апранутым чалавекам, і для таго ахвотна *зюкаў* з ім аб жыцці дробнай магілёўскай шляхты ў знаёмых абодвум ваколіцах і засценках (адкуль новы прыяцель чыноўнік і сам родам); і разам з ім ганіў і хваліў магілёўскіх жыдоў. Любіў пасядзець у магілёўскай піўной з напята, па-летняму, расчыненымі дзвярмі пад зялёнаю вывескаю «Беларуска-амерыканскі бар». У піўной шэравокая, круглавідая, з белаю шыяю і беленькімі мяккімі ручкамі мяшчанка ў шырокім, з рабенькага паркалю капоце частуе гасцей не дужа цёплым півам і ласкавай размоваю, жаліцца на духату і тамуючы махае хвустачкаю перад ружова-потным сытным тварам; і пытаецца, хлопец вы ай не, а калі не, дык чаму не носіце на правай ручцы заручальнага пярсцёнка? Любіў часам падзівіцца на клум жыдоўскай вуліцы, дзе вас палічаць за важнага купца і па заслузе ацэняць вашу адукацыю, уборы і веданне еўрапейскай палітыкі, а ў аптэцы, на рагу, за мятныя ляпёшкі пагамоняць з вамі прыкладам гэтак: «Вы хочаце пайці ў гарадской са-а-ад? Пажалуста, лучшэ за ўсіво проста па нашай уліцы да канца і направа...» І любіў сядзець у садзе на лавачцы, сярод кустоў акацыі, высака на кручы, і адтуль любавацца на Няпро, лупалаўскія хаткі і садочкі і залацеючыя далі на заходзе сонца. Цямнее, халадзее. Загаманілі па дарожках гулянніκі, завухала аркестровая музыка. За плотам на адхоне дарогі, каля тумбаў, збіраліся хлапцы-галузы, крычалі па-жыдоўску і па-беларуску, і сярод іхнай кашы нейкі мужык спакойна стаяў, слухаў музыку і ўвесь гам і маўкліва дзіваваўся на ўсё і на гуляючых паноў — адзінокі тут у сваёй белай кароткай світцы з даматканым паясом і ў белай маргелцы. Ну і што ж за дзіва? Невялікая ў тыя часы пракуда: мястовая публіка гуляла ў садзе, а мужык стаяў за плотам і дзіваваўся на «паноў». Але нейкае засмучэнне

агарнула душу Абдзіраловіча, быццам сорамна зрабілася яму, слёзы навярнуліся на вачах, і ён глыбака адчуў усё вялікае гора тых даўніх, мінулых, няшчасных пагарэлых і разам — усё вялікае спрадвечнае гора мужыцкай Беларусі. Так бывае з іншымі людзьмі, што не могуць яны памятаваць абы-якога матыву, абы-якога голасу ад першага разу. Затое ж, калі мінуцца дні, тыдні й месяцы або й цэлыя годы, неўспадзеўкі, нечакана, з найменшай прыгоды, маючай нейкае адношанне да мінулай пары, у вушах раптам ясна, выразна і з дэталічнасцю падобна загучыць той матыў ці запяе той голас і збудзіць у душы абраз даўна пражытога часу і выгукне асабліва тонкія пачуванні.

Гэтакі ўжо меў ён характар, што трупы, бачаныя на вайне, безуважна пачыналі парушаць часам яго спакой толькі тады, калі адышлі яны болей-меней у мінуўшчыну, а фатаграфічны адбітак іх паспеў болей-меней урэзацца і намуляць след у мозаку.

І во цяпер, калі з той пары, як старая памёрла і як пачаўся бальшавіцкі лад жыцця, ужо мінула колькі месяцаў, і новае троху-патроху траціла сваю новасць, во цяпер толькі Абдзіраловіч быццам абдумаўся і пачаў прымаць няновую навіну блізка да свайго сэрца...

Старую хаваў ён з Васільком, калі цела ўжо смярдзела, бо нябожчыца пралежала на стале колькі дзён, пакуль вуліцы сцішыліс апосле калатніны і можна было завезці яе на могільнік — скончыць нікому не патрэбную даўготу прыкрых і тупых мястовых хаўтур. Ні Васіль, ні ён за ўсе гэтыя дні і нават у дзень пахавання маткі не плакалі па ёй і ў душах не шкадавалі, што памёрла, толькі як бы саромеліс, што яны так думаюць і чуюцца, праціўліс з'ясненню той думкі і таго чуцця і выглядам чэсна маўчалі. Спачатку ім замінаў заняты стол, а после — нічога; толькі ўвечары, як пахавалі, яны без поўнай шчырасці пагаманілі троху аб той, што ўжо не было ля іх і ні разу не будзе ля іх, а між іншым прыемна зліліся абодва думкамі на ўспаміне, як яна заўсёды ірвалася з мураванага падзямелля к жыццю пад саламянай стрэшкай сярод вольных палёў і лясоў роднай старонкі.

— Надарма ірвалася,— сказаў Васіль, барабанячы ў парозе бляшанаю самаварнаю трубою і не зірнуўшы к Абдзіраловічу.

— Ото ж, надарма,— дадаў ад столу той, лістаючы «Капітал», і падумаў, што будуць гніць яе старыя косці сярод мураваных падзямелляў чужое Масквы.

Пайшлі дні за днямі. Васіль хадзіў на работу, бегаў на сходы, працаваў у камітэце, і Абдзіраловіч рэдка захадзіў да яго, нудзіўся ад дзяньгубства і разважаў, што рабіць? Так было, пакуль не прыкульгаў з бальніцы Карпавіч. Рана яго была зусім няцяжкая і лёгка загаілась, але кулька зачапіла нешта такое, што Карпавіч так і застаўся кульгавым. Ён надта бедаваў, што *схаўтурылі бабу* без яго, але незабавам уцешыўся з важнай для яго прычыны: цэнтральны камітэт партыі запрапанаваў яму паехаць у N., у сваю старану, і памагчы там таварышам наснудзіць бальшавіцкі лад жыцця. Першы раз давалі такую веру Гаршку, і дзядок так дужа здаволіўся, што доўга ніяк не ўмеў схаваць свае гордае радасці. Падбіў ехаць Васіля і не быў працівен, што хлапец намовіў ехаць з імі ў N. прапаршчыка.

За прыгожыя відалі ўпадабаў Абдзіраловіч новае места, і гулянне па мястовых ваколіцах было салодкім для яго супакоем ад бальшавіцкай і сабатажнай бесталкоўшчыны на цывільнай службе, дзе пачаў працаваць, калі N-я вайсковая камісія звольніла яго па беламу білету.

Меў даволі часу. Жыў адзінотна ў невялікай і ціхай жыдоўскай сям'і. Упадабаў гуляць і любавацца на прыгожыя відалі наўкол N. *і разважаць аб жыцці.*

Перабіраў у памяці розныя часіны жыцця свайго, асабліва дзяцiных гадоў, як знаходзіўся ў Крупках, і пэўніўся цяпер, што ніколі не меў ён такога сынняга чуцця да старога пана Абдзіраловіча і да памяці забітай сялянамі пані, якое зазвычай бывае ў дзяцей да сваіх бацькоў. Яму здавалася, што, прынамсі, да нябожчыцы маткі ён заўсёды болей, чымся да іх, меў прыязнасці і як бы кроўнай блізкасці, хоць і не ведаў, што яна не толькі любая для яго *нянька Маланка,* а яго родная матка. І цяпер разважаў так: «Ну, ведаю аб матчынай тайне, а што ж змянілася ў думках маіх ці ў учуццях маіх? Нічога...»

Але бесстаронні чалавек, паглядзеўшы на яго збоку і абмеркаваўшы кожды рух яго нутранога жыцця, сказаў бы, што калі прызнанне канаючай маткі нічога не адмяніла ў яго адносінах (хоць бы ў думках) да блізкіх так ці йначай яму людзей (маткі, старога Абдзіраловіча, забітай пані, Васіля), дык неўпрыцям для яго самога гэтае прызнанне ўжо адмяніла яго адносіны ці, лепей сказаць,— пагляды яго на адношанне да сацыяльнай рэвалюцыі і на ўчасце ў наладжаванні новага жыцця. Раней быў ён быццам звонку ад народа, ад сялянскай і работніцкай грама-

ды, пазіраў на рэвалюцыйную завіруху так, як некалі на вялікі пажар у сяле,— гэта значыць — так, як можа пазіраць толькі староння асоба. Калі раней бачыў, як на кождым вакзале, на кождай вярсце і чым бліжэй да фронту, дык тым балей катастрафічна гінула жыццё вялікай імперыі, створанае крывавымі мазалямі і потам гэнай грамады; калі бачыў, як разам з тым гінула наўкола астатняя сумленнасць і гінула астатняе спадзяванне, што ком яшчэ зачэпіцца на нейкім сучочку і не разаб'ецца ў дробныя брызачкі пад гарою; калі разважаў раней аб усім чыста, што дзеелася каля яго, дык ізноў-ткі ставіў сябе збоку, воддаль ад народнага няшчасця, па-за праклятаю чыртою, толькі часам плёскаў ён рукамі, як нехта добры над чужой бядою. Цяпер жа адмена яго была ў тым, што, пачуўшы прызнанне маткі, ён быццам пачуў і сябе тою грамадою, ад якой стаяў раней збоку. Калі раней на ўчынкі розных непачэсных ахвотнікаў кіраваць няшчаснаю людскою чарадою глядзеў як на ўчынкі адурэлых, каторыя пакуль што сваволяць бескаранна, дык цяпер пільнаваў і асаблівай балючасцю кождую збоку іх няпраўду, хоць і заставаўся яшчэ ў угоду свайму характару толькі пабочным глядзеннікам і ціхім думаннікам. Разам з тым усё болей не любіў тых афіцэраў, што ўсё выязджалі й выязджалі па-за чырту бальшавіцкага панавання, і ўсё болей набіраўся прыкрасці да сабатажнікаў у гэнай чырце. Разам з тым, аднак, усё болей цешыўся, што сам зволены з войска па беламу білету[1] . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## XV

Вечар. Сонейка схавалася, і толькі на заходзе, над прыціхшым гайком, чырванеецца паласа небасхілу.

І сціхаміранае поле, і супакоеныя хаты, і шапатун-сад, і бяроза ля пуні — усё зрыхтавалася, каб спаць.

І рэдка-рэдка варушыцца на грушцы той ці той галузалісцік, хоча пабавіцца з невялічкім ветрыкам, але, пакінуты ім, і ён рупіцца памаліцца на ноч і змоўкнуць.

---

[1] Кавалак рукапісу «Дзвюх душ», пачынаючы ад гэтага радка, узялі й не аддалі назад прадстаўнікі акупацыйнай улады, што рабілі рэвізію ў ліпені 1919 г. у рэдакцыі газеты «Беларуская думка», у якой повесць друкавалася. *(Рэд.)*

Немаведама дзе дзяваўся той ветрык, бо млоснаю нямотаю падыхала летняе неба, цёмнае і душнае.

Скончыўся святочны дзень. Заціхла й высялкоўская вуліца. Груд мужчын і баб, што сядзелі й гаманілі на бярвенні й шулах, звезеных летась увосень з панскага лесу, патроху рассыпаўся ўва ўсе бакі. І ўсё было пад уладай і панаваннем жніўнае ночы, што распаўсюдзіла свае хмельныя, цяжкія чары і залезла быццам нязхоця ў астатнія куточкі.

Заснула зямля...

А Міколе Канцавому не спалася. Ён выйшаў з хаты, палашчыў Жука, прайшоў скрозь сад і засягаў у млеючае ад нямога любоўнага юру поле, па мяжы, сярод ужо высокіх і пахнючых канапель. Далёка за лесам, на небе, пыхалі і тухлі зараніцы.

Позні вечар... Прыціхла ў цямноце жыта і пыльны шлях. Позні вечар.

На выгане, за сялібаю, з канца хат, аднак, яшчэ даносіцца гоман. Порскаюць, тупочуць нагамі нявідныя коні.

Начлежнікі выязджаюць.

Скрыпнулі вароты, ляснуў завал, а там гаўкнуў сабака, ля калодзежа скрыгнула вага, і адтуль, і патроху, адзін за адным начлежнікі з'ехаліся і пацягнуліся ў цемні па дарозе ў поле.

— Гэй, гэй! Фю-фсі-сіў! Кось, кось!..

Адзаднія мальцы, раскапусціўшысь на конях, у знізах, таўкаюць іх пад бокі нагамі, а тыя — ані! — патроху дыбаюць, паціху перастаўляюць ногі.

І мальцам спачатку не маўчыцца. Таўкач свішча, Блышка на грыбы кадрыль іграе, а Касцючок, з другога аддзялення вучань, што па дрэвах, як кот, лазіць, той пяе песню:

Мая хвустка на пагодзе дуецца,
А мой мілы на вайне ваюецца...

Але чары гэтай душнай ночы сцішылі іх. Маўчаць.

Даволі доўга было ціха а ціха ўсюды. Пачуўся, здаецца, гоман. Не, гэта крыкнула птушка. Не, й не птушка крыкнула — далёка нехта гамоніць ці пяе па дарозе.

Вучыцель пайшоў на гукі, а яны дужэлі й чуліся бліжэй.

Спелае жыта абступіла N-скую дарогу.

Сярод жыта, за ўзгоркам, гаманілі два галасы. Мікола разабраў, што йдуць Іра й Сухавей (той гарэцкі нязграбны вучань). Пэўне, да яго. Як добра. Як ён рад. Толькі з

якімі-то навінамі аб святой справе адраджэння бацькаўшчыны? Трэба паслухаць, аб чым яны гутараць.

— Мне больш падабаецца Якуб Колас,— кажа з смешнай паважнасцю Сухавей,— бо мне ў яго вершах чуецца тое, што я чую цяпер, тут, пад беларускім небам, сярод беларускага жыта, той шчыра беларускі дух, які ёсць адзнакай іменна беларускай паэзіі, а не якой іншай...

— А мне — Янка Купала, бо ў яго можна знайсці і гэты дух і, апрача таго, лепшую, чымсі ў Коласа, тэхніку верша,— адказуець яму любым голасам Іра.

— А мне — абодва разам,— радасна выступае да іх з боку дарогі, з цямноты, Мікола і вітаецца. І думае: толькі й гутаркі аб беларушчыне, усюдых, заўсёды.

Яны трошку спужаліся ад неспадзевак, затое з асаблівай радасцю здароўкаюцца з ім.

— Да вас, да вас, Мікола Навумавіч , даруйце, што так спозніліcь у дарозе,— сваім мяккім і крыху дрыжачым, густым нутраным голасам кажа Іра,— да вас і ў важнай справе...

«Што за важныя справы?» — нецярпліва думаецца вучыцелю, але цярпіць і не пытаецца, пакуль не прыйдуць дахаты.

— Справы вельмі важныя, але гаварыць аб іх не выпадае на полі,— дзялова заўважыў Сухавей.

— Ну, разумеецца! — жартаўліва крычыць Іра.— Не ў полі гаварыць аб справах, калі наўкол такая паэзія! О, ноч, дзіўная, чароўная ноч! — разводзіць яна рукамі ў цямноце, пахнучай араматам спелага жыта.— Але, паважаныя сябры! мае бедныя ножачкі прызна́юць усю гэту паэзію, калі мы хоць нейкую часіначку, хоць трошачку пасядзім сярод арамату душнай ночы і спелага жыта... О, пасядзім!

— А ведаеце, тут убок, пад грушкай, добрая лугавінка,— кажа Мікола і вядзе за сабою хлапца й дзяўчыну.

Усе садзяцца пад соннай грушкай і маўчаць і слаба бачаць адзін аднаго. Іра пачынае дэкламаваць (у яе дзіўная, добрая памяць):

Добрай ночы, зара-зараніца!
Ужо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае.
Цішыня агартае мне душу.
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варуша-калыша,
Міла бомы смяюцца ў цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-зараніца!

Ад незвычайнай радаснай прыемнасці быццам саромяцца вучыцель і Сухавей. Хочуць нешта сказаць, каб не маўчаць, і не маюць нічога. Маўчаць яны, маўчыць дзяўчына, маўчыць ноч.

— А ўгадайце, чыё гэта? — пытаецца Іра, каб абудзіць тую цішу.

— *Нябожчыка* Максіма Багдановіча! — у адзін голас адказуюць яны, і ўсім траім робіцца смутна. Маўчаць. Баліць, ах, баліць гэтая свежая рана. І ўзноў дэкламуе Іра... «На смерць Максіма Багдановіча» — верш Ясакара»,— быццам абвяшчае яна гэтай ночы, гэтаму жыту, грушцы і ўсяму роднаму полю. І, дэкламуючы, усё болей натхняецца і натхняе сваім дрыжачым, поўным пачуцця голасам усё жывое й нежывое наўкол сябе:

Вясновая ліра, чароўная ліра,
На раніцы грала аб сонцы;
І струны спявалі аб зорачнай шыры,
І струны спявалі бясконца;
І вабілі згукі зямныя абшары,
І песні ліліся ў хвалі,
І рэха будзіла таёмныя мары,
І плакалі людзі ад жалю...

Мікола пачуў, як знецяйку капнулі з вачэй слёзы, і мяніў сябе ў думках неўрастэнікам, і бязвініў, што гэта добра, што плача па без пары згасшаму песняру, і рад быў, што яны ў цямноце не бачаць яго слёз. А дзяўчына дэкламавала далей:

Бо нельга не плакаць, як блізкі з чужыны
А бедных ратаях гавора;
Бо нельга не плакаць аб роднай краіне,
Дзе здзекі, пакута і гора.
Паэта душа супакою не знала,
Бо думкі да высі імчаліся;
Імчаліся да пушчы, да рэчнага вала.
Іграў ён, а струны ўсё рваліся...
Ўсё рваліся, бо спеваў магутныя клікі
Замоцны былі, завялікі...
Са струнамі ліры і струны душы
Парваліся. . . . . . . . . . . . .
. . . . . Далёка ад роднай мяжы
Пайшоў наш паэт той адвечнай дарогай,
Што йдзецъ аж да самага бога.
Бо полымя сэрца паліла — не грэла,
У тым полымі сэрца згарэла...

І, не скончыўшы верша, звычайна жыццярадасная дзяўчына ўся апусцілася да іх, засмучоных, маўклівых. Маўчаць, подаўга маўчаць.

— Адкуль вы, Іраіда Аўгенаўна, дасталі гэты верш? — пытаецца вучыцель.

— Няхай кажа сябра Сухавей, бо я змарылася,— адказуець яна,— я хачу маўчаць і слухаць.

— Сказаць вам, дзядзька, адкуль гэты верш, значыцца, распачаць гутарку аб усіх справах,— пачаў хлапец.— Але я ўважаю, што нас ніхто тут не падслухае, дык казаць можна смела. Дык во ж, бачыце, адзін наш вучань прыйшоў з Менска, з-за дэмаркацыйнай лініі і прынёс крыху літаратуры.

І хлопец каротка пераказаў усе навіны.

— А глаўнае, дык во што,— дадаў ён у канцы,— на вашае імя вучань наш прынёс пісьмо з Вільні ад нейкага надта багатага пана для перадачы яго сыну, нейкаму быўшаму прапаршчыку Абдзіраловічу. Пісьмо пры мне, у кішэні, аддам, як прыйдзем да вас, бо тут усё роўна цёмна. Калі аб пісьме вучань той сказаў у Горках, на агульным пасяджэнні, робячы даклад аб сучасным беларускім жыцці за дэмаркацыйнай лініяй, там была Іраіда Аўгенаўна. Аб чым піша стары Абдзіраловіч сыну, нам усім вядома. Ён чуець блізкую смерць і хочаць памірыцца з сынам, а разам з тым адказаць яму ўсё сваё багацце. Даведаўшысь аб усім гэтым, Іраіда Аўгенаўна зробіла заяву, што яна калісьці раней была блізка знаёма з Абдзіраловічамі і што ёй не ймецца веры, каб той прапаршчык Абдзіраловіч адгукнуўся на запрашанне бацькі... Грошы, а гэта грошы якніяк беларускія, дабытыя беларускім мазалём і на беларускай зямлі, могуць пагінуць, калі не ўмовіць маладога Абдзіраловіча ўзяць іх хоць бы цаною прымірэння з нялюбым, ненавідным бацькам. Трэба, каб ён узяў іх!.. Калі не для сябе, то на справу адраджэння бацькаўшчыны... Разумееце? Ува ўсякім разе грошы гэтыя ўсе ці толькі частка іх павінны цераз рукі прапаршчыка і вашы, дзядзька, трапіць на справу...

Вучань не мог выказаць свае думкі так, як бы хацеў. Ён змоўк, спадзяваўсь, што дзяўчына паможа яму расказаць усё вучыцелю, бо яна ж — болей за ўсіх у курсе гэтых спраў і сама падала тую думку. Але яна ўпорчыва маўчала. Маўчаў і Канцавы ад неспадзевак і нечаканых і радасных думак, абхапіўшых яго. Вучань мусіў гаварыць далей:

— Дык во ж, дзядзька, мы прыйшлі да вас ад усіх сяброў, каб яшчэ ляпей абмеркаваць гэтую важную справу, бо вы, мы спадзяваліся, больш за ўсіх нас будзеце цяміць,

3 Зак. 2541

што й як рабіць. Мы прасілі Іраіду Аўгенаўну, каб яна разам з вамі паехала да маладога Абдзіраловіча як свайго даўнага знаёмага, для перагавораў, але яна чамусьці надта цвёрда адмаўляецца. Згодзілась толькі адправіцца да вас.

— Для беларускай справы я на ўсё згодна, але прасіла і прашу не намаўляць мяне на перагаворы з Абдзіраловічам...— троху нервова сказала дзяўчына.— Я ўважаю, што мне ехаць зусім няма чаго... Справіцца й адзін Мікола Навумавіч. А калі ўжо тое, чаму з Міколам Навумавічам не паехаць яшчэ вам, сябра Сухавей?

Сухавей не любіў даўгіх гутарак там, дзе яму здавалась усё ясным і канешне патрэбным для справы. Але тут ён мусіў сабраць усю сваю цярплівасць і далікатнасць.

— Дык во ж бачыце, сяброўка,— афіцыяльным голасам, на смешна-паважнай ноце пачаў ён давадзіць ёй,— вам не толькі як старай знаёмай яго, ведаючай усе патрэбныя дэталічнасці абстаноўкі, але проста як дзяўчыне больш выпадае паехаць. Вы ляпей за мяне, ляпей за абы-каго з нас, хлапцоў, і, можа, нават ляпей за дзядзьку Канцавога здолееце з належнай далікатнасцю і асцярожнасцю намовіць Абдзіраловіча... Калі яго злосць на бацьку за тое, што той пан, і дрэнны пан, дагэтуль не ўціхла і не дазволіць яму ўзяць бацькінага панскага багацця, вы, з сваей жаночай далікатнасцю, якраз найляпей патрапіце намовіць яго, пэўне, зусім несвядомага беларуса ці рэнегата, узяць грошы для беларускай справы. Калі ж нічога падобнага ў яго настрою не будзе, і яму, магчыма, здасца дзікім нават нашае ўварванне ў яго асабістыя справы, і ён будзе рад, што дастанець бацькіна багацце, вы ізноў жа найляпей патрапіце ў сваю пару адступіць і толькі папрасіць у яго хоць што-небудзь на нашу, напрыклад, тэатральную секцыю за нашу помач яму ў зносінах з бацькам і наогул за нашу турбацыю.

— Я не магу паехаць і не паеду,— цвёрда адказала дзяўчына.

Канцавы толькі слухаў і нешта думаў.

Ноч цямнела і быццам траціла сваю душную мляўкасць. Зараніцы пыхалі рэдка, а часцей трапяталісь лісцікі на соннай грушцы. Трэба было йсці ў хату.

## XVI

Добры, слаўны прыяцель Абдзіраловіча, вучыцель Мікола Канцавы, у каторага ён гасцяваў, ехаўшы з Каўказа ў Маскву, яшчэ раней часам надта шкадаваў, што гэткі, здавалася яму, здольны і развіты чалавек, як Ігнась, прападае для святой справы адраджэння, гіне ў рэнегацтве.

Але сярод бясконцай і рупатнай штодзённасці Мікола забываўсь на яго, і толькі тады, як надта ўжо балючай была нястача свядомых работнікаў сярод інтэлігентных беларусаў, ён ізноў уздумаваў на прыяцеля і папікаў сябе самога, чаму ў сваю пару не навярнуў яго на беларускую свядомасць.

Разам і вінаваціў і бязвініў сябе за тое ўпушчэнства, бо ў думках у яго праляцеў той нейкі быццам сорам, які апанаваў яго калісьці, калі пачаў быў *агітаваць Ігнася.*

Мікола не меў даволі часу, каб разабрацца добра ў прычынах сораму, але ўважаў, што тут глаўную ролю згуляла яго вялікая прыязнасць да Ігнася, хварэўшага тады на рэфлексію і індывідуальныя перажыванні, і яго глыбокая пашана да Ігнасёвых думак і пераконанняў як чалавека, каторага Мікола змалку ставіў вышэй за сябе па інтэлекту і па агульнаму развіццю.

Яму здавалася ці як бы чулася, што некалі Ігнась *сам* разгледзіцца і навернецца і яшчэ павядзе за сабою такіх, як ён, Мікола. Яму здавалася, што наварачываць Ігнася — ненатуральны занятак. Дык жа і сорамна было б даводзіць Ігнасю тое, што можна даводзіць хіба цёмнаму, непісьменнаму чалавеку, каторы нават не ведае, што ён беларус. Апрача таго, Мікола з Ігнасём быў выхаванцам аднэй школы, у якой абодва былі звычайнымі «рускімі», аб беларускай свядомасці нічога й не чулі, дык і дзеля гэтага было неяк сорамна агітаваць Абдзіраловіча ці тое — быццам даросламу і здольнаму чалавеку выкладаць па-настаўніцку новую азбуку, заместа той фальшывай, якую дала ім маскоўская школа. Ігнась Абдзіраловіч і азбука, хоць бы й новая,— гэта ж дапраўды *сорам*, калі *такі* чалавек дасюль яшчэ патрабуе яе,— так разважаў Мікола аб любым сваім таварышу, аднак не ганіў яго, бо ведаў, што і тут ёсць свае важныя прычыны, толькі гэты пункт, праз недахват часу, быў найболей нез'яснёны для самога вучыцеля. Апрача таго, Міколе Канцавому здавалася, што адраджэнне ў астатні час, праз вайну і рэвалюцыю, зваявала сабе каласальны паспех, так што няма ўжо патрэбы да-

вадзіць шмат чаго такога, што вымагала даводжання яшчэ ўсяго якіх пяць гадоў таму назад... Яму здавалася, што ўсе рэнегаты-беларусы ведаюць аб адраджэнні і аб тым, што павінны адраджацца, і калі не адраджаюцца, дык з прычыны прыкрай людской нядбайнасці і папсаванасці сваей натуры. Разумеецца, Абдзіраловіч у вачах Міколы залічаўся да катэгорыі нядбайных, а не папсаваных рэнегатаў. Нават для нядбайнасці Абдзіраловіча Мікола прызнаваў важныя бязвінячыя прычыны, бо дужа любіў і шанаваў яго.

За астатні час Мікола Канцавы часта знаходзіўся ў ажыўлёным, падвышаным настроі і нават траціў сваю ранейшую нясмеласць, ціхасць і дагодлівасць перад усякім чалавекам. Беларуская праца неспадзявана шырылася вялікім валам у абкружаючым сялянскім моры і быццам шырыла дух ці то нутро вучыцеля... Рух набіраў усё болей сацыяльнага выгляду. Гармонія ранейшых, пераважна ці нават часам выключна нацыянальных асобнасцяў руху з навейшымі, цяперашняга часу, сацыяльнымі яго асобнасцямі поўніла незвычайнай радасцю сэрца Міколы, бо ён дасканальна пераверыўся, што толькі на шляху нацыянальна-сацыяльным беларускае адраджэнне будзе пэўным і абхопіць шыбка й памысна вялізазныя масы беларускага сялянства. І не толькі сялянства, адылі й беларускага мяшчанства, думаў ён, дзе яно яшчэ ёсць і мае ў сваей ідэалогіі і сваім жыцці шмат а шмат беларускасці. Такое мяшчанства Мікола бачыў у некаторых губернскіх і павятовых местах усходняй Беларусі, дзе траплялася бываць яму, і ён ніколі не забываўся ў сваім глухім дзеравенскім куце, што якраз гэтае мяшчанства яшчэ можа згуляць ролю першых байцоў у змаганні з нясходаным, праклятым русіфікацыйным павевам і ўплывам сучасных беларускіх гарадоў, *беларускіх* у значнай меры толькі па назову. Сацыяльны бок адраджэння захопіць найбольш годныя і надта карысныя (як даволі культурныя) часткі непамершага беларускага мяшчанства! Гарэцкія вучні-беларусы, якія ўнасілі ў працу вядомую сістэму і арганізацыю і з якімі цяпер Мікола і другія вучыцялі мелі добра наспуджаны звязак і беспярастанку зносіны, яны надзеілі яго ў гэтай думцы сваімі паведамленнямі, гутаркамі і дакладамі аб іхнай агітацыйна-асветнай дзеяльнасці на прасторы ўсяе бацькаўшчыны і, глаўным чынам, горацкіх ваколіц і наогул усходняе палавінкі Беларусі, дзе не замінала той дзеяльнасці, як на заходзе, разнавер'е з маскоўцамі і дзе сацыяль-

ны грунт быў шмат ляпейшы, болей бо падрыхтаваны. Надзеілі яго й тыя рэзультаты беларускай працы, якія падвышаліся ў сялянстве разам з падвышаннем рэакцыі ў ім проціў бальшавіцкага ладу жыцця. Як прызвычаена шчыраму і мяккаму чалавеку, Мікола сазнаваў, што радасць яго ад гэтай рэакцыі прынцыпіяльна не можа быць абязвінена і пахвалена, бо яна можа паставіць яго побач з ненавіднымі ворагамі народа і справядлівасці, што радавацца асабліва няма чаму, бо ідэя *нацыянальнага бальшавізму* (гэтае слова мімаволі прыдумалася і склалася ў яго ў галаве), тая ідэя ні каліва не патускнела ў мужыцкай свядомасці, і што толькі сучасная форма бальшавіцкай ідэі спрыклілась мужыкам дзеля розных прычын звонку, як блакада бальшавіцкай тэрыторыі, і прычын знутры, як камісарскае злачынства і няўмельства. Мікола шчыра зазначаў для спакою свае душы, што, быць можа, і зусім не было б у яго той радасці, каб гнятучая большасць вядомых яму бальшавікоў не была несвядома для самае сябе маскалячай сілай ці проста варожай для беларускага адраджэння сілай. Міколе, як і ўсім адраджэнцам, было дужа цяжка знасіць тое, што на тэрыторыі Беларусі ў бальшавізме, апрача чужынцаў, ачынуліся і ўзяліся кіраваць беларускім сялянствам якраз найгоршыя на іх пагляд беларускія людзі, бо абмаскаленыя беларусы, закарэлыя рэнегаты і партыйна тупыя праціўнікі «ўсякага там яшчэ адраджэння», пагарджаўшыя, з іх убогай духоўна фанатычнасцю, беларускай моваю і ўсім нацыянальна-беларускім. Дык Мікола ведаў прынцыпіяльную цану свае радасці з прычыны сялянскай няласкі да бальшавікоў, аднак радаваўся, бо бачыў у тым настроі сялян карысць для руху. «Калі гэткі самы настрой пануе сярод сялян і за дэмаркацыйнай лініяй,— думаў вучыцель,— дык там правадыры беларускага руху напэўна здолеюць к часу адходу з Беларусі немцаў стварыць беларускае войска і аружнай сілай абараніць бацькаўшчыну! А там... а там...» — думкі яго ляцелі шпарчэй і шпарчэй і губілі парадак і звязак з далёкай ад іх супраўднасцю.

Ажыўлёны, падвышаны настрой ці быццам нейкае нервовае абурэнне, ад якога лёгка хмялілась галава і гарэлі шчокі, было ў Міколы цяпер надта часта. Яно было, аднак, не толькі ад радасцяў, што беларускасць добра пашыраецца, але таксама з тае прычыны, што ён уцягнуўся ў небяспечнае змаганне, якое пагражала страшнай «чрезвычайкай». Калі прад вачмі плылі абразкі арышту, дапытаў

у той «чразвычайцы» ці трыбунале,— ён мімаволі шукаў думкамі, хто абстоіў ба яго перад бальшавіцкімі дыктатарамі, ён прыемна азяляўся, хмяліўся, расчуляўся. Тут думкі яго ўзбіваліся на Абдзіраловіча. А той пісаў Міколе неяк раз, што жыве ў N., што некалі абараніў ад смерці цяперашняга бальшавіцкага N-скага завадэвуша кульгавага Гаршка, значыцца, блізак да бальшавіцкіх вярхоў і можа вызваліць нават з «чразвычайкі». І ён вызваляе адтуль свайго Міколу... Так летуцеў вучыцель і раптам чырванеў, схапіўшыся, што ў гарачы, грозны час крывавага змагання займаецца такім дзяцінствам. А ўздумаўшы на друга, ізноў шкадаваў, што ў сваю пару не зрабіў з Абдзіраловіча рупнага працаўніка на ніве беларускага адраджэння.

## XVII

На мысль адну аб тым ад болі сэрца млее...
Нашто ж, нашто было цябе мне палюбіць?
Тваей быць не магу, на то няма надзеі,—
А без цябе... О, не, я не магу так жыць.

К. Буйло

Іра Сакавічанка, дачка ляснічага, скончыўшы гімназію ў N., паступіла на пасаду земскай настаўніцы ў глухой правінцыі недалёчка ад Крупак, двара Абдзіраловічаў. Яна была на раздарожжы: хацелася ехаць на вышэйшыя курсы, хацелася памагаць бацькам вучыць малодшых дзяцей, значыцца, служыць, зарабляць грошы. Хацелася — от, так, неабмеркавана, няясна чаму — забіцца ў глухі кут, у бедную школку, вучыць дзяцей, чытаць кніжкі і думаць аб нейкіх неспадзяванках у жыцці. З беларускім рухам яна пазнаёмілась яшчэ на школьнай лаўцы: гімназісты давалі чытаць беларускія кніжкі. Перад службай Ірачка думала так: для адраджэння патрэбны людзі з вышэйшай асветаю, дык яна папрацуе год-два ў школцы, заробіць грошы, а потым паедзе вучыцца; дый ці мала чаго перадумала тады дзяўчына... А выйшла зусім не тое. Ля Крупак яна пранастаўнічала чатыры гады — да той памятнай для яе вясны, калі ўлюбілася ў студэнта Абдзіраловіча. После яна перавялася ў Гарэцкі павет, каб быць бліжэй да Горак: ёй шмат хто казаў, што ў гарэцкіх сельскагаспадарскіх школьных інстытуцыях ёсць надта многа свядомых беларусаў паміж вучняў. Яна хацела вырваць з успамінаў тую вясну, назаўсёды зрачыся ўсякіх любошчаў і ўсей душою

аддацца «толькі адной святой працы — працы на ніве беларускага адраджэння». Пераехаўшы ў новую школку, яна незабавам завязала зносіны з Горкамі. Там на першым беларускім спектаклі яна надта расчулілась ад прыемнасці і разам расчаравалася. Пабачыла, з якімі высілкамі працуе жменька ідэёвай маладзёжы, як мала зроблена і як шмат працы ёсць усюдых, усюдых. І яна завінулась ля гэтай працы, колькі дазвалялі сілы і час. Сеяла беларускую свядомасць сярод сялян і сялянскай інтэлігенцыі. Вучыла не толькі дзяцей, але й дарослых чытаць, пісаць, дэкламаваць і пяяць па-беларуску. А вучыла без беларускіх падручнікаў, бо іх няможна было дастаць з-за дэмаркацыйнай лініі.

Гэтая праца захапляла яе ўсю. Даўгі час Іра быццам не мела ані той вясны, ані тога кахання, ані тых успамінаў. Быццам забылася на Абдзіраловіча.

Але цяпер, дачуўшыся, што ён жыве ў N., што бацька хоча памірыцца з ім, што можа быць шкода для справы ад яго несвядомасці,— Іра ўзноў згубіла спакой, толькі не мела смеласці прызнацца сабе ў тым. Ёй здавалася, што зусім і не любіла Абдзіраловіча, што ў яе было нешта, што няможна было й любоўю назваць... Але чаму ж паміма яе волі думаецца аб ім, плывуць ужо ўспаміны аб той вясне і хочацца бясконца ляжаць пад яблынкай у гамаку, зробленым з старога гаспадарскага пехцяра, паціху гутацца з заплюшчанымі вачмі і апалымі ад невядомай, беспрычыннай зморанасці рукамі?

І чаму першы раз во паўзуць у галаў такія нядобрыя думкі? Думкі аб тым, што працуе, працуе бясконца, а дзе ж радасць асабістага жыцця? Было толькі раз, толькі з ім. І тады ж рабіла, працавала, а чаму ж тады вясна была ўсцяж святам, сонечным, радасным святам? А цяпер? Ці ж так ужо й не будзе асабістага шчасця? А годы лятуць, лятуць... Яна ўжо не падобна да сябе на картачках, здыманых у N-скай фатаграфіі ў тую вясну. Ужо няма таго вясёлага, радаснага смеху ў дзявоцкіх вачах, няма той маладзенькай дзявочай свежасці. Сэрца сціскаецца ад засмучэння, і самой сабе сорамна за думкі гэтыя! То ж здрада святой справе. Ці можна шкадаваць сіл, прыгажосці, маладосці для адраджэння бацькаўшчыны?

Бегла ў хату, ставіла на расчыненае вакно грамафон і завадзіла нешта першае, што траплялась пад руку.

І сорам чула, што ў будзённы дзень, калі ўсе людзюхны працуюць у поце чала на жніве і сенакосе, яна парушае

сельскую цішу нібы святататным грамафонным крыклівым пяяннем:

Гарні, гарні бульбу з печы,
У торбачку дый на плечы...

І нервовым, смешным ёй самой рухам рукі адкідала йголку і слухала звінячыя ў вушах раптоўныя моўчкі пустога пакоя. Не хацела абедаць. Бегла пад яблынку і клалася на гамак, тварам ніц на падушку. Быццам мімаволі патрошку гуталася і прыціхала. Паўднёвае жніўнае сонейка пазлачала лісцё ў садзе і прабіралася скрозь яго нават да калыханай дзяўчыны. Дзесьці гудзела пчала, і далёка на шляху тарарахалі пустыя калёсы. Ківаўся лісцічак на яблынавым сучку, ківаўся ражок хвусцінкі на яе прыніклай да падушкі галоўцы. Спіць яна. Спіць, не спіць, усё чуе, ведае, а быццам спіць, не можа заснуць...

Думае думы Іранька.

То ж не ў гамаку яна гутаецца, а ў люльцы сваёй дзяцінай, як была маленькая. Падпаўзаюць мухі, прыкра неадчэпныя, аж пад посцілку да дзіцёнка, робяць яму яшчэ душней, і тады бабулька-нянька, чуючы варушэнне, барджэй налягае на пачопкі і пяець-пяе нашу дзіўную музыку дзяціных гадоў:

А йдзі, коце, у лясок,
Прынясі ты Ірцы паясок...
А йдзі, коце, на рынак,
Прынясі дзяўчынцы разынак[1]...
А йдзі, коце, на таржок,
Прынясі паненцы піражок...

Цішэй а цішэй скрыпае люлечка. Ды сонейка прабіваецца скрозь посцілку і варушыць паненачку спелянатую. Пяе нянька тое, што цяпер Іраньцы ўспамінаецца, не то нуднае, не то соннае.

Сядзела котачка на кухні,
У яе вочачкі папухлі...
— Чаго ж ты, котачка, плачаш:
Ці піцькі, ці есцькі хочаш?
— Ні піцькі, ні есцькі хачу,—
Па сваёй жалосці плачу...
Сам кухар пячонку злізаў,
На мяне, котачку, сказаў;
Хочуць мне лапкі адбіці.
Чым жа я буду хадзіці?..

Пяе бабулька песню, якую пяяла сваім дзяцём і якую соладка сама слухала восемдзесят год назад таму.

[1] Ізюму.

Думае думы Іранька.

Чаму з бабамі сянні жаць не пайшла? От бы не нудзілася!

Уранні, з расіцаю, па халадочку, люба й лёгка жаць. А за дзень замлее спіначка. І сорам жа, каб яе постаць ды адзаду цягнулася. Хруп, хруп! Шуміць серп. Распаўзаюцца жучочкі, казюлечкі й божыя кароўкі. Кінулась сівая мышынка з-пад камлыжкі да свае норухны. Дарма не пайшла ты сянні з бабамі жаць, Іранька! Сніцца табе на сонейку няведама што, і млее тваё сэрданька.

Так ташнавала дзяўчына аж да вечара, то ляжала, то бегала, спакою сабе не знаходзіла. А калі ўсё паснула ў ціхім сяле і маркотны месяц паплыў па сінім небе, і нейкія адзінотныя трывожныя ваблокі абміналі яго і трывожным ветрыкам варушылі спячы сад, Іра выйшла з хаты і глядзела на чорна-крывавы мак на градах, дыхала паветрам ад красуючай табакі і слухала тую цішу. А пастаяўшы, хадзіла па садзе, варочалась у хату, хадзіла па сваім пакоі, ішла ў парожні клас, хадзіла там, гледзячы праз тускла-бліскучае шкло на ясны месяц, і ўзноў ішла ў свой пакой, дзе вакно было адчынена, а праз яго цягнуў свежы халадок.

Школа яе дзялілась вузкім калідорчыкам на дзве палавіны:у адной быў клас, а ў другой жыла настаўніца. Другая палавіна была шмат меншая за першую; гэта быў адзін невялікі пакой з адгароджаным тонкаю драўлянаю пераборкаю кутом, у якім настаўніца спала. Ля адной сцяны стаяў даўгі вялікі стол, увесь закладзены кніжкамі, нотамі, рознымі паперамі і грамафоннымі кружэлкамі. Паміж столам і вакном стаяла пляцёнае з ракітніку крэсла, з высокаю адкінутаю спінкаю, надта добрае для сядзення зморанаму ці летуценнаму чалавеку. Ля другой сцяны — шырокая мяккая канапа, а на ёй — гітара з чырвонаю стужкаю, а з двух канцоў канапы — крэслы ў беларускім стылі, з рэзьбаю, вялікія, цвёрдыя і простыя. На сценах — без шпалераў — вісела невялічкая карта Беларусі, а над ёю, абвіты беларускім пояском, вісеў маленькі партрэт у рамцы Янкі Купалы. На другой сцяне быў Тургенеў і колькі выразаных з ілюстраваных часопісаў і проста налепленых на паперу фатаграфій беларускіх літаратараў і дзеячоў. Два вакны былі ў сад. Адно — усё загароджанае хатнімі краскамі; другое ўдзень паказывала праз сябе клумбы з прыгожымі буйнымі краскамі, некалькі градак з гароднінаю і далей — невялікі садок, некалькі яблынак і

слівак, кусты шуры і парэчак. На градах было дужа многа цвітучага добрага маку з густа-чырвонымі вялікімі ляпёсткамі і ўжо некалькімі досыць буйнымі мачынкамі. Тут жа блутаўся вусаты, кручаны гарох, звісаў з высокіх ваткнутых сукаватых кійкоў сваімі кволымі кручастымі вусікамі, пачынаў цвіцець бела-фіялетавымі дробнымі красачкамі. На клумбах раслі табака, леўкоі, пахнючы гарошак і яшчэ колькі розных красак. І клумбы й грады разрасліся густа і багата, нават дзіка, не ведалі штодзённага пільнага дагляду і буялі самадумам.

І ўзноў маркотны месяц і ціхі сонны сад цягнулі дзяўчыну з яе цеснага пакойчыка туды, дзе ў цямноце буяў гарох і чарнеўся добры мак. А ці надоўга? Пастаяўшы безнадзейна сярод прыгожых, ды невясёлых моўчак ночы, сярод тае пакутнае начы, зараз бегла назад у цясноту свайго пакойчыка.

Ідучы па вузкай тропцы, што зарасла нізкай стаптанаю травіцай, перапечкаю і безыменнаю мураўкаю, Іра сашчыпнула чырвоны, выгнуты, з чорнай плямай пасярод, макавы ляпёстак і няўпрыцям ірвала яго ручкаю, падносячы да вуснаў. Прыйшла, накруціла грамафон, паставіла «Веснавую казку», а сама села ў пляцёнае крэсла, прыхінулась спінаю і заплюшчыла вочкі. З грамафоннай трубы ляцелі свежыя і звонкія, як вясна, гукі скрыпкі, а дзяўчына наперакор ім дэкламавала з Канстанцыі Буйло:

Я каханне маё пахаваю ў душы,
Спакой сфінкса на твар налажу,
І хоць сэрца ад болю сканае ў грудзях,
Я нічога табе не скажу...

Астанаўляла грамафон, ішла да вакна, садзілася і глядзела ў заліты бліскам месяца сад, аблёгшыся падбародкам на пастаўленыя ручкі.

## XVIII

Сухавея і Міколу Канцавога арыштавалі і адаслалі ў N-скую «чразвычайку»,— гэткія навінкі прывёз настаўніцы Хаім-перакупшчык цераз некалькі дзён. Дзяўчына надта ўразілася, але ўцяміла, што марудзіць тут няможна, і паспяшыла ў Горкі. Яна была пэўна, што пісьмо таксама папала ў «чразвычайку», і хаця не ведала, што з гэтага можа быць, але баялася, каб за яго не абвінавацілі арыштаваных у шпігоўстве. Гарэцкія хлопцы стараліся супакоіць яе, але і самі зусім страцілі пэўнасць настрою,

бо не ведалі, за што схапілі іх сябраў, і баяліся, каб іх без віны не расстрэлілі. Пасля нарады даручылі Іраідзе Аўгенаўне, як дзяўчыне і найменш падазраванай, ехаць у N., даведацца, у чым іх вінавацяць, і прасіць, каб іх аддалі на парукі школьнай рады і вучыцельскага хаўрусу.

Ніхто не падняў цяпер старога пытання, каб яна перагаварыла з Абдзіраловічам таксама аб пісьме і аб грашах.

Калі Іра раненька прыехала ў N., ужо й там чулася другая палавіна лета. Іра адвыкла ад места, але чула прыемнасць ад клуму, людначці й культуры. Пільна ўглядалася яна ў знаёмае, даўна бачанае, але ёй замінала думка, як то пашчасціць вызваліць арыштаваных?

Наняўшы номер у гатэлі, скоранька справіўшысь, яна з нейкім тамаваннем у сэрцы выйшла на вуліцу і шыбка пайшла ў «чразвычайку», каб за адзін дзень паспець зрабіць усё, што там трэба.

Дом, дзе змяшчалася страшная бальшавіцкая ўстанова, быў добра знаёмы дзяўчыне: да вайны ў ім была епархіяльная школа, Іра хадзіла туды на вечарынкі, на скокі. Толькі цяпер мала хто хадзіў міма таго дома, і то — сярод вуліцы, бо дом з каменнаю сценкаю і тратуарам быў высака абгароджан і абвіт калючым дротам. Калі настаўніца падышла, ля варот стаяла вялізазная фура, поўная, з салдацкімі булкамі белага хлеба, і салдаты кідалі хлеб з яе на зямлю, на падсцеленыя коўдры. Іра не пайшла туды, а на ганак, з бакоў якога стаялі два чырвонагвардзейцы з карабінамі. Яны запыталіся ў яе перапуск, а як паказала свае дакументы, дык старшы салдат сказаў, што гэтыя дакументы для іх «пляваць», а трэба перапустку ад мястовага каменданта. Падзякавала і пабегла шукаць каменданта места. Шмат каго пыталася, дзе ён жыве, ды ніхто не ведаў, каго яна шукае, і казалі, каб ішла ў «савет», і салдаты не ведалі. Адылі нейкі хлопчык-газетнік, у якога купіла газету, сказаў, што ўпраўленне каменданта за мастом, ля вакзала. Скора падышоў трамвай,— яна села і паехала. І там, ля каменданцкага дому, на вуліцы шмат было салдатаў і розных людзей. Упускалі туды толькі тых, хто быў савецкі служачы ці знаёмы салдатам, а іншых — не. Іра доўга не магла ўразумець, у чым справа, што яе, і яшчэ нейкіх сялян, і яшчэ нейкіх людзей з места не пускаюць, і ніхто нічога не ведаў, каго яна толькі ні пыталася. Прыдзверныя салдаты крычалі: «Паспееце, паспееце, чаго лезеце?», а «хвост» інтэрасантаў усё павялічываўся, і ўжо за спінаю ў Іры стала блізка дзесятка ча-

лавек. Усё тое не вешчавала ёй нічога добрага, але цвёрда хацела быць для справы незвычайна спакойнай і цярплівай. Аж выйшаў, як відаць, пісар і пачаў раздаваць чаканнікам белыя білецікі, ды не ўсім, бо іншыя панайшлі з бакоў і тыркалі яму прад вочы сінія білецікі, і тым нічога не даваў. Пакуль Іра разгледзела, што на яе белым білеціку стаіць ля пячаткі абы-як наскрабаная дата заўтрашняга дня, пісар крыкнуў: «Сінія — прыём... пачынаецца!» — і схаваўся. Сінія рынуліся ў дзверы, тузаючысь і не гледзячы на салдатаў з стрэльбамі, а белыя, быццам вінныя ў чым, недаўменна адышліся і аглядалісь. Іра станула ля абгрызенай канём ліпкі, каб абдумацца, што рабіць, і да яе падлез нейкі мястовы чалавечак, з нямытым тварам сярод канцоў пастаўленага каўняра, чорны, як жыд, але з добрай вымовай, і сказаў ёй зусім нячутна, што ён можаць памяняцца білетамі. Іра была рада, бо ўжо поўдзень мінуўся і мог прапасці адзін дзень зусім. І хацела памяняцца, ды пачула на сабе нечы пільны пагляд, зірнула туды і ўвідзела нейкага тоўстага, з зялёным хворым тварам чалавека ў шабадраным чыноўніцкім пальце, каторы паглядам гаманіў з ёю аб тым самым, што й чорны. Іра занепакоілась, каб з гэтай менкі не трапілась абы-якой прыкрасці,— няхай лепей прападзе цэлы дзень. Тады чорны пайшоў да сялян, а шабадраны чыноўнік зблізіўся да яе, заплюскаў губячымі сорам вачмі і сказаў, дастаючы з рукава сіні білецік:

— Не карыце згаладнялага й дайце што ласка ваша.

Іра памянялась на білецікі і дала чыноўніку тры царскіх рублі, а каб не відзець, як ён кланяецца і як па зялёным твары паўзе слязіна, шыбчэй пайшла міма людзей і салдатаў у канцылярыю. Сабраўшы ўсе дакументы ў жменю, яна стала ў невялікую чараду перад пісарскім столікам і з жахам убачыла канец другой чарады, што цягнулась у нейкі калідорчык да дзвярэй зачыненага пакоя з дошчачкай над імі: «Камендант». Ужо пайшла першая гадзіна папаўдні, і Іра надта каялась, што не зрабіла менкі білетаў троху раней. Яна паказала свае паперы пісару. Той не ўзяў іх і сказаў, каб прыхадзіла заўтра, бо сянні камендант усё роўна не паспее прыняць. Іра быццам нясмелым, адылі настойлівым голасам запытала: «А ці няможна дастаць перапуску без каменданта?» І потым цвярдзей дадала: «У мяне ўсе дакументы ў парадку, вот...» Яна ўжо адна толькі стаяла перад пісарам, і ён доўга чытаў і разглядаў яе паперы, а тады сказаў ёй:

— Дык чаго вы ад нас хочаце, таварыш? Мы перапустак у «чразвычайку» не выдаём. Выдаець савет. Калі вы хочаце купіць бацінкі, то напэўна не шукаеце іх у аптэцы... Я вас проста не разумею, чаго вы хочаце...

— Даруйце! Мяне да вас паслалі за перапускам з «чразвычайкі», не сама ж я выдумала...

— Таварыш, не спірайцеся!! Не маглі вас пасланць да нас, бо перапускі ў «чразвычайку» мы не выдаем ужо блізка месяца, разумееце вы ай не?

— Я разумею... Толькі скажыце, будзьце ласкавы, напэўна, хто ж цяпер выдае?

— Савет, разумеецца... Звярніцесь там да каменданта савецкага будынка — вуліца Карла Маркса, быўшая «Беларуская гасцініца», кожны дурань вам пакажа!

— Ага... дзякую!

Іра, спацелая, выбегла на вуліцу і рада была, што развязалась з гэтым пісарам і што на вуліцы ўсё спакойна, сядзяць пад плотам безуважна-цярплівыя сяляне, і там лузгаюць сланешнікавыя семячкі, седзячы на лавачцы, салдаты і з абгрызенай канём ліпкі валіцца зжаўцелы ліст на выбіты цагляны тратуар.

Савет быў недалёчка, і Іра спадзявалася яшчэ паспець да другой гадзіны дастаць перапустку для ўваходу ў «чразвычайку», хоць для заўтрашняга дня.

У савеце ёй лёгка далі ля дзвярэй перапуск, і яна шыбка пабегла нагару па лесвіцы да пакоя № 3, дзе была агульная канцылярыя і прымаў дзяжурны пісар. Аднак ля гэтага пакоя стаяў вялікі груд чаканнікаў, і Іра, змораная і раздражнёная, прыхінулася да сценкі. Яна згубіла надзею зрабіць сянні хоць што-небудзь і шкадавала дарма патрачанага часу. Разгарнула газету, каб за чытаннем супакоіцца і сабраць патрэбныя думкі, пакуль не выгукнуць яе номер. Вочы няўважна бегалі па газетных радках, а розныя думкі таўпесіліс і не слухалі адной, найлепшай: «Чаго ж я так хапаюся? Паспею, паспею — болей цярплівасці...»

— Дзень добры! — пачула яна ля сябе і шыбка ўскінула вочы.

— Ах!.. дзень добры... Я вас не пазнала,— звонку зусім спакойная, а ў душы прыкра згубіўшысь у парадку, глядзела настаўніца на Абдзіраловіча і скарэй падала руку яму, бо забылася. Ён пацісвуў злёгку і прыязна яе ручку, і дзяўчына пачула прыемнасць, даткнуўшысь да яго рукі. Ён быў у шынелі без пагон і ў шапцы без какар-

ды, з чарнейшай на аколышу плямкай ад яе. Значна памужнеў. Пастарэлі яго карыя вочы, і былі пад вачмі, збоку, зморшчынкі, якіх раней яна не бачыла. Вусы не галіў, а толькі падразаў. Каб не той самы мяккі, з прыемным тэмбрам голас, яна адразу не пазнала б яго ці ён здаўся б ёй чужэйшым. Неяк нёўпрыцям адсунуліся ад чарады чаканнікаў да вакна. Ён не пытаўся, па якой справе яна тут, але пацікавіўся, які намярок на яе білецiку? Пабачыў, што 315-ты, і сказаў, што яна дарма будзе чакаць сянні, бо прымуць толькі да 300-га номера,— так сказаў яму знаёмы пісец, якога ён выгукнуў з канцылярыі праз прыдзверніка. На яе твары адбілась такое нездаваленне, такі жаль, што ён падумаў, што яе прывяло сюды нейкае гора, жаданне знайсці ратунак. Хацеў спытацца і ўзноў змоўчыў.

Яны выйшлі з савета і пайшлі па вуліцы к бульвару.

— Калі вы, Іраіда Аўгенаўна, не маеце ніводнага знаёмага вінціка ў гэтай новай пішучай машыне, дык доўга бескарысна будзеце стаяць у розных чародах,— сказаў Абдзіраловіч.

— Не, нікога не маю, а можа, й маю каго, ды не ведаю, бо толькі сянні прыехала сюды. Мне патрэбен перапуск у «чразвычайку», каб навесці там спраўкі аб арыштаваных... аднаго з каторых вы добра знаеце.

— Хто ж гэта?!

— Вучыцель, свядомы беларус, Мікола Канцавы.

— Ён у «чразвычайцы»?!

— Ну, ага.

— Божа мой! Мікола, добры, слаўны Мікола ў N-скай «чразвычайцы». Гэта ж няшчасце! Ці якая абмылка? Трэба ж яго ратаваць! За што, у чым справа? Іраіда Аўгенаўна, скажыце?

— Або я сама ведаю? — пытаннем адказала яна.— Прыйшлі, ператрэслі ўсё чыста, забралі ўсю перапіску, некаторыя беларускія кніжкі, арыштавалі самога, а з ім аднаго вучня з Горак, таксама свядомага беларуса, Сухавея.

— А за што?

— Ніхто з нас не ведае... Баімся, што за беларускую працу абвінавацяць іх у контррэвалюцыі і расстрэляць.

— О, барані бог, гэтага не можа быць, вы несправядліва дрэнна думаеце аб бальшавіках. Невінаватых не могуць забіць!

Дзяўчына нічога не адказала, і яны моўчкі прайшлі палавіну алеі ў гарадскім садзе. Яна засмуцілася, ён гэта

заўважыў і надта хацеў, каб даўжэй пабавіць з ёю і супакоіць яе.

— Ігнат Восіпавіч!— зірнула на яго Іра сваімі круглымі шэра-галубымі вачмі.— Не будзем удавацца ў крытыку бальшавіцкага ладу... толькі ўсімі сіламі памажыце ратаваць нашых заарыштаваных, бо, крый бог чаго... гэта будзе такая страта, такая страта, каб вы толькі маглі ведаць! — Яна нервова папраўіла жменьку валасоў ля вуха й змоўкла зноў.

— Ну, так, ну, разумеецца,— казаў ён,— толькі ж вы загадзя не прымайце так да сэрца; я думаю, што ўсё абойдзецца зусім не так страшна,— хацеў ён супакоіць дзяўчыну і ўздумаў на ладнейшы час, калі разам вучыўся з Канцавым,— я ўсімі сіламі буду вызваляць свайго любага Міколу і яго прыяцеля, бо каб і вы толькі маглі ведаць, як цаню я Канцавога.

— Вы яго цэніце як наогул добрага чалавека. Я ж цаню яго яшчэ як працаўніка на ніве адраджэння бацькаўшчыны. І страціць яго было б для мяне таксама больна, як некалі было больна, калі памёрла мая мамуся.

— Ах, так... ваша мамуся памёрла...

Памаўчаў і падумаў. Потым сказаў:

— Праўда, я не магу так адчуць гэтага... гэтай балючасці ад яго смерці як беларускага працаўніка... Не мог бы. Я нават не ведаў, што ён іграе ў «руху» такую роль.

Абдзіраловіч пачуў, як незлавімая прыкрасць чапнула яго радасны настрой. Прыкрасць з'явілась таго, што яна так уважна гаворыць аб другім, якім не мог быць сам. Але ён не хацеў відзець прычын у гэтым і шукаў яе ў сваей непрыхільнасці да ўсякай заядласці.

— А шкода...— сказала яна.

— Што шкода? Што я не ведаў усіх вартасцей Міколы ці што не працую так... каб мог адчуць...

— Усё разам,— каротка адказала Іра і падняла з дарожкі жоўты кляновы лісцік.— Вот добра, што вы навучыліся гаварыць па-беларуску,— сказала і прыязна зірнула на яго сваімі круглымі шэрымі вачмі,— раней, здаецца, надта цяжка гаварылі, слаба ўмелі... ці не хацелі.

— Не думайце, Іраіда Аўгенаўна, што і мяне ўжо такі дрэнны беларус. Хто ведае? каб я быў у свядома беларускай сферы, можа, й я рабіў ба нейкую карысную для *бацькаўшчыны* працу...

Слова «бацькаўшчыны» сказаў з павольным націскан-

нем, быццам набіраючысь смеласці ці часткай жартлівасці абараняючы сваю ранейшую нядзеяльнасць.

— Я надоечы нават слоўнік маскоўска-беларускі купіў. Знайшоў выстаўлены ў вітрыне.

— Праўда? — сказала яна ціха, з працягам, нясмела-радасна, з нарастаючым чуццём уцехі і та́к паглядзела такім самым паглядам у самую душу яго, што пачуў незвычайную салодкасць.— Ну, то вот вам... дарую гэты кляновы лісцік! — дадала яшчэ.

І з нечаканай для яе невыгоднасцю ўтупіла вочы ў дарожку.

— Дзякую,— таксама нялоўка і ціханька прашапацеў ён.

— Загаварылі аб бацьках...— вярнулася яна,— даруйце мне, Ігнат Восіпавіч,— падняла вочы,— што не сказала адразу: не ведала, як будзе лепей: сказаць ці пачакаць... у Сухавея было пісьмо да вас ад вашага бацькі. Адзін гарэцкі вучань прыйшоў з-за дэмаркацыйнай лініі і прынёс. Пісьмо таксама невядома дзе цяпер... Бацька ваш хварэе, кліча вас да сябе.

— Божа мой! Колькі мне сянні неспадзевак і навін...— сказаў ён і мімаволі закрыў твар далонямі.

Яна моўчкі зірнула на яго і радасна, нявідна здрыганулася.

## XIX

Неспадзяваныя навінкі для яго на тым, аднак, не скончыліся. Як гэта бывае часам у жыцці, яны пасыпаліся на яго і ў чародныя дні, быццам такая паласа была ўжо яму накановала.

Ён даведаўся у «чразвычайцы», што Канцавога й Сухавея забралі па даказу за контррэвалюцыйную агітацыю і шкодную для бальшавіцкай уласці прапаганду сярод сялян, што на парукі вучыцельскаму хаўрусу або школьнай радзе іх не аддадуць, што патрэбны дзеля іх вызвалення прыгавары камітэтаў беднаты і што пабачыцца з імі можна будзе толькі ў суботу і то пры варце. Забегшыся да Іры, ён у мякчэйшых словах пераказаў усё гэта безнадзейнай дзяўчыне і паведаміў яе, чакаючы яе прысуду, што надумаўсь сянні ўвечары пайсці да Гаршка прасіць рады й дапамогі. Ён спадзяваўся, што да вечара пойдуць у сад, што яна згодзіцца пайсці з ім гуляць, хоць і прыкрыя навіны прынёс ёй, што нават ёй трэба троху расхадзіцца на све-

жым паветры ад розных прыкрых думак. Ён спадзяваўся, што прыкрасць, накінутая падзеямі на іх гэтае пабачанне, павінна зараз мінуцца, што між ім і ёю зноў павінна быць такое ж нешта добрае, як тады ў садзе, калі дала кляновы лісцік, што прыкрасць тая нават пойдзе на карысць іх шыбчэйшаму збліжэнню і жаданай любай дружбе. Ды дзяўчына засмуцілася надоўга, у сад з ім не пайшла і ўвесь час думала і казала аб субоце, каб прыходзіла барзджэй, каб пайсці з Абдзіраловічам да арыштаваных. Іра засмуцілася, што вызваліць сяброў не так лёгка, як гэта раней чамусьці здавалася, і што ў яе самой знецяйку так апалі рукі ад безнадзеяння. Было ёй смутна й прыкра так, што аж наракала на сябе й на сваю паўсёдную жыццярадаснасць, каторая вот цяпер яе пакінула, і яна чула нейкі непрыемны нялад у адносінах да яго, да Абдзіраловіча.

Выйшаўшы з гатэля, Абдзіраловіч не ведаў, куды яму дзецца да вечара, пачуў нуду і пусткі ў настроі. Перайшоў на другі бок вуліцы, задумаўсь і мімаволі застанавіўся. Падняў голаў і паглядзеў на вокны другога паверха ў гатэлі, дзе быў яе пакой. Калі нешта варухнулась ля вакна ці яму так толькі здалося, ён засаромеўсь і борзда пайшоў па вуліцы пад той канец, дзе жыў Васіль.

Васіль быў удаму. Ён толькі што прыехаў з камандзіроўкі, ляжаў на ложку ў ботах і адпачываў. Быў нейкі надта змораны, схудзеў і здаўся Абдзіраловічу жалкім, невясёлым.

Даволі маўкліва прыняў ён даўно нябачанага госця і папрасіў выбачэння, што будзе ляжаць.

— Можа, чаю хочаце? — спытаўся ён.

— А вы самі? — адказаў той.

— І я сам хачу,— сказаў Васіль і паціху, быццам стары, устаў, схадзіў да гаспадыні і троху весялейшы сеў на канапку.

— Вот змучыўся ў камандзіроўцы, каб вы ведалі,— сказаў ён, гледзячы некуды міма гасцёвай галавы.

— Хлеб у сялян рэквізавалі?

— Рэквізавалі...

Яны доўга маўчалі, і кожды думаў сабе сваё.

— Раскажыце, Васіль, што-небудзь пра вёску,— папрасіў Абдзіраловіч,— як мужыкі прымаюць рэквізіцыю?

— Як прымаюць? — скоса ўсміхнуўся Васіль.— Вот, так сабе, як і дзе; дзе каламі, дзе чым...

І зноў абодва змоўклі надоўга і думалі пра вёску кожды па-свойму.

Абдзіраловіч думаў, што вёску трэба прасвяціць, што тады яго ўспамінкі аб тым, як аднойчы ўцёк з дому на сенажаць, абедаў з касцамі пад лазовым кустом і качаўся па араматнай, трошку толькі павялай скошанай траве, што тады толькі яны нічым не засмуцяцца: ні тым, як маленькі галавасцік Таўкач даваў кукішы панскім партрэцікам, ні тым, што камбеды могуць не даць патрэбных прыгавораў Міколе й Сухавею (і будзе надта, надта неўспадзеўкі нядобра...). Трэба прасвяціць.

Васіль думаў аб тым, што, калі яго ўзноў пашлюць, ён папросіць, каб з ім паслалі не толькі смелых чырвонаармейцаў, але і добрых, добрых агітатараў.

Абодва думалі і доўга не знаходзілі пэўнасці.

Вёска... Дзярэўня...

Я ж яе люблю, але дзіўнаю любоўю, каторая найляпей азначаецца вядомай прыказкай: нудна ўрозні, цесна разам.

З балючай чуласцю не зношу, калі цяпер лаюць і ганяць яе за прагавітасць і папікаюць цямнотаю і дурасцю. Але ў глыбакосцях душы свае, калі з бязрадаснаю абмяжованасцю плаваюць у васпамінках яе ганебныя малюнкі, сам бязлітасна ганьбую й папікаю, складаючы ўсё ў сваім схварэлым сэрцы.

Люблю і ненавіджу разам.

Заўсёды бывае так, што й месяца не мінецца, як для клумнага места пакіну яе, знялюбелую, і ўжо хочу шмат чаго даравацъ ёй, ужо мне крыўда, што аб ёй тут, у месце, так мала гавораць і так помала пішуць, як быццам яна далёка, далёка недзе за морам-акіянам.

Калі бачу, як цяпер мястовы пралетарыят тоўпіць у часе адпачынку кінематографы і тэатры, спяшаецца ў бібліятэкі-чытальні, халяруе на зборках і сходах, усюды галасна гамоніць аб сваіх правах і цвёрда, няўхільна абараняе свае інтарэсы,— я думкаю пералятаю ў мізэрную, глухую беларускую весь. І чуццё зайздрасці к месту, і чуццё пагарджання да яе, і боль за яе, і сорам за яе ахопліваюць мяне і гнятуць, цісңуць, давяць.

Як забойцу на месца злачынства, нейкая нясходаная сіла цягне мяне кождага кірмашовага дня на мястовы рынак «дзівавацца на вёску». Як выглядае яна цяпер, пры бальшавіцкім ладзе нашага няшчаснага жыцця?

Збялелае, схудзелае дзяцвішча мястовай галоты і худыя, вынуроныя жанкі ў зношаных мястовых уборах туляюцца там каля мужыцкіх вазоў; з просячым, забеглівым тонам і з насілу захаванай злосцю зварочуюцца яны:

— Дзядзечка! Родненькі! Ці не засталася з дарогі трошку хлебца?

— Нямашака хлебца,— няўважліва, дайжа не зірнуўшы, адказуець той,— от каб на табачку...— быццам без усякай цікавасці дадае, аднак, ён зараз.

І доўга, цярпліва чакае на гразкай плошчы пад макраватым, туманным, імглівым восенным небам, ці не дзюбнець у яго на табачку.

— От, дажыліся казакі: ні хлеба, ні табакі,— развважае ён уголас,— за грошы нічагенька не дастанеш.

І даведаўшысь, што газета каштуе не пяць, як калі-то, а трыццаць пяць капеек, незацікаўлена адхінаецца ад хлопца-газетніка і ўзноў з нуднай, як тое восеннае неба, цярплівасцю чакае.

І няма яму абсалютна ніякай справы да ўсяго на свеце. Няхай княжыць і валадаець хто хоця, абы толькі дастаць во табачкі ды так крутка правезць яе дахаты, каб дайжа сусед не даведаўсь аб тым і не прыйшоў пазычыць дробачкі.

І толькі на кароценькі мамент ажыўляецца і цягнецца наперад, пакідаючы воз свой, калі чырвонаармейцы з аўтамабіля раскідаюць галоце дармовыя лістоўкі, прысланыя на рынак агітацыйным аддзелам з экспедыцыі.

І ўжо не такая мне крыўда, што й цяпер, на страніцах мястовай бальшавіцкай прэсы, няма жывога твару вёскі: сорамам заірдзелісь бы шчокі яе небесстаронніх абароннікаў.

Ох! цёмны і ўбогі нашыя хаты.

Мізэрны выгляд хат.

Мізэрна духоўнае жыццё яе насельнікаў.

Дайжа ў мамент найвялікшых перакрутаў жыцця і наївялізазнейшых зрухаў.

Нават у гэтым бурлячым віры, у гэтым рагочучым вулкане рэвалюцыйных падзей.

Калі маюць што з'есці, дык з'ядуць у вёсцы з брудам і пылам. Абальюць стол, выпацкаюць грудзі і вымасляць пальцы, быццам квач аб калёсную памазку. З'ядуць дар натуры так, як дастаецца ён проста з уроды: з зямлёю, з шалупою.

Калі маюць там з чаго вопратку пашыць, дык пашыюць яе так, што хаця пячурны чалавек апранай яе! Няхораша і мулка, то подаўга, то закаротка, то дужа крыва, то дужа коса; ну якраз так, як «шэрыя» амсціслаўцы дражняць «белых» гаршчынцаў: *на вілачках божы страх.*

І мізэрнае жыццё, і нуднае жыццё. Няма тут кніжак, няма тут мастацтва. Ёсць тут карты і апешалыя, мізэрныя думкі. І няма прыгожых перажыванняў. Няма прынаднай маркоты чуцця або адважных рэвалюцыйных страмленняў. І калі ёсць пачаткі таго ў людской маладосці, дык надта паспешна загняце іх бруд. Астанецца кляцьба, лаянка і злосць.

— Дык расказаць вам што-небудзь пра вёску,— прахапіўся Васіль.— А вот, як быў я ў гэтай камандзіроўцы, дык трапіў на зборку ў аднэй дзярэўні Пятровіцкай воласці за Мсціслаўлем. На зборкі цяпер ходзяць найболе маладыя, каторых старыя каб прымелі, дык бы з'елі. Ну, па важных справах прыходзяць пакрычэць і пабрахацца з маладымі і старыя. Маець-такі гадоў пяцьдзесят, з вялікаю барадою, крычыць: «Бра́ткі! Якая цяперіцька слабода, калі табакі німа... Ёсць у мясцечку, то там не прадаюць, за васьмушку хочуць хунт мукі. Я стаў пасылаць сына,— а сыну яго гадоў дваццаць пяць,— дык ён быў на хронце, разгультаіўся, ня йдзець...» А другі бацька пытаецца:

— На якім хронце?

— У нейкіх Кірпатых.

— Во, во, во! І мой жа такей. Ня хочаць, каб бацька табаку куріў, баіцца, што ня хапіць хлеба да нові. А я кажу: якое табе дзела? І ну яго лаіць. Схапіў я ножык папужаць яго, ды ён змоўчыў. А пасле каіць: няпраўда, калі станець Ленін здароў, ня будзець вам, старым, такой раскошы... А я яму: не, праклятыя, здохніця з галадухі з сваімі самакраціямі. То ён мне ў адказ: чаму вам, старым, здаровым ня быць, вы да дваццацёх гадоў без парток хадзілі й ня стрігліся, а я з васемнаццацёх лет у падрадчыка Лявонава ў Маскве тачку цягаў, а цяпер церяз Мікалая Краважэрнага трі гады ў Кірпатых адседзеў, у вакопах, па трое дзён-начэй ня еўшы. Я на яго: вэн! уцікай з мае хаты куды хочаш!.. Праўда, паслухаў бацькі: узяў шапку, выйшаў.

Тут усе старыя аж равуць:

— Ты — маладзец! Такіх душагубаў надыбе вучыць!

А некаторы бацька яшчэ паддае:

— Аўрам святэй свайго сына нёс богу на нож калоць, і то сын Ісак маўчаў...

І ўсе тады:

— Праўда! Праўда!

Аж выступаець самы ўжо, відаць, пачэсны й разумны бацька і вярзець такую штуку:

— А мой жа, с... сын, нейкіх кніжак політыцкіх дастаў і чытаець: усё народнае, нельга хлеб прадаваць, калі ў каго ёсць лішні. А жонка на мяне гаворіць, нашто я пяць хунтаў мукі занёс за пяць васьмушак табакі ў мясцечка Пятровічы. Тады я кажу: а табе якое дзела? Я — хадзяін... Ды яе па карку. А сын падбег ды каіць: ня йімееш права біць! А я на іх: вэн з мае хаты! Як-то я ня йімею права біць свае жонкі?

О тут старыя-то рагочуць: «Ха-ха-ха!»

Выходзіць малады і кажаць:

— Таварішы, цішэй! Даволі дурець ды сыноў глядзець, надыбе дзела ряшаць: як школу адчыніць?

Але ніхто не слухаець, усе галдзяць бесталаччу... Выходзіць другі малады і кажаць:

— Таварішы! Школу надыбе небязпрімення адчыніць. У трёх дзяреўнях німа школы, у двух Шкандзіных і ў Гарелаўцы. І між намі, таварішы, німа ніводнага светлага чалавека, усе мы цёмныя...

Яму на ўзбунт крычыць самы разумны бацька:

— Ня слухайця яго! Ён толькі наўчыўся языком бряхаць... Лес-то дармавэй, а пра налогі, як школу адчынім, ён нічога не сказаў.

І тут другі бацька:

— Сажань дроў пастанавілі па сорак рублёў,— во тут і жыві...

А там нехта яшчэ дзярэць ува ўсё горла:

— Мне некага ў школу пасылаць!!

— А сына й дачку? — пытаецца малады.

— А лапці хто будзець мне плесць? — крычыць той.

— А сам? — ізноў пытаецца малады.

— Я? я ўжо за сваіх сорак гадоў наплёўся!

І старыя ўжо пастанаўляюць:

— Ня надыбе вучылішча, ня надыбе. Дзяцей патворіць нечага!

Там яшчэ каторы бубніць:

— Вун Анісавы выўчыліся, цяпер кажуць на бацьку, што каб саветаў слухаў. А якіх жа саветаў? А во такіх: у кажнай хаце ёсць савет... Савет — гэта значыцца ўся сям'я, і даўжон адзін чалавек пакаряцца яму, а хатні савет — сельскаму, а сельскі — валасному і так дале. «Ага! — закрічэў Аніс,— я сам хадзяін ды буду пакаряцца вам! Вам не спанараўна, што я табаку на хлеб мяняю,— ня надыбе мне такія царі...»

А таму ў адказ другі яшчэ й жарты строіць:

— Нічога, браткі,— куріця! А калі не дагледзяць етыя шыбельнікі, дык і самагонку ганіця! А ня хапіць хлеба, ніхай бальшавікі даюць. А то цераз іх завод зачынілі, спірту ня гоняць. Выходзіць член камбеда і кажаць:

— Не, таварішы, хто будзець самагонку гнаць, хлеба ніхай ня просіць, а будзець расстрелен!

Як толькі сказаў, усе старыя аж равуць:

— Ага! Дык нас будуць стряляць, як хлеба ня хапіць! Авохці, рятуйця! Нам еткага начальства ня надыбе, не!

Васіль змоўк на нейкі час, бо патроху разгарэўся і хацеў шмат чаго пераказаць. Ён зірнуў на Абдзіраловіча, як той слухае яго пераказы, і заўважыў, што госць той цікавіцца, ды нешта мае сваё пільнае ў галаве. І не мог сцяміць, ці госць углядаецца ў яго, ці замысліўсь і глядзіць на яго, а не відзіць.

Абдзіраловіч адхіліў вочы. Ён пад канец не слухаў як мае быць і не чуў, бо ўгледзеўся ў Васіля, шукаючы ў ім падабенства з панам Абдзіраловічам. Падобнасці ў выглядзе знаходзіў болей а болей і аж пужаўся няведама чаго.

А Васіль хацеў казаць і казаў яшчэ. Казаў аб тым, як абсуджалі на зборцы пытанне, высунутае маладымі, аб адчыненні кааператыўнай крамы, якая ёсць, прыкладам, у жыдоў у м. Пятровічах. Прапазіцыю правалілі старыя за тое, што маладыя хацелі пасадзіць у краме сваіх таварышоў, а старыя іх каб прымелі, дык бы з'елі. Ён казаў, як старыя крычалі: «Ага! І грошы на краму надыбе? Дык згарі яна! Ня надыбе крамы, ня надыбе, ня надыбе!! Пойдзем, браточкі, дамоў!» — казаў, а госць усё ўглядаўся ў яго і потым, каб не збіцца з сваіх думак, каб толькі слухаць і далей думаць, запытаўся:

— Ці ж так адны старыя ўва ўсім вінаваты? Я чуў ад многіх, што бываець наадварот, маладыя на старых усселі цяпер і ездзяць на іх, колькі хочуць...

Сказаў і думаў, што нос у Васіля — адыстар бацькін, старога пана Абдзіраловіча, і што каб той стары пан падзіваваўсь цяпер на гэтага свайго сына і паслухаў яго, што было б... Што было б, каб ён даведаўсь, што гэты бальшавік, работнік — сын яго родны.

— Не адны старыя ўва ўсім вінаваты,— адказаў яму Васіль,— ёсць за што ганіць і маладых. Але ў ідэйнасці, беспярэчна, старыя нічога не варты; праўда — збоку маладых...

Ён памаўчаў, замысліўся, адылі загаманіў:

— Можа, й праўда, я здаўся вам, Ігнат Восіпавіч, не

бесстароннім, дык я скажу яшчэ колькі слоў, каб паказаць, якая свалата ёсць і сярод маладых. Падвазіў мяне ў дарозе адзін бедны жыд-каваль, ён ехаў у П-цкі савет па жалеза. Ён прыхільнік камуністычных парадкаў, а наказаў мне пра маладых свайго сяла столькі чаго, што іх усіх проста павесіць трэба. Сяло беднае, дык усе маладыя йшлі раней у свет, у гарады, а цяпер паварочаліся дамоў гультаямі, бандытамі і пад штандарам бальшавізму здзекуюцца над усімі сялянамі. Жывуць паразітамі, паўлезлі ў камітэт бедпаты, і ніхто іх не зачапі. Старшыня камбеда — яшчэ даволі малады блазнюк, быў засуджаны ў Маскве за ўбіўства, сёлета ўлетку так пабіў граблямі сваю братоўку, жонку брата-земляроба, што тая памучылась колькі дзён і памёрла, брата ўсадзіў у «чразвычайку», быццам за контррэвалюцыю, а бацьку штодня лупіць чым пападзя, па галаве, ганяець старога на работу, а сам п'янствуе ды гуляець з сваёй бандаю...

— У некаторых валасцях сяляне паўсталі...— сказаў Абдзіраловіч, напалавіну пытаючысь.

— Ну, паўсталі, разумеецца...— у тон яму адказаў Васіль і засмуціўся з складкай абурэння на вуснах, а шчокі яго гарэлі ад гутаркі. А потым сказаў: — Яшчэ горай тое, што даручаюць давіць паўстанне і караць паўстанцаў такім бесціям-крывасмокам, як розныя п'янюгі з быўшых афіцарышак, як гэтыя розныя Гарэлікі...

Сказаўшы тыя словы з вялікай злосцю, Васіль схапіўся, што й госць яго — быўшы афіцарышка, ён пачуў цёпла на шчоках і скоса зірнуў на Абдзіраловіча. Злосць, аднак, не мінулася.

— А што такое? Хто гэты Гарэлік? — спакойна спытаўся госць.

— Нейкі п'янюга капітан, а можа, нават быў і жандарам калі-небудзь. Убіўся ў ласку к нашаму Карпавічу, навучыў яго п'янстваваць, іх паслалі давіць паўстанне, і яны... яны без міласэрддзя парасстрэлівалі зусім невінаватых людзей, цёмных сялян.

— Што ты кажаш?! — спытаўся Абдзіраловіч парушаным, але такім голасам, у якім сам помала чуў патрэбнага пачуцця, і зганіў сябе за тое.

Васіль вельмі расстроіўся, але не хацеў паказаць усяго сябе.

У дзверы забарабаніла гаспадыня, увайшла з самаварам, тоўстая, сівая, у замасленай блюзцы і ў пантофлях.

— А я прыйшоў прасіць, каб вы завялі мяне к Карпавічу,— сказаў Абдзіраловіч Васілю, калі яна ўсё паставіла на стале й выйшла,— буду прасіць яго, каб памог вызваліць з «чразвычайкі» майго арыштаванага таварыша і яшчэ аднаго чалавека.

— Добра, пойдзем,— каротка сказаў Васіль, наліваючы гарбаты,— зараз, як нап'ёмся.

Настрой у вабоіх зламаўся і змяніўся. Васіль не чуў той зморанасці, апяшаласці, а быццам гарэў у трасцы ад патрэбы нейкага дзеяння, творчасці, змагання. Ён апякаўся гарбатаю і адразу, неўпрыцям, з'ядаў увесь кавалачак цукру, хоць хапацца ж не было зусім куды. Шчокі яго ўсё гарэлі, а бровы насунуліс на вочы.

Абдзіраловіч пачуў тут нейкае палягчэнне ў адносінах да Іры, быццам пераверыўся ў нечым радасным і меў права сказаць: «Эт, каму гэта патрэбна!» А што ды што патрэбна: ці беларускае нацыянальнае адраджэнне, ці яго дружба з дзяўчынаю,— таго і сам добра не цяміў дый не стараўся абдумаць. Быццам гэтыя дзве акалічнасці толькі заміналі таму, каб назаўсёды знішчыць магчымасць расстрэлу невінаватых людзей.

## XX

Пад прозвішчам Гарэліка працаваў у месце N., сярод бальшавікоў, капітан Гарэшка як тайны агент вялікага маскоўскага хаўрусу «Вызваленне Расеі». Хаўрус меў мэтаю адрадзіць «ядзіную і недзялімую» расейскую імперыю і рассылаў сваіх людзей скрозь па ўсіх яе быўшых частках. Капітана Гарэшку як беларуса родам паслалі працаваць на Беларусь з вялікімі сумамі грошы і важнымі даручэннямі самага сакрэтнага характару. Між іншым было даручана яму знайсці патрэбных людзей для арганізацыі сялянскага паўстання, самому пралезці ў Чырвоную Армію, заслужыць ласку ў бальшавіцкіх кіраўнікоў, напасці на ўсмірэнне бунту і задавіць яго з незвычайнай, шалёнай жорсткасцю; між іншым было даручана яму, каб як толькі мага, а вывезці з Масквы, цераз заходні фронт, за межы савецкай тэрыторыі аднаго друзлага архірэя, важнага сябра хаўрусу «Вызвалення» (таго, што некалі, як быў архімандрытам, у манастыры, дзе спасаўся Гаршчок, прадаў дарагацэнную панагію важнага гістарычнага значэння), і вывезці яшчэ яго двух глаўных супрацоўнікаў, манахаў Паісія і Нікадзіма.

Калі ўвечары к Карпавічу прыйшлі Абдзіраловіч і Васіль, там было сярод дыму ад табакі шмат рознага бальшавіцкага камісарства, мусіць быць, у гасцях ці на якой радзе, але скора ўсе разышліся, апрача аднаго, відаць, блізкога прыяцеля Гаршку. Гэта быў высокі мужчына ў чорным крытым кажушку і вялікіх халявістых ботах, яшчэ нестары, але з акладзістаю барадою і сівеючай галавой, быццам усаджанай у вялікія чорныя акуляры.

— Таварыш Гарэлік! — сказаў яму Гаршчок, кульгануўшы ля столу.— Напрацаваліся мы з табою сянні добра, аж надта... Я ўважаю, што маем права сяннішні вечар *прабандурыць*, а?

— Я тож так думаю, што *прабандурыць*,— адказаў той вельмі знаёмым Абдзіраловічу голасам і пачаў круціць папіроску, седзячы за сталом блізка лямпы, ды адхіліўшысь ад яе.

«А, божухна, ці ж гэта капітан Гарэшка?!» — памысліў Абдзіраловіч і з неспадзяванай нясмеласцю пільней агледзеў Гарэліка, а той і віду не падаў, што адразу спазнаў быўшага прапаршчыка.

«Ну, ды ён жа, ён...— думаў Абдзіраловіч і глядзеў на добра віднае ад святла лямпы вуха і шыю Гарэліка,— ён, гэта яго чырвоная, спечаная скурачка п'яніцы і дзявошніка, на якой цяпер так адраслі і засівелі яго мякенькія валасы, ён...» Гэта была для яго першая неспадзеўка.

— А гэта, брат, мае даўныя людзі,— павёў у іх бок рукою Гаршчок, кажучы Гарэліку сваім грубым, але не прыцiўным голасам.— Адзін, таварыш Васіль, добры камуніст, а другі, не ведаю, але чалавек нічога сабе, толькі дужа доўга самавызначаецца. Гэй, Махмет! — крыкнуў ён у прычыненыя дзверы другога, чарнейшага пакоя,— давай скарэй вячэру, што там маеш, каб цябе, каб...— а потым павярнуўся і спытаўсь: — Ці ж вы, Ігнат, Ігнат...

— Восіпавіч,— падказаў яму Васіль.

— Чаго казаць, кагды нясу,— адгукнуўся Махмет.

— Ці ж вы, Ігнат Восіпавіч, яшчэ й цяперака не паспелі з сваім самавызначэннем? А я ж вам казаў: бавіцца не выпадае, каб ногды не спазніцца! Забыліся? — зірнуў ён на Васіля з-пад сваіх сівых кучаравых валаскоў і кульгануў, нізенькі, ля столу.— Забыліся ай не?

— Не, забыцца — я не забыўся, але бадай што й вызначыўся...

— А-а-а, ну, ну, цікава! — крыкнуў Карпавіч.

Падняў голаў на яго й Васіль; толькі Гарэлік не зважаў і пускаў а пускаў клубкамі дым.

— Я, бачыце, як беларус патроху знаходжу сябе ў беларускай нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці.

— Не зусім я нешта цямлю,— сказаў з чуць прыкметнай насмешкаю Гаршчок,— але чаму гэта «патроху»?

— А што тут цяміць? — загаманіў Гарэлік.— Таварыш, як відаць, самасьційнік яшчэ аднэй, здаецца, зусім новай — беларускай фармацыі. Украінскіх-то я добра знаю, бо расстрэліваў сваімі рукамі, як быў на Паўдзённым фронце...

Усе троху памаўчалі, бо зробілася быццам прыкра. Тады Карпавіч неўспадзеўкі сказаў:

— О, то й я знаю самасьційнікаў, нават беларускіх. Двух гэткіх прывялі ў нашу «чразвычайку» за контррэвалюцыйную прапаганду. Але не йму веры, каб таварыш Абдзіраловіч займаўся тым самым, чым яны.

Карпавіч кульгануў, сеўшы за стол наўпроці яго, і ўстроміў свае вочы ў яго вочы. Абдзіраловіч не заплюскаў і даволі спакойна сказаў:

— А ці не ведаеце, як іх фаміліі? Можа быць, якраз у гэтай справе я і прыйшоў да вас прасіць помачы і рады.

— А-а-а, вун яно што,— ухільна адказаў Гаршчок,— ды, можа, после аб гэтым, а цяпер — не пагрэбуйце: што душа мае, тым і прымае,— запрашаў ён госцяў на вячэру. Як ні адпрашаліся Васіль і Абдзіраловіч, а ткі селі вячэраць. Ахмет, татарын з Несвіжа, быўшы салдат, а цяпер не то дзяншчык, не то кухар, разам са стравою падаў чаркі і бутэльку каньяку. Абдзіраловіч, здаецца, ужо з год, як не меў прыгоды не толькі піць, але і бачыць гарэлкі. Гутарка цяпер спачатку не ляпілася, але Гарэлік і Гаршчок націснулі на чаркі і загаманілі весялей.

О, шмат чаго незвычайнага пачуў Абдзіраловіч ад іх, калі паўпіваліся і пачалі буруздзіць абы-што. Колькі раз парываўся ўцячы адгэтуль, бо чуў, быццам нешта ліпкае, жудаснае наліпае на яго, а ў горле сцінае дыханне, калі яны хваліліс абодва, адзін перад адным, сваімі паслугамі рэвалюцыі, як забівалі людзей. Ён бачыў, як прыкра было Васілю, як той часам мучыўся, бачыў і сам тож мучыўся, але цікавасць (бо гэта было для яго навіною) змяншала яго мукі. Ён шкадаваў, што трапіў сюды ў гэткі дрэнны час, і губіў надзею дайсці парадку з Карпавічам у сваёй справе і выпрасіць помачы для вызвалення Міколы і яго таварыша-вучня. А Карпавіч выслаў Ахмета

ў кінематограф ці куды ён хоча, пазачыняў дзверы і пазавешаў вокны, прынёс яшчэ каньяку і ў збане цеплаватай, летняй кавы дый апанаваў гасцей п'яным гоманам. А памагаў яму, быццам жартуючы, Гарэлік.

— Дрэннае, брат, дрэннае тваё самаазначэнне,— казаў Гаршчок Абдзіраловічу, калі язык у яго зусім плетухаўся.— Дрэннае, брат ты мой,— стукаў ён яго па плячы кулаком,— бо ўсё гэта панскія штучкі, каб пасварыць нас пра... прале... лелелета-арыяў. Я ведаю, ты — панскі сын, і глядзіш на мяне, і смяешся, думаеш: напіўся чалавек, як свінтус, а яшчэ бальшавік. А я, брат ты мой, п'ю не з радасці, а з гора... Гора нам вялікае! Колькі пра... прале... лелелета-арыяў загубілі, кроў разлілі, а рэ-ва-лю-цы-ю яшчэ не ўратавалі ад паноў усяго свету, не, брат ты мой, во што я табе скажу... Налівай мне яшчэ, Гарэлік! Я хачу выпіць з гэтым бералу... бе-ла-ру-сам. І няхай жыве інцанал... інцынарацынал... ін-тэр-на-цы-я-нал! Няхай жыве!!

— Няхай жыве! — крычаў п'яны Гарэлік.— Крычы, а то расстраляю за контррэвалюцыю, ну!

— Няхай жыве,—казаў Абдзіраловіч, а Васіль церабіў пушанку з кансервамі, каб іх не слухаць, і не слухаў, засмучоны.

— Ну, таварыш, дзёрнем за вашу самасьційную мову і... за *богам створанае хараство*, ці што... Не за хараство вашае мовы, не, бо яна, таварыш, пакуль што мала скобленая і некультурная, а за *жывое, богам створанае хараство*, за дзевачак, ці што...— так буруздзіў Гарэлік Абдзіраловічу, нібыто надта ўжо п'яны, што й нічога не разумее. Але націснуўшы на некаторыя словы, быццам будзячы ў свайго субяседніка даўнія і толькі ім вядомыя ўспамінкі, ён так зірнуў у вочы Абдзіраловічу, што той як слова чуў: «Я цябе пазнаў, і ты мяне пазнаў. І не дзіва. Але дзіва, што дзе гэта мы сустрэліся? І што з таго ўсяго будзе? Так?»

І на гэтым ён не застанавіўся, а пачаў пераказываць Абдзіраловічу, чаго кульгае Карпавіч,— быццам той не ведаў. Ён намаляваў яму абразок, як сам раніў Карпавіча. А Карпавіч замінаў яму п'яным языком:

— Не пераказуй яму, таварыш Гарэлік, не пераказуй, чуеш, ну? Лепей бо за цябе ён ведае аб тым. Ён жа мой даўны знаёмы, а ты чуў гэта ад мяне толькі, чуеш, ну? Ён сам там быў!

І на гэтым не застанавіўся капітан, а пачаў пераказы-

ваць Абдзіраловічу, як яны з Карпавічам сцішылі мужыцкі бунт.

— Уводзяць іх да мяне ў штаб. «Бунтаваўся?» — «Бунтаваўся».— «К сценцы». Раздзяваюць, вядуць у другі пакой,— чуем: трах! Валіцца і галавою стукнецца. І так аднаго, й другога, й дваццатага, й трыццатага. Два родных браты былі, паповічы, левыя сацыялісты-рэвалюцыянеры. За правадыроў былі. Адзін аж млеець, белы, як крэйда, ногі падламуюцца, зубы калоцяцца, і слова не можа сказаць, заікаецца. А другі... яшчэ па днэй, Карпавіч, што? — а другі, брат, малайчына, спакойны і галаву дзярэць, хоць ведае, што зараз і яго раздзенуць. Падводзяць яго. «Бунтаваўся?» — «Змагаўся з гвалтаўнікамі».— «Хочаш, каб цябе расстралялі?» — «Хачу!» — «А! Маладзец! Ну, раздзявайся». Расшпіляець сарочку. «Косцік! Будзь смялей!» — кажа брату. «Можа, чаго хочаш? Прасі»,— кажу. «Напісаць запіску матцы».— «Пішы. А малодшага вядзіце». Самлеў той, павалаклі, а гэты крычыць: «Прашчай, Косцік! Я пішу маме». А сам на кавалачку паперы хапаецца, пішаць, і рука, праўда, дрыжыць: «Дарагая мамулечка! Не плачце,— так трэба. Косціка ўжо павялі... Стрэл. Заваліўся. Гэта ён. Зараз я. Цалую». Не дапісаў. Схапіў я наган і ўсадзіў яму кулю ў лоб. А маладзец!

Абдзіраловіч слухаў, як загіпнатызаваны нечым смярдзючым, гідкім; быццам нешта ліпкае, жудаснае наліпае на яго, а ў горле сцінае дыханне.

Гаршчок п'е, убіўшы вочы ў дол.

— Ну, мне пара дахаты, я болей не магу, трэба адпачыць,— сказаў Васіль з нясхаванай прыкрасцю і ўстаў.

— Не прымай да сэрца, Васілёк,— спрабуе жартаваць п'яны Гаршчок.

Васіль кінуў на яго пагляд, як расчараваны вучань на вучыцеля, за каторага стануў вышэй, і злосна сказаў:

— Дык няма чым хваліцца, калі забілі больш невінаватых, чымся вінных.

Ён і Абдзіраловіч пачалі апранацца.

— А ці не будзе па дарожцы і мне з таварышамі,— звярнуўся больш да Абдзіраловіча Гарэлік і падняўся з застолля на свае дыбатыя ногі. У голасе меў цынічную, Абдзіраловічу зразумелую, спакойнасць, выглядаў невінавата-спакойным, быццам нічога не разумее, дзеля таго яму ўсё тое, што хоча Васіль, прыстае, як да сцяны гарох.

— Іван Карпавіч! Будзьце ж ласкавы, памажыце,—з прыкрай прыніжонасцю, але вялікай стараннасцю прасіў

Абдзіраловіч, выхадзіўшы,— паможыце вызваліць іх з вастрога, бо хоць прысягну вам, што арыштаваны яны хіба па абмылцы, ні ў чым проціў савецкай уласці невінаваты... Будзьце ж ласкавы, не забудзьцеся...

— Добра, добра... Калі так, дык я іх зараз выпушчу... Добра, добра...— марматаў ля дзвярэй Гаршчок, кульгаючы.

На вуліцы Гарэлік яшчэ ля ганку спытаўся ў Абдзіраловіча, у каторы яму бок.

— У гэты? О, то й я з вамі якраз, таварыш,— сказаў ён.— Што? А вы туды? — крыкнуў ён з праступаючай насмешкай Васілю, каторы паспеў ужо крыху аддаліцца ад іх.— А мы сюды... Бывайце, бывайце!! — старанна крыкнуў ён не столькі за сябе, сколькі за Абдзіраловіча і як слова не заўважыў, што той не прыстоіў, каб падаць ім руку на развітанне.

Калі стукат яго ног па тратуары заціх уводдалі, Гарэшка азірнуўся ў розныя бакі спячай, пустой вуліцы пад сонным бліскам месяца ў трэцяй квадры, безмалімонна падхапіў Абдзіраловіча пад пашку і ціха загаманіў у свежым, ядраным паветры рана восеннай пары:

— Ну, пане мой, каб ведаў, што ўвіджусь тут я з вамі, разумеецца, прывёз бы паклоны й прывітанні ад Аляксандры Мікалаеўны і князя...

Абдзіраловіч пачуў у гэтых словах цверазеючага капітана, сказаных так знецяйку, спробу пашчупаць грунт, але была ў іх зусім відная насмешка, а таксама паказанне сілы дужэйшага над слабейшым. Ён подаўга думаў, як адказаць, і выйшла так, што зусім змоўчыў. Тады капітан пачаў казаць далей.

— Ці ж вас, пане мой, не цікавіць, як маецца ваша даўная знаёмая Алечка?.. Па-даўнейшаму — Алечка, а цяпер-то, праўда, княгіня Аляксандра Мікалаеўна Гальшанская... Жывое, богам створанае хараство, казаў той... што?

— А вы адкуль ведаеце? — спытаўся неўспадзеўкі для сябе Абдзіраловіч, хоць пачынаў надта крыўдзіцца і намерыўся асадзіць нахальнага капітана.

— А я, пане мой, не дужа даўно з Каўказу. Ну, што ж вам цікаўнага сказаць? Мікола Мартынавіч, хоць я з ім знаём мала, болей са слоў князя, выехаў з сямейкай у Румынію. Усе выехалі, апрача, праўда, Алечкі, дзеля таго што князь такі з ёю пабраўся. І гімназіі не скончыла. Ну, разумеецца, гэткі завірушны час. Вас мы з ёю ўспаміналі. Так... Казала, што вы чалавек добры і ёй чалавек любы,

але мяккасць ваша не даспадобы ёй. Князь мяне пазнаёміў з ёю. Цяпер яны абое выехалі адтуль... туды, куды камандзіравалі князя. Ну, а вы, квіт за квіт, раскажыце, пане мой, аб сваіх прыгодах з той пары.

— Я працую на савецкай службе, так як і вы, таварыш Гарэлік, толькі вы, здаецца, на вайсковай, а я — на цывільнай.

— Так... Разумеецца, так. Што? Вы па гэтай вуліцы? Добра, добра... Дык вас, кажаце, не дзівіць, як гэта з кульгавым сябрую? Што?

— Я нічога не кажу, але мне, калі на тое, праўда, што наўздзіў ваш гэны... маскарад, ці як ляпей сказаць, не ведаю.

— Так... наўздзіў! кажаце... Ну, але ж, пане мой, дасцё чэснае слова, што нікому нічога не скажаце, так?

Абдзіраловіч нічога не адказаў. Яны падышлі пад самы дом, дзе ён жыў. Месяц ліў сваё соннае святло, а недзе на другой вуліцы, за рагом, вартаўнік затрашчэў кляшчоткаю. Гарэшка ўзяў Абдзіраловіча за борт пальта, схіліўся і з націсканнем слоў прамовіў яму ў самыя вочы:

— Чэснае слова, пане мой, дасцё вы мне, што язык свой не распусціце; але не такое, калі памятаеце, як далі ў Маскве, што?

— Я не лічу патрэбным даваць вам нейкае слова... І ніякага слова не дам... І будзьце ласкавы троху супакоіцца,— сказаў Абдзіраловіч, адхіліўшысь ад прыкра-тухлага гарэлачнага паху.

— А-а-а... То так! Ну, добра.

Гарэшка пастаяў нейкі час моўчкі, задумаўшысь.

— Калі вас можна бачыць на кватэры? — спытаўся потым ён.

— Абы-калі, як вярнусь са службы. Толькі не ўночы.

— Добра. Дабранач.

— Бывайце.

Яны разышліся, не даўшы рук. Абдзіраловіч пазваніў ля дзверцаў, чакаў, пакуль адчыняць, і чуў, як патроху заціхлі гукі ад шыбкай і шырокай хадні Гарэшкі. А сонны месячык схіляўсь ніжэй на свяжэючым небе.

## XXI

На Усходнім фронце Чырвоная Армія дужа пабіла белую армію. З гэтай прычыны ў месце N. бальшавікі назначылі свята на суботу. Бедная Іра Сакавічанка не магла ў

гэты дзень пабачыцца ў вастрозе з сваімі сябрамі, бо ўсё ўсюдых было па-святочнаму зачынена. Трэба было чакаць яшчэ цэлых сем дзён... Парадзіўшысь з Абдзіраловічам, пастанавіла яна за гэты час з'ездзіць у сяло, дзе быў Канцавы вучыцелем, і дастаць паперу ад сельскага камбеда, што арыштаваны не ёсць пэўны шкоднік для бальшавіцкай уласці, што камбед бярэ яго на свой адказ да самага суда. Спадзявалася таксама дастаць нейкую паперу і Сухавею ў Горках.

Вярнуўшыся з Зарэчча, кудой хадзіла дагаварыць сабе падводчыка-балагола, Іра сустрэла на лесвіцы ў гатэлі Абдзіраловіча. На вуліцы ўжо хадзілі з песнямі, з музыкай, насілі штандары, і куламеса з розных адарваных гукаў ляцела аж сюды на лесвіцу, і дзяўчына хацела шыбчэй забегчы ў свой пакой і схавацца ад усяго. Гэтая няўважнасць дзяўчыны пры спатканні чапнула прыкрасцю і так ужо, як самаму здавалася, знерваваны яго настрой. Ён ішоў за ёю без той радасці, якой жадаў і на якую спадзяваўсь. Думаў, што яна маўкліва вінаваціць яго ў тым, што нічога не памог ёй у вызваленні арыштаваных, і дзеля таго і з ім такая. І сам пачынаў вінаваціць яе за гэткую дзявочую легкадумнасць, з якой яна дарма так на яго думае і абніжае рознымі справамі прыемную любасць асабістых яго з ёю адносін.

— А божухна! як замарылася за гэты дні і як зусім дарма, не для чога, ох! — сказала-прастагнала Іра, кінуўшысь на крэсла й абшчапіўшы галаву рукамі.

— Як дарма? — з малай ахвотай перабіў ён.— Што маглі, зрабілі.

Абое подаўга маўчалі. У пакой далятала глухаватыя гукі з вуліцы, там іграў аркестр, а шарэнгі людзей прахадзілі і пялі. Далятала гукі «Інтэрнацыянала». Абдзіраловіч прыслухаўся і хацеў бы пайсці на вуліцу. Яна ж зморана схілілася і паглядзела ў люстра; і паціху адсунулась; схудзела і неяк зблажэла за гэтыя дні беганіны і непакою ў незвычайнай сферы. Дзівавала сабе, што згубіла і не мае сваёй паўсёднай жыццярадаснасці, што выбілася з духу. Хацела б войстра а войстра адчуць усё тое, што было ў яе, калі тужыла цэлы дзень у гамаку. Няма таго. Во сядзіць той перад ёю, а яшчэ далейшы і чужэйшы, чым тады. О божухна! гэта ж мінулася жыццё, гэта ж сіл ужо няма, зморанасць апанавала.

Яму падабаўся матыў «Інтэрнацыянала», падабалася пянне, пабуджаў той клум, што быў на вуліцы, пабуджаў

у ім сілы і некуды клікаў, і ён з прыкметнай жывейшасцю сказаў дзяўчыне:

— Што б там ні было, а мне надта падабаецца музыка «Інтэрнацыянала».

Пучуў, як паволі наплывае нез'яснёны сорам за словы «што б там ні было», і дадаў:

— Прыгожая музыка, праўда?

— Ага, прыгожая...

Яна не ведала напэўна, як разумець словы «што б там ні было», але палічыла іх за яго супярэчнасць з бальшавіцкімі крывавымі ўчынкамі і наўмысля сказала, падумаўшы:

— Прыгожы матыў «Інтэрнацыянала», але пакуль ён не пабуджае ў маей душы ўяўленняў гора або радасці абы-якой «інтэрнацыянальнай» грамады людзей, пакуль такой грамады сярод нацый на зямным клубку я не відзела й не знаю,— патуль мне больш чаго кажаць матыў нашай мужыцкай беларускай «Марсельезы», з матывам каторай мне ўяўляецца бясконцы, цярнёвы, крывавы шлях к інтэрнацыяналу майго няшчаснага народа...

Памаўчаўшы і трошку спакайней, але з яшчэ вялікшай тугой у голасе дзяўчына казала далей:

— Праўда, мне і з тым і з тым матывам аднолькава ўяўляецца тое трагічнае і нялепае для нас, адраджоных беларусаў, што чужыя для нас людзі, не заўважаючы на сабе яшчэ не скінутай імі сваей нацыянальнай прапітанасці, прыйшлі да нас з «інтэрнацыяналам» толькі на вуснах, з яго толькі фікцыяй у сваіх мазгах і з фанатычнай безміласэрднасцю ўзяліся рабіць з беларускай нацыі толькі гной на градкі для ўзрашчывання сваей фікцыі інтэрнацыянала. О, будзь яны пракляты! — узварушоным голасам, з горам крыкнула яна.— Яны хочуць зрабіць адзнакі сваей нацыянальнасці інтэрнацыяналам для нас,— дык дзякуй за ласку... Можа, трапім увайсці ў інтэрнацыянал як роўныя з усімі, без гэтай дадатковай формы развіцця!

— Іраіда Аўгенаўна! Навошта ж прымаць усё так блізка к сэрцу. Мне здаецца, што ўсё няшчасце тут ад разладу тэорыі і практыкі. Бо скажыце, калі ласка: тэорыя камунізма дазваляе, каб маскоўскія ці якія іншыя камуністы гвалтам абмаскалівалі беларусаў? Тэорыя інтэрнацыянала вінавата ў тым, што беларускім народам кіруюць цяпер бальшавіцкія камісары ўсякіх нацый, апрача бела-

рускай? Ці яна вінавата, што ў нашым знамянітым *Обліскомзапе*[1] ёсць армяне, латышы, жыды, палякі, маскоўцы, але няма нас, беларусаў? Што правінцыя маець тольki такіх кульгавых беларусаў, як гэты Гаршчок?

— Можа, пойдзем абедаць? — паспыталася ў яго Іра.

Ён усміхнуўся, змоўк і адказаў, што «з прыемнасцю».

Калі схадзілі па лесвіцы, Іра прадэкламавала пачатак «Марсельезы»:

Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі,
Сказалі, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць...

І сказала, патроху адпускаючысь у злосці:

— Я лічу аднакава зладзеямі, як тых, што даюць замест хлеба камень як камень, так і тых, што даюць яго пад відам хлеба. І аднакава пабіла б іх, ці яны — разлад тэорыі і практыкі, ці яны — простая сваволя.

Прыкрасць ізноў, яшчэ горшай, чапнула настрой яго. «Змоўкла б ты ўжо,— падумаў аб ёй,— ты не чула таго, што чуў я надоечы ў таго праклятага Гаршка, ты не ведаеш, што робіцца ў маей душы, а ўсё мяне папікаеш няведама за якія ўчынкі...»

А яна паглядзела на яго збоку, падумала, што ён, аднак, прыгожы, а потым адвярнулася і памысліла: «Ты ловак цяпер разважаць, а дзе ты сам, вайсковы беларус, быў тады, як украінцы арганізавалі свае нацыянальныя вайсковыя часці, выдзяляючысь з маскоўскага войска? Пэўне, і тады вельмі разумна разважаў».

На вуліцы яна хапалася шыбчэй абмінуць маніфестантаў і забегчы ў страўню, а ён углядаўся, й слухаў, і думаў: «Я з-за непаразумення трапіў у панскія сыны, я сын гэтай чорнай грамады і хацеў ба павесці яе ляпей за ўсіх да шчасця».

Паабедаўшы, яны разышліся. Іра не хацела, каб ён увечары прапускаў яе ў ад'езд, толькі цвёрда-пільна прасіла, каб усё рабіў, што толькі зможа, для вызвалення Міколы й Сухавея. Яна чуць не заплакала, казала, што сэрца яе знібее, быццам вяшчуючы нешта злашчаснае, дык каб зараз даваў ёй вестку аб усякай новай змене ў справах. З свайго боку чуць не клялася, што за сем дзён пастара-

---

[1] Па-маскоўску: «Областной Исполнительный Комитет Западной Армии и Фронта», а пакарочана: «Обл-іс-ком-зап».

ецца ўсё справіць і адаб'е яму тэлеграму, як дастане паперу ад камбеда. Ён супімаў і супакойваў дзяўчыну, а развітаўшыся, пачуў аж нейкую палёгку, так усім гэтым знерваваўся.

Цэлы гэты дзень бальшавіцкага свята бадзяўся па вуліцах і скверы, быў на плошчы і слухаў прамовы аратараў з трыбуны. Асабліва падабаўся слуханнікам кульгавы Гаршчок. Хоць ён не столькі выказываў новыя ці паважныя думкі, сколькі лаіў celebrated панства і манахаў, катория некалі мучылі яго, біў кулаком у грудзі і па більцу загародкі і крычаў тонкім, звонка-пісклявым голасам, хоць так,— але прамову яго просты народ прымаў найляпей і біў яму ў ладкі з усяе сілы і прыемнасці.

Седзячы ў скверы на лавачцы, Абдзіраловіч уздумаў на Іру з мешаным чуццём нейкага жалю, крыўды і раздражнёнасці, а потым уздумаў на свае любошчы з Алечкаю. «За якую мяккасць характару неспанараўны быў я для яе? — думаў сабе.— Што не здолеў вырваць яе дужасцю свайго кахання з прыкрай мне буржуазнай сферы? Не, добра, што ў нас нічога не выйшла і мы разышліся ў розныя бакі. Абое былі б няшчасныя, бо скрозь усё жыццё цягнула б нас нешта ў гэтыя розныя бакі. А так яна, прынамсі, знайшла свой пэўны прытулак жыцця, пабраўшыся з тым князем». І тут жа ўзноў уздумаў на Іру, на яе шэрыя круглыя вочы, такія разумныя, але ўжо без той маладзенькай дзявоцкай свежасці, што ў Алі. Белы тварык з бліскучымі чорнымі вачмі і пасмачкамі бліскучых чорных валасоў стаяў уваччу, і не меў ён на яго ніякага жалю, ніякай крыўды. А голас Іры, мяккі, густы, нутраны, дрыжаў увушшу ды будзіў жаль і раздражнёнасць.

Часам мітусіўся той вечар у Гаршка, і забірала злосць на народ і на бальшавіцкіх такіх Гаршкоў. А проці Гарэшкі было штосьці тупое, цяжкое, ненавіднае, што не магло яшчэ прарвацца ў звычайнай злосці і быццам чакала асаблівай дарогі для свайго разгону.

## XXII

За сем дзён Іра не справілась вярнуцца, бо сяляне за пільнай работай не маглі сабрацца на зборку, а за гэты час у N. знайшлі контррэвалюцыйны замысел і ўжо колькі чалавек буржуяў аддалі пад расстрэл.

На неабмеркаваны час быў забаронены ўезд у N., дык Іра, пачуўшы ад людзей, што там ідуць расстрэлы, а яна прыехаць туды, каб бараніць сваіх, не можа,— проста з галавы сходзіла ад чорных думак.

Глаўнае, што нічога не ведала: Абдзіраловіч нічога не пісаў.

Тым часам Абдзіраловіч пабыў у другую суботу ў вастрозе і пагаманіў пры вартаўніку з Міколам і Сухавеем.

Мікола быў незвычайна рад, што Ігнат даведаўся яго, а Сухавей пазнаў, што Абдзіраловіч той падарожны рэнегат, і непрыхільна наставіўся да яго. Мікола дужа схудзеў, збялеў і аброс шчацінаю, вельмі мучыўся ад боязні, што расстраляюць, і зусім апаў духам. Сухавей быў спакойны, засмучоны, але цвёрды.

«Аб бацьку вашым тут ніхто нічога не ведае,— сказаў ён Абдзіраловічу з падказаным значаннем слоў,— *веданне* знішчылась у сяле, вусны пераказ, як давядзецца, после...» Абдзіраловіч зразумеў, што пісьмо не папала ў рукі «чразвычайкі», і з асаблівай ласкавасцю адказаў яму:

— Надта вам дзякую... Добра, добра...

— А грошы? — спытаўся вучань.

— Я йшчэ не ведаю...— адказаў Абдзіраловіч.

— Дык вы йшчэ рэнегат... Я йзноў памыліўся,— злосна буркнуў яму Сухавей, кінуў іх, адышоў ад рашоткі на нары, сеў там і больш не падышоў, як ні прасіў яго Мікола «быць чалавекам».

Вартаўнік-чырвонаармеец з увагай слухаў іхную гаворку, а потым прыхільна ўхмыльнуўся і сказаў:

— Па-мужыцку гамоніце, а йдзіцё проці народа.

— А вы самі адкуль? — спытаўся ў яго Канцавы.

— А з С-кай воласці, калі ведаеце.

— О, ведаем! Таварыш Сухавей! — гукнуў ён хлопца.— З тваёй, братка, воласці чалавек.

Вучань не адгукнуўся.

— Ён сярдзіты,— сказаў вартаўнік,— з гарэцкіх студэнтаў, я пазнаў па форме...

На тым і скончылась пабачанне. Абдзіраловіч намагаўся заспакоіць свайго любага Міколу, ды той мала няў веры ў яго няпэўныя словы.

Дальш за гэтыя дні падзеі раскаціліся шыбкім клубком.

Глаўнай навіной для ўсяго N. была страшная і загадко-

вая смерць камуніста Гаршка, каторага знайшлі на яго кватэры зарэзанага, а з запіскай, пісанай яго рукою, каб нікога не вінавацілі ў яго смерці.

У газетах нічога не было друкована, але пераказы штораз болей страшныя і фантастычныя аб смерці «культавага» плылі сярод людзей.

На другі дзень пасля таго смерці, увечары, Гарэшка прыйшоў да Абдзіраловіча, сеў проці яго за стол, закурыў цыгару і сказаў:

— Гэта я зарэзаў яго...

— Дык што вы ад мяне хочаце? — сказаў Абдзіраловіч, вытрашчыўшы вочы, і пачуў, як пасцюдзянелі яго пальцы.

— Хачу, каб вы паслухалі, што я кажу.

— Я слухаю...

— Я меў загад якім толькі мага спосабам вывезці з Бальшавізіі аднаго друзленькага старэнькага архірэя і яго двух манахаў. Я здолеў іх перавезці сюды з Масквы. Патрэбны былі толькі перапускі да дэмарк-лініі. Нам не пашчасціла. Па нейчыму даказу іх забралі, білі, укінулі ў «чразвычайку». Я быў у ласцы ў нябожчыка Гаршка. Заслужыў гэтую ласку цэлымі цэбрамі густой, запечанай, чорнай крыві паўстанцаў. Аднойчы Гаршчок запрасіў мяне паглядзець на нешта прыемнае. Ён павёў мяне ў «чразвычайку», дзе начальнікам — яго прыяцель-латыш, сын быўшага прыказчыка князёў Гальшанскіх. Нас завялі ў цёмны склеп, дзе было толькі трое гэтых манахаў, бо звычайна арыштаваных адсылаюць у вастрог. Гаршчок пераказаў мне, каб чулі й манахі, цэлую гісторыю, як яны яго некалі пакрыўдзілі ў манастыры. Потым ён пляваў ім у твары, здзекаваўся, а потым мы выйшлі. Уночы ўчора... ці сянні, як гэта выходзіць... я прыйшоў падзякаваць яму за ласку і прыемнае зрэлішча. Выслаўшы Ахмета, запёршы дзверы, я зламаў яго, забіў рот, звязаў і сцягнуў у склеп,— ведаеце, робяць тут такія пад кватэрамі... Прынёс туды паперу, чарніла. После нядоўгага падпальвання яму пятак ён згодзіўся напісаць усё, што я прадыктаваў: каб далі перапускі і інш. Праўда, ён зробіў спробу паўстання: кінуўся на мяне з асадкай і зламаў пяро аб лоб, хацеў выкаліць вока... во, бачыце знак? Але я лёгка сцішыў паўстанца і ўспамянуў яму, як мы сцішалі мужыцкае паўстанне ў некаторых паветах. Ён прызнаўся, што ён мізэрны паўстанец. Затым я прынёс колькі трэсачак з лучыны, шкумаццяпаперы, запаліў другую свечку, сеў побач на

нейкую калодачку і, гледзячы на звязанага, як цяпер на вас, пераказаў яму цікаўную гісторыю з жыцця майго брата, якая трапілась у слаўным чырвонай славаю Кранштаце... Гэта было зараз после сацыяльнай рэвалюцыі. Адну таварыш-прастытутку, маю знаёмую, чырвоныя матросы запрасілі да сябе на баль. У вадным антракце кавалер гэтай дамы запрасіў яе на гарбату і павёў у трум. Там ляжаў на спіне, голы і прыбіты к падлозе рукамі і нагамі, зусім маладзенькі і прыгожанькі мічман, а на голых грудзях у яго гарэў грудок трэсак і стаяў саганок з вадою, каб, зварыўшы, піць гарбату... Пераказуючы гэта, я здзёр вопратку з грудзей Гаршка, насыпаў на касматае цела трэсак, кавалкаў паперы і сказаў, што «ну, зараз падзівуюсь, ці добра выглядала вогнішча на грудзях у майго брата»...

Капітан наліўся крывёю, дрыжачай рукой адарваў канец цыгаркі і казаў далей:

— Тут Гаршчок неўспадзеўкі для мяне самлеў, і я, замест таго каб паліць яго, адліў вадою, потым вывалак нагару, у пакой, паклаў на пасцелю і брытвай, каб доўга не мучыўся, зарэзаў яго. Ён ляжаў у крыві — кароценькі, з падагнутаю кульгаваю нагой...

І Гарэшка і Абдзіраловіч маўчалі доўга. Аж у дзверы стукнулі.

Капітан спакойна адчыніў іх і ўпусціў нейкага запыханага чарвонаармейца. Потым узяў шапку і сказаў, махнуўшы на таго, каб сказаў сваё после за яго:

— Ну, аставайцеся здаровы, таварыш Абдзіраловіч! Можа, яшчэ калі а калі сустрэнемся. Вы пачынаеце беларусіцца, а я, прызнацца, памагаю цяпер Гальшанскаму, а ён якраз працуе сярод беларусаў, *там*. Надта ж, надта вам дзякую, што ўважна слухалі, бо так мне палягчэла, быццам быў запэцканы дый вымыўся ў чысценькай вадзіцы.

І ён пайшоў.

— Таварыш! — шыбка загаманіў новы госць.— Я прыйшоў сказаць, каб ратавалі і свайго і майго таварыша. Той гарэцкі студэнт заўчора ўцёк з вастрога, калі вартаваў мой таварыш з С-кай воласці, дык і яго цяпер заарыштавалі. А таго, вашага, што застаўся, сянні ўночы павядуць некуды, ёсць ужо прыказ... Ратуйце іх, я нічога не ўмею...

— Божа мой! Што ж я ўмею?! — мімаволі застагнаў узварушаны Абдзіраловіч і схапіўся за голаў.

...У гэты самы вечар Іра выпраўляла ў далёкую дарогу, за дэмарк-лінію Сухавея, каторы з рызыкай забегся да дзяўчыны.

Вучань нязграбна й борзда хадзіў бесперастанна ад кута да парога, пакуль яна складала яму нешта ў хатылёк, круціў пачырванелымі, запалёнымі вачмі то на партрэт Янкі Купалы, то на вакно, за якім чарнеўся мак і бялелася табака, і гаварыў, хапаўся, як у трасцы, ды збіваўся і чапляўся за стул сваімі запыленымі ботамі.

— Што? сяброўка думала, што я пакладуся на помач гэтага рэнегата? Яшчэ няведама, як ён паможа сябру Канцавому. Што? ён казаў вам, што мае «дзве душы»?.. І вы яго бароніце? Дарма! Гэта не «дзве душы», а гэта... гэта...— хлапец круціў рукамі,— гэта расхрыстанасць, разлезласць, мяккацеласць... нешта для мяне гідкае, слізкае. Гэтыя вырадкі губяць бацькаўшчыну, як і ўсякія ворагі-чужынцы... Эт, дрэнь... Што? Ужо! Гатова?

Яна маўкліва падала яму хатылёк. Ён уздзеў яго на плечы, схапіў кіёк, памкнуўся некуды ўбок, потым ізноў да яе.

— Ну, аставайцеся здаровенькі, сяброўка! Не закідайце працы!

Ён нязручна неяк працягнуў руку, ды яна схапіла яго за плечы, прыцягнула да сябе, пацалавала раз і ў другі і задушаным ад слёз голасам шаптала:

— Не... не, браточку, не закіну...

— Не прапускайце, не выходзьце! — крыкнуў з парога. І яна глядзела ў вакно, як схаваўся за яблынкамі, на мяжы, сярод канапелек, у цямноце вечара зусім блізкай восені.

Села ў плеценае крэсла і плакала горка адна.

У расчыненае вакно плыло свежае паветра і пахла табака.

## XXIII

Той жа начы капітан Гарэшка шчасна пакінуў N. і паехаў таксама ў бок дэмаркацыйнай лініі, згубіўшы пакуль што ўсякую надзею на вызваленне чарняцоў з «чразвычайкі».

А к чароднаму дню савет прызначыў урачыстыя хаўтуры няшчаснага рэзаніка. Усялякія заняткі ў установах забараняліся; савецкія служачыя мелі загад явіцца на хаў-

турную працэсію. І дзень задаўся добры: сонечны і цёплы.

Абдзіраловіч прачнуўся вельмі позна, а ў радасным настроі. Не піўшы гарбаты, сеў ён, хацеў хутчэй напісаць Сакавічанцы пісьмо, з добрымі навінамі аб іх справе, і таксама бегчы туды. Не загаду баяўся, а самаму карціла падзівіцца на гэтыя хаўтуры. Учора не трапілась пагаварыць з Васілём аб смерці Карпавіча, неяк не насмеліўся ён пачаць аб ёй гутарку, а хацелася ведаць, як той думае, дык цягнула да яго.

Васіль быў учора смутны, але на гэта ў яго шмат прычын,— не дзіва.

Абдзіраловіч жа прачнуўся вот спакойны і нават трошку вясёлы. Сам сабе здзіваваў, што ўчора ніяк не мог абдумацца, уцяміць усё чыста, а сянні як агледзеўся, дык і думаць няма чаго: усё добра... Праўда, яшчэ мітусіўся абраз налітага крывёю Гарэшкі, ды гэта здавалася нейкай няпраўдай, плыло як ува сне, як у тумане. Гэта не тое, што важна для яго. А для яго важна, што выпусцяць добрага, слаўнага Міколу і ён зараз напіша аб гэтым Сакавічанцы.

Як глыбака адчуваецца радасць пасля гора! Як цяпер люба глядзець на сонечнае вяселле ваконных шыбаў і залаты стоўб пылінак, што йграе ад іх — да зямлі. А як было прыкра!

Гэта ж яшчэ ўчора сядзеў тут і казаў такое нядобрае капітан. І ўчора бег ён сам з тым запыханым чырвонаармейцам шукаць ратунку ў Васіля. Знайшлі яго ля кватэры, на вуліцы. Стаяў Васіль пад дрэвам, прыхінуўшысь к загарадцы; схаваўсь у цямноту ад святла лямпы з нечыйга вакна — і ў нейкай задуме, у вадзінокай засмучонасці глядзеў на неба, на зоркі. Але маладзец Васіль!

Адразу пакінуў сваю засмучонасць і аж шыбчэй за іх пабег з імі ў вастрог. Нягледзячы на позны час, дабіўся да памочніка начальніка вастрога, таварыша Кірдзюшкі, і даведаўся праўды. Дай бог здароўя Васілю! Ён так насеў на гэтага Кірдзюшку, што той не ведаў, як адчапіцца, і супакоіў іх, што «арыштаваны Канцавы за чрезвычайнаю камісіяй ужо не лічыцца, а перадалі яго N-му рэвалюцыйнаму трыбуналу,— значыцца, справа яго не страшная, прынамсі, да сценкі не паставяць». Ён сказаў яшчэ, што «вось дзеля таго, што гэты арыштант няважны, яго і пераводзяць у быўшы арэсны дом, а стуль і зусім пусцяць на волю да суда».

Абдзіраловіч дастаў скрыначку з пісьмамі, паперaю і канвертамі, дзе таксама ляжаў яго Георгіеўскі крыж, фатаграфічныя карткі знаёмых і яшчэ свежы барвісты кляновы лісцік, той, што яна падаравала. Узяў яго, паглядзеў, падумаў, адылі пацалаваў. Потым доўга разважаў (з прыкрасцю, што мала, як назло, часу), як звярнуцца да яе на пісьме — «Паважаная? Глыбокапаважаная?.. Ці ўзяць дый проста чыркнуць: любая Іранька! Не, няможна, пакрыўдзіцца, бо адчуе фальш і палічыць за фамільярнасць».

Аж тут пачуўся тупат у перадпакою і ў дзверы нехта заляпаў.

Абдзіраловіч спадзяваўсь, што нясуць гарбату, ды памыліўся: то быў Васіль.

— Даруйце, што не ў пару. Пішаце нешта?

— Ага, пісьмо да той дзяўчыны, што казаў вам.

— Ну, пішыце, я бунтаваць не буду,— сказаў ён і сеў ля столу. Быў яшчэ смутнейшы, чымся ўчора.

— Не, я после дапішу, а цяпер жа трэба йсці на хаўтуры.

— А чый у вас хрэсцік? Ваш? Раней ніколі не хваліліcь. За што вам далі?

— Так сабе, нізавошта.

— Ну, а ўсё ж такі?

— За ўзведкі. Я такі чалавек: пасылаюць — пайду, але сам ніколі не наб'юся, каб мяне паслалі. Так, няведама за што, і ў героі празвялі. Але гэта, казаў той, не геройства.

— Як хто ўважае...

— Чаму так невясёлы, Васіль, а?

— Няма прычыны быць вясёлым, калі ўсюдых адна фальш.

— Э, ці варта прымаць к сэрцу? Я за вайну так атупеў, што да ўсякай фальшы прызвычаіўся,— сказаў Абдзіраловіч і шчупянуўся, што пачуў сябе атупелым (дый то не надта) толькі цяпер, сказаўшы гэтыя няшчырыя словы.

Васіль маўкліва падаў яму сяннішнюю газету, друкаваную чырвоным з чорнымі жалобнымі рамкамі. Буквы пазліваліся, дык мітусіліcь уваччу, а чорныя рамкі здаваліcь сінімі.

Абдзіраловіч прагледзеў колькі радкоў і пачуў сорам і

прыкрасць, бо шмат напісалі там красамоўнае лухты і проста маны пра камуністычную дзеяльнасць нябожчыка.

— Ну, можа, пойдзем на хаўтуры? — ціха папытаўся Васіль.— Ай вы яшчэ не снедалі? Праспалі свой самавар. Дык пойдзем да мяне, я пакінуў яшчэ гарачы.

Абдзіраловіч з агідаю кінуў чытаць, апрануўся, і яны пайшлі.

Радаснае, цёплае святло залівала вуліцы, блішчэла на плінтусовых тратуарах, трамвайных рэйках і вокнах дамоў.

Крамы і ўсё ўсюдых было зачынена, як у свята; з дамоў патроху высыпаў рабочы народ, схадзіўся, гаманіў, строіўся на хаўтуры, быццам салдаты на парад. З Зарэчча і Слабады ішлі кучкамі прыбраныя работнікі з чырвонымі стужачкамі на грудзях; яны прыстойвалі на рагу і грудам чыталі налеплены на сцены цырыманіял пахавання: дзе каму сходзіцца і адкуль і калі выхадзіць.

Ішоў чырвоны батальён з аркестрам музыкі, прамчаўся аўтамабіль з дубовым вянком, зараз мелі пачаць вынас.

Абдзіраловіч хацеў цяпер жа зайсці паглядзець на нябожчыка, ды Васіль не пайшоў.

— Я быў,— казаў ён,— ну што там: стаіць пачэсная варта, і больш нічога. Ахмет плачаць, жаліцца, што века труны ніяк не прыстаець, бо нага сагнутая стаіць высака.

Калі яны прыйшлі на Васілёву кватэру і селі піць гарбату, у гаспадынінай палавіне ўзняўся дзяціны скогат.

— Чэкго ж ты хцэш? Чэкго? — крычала на дзіцёнка радня гаспадыні, бежанка-полька.— Не кшыч, бо вшыстко рувно ніц не мам ці даць, ну! Мільч!

Васіль пачырванеў, схапіў акраец хлеба, адкроіў скібку і пабег.

Абдзіраловіч чуў, як ён за дзвярмі сустрэўся з гаспадыняй і яна быццам пярэчыла, быццам паддавала ахвоты:

— Што пан робіць? Ці ж так можна? Заўжды ўвесь паёк аддасцё Юзіку... Далібог, нам так сорамна, што не ведаем нават, як і дзякаваць пану.

Абдзіраловіч чуў, як яна зашлёпала пантофлямі, а Васіль пабег к дзіцёнку.

З вуліцы даляцела музыка, бубен цяжка вухаў. Працэсія ўжо кранулась ад кватэры нябожчыка. Абдзіраловіч

адчыніў вакно і пачуў засмучона-паважныя і прыгожыя гукі хаўтурнага марша.

Чорны мурашнік людзей з чырвонымі штандарамі, з грознымі напісамі рынуў па вуліцы. Далёка там плыла адчыненая труна з нябожчыкам — на плячах у работнікаў, а следам гутаўся катафалк. Гукі марша ўсё дужэлі і бальней хапалі за душу засмучона-паважным, накованым.

◇ ◇ ◇

## ЛІРНЫЯ СПЕВЫ

Цёмна ў лесе глухім, як у магіле.

Неспакойна трапечуцца лісточкі на бярозах, і трывожна гудзяць макаўкі сасновыя. Нярана ўжо, час а поўначы, а гэта ночка купальская...

Бліснуў аганёк каля чорнага пня. Што тама? Ці грошы заклятыя на зямлю выходзяць, ці, можа, чарвячок купальскі свеціцца?

— Ку-га! Ку-га! Ку-га-га...— страшна раптам заскігатала нешта за балотам у гушчарніку. Ой, што там? Ці русалка на веццю бярозавым гутаецца, ці сава лепавухая зайчыка гукае к сабе, заесці хоча?

Вось цяжка залопала крыллем нейкая птушка ў суччы і ў пушчы знікла. Адкуль яна ўзялася аб такой пары?

Ох, добра,— ветрык свежы падуў. Ківаецца ля дарогі над калюгаю лазовы куст, а там, за ім, нехта чорны выступае... Пень абгарэлы там, ці што яшчэ.

Нярана ўжо, час а поўначы, а дарожка нявідная ўсё цягнецца без канца па цёмным лясу. Калі йшчэ тое поле Залясянскае, а страшна тут аднаму.

Карэнне па дарозе парасло, няможна шпарка бегчы. А чорна ўсё, ані жывой душы.

— Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! — шэпча Янка, узіраючыся ў цемень лесавую; не хоча ён думаць аб нечысці паўночнай, паціху шчупае кійком дарогу перад сабою, ступае нячутна, але каб скарэй. А валасы на лбе мокры і сцюдзёны.

— Дай, божачка, толькі акопы мінуць. Толькі акопы, акопы...

А тыя акопы, знямеўшы, спяць у чорнай цьме.

Каб не мова людская, дык ніхто б і не ведаў, што калісьці тут слаўнае Замчышча князёў Саламярэцкіх было,

жыццё кіпела. Грымелі гарматы, курыўся дым ад пораху, і лілася чалавецкая кроў. А ў святы вялікія хмель-віно ў чарах пенілася, ігралі гуслі-самагуды, пяялі старэцкія ліры, стогн стаяў ад гоману людскога, і многа чаго дзеелася, што ўжо навекі пахавана для пазнейшых часоў.

Высака дзяржалі князі Саламярэцкія знамя зямелькі свае, знамя бела-чорна-чырвонае, не згібалі галавы прад цяжкаю сілай Маскоўшчыны, не хіліліся і прад хітраю прычэпкаю — Польшчаю...

А цяклі часы, упадалі на сілу магутныя, і нечакана ўзнасіліся ўгару непрыметныя, уміралі князі слаўныя, выраджаўся князёўскі род. Памёр маўчлівы сівавусы Мсціслаў, і асталася на ўвесь род адна наследніца — дачушка яго дрыжоная, ненадзейная княжна Ганначка.

Прыгожая яна, як краска божая, а розум дзявоцкі і сэрца мела дзявоцкае...

Моліць бога стары поп, мніх Грыгоры: «Удзяржы ўладу князёў маіх, прасвятлі вочы княжны маей на карысць усіх радзімічаў...»

І гаворыць мніх Грыгоры прыгожай Ганне-княжне: «Ох, ты мае княжна-дзіцянё, божая служэбніца, і падданых сваіх заступніца, слаўная ты наследніца слаўных князёў Саламярэцкіх, не дапускай ты к сабе паніча польскага, княжыча Уладыслава Ваябойскага, не слухай ты соладка-атрутных прамоў спранджыстых настаўнікаў яго, беражы пасад прадзядоўскі і веру сваю святую праваслаўную беражы...»

Слухала папа, не гледзячы на яго, княжна маладая.

І без адказу ішоў ён, стары, маліцца богу ў ціхай царкві, пабудаванай шчэ старым князем Лугквенім.

А княжна Ганна часцей ды часцей да сябе Уладыслава, княжыча Ваябойскага, дапускае, часцей ды часцей яму ў вочы маладыя пазірае...

Не цвёрда стаіць пасад князёў Саламярэцкіх, у апасцы ад лаціны і вера праваслаўная. А ходзяць чуткі — маскоўскі ўладар сваю раць на Літву Рускую паслаў пад старыя муры старога Саламярэцка.

— О божа наш! О княжна мая! — стогне поп, мніх Грыгоры. Няма ўжо яму на што спадзявацца.

Дарма! Усё канец мае...

Сыплецца цэгла, і пыл ідзе над сценамі замчышча, гудам гудзіць пад кулямі маскоўскімі Замкавая Гара, заслаў дым усё поле ваеннае, равуць валы вайсковыя, ірзуць коні літоўскія, гудзяць званы хаўтурныя, льецца кроў...

Плачуць маткі па сынах сваіх, а дзяўчыны плачуць па любых сваіх, туга вялікая агарнула дзяцей Саламярэцка, льецца кроў...

А ў падземным ходзе-лазе з-пад родных муроў-скляпоў у Цёмны Лес нясуць княжну Ганну вусатыя, у кунтушох і з пяром на шапцы, дружыннікі княжыча Уладыслава. Пакідае бацькаўскае гняздо астатняя галінка з вялікага радаводнага дрэва саламярэцкіх князёў.

Незабавам... Вось ужо чутны плескачы і гоман ручая падсцюдзёнага, вось і дуб векавы, а каля яго і ход-лаз падземны на зямлю выходзіць. Як самлела княжна Ганна ў Замчышчы, так і цяпер непрытомна йшчэ. Але патрохупаціху расплюшчыла вочы дзявоцкія, памаленьку, з нудою, усё ўцяміла. Абхапіла ручкаю белаю невялічкай касу доўгую, чорную, што ў дарозе сплуталася, прыціснула да грудак сваіх і слязамі, як каралі добрыя, буйнымі змачыла іх, шэпча сама: «Пасад мой... Уладзя, Уладзя, забарані мяне...»

— Гэ-гэй! Стойце, стойце, патрывайце, ляхі!..— чутна,— задыхаўшыся, бяжыць нехта ззаду. Аж гэта поп Грыгоры. Бяжыць угрунь, вочы гарацъ, белы сам, як смерць, у руцэ святы крыж дзяржыць...

— Ці... ці не... ці не ўнучку славетнага Лугквеня, князя нашага, у стане ляхаўскім віджу я? Ці то праўда, ці то здаецца мне, што заране так княжна Ганна Саламярэцкая з роднага кута ў чужадальнюю старонку ляціць?..

— Маўчы, манах! — прастагнала княжна.

— Няможна маўчаці мне, што не маўчаў пад гром гармат і кульны свіст на маскоўскіх і польскіх палёх з князем Лугквенім і сынам яго Мсціславам, няможна мне маўчаць і прад іхным дзіцёнкам... Куды бяжыш, княжна? Яшчэ моцны муры саламярэцкія, не паломаны паркан замковы, яшчэ ёсць гарбузы і арэшкі на маскоўцаў у скляпох нашых, і не гнуцца шчэ нашы людзі, княжна! Многа скарбаў дзядоўскіх захована ў нас, немалы шмат золата і каменняў драгацэнных у святынях нашых,— адкупімся ад Маскоўшчыны, а не пабяжым шукаці помачы ў лацінікоў, куды дзяды нашы не бегалі і нам заказалі...

— Манах! Маўчы! Уладыслаў мой любы абароніць наследдзе бацькоў маіх...

— Абароніць... Княжна, княжна! Так абароніць, што парушацца косці князёў нашых у трунах і попел іх разляціцца. Ня хочыць Польшча Русь Літоўскую сястрой роўнай лічыць, дык ня будзіць ні Літвы, ні Польшчы, а

будзе магутная бесканечная Маскоўшчына. Гора нам! Не бяжы, княжна! Адкупіся пакуль што ад маскоўскіх ваявод, а там што бог святы дасць. А пакінеш Саламярэцк цяпер,— не будзе ўжо, не будзе нашага незалежнага Саламярэцка...

— Не... гэй, хлопчэ, гукні дружыну, вядзіце коні... Ступай, Грыгоры!

Страшны стаўся поп сівы. Высака ўзняў святы крыж, падняў рукі і на калені зваліўся. Балюча паглядзеў услед княжне Ганне і на неба зірнуў.

— Божа наш! — крыкнуў ён.— Судзі нас, судзі мяне... Канец нам. Наша княжна пакінула нас, сплутала з Польшчаю і Маскве аддала. Вун склычыліся ў бягні валасы яе, дык ніхай жа расклычыць іх. Ніхай расплутывае, аж пакуль і мы з Масквою ды Польшчаю расплутаімся...

Задрыжэла зямля, полымя шуганула са ўсіх бакоў, пад грукат гармат і стогны байцоў шухнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю наскрозьдоння...

Прайшло многа вякоў, і толькі акопы, старыя акопы — сведкі старадаўшчыны, асталіся. А ў ночку таёмную купальскую чутны там званы грухія, жалобныя, і грукат гармат, і енкі скалечаных, і спевы манастырскія, і дзявоцкі плак няўцешны.

Страшна тут, а йшчэ далёка Янку да поля таго Залясянскага, а вось-вось і акопы старынныя.

— Гру-гу-гу...— усхапіўся вецер, і захістаўся лес, завыў, застагнаў. Падгібаюцца ногі ў Янкі, і відзіць ён воддаль дарогі каля глаўнейшага акопа чырвонае нешта: ці маладзік усходзіць там, ці агонь гарыць, можа, цяпло хто расклаў.

— І васкросніць бог, і разбягуцца ўрагі яго...— чуць кратаючы сухім языком, зашаптаў Янка, і цяпло стухла на міг. Але раптам асвяціўся лес; зірнуў Янка — скрынка вялікая стаіць, на ёй дзяўчына валасы чэша, ды ніяк расплутаць не можа, а па баках яе два чорныя сабакі на ланцугах рвуцца.

Хацеў Янка пераксціцца, ды загледзеўся ён на дзяўчыну, шкода яму стала яе.

Маладая, белая, прыгожая, толькі вочы хавае, а слёзы буйныя, як раса ранняя, па шчаках цякуць. Косы, як вужакі, абхапілі галаву і грудзі, і часам як агонь ад іх пыша.

— Расляці-і мне, расляці-і мне... Усё, усё табе аддам, навекі шчасліў будзеш, а сабак, слуг маіх верных, не бойся. Ой, пашкадуй ты мяне, расляці ж, расляці мне косы мае, о-о-о!..

Закалацілася сэрца ў Янкі, падышло пад горла ад жалю, і слёзы накруціліся.

А сабакі так і гаркочуць, так і выскаляюцца, агонь з рота пыша, а зубы што кляцы жалезныя.

Расперазаў Янка свой чырвоны пояс: «Ніхай крапчэй сабак прывяжыць»,— падумаў і кінуў княжне маладой.

Загрымела скрыня, зазвякалі грошы ў ёй, як шалёная: «Ой! баліць!» — крыкнула княжна, быццам той пояс агнём пекануў яе.

— Зачапіў ты мяне, а не вызваліў, буду я мучыцца яшчэ столькі,— заплакала яна жалобна і злосна,— будзь жа ты пракляты, як проклята я! — дабавіла і знікла пад зямлёю са скрыняю, з сабакамі і з поясам Янкі...

Знямеў Янка.

А ўжо чорна наўкруг, як і раней, лес шуміць, забліпічэў скора і просвіт поля Залясянскага.

Чыя ліра плакучая, чыя чутна там каля цвінтару мураванага пад старой ліпінай дупліністаю? Што гэта за старац сляпы з белымі, як воўна белая, валасамі і мутнымі невідушчымі вачамі іграе там? хто ён гэты, што пяе аб княжстве саламярэцкім?

— То Янка Пракляты.

Адкуль ён, хто ён — ніхто не ведае ў тутэйшых мясцах.

А калі запытаюцца ў Янкі людзі:

— Гдзе ж твая, дзед, радзіна?

— У бога,— сумна і паважна адкажа ён.

— А ці меў жонку, дзед, а дзеткі ці ёсць?

— Пахаваў жонку, пагарэлі на пажары дзеткі, пагарэла дабро, і хатка, і конікі, і кароўкі, і ўсё. А зямелька неўрадліва мая...

— Які ты жалобны, дзядуля,— скажуць яму, а ён паводзіць прад сабою невідушчымі вачамі, падтрахне хатыль на плячах, ліру абправіць, крэкне:

— Дзякуй богу за ўсё, усё пад ім, а ён адзін бяссмертна над намі,— і пад ліру сваю старэцкую запяе сумную-сумную песню аб княжне Ганне Саламярэцкай, і аб часах

Літоўскай Русі, і аб уладарстве князёў саламярэцкіх над радзімічамі.

Плача ліра, і плачуць бабулькі ўбогія, і маладухі, і прыгожыя дзяўчынкі...

## У 1920 ГОДЗЕ

**(Апавяданне народнага чалавека)**

Дзеля важных патрэб нашай народнай справы я перахадзіў увосень 1920 года польска-маскоўскі фронт і адну ноч быў у нейтральным пасе.

У запэцканай і затхлай каморцы заезнага месцячковага двара праспаў я не меней як гадзін пятнаццаць узапар і прачнуўся ад гоману двух мужчынскіх галасоў у сумежнай каморцы. Мяне аддзяляла тонкая драўляная адгародка, і ўсю размову было ясна чуваць. Аднак, заняты цяжкімі думамі аб сваім прапаўшым праваднiку, я доўга не звяртаў на гамонячых ніякае ўвагі.

Сон мой быў трудны і кашмарны. На запыленым шкле маленькага вакна, дачакаўшага ўрэшце некалькі жоўтых косак захадзячага восеннага сонца, беспярэч білася, звінела і памірала адзінае жывая муха, і з яе кавэнчаннем звязаўся мой сон, поўны ўспамінаў аб учарашнім пераходзе маскоўскага фронту.

За невялікія гоні ад нейтральнага пасу мы трапілі пад абстрэл і мусілі дзве бясконцых, вечных гадзіны ляжаць у балоце між купніку.

Праваднiка майго, селяніна з бліжэйшай вёскі, свядомага, адданага ўсёй душою нашай справе чалавека, калі ён, пакінуўшы мяне ў вадзе, папоўз на бераг у разведку,— схапілі чырвонаармейцы-маскалі і, б'ючы прыкладамі, пагналі ў свой штаб. Мы разлічалі, што ён сустрэнецца з чырвонаармейцам-беларусам, які пры маім першым пераходзе памог мне пераправіцца. Але іх, відаць, ужо змянілі, рахуба наша не спраўдзілася, і чалавек прапаў.

Думка аб ім цяпер страшэнна мучыла мяне.

Я хаваўся ў яго хаце, ідучы на ўсход, цэлых тры дні; пазнаў яго сям'ю; прывязаўся к яго дзеткам, якія міла дэкламавалі мне «Адвеку мы спалі»,— і вось цяпер прадстаўленне аб наступіўшым для іх сіроцтве мучыла мяне, атручала маю радасць, што сам уцёк з-пад вока маскоў-

скае старожы і копіі ўсіх важных пастаноў Глаўнае Рады нашых усходніх арганізацый, зашытыя ў падкладцы пінжака, вынес сюды цэлымі (пальто кінуў у балоце).

«Што цяпер падумае Аўдоцця аб народных людзях, пагубіўшых яе мужа? А яна ж гэтак старалася прыслужыцца мне, гэтак пільнавала накарміць мяне ўсім чыста лепшым, што толькі было ў іх, каб хоць гэтак паказаць сваю бабскую спагаду «народнай справе». І вось я, «важны народны чалавек», як яна з пыхаю хвалілася сваёй матцы, я мімаволі зрабіўся прычынаю яе вялікага гора».

«Каб толькі не расстралялі, а там неяк удасца яго вызваліць»,— не выхадзіла ў мяне з галавы думка аб праведніку.

А расстраляць яго маглі, бо ўжо мелі на падазрэнні як «беларускага верхавода» сярод акалічных сялян, варожа настроеных супроць маскоўска-бальшавіцкага наезду.

Быў у мяне і другі клопат: трэба яшчэ перабрацца цераз польскія заставы, надта ласыя да грошы і спатвораныя спекулянтамі, беспярэч вольна пераязджаючымі фронт.

А грошы ў мяне засталося мала: дзесяць тысяч савецкіх рублёў, адна царская пяцісотка і дзвесце польскіх марак.

Я разважаў: ці здаволіцца польская варта на фронце пяцісоткай і ці можна рэшту грошы пакінуць гаспадару заезнага двара, каб пераслаў сям'і праведніка?

У гэты момант гоман за сценкай павялічыўся: там таксама спаміналіся царскія, думскія, савецкія, польскія...

Спачатку мне здавалася, што хваляцца адзін аднаму сваімі грашавымі аперацыямі спекулянты, якіх поўна было на заезным двары па дарозе з Вільні ў Менск і з Менску ў Вільню.

Але я ашукаўся.

— І вось, браце мой мілы,— казаў адзін з гаманіўшых,— вырваўся-ткі я з гэтага пекла, а разам і ад сваіх каханак.

— Ну, а як жа твая школа? — спытаўся ў яго сябра.

— Школа?.. Хай яна згарыць. Цэлае лета не мог выехаць, мусіў то пры ёй сядзець, то ездзіць на розныя курсы і з'езды па народнай асвеце. Наастатак адвялі мне так званую школьную дзесяціну, і каб я на ёй сам рабіў ды яшчэ й мужыкам паказываў, як і што належыць па-культурнаму. А тут жраць няма чаго, прыладаў земляробскіх

ніякіх не выдалі... Пальцам я буду зямлю капаць, ці што? Узяў і ўцёк у Польшчу, хай яны згараць з сваімі парадкамі!

— Так... Ну, а як жа цяпер твае каханкі?

— З імі чыстая бяда, браце мой мілы.

— Плачуць па табе?

— А хвароба іх ведаець! Справа не ў плаканні, а ў тым, што наастатак прыціснулі мяне ў кут, каб жаніўся. Ці ймеш веры? — мусіў хавацца ад мужыкоў. Выхажу я ад аднэй, а бацька другой пільнуець, каб мяне злавіць і ўзяць, казаў той, на цугундзер...

— Як жа ты гэтулькі іх разам меў? — смяецца другі сябра.

— Як? — тут завядзеш хоць сотню, калі жраць няма чаго. Ты разумееш: савецкага жалавання вучыцелю хапаець на якіх пяць хунтаў хлеба. А мужыкі зажырэлі, цэлыя мяхі набілі грош,— вучыцелю ж ці там на школу каб хто даў — то ні кап'я! Па старай памяці: школа казённая, дык палена дроў ніхто не дасць клясу пагрэць,— казна павінна даваць. Вось як яны гавораць. Віджу я, што трэба зусім прапасці або пайсці на якія хітрыкі. Ну і пайшоў. Зайду к аднаму гаспадару, дзе ёсць нішто сабе дзявуля, і пачну дурня ламаць, і пра каханне, і пра вяселле, і пра тое, што ўсе цяпер роўныя, дык вучыцелю не грэх і з добраю сялянкаю пабрацца... Развесяць яны вушы, думаюць: «А можа, й праўда, ажэніцца з нашай курноскай?» І ну мяне частаваць, і ну мяне падкармліваць, тут табе і сала, й сыру, і ўсякага ліха...

— Якога ж ліха?

— Вядома, якога: доўга ж бакі забіваць не ўдасца, трэба канчаць або ўцякаць. Пакручуся, пакручуся і пачынаю камедзь — гуляць з другою, потым з трэцяю. І так развялося іх у мяне ў нашай акрузе дзесяткі два. Дайшло да таго, што не магу носу нідзе паказаць: бацькі ловяць, прыстаюць, калі ж вяселле думаю рабіць? Дзеўкі паміж собку сварацца, тая на тую зводзяць, аслаўляюць, на мяне наракаюць. Адным словам, зрабіўся я быццам заводскі бык на скотнай ферме, раданькі сабе даць не мог.

— Але ж выкруціўся?

— Насілу, браце мілы! Адна гарачая не ўдзержылась і зацяжэла. Прыходзіць штонядзелечкі да мяне з бацькам ці з маткаю, прыступаець з нажом к горлу: жаніся! Плача, галосіць, то просіць, то пагражаець у савет пажаліцца.

— О, то гэта ўжо не жарты!

— Якія, чорта, жарты... Пажаліўся-ткі бацька на мяне ў савет, што дзеўку звёў, а жаніцца не хачу. Гукаюць мяне, раба божага, на пакуту. «Што ж вы, таварыш настаўнік, робіце,— кажа камісар,— мы вас прымусім з ёй жаніцца».— «І прымушаць,— кажу,— не трэба, таварыш камісар, хай хоць зараз ідзець да мяне ў жонкі». Камісар мой і асекся. «Чаго ж яны жаляцца?» — «Не ведаю,— кажу яму,— мабыць, хочуць царкоўнага вянца, а я хоць беспартыйны, але камуніст у душы і прызнаю толькі вольнае сужыццe з жанчынаю». Няма яму чаго казаць, відзіць, што наскачыла каса на камень...

Субяседнікі парагаталі, потым на нейкі час змоўклі, як бы прыслухаліся да маей сценкі.

— Як чалавек захоча спаць, то й гоману не пабаіцца,— пачуў я голас вучыцеля,— дый не так жа мы галасна гамонім,— дадаў ён.

— Гаспадар папераджаў, каб цішэй былі: там спіць нейкі праезны пан.

— Ат, нічога...

Яны нешта пілі, можа, ханджу, і заядалі драчонамі, хвалячы іх, курылі дужа смярдзючую табаку, харкалі, плявалі, шарпалі нагамі і за гоманам не чулі, як я асцярожна адчыніў фортачку і пусціў у камору свежае паветра . За вакном на сцяне пуні яшчэ стаяла астатняе сонца. Дзесь збоку тупаў конь, і зрэдку далятаді галасы — гаспадара-крамніка ці яго і якога-небудзь мужыка. Потым усё сціхала на даўгі час, дзеля таго, што ў будні дзень сяляне ў мясцечку рэдкія госці.

— Ну, а як жа, браце мілы, ты? — спытаўся той, што ўцёк з-пад бальшавікоў. Ён быў у радасным пад'ёме, толькі што пераказаўшы, як за малы хабар бальшавіку шчасна перабраўся цераз фронт, а жыдоў, што йшлі з ім разам, злавілі і павялі ў штаб.

— Я? — перапытаўся акупаваны Польшчаю, набраў паветра повен рот і шумна выдыхнуў, відаць, рыхтаваўся гаварыць з прыемнасцю й падробна.— Я «прымазаўся» да беларусаў, дастаю паёк у беларускай вайсковай арганізацыі і пакуль што — гора ўкрай! Цяпер прыехаў вось сюды вербаваць ахвотнікаў.

— Чакай,— перабіў вучыцель,— то, можа б, ты й мяне завербаваў. Што для гэтага патрэбна? Я тожа беларус.

— Анічога,— адказаў яму вярбоўнік,— толькі язык прыйдзецца трохі паламаць...

— І ўсяго? Дык мне гэта не страшна, з каханкамі я толькі па-беларуску й гаманіў.

— А пісаць па-беларуску ўмееш?

— Спрабаваў. У нас пайшлі былі пагалоскі, што будзе Беларусь, дык прыйдзецца ў школах навучаць па-беларуску. На з'ездзе ў Гомелі загадчыкаў народнае асветы штось такое пастанавілі, але прыказу вучыцялём ніякага не было, дык я і кінуў. Я нават літаратуру беларускую трохі знаю. Чуў ты калі «Тараса на Парнасе»?

— Не, а што гэта за штука?

— Ну, слухай:

Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў,—
На Пуцявішчы, ля Панаса,
Ён там ля лазні блізка жыў.
Што ж, чалавек ён быў рахманы,
Гарэлкі ў губу ён не браў...

— Стой! — спыніў яго афіцэр.— Дык ты ў нас зараз дзеячам беларускім будзеш. Я, прызнацца, не шаную гэтай мовы: дык, няхай, чаго... адно свінства!

— А як жа ты вярбуеш? Трэба ж, мабыць, агітаваць за Беларусь?

— Ха-ха-ха! — зарагатаў вярбоўнік.— Вы там прымаеце ўсё ўсур'ёз і думаеце, што мы сапраўды робім тут якуюсь Беларусь! Гэта ж адна камедзія, каб палякі давалі пайкі і грошы. Якога чорта я завярбую, калі ніхто із мужыкоў не пішацца. Сам народ не хоча ніякай Беларусі.

Вучыцель у адказ маўчаў, мабыць, не згодзіўся з паглядам сябра.

— Ну, не, браце мой мілы,— сказаў ён, памаўчаўшы,— мне здаецца, што яна будзе. Надта ж пільна некаторыя ўзяліся за гэту справу. Ты ведаеш, што нават у нас там завяліcь цяпер такія заядлыя беларусы, што скажы яму наўпроці хоць бы жартам, руку не будзе падаваць.

— Дык і ў нас хапаець падобных ідыётаў, але ж мы з іх толькі пасмяхаемся. А што яны зробяць без войска?

— Што войска? Цяпер і з войскам рады не дасі. З аднаго боку бальшавікі, з другога палякі. Але я ведаю добра, што беларуская агітацыя страшэнна шырыцца. У нас увесь народ за беларусаў, хоць другі дагэтуль і не ведаў, што ён таксама беларус. За беларусамі цяпера пойдзець кожны селянін, бо ад іх толькі ён і спадзяецца добрага.

— Дык чаму ж ты яшчэ не ў беларусах, гэткі гарачы? — насмешліва і нездаволена спытаўся афіцэр.— Як

будзе адзіная недзялімая Расея, то я й цябе адным заходам пастараюся павесіць.

— Мабыць, я гэта прадчуваў, затое вось высцерагаўся,— жартам адказаў вучыцель.— А ўсё ж ты мяне завярбуй у сваё беларускае войска па старой дружбе.

Тут гутарка субяседнікаў узбілася на ўспаміны аб іх даўнейшай службе ў адным палку, і я перастаў іх слухаць.

У дзверы маей каморкі пастукалі. Прыйшоў з таёмным відам гаспадар, а з ім разам падводчык віленскіх жыдоўспекулянтаў.

Гаспадар памог мне ўмовіцца на падарожжа з забяспечаным пераездам цераз польскую лінію за 2000 польскіх марак (з выплатаю ў Вільні).

За паўгадзіны фурманка была гатова, і я выехаў у кампаніі трох спекулянтаў, так і не ўвідзеўшы падслуханых мною сяброў.

## ФАНТАЗІЯ

Клубок Зямлі, агорнуты крывавым туманом і згараючы ў ім, рабіў свой вечны шлях у сістэме Сонца.

Найгусцей прыпаў туман на прасторы Беларусі.

Пад гулкі грукат гармат, траскатанне стрэльбаў і кулямётаў, пры водбліску страшных пажарышчаў раздаваліся дзікія воплі і балючыя стагнанні забіваных, рэзаных, паміраючых з голаду людзей.

Могілкі і турмы перапоўніліся. Грэх спавіў кожнае сэрца. Крывёю і слязьмі пазаплывалі вочы.

Сцені памёршых продкаў у смяротнай нудзе стаялі над распятай краінай і адварачываліся ад сваіх затопленых смуроднаю запечанай крывёй магілак.

З расцерзаным да краю сэрцам вялікага гуманіста вылез упоцемках з няведамай патомкам ямы пануры Францыск Скарына і падаўся ў начавым паветры да свайго радзімага Полацка.

Даўгія, шырокія полы мантыі доктара лекарскіх і вызваленых навук развяваліся ад ветру, а яркі арэол наўкола сумнай галавы то разгараўся, то змяркаў.

Пралятаючы над слаба асвятлёным дзеля боязні аэра-

планаў Менскам, сцень доктара шукаў вачмі таго шпіталю, дзе ляжаў пры смерці хворы з галадухі Янка Купала.

Пабачыўшы над цёмным домам ззячую кружэлку арэолу песняра, сцень спусціўся ў ціхую палату і стаў над сваім нядужым сябрам.

— Як маешся, мой браце? — без слоў спытаўся доктар у стагнаўшага паэта.

Хворы з трудам заварушыўся і сумна паглядзеў на гуманіста.

— Не мукі цела страшны,— прачытаў Францыск Скарына ў кроткіх галубых вачах,— баліць душа.

— Лячу ў Полацак, хачу даведацца, што цяпер там? — сказаў цераз невялікае маўчанне доктар.

— Скрозь адно... Што тут, што ў Вільні, што ў Смаленску і скрозь на Бацькаўшчыне мілай...— пакратаў перасохшымі ад смагі вустамі паэт.

Доктар засмучона схіліўся галавою да грудзей і доўга так стаяў.

— На сход! — сказаў у непрытомнасці Купала і збудзіў ад чорных дум панікла сцень.

— Каму і на які? — азваўся рэхам сцень. Памаўчаў і прамовіў горка:— Магутны кліч твой раздаецца ўжо даўно — і скрозь, ад краю ў край, па Беларусі... А шмат з'явілася? Народ за доўгія вякі няволі аглох і зрабіўся нячулым.

— Што рабіць? — ізноў, як у гарачцы, застагнаў Купала.

— Што рабіць? — перапытаўся доктар,— тое, што ты і робіш. Але каб зразумеў народ наш паспаліты патрэбу сходу, ці не сабрацца спачатку толькі нам, будзіўшым яго на дабро ўсе вякі і кожны час?

— Добра...— прашаптаў паэт і сціх.

Сцень вылецеў з палаты і не падаўся далей к Полацку, а павярнуў назад к Ашмяншчыне.

Здалёку ўвідзеў ён на могілцы ў Жупранах вялікі яркі арэол народнага баяна.

Францыск Скарына спусціўся ля касцёла і чыркнуўся няўмысля палою мантыі аб спячага п'янога легіянера.

— Пся крэў! Холера! Быдло бялорускe! — закрычаў патурбаваны доктарам жандар, а яму рэхам адазваўся з-пад зямлі жудасна-балючы стон бацькі адраджэння.

— Не стагні, мой браце любы! Барзджэй бяры ты сваю «Дудку» й «Смык», пойдзем на сход склікаць! — сказаў яму замест прывітання доктар.

З магілы ўзняўся сцень вусатай постаці.

— Засіпла мая дудка, а смык не маець скрыпкі...— безнадзейна пажаліўся Багушэвіч і дадаў, падумаўшы аб сваёй музе:

Каб ты так іграла,
Каб немарасць брала!..

— Твая «Дудка» грыміць, мой браце, на ўвесь край, а да «Смыка» дарабіла ж «Скрыпку» Цётка. Пойдзем зараз у Лідчыну на той вясковы могільнік, пабудзім на сход найперш яе, бо гэтая руплівая сяброўка склікаць умее найлепш за ўсіх.

І два сцені паляцелі побач у Лідчыну.

Поўная запалу і энергіі, хаця худзенькая і бледная, ляцела ўжо сама да іх пяснярка і паэтычна, ціханька пяяла ў адказ на свае думкі:

Можа, хто з дзетак скруце жалейку,
Унучку паломанай ліры.
І так заіграе, што ўсенька зямелька
Пачуе мой одгалас шчыры...

— Ах, браточкі-галубочкі! — загаманіла яна без дальніх слоў.— Трэба так: адзін на ўсход, другі на захад, а я з тым-сім паклічу тых, што спачываюць на чужыне,— і зараз панясласся.

Неўзабаве сцені памёршых і духі жывых сцякаліся на свой Парнас з усіх бакоў.

Пакашліваючы, брыў з далёкай Ялты калматабровы Максім Багдановіч. Спяшаўся, як заўсёды, з Галіцыі, з сваей магілы ў Закапаным, запыханы Іван Луцкевіч. Глабаўся з-пад груду трупаў брацкай магілы ў Коўне Лявон Гмырак. Шыбка йшоў у хутры і ў зімовай сібірскай шапцы з Кракава даўгі Алесь Гарун. Важна і спакойна пасуваўся з Меншчыны пан Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Як непрытомны прыбліжаўся з Кіева празрыста-белы Сяргей Палуян з сінім шнурам на шыі... Прысадзіста калдыбаў разважны каранасты Карусь Каганец. Там ішлі яшчэ й другія.

А клубок Зямлі, згараючы ў крывавым тумане, ляцеў а ляцеў сваім вечным шляхам, як бы нічога не было.

# АПОСТАЛ

Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі...

Гарачы камуніст, а даўнейшы прыхільнік беларускага руху таварыш Курапа (партыйная клічка Жабін) з агідаю пакінуў клумнае, пыльнае і галоднае места і паехаў усведамляць вёску.

Ён заўсёды казаў на мітынгах і на розных зборках, што не вёска вінавата, а той, хто мала рупіцца аб яе ўсведамленні.

— Дык трэба, таварышы, ехаць на вёску!

Курапа добра ўмеў па-беларуску, вось жа, як толькі Чырвоная Армія дала магчымасць ізноў раз абвесціць незалежную Савецкую Беларусь, ён зараз апынуўся інструктарам аддзела так званага «ўпраўленія» і дастаў камандзіроўку на правінцыю.

Набраўшы чырвонае літаратуры на ўсіх краёвых мовах, апрача беларускае, бо літаратура ў гэтай мове яшчэ лічылася да той пары контррэвалюцыйнай выдумкай беларускіх нацыяналістаў, разлёгшыся на пахучым, але запыленым сене з дзікай сенажаткі беднага гаспадара, ехаў ён на парцы стайковых коні па Ашмянскім тракце і любаваўся на прыгожую, ціхую, задуманую прыроду беларускага лета.

Каб развеяць думкі, камуніст звярнуў увагу на свайго вазніцу.

Той маўкліва кіраваў коньмі і часам неяк дзіўна чмыхаў, як бы нездаволены, але не аглядаўся на свайго простага пана.

«Якая, аднак, чыста буржуазная чырта ў спосабе рассаджвання фурмана і падарожнага,— падумаў з знаёмым асадкам ёлкасці таварыш Жабін.— Ён, як быццам якое ніжэйшае стварэнне, сядзіць спераду, а я, камуніст, быццам які пан, сяджу адзаду...»

— Давайце, таварыш, сядзем побач! — крыкнуў ён фурману, але той сярод грукату калёс не пачуў і толькі лішні раз, як здалося камуністу, дзіўна, па-свойму чмыхнуў.

Тады Курапа ізноў аддаўся развагам. Спачатку ён трохі ўсцешыўся, што ў яго голаў прыйшла такая важная ідэя — садзіцца на фурманцы побач з фурманам. Але радасць была нядоўгая. «Гэта ж я мог сесці побач яшчэ ў месце, адразу»,— сцяміў ён.

Нудна.

Ужо месяц, як Курапа кінуў курыць дзеля страшэннай дарагоўлі на табаку і дагэтуль даволі стойка цярпеў і не паддаваўся спакусе, добра знаёмай толькі адным курцам. Аж тут, сярод бязлюднага, ціхога, задуманага поля, на вялікай пыльнай дарозе, папіроса і дымок ад яе стаялі ўваччу як здань незвычайнай прыемнасці.

— Таварыш, вы курыце? — троху мацней крыкнуў Жабін, каб на гэты раз хурман пачуў яго. Потым паправіўся і паўтарыў цішэй: — Вы, таварыш, паліце?

Селянін не пачуў і на гэты раз. Ён узноў па-свойму чмыхнуў, але назад не павярнуўся.

— Як вашая фамілія? — яшчэ мацней запытаўся ў яго камуніст і, узняўшыся на руцэ, другою крануў яго за плячо ў шэрай густа запыленай світцы.

— Я адзінокі,— адгукнуўся ўрэшце хурман і збоку паказаў сваю даўна няголеную сівую шчаціну і падрэзаны, сіва-жоўты пад носам вус.

— А як прозвішча?

Хурман памаўчаў, быццам муліўся: казаць ці не, але ізноў павярнуў трохі галаву і пад сціхаючы грукат воза адказаў:

— Я пішуся без прозвішча, па бацьку... Янучонак. А людзі празываюцца: Шашок.

— Каталік ці праваслаўны?

— Мы польскія.

І ўзноў чмыхнуў.

Заглядаючы на хурмановыя вусы, Курапа ўпэўніўся, што той займаецца курэннем. Дык падзівіў, чаму так доўга ён не курыць, але папрасіць табакі саромеўся і хаця з вялікаю натугаю, а змоўчыў.

— А як пана назвіска?

Крыху падумаўшы таксама, камуніст каротка й без асаблівае прыемнасці назваўся:

— Жабін... інструктар.

Хурман добра пачуў і весялейшы адгукнуўся:

— Струкар — то, пэўне, імя рускае, бо ў нас гэтківх няма. А пан Жабінскі быў у нас...

Курапа счырванеў.

— Далоў паноў! Іх трэба біць, як сабак. Правільна, таварыш? — крыкнуў ён над самым вухам хурману і з палёгкаю падумаў: «Ланцуг пррыкррасці тррэба рра-здзіррарць адрразу».

— Правільна,— пакорна згодзіўся хурман.

На гэты раз Курапа не ўцерпіў, дастаў з кішэні кава-

лак змятай паперкі з газеціны, нацёр з лісткоў сена дробнай цяртухі і стаў круціць цыгарку.

Коні неўспадзеўкі смарганулі, і ўсё рассыпалася.

Селянін быццам духам чуў, што той робіць. Агляднуўся, нявідна ўсміхнуўся пад нос сабе і палез у кішэню, перастаўшы кіраваць коньмі.

— Я дам пану закурыць.

— Будзьце ласкавы, таварыш! Хоць дарма вы зневажаеце мяне панам. Я такі ж самы пралетарый, як і вы. І наагул слова «пан» цяпер зусім непатрэбнае.

— Выбачайце: вядома, як мы цёмныя...

Адзін конь меў патрэбу стаць і на нейкі час стануў, і яны круцілі кручонкі з фурмановага кісета. Селянін маўчаў і перастаў чмыхаць.

Калі ж коні рушылі, а яны з салодкасцю задымілі, селянін падсеў бліжэй да падарожніка, павярнуўся бокам і, не гледзячы на яго, без асаблівае на від увагі загаманіў сам:

— Нам бы, таварыш, ксяндза скуль параілі. Ксяндзы з палякамі паўцякалі. Людзі родзяцца, уміраюць, а мы не ведаем, што з імі рабіць.

«Вось яна, справядлівасць маіх думак і паглядаў на вёску. Места арганізуецца. Людзі таўпесяцца па розных новаспечаных установах. Робяць «работу» — пустую, непрадуктыўную... Пагнаў бы ўсіх іх, чарцей, на вёску, усведамляць яе, рэвалюцыянізаваць...»

Так разважаў Курапа, мяркуючы: ці дужа войстра, ці мякчэй троху сказаць пра ксяндзоў.

— Цяпер можна і без ксяндзоў, таварыш.

Той злёгку і з невыразным змыслам усміхнуўся, адвярнуўся болей да коні, чмыхнуў на іх. Калі пабеглі трухам, ён, дакурываючы, сказаў:

— Без іх няма як... вядома, людзі родзяцца, уміраюць, што з імі рабіць?

Камуніст з жаласцю і пагардаю паглядзеў на пахіленае тулава гаспадара і нічога яму не запярэчыў.

Уз'ехаўшы на ўзгорак, увідзелі ў лагчыне хаты й хлявы сярод зеляніны дрэў. Селянін уздыхнуў, а Курапа абдумываў, што зараз будзе казаць сабраным людзям.

Вёска не праяўляла ніякіх знакаў жыцця. Яна, яе драўляныя, нізкія, пад саламянымі стрэхамі будынкі, таксама, як і поле, былі ціха-задуманыя ці нават бяздумныя, маўклівыя, шэрыя.

Пуста й бязлюдна было на вуліцы. Вось нехта вытырк-

нуўся з-за рога пуні на грукат хурманкі і ўзбіўся вачыма на яго, чужога, у чорным, мястовага. Боўць! — адным махам знік за пуняй і прапаў там бясследна.

Супроць адной з лепшых на пагляд хатаў хурманка па загаду Жабіна станула. Камуніст выскачыў і хадзіў ля плоту, каб размяць замлелае цела і лепей разгледзець, што дзеецца ў канцах вуліцы, ці збіраюцца людзі. Хурман, зачапіўшы повад за кол у тым жа плоце, пайшоў на двор — аправіцца і папрасіць вядро. Як толькі ён зачыніў за сабою фортку, з хлева высунуўся дзед і маніў яго да сябе рукою.

— Шашок! Шашок! — шаптаў дзед.— Ідзі сюды, каб на цябе трасца, якога там чорта камуністага прывёз?

— Нех бэндзе пахвалёны...— падаў дзеду руку невясёлы Шашок.

— На векі векаў,— адказаў дзед і той час прыстаў ізноў з дапытамі: — Ну, ну?

Шашок, схаваўшыся ў пуню, пераказаў усё, што ведаў.

— Якісь камітэт хоча рабіць,— скончыў ён.

— А каб іх паляруш з камітэтамі,— вохаў дзед,— зраквізавалі й майго каня з мальцам у работу. Два тыдні ганяюць, а тут жніво, касавіца. Палякі заганялі...

— Папросту гаворыць,— усміхнуўся Шашок.

— Каб не пазналі, падлу,— злаяўся дзед.

Калі хурман выйшаў на вуліцу з вядром, Жабін нездаволена кінуў скрозь зубы:

— Дзе вы столькі прападалі?

— Шукаў, шукаў, няма нікога, усі ў полі.

Як коні былі напоены, Жабін неўспадзеўкі для хурмана скамандаваў: «Вязі на поле!»

Толькі яны завярнулі за гумно, нейкі верхавы на злом карку кінуўся з-за стога саломы к лесу. Камуніст інстынктыўна схапіўся за похву рэвальвера.

— Хаваюць коні ад «учоту» ў лес, а я вазі ды вазі,— бурчэў невясёлы Шашок.

— Вязі на дарогу, я ім пакажу! — крыкнуў раззлаваны Жабін, і фурманка завярнулася назад.

Нечыя вочы глядзелі скрозь шчэлку ў гумне, як яна запыліла на дарозе.

## [НЕЗАДАЧА]

### I

Часовы камісар N-скай франтавой надзвычайнай камісіі ў справе змагання з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і дэзерцірствам, таварыш Батрачонкаў, ехаў на аўтамабілі ў сваёй матроскай куртцы дамоў к Іллі на свята, каб разам з тым даведацца, як ідзе рэвалюцыя ў вёсцы.

Іллю святкуюць, як ведама, 20-га ліпеня старага стылю, калі пачынаецца жніво. У гэты дзень у Залужанскай парахвіі, з якой родам Батрачонкаў, пасля адправы ў царкве пачынаецца за цвінтарам на аселіцы кірмаш і кірмашовая гульня. Сходзіцца сюды ўся парахвія, бываюць хлопцы і дзяўчаты з усіх вакалічных вёсак, а заядлыя гульцы прыходзяць і з дужа далёкага боку.

Да залужанскае царквы нямаш, бадай, і дзвюх вёрст ад Батрацкіх Дваркоў, дзе жывуць Батрачонкавы. І камісар праз увесь час, выехаўшы з горада, і аж да гэтае старасельскае грэблі, спамінаў сваё далёкае маленства і кірмашы ў Залужжы і меркаваў, як зручней: ці пайсці заўтра на кірмаш пехатою, з усімі дваркоўскімі хлапцамі й дзяўчатамі разам, ці затрымаць аўтамабіль на адзін дзень і паехаць на кірмаш на ім? Паехаць пазней, проста на самую гульню, пасля адправы?

Ён мімаволі пасміхнуўся, падумаўшы, як аўтамабіль з ім, камісарам, і з грудам дваркоўскіх дзяўчат пракоціцца сярод самага кірмашовага збою... Усе людзі глядзяць і пытаюцца: што за дзіва, хто там такі?

— Хай жыве рэвалюцыя! — голасна крыкнуў Батрачонкаў. Шум машыны і свіст ветру схапілі яго словы.

— Што вы, таварыш? — пачуў, аднак, шафёр і агляну́ўся.

— Нічога, нічога...— сканфузіўся матрос.

Ля самых Дваркоў на шляху таксама ёсць грэбля, і Батрачонкаў спомніў земскага начальніка Шальновіча, як ён заўсёды з сваім аўтамабілем тапіўся там.

«Падумаць: былы падпасак Арцёмка Батрачонак — другі чалавек, што едзе па гэтым шляху на аўтамабілі; першы быў Шальновіч, другі — ён, вось цяпер — матрос,— і ціханька прашаптаў: — Хай жыве рабоча-сялянская рэвалюцыя!»

Гадоў дзесятак, не болей, мінулася з тае пары, як Шаль-

новіч першы раз у гэтым глухім куце паказаў людзям новае дзіва тэхнікі, машыну-самакат.

Было якраз увосені, калі сяляне капалі бульбу і дабіралі канапелькі. Надвор'е стаяла сухое й пагодлівае, толькі ранейшыя дажджы паналівалі лужын, дзе нізкая дарога, і зусім растаўпесілі грэблю. Зашумела нешта незвычайнае з-пад лесу і раптам закурылася па шляху за дваркоўскімі гумнамі. Шпарка-шпарка, на ўсю сілу коціцца панская карэта... без коні! Усе пакінулі і бульбу і каноплі — паляцелі, як жывы, глядзець. Бабы ад страху ледзьве не памлелі, гэтак напалохаліся, а таксама і старэйшыя мужчыны мелі пуду. Толькі нехта з маладых, свецкіх, гукануў вясёла і дужа, каб усе чыста чулі: «А во-о!.. ту-ма-бі-ля» — і ўзлез на плот, каб даўжэй глядзець і бачыць аж за курганком. Петракоў сабака сядзеў ды як вяхне! і куляю закапыціў наўздагон за машынаю. Хлопчыкі — за ім. Не паспелі яны заскачыць за гумны, як схавалася машына за гару, нырнула там да грэблі. Але і села.

Батрачонак вёз тады з гаспадаром карчы і суччa з ляда. Гаспадар застаўся насцілаць перад машынаю галлё, а хлопчыка земскі пагнаў у Дваркі па мужыкоў, каб ішлі выцягваць з балота самакат.

Камісар страхануў з сябе тыя ўспамінкі: што было, тое было. Хто б мог спадзявацца, што яно так шыбка і раптоўна зваліцца далоў?

Мінулася, і цяпер на самакаце, як некалі земскі, едзе ён, камісар рабоча-сялянскай рэвалюцыі. Яго машына шчасна пераехала гразкае старасельскае поле,— каб гэтаксама пераехаць і сваю грэблю; было б дужа прыкра і сорамна, каб і яго, як таго пана, ратавалі мужыкі з балота.

Аўтамабіль радасна імчыцца пад гару, і вось за рэчкаю пачынаецца былая панская зямля — вялікіх паноў Шамёт-Галавінскіх. Шырока й далёка разлягласся... За тым вунь гайком раней, як хадзіў ён з усімі разам у манастыр на малую прачыстую маліцца богу, відаць былі белыя, быццам з крэйды, сцены панскіх будынкаў. Цяпер іх няма,— безуважна паглядзеў камісар у той бок,— няма, мужыкі спалілі... Тырчаць толькі два нейкія слупы, як сажа, чорныя, мабыць, абгарэлыя. Цяпер няма тых белых будынкаў, і што гэта, што аж поле, засеянае не ўсцяж, а толькі лапікамі зялёнай ярыны, што аж яно быццам пагоршала?

Нічога...

Нічога, бо ад гэтага мала змяншаецца вялікае задава-

ленне, што яно, поле,— ужо агульная народная маемасць і будзе некалі яшчэ лепей выглядаць, чым выглядала за панамі.

Адзаду засталася вілаватая рэчка, з кустамі па берагах і бліскучая на сонцы там, дзе бераг без кустоў. Азначаная альшэўнікам, вілася яна вузкаю стужкаю пасярод шырокага паса зялёнага логу, сёлета яшчэ няскошанага, хаця заўтра Ілля.

Ад логу пачынаўся адхоны пакат, засеяны лёнам. Адсунулася рэчка, адбегся і той лён, вось мінаецца бульбоўнік. З высокага пункту відаць далёка-далёка ўвесь прастор наўкол: жоўтае жыта, сівыя хаты з зялёнымі канаплянікамі, маркотны могільнік збоку і сіняя каёмка лесу з усіх бакоў.

Ціхім сумам гарнула з таго прастору на камісараву душу, дарма што намагаўся ён радавацца, што паноў няма і ўсё зрабілася агульнаю народнаю маемасцю.

Ціхім сумам гарнула на яго з гэтае пустыні, калі паміма яго волі з'яўлялася параўнанне з клумным гоманам і неспакоем жыцця ў N-ску, асабліва цяперашняга, як прысунуўся фронт і прыехала «чразвычайка» на чале з ім, Батрачонкавым.

## II

Праўда, грэблю праехаў добра, не ўтапіўся, і ў лазню паспеў, памыцца перад святам, але ў лазні з ім усе, пачаўшы ад шафёра, абыходзіліся як бы з панам: стараліся падаць вады, венік, прасілі дазволу папарыць яму спіну і рабілі сотню іншых дробных, але забойчых яго ідэйнасці ўчынкаў. Старыя дзяды, як змовіліся, казалі яму: «Вы, Арцёмка» або «Вы, Халімонавіч», што страшэнна падабалася яго бацьку, ды насмерць атручала камісара. Ніхто ў яго нічога не спытаўся, хаця ж спрадвеку тут вялося, што ўсякага новага чалавека, салдата, «свецкага», нейкі час проста мучылі дапытамі аб навінах. Што болей за таго: ніхто не прыйшоў да іх на двор, дзе пад павеццю стаяла незвычайнае для ўсіх дваркоўцаў дзіва-самакат. Баяліся ці не хацелі?

Пакуль у Халімонавых, прыйшоўшы з лазні, распівалі прывезеную Арцёмкам бутэльку самагонкі і заядалі сырым салам, купленым за тры зялёныя «кярэнкі» ў суседа — «кулака» (як абазваў яго не к толку тут, сярод сваіх, шафёр), па ўсіх дваркоўскіх хатах, а цераз краўца з За-

лужжа і ў залужанскіх на ўсе лады званілі, што Батрачонак-камісар прыехаў на машыне рабіць заўтра рэвізію ў Залужжы ў папа і прывёз з сабою бачонак самагонкі і аж... пятнаццаць хунтаў «кярэнскіх» грошы. «А можа, ёсць і царскія, хто яго ведае»,— дагадываліся бабы.

Царкоўны стараста пабег к папу і перастрашыў матушку, што аж самлела. Бацюшка скрозь ноч паехаў у мясцечка да свайго прыяцеля-аптэкара, у якога пляменнік быў таксама ў нейкіх камісарах. Аптэкар напісаў к пляменніку пісьма, а бацюшку схаваў у аптэчным падвале.

Начою пайшоў дождж. Раніцаю, дачуўшыся, што залужанскі фэст чамусь расстроіўся, камісар, страшэнна пакусаны за ноч блыхамі, хмуры, засмучоны ехаў назад у N і перагнаў на старасельскай грэблі папоўскую хурманку.

Цераз дзень ён быў арыштаваны і адданы пад суд за спекуляцыю, п'янства і шкодную для службы адлучку для асабістых патрэб на казённым самакаце.

## УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД 1917-га ГОДА

Вясною 1918-га года, прыгожым цёплым раннем, дакляраваўшым добры дзень, пакінуў я Смаленск, выязджаючы дамоў на лета.

Падвазілі мяне кааператыўшчыкі, прыязджаўшыя ў Смаленскі Саюз па тавары.

Знайшоў я іх проста на рынку, дзе па нашскіх шэрых вопратках, па мяккаму абліччу, па гаворцы і нават па конях і вазах пазнаў, што людзі з нашага боку.

Яны ўсе аказаліся з воласці сумежнай з нашай, і адзін з іх зараз згадзіўся падвезць мяне за самыя малыя грошы.

Чалавечак гэты быў з сухой рукою, шапку насіў ссунутую з лобу назад, гаварыў казліным тэнаркам і быў надта зюклівы. Зваўся Кузьма.

Вёрст дваццаць праехалі ўжо мы, а ён не сціх ні на мінутку і шмат чаго паспеў пераказаць аб цяперашнім жыцці ў нашых краях.

Разы два пачуў я ад Кузьмы, што іх кааператыў завецца «Беларус». Гэта мяне здзівіла. «Але,— падумаў я,— гэта, відаць, не мае ніякіх звязкаў з нашым адраджэннем», і з той назовы разінуўся на мяне страшэнны чупірадла яць (ѣ) і закруціліся сабачымі хвастамі два русіфікатарскія эсы (с)...

Але ўсё ж было цікаўна. Аб'ехаўшы бязмальна ўсе буйнейшыя на бацькаўшчыне гарады, я толькі ў Магілёве відзеў гасцініцу з назваю «Беларусь», а то скрозь нічога не было ў падобных назвах, што б нагадала імя беларуса ў «Сѣверо-Западномъ Краѣ Россіи матушки». Былі «Масквы», «Краковы», нават «Парыжы» і «Неапалі», а «Беларусі», за адзіным выключэннем, не было. Дык назва кааператыва мяне зацікавіла.

Тым часам пад'ехалі мы пад гару, і ўсе вылезлі з калёс. Вазы паціхеньку паўзлі наверх, падводчыкі ж сабраліся ў вадзін груд і заняліся кручэннем папіросак, каб, уз'ехаўшы і сеўшы, шпарчэй паехаць і курыць.

Аж неўспадзеўкі пытаецца ў мяне Кузьма пры ўсіх:

— А што цяпер з Беларуссю пасля таго леташняга з'езду?

— Якога з'езду? — яшчэ балей здзівіўся я, што зямлякі мае нават і пытаюцца аб Беларусі, бо прызвычаіўся раней да поўнай несвядомасці. Думаў, што ў нашай старонцы толькі наша ваколіца трохі ведае цераз мяне аб сваіх нацыянальных справах.

Хлопцы ж паглядзелі на Кузьму і засмяяліся.

— Мы пасылалі яго летась дэлегатам на з'езд у Менск рабіць сваю рэспубліку,— сказаў адзін байчэйшы.

— Чаго ж, дурні, смяіцёся? — дабрадушна загневаўся Кузьма.

— А чаго ж ты ўцякаў са з'езду? — пажартаваў другі.

— Ці я казаў вам, што ўцякаў? — абурыўся Кузьма і потым з гонарам дадаў: — Як леў, бараніўся, а яны — «уцякаў»...

Бойкі хлопец прыжмурыў вока, ссунуў шапку на патыліцу, добра ўдаўшы Кузьму, і ягоным казліным тэнарком, махаючы па-ягонаму сухой рукою, раптам зацягнуў:

Спрадвеку мы спалі, і нас узбудзілі,
Сказалі, як трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі-і-і...

Нават я не мог удзержыцца ад смеху. Смяяўся й сам Кузьма.

— Вот-то дурань,— плачучым галаском загаварыў Кузьма,— думаець, што з мяне смяецца... Ты, браце, сам над сабою смяешся!

— А дзе вы навучыліся пяяць нашу марсельезу? — спытаўся я ў хлапца.

— Ды ён жа, ён усю воласць навучыў,— увідзеў я палец, выстаўлены штыхам у грудзі Кузьмы.

Кузьма ўдарыў яго па руцэ, хлопец засмяяўся:
— Гэта ж наш герой! Рэспубліку сваю рабіў!
— Вот-то цемната! Божухна-бацюхна, вот-то наша цемната! Што з вамі з такімі зробіш,— лямантаваў Кузьма, шукаючы ў мяне спагады.
Калі мы селі на вазы, ён закурыў, забыў на жарты і спакойна сказаў:
— А я хоць трошкі іх усведаміў. Самі захацелі назваць кааператыў наш «Беларусам»...
Усё чутае было для мяне незвычайнай навінаю. Нічога падобнага не чакаў я сустрэць у глухім закутку Смаленшчыны, ад якога бліжэйшая жалезная дарога за сто вёрст. Я не пазнаваў сваіх сялян.
— А дзядзька даўно... такі? — спытаўся я.
— З леташняга, браце, году, пасля таго з'езду.
— Цікаўны быў з'езд? — прыкінуўся я нязнайкам, каб пачуць большую беспасрэднасць.
— Ці ж вы нічога не ведаеце? — з захаваным дакорам павярнуўся да мяне Кузьма.— А я, прызнацца, падумаў, што вы з «народных». Вучоны, з Смаленску едзець і па-беларуску гамоніць,— верна, думаю сабе, народны чалавек...
— Каго вы празываеце народнымі людзьмі?
— А гэтых жа, што хочуць, каб наша ўсё было, каб, значыцца, на ногі паставіць Беларусь.
— Га! Чаму ж дзядзька аб тое не спытаўся?
— Ждаў, можа, вы што скажаце. Дый цяпер...— патупіўся ён,— адзіце... свае ж смяюцца.
— Ну, хлопцы жартавалі, на іх няможна крыўдзіцца.
— А ці ж я думаў крыўдзіцца?! Вядома, хлопцы маладыя, ім абы з чаго дурэць. Дый яны не такія, як вы, можа, падумалі... Дружныя хлопцы... З мяне яны смяюцца, але каб вы ім, браце, што сказалі супроць беларусаў... пачулі б што іншае.
— А як на вас глядзяць бальшавікі вашае воласці?
— А хай сабе глядзяць як хочуць, я іх не баюся! Якія там бальшавікі — гора адно. Я добрых бальшавікоў яшчэ не відзеў. А таго п'янага чарнамазага падлу, што з'езд наш разагнаў, каб дзе злавіў, то зараз бы яму каюк зрабіў, хоць душагубства не люблю.
— За што ж такая злосць?
— За тое, браце, што ён біў нашых людзей, дэлегатку біў. Дзяўчына такая, што ён і ў падмёткі ёй не варты, а ён біў яе выспяткам, ботам, таптаў нагамі...
Кузьма ўздыхнуў.

— Як жа так? — паддаў яму ахвоты апавядаць.

— Быў гэта астатні дзень з'езду. Позна ўжо, ноч, а ў нас у тым тэатры ну вось якраз, як на вялікадні ў царкве. Неяк і радасна, і смутна, і хто ведае, што з табою робіцца, хрыстосавацца хочацца з усім народам. Гэта ж не жарты: рэспубліку сваю, Беларусь няшчасную, на ногі ставім, зараз правіцельства народнае выбіраць будзем... Аж тут і крыкні нехта: бальшавікі прыехалі нас разганяць. Што за ліха,— думаем сабе,— здаецца ж, супроць іх нічога не пастанаўлялі, контррэвалюцыянераў сярод нас няма: усё мужыкі, салдаты, народныя людзі з мужычкоў. Хочам, каб усё пайшло народу, і зямля, й лясы, і ўласць,— за што ж яны разганяць нас будуць? Па-іхнаму ж хочам, толькі каб, знацца, без непарадку, без глуму. Мы ж на сваёй зямельцы, а сярод іх — усякія прыблуды, што чужога краю не шчадзяць, без патрэбы нішчуць, вядома, за вайну сабралася іх на фронце розных, не столькі добрых, як нягодных. Не! крычаць: выхадзі! стрэльбамі пагражаюць, прысыпала іх да дзвярэй, як нячыстае сілы. І ўсё народ не нашскі, дзёрзкі, не панімаючы. Крычаць, гоняць, а чарнамазы, начальнік іхны, узлез наўперад і нешта п'янае там бруздзіць. Відаць, што чалавек упіўшыся і не разумеець, куды залез. Не дадзімся, думаем сабе! Загарадзіліся лаўкамі, хатылькамі сваімі харчавымі. Дзе ж там, хіба ж з голымі рукамі абаронішся супроць такой навалы. Віджу я з бліжэйшымі каля сябе, што кінулася гэтае звяр'ё, каб забраць нашых народных людзей. Кінулісь і мы наўперад ратаваць. Аж там цэлая бойка! Схапіліся нашы салдаты з тымі, што з'явіліся разганяць. Тузгаюцца, цягаюцца. Віджу я, што тут жа, дзе прадстаўляюць тэатры, наўперадзе бароніцца тая дэлегатка, бойкая дзяўчына, такія прамовы на з'ездзе казала, што прост за сэрца хапала. Тады падходзіць да яе чарнамазы падла і нешта, пасміхаючысь, ёй кажаць, відаць, зняважлівае нешта для яе. Раптам шчуп яна сабе ў кішэню, выцягнула маленькі чорны левальверчык і наставіла на яго,— аж мае сэрцайка замлела, кляпсь,— асечка. Тады яна тым левальверчыкам як тахнець яго па санках, аж пахіліўся. І што тады ўзнялося там, то й пераказаць мне трудна. Кінуліся яго салдаты на дзяўчыну і з ім разам. Павалілі, б'юць чым пападзя, прыкладамі, нагамі, за валасы цягаюць. Насілу нашы вырвалі бяднягу з іхных рук. Бараніў трохі і я, не стаяў рукі злажыўшы. Але зараз дастаў сабе такі ўдар у спіну, ці не прыкладам толькі, што думаю: хоць бы жывым ад гэтых бесцій вырвацца. Гляджу,

а ўжо вядуць некаторых народных людзей пад канвоем ды на двор. Прапала наша справа, трэба ратавацца, уцякаць. Бягу ў дзверы: стой, кажуць, і ты там біўся? Я, доўга не думаўшы, шмык назад, схапіў на галаву нечую вялікую чорную папаху, пад нагамі валялася, і йду назад. Стой! — крычаць, і ты там біўся? — Не, кажу, таварышы, я не той, я не біўся, той з другімі разам выскачыў у заднія дзверы. Паверылі, не пазналі і пусцілі на вуліцу. А там уздоўж дзвярэй поўна грузавікоў-аўтамабіляў з кулямётамі, з салдатамі, і па вуліцы поўна салдатаў, не разабраць, хто свой, хто не. Тут мяне злавілі і пагналі з другімі арыштаванымі ў нейкі склеп. Праседзелі мы ноч. Крэпка ўзяло ўсіх за сэрца: вот табе, Беларусь няшчасная! — думаем сабе: біў цябе цар з панамі, а цяпер простыя прыблуды за тое ж узяліся. Не падняцца табе на свае ногі, бедная. Плакалі мы, браток мой, седзячы там, шчыра кажу — плакалі...

— А цяпер жа дзядзька спадзяецца, што будзе Беларусь?

— Цяпер! Цяпер, браце, уся наша воласць, як адзін, паставіцца грудзямі за яе. Як жа ёй не быць? Не мы, дык нашы дзеці паднімем-ткі яе на свае ногі.

Кузьма змоўк, гэйкнуў на каня і пагнаў яго, як бы хацеў ляцець — захоплены, узварушоны, смелы.

◇ ◇ ◇

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Пісарэвіч }
Жонка Пісарэвіча } уцекачы.
Мяшчанка.
Баба — злосная, раскудлачаная.
Поп — грубы, гладкі, потны.
Пані — маладая, досыць прыгожая, але пустая.
Доктар — сярэдняга веку, панкаваты.
Дзяўчынка — гадоў 8—9, калматая, худая, абшарпаная.
Сляпы.
1-шы ўцякач.
2-гі ўцякач.
Немец-жаўнер.
Перакладчык.
Уцекачы: мужчыны, жанчыны, дзеці.

### I

Пустая вуліца ў глухім расійскім горадзе. Адзін дом з белымі налепкамі: «Здаецца пакой». Па вуліцы плятуцца зморaныя Пісарэвіч і яго жонка. Безнадзейна азіраюцца... Раптам утарапіліся ў налепкі, зрадзелі.

Пісарэвіч *(скача на адной назе, паказваючы на налепкі)*. Знайшлі, знайшлі, знайшлі! І налепачкі налеплены!

Жонка *(суцішае яго за рукаў)*. Апамятайся і людзей пастыдайся. Ледзьве ногі цягаеш, а скачаш, як малое дзіцянё.

Пісарэвіч. Гуляй, хата, гуляй, печ!

Жонка. Кінь выраблядца, прашу цябе! Мне ад тваіх жартаў зусім малая пацеха. Стукай, ды паціху, а то пакрыўдзяцца, як там.

Пісарэвіч. Стуцыце — і адверзецца вам! Шукайце — і знойдзеце! *(Стукае ў дзверы. Выходзіць мяшчанка.)*

Мяшчанка. А што вам, добрыя людзі?

Пісарэвіч. Дзень добры, панічка!

Жонка. Дзень добры вам!

Мяшчанка. І вам добры дзень, мілыя людзі! А чаго ж вам трэба? Мусіць, вы ўцекачы з Польшчы?

Пісарэвіч. Блізу таго, панічка... Турбуем во добрых людзей... Кватэру шукаем.

Жонка. Трэці дзень шукаем... З ног збіліся, шукаючы.

Мяшчанка. А-а! Чаму ж вы стаіцё? *(Сядае сама на лавачку на ганку.)* А вы ж хры-шчо-ныя?

Пісарэвіч. Абое, панічка! І ў дакумантах паказана.

Мяшчанка. А вялікдзень жа вы святкуеце?

Пісарэвіч. Дый яшчэ як, панічка!

Жонка *(хоча быць прыемнай)*. Мы ўсе святы спраўляем: і вялікдзень, і коляды, і наогул усе святцы.

Мяшчанка. Дык сядайце ж, калі ласка,— пагамонім... *(Жонка сядае на лавачку, Пісарэвіч абціпае пот.)* А ці многа ж у вас дабра?

Пісарэвіч. О, зусім мала: змесцім у адным пакойчыку.

Мяшчанка. Ну, ведаеце, мне гэта не надта падабаецца. Таму што — жылі ў мяне такія... Два месяцы пражылі — і ўцяклі не заплаціўшы. Ім што: усё сваё дабро адным кошыкам перацягнуць могуць.

Жонка *(устае)*. Выбачайце, але мы не та-кі-я... І дабро наша ў адным кошыку не змесціцца.

Мяшчанка. Маеце шмат чаго-о? Дык вы мне пакой згноіце, заставіўшы сваім дабром.

Пісарэвіч. У нас яго зусім мала, панічка...

Мяшчанка *(перабіваючы)*. А вы ж казалі — многа.

Пісарэвіч. Ды так... ні многа ні мала: ні кошыкам перанесці, ні пакой згнаіць.

Мяшчанка. Гм! Вас таўкачом у ступе не зловіш... Тут нейкая крутня.

Жонка *(гневаецца)*. Хадзем, Алесь! Што тут...

Пісарэвіч. Стой, жонка! А вы, панічка, будзьце пэўная, гэта нічога, што мы так кажам. Гэта ад вашага клімату ў нас у галаве круціцца... Горача надта... У-ух... *(Абціпае пот.)*

Мяшчанка. Праўда што — кручаныя! Як у нас мужык, дык ёп бараду носіць, а вашы папрыязджалі голе-

ныя. Не пазнаць, ці ён заможны, ці ён убогі! Усе ў сурдутах і без барады.

П і с а р э в і ч. Здасцё нам пакойчык, я запушчу бараду — калі хочаце, няхай расце!

М я ш ч а н к а. Ай, хто вас ведае, якую з вас цану браць!

Ж о н к а. Якую панічка вызначыць, такую заплоцім.

М я ш ч а н к а. Гм! Колькі ў вас гэтага гонару, а толькі як плаціць будзеце? А дзеці ж у вас ёсць?

П і с а р э в і ч. Ой, панічка! Два хлопчыкі... Але болей тым часам не прадбачыцца...

М я ш ч а н к а. А-а! Чаму ж вы мне адразу не казалі? *(Устае з лавачкі.)* Як я магу аддаць свой пакой нейкім кручаным з чужога боку? Бывайце здаровыя!

П і с а р э в і ч. Бывайце, панічка, бывайце! А як жа пакойчык?

М я ш ч а н к а. Не для вас! *(Пайшла.)*

П і с а р э в і ч *(разводзіць рукамі і паказвае ўслед ёй язык)*. Вось табе і налепачкі!

Ж о н к а. А ўсё твае дурныя жарты, Алесь! У цябе няма ніякага падходу да людзей... Ну, куды цяпер?

П і с а р э в і ч. Куды? Ці я ведаю? Давай пастукаемся яшчэ во ў гэты, бяднейшы дом. А можа, што і знойдзем. *(Стукае.)*

Ж о н к а. Хоць бы ж які пакойчык... Цішэй стукай, ідуць...

Б а б а *(вылятае раскудлачаная, гнеўная)*. Вы хто? Уцекачы? Забілі майго Івана, каб вас бог забіў! Забілі! Забілі! Што я цяперака параю з аднэю галавою? А-а, вы, немцы праклятыя! *(Кідаецца на жонку.)*

П і с а р э в і ч *(выступае наперад, каб схаваць жонку)*. Не бойся, Стася, не бойся! Якія немцы, цётка? Што вы гэта? Мы ўцекачы, кватэру шукаем... Мы ж вам ніколі нічога ніякага, як той казаў... Стасенька, супакойся! *(Жонка трасецца і хліпае.)*

Б а б а. Каб вас паралюш разбіў! Басурманы! Ідалы! Нехрысці! Забілі мне мужыка! Звялі мяне з капылоў! Чаго вам трэба ад мяне, ірады? Якая ў мяне кватэра?

П і с а р э в і ч. Супакойся, цётачка! Чаго ж і вам трэба ад нас?

Б а б а. А чаго вы лезеце да мяне? Нашто вы мужыка мне з свету звялі? А-о, галовачка мая бедная з вамі... *(Пайшла назад у хату.)*

П і с а р э в і ч. Супакойся, Стася,— бывае...

Жонка. Нейкая шалёная: не разбірае, што немцы, што ўцекачы.

Пісарэвіч. Не дзіва: адзін муж быў, і той асіраціў бабу, не падумаўшы, што з гэтага можа быць...

Жонка *(нервова)*. Ізноў ты вырабляешся, Алесь! Дзеці галодныя, адны на станцыі, а ты тут жарты строіш... Кіну і пайду, шукай адзін, а мы там будзем плакаць... *(Абцірае слёзы.)* Ну, куды цяпер? Ну, куды, кажы?

Пісарэвіч А што я ведаю? Папаў, як у нерат: ні ўзад ні ўперад. А без цябе я не буду шукаць: бывае, знайду, а табе яшчэ не спадабаецца.

Жонка. Ты сам пачынаеш нервавацца. Дажартаваўся! Ну, цяпер паскачы на адной назе!

Пісарэвіч. Я і на дзвюх магу... Во стану сярод вуліцы і буду ў кожнага пытацца, ці няма кватэры... Убачыш, як добра будзе.

Жонка. Убачу, убачу... Вунь ідзе бацюшка, пытайся.

Пісарэвіч. Дзень добры, бацюшка! Можна спытацца?..

Поп *(грубы, гладкі, потны)*. А ў чым справа? Кватэру шукаеце?

Пісарэвіч. Так, бацюшка, кватэру! Ці няма?..

Поп *(перабіваючы)*. Вы ўцекачы?

Пісарэвіч. Відаць жа пана па халявах.

Поп. Не, не па халявах, а так па ўсім... О-ох, горача сёння, а мне яшчэ панахвідку па ўбіенным на полі брані трэба адправіць. А ці няма ў вас прадажнага сабакі?

Жонка *(здзіўлена і пакрыўджана ўзнімае плечы)*. Што вы, бацюшка?

Пісарэвіч. Застаўся наш Мурзачка ў немцаў, у палоне.

Поп. Шкада! А я купіў бы ў вас добрага сабаку. Ведаеце, столькі цяпер зладзеяў развялося, уцекачоў панаехала...

Жонка *(абурана)*. Я не разумею...

Пісарэвіч. Скажу вам, як на споведзі, бацюшка: век злодзеем не быў і за жонку прысягнуся.

Поп. Я не пра вас; так, да слова трапілася. Дый няма ў мяне для вас кватэры. Адзін пакойчык для аднае інтэлігентнае асобы, калі матушка згодзіцца, падумаўшы, можа, і можна было б аддаць, але, бачыце...

Жонка. Выбачайце, бацюшка, але мы людзі інтэлігентныя, толькі што, ведама, здарожыліся, пакуль ехалі.

Поп. Але ж, мілая, дзве асобы гэта не адна асоба.

Пісарэвіч. Э, бацюшка, якая там у жонкі з мужам матэматыка: адно цела і адзін дух. Лічыце за адну інтэлігентную асобу маю жонку, а я буду як прэмія, бацюшка...

Поп. Я бачу інтэлігентнасць і па духу, без усякай прэміі.

Жонка. Вось як...

Пісарэвіч. Стой, жонка! У святым жа пісьме сказана, бацюшка: не ўгашайце духу.

Поп. А хто вам угашае дух?

Пісарэвіч. Вы нам, бацюшка, усё ж ткі аддайце гэты пакойчык за якую скажаце цану, і дух у нас не ўгасіцца.

Поп *(паважна)*. Уцякач вы, уцякач! Такое глупства, як кватэра, з пытаннем веры звязваеце. За няверу і карае вас бог. Духу ў вас шмат, але нядобрага духу.

Жонка *(нервова)*. Алесь, пойдзем!

Пісарэвіч. Паслухайце, бацюшка! Мы трэці дзень на станцыі, з дзяцьмі, і трэці дзень мусім цягацца па такой пякоце, шукаць кватэру. Гэта ж не глупства. Аддайце нам свой пакойчык.

Поп. А, у вас яшчэ і дзеці! Выбачайце, але, на жаль, нічым не магу вам памагчы... Пашукайце яшчэ ў каго... Во там, бачыце, ёсць налепачкі... Бывайце! *(Пайшоў.)*

Жонка. А ўсё ты, Алесь! Зусім не так трэба было гаварыць з духоўнаю асобаю.

Пісарэвіч. А як з ім гаварыць? У руку яму цалаваць?

Жонка. Ты і не цалаваў, а ўсё роўна ён падумаў, што мы простыя.

Пісарэвіч. А чым жа мы крывыя, каб яму вочы павылазілі!

Жонка. Цярпець не магу тваіх грубых выразаў! Сапраўды, ад тваё інтэлігентнасці нічога не асталося. Ну, куды цяпер? Куды?

Пісарэвіч *(збянтэжаны)*. Чоррт... Хоць бы тут камітэт які быў!

Жонка. Разлічай на камітэты, дык цэлы год на вакзале пражывеш... Ты зусім здурнеў, Алесь.

Пісарэвіч. Не клапаці: з вакзалу выганяць. А вось я зараз здурнею — і буду мець кватэру. *(Сядае пасярод вуліцы на зямлю.)*

Жонка. Што ты робіш, Алесь?! Не рабі скандалу!

Пісарэвіч. Ты ідзі на вакзал, пакармі дзяцей, а я

буду сядзець тут і не ўстану, пакуль мне не дадуць кватэры.

Ж о н к а. Алесь, што ты робіш? Цябе паліцыя забярэ.

П і с а р э в і ч *(смяецца)*. Няхай забірае.

Ж о н к а *(тармосіць яго)*. Не звадзі мяне з розуму, Алесь! Глядзі, людзі ўжо бачаць, што ты робіш...

## II

Убогі і нудны пакойчык у расійскім мяшчанскім доме. П і с а р э в і ч сядзіць у пантофлях на босую ногу і піша.

П і с а р э в і ч. Дастаў шмат перапіскі, зараблю шмат грошы — і справім мы з Стасяю баль! І хлопчыкаў сваіх з прытулку возьмем: хай дзеткі пацешацца. *(Пяе.)*

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў маёй хатаньцы
Парадак ідзець...

Не бядуй, Стася! Скончыцца вайна, паедзем дамоў, не будзеш ты стаяць па восем гадзін у чарзе за паўфунтам хлеба на картачку. *(Ізноў, яшчэ весялей, пяе.)*

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая Стася, не бядуй:
Па маёй галаве
Застанецца ўсё табе!

М я ш ч а н к а *(уваходзіць не пастукаўшыся)*. Дзень добры яшчэ раз, пан Пісарэвіч!

П і с а р э в і ч. Ах, Мар'я Іванаўна, Мар'я Іванаўна! Як я рад! Выбачайце толькі, што вы забыліся пастукаць... Я ў хатнім выглядзе. Сядайце ж, калі ласка, прашу вас, Мар'я Іванаўна!

М я ш ч а н к а *(сядае)*. Ат! Заўсёды вы з сваім стуканнем, пан Пісарэвіч! Ну, прыйдзіце раз у мой пакой не пастукаўшыся — паквітаемся.

П і с а р э в і ч. Добра вам казаць, а што мне жонка запяе на гэта?

М я ш ч а н к а. Які вы жартаўлівы, пан Пісарэвіч! Вам немаведама што ў галаве.

П і с а р э в і ч. Калі я гляджу на вас, Мар'я Іванаўна, калі я любуюся на вашы нябескія лупаценькія вочкі, дык сапраўды я сам не ведаю, што робіцца ў маёй галаве.

М я ш ч а н к а. Кіньце ўжо, кіньце прасмяхаць — жон-

цы скажу. А дзе ж гэта пані Пісарэвічыха? Яшчэ не вярнулася з «хваста» па хлеб?

П і с а р э в і ч *(глядзіць на гадзіннік на сцэны)*. Не, яшчэ не вярнулася; восьмую гадзіну ў чарзе. Балазе, з услончыкам пайшла: можна пасядзець.

М я ш ч а н к а. Ах, пан Пісарэвіч, я дагэтуль не магу насмяяцца з гэтай вашай выдумкі: услончык у «хвост» з сабою браць. А якія ж цяпер «хвасты» вялікія; сёння я бачыла, на цэлую вуліцу ад харчовай крамы расцягнуўся, аж да рогу і за рог загнуўся. А найболей стаяць уцекачы.

П і с а р э в і ч. Вось каб лісіцу з такім хвастом забіць: шмат грошы можна было б за скурку пабраць, а?

М я ш ч а н к а. А ці ведаеце вы, пан Пісарэвіч, я прыйшла да вас па аднэй важнай справе...

П і с а р э в і ч. Калі па грошы, Мар'я Іванаўна, дык пачакайце: вось я скончу гэты заказ на перапіску...

М я ш ч а н к а *(смяецца)*. Але ж не, пачакаю, бог з вамі, я не аб тое.

П і с а р э в і ч. А-а! Ведаю, ведаю! Аб гэтых новых уцекачах? Так, угадаў?

М я ш ч а н к а. Мне здаецца, яны не будуць плаціць акуратна. Супакойце мяне, пан Пісарэвіч! Вы гэткі вясёлы чалавек.

П і с а р э в і ч. О, я надта вясёлы. Змалку гэтакі. У нашым краі ўсе гэтакія: незвычайна жартаўлівы народ.

М я ш ч а н к а. Дык супакойце мяне, пан Пісарэвіч! Што вы думаеце аб іх, гэтых новых з вашага боку?

П і с а р э в і ч. Ведаеце, Мар'я Іванаўна, як дзеля вас, скажу па шчырасці. Мне здаецца, што яны нічога свайго не маюць, у іх усё крадзенае.

М я ш ч а н к а. Ах, што вы? Не можа быць! Яны мне дровы пацягаюць...

П і с а р э в і ч. О, напэўна, напэўна, пацягаюць. Прапалі вашыя дроўцы, Мар'я Іванаўна!

М я ш ч а н к а. Ах, божа мой! Парайце, пан Пісарэвіч, што ж гэта мне цяпер рабіць?

П і с а р э в і ч. Не журыцеся, Мар'я Іванаўна! Уздумайце на што-колечы вясёленькае, прыемнае, Мар'я Іванаўна!

М я ш ч а н к а. Вы ж мяне павесяліце, пан Пісарэвіч. Як гэта вы казалі, што ў вас не так, як у нас,— не на дрэве, а на зямлі ігрушкі растуць... Хі-хі!

П і с а р э в і ч. А так, так, у нас там і зімы ніколі не бывае.

Мяшчанка. А матачкі! Ото няшчасце! А як жа ў вас маслянка? — без каўзяля?

Пісарэвіч. Чаму — без каўзяля? Го-го! Мы сабе з Масквы снег выпісваем, а з Варшавы саначкі. Так і пакатаемся і паваляемся... го-го!

Мяшчанка. Які вы жартаўнік, пан Пісарэвіч! Скуль у вас што бярэцца? Лацвей такому жыць на свеце — ніколі ён не засмуціцца. Я вас заўсёды з такою прыемнасцю слухаю... Але трэба мне ісці. Задалі вы мне клопату з дрыўмі, пан Пісарэвіч. Пайду пазначу крэйдаю.

Пісарэвіч. Крыжыкі пастаўце, Мар'я Іванаўна! Нават нячыстая сіла не падступіцца.

Мяшчанка. Жарцікі вам... усё вам жарцікі, не тое што паспагадаць чалавеку. *(Пайшла, потым вярнулася.)* Ведаеце, падабаецеся вы мне, пан Пісарэвіч, хоць вы і нянаскі чалавек. Я так ужо да вас прызвычаілася, што мне цяжка будзе і расстацца з вамі.

Пісарэвіч. Каму я магу спадабацца, гэткі худы і бедны!

Мяшчанка. А мне якраз худыя даспадобы!

Пісарэвіч. Мар'я Іванаўна! Я маладзею. Давайце пацалуемся, а з кватэрнай платай, калі ласка, пачакайце...

Мяшчанка. Ціха, ціха, саромцеся. *(Затыкае вушы.)* У мяне дровы там пакралі... Другім ужо разам! *(Радасна засмяялася і пабегла.)*

Пісарэвіч. Другім разам — няхай сабе другім разам. Але колькі яна мне часу зглуміла, бараболка, ах ты, нячыстая каланіца! Ну, нічога. Усё добра будзе... Ах ты дуй, ах ты дуй! мая міла, не бядуй. *(Дастае з-за печы чурбанок, бярэ бот, вялікую іголку з ніткаю, насаджвае бот на чурбанок і пачынае залатваць дзюрку.)* Я шавец-маладзец! Я шавец-маладзец!

Мяшчанка *(узнімае галас яшчэ на падворку і ўлятае, ізноў не пастукаўшыся)*. Чурбанка няма! Чурбанка няма! Дзе мой чурбанок? Сцягнулі-ткі... Ах, каб гэтых уцекачоў!..

Пісарэвіч *(схаваўшы чурбанок з ботам за спіну)*. Выбачайце, Мар'я Іванаўна, што вы не пастукалі: я ў хатнім выглядзе і боты сабе рапараваў. *(Скача на адной назе.)* Дылі-дылі, го-ца-ца! Дылі-дылі, го-ца-ца!

Мяшчанка. Кіньце свае жарты, пан Пісарэвіч! Чурбанка няма. Ці не бачылі вы часам?

Пісарэвіч. Вядома, Мар'я Іванаўна! Уцекачы сцягнулі, дальбог, уцекачы!

Мяшчанка. Насланнё мне з гэтымі ўцекачамі... Сцягнулі-ткі чурбанок!

Пісарэвіч. Яны бачылі, дурныя, і думалі, што гэта кавалак мяса. Дык вось яны схапілі ўночы, а цяпер варадь...

Мяшчанка. Што-о? Не дурыце вы!

Пісарэвіч. Варадь, дальбог, варадь, Мар'я Іванаўна!

Мяшчанка. Не сорам вам бажыцца, пан Пісарэвіч? Ці ж гэта можа быць тое, што вы кажаце?

Пісарэвіч. Можа, не зусім так, але каля таго; калі не імеце веры, дык вось, Мар'я Іванаўна... *(Цягне з-за спіны чурбанок.)* Трымайце! Я на ім боты рапараваў, а думаў сабе: пасля звару яго ды з'ем. Далібог, так думаў! Але неяксь пашкадаваў. Бярыце, Мар'я Іванаўна: мо калі голад будзе ў вашай губерні,— не вам, дык добрым людзём спатрэбіцца замест кавалка мяса...

Мяшчанка. Дык гэта ўсё вашы жарцікі, пан Пісарэвіч? А я спалохалася — дзе, думаю сабе, мой чурбанок? Ну і жартаўнік!

Пісарэвіч. Дык бярыце, Мар'я Іванаўна! Толькі добранька схавайце, а то ўцекачы ткі яго сцягнуць.

Мяшчанка. Рапаруйце, рапаруйце боцікі, а я пасля забяру. Ну і жартаўнік чалавек! *(Пайшла, а ён садзіцца за боты.)*

Жонка *(прыходзіць за нейкі час з услончыкам і фунтам хлеба, сядае і моўчкі плача)*. Да чаго мы дажыліся, да чаго мы дажыліся...

Пісарэвіч *(пяе)*.

Не плач, не плач, мая ты Стасенька,
Не плач, не журыся!..
Дый за свайго краўца-шаўца
Богу памаліся...

Жонка. Да чаго мы дажыліся, да чаго мы дажыліся!.. *(Плача, трасучыся, не могучы стрымацца.)*

Пісарэвіч *(кідае бот і ўстрывожаны падходзіць да жонкі)*. Стасенька, міленькая, супакойся!

Жонка. Лепей бы нас бомба нямецкая там забіла, чымся тут гараваць на ўцякацтве!.. Да чаго мы дажыліся...

Пісарэвіч. Да чаго там дажыліся? Дажыліся каза-

кі — ні хлеба, ні табакі.. Бывае горш, вялікая рэч! Супакойся, Стасютка... *(Цалуе ў рукі.)* Паўзірайся, колькі я аркушаў спісаў,— кучу грошай дастану, баль справім. Дзяцей на свята з прытулку прывядзем. Лячыцца я пачну... Вайна скончыцца, дамоў паедзем!

Жонка. Дамоў, дамоў...

Пісарэвіч *(пяе)*.

Ой дамоў, дамоў,
Бо ўжо не рана,
Бо ўжо не рана —
Расіца пала!

Жонка. Ну нашто ты пяеш, Алесь? Ты думаеш развесяліць мяне гэтым?

Пісарэвіч. А ці ж не? Ці ж табе не весялей ад гэтай песні? Памятаеш, мы яе чулі, як ездзілі да майго дзядзькі ў госці ўлетку 1913-га году? Дзяўчаты ішлі з поля і пялі... Га? Хораша? І пра вайну тады ніхто і не думаў. От, добра, ах!

Жонка *(скрозь слёзы)*. Памятаю, Алеська, памятаю... Але ж гэта ўсё даўно-даўно мінулася, і здаецца, што ўжо ніколі не вернецца. Ты добрую пасаду меў, жылі добра... А цяпер, як ні працуй — на кавалак хлеба не заробіш. А стаяць мне ў гэтай чарзе, па восем гадзін за хунт хлеба — Алесь, гэта ж такая мука, такая мука...

Пісарэвіч. Нічога, Стасенька, няма хлеба — што рабіць? Усе стаяць, не мы адны...

Жонка. Хто там усе? Парадачныя людзі не стаяць... Самая дрэнь — бабы-маскоўкі ды нашы ўцекачы галодныя. Нашых штурхаюць, б'юць, смяюцца... Кажуць, мы аб'ядаць іх прыехалі. Ой, якая гэта мука там стаяць.

Пісарэвіч. Не бядуй, Стася! Глядзі, колькі перапісаў...

Жонка. Ты хворы зусім, Алесь. Табе лячыцца трэба. Што ты мяне пацяшаеш?

Пісарэвіч. Я — хворы? Глядзі, які я здаровы! *(Махае кулакамі.)* Го-го! На мяне яшчэ маладзіцы заглядаюцца! Го-го! Ну, смейся ж, Стасенька! Чаго там плакаць? Го-го! Мы яшчэ... о-го-го!

Жонка. Не жартуецца табе, Алесь! Кінь...

## III

Узімку, маразамі, у сцюдзёнай няпаленай кватэры, **Пісарэвіч** займаецца шавецтвам. Ён — галодны, хворы на выгляд, абшарпаны. Ладзіць мужыцкія боты.

Пісарэвіч. Ну, нічога! Хутка дамоў паедзем,— недарма ж існуе на свеце «пленбеж»[1]. *(Кідае бот і робіць гімнастыку, каб сагрэцца.)* Раз-два! Раз-два! Раз-два! Шкада, што ў войску па слабасці здароўя не трапілася быць: дрэнна гімнастыку раблю... Раз-два! Ах, сцюдзёна, трасца ёй у бок. Брр... Усё мне здаецца, што нешта па мне паўзе... *(Шаволіць плячыма.)* Быў конь, ды з'ездзіўся. Ну, нічога! Добра, усё добра! *(Пяе, махаючы ад сцюжы рукамі — ботам і шылам.)*

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

Таварышы, ратуйце! Гіну! Мушу боты мужыкам за гнілую бульбу ладзіць. Хай вас ліха, хай вас ліха з вашымі парадкамі. *(Чуваць стуканне ў дзверы.)* Калі ласка, можна, прымаю!

Пані *(яшчэ маладая і даволі харошая, але пустая, выглядае)*. Мо-ожна?

Пісарэвіч *(устае і падыходзіць да дзвярэй)*. Хрышчоныя? Бараду носіце? Сурдут новы? Гаворка людская? Тады можна... Калі ласка!

Пані. Я вас не разумею... Выбачайце: тут мяшкаюць панства Пісарэвічы?

Пісарэвіч. Тут, тут... хоць якое там панства! Быў конь, ды з'ездзіўся. Ну, нічога, нічога...

Пані. Можна мне бачыць пані Пісарэвічыху?

Пісарэвіч. О, колькі ваша ласка! Толькі яна пайшла цяпер на промысел.

Пані. Промысел? Які промысел?

Пісарэвіч. Промысел — чым мы будзем жыць і што мы будзем есці. Але, грамадзянка, не стойце ў дзвярах, праходзьце далей у нашы палацы!

Пані *(нясмела заходзіць)*. А хто вы такі? Ці сапраўды тут жывуць панства Пісарэвічы?

Пісарэвіч *(тыцкаючы сябе пальцам у грудзі)*. Вы, грамадзянка, бачыце перад сабою грамадзяніна ці, як вы кажаце дзеля старой сваёй прызвычаёнасці, пана, грамадзяніна-пана Пі-са-рэ-віча! Проша! *(З выкрутасамі запрашае сесці.)*

[1] Камітэт па эвакуацыі пленных і бежанцаў.

П а н і. Божа! А я вас не пазнала... Як вы змяніліся, пане Пісарэвіч.

П і с а р э в і ч. А вы, грамадзянка, здаецца,— панна Ліхтароўчанка, калі не памыляюся. Можа, тым часам — былая панна Ліхтароўчанка?

П а н і. Так, проша пана, я ўжо замужам, па мужу — Пшэпюркоўская. Мой муж — доктар. Мае прыватную практыку і, апрача таго, служыць лекарам пры бежанскім камітэце.

П і с а р э в і ч. Ах, як прыемна!

П а н і. Прызнайцеся, пане Пісарэвіч: вы мяне адразу пазналі ці не? Як я цяпер выглядаю?

П і с а р э в і ч. Дадушы, не ведаю: ці я вас адразу пазнаў, ці не адразу, бо я тады пра бульбу думаў. Выглядаеце ж вы адменна, пані Пшэпюркоўская, ну, адным словам — адменна!

П а н і *(ахарашваецца)*. Праўда, добра? А мне здаецца, я дужа змізарнела. Я сяду... *(Сядае на скрынку.)* Скажыце праўду: дзе пані Станіслава?

П і с а р э в і ч. Што? пані Станіслава? А ці ж я вам сказаў няпраўду? На промысел пайшла. Дадушы! Гэта, знацца, опровізацыйны камітэт дазволіў уцекачам прыходзіць у склад і выпыльваць мяхі з-пад мукі. Дык яна мела ахвоту — пайшла. Ну нічога, зараз вернецца.

П а н і. Ах, як шкада! А якія ж гэта могуць быць для пані Станіславы заробкі?

П і с а р э в і ч. Не заробкі, не, пані грамадзянка Пшэпюркоўская. Уцекачы гэтую выпылку пасля змятаюць і забіраюць сабе на хлеб есці.

П а н і. Ах, ах, ах! Што ж гэта вы кажаце? Вы жартуеце, пане Пісарэвіч! Бедная пані Станіслава...

П і с а р э в і ч. Ну нічога, добра! *(Пяе.)*

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

П а н і. Хіба толькі з вашаю ўдачаю можна пяяць, пане Пісарэвіч, у гэткім становішчы. Скажыце: як жа гэта вы тут апынуліся? Як уцяклі з-пад немца? Здаецца ж, вы меліся застацца пад нямецкай акупацыяй?

П і с а р э в і ч *(бегае і махае рукамі, дзьме ў іх ад сцюжы)*. Не, мы не засталіся, мы выехалі, толькі ўсё чакалі на асобнае купэ ў вагоне, дык трохі спазніліся выехаць. Адзін наш бедны Мурзачка застаўся... Ведаеце: зачынілі мы яго ў будцы, дык ён выў і драпаўся, пакуль-ткі не выскачыў. Прыбег на вакзал, знайшоў нас, кідаўся ў вагон — і мусіў

застацца ў палоне, начальства не дапусціла яго эвакуавацца. Бачыце, мы ехалі ў цяплушках, а сабачых вагонаў не было. Чула яго сэрца смертухну...

Пані. А што з ім сталася?

Пісарэвіч. А сніцца мне, часта сніцца, што сабачка наш тры дні не еў, не піў і ляжаў у сваёй будцы, як хворы. А на трэці дзень, як бухнуў нямецкі снарад, дык і яго і будачку яго закапаў у зямлю. Як сасню, дык аж плакаць хочацца. А сніцца мне яго смерць вельмі часта.

Пані. Я не разумею, чаму вы так шкадуеце свайго сабаку?

Пісарэвіч. І то праўда: сабаку сабачча смерць!

Пані. Дзякаваць богу, што самі выбраліся з гэтага пекла. Нам ехаць было добра, а вам?

Пісарэвіч. І нам нішто: ехалі, смяяліся, жартавалі. Цеснавата крыху было спачатку. Людзі абляпілі цягнік, як мухі,— нават на буферах ехалі. Нічога, няшчасцяў было мала, толькі на першай станцыі адзін старэнькі ўцякач сядзеў на прыступачцы, заглядзеўся,— як трахнецца галавою аб жалезны нейкі слупок, зваліўся — і душа з яго вон. Ну, нічога, яго панеслі на насілках, а кроў прысыпалі свежанькім пясочкам.

Пані. Ах, так... Хваліць бога, што з намі нічога дрэннага не трапілася.

Пісарэвіч. А за Тулаю папсавала мне настрой другая прыгода. Па ўсім цягніку, з вагона ў вагон, вадзілі добрыя людзі нейкага хлопчыка, зусім маленькага. Ён шукаў сваю матку і плакаў. І ніхто не ведаў, дзе яго матка падзелася... Дагэтуль чую сябе вінаватым!

Пані. Што вы, што вы, пане Пісарэвіч! Чым жа вы тут вінаваты. Кожнаму трэба сваіх дзетак пільнаваць, а не чужых. Пане Пісарэвіч, а як жа вашы дзеткі маюцца? Што гэта іх не відаць?

Пісарэвіч. Мае хлопчыкі? А нічога, нічога, дзякую! Аддалі былі іх у прытулак,— хоць Стася і дужа не хацела, але крута нам прыйшлося. Дык нічога! Красці троху навучыліся там, навучыліся ад сяброў, а цяпер во з намі жывуць, бо прытулак зачыніўся,— нічога, добрыя хлопчыкі... Так і жывём. Дамоў ехаць збіраемся, бо ў гасцёх, кажуць, добра, а ў сваёй хаце яшчэ лепей!

Пані. Бальшавікі, бальшавікі праклятыя да гэтага давялі. Да іх нішто было, а цяпер ні ў чым няма парадку. Да бальшавізму нам з мужам, можна сказаць, нішто сабе жылося, а цяпер не тое што французскай булкі,— хлеба

белага і ў вочы не бачым даўно. Ах, як цяжка жывецца, і ўсім, усім так.

Пісарэвіч. Праўда, праўда! І я вось ніяк не зараблю на гнілую бульбу. Шыю-шыю, а каб спагнаць ахвоту з бульбяных бліноў — дык аніяк. Ну, нічога! *(Яшчэ весялей пяе.)*

Бульбу пякуць, бульбу вараць,
Бульбу ядуць, бульбу хваляць!

Пані. Шчаслівы маеце характар, пане Пісарэвіч. Я не магла б пяяць у вашым становішчы.

Пісарэвіч. Гэ, а чаго мне журыцца? Я шыю боты, жонка мяшкі выпыльвае, дзеткі ў школе...

Пані. А ў якой школе?

Пісарэвіч. У школе жыцця!

Пані. Бальшавіцкай, значыцца? Многа яны там наўчацца!

Пісарэвіч. Дазвольце вытлумачыць, грамадзянка! На станцыі стаіць эшалон з чырвонаармейцамі, што едуць на белых, на фронт. *(Бярэцца за працу і адварачваецца.)* Дык яны там цэльны дзень пільнуюць з місачкамі. Астаткі крупнічку, камочак кашы, скарыначка хлеба, селядцовы хвосцік — усё на патрэбу чалавеку...

Пані. Ах, ах, ах! Бедная пані Станіслава! *(Прыкладае к вачам беленькую хустачку.)*

Пісарэвіч. Нічога, усё добра будзе! *(Пяе.)*

Хто быў нічым,
Той стане ўсім!

Жонка *(адчыняе дзверы і з трудом уваходзіць у хату. У руках, у мяшочку, трошкі мукі)*. Ізноў глотку дзярэш, а хворы, галодны. Ах, хто тут у нас?

Пісарэвіч. А вось табе зараз будзе сорамна за гэтыя словы. Я не глотку дзяру, а песенькі пяю, душу весялю, даражэнькая!

Пані. Пані Станіслава!

Жонка. Ах, ах!

*(Цалуюцца, пасля трохі плачуць, абціраючы вочы, адна хустачкаю, другая кончыкам трапачкі, і тады з подзівам, без асаблівай прыемнасці аглядаюць адна адну.)*

Пані. Я ўжо, пані Станіслава, замужам. Мой муж — доктар Пшэпюркоўскі, ён лекарам пры бежанскім камітэце.

Жонка. А мы... *(Махнула рукою і абцёрла вочы.)* Вось... напыліла на ўсю сямейку хлеба!

Пані. Падумаць толькі, падумаць! Праклятыя бальшавікі!

Жонка. А вось іхны абаронца! *(З злосцю паказвае на мужа.)*

Пісарэвіч. Яны маёй абароны не патрабуюць. І калі я бараніў іх?

Жонка. Ты? Заўсёды! У цябе няма вінаватых сярод гэтых душагубцаў, хамаў гэтых, арганізаваных хуліганаў. Яны невінаваты ў тым, што жонка твая ходзіць горш за ўсякую жабрачку...

Пані. Страшэнна! Страшэнна!

Пісарэвіч. Але ж...

Жонка *(перабіваючы)*. Што сам ты, інтэлігентны чалавек, за гнілую бульбу боты мужыкам шыеш, патрэбныя каморкі падмятаеш,— яны невінаваты!

Пісарэвіч. Але ж пачакай, дай сказаць!

Жонка. Досыць я начакалася! Прычакалася таго, што дзеткі мае, замест вучыцца ў класічнай гімназіі, марнуюць час пад вокнамі салдацкага эшалону, каб выпрасіць у гэтых хамаў кавалачак хлеба-а-а... *(Плача.)*

Пані. Страшэнна! Страшэнна! *(Прыціскае к вачам хустачку.)*

Пісарэвіч. Але ж, Стасенька, пачакай! Дай сказаць!

Жонка. Чаго — пачакай? Новага ліха? Разумеюць яны слабоду? Выйдуць з вагону, «Інтэрнацыяналам» глотку дзяруць, а кідаюць у натаўп галодных дзяцей якую скарыначку недаедзеную і любуюцца, што дзеці, як галодныя псы, б'юцца за тую скарыначку, за іхны аб'едак...

Пісарэвіч. Але ж кідаюць! Дзеляцца з дзяцьмі апошнім кавалкам, самі галодныя!

Жонка *(з непрыязню)*. У-у, ты ад гора з глузду з'ехаў! Разумееш: ты не-нар-маль-ны!

Пісарэвіч. А даўней, калі мы кідалі свае аб'едкі дзецям беднякоў, дык я быў нармальны...

Жонка. Маўчы! Маўчы лепей!

Пані. Не, я-то ўжо бальшавікоў хваліць не магу. Галайстру гэтую, хвэ! І муж мой, доктар, цярпець іх не можа...

Пісарэвіч *(устае)*. Охо-хо... Выбачайце, грамадзянкі, але мне трэба выйсці за фізіялагічнай патрэбаю:

гнілая бульба робіць часцейшы кругазварот. *(Насвіствае і выходзіць.)*

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

Ж о н к а. Чулі вы, пані Ядвіга, што ён сказаў? Гэта інтэлігентны чалавек! Ён робіцца ненармальны... Горачка маё!.. *(Плача.)*

П а н і *(устае.)* Бедная вы, пані Станіслава! *(Цалуе яе.)* Але выбачайце, пара ўжо мне ісці. Як я рада, што мы ўбачыліся. Заходзьце да нас, пані Станіслава... Толькі я баюся запрашаць да сябе пана Пісарэвіча, бо яны пэўна пасварацца з маім мужам... Мой муж, як і ўсе парадачныя людзі, страшэнна ненавідзіць бальшавікоў...

Ж о н к а. Дзякую, дзякую, пані Ядвіга. Так хочацца з інтэлігентнымі людзьмі пабачыцца, пагаманіць. А куды я з сваім ненармальным пакажуся? І хто ў нашых лахманах убачыць інтэлігентных людзей? Я вас падвяду трошкі, пані Ядвіга.

П а н і. Не, не, не трэба, дзякую... Нашто вам са мною па холадзе хадзіць... Я адна. Бывайце здаровенькі, пані Станіслава! *(Цалуюцца. Пані выходзіць.)*

Ж о н к а. Шчаслівая пані Ядвіга... А я дажылася, што са мною парадачнаму чалавеку ісці сорамна. Гора маё! Гора маё! *(Ламае рукі і плача.)*

П і с а р э в і ч *(прыходзіць, пеючы «Хто быў нічым...»)*. А што, пайшла ўжо гэтая лялька? Няўжо і да сябе запрасіла?

Ж о н к а *(халярує)*. Змоўкні, змоўкні, змоўкні з гэтаю песняй! Ты ненармальны!

П і с а р э в і ч. Стасенька, супакойся! Можа, яшчэ і горай будзе, паспееш наплакацца... А ў мяне, братка, нічога не выйшла... Я зусім хворы...

Ж о н к а *(іншым голасам)*. Не палохай мяне, Алесь!

## IV

Дзеецца ў хаце ў беднае бабы. Сама яна з дзяцьмі жыве ў кухні. П і с а р э в і ч — хворы, каля яго ж о н к а, д о к т а р.

Д о к т а р. Давайце яму лякарства, якое тут прапісана. А самае галоўнае: каб быў поўны супакой. Каб хворы без крайняе патрэбы і не кратаўся зусім.

Ж о н к а. А гэта ж не страшная хвароба, пане доктар?

Д о к т а р. М-м-м... не, пры супакоі, пры добрай ядзе, належным даглядзе... Але бывайце, мяне чакаюць іншыя пацыенты.

Ж о н к а *(нясмела і сарамліва кладзе яму грошы ў руку)*. Выбачайце, пане доктар, болей не можам, уцекачы мы...

Д о к т а р *(насуплівaецца)*. Колькі тут? *(Лічыць вачыма.)*

Ж о н к а. Выбачайце, паважаны пане доктар! Уцекачы... Самі разумееце...

Д о к т а р. Я сам уцякач і не магу дарма лячыць пры ўсім маім жаданні...

Ж о н к а. Паночку, мы не ведалі, мы думалі... Верце нам, у канец сышлі...

Д о к т а р *(злуецца)*. А мне якая да гэтага справа? І вы павінны разумець, што цяпер доктар дарма лячыць не можа... Маглі ў камітэцкую больніцу завезці вашага мужа, а не запрашаць доктара на кватэру, калі вы бедныя. Уцекачы... Чоррт! *(Выходзіць, стукнуўшы дзвярмі.)*

Ж о н к а *(збянтэжаная)*. Я ж думала, досыць яму. Хто ж іх ведаў, што яны цяпер так шмат бяруць...

П і с а р э в і ч. Ат, кінь, Стася. Яму абы грошы. Ён, відаць, з гатунку тых, як муж тваёй каляжанкі.

Ж о н к а *(збітая з раўнавагі)*. Дык гэта ж і ёсць сам пан Пшэпюркоўскі, лекар бяжэнскага камітэту.

П і с а р э в і ч. А-а?! А чаму ж ты з ім не пазнаёмілася? Знаёмы і сам уцякач, гэта ж: «Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся».

Ж о н к а. Не жартуй, Алесь! Якое ж цяпер у нас можа быць знаёмства з парадачнымі людзьмі? Сорам прызнацца, хто мы ёсць...

П і с а р э в і ч. Ах, пся крэў! Ну, доктар!

Ж о н к а. Супакойся, Алесік, супакойся! Ах, ці хопіць у мяне на лякарства? *(Пералічвае марачкі.)* Пабягу ў аптэку.

П і с а р э в і ч. Не пускай толькі гаспадыніных дзяцей сюды. Як пойдзеш у аптэку, скажы, каб не хадзілі сюды...

Ж о н к а. Добра, добра! Ах, Алесік, я ж цябе пакармлю спачатку. Скажы мне, можа, хочаш яешаньку? Ад камітэцкай падмогі яшчэ маем колькі рублёў.

П і с а р э в і ч. Нашто мне твая яешанька? Лішнія выдаткі.

Ж о н к а *(утупіла вочы)*. Якія там выдаткі. Я невялічкую, з двух яек.

П і с а р э в і ч. Ну, добра! Але, Стася, і ты будзеш есці са мною!

Ж о н к а. Добра, добра, Алесік. Я зараз прыстрою. Пабягу яек пашукаю... *(Пайшла.)*

П і с а р э в і ч. А-ах... *(Стогне.)* Вось калі-ткі, папраўдзе, быў конь, ды з'ездзіўся. Няўжо памру тут на чужыне? А можа, і лепей... Шкада толькі хлопчыкаў... Сапсуюцца тут. Але як памру, то ўжо з прытулку іх не выганяць — і то балазе. А-ах... З сваімі дзяцьмі жыць не прыходзіцца, а гаспадыніны сваім галузваннем з розуму мяне зводзяць. А-ах, дзеткі, дзеткі... Няўжо памру? Яблыкамі мне часта пахне,— што б гэта значыла? Скажу Стасі, хай прывядзе заўтра хлопчыкаў з прытулку: хачу з імі пабачыцца. Гм, няўжо памру?

Д з я ў ч ы н к а *(калматая, худая, абшарпаная; спачатку выстаўляе галаву ў трохі адчыненыя дзверы)*. Пан! У вас быў доктар? Ён жыд?

П і с а р э в і ч. Быў, але не ідзі сюды, Манічка, я хворы.

Д з я ў ч ы н к а *(уваходзіць і бярэ рэцэпт)*. Што тут напісана?

П і с а р э в і ч. Пакладзі рэцэпт. Можа б, ты пайшла пакуль што назад у кухню?

Д з я ў ч ы н к а. Гэта наша хата, а не ваша.

П і с а р э в і ч. Мы вашай маме плоцім за яе.

Д з я ў ч ы н к а. А мама казала, што вы не заплоціце, бо голыя вы, як бізуны. Ведама, уцекачы, палякі праклятыя.

П і с а р э в і ч. Што ты там разумееш... Пакладзі рэцэпт і ідзі ў кухню.

Д з я ў ч ы н к а. Я хачу тут быць. Вы не забароніце, бо хата не ваша.

П і с а р э в і ч. Стася! Стася! *(Дзяўчынка схапіла рэцэпт і ўцякае.)*

Ж о н к а *(прыбягае, запыхаўшыся)*. Што, Алесік?

П і с а р э в і ч. Дзяўчынка схапіла рэцэпт і ўцякла... Кідаеш, Стася, абы-дзе.

Ж о н к а. Ах, свавольніца! Я матцы пажалюся на яе! *(Пабегла, але дзяўчынка сама нясе скамечаны рэцэпт і кідае.)*

Д з я ў ч ы н к а. Наце! Не бачыла я вашых паперак, падумаеш!

Ж о н к а. Ах ты, распусніца! Навошта ж пакамечыла? *(Разгладжвае.)* Ну, ідзі ў кухню, гуляй там, бо хвораму дакучаць няможна.

Д з я ў ч ы н к а. А я не хачу. Хата не ваша!

П і с а р э в і ч. Выйдзі вон, дзяўчынка! Ты мяне раздражняеш!

Д з я ў ч ы н к а. А я не хачу! Хата не ваша!

П і с а р э в і ч. Выйдзі вон, брадзяга!

Д з я ў ч ы н к а. Я не брадзяга,— майго бацьку на вайне забілі за вас, праклятых.

Ж о н к а. Ідзі, ідзі! *(Бярэ яе за плечы і выводзіць.)* Бач, распусціла язык, як карова.

Д з я ў ч ы н к а *(сумысля крычыць)*. Ай, ратуйце! бяжэнка б'ецца! *(Потым сціхае.)*

П і с а р э в і ч. Ну, скажыце! Вось так нумар! Яна мне ўсё нутро пераверне, гэтая жаба малая... Стася! Стася!

Ж о н к а *(прыбягае)*. Што, Алесік?

П і с а р э в і ч. Што ты там робіш? Кінь ты іх там, пасядзі са мною.

Ж о н к а. Што табе, Алесік?

П і с а р э в і ч. Прывядзі ты заўтра нашых хлопчыкаў з прытулку...

Ж о н к а. Добра, добра... Я зараз яешаньку табе прынясу... *(Выходзіць.)*

П і с а р э в і ч. Дзеткі мае любыя! і навошта мне было сварыцца на гэтую дзяўчынку? Што яна разумее, малая? *(Маўчыць, а з кухні чуецца дзіцячы рогат.)* Што такое? Ізноў нейкія штукі?

Ж о н к а *(прыбягае знерваваная)*. Ну, што ты скажаш? Не хлопчык, а д'ябал! У самую патэльню з яешняю скінуў з печы брудны чаравік!..

П і с а р э в і ч. Ах, шэльма! Вось гэта жарцікі! *(Смяецца.)*

Ж о н к а. Укінуў чаравік і залівaецца смехам на печы Прост не хлопчык, а д'ябал. Сапсаваў яешню...

П і с а р э в і ч. Аддай яму гэтую яешню, хай сам есць, гад.

Ж о н к а. Я табе другую спяку, Алеська. Ах, пракляты хлопчык!

П і с а р э в і ч. Што яны вінаваты, малыя: маці цэлы

дзень ля вагонаў таргуе, а яны тут адны прост на галаве ходзяць.

Ж о н к а. Вось і будзь тут супакойны... І калі ж гэта ўжо мы павернем у сваю хатку? Хай яны тут згінуць з усім сваім, кацап'ё гэтае!

Б а б а *(раптоўна ўваходзіць у пакой і грозна падступае)*. Хто гэта хай згіне? Хто гэта хай згіне, паны, скажыце вы мне? Га?

Ж о н к а. Чаго вы крычыцё? Мой муж хворы, яму патрэбен супакой.

Б а б а. А мне супакою не патрэбна? Я вас пусціла ў сваю хату як добранькіх, каб вы пад плотам дзе не прапалі, а вы што гэта выробляеце? Га? Якое вы права маеце дзяцей з хаты выганяць? Нашто вы мне дзяўчынку маю б'еце, га?

П і с а р э в і ч. Хто яе калі біў? Кіньце вы...

Б а б а *(на жонку)*. Яна біла! Што гэта такое?

Ж о н к а. Я не біла, а вам бы трэба навучыць іх троху, а не слухаць, што дзяўчынка набрэша...

Б а б а. Што? Сваіх дзяцей ідзеце ў прытулак вучыць!

Ж о н к а. Нашы дзеці не кідаюць вам у яешню брудных чаравікаў.

Б а б а. А мае каму ж гэта кідаюць?

Ж о н к а. А сёння хлопчык мне ў яешню кінуў з печы брудны чаравік.

Б а б а. Я ж яму пакажу, нягоднаму! *(Кінулася за дзверы, дзе зараз пачынаецца страшэнны гвалт. Матка б'е, а хлопчык крычыць благім матам: «А мамачка, ён сам уваліўся! А мамачка, не бíся!»)*

П і с а р э в і ч *(затыкае вушы)*. Нашто ты казала? Нашто ты казала? Я не магу чуць гэтага крыку! Ідзі адбяры ў яе. Адбяры!

Ж о н к а. Алесь, супакойся! Ну, што я тут вінавата? Што мне рабіць! Ай! Ай! Ай!

Б а б а *(прыбягае раз'юшаная)*. А цяпер вон з мае хаты, палякі праклятыя! Каб і духу вашага тут не смярдзела! Зладзеі вы! З-пад чужой курыцы яйкі выбіраеце ды яешні сабе смажыце! Падумаеш, паны дужа вялікія!

Ж о н к а. Алесь, галубок, даражэнькі! Яна брэша, няпраўда, я не брала, я на рынку купіла... *(Тупіць вочы, уцягвае галаву.)*

Б а б а. Купіла пад чужой курыцай!

Ж о н к а. Няпраўда, Алесь, няпраўда! *(Плача.)*

Б а б а. А што, нялюба слухаць? Паня такая! Мінулася вам панства. Вон з мае кватэры! Каб заўтра ўжо і вочы мае вас тут не бачылі! *(Ляпнула дзвярмі і крычыць у кухні.)*

П і с а р э в і ч *(калі ўсё сціхла)*. Глупства, завязі ты мяне, Стася, у больніцу! Можа, я палепшаю... А калі і памру, дык без гэтага гвалту... Эшалону я ўжо не дачакаюся.

Ж о н к а *(плача)*. Алесічак, што ты кажаш, як жа я буду адна, з дзетачкамі, божа мой!

П і с а р э в і ч. Прасіся ў кухаркі ў прытулак, бліжэй да дзетак. А можа, бяжэнскі камітэт дасць якое месца. А там эшалон пададуць, дамоў паедзеце...

Ж о н к а. Алесь, не жартуй! Што ты гэта кажаш?! Не краі ты мне сэрца, Алесь...

П і с а р э в і ч. Якія жарты... Аджартаваў я сваё. Не дачакацца ўжо мне эшалону. Тут застануся...

Ж о н к а. Алесь, што ты мяне палохаеш? Эшалон пададуць, дамоў паедзем... Дзеткі гадаваць будзем...

П і с а р э в і ч. Не плач, Стася. Ну паедзем... Будзем гадаваць... Адзін Пісарэвіч памрэ, два Пісарэвічы вырастуць. Эт, нічога! Добра... усё добра будзе...

Ж о н к а. Алесь, не жартуй! Падумай, што ты кажаш!

П і с а р э в і ч. Найлепшы быў бы жарт, каб я памёр тут да адпраўкі, а то нараблю табе клопату ў дарозе... Ах, трудна мне, Стасенька, трудна! А вось, бачыш, не плачу. І ты не плач...

## V

Дзеецца на эвакуацыйным пункце ў Воршы, у бежанскім бараку пад лесам. Поўная стадола і палаці і падлога ўцекачоў. Ляжаць, сядзяць, ядуць, стогнуць, шукаюць у галаве — бабы, дзеці, старыя мужчыны. Скрозь — лахманы, бяда, пакута. Пры дзвярах стаіць н я м е ц к і ж а ў н е р з цесаком. А д з і н маладзейшы ўцякач вядзе другога ўцекача — с л я п о г а дзеда, і садзіць на падлозе пры жаўнеры.

С л я п ы. Дык гэта мы ў вагон прыйшлі, братку?

1-шы ў ц я к а ч. У вагон, дзядзька. Вось тут сядзі і чакай адпраўкі. *(Смяецца.)*

С л я п ы. А чаму ж мы нікуды не ўзлязалі, усё па роўным ішлі?

1-шы ў ц я к а ч. Гэта ж нямецкія вагоны такія. Ну, дык сядзі тут і маўчы. *(Сам ідзе к 2-му ўцекачу, садзяцца побач і гамоняць.)*

2-гі ў ц я к а ч. Што гэта — дурны?

1-шы ў ц я к а ч *(ціха)*. Не, ён сляпы. Блукаецца і начальству і ўсім дакучае, пытаецца, калі паедзем. Дык я яго і пасадзіў: хай думае, што ў вагоне.

2-гі ў ц я к а ч. Камедыя, як хто не ведае.

1-шы ў ц я к а ч. Адзін, стары дый паверх — сляпы, адбіўся ад свайго эшалону. Бяда мне з ім. Мы землякі.

С л я п ы *(з свайго кутка)*. Дзякуй табе, добры чалавеча, што ты ў вагон мяне пасадзіў, але чаму ж гэта марудзім, чаму не едзем?

1-шы ў ц я к а ч. Чакай, чакай там, дзядзька, як прыйдзе пара — паедзем.

С л я п ы. А па мне — хоць бы і зараз ехаць.

2-гі ў ц я к а ч. Дзівак ён! Не, старэнькі, яшчэ не зараз прыйдзе гэтая пара...

1-шы ў ц я к а ч. Еду-еду я ад самага Тамбова і што бачу: па ўсіх вакзалах страшэнны бруд і непарадак. Людзі, як быдла, як вось і мы цяпер, валяюцца на голым ды запаскуджаным памосце. Цесната, бесталач, гарачае вады няма. Не дзіва, што людзі хварэюць ды паміраюць у вагонах і на вакзалах і ў бараках, як тыя свінні ў пошасці.

2-гі ў ц я к а ч. Есці, братка, няма чаго людзём, во бяда!

1-шы ў ц я к а ч. І я тое кажу. А тут бы во пайшоў куды, можа, дзе зарваў бы што,— калі не купіў, дык хоць бы выпрасіў,— а ён стаіць пры дзвярох і не пускае. Куды ні ступі, усё «цурук!» ды «швайн!» — крычаць на нашага брата, як на дурную авечку.

2-гі ў ц я к а ч. Няўжо ж няма спосабу вырвацца з гэтага пекла, — і прыйдзецца, апрача таго, два тыдні ў каранціне сядзець?

1-шы ў ц я к а ч. На немцаў няма, братка, спосабу,— сядзі... *(Чуваць выццё ў другім пакоі.)* Ах, як галосіць... Чуеш, галосіць?

2-гі ў ц я к а ч. Гэта адзін памёр начою, дык пляменніца галосіць. З пляменніцаю ехаў. Слухай! Як хораша ўсё чысценька вычытвае. Ах, добра вые!

Г о л а с. А мой дзядзюхна, а мой родненькі! Поўненька тут людзей, толькі не ў госцейкі прыйшлі к табе, няма нікога і развітацца з табою! Не на сваёй лаўцы ты лёг, дзядзюхна! Мой міленькі, мой сухлявенькі! А ты так лёгка апрануўшыся, і табе не сцюдзёненька... Не пачакаў ты нас, паляцеў наперад за ўсіх даведацца, што там робіцца ў роднай хатачцы... Хто ж цябе там ад марозу прытуліць? Там жа, кажуць, усё спалілі, усё паразбівалі. А мой дзядзюхна! Ці ты за што загневаўся? Можа, калі дрэнна паслала, нячыста памыла... А ў мяне ж было поўна работы, аб аднэй думала, на другую забывалася... Намучыліся мы, нацярпеліся на чужой староначцы, нагаладаваліся, намёрзліся... А ты і пачакаць трошкі не захацеў... Паляцеў адзін, мой дзядзюхна, мой старэнькі саколіку...

1-шы ў ц я к а ч. Пайду, пагляджу...

2-гі ў ц я к а ч. Не ідзі, не пусціць! *(Паказвае на жаўнера.)* А плача — ах, добра!

1-шы ў ц я к а ч. Пайду, хоць ласкавае слова ёй скажу. *(Ідзе.)*

Н е м е ц. Цурык! *(Варочае яго назад.)*

2-гі ў ц я к а ч. Вярніся, хай ён падавіцца сваім цуруком.

1-шы ў ц я к а ч *(жаўнеру)*. Пусці, братка, хай жа я ласкавае слова ёй скажу.

Н е м е ц. Цурык! Швайн! *(Уцякач варочаецца.)*

2-гі ў ц я к а ч. Ты на яго «братка», а ён на цябе «назад, свіння!».

1-шы ў ц я к а ч. Чаго ж гэта ён так раззлаваўся?.. Ой, што гэта за ґвалт, што там такое, братачка мой?

Ж о н к а *(ляціць, як шалёная. Немец яе ловіць)*. У мяне муж памёр, дзеці галодныя! Не чапайце мяне! *(Плача.)*

П е р а к л а д ч ы к *(у дзвярах)*. Мадам, усіх трасуць, і вас мусяць аглядзець. *(Кажа нешта немцу па-нямецку і выходзіць назад за дзверы.)*

1-шы ў ц я к а ч. Панечка! Гэта яны думаюць: можа, вы золата ў спадніцу зашылі ці якую газэціну, дык мусяць трэсці. І шпіёнаў ловяць так. Усіх трасуць...

Ж о н к а. Я не капіталістка, не бальшавічка, не шпягоўка! Нашто мяне трэсці? У мяне муж учора памёр, дзеці галодныя... Пра гэта ў мяне ніхто не пытаецца! *(Сядае і плача.)*

2-гі ў ц я к а ч (1-му). Чаму ж гэта яе не трэслі адразу, як прыехала?

1-шы ў ц я к а ч. Мусіць, паўважаліся, што ў жалобе. У панечкі муж памёр у вагоне, добры такі чалавек быў, яшчэ перад сваёю смертухнаю ўсіх нас падвесяліць хацеў: «Нічога, кажа, усё добра будзе». Аж во яно добра!

2-гі ў ц я к а ч *(жонцы)*. Грамадзянка, не бойцеся нічога: яны завядуць вас у сакрэтную каморку, і нямкіня там вас агледзіць.

1-шы ў ц я к а ч. Пакарыцеся, панечка.

Ж о н к а. Не чапайце мяне! Не рушце мяне!

2-гі ў ц я к а ч. Калі ў грамадзянкі брыльянтаў няма, чаго ж баяцца?

Ж о н к а. Мужа без абраду, без труны, як сабаку, у пясок закапалі, дзеці з голаду пухнуць, а ў мяне брыльянты... Хто гэта сказаў? Ты? *(Кідаецца на яго, як тыгрыца.)* Сволач ты, дрэнь, бальшавіцкая морда!

2-гі ў ц я к а ч *(уцякае)*. Што вы гэта, пані? Я ж так сабе сказаў, прыкладам... Я бачу, як вам баліць. Усе мы няшчасныя.

Ж о н к а. Сволач, сволач! «Усе мы няшчасныя»... Пайду глоткі дзецям перагрызу, сябе заб'ю,— тады будзеце ведаць, якая вам няшчасная... У-у-у!.. *(Вые, рагоча і выбягае міма немца, аж ён збіўся з панталыку.)*

2-гі ў ц я к а ч. Усіх жа трасуць, хто ні едзе. Праўда, і ўчора з аднэю паняю, што з намі ехала, тое самае было. Крычала, як рэзанае парасё, а тады бразнулася на зямлю, замалацiла галавою аб падлогу — і зрабілася быццам нежывая. Дык у тэй жа такі перад гэтым брыльянты з спадніцы выпаралі. А гэта чаго?

1-шы ў ц я к а ч. З гора бедная заходзіцца. Як жа: мужа ўчора толькі закапалі. Я за ногі нёс яго ў яму — лёгкі, высах, як трэска. Вучонае пароды, відаць, быў чалавек, а да чаго дайшоў. Двух хлопчыкаў і во яе асіраціў, пакінуў без пары.

2-гі ў ц я к а ч. Дык паны ў няшчасці заўсёды болей халяруюць, чымся просты чалавек. Вось ёй баліць, што без абраду пахавалі, а яму што? Не ўсё аднакава целу гніць — у труне ці без труны?

1-шы ў ц я к а ч. Ну, як жа, братка, і мёртваму свая чэсць належыцца.

2-гі ў ц я к а ч. А як я цяпер свету паглядзеўшы, дык, па-мойму, усё роўна чалавеку, ці так, ці гэтак. З зямлі і

ў зямлю. Што чалавек, што чарвяк... Скача, скача, як блыха, заваліцца — і па ўсім.

1-шы ўцякач. Але ж, братка, чалавек жа не блыха!

2-гі ўцякач. У чым не блыха, а ў чым дык зусім, як блыха!

1-шы ўцякач. Не вярзі ты, братка, пустое. Будзем во лепей думаць, як-то прыме нас зноў да сябе родная старонка. Як цяпер разжывацца на голенькім месцы?..

◇ ◇ ◇

## [Г. ГОРКІ, МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕРНЯ. У ГЭТЫМ ГАДУ...]

Г. Горкі, Магілёўск.[ая] губ[ерня]. У гэтым гаду ў дзверы тутэйшага каморніцка-агранамічнага вучылішча стукалася 250 хлапцоў, калі не лічыць тых, каторыя не экзаменаваліся пасля доктарскага агляду. 232 хлопцы прасіліся ў першы падгатавіцельны клас, а рэшта ў першы спецыяльны. З гэтага ліку хлапцоў залічаны вучнямі ўсяго 36. Вучылішча адчынена ў 1909 гаду, і за апошнія гады ў сярэднім на 30 месц просіцца да 300 чалавек. Можна сказаць, што вучні з'язджаюцца сюды з усіх куткоў Расіі, бо бедакоў прымушае тут шукаць асветы тое, што вучылішча мае шэсцьдзесят 180-рубельных стыпендый. І з кожнага боку выгодна вучыцца тут дзецям вясковых небагатых гаспадароў, бо ў падгатавіцельны клас прымаюць тых, што акончылі двухкласную народную школу, а калі хлопчык патрапіць у вучні, дык яму, калі ён сам мала мае грошы дзеля пражыцця ў Горках і добра вучыцца, даюць стыпендыю. А вучаць не толькі каморніцтва, але і таго, як кіраваць вясковай гаспадаркай, і шмат чаго іншага.

## [Г. ГОРКІ, МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕРНЯ. У ПЕРШЫ ДЗЕНЬ КАСТРЫЧНІКА...]

Г. Горкі, Магілёўск.[ая] губ[ерня]. У першы дзень кастрычніка адбыўся тут штогодні кірмаш. У гэтым гаду з'езд сялян быў малы; і кірмаш выйшаў зусім дрэнны. Вінаваціць трэба пагоду. У нас ад пачатку месяца жніўня і аж да самага кастрычніка ішлі дажджы і было сцюдзёна. Дарогі папсаваліся, і між сялян мала хто пацікавіўся паехаць на кірмаш. Дый таго, хто паехаў, турбацыя была дарэмна, бо ў самы кірмашовы дзень пайшоў дождж, зрабілася гразь,— дык які ўжо тут торг. Было навезена каду-

шак, лык, каткоў, скрынь, рэшат і іншага дрывянога тавару, але шмат меней, чымся ў даўнейшыя гады. Торг ішоў найбольш на коні. Якога-небудзь вясковага гаспадарскага выраблення на продаж я нават і не бачыў. І ва ўсім вінавацяць сяляне мокрае надвор'е, бо шмат яравога збожжа і сена пагніло на палях, а лён, каторы пабралі, ды не паспелі да дажджу сабраць з поля, пачарнеў і выцек, и так-то зарадзіўся доўгі і ўраджайны. Толькі і хваляцца сёлета людзі бульбай. Слівак у нас у гэтым годзе не было, нават вясной шмат дрэў паўсохла, а яблык і дуль ураджай сярэдні, фрукты дробныя. З гэтакіх прычын і кірмаш быў не завідны. Але ж што-што, а гарэлку пілі на кірмашы як усягды, калі не лепей. Народ навакол жыве небагата, бо зямлі мала, а фабрычна-заводскага промыслу ці якога іншага няма і да жалезнага шляху далёка, а гарэлкі п'е тутэйшы селянін надта многа. Страшэннае п'янства і сярод гарадскіх земляробаў. Недарма ж у горацкіх сельск.[а]гаспадар.[чых] вучылішчах вучняў Горацкага і бліжэйшага Чавускага павета, к невыгодзе саміх жа сялян, на жаль, мала. Сяляне жаляцца, што грошы на навучанне неадкуль узяць. Агулам кажучы, шырокае поле дзеля працы ёсць тут сейбітам прасветы сярод цёмнага беларускага сялянства. Ды не якім-небудзь, а свядомым сейбітам-беларусам, што выйшлі з вёскі, знаюць яе і не адракліся роднай вёскі. А то ў Горках здаўна ёсць шмат казённых «культуртрэгераў», бо калісь тут быў інстытут, а цяпер тры сярэдніх вучылішчы для адукацыі на гаспадарцы, ёсць і казённая гаспадарка, усё гэта мае мэту, паміж іншага, і шырыць культуру сярод акружных гаспадароў. І нягледзячы на гэта, «культура» нешта далей Горак у нашых месцах не йдзе. На кожным кроку на кірмашы можна было спаткаць п'янаватага, у беднай адзежы селяніна-беларуса. На маркотныя думкі аб будучыні нашага краю наводзяць гэтакія абычаі. Былі на кірмашы і кепскія здарэнні, колькі сваркі, брудных слоў. Адно здарэнне апаведаю. Тутэйшы гарадскі паліцэйскі-надзірацель атрымаў у горадзе кепскую славу чалавека, у каторага хапае сумлення забраць грамадзяніна ў участак і здзекавацца там над ім. Нават ёсць на яго скарга ў судзе, што ён да крыві пабіў твар аднаму сельскаму гаспадару, пазваўшы таго ў канцылярыю запісаць за шыбкую язду ў горадзе. Цяпер гэты надзірацель хацеў забраць за нешта нейкага маладога хлапца на рынку. Той стаў спрачацца і, вырываючыся ад паліцэйскіх, збіў шапку з галавы надзірацеля. Хлапца забралі ў палі-

цыю, а назаўтра ўранні выпусцілі з пабітаю галавою. Надзірацель гаварыў, што галаву хлапцу пабілі ў драцы сяляне.

11 кастрычніка ў тутэйшых вучылішчах святкавалі сталетні юбілей таго часу, як французаў прагналі з Масквы. Была абедня і паніхіда, увечары чытанне аб вайне 1812 года. Вучням раздавалі пад распіску аб палучэнні кніжкі пра гэту вайну. Кніжкі выдання ваенна-гістарычнай суполкі давалі дарма.

## [ШАМОЎСКАЯ ВОЛАСЦЬ, МСЦІСЛАЎСКІ ПАВЕТ МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ. У ВЁСЦЫ КРУТОЙ...]

Шамоўская воласць, **Мсціслаўск.**[і] **пав.**[ет] **Магілёўск.**[ай] губ[ерні]. У вёсцы *Крутой* шалёная кошка пакусала надоечы хлопчыкаў-вучняў. Паехалі лячыцца ў Маскву. Шэсцера на свае грошы, а чатыром гаротнікам памагло крыху земства.

У нашай акрузе ёсць «дзяды», што даюць лекі ад шалу. Іншы з іх пакачае галачкі з хлеба ў сваім каўпаку, пашэпча нешта над імі і... усё. А адзін мой знаёмы неяк згодзіўся і апаведаў мне, як ён лечыць пакусаных кім-небудзь шалёным людзей або скаціну. Ён бярэ скарыначку хлеба і піша на ёй тры словы («сотор, оропотоцінет, перэруціў»), каторых сам не разумее; выходзіць на двор і, гледзячы на месяц ці на сонца, гаворыць над скарыначкай: «Памяні, божэ, цара Давіда — Ясен месяц! Памяні, божэ, цара Давіда — Махун месяц! Памяні, божэ, цара Давіда — Сонцэ праведнае!» — і дае з'есць скарынку таму, каго лечыць.

Я апаведаў яму, колькі сам ведаў, аб адкрыццях Пастэра, аб заразных мікробах і абараніцельных прышчэпках. Ён са мною згоджываўся, а ўрэшце адказаў так: «Я і сам даю рады іншы раз па навуковаму лячэбніку, ёсць у мяне гэткі, але ж з загаворамі заўсёды больш надзеі...»

Праўда, чалавек гэты адратаваў хіба жывёлу, пакусаную, немаведама, ці шалёным сабакаю, ці не, і нават здох конь, лячоны ад шалу другім «дзедам», але сяляне ў нас даюць веры ім, прыяюць і йдуць к ім, калі трэба.

Во як апанавала цемната нашы вёскі!.. Шмат трэба часу і працы, каб пад ляжачы камень падбегла жывая вада...

...Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!.. Ёсць яшчэ дзеткі ў Маткі-Беларусі, ёсць яшчэ ў нас людзі-арлы, клёкт каторых чуцен і не токма на ціхіх спрадвеку абшарах Бацькаўшчыны, але далятае ён нават да сенцаў, пэўна, задніх сенцаў, вялікіх паноў, бліскучых паноў Пецярбурга.

Весяліся, скачы, маё беларускае сэрца! Ты змалку прывыкла пільна лавіць кожнае слова, кожын гук, калі ён датыкае роднай старонкі і яе жыцця. Цяпер ты дачакалась, дождалася, ай, дачакалась...

Ось ляжыць перада мною нумар расійскай газеціны. Разгарнуў, чытаю. «Як быкі, стаяць літэры». Шмат надрукавана, бо чаго-чаго не дзеецца на свеце? Але што гэта? Кідаецца ў вочы:

«беларуск...» Пра нас! Прачытаць хутчэй: «...Кажуць, што Пурышкевіч — адростак беларускага уніяцкага духавенства...»

Ай, дос, не трэба! Згінь ты, мара; зынікні, ліхата...

І ён наш. І мутарна мне, і гідка мне: скрыўдзілі людзі гэтай весткай мой беларускі гонар...

Чытаю «Русское слово». Пекнае, добрае тлумачыць тут сын народа, шаноўны Г. С. Петров. Заўсёды, як прачытаеш яго твор, неяк пачуеш у сабе святую смеласць, ахвоту працаваць да поту дзеля роднай нівы, быццам прачытаўшы бядулеўскае «Будуйце, браты, будуйце!». А адзін раз... памятаеш, як тады сціснулася ты, маё беларускае сэрца?.. калі давялося мне прачытаць у п. Пятрова пра «свайго», пра «беларуса»,— і божухна, як дрэнна, як крыўдна, горка было мне!

Во што я прачытаў:

«Сын незаможнага бацькі, папа-беларуса, трапіў у Пецярбург у Дух.[оўную] акадэмію і адразу «праявіўся». На пагляд — такі войстрачок дохленькі, куды прасцей галубка, але ў глыбіні душонкі сваёй быў мудрэй усялякай вужакі, толькі нельга зычыць нікому гэтай яго «жыццёвай» мудрасці, бо надта ж брудна. Не грэбаваў нічым, каб зарабіць грошы, каб проста набіць чэрава, але прыстаўляўся, што працуе «высокім ідэям», і ўрэшце быў «сваім чалавекам» у о. рэктара. А далей у жыцці што ён рабіў, што ён рабіў, гэты «балотны агонь»... Не сядзелася яму змірна, рабіў і сваім і чужым, у палітыку гуляў, і якую! У Г. думу шчаміўся, на чужыя грошы, дзеля гэтага ўласную га-

зету меў, як жаба, выбачайце за слова, у родным балоце распінаўся.

І паганіў усё жывое, светлае, здаровае...»

І гэта ж быў «наш», толькі, дзякаваць богу, у «беларуса» не гуляў.

Сорам, сорам!

«Биржевые ведомости». Апавяданне п. Панкратава аб «націоналістах». Бачу загаловак: «Абрусіцель». Хто такі? А ведама хто. Пан Лукашэвіч (хто хоча, няхай чытае Солон, ці як інакш), сын свайго беларускага народа, перш быў вучыцелем, потым... валасным пісарам, далей пралез у чыновенства, зрабіўся газетным пісакам за «тыя» грошы, скрабецца і ў Г. Думу, таксама працаваў «і нашым і вашым».

Як тое кажуць: на ўсе кепствы — майстра лепшы!

Чытаеш пра яго і чуеш, што як быццам ты босаю нагою наўмысля ступіў на нешта халодна-слізкае, бруднае, брыдкае. Ці пазнаў-то свой партрэцік пане С., ці падумаў, які камень падараваў ён свайму абяздоленаму народу замест хлеба, ці ўспомніў, што трэба ж некалі даць адказ за сваю «дзеяцельнасць» перад патомкамі, а пакуль тое што — перад сваімі роднымі дзеткамі, ён жа бацька.

Усё ж такі жалка мне гэтага паночка, калісь і ён *праўдзіва* прыяў сваёй Бацькаўшчыне, ды... па дрэнным шляху пайшоў і, мусіць, забыўся, што лепей позна апамятацца, чым ніколі. І вось чырванець прыходзіцца за гэтых, в дазволу хіба сказаць, «беларусоў».

А сколькі яшчэ, хто ведае, поўзае гэткіх «нашых», буйнейшых і драбнейшых, па зямлі, у дварэ, дома, ці сярод чужынцаў, у свеце! Крый, божа, барані...

І калі ж міне нас гэтае дрэннае — дажджлівае лета, бо шмат развялося чарвей; каб не з'елі яны нашу капустку.

## БУДЗЁННЫЯ З'ЯВЫ

Калі хоча хто, хай прыязджае к нам у Г* і падзівуецца, як далікатна, дрыгаючы нагамі і круцячы галавой (ад хвасці — казаў адзін са злосці), ходзіць па вуліцы малады наш паліцэйскі надзірацель, каторага больш у горадзе завуць «памідорам», бо бязвусы і румяны твар яго сапраўды надта падобен да памідора.

Цікавы хлапчук, ёсць што паглядзець!

Яго бацькі — простыя вясковыя людзі — «выўчылі»

яго, і ён — празукават малы! — дагадаўся, адрокся ад іх.

Дый як жа: ён выйшаў у панства, а яны што? — «мужычччо»... Натое — навука... Як жа яму, скажам, прызнацца, ідучы пад ручку з паненкай, што насустрэчу ў белай сярмяжцы цюхціць яго бацька?

Ён чуць-чуць акончыў двухкласную школу, але куды?.. Хто ж гэтаму дасць веры? Хіба ён сам не помніць ці выдумаў, што вучыўся ў Магілёве ў гімназіі. Ат!

Яму стыдна мо, што ён выйшаў з вёскі, ну дык жа беражыся — о селянін! — калі ты не паспееш парою саскачыць перад ім на бок тратуара... Лепей знімай шапку і хутчэй гні мужыцкую шыю сваю, можа, цэл астанешся, калі дасць міласэрны бог.

«Гэта чалавек з народа і беларус»,— напякае мне вочы ім адзін вальнадумец. «Без гною хлеб не родзіць»,— кажу я, каб хоць адкаснуліся ад мяне...

Кірмаш — лепшае месцечка, дзе можна прыслухацца к народу, пачуць яго думкі... Пойдземо... Во зірніце, и то не, паглядзіце: ідзе нейкі самавіты дзядзька з маладым хлапцом, гамоняць...

«Ты мяне, Іванька, не стыдайся. Што мой браценнік *старшым стражнікам,* дык ты на тое не дбай. Мы ад гэтаго не згардзіліся, як бы іншыя, не запанелі... Ты просты хлапец, сароміцца-сцісняцца табе нас німа чаго...»

Ну што, паслухалі? Вам стыдна, можа, глядзець на самавітага дзядзьку? Як сабе ведаеце.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я ўжо, паночкі, не дзіўлю, што «наш» дэпутат з дэпутацкае лаўкі трапіў у іркуцкія стражнікі. Каму не люба выйсці ў людзі?..

## НЕ ГЛЯДЗЕЛІ Б ВОЧЫ...

У вёсцы М. Б-цы Мсціслаўскага пав.[ета] Магілёўск.[ай] губ.[ерні] жаніў Пятрок Сілачонак свайго сына Ляксея. К свадзьбе прывёз яму швагер ажно дзве чвэрці спірту — адгону («ханджы», як кажуць у нас), частаваць гасцей, «каб бывалі часцей».

І ўжо нашто ласуны да гарэлкі нашы старыкі, але піць

гэта смярдзючае зелле неяк пасаромеліся ці, можа, пабаяліся, каб не захварэць. Нават заядлы п'яніца, Піліп Шнарскі, пачаў сварыцца за гэткі «пачастунак», казаў, што калі не прымуць «ханджу» той час са стала, дык і пляшкі паб'ець і са свадзьбы ўцячэць...

Дзіву даліся! А з «ханджою» схаваліся.

І ўсё-ткі, ліха ж дало, на другі дзень бабу, Раманіху Лёксу, падпаілі гэтым адгонам, ды так, што чуць жывую дамоў занясли. Чуць адратавалі, а то пайшла б без пары на гай за выпіўку, кінуўшы малых дзетак.

«Ханджа» пасля свадзьбы так і асталася стаяць у Петраковай клеці. А каб дабро дарма не зглумілася, меншы Петрачонак, зусім зялёны хлопец Панас, цягне яе па чарачцы перад снеданнем ды абедам...

У гэтай жа вёсцы Паўлюк Л. прадае, хаваючыся ад паліцыі, гарэлку. У яго ж хаце прагуліваюць грошы ў карты вяскоўцы, за гульнёю заўсёды хто-небудзь ды пасварыцца, калі не паб'ецца. Калісь быў Паўлюк сумленны чалавек, а цяпер дажыўся, галубец, што ссе кроў гарэлкаю ў сваіх жа вяскоўцаў. Колькі крыўды, сварак паддаў у вёску! Калі суседкі пачануць саромець яго жонку, яна адказвае так:

— А мне што? Хто ня хочыць, тэй ня йдзець, ня п'ець, а я, балазе, на беднасць сваю зараблю... бывае іншы святы дзень і на паўрубельчыка.

Вось якая тут «чудасія». Не глядзелі б вочы...

## ВЕСТКІ З ГОРАК

Горкі, Маг.[ілёўская] губ[ерня].

Перад вялікаднем тут хваціў атруты вучанік-пансіянер з гаспадарскага вучылішча Губэнко. Чуць адратавалі. Прычыны невядомы: адны кажуць, што яму надта дапякаў інспектар п. Пуйдэ, другія гавораць, што тут — няшчаснае каханне, трэція даводзяць, што ён быў п'ян, а ўжо даўно лячыўся мыш'яком, хацеў яго і цяпер глынуць, колькі трэба, ды пераліў — і чуць не здарылась самагубства. Бацька павёз яго дамоў.

Святкамі тут жа, на Зарэччы, хлапец зарэзаў дзяўчыну, з каторай дружыў гады два. Сам уцёк і дагэтуль недзе хаваецца ад паліцыі.

Ужо другі месяц у Горках працуе лятучы атрад па вачавых хваробах.

І кожын дзянёк каля земскай бальніцы вялікая таўпа людзей, хворых на вочы, найбольш бедных сялян. Беларусь слепа і душой і целам...

Ідуць і гараджане, бо лечыць спецыяліст і дарма.

## КРАІНА ДОБРЫХ АБЫЧАЯЎ

Шамоўская воласць, Мсціcл.[аўскі] пав.[ет] Магіл.[ёўскай] губ[ерні].

У сяле Слаўнаве чуць не да смерці пакалоў хлапец хлапца з-за дзяўчыны.

У той дзень забіяка быў п'яны, хадзіў з нажом-шылам і некаму хваліўся:

— А сягоння каму-каму ды пашчупаю хрыбціну...

Яго засадзілі, а парэзанага павязлі ў Магілёў лячыць.

Тут мне трапілася бачыць, як хлопчык гадкоў 12 чуць трымаўся на нагах,— быў так п'ян.

А дзе напіўся? Тутэйшы станавы прыстаў будуе сабе дом, і ў рабочы дзень сяляне талакою вазілі яму лес — малец на талацэ і «пачаставаўся».

На гэту талаку заказываць ездзіўураднік. У М. Багацькаўцы ён частаваў старыкоў гарэлкаю, каторую сам браў у тутэйшага тайнага гарэлачнага гандляра. І тут жа даваў раду:

— Не даваць гарэлкі такім, што дракі заводзяць, як у Слаўнаве; другім жа можна — няма нічога...

## НАВІНЫ З ГОРАК МАГІЛ.[ЁЎСКАЙ] ГУБ.[ЕРНІ]

Надоечы на казённым заводзе машына адрэзала маладому хлопцу руку. Залетась тут жа пакалечыла вучняпрактыканта. Ён доўга судзіўся з заводскай адміністрацыяй, нічога не высудзіў і ходзіць бязрукі.

У 20[-ты]дзень мая атруціўся цыяністым каліем вучанік апошняга класа землямерна-агранамічнага вучылішча Піліп Армянцоў. Чатыры гады правучыўся на казённы кошт.

У нас многа шкодзіць дрэннае надвор'е: цвілі сады — узняліся вялікія халады, пасеялі аўсы — пачало сушыць

без канца, зацвіло жыта — дождж ішоў бесперастанку. Ураджаі будуць не вышэй сярэдніх.

У Горках Магіл.[ёўскай] губ.[ерні] ёсць землямерна-агранамічная школа з аддзеламі сельскагаспадарчым і сельскагаспадарча-рамесленым. Навука добрая, даецца многа казённых стыпендый, прымаюць з двухкласных і гарадскіх вучылішч. Бацькі, чытачы «Н.[ашай] н.[івы]», прысылайце сваіх хлопцаў вучыцца ў гэту школу, бо нашай вёсцы і ўсяму нашаму краю патрэбны свае вучоныя аграномы, землямеры, культуртэхнікі, вучоныя рамеснікі. Адрас для розных справак і пытанняў:

Горкі, Магіл.[ёўская] губ[ерня]. Дырэктару горацкіх вучэбных заведзеній.

## МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН

### ТОЕ-СЕЕ

З радавода сялянскага беларускага дэпутата пана Юды-Загрэбайлы, плёскаўшага не дужа даўно ў ладкі дэпутату князю Прыгонлюбскаму-Пню за яго ў Г. Думе прамову, у каторай князь аквячаў славай і хвалой мілыя, пекныя, але неўзваротныя часы прыгону:

...Дэпутацкага прадзеда, васемнаццацігадовага едынага дрыжонага сына ў бацькоў, пан прагуляў сябру свайму п. Прыкрамірскаму ў карты і праз тое арашыў жыццё ўсяе «хамскай» сямейкі.

...Дэпутацкую прабабульку, лепшую на красу дзяўчыну ў акрузе, пані, баронячы здароўе пана (вечны пакой нябожчыку — быў таўсцей за кароўкі мужыцкай!), прамяняла пану Рыгатун-Карзюкоўскаму на завадскую ашчэнную сучачку Мірту (ашчаніла той раз пяцёх). Пан Рыгатун, узяўшы панскае, аддаў «нішчымную дзеўку» за навамодны цыбук таму ж п. Прыкрамірскаму, дзе яе і звянчалі насільна з дэпутацкім прадзедам.

Так гавора прэданне-паданне, скуль ёсць-пайшоў дэпутацкі род.

...Дэпутацкага дзеда па бацьку сарака гадоў здаў пан у салдаты-маскалі за неслухмянасць: ён не пусціў дачку к панскаму гасцю на ноч.

...Дэпутацкі дзед па матцы надта клапаціў-тужыў аб панскай кішэні і як пайшоў засыпаць балоты па мястах, дзе правадзілі мікалаеўскую чыгунку, так і дамоў не прый-

шоў. Казалі мне, што гэта аб ім напісаў Някрасаў у «Жалезнай дарозе».

...Дэпутацкую бабку секлі на стайні за тое, што мала суніц назбірала к панскай гулянцы. Секачы перамачылі, перапарылі, перасалілі, мусіць, на той раз розачкі бярозавыя. Была гультайка ўцяжку, скінула і памёрла.

...Дэпутацкага дзядзьку (быў харошы музыка, сам выдумляў песні і граў іх на скрыпцы так, што плакалі кабеты) згнаілі ў калодках у скляпах за тое, што меў не мужыцкі гонар, не даваўся сечца і за адну брыдоту плюнуў пану ці то на вусы, ці то на бараду.

...Дэпутацкую цётку наставілі карміць сваёй грудзёю шчанят, як здохла дарагая панская сучка. Цётка так узрадавалась гэтай чэсці, што сасункоў сваіх абкарміла, і тыя ўслед за маткай перайшлі ў лепшае сабацкае жыццё. «Пітацельку» тры дні частавалі адны мі селядцамі, а потым зачынілі ў гарачай лазні. Піць ёй хацелася болей, чым дэпутату-пляменніку сядзець сярод «правых»,— драбнеюць людзі!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ёсць у «радаводзе» пана Загрэбайлы і яшчэ крыху смяхот, сказаў бы вам іх, ды што ж — чалавек ён стары, к таму ж яшчэ

Хадзіць бывае слізка
Па іншым камянькам.

Дык цікавым ды рухавым дужа раю пачакаць: прыедзе пан Загрэбайла з Думы ўдвору на лета, тагды ўжо самі і распытайцесь у яго пра ўсё.

Паміж іншага і пра тое, ці скора ён, шаноўны прадстаўнік народа, назбірае грошы купіць уласны фальварачак?

І ці ладныя кілбасы на снеданне даюць яму там за яго шчырае плёсканне ў ладкі?

## АДЗІНАЦЦАТУХА

У м. Шамаве, Магілёўск.[ай] губ.[ерні], Мсціслаўскага пав.[ета] адбыўся штогодні летні кірмаш «адзінаццатуха». Цана на коні шмат паніжэла проці леташняга года, калі яны ўздаражэлі дзякуючы скуплі іх і адпраўкі за граніцу (у Аўстрыю). Сёлета трава не ўрадзіла, сена будзе надта дорага, бо яго зусім мала, і коні стануць ісці на таргу ні-

зашто. Пасля дажджоў вельмі добра сталі расці баравікі. За фунт сушаных баравікоў жыды-скупшчыкі плацяць сялянам 40—50 кап.

## ЖЫВАЯ НЯБОЖЧЫЦА

У вёсцы Паташня Чавуск.[ага] пав.[ета] Магілёўск.[ай] губ.[ерні] памёрла старая баба, гадоў 80, і як яна ляжала ўвабраная на лаве, дочкі пачалі па звычаю «галасіць» (плакаць). Раптам нябожчыца падымаецца і звяртаецца з дакорам да дачок, што яны не даюць ёй сваім плачам і выццём спакою на тым свеце. Народ астаўбянеў ад жаху. Далей старая, пагаманіўшы крыху, сказала, што заўтра памрэ адзін суседскі хлопчык, папрасіла свечку ў рукі і ізноў памёрла. Поп не хацеў хаваць, прыехаў доктар з паліцыяй, і цераз тры дні старую такі пахавалі. Яна, пэўна, была перш у летаргіі, а потым і папраўдзе сканала.

Здарэнне гэтае зрабіла па вёсцы тое, што ўсе пачалі думаць усяк аб гэтым, у рэлігійным характары, а злашча яшчэ, што старая ўгадала аб смерці хлопчыка, хоць трэба сказаць, што яна ведала раней тое, што хлопчык гэты хварэў на гэткую хваробу, ад каторай рэдка хто папраўляецца.

## МОДНЫЯ АБЫЧАІ

У г. Горках Магілёўск.[ай] губ.[ерні] утапіўся ў прудзе, купаючы жарабца, работнік з казённай фермы. Ён не ўмеў плаваць, а жарабок пачаў мардавацца. На беразе пад той час былі плотнікі, старшы конюх і яшчэ якіясь людзі. Яны раілі адзін другому, як трэба ратаваць топечагася, а самі ніводзін не памкнуўся лезці ў ваду адразу, бо баяліся памачыцца, а раздзявацца — доўга, часу няма. Толькі цераз паўгадзіны выцягнулі яго з вады, але ўжо не адратавалі. Нябожчыку 23 гады, летась ажаніўся.

# НАШ ТЭАТР

Блажэньні алчушчые і жаждушчые праўды, яко ціі насыцяцца...

## I

Беларус — гэта Хомка, што веры не дае. На слове ён быццам-то і згадзіўся, каб не скрыўдзіць каго, а тым часам, пакуль усяго сваімі вачамі не паглядзіць, датуль не дасць поўнай веры, датуль і не пераканаецца.

Беларус любіць жывы прыклад; сам у гаворцы сваёй, калі бажае давясці што-небудзь напэўна, заўсёды пачне прывадзіць жывы прыклад. А лепшы гаварун беларус «прыстаўляіць» тое, аб чым гаворыць: ён і голас падвядзе і рукамі і нагамі языку паможа.

Нахіл к прыстаўленню хаваецца ў беларуса ў яго душы і выяўляецца ім у жыцці на кожным сігу. Ад маленства, як на ногі стане, колькі розных гульняў перагуляе беларус! І ці мае яшчэ хоць адзін народ на зямлі столькі гульняў і жартаў, як беларусы?

Беларус па псіхіцы сваёй — дабрадушны гумарыст, і ён любіць заўсёды паслухаць, паглядзець і людзям паказаць усё троху-многа прыметнае ў жыцці, а паказвае ён ізноў-ткі жывым прыкладам. Паслухайце, як гаворыць наш дзед ці бабуля аб яком-небудзь здарэнні. Але беларус прыхілен таксама і да вострай сатыры. Хто ведае народ беларускі, таму пэўне знаёмы перчык і солька беларускай мовы народнай: беларус, дзе варта, крэпкім словам, што бізуном, дасць... Кожнае што-якое беларус любіць адзначыць прыказкай, прыслоўем. Цяпер беларусы маюць багаты скарб народнай мудрасці ў сваіх «пасловіцах» (гл.: Ляцкі, Насовіч, Раманаў і др.). Каб прыдумаць і сказаць ладную беларускую прыказку, трэба мець мастацкую і глыбокую душу, трэба быць артыстам, відзячым чалавека і жыццё наскрозь з аднаго пагляду.

Беларусу не навіной было, устаўшы досвіткамі, анічым смагу не прагнаўшы і дбаючы на войтаў бізун, бегчы на прыгон і, спаткаўшыся з добрым чалавекам, *жартаваць*, можа, каб нуду прагнаці. У гэтым беларус мае нешта супольна-жалобнае з прафесіянальным мастаком-актарам, катораму таксама трапляецца скакаць і скаліць зубы пад рогат таўпы, хаця ў самога на сэрцы жыццёвы цяжар, а з вачэй то і глядзі пакоцяцца буйныя слёзы.

Беларус ад прыроды ўжо такі, што любіць паглядзець на цікавую з'яву, яго цягне к ёй.

Заўважым, што і музыка ў вялікай пашане ў беларусаў.

## II

Адным словам, беларус дужа любіць «прыстаўленне», і тэатр яму замянялі «вярцепы», хадня з мядзведзем, жоравам ды казою, хадня на каляды ў масках, улетку карагоды, узімку ігрышчы і шмат чаго іншага.

Дык, па-мойму, тэатр беларускі, народны тэатр, у беларускім адраджэнні — надта важная справа. І ў адраджэнні ўсякага народа (украінцы) тэатр — сіла непамерная, а ў адраджэнні беларусаў, пры іх псіхіцы, пры іх дэмакратызме, ён можа сыграць вялікую ролю.

Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця,— і божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патрапіць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта — у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырока-далёкае, роднае поле вольнага жыцця.

## III

Я чуў, што цяпер шмат хто з нашых пісьменнікаў працуе над тэатральнымі творамі. Ой, як гэта добра! Няхай сабе будуць няўдалы, цяжэнькі, праўда, мукі слова, але без працы і саўсім нічога не выйдзе.

А ў нас людзей-таланёў ёсць, каб толькі яны не закапвалі сваіх талентаў у зямлю. Французы кажуць расійцам: «О, вы, рускія, надта здольны, адно — не ведаеце, як трэба работаць». Праўда! І мы, беларусы, у гэтым найболей грэшны. Колькі скарбаў у нашай зямельцы, колькі энергіі ў нашых рэчках, у нашым ветры, колькі сілы ў нашым лесе, і што ж? Зямелька пад каменнем, лясы знішчтажаюцца і па абмялеўшых рэчках нясуць цеплавую энергію ад перакалелага беларуса к тоўстаму немцу. А вецер наш «гудзіць» узімку «ў комінах», бесперастанку «хістаіць пахі-

лыя, сумныя бярозы». Але ж і за гэта яму дзякуй, бо хоць ёсць бяздоннае жарало і невыцечная крыніца матэрыялу для вершыкаў нашым маладым і «даюшчым спадзяванне» пісьменнікам. «Беларусы не маюць у сабе крыві фінскай ды цюркскай, яны найчысцейшы славянскі тып, і праз тое іх народная славянская паэзія страшэнна багата, цікава і арыгінальна»,— во як гавораць аб нас людзі, а мы, заплюшчыўшы вочы, пнёмся шукаць прыгажосці ў чужым загуменні.

Але не — беларус умее працаваць, ці не яго мазалістымі рукамі праведзены бадай усе чыгункі ў Расіі? Толькі беларусу дагэтуль не давалі карыстаць са сваёй працы, і ён ужо забыўся, як можна добра скарыстаць.

Блізка што ўсе драматычныя творы, якія цяпер ёсць на беларускай мове, яны толькі невыразны цянёк ад таго жыцця беларускага, якое павінна быць паказана першнаперш беларусу са сцэны.

## IV

А трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жыве, няможна, гэткага жыцця няможна трываць...

І трэба яшчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён — *чалавек,* і што ён павінен мець свой чалавечы гонар, і павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленнем...

І трэба яшчэ сказаць беларусу са сцэны, што калі ён праваслаўны, то няхай не лае свайго брата каталіка-беларуса «паляком», і калі ён каталік, дык няхай лічыць сябе беларусам, а беларуса-праваслаўнага сваім братам, і абодва беларусы, каталік і праваслаўны, няхай шануюць веру і добры светапогляд адзін другога і веру ўсякага сумленнага чалавека ўсякай нацыі.

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён мае слаўнае прошлае, што яго дзядоўшчына нараўні з крапчэйшымі старонкамі пад сонцам была і што карані нашы родныя беларускія не згнілі, трывалы і цягучы, маюць жывы сок і жывую сілу і ўжо добрыя адросткі к небу гоняць, а з часам над імі крэпкія, высокія, прыгожыя дрэвы закрасуюцца...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што за чалавек той, каторы спіць без канца-краю, якой вартасці такі чалавек і што жджэць яго ў будучыні...

І трэба паказаць са сцэны беларусу, у які бок кіравац-

ца яму, па якому «шляху жыцця» пайсці і якім чынам сілы фізічнай і духоўнай набрацца...

І трэба крыкнуць беларусу са сцэны, каб ён гарэлкай не заліваўся; трэба сказаць яму і многа-многа чаго другога...

Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам зямным, што за народ такі ёсць беларусы, што маюць яны не толькі «очень смешные анекдоты и весьма странные суеверия», а і нешта палепш ад жарту і забабонаў, нешта гэткае, прад чым прыемна адчыніцца агульналюдская скарбніца векавечных здабыткаў культуры і цывілізацыі, а не то што...

## V

Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэння. Тэатр гадуе маладых байцоў за праўду і дае грамадзянскую моц людзям у пары, але заняпаўшым, ён абгладжвае на добры лад характары людзей і народаў.

Толькі трэба памятаць, што тэатр — дамаская сталь, вострая з абодвух бакоў. У тэатры можна прынасіць жэртвы Духу Чыстаты і Праўды, можна пакланяцца і Ваалу з Астартай.

Вот мы цяпер, калі адрадзіліся, і павінны будаваць свой тэатр па-чалавечы, добра, каб ён быў храмам, а не брудная стайняй Аўгія, і не памяшчэннем злога бога Арымана, і не кутом дурнога скалазубства.

## VI

Я не кажу, што наш тэатр павінен мець кірунак толькі практычна карысны. О не, гэтым бы я выняў першы камень з падмуроўку нашага развіцця і ўкараціў бы роднаму тэатру веку. Дык жа не, дык жа я, усё роўна як на добрых хрэсьбінах, кажу пры нараджэнні нашага тэатра: «Вялік расці, здароў будзь, дай табе божухна доўгі век!» Гэта значыць, што наш тэатр не павінен закідаць шлях мастацкі, ён нават павінен здаволіць як людзей, каторыя гавораць: «Лепш здабудзь гаршчок юшкі, чым дарма траціць час на вяршык», так і людзей, што даводзяць: «Мастацтва для мастацтва».

Бо ведама ўсім, якое вялікае значэнне мае тэатр у жыцці і што чалавеку, апрача паўміска юшкі, патрэбна і страва для душы. Значыцца, тэатр наш, калі пачне развівацца

далей, пэўне будзе мецъ і шырэйшую дарогу, будзе здавальняць людзей з рознымі бажаннямі. Кірунак нашага маладога тэатра павінен быць жыццёва-мастацкі з дэвізам: «Падняць беларуса да ідэальнага чалавека!»

І пакуль што адправы ў нашым Храме Адраджэння адны: цудоўнымі ў мастацтве абразамі паказваць беларуса са ўсіх бакоў і прамываць яму вочы.

## VII

Мы забылі сваю мову; старадаўная сіла і арыгінальнасць яе і гладкая, гучная форма ў доўгія часы нашай «татаршчыны» патроху псавалася і пазычала «татаршчыны». Шмат дзе цяпер беларусы гавораць прыкрай мешанкай слоў беларуска-польска-рускіх.

Тэатр наш павінен ачысціць, абяліць мову і паказаць прад вочы людзей яе гучнасць і гібкасць. Калі паслухаць, як гаворыць абруселы або спольшчаны ўкраінец з наваротам на «паньску» мову, дык можна дзівіцца, што добрага знаходзяць у мове ўкраінскай. Але ідзіце слухаць гутарку ўкраінца ў шчыра-ўкраінскім кутку, а потым паслухайце мову «Кобзаря», пачуйце ўкраінску мову ў украінскім тэатры, калі прыстаўляецца лепшы ўкраінскі сцэнічны твор, і ў вас сэрца зайдзецца ад гучнасці і прыгажосці ўкраінскай мовы. Вы будзеце шаптаць святыя імёны тых, што паднялі яе з пылу на торжышчы і як драгацэнны дар божы зберaглі, і сэрца ваша будзе балець за тых, што ў духоўнай слепаце памкаліся і памкаюцца аддаць гэту лепшую на свеце мову забыццю.

Дык і нам, беларусам, каторыя маем мову, што як родная і не горшая сястрычка мовы ўкраінскай, нам пры распачатку свайго тэатра трэба дбаць аб гучнасці і чыстаце сваёй мовы і аб той яе ў паўсёдным жыцці гумарыстычнанаіўнай сіле, што выдзяляе яе сярод усіх моў славянскіх.

Пісьменнік наш, пішучы драматычны твор, мае доўг прад Беларуссю абгледзець, як дарагі камень, кожнае слоўца, зважыць, абсмакаваць і ўцяміць сілу яго. Ён павінен дбаць аб прыгажосці мовы не прыдуманай, а праўдзівай, бо прыдуманае-няўдалае ў мове дужа прыкра; ёсць у расійскіх пісьменнікаў творы са «стылізацыяй», ад каторай твор здаецца быццам-то перакладзеным з другой мовы. Пісьменнікі нашы павінны ведаць той багаты славесны скарб, што сабралі дагэтуль на нашай ніве шаноўныя за гэткую працу дабрадзеі: Насовіч, Шэйн, Раманаў,

Карскі і др. Пісьменнікі беларускія! пільней прыслухвайцеся к мове людзей нашых на рынку, на кірмашы і ўсюды-ўсюды, і тыя, што жывіцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гаворацъ на яе ўсходзе, а ўсходнія пабывайце на захадзе. Як кругаварот крыві ў целе чалавечым дае здароўе арганізму, так гэты пераліў нашых сіл на Беларусі аджывіць арганізм Беларусі і зробіць яго дужэйшым.

А вы, жрацы ў Храме Нашага Адраджэння, каторыя ўжо ёсць і каторых яшчэ народзіць бог, вы, лепшыя пчолкі з рою младабеларусаў, мастакі і штукаркі тэатра беларускага, вы асобенна вучыцеся мове і дбайце аб яе сіле і прыгажосці.

Вы, настаўнікі красамоўства і прыгожай гаворкі, тое, што вы скажаце добра са сцэны, з вялікаю сілаю ўкладзецца ў душу беларускую. Гэта мае ой якую вагу цяпер, у нашы ўжо, дзякуй богу, даволі развіднеўшыя досвіткі. Сумна, калі ўсенародна калечыцца наша мова; сэрца весяліцца, калі чуем мову слаўную, правільную. У «Н.[ашай] н.[іве]» раней пісалася, як дрэнна некалі ў Пецярбурзе гаварылі на сцэне па-беларуску, але вот у астатнія часы, на аматарскай сцэне ў В.[ільні] можна было ўжо пачуць ад большай часткі мастакоў і штукарак даволі ладную беларускую гаворку. А, напрыклад, у мове штукаркі М. вуха радасна і пільна лавіла і прыгажосць разважнай беларускай інтанацыі і чыста беларускага складу са смакам сказаць у глаголе «іць» або «ыць», дабавіўшы ядрэнае беларускае «р» і дужую сіпяшчую «шч» з цікавым і практычным «ў» (крычаць, крычаў; «Каб я па смерці бога так бачыла, як я буду цябе аж да самай смерці любіць і шанаваць, мой ты галубок міленькі, залаценькі, брылянтовы...» (словы Пронкі, «Хам»).

## VIII

Цяпер украінская песня ў славе і пашане, пяюць яе далёка за межамі Украіны. А ці даўно тое было, што аб песні ўкраінскай шырокае грамадзянства і не чула і калі гэта песня была толькі добрым матэрыялам для этнографа, а пеў гэту песню сумны «хлебароб», ды адзінота-чумак у шырокім стэпе са сваімі «валэ», ды адвага-запарожац, ды цёмнавалосая з глыбокімі вочкамі вясна-Маруся.

Так і нам задурылі галаву, што песня наша аднатонна. Эх вы! Калі змяшаць многа колераў, то таксама выйдзе

шэра. Ды і хто, папраўдзе, многа чаго знае аб беларускіх «аднатонных» скоках і аб беларускай песні? А ўжо аб іх у вялікім свеце летась гаварылі: «Под этим внешним однообразием какая буйная кипит жизнь с разнообразными запросами и оттенками...» Што дзівіць, ёсць беларусы, каторыя, вылецеўшы з роднага гнязда з яшчэ жоўценькай дзюбачкай і саўсім не ведаючы свайго гнязда, гавораць: «Я — сам белорус, но, знаете ли, не могу скрыть, что белорусских песен очень мало, да и те неинтересны». Паночкі, калі спаткаеце гэтага блазнотку, дайце вы яму хаця «Песни белорусские» Насовіча, або Раманава, або яшчэ якога этнографа, пакажыце яму нашы песні з нотамі, гукніце вы яго на беларускую вечарынку, няхай ён пераканаецца, што неахайна лжэць. А то прывядзіце вы яго к нам у слаўную нашу Мсціслаўшчыну ці ў другі куток Магілёўшчыны, няхай ён пасмакуе, які пышны там культ свадзёбных песень, няхай ён пасядзіць у цікавейшай оперы — на беларускім вяселлі.

Дык вот трэба, каб са сцэны беларускага тэатра палілася беларуская песня, каб ад яе павеяла на людзей араматным пахам беларускай народнай паэзіі, каб пачулася ў ёй турлычлівая песня жаўраначка пад вясеннім небам над зялёнай рунню, каб у ёй пачуўся і далёкі спакойнатужлівы гук бяроставай трубы хлопчыка, што кароў пасе каля рэчкі, і шум бясконцы лясоў непраходных, і «шэпты спелых каласоў», і звон сярпа, і «ўжык! ды ўжык!» касца ў дуброве, каб чалавек пазнаў у ёй красу беларускіх палёў з горкамі-валатоўкамі ды курганкамі старасвецкімі, лажчынкамі, мурожкамі-сенажаткамі, гайкамі, каб у ёй заблішчэла серабром ціхая рэчка, у каторую ціхамірна глядзіцца старая верба, а хлопчык сядзіць на беразе і ў дудачкі іграе...

І мы павінны самі смакаваць і людзей частаваць сваёй народнай песняй. І тут мне прыпамінаецца звяртанне дзядзькі Раманава да «дщерей белорусских», каторых цяпер многа сярод вучыцелек, курсістак, чаму ж не пяюць песень родных пад музыку фартэпіяна, скрыпкі і так. А ўжо потым будзем мы пець творы нашых песняроў, пакладзеныя на ноты, бо я відзеў, як на некалькі соцень людзей у зале зрабіла большае ўражанне і больш падхапіла наша «Чачотачка», чымся «А хто там ідзе?», дайжэ гэткая глыбокая па думцы песня, але на шкоду з труднай музыкай і нялюбымі троху прастаце-беларусу закручанымі зваротамі мовы («на ў крыві нагах...»). Бо каб захапіць гэткаю

песняй, як прыгожай песняй, трэба быць не абы-якім спявакам і мець у душы святы агонь, а шчыра-беларускі матыў «Чачотачкі» сам сябе абароніць.

## IX

Што сабе думаюць тыя з нашых пісьменнікаў, што сыплюць вершык за вершыкам і, маючы здольнасць да больш важнай і сур'ёзнай работы ў пісьменстве (аб чым гавораць іншыя з іхніх вершаў), не хочуць шырэй паглядзець на сваё значэнне для Бацькаўшчыны і забываюцца на сваю павіннасць прад ёю — работаць так, каб пот выхадзіў? Браты! даволі ўжо, дось вам захадзіцца па плывучай, звычайна неглыбокай, сучаснай польскай і расійскай літаратуры і ўжываць нездаровага і не маючага карысці для Роднага Боку пэцкання паперы. Не трацце грошы на дзесяцігрошовыя журналы пакалечанага жанру, а гадуйцеся на чытанні класікаў і ўдыхайце свежае паветра народнай паэзіі, пазнавайце прыгажосць гэтай паэзіі, а маючы ў сабе карані гэтай паэзіі, тчыце праўдзіва-мастацкія ўзоры беларускага жыцця. Працуйце пяром так, каб творы вашы красаваліся на пачэсным месцы ў багатай кватэры інтэлігента-беларуса і знаходзілі б шчырае спатканне пад самай беднаю стрэшкаю маламожнага селяніна. Замест таго каб напісаць адзін ладны верш, а ўслед пусціць дзесяць дрэнненькіх з перагукамі аб тым самым, працуйце лепей, напрыклад, над драматычным творам для народнага тэатра.

Вучні-беларусы сярэдняй школы ў нашым краі любяць ставіць на сцэне сваіх вучылішч разам з расійскімі творамі і творы ўкраінскія. Чаму так? А таму, што гэтыя творы троху-многа замяняюць ім патрэбу ў творах родных беларускіх, каторых няма...

Пісьменнікі беларускія! паклапаціце аб тым, каб тэатр наш здаволіў мнагаможнага і бабыля, гарадскога чалавека і дзеравенскага, старога і малога...

А найскарэй давайце страву тым, што прачнуліся, і тым, што ўстаюць яшчэ,— яны пойдуць на работу, дык есці хочуць, падкрапляйце іх.

Гадуйце нашу надзею — дзетак нашых.

Нясіце яду Беднаму Народу, што праз цэлыя вякі знае і гаворыць два словы: «Я галодзен!» Карміце яго хлебам, бо ён відзеў адны каменні.

Шукайце брату свайму дарогу да праўды. І памятайце:

не будзеце вы шукаць яе або станеце дрэнна шукаць, абыяк, бог вас пакарае.

А народ усё ж ткі знойдзе сваю праўду, бо Сам Хрыстос сказаў, што алчушчыя праўды насыцяцца.

## РАЗВАГІ І ДУМКІ

Беларускі рух... беларускі рух... Што гэта за дзіва? Што яшчэ за праява — адраджэнне белых русічоў? Што гэта за навіна часоў нашых — «свядомыя» беларусы? Скуль яно, тое дзіва, пайшло, адкуль узялося? І што гэта за дзіва?

Гм, гм... Ці гэта бязгрэшнае зыканне рамантыкаў дваццатага веку, што спярша заткнулі вушы ад гудзення самакатаў, заплюшчылі вочы ад бліскання радыю, наставілі каўняры ад падвеву касмапалітызму, завярнуліся прад эсперантыстамі, інтэрнацыяналістамі і рознымі другімі альбо добракарыснымі, альбо не вартымі славы «істамі»; пасля таго разінулі рот прад гістарычным гоманам дзядоў сваіх з таго свету і на ўсю сілу пачалі ўжо лашчыць капрызна-хваравіты і не саўсім дзеля іх саміх зразумелы нахіл свайго сэрца да нечага, здаецца-то і праўда, новага і прыемнага ў разуменні слова «нацыя», «народ» і, нездаволеныя, што іх цягнуць за валасы, а часамі і пужкаю паддаюць ім ахвоты, падганяюць іх на жаданае лона трыядынай «российской» нацыянальнасці, хапіліся шукаць новых падмуровак гэтаму разуменню, і не дбаючы на канцавыя вынікі сваёй справы, неўраджайна, бясплодна і шкодна кіруюцца да таго, каб утопію, немажлівасць зрабіць рэальным фактам?..

Гм, гм... Ці то, можа, памінальная псальма добранькіх унукаў па абкропленых хвалою дзядах і бацьках, расійскіх народніках 60-х гадоў і польскіх праўдзівых дэмакратах часоў ранейшых і пазнейшых?

Гм, гм... А можа, гэта сякі-такі кампраміс, змова і згода інтэлігентнага чалавека беларускай косткі, аброслай польскім ці расійскім мясам, змова з глухімі дамаганнямі беларускага карэння, што аніяк жа не ўсыхае ў яго душы і троху-патроху ды безупынна, бесперастанку шкодзіць спакою яго сумлення?

Ці гэта законная зайздрасць к другім, мо і драбнейшым, галінкам дрэва славянскага, што куды раней пукацца пачалі і к часу беларускага адраджэння закрасавалі?

Гм... гм... Тут, можа, кірунак з прымусу, каб пазбыцца векавечнага сораму ў гісторыі? Гм... тут, можа, людская рацыя: украінцы адрадзіліся і закрасуюць — з жыццём спрачацца няможна; а раз так — павінен, павінен адрадзіцца і твой народ, праўда?

Ці гэта балбатанне «тутэйшых патрыётаў», што дзеля дзяцінай славы завялі не дзяцінную справу?

Ці гэта, можа быць, праяўленне эканамічнага гнёту, што выдавіў у беларуса-мужыка ўсе духі і прымусіў яго брыкацца з-пад калоды?

Што гэта?

Можа, гэта здаровы і патрэбны крык аб сваіх правах беларуса як сына беларускай нацыі, нацыі па сваіх духоўных асаблівасцях самабытнай... Можа, гэта крык аб правах народа, ядынага ў псіхіцы і здольнага да самабытнага жыцця сярод народаў, катораму не да твару быць прыбаўкаю, дадаткам да нацыі дужэйшай... і асабліва блізкай па крыві, што яшчэ горш, бо з чужым! — так дык так, а не так і не трэба, ну а з няўдалаю раднёю цацкайся, дзядзька, пакуль яна з хаты твае не турыць цябе.

Можа, так?

Ці ж я ведаю? Можа, і так... «Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю».

А я хачу ведаць, і ці не варта будзе мне прыслухацца да шчырага, толькі шчырага пачування беларусаў і правых, і левых, і сярэдніх, і тых, што «тоже белорусы», і тых, што нясуць крыж са славамі: «Жыве Беларусь!»?

А ці не чулі вы, дзядзькі, цёткі, ад людзей не нашай нацыі і ці не чыталі ў некаторых этнографаў, што беларусы ў большай сваёй часці не могуць быць шчырымі ў жыцці грамадзянскім і ў іншым, што яны нейкія няшчырыя, «палавіна на зямлі, палавіна пад зямлёю», што пакуль за беларуса не задавішся, шчырасці ад яго не дажджэшся... Ці не чулі вы, што:

— Беларусы двудушны?..

А?

Ведама, гэта няпраўда, паклёп, напасць!

І ўжо некалі вы, магло быць, ого-го як і гневаліся за гэткі прыгавор няпрошаных пракурораў. Даводзілі, мусіць, якраз іншае, маючы на ўвазе мнагалікі тып дабрадушнага, рахманага, трошку тужлівага беларуса-гумарыста, што калі-та і выяўляе сябе нібыта няшчырым, дык дзеля таго, каб спрадвечную жыццёвую нуду захаваць ад прыкра-сцюдзёнага погляду чужынца па думках.

Вы, а не вы, дык я, а не я, дык яшчэ хто, пэўна, гневаўся за тую напасць... Што ж, скажаце, рацыі не меў?

— Меў рацыю...

А цяпер нехта ой — таёмны, ой — цвёрды ў слове, з вялікаю непамернаю тугою шэпча дый шэпча мне пад вуха:

— І «тоже белорусы», і младабеларусы, і ўсе яны, усе троху-многа двудушны і рэдка саўсім шчыры ў сваіх справах палітычных...

Ой, не кляніце мяне, адраджоныя! Сярод вас ёсць верныя і аглашоныя, а сярод верных і аглашоных многа серадзінкі. Гэта серадзінка ці не двудушна!

Усякая бывае двудушнасць. «Грэх і сорам,— вучаць нас прапісныя маралі,— быць двудушным». Тым жа самым дакучае нам і пачуццё дабра і зла.

У каго тое пачуццё ў большай пашане, той меней двудушны.

Двудушнасць ад прыроды ў чалавеку.

І бывае адна двудушнасць, калі чалавеку ўжо не стае сіл разумнай волі, штоб не здвудушнічаць, альбо двудушным ён бывае, узіраючы на вымогі вума. За гэткую двудушнасць сварыцеся, людзі, калі ў вас язык мяккі.

Другая двудушнасць, калі чалавек сумысля і ў угоду свайму злому боку не слухаецца голасу дабра і забівае ў сабе добрае карэнне, а ўсё дзеля таго, каб...

«Тоже белорус», калі толькі ў ім захаваліся чалавечыя пачуцці, вечна змагаецца з голасам свайго сумлення: «Глядзі не ашукайся! Ці добра ты ўцяміў заветы дзядоў сваіх? Ці па той дарозе пайшоў ты? Не станься праклянцем роднай зямліцы... Ці не варта ізноў палічыць, ацаніць, зважыць тое-другое? А што, калі праз колькі гадоў «утопія» младабеларусаў будзе жыццём?»

І вот ён важыць і раз, і другі, трэці, а ўсё не мае пакою.

Ён думае: «Вот жа людзі ідуць па-іншаму і часам мукі зносяць за думкі свае... Недарма ж. І гэты «тоже белорус», ваюючы і пяром і ўсім за «тоже Белорусію», за яе выключнае права на жыццё, ён, паказваючы сябе шчырэйшым шчырэйшага, ён... не пэвен сам у сабе, ён заўсёды сварыцца з голасам дэмакратычнага беларускага карэння, мучаецца праз тое і часам неспадзявана, раптоўна ідзе з ім на змову, паднімае гоман сярод паноў «чорнай сотні», чапурыцца, пакуль... пакуль ізноў «пакута» і лізанне рукі грашавітых паноў чорнай сотні!»

І дробныя душы маюць у сабе драбінкі золата, але так і астаюцца дробнымі.

І калі «тоже белорус» — сумленны чалавек,— вяліка драма душы яго, жалобен ён дужа... Калі ж ён толькі «дзялец»,— памаўчым аб ім.

Потым ёсць у нас і нерухомыя і нерухавыя людзі, калоды, пні, шчаслівыя пад сваім сонцам; не проч яны пажадаць і лепшага сонца, але калоды яны.

Ёсць і такія, што богу свечку нясуць, а чорту качаргу валакуць. Няма ў іх толку ў поглядах на мінуўшчыну і будучыню Беларусі і на саміх сябе як сыноў сваёй бацькаўшчыны. Куды вецер дзьме... Прыходзіцца: заплюшчу вочы прад тым і закрычу на ўсю сілу аб гэтым.

А ладныя маладзенькія беларусы, хлопцы і дзяўчаткі, хварэюць у сваім часе на адну больку: «Не ведаем, куды і як нам ісці, каб было найлепей...» Цяпер гэткі тып асабліва часта спатыкаем. І варта было б, каб ён паказаўся ў нашай літаратуры, пакуль ён ёсць ува ўсёй сваёй цікавасці; зараз яго і саўсім не будзе: расце беларуская маладзёж, свядомая ад малых гадоў!..

Шкода неяк гэтых маладзенькіх, слаўных браткоў і сястрычак — на раздарожжы яны.

Пайсці ў адзін бок — у старую родную Беларушчыну, куды магнэсам цягне,— мулка, няшчыра-беларускае гадаванне сварыцца, дый ці ж варта *цяпер*, ці ж выйдзе тут добрае, а ці не позна, а чаго ж дабівацца ў канцы, якіх ідэалаў,— няўжо ж тых страхаў-страшных сепаратызму страшнага? Ой, як паўзці туды, слухаючы сэрца і не чуючы галавы, што страшыць немажлівасцю справы, недасцігласцю ідэалаў жаданых!..

А пайсці ў другі бок, па «общчэ» расійскаму ці польскаму шляху,— уй, тошна, ой, роднае карэнне не дазваляе... А злашча цяпер і гідка, і брыдка, і не хочацца, цяпер, калі ёсць жа і гэты, люба-таёмны, свой родны шлях, і па ім людзі ідуць дый ідуць...

Дык дзе ж ступаці? Хіба-ткі па роднаму шляху? А ён так і пайшоў поплеч і блізюжынька са шляхам працуючага дэмасу ўсяго свету і вядзе, мусіць, да адной мясцінкі...

Можа, гэта ступанне па роднаму шляху і ёсць «беларускі рух»!..

Маладая Беларусь будзіцца на абломках старыны. Будаваць новае младабеларусам дужа трудна, бо ў абломках старыны многа-многа трухляціны, ад каторай у наш час толькі пыл ідзе.

І недарма ў младабеларуса, катораму жыццё яшчэ не паказалася добра з розных бакоў цяпер і ў мажлівай будучыні, недарма ў яго ўсхопліваецца пытанне: ці варта яму дзеля найкай блізка што утопіі «беларусіцца». Ці варта яму зарабляць жалосна-прыкрыя ўхмылкі няпрошаных жаласнікаў, што пазіраюць на яго як на нейкага летунафантазёра або як на пустога чапурышніка. Ці варта яму часам завадзіць у сваёй сямейцы нейкую нязгоду праз «беларушчыну», нейкі разлад, нейкую непрыемнасць?

Недарма так пытаецца ён сябе.

І тым часам... Тым часам ідэя бярэ сілу, верх. І вот слухайце, дзядзькі і цёткі — літаратары нашы, слухайце, якія добрыя мэты вам...

Колькі цяпер на Беларусі сямеек, дзе спрачаюцца дзеткі з бацькамі! Колькі іх цяпер такіх, у каторых ёсць новага заводу «самавольнікі» ці «самаволачка».

Гэта ж дзіва! У сямейцы пануе польская мова, польская ідэалогія, польскія традыцыі... Сам бацька з гасцямі даволі добра гаворыць «па-польскаму», саўсім рэдка, абмыліўшыся, кульганецъ «папросту», кашлянецъ, перханецъ, і абмылка няўзнаку...

Ён гадуе добрых дзетак на карысць маткі-Польшчы... І вось табе на! — адзін ці адна з гэтых дзетак, пасля новага нейкага паветра, нясмела, але няўступна гаворыць, цвёрда і сумна гледзячы бацьку ў вочы: «Не, татка, я ведаю: мы беларусы...» Гвалт! Адкуль ён ведае? Папсаваўся хлапец, сапсавалася дзеўка... Гора пану, сорам пані...

А самавольнік ці самаволачка, нічога не чуючы, нікога не слухаючы, сваволіць, беларусіцца болей і болей.

Пойдуць рады, лекі. «Не пускай ты яе, панічка, да беларусоў: гэта яна там нейкую сымпацію таіць, с таго ўсё і выходзіць. Не пускайця, час усё вылечыць». І яшчэ паддаюць духу... Прыходзіць у госці к матцы самаволачкі добрая суседка. Тое-гэта, аб тым аб сім, але вот: «А я да пані маю інтэрас...» Ідуць у другі пакой.

«А-ей, панічка, ня думаіця вы аб панні Ядзі... Сватоў трэба ждаць, а яна ўсё папросту ды папросту... Гэта ж ніхто паненку і замуж ня возьміць...»

І на самаволачку пачынаюць насядаць, пачынаюць лячыць яе ад «мужыцкай» беларушчыны, і...

Дарма! Калосіцца ўраджай...

А то вот. «О-о, я ж рускі! Бацька мой за сахою хадзіў, а я ў людзі выйшаў, звязду над казыром нашу. Гавару «правільна» (па-расійску)... Жонку маю не абы-якую — з

папоўскага роду; школіць яна мяне часам за «мужыцкі закалец», а я, каб падражніцца, і наўмысля дзеля жарту дыкну ці якну. Дзеткі мае слова па-мужыцку не скажуць, матка ўжо за іх не чырванеіць...»

Добра, ладна, пане з мужыкоў! Лацвей табе...

І раптам — скуль бяда? Сын — студэнт, гордасць, спадзяванне бацькоў, прыязджае з універсітэта і... ані слова «правільна»: па-мужыцку так і сыпле!

Праўда, выходзіць у яго неяк не саўсім па-мужыцку, а даволі прыемна, як бы і па-панску, літаратурна, але ўсё ж словы «хамскія», якія ўжывае дворнік, вадавоз, пячкур... Так, пане з мужыкоў!.. Слёзы, квохі, упрашэнні. «Міценька! Пабойся бога... Паслушай мамы... не сраміі нас. Дзядзя-інспектар у госці прыедзет... Не гавары хоць пры ім на гэтым жаргоне...» А Міця, той яшчэ, ці чуў ты дзіва, за слова «жаргон» скрыўдзіўся. Ах, і гэтага дзіцятку папсавалі таварышы.

Хітрэйшыя бацькі пачынаюць і хітрэйшую палітыку: яны і самі як бы не чураюцца родных слоў, часам выпінаюцца прад сынам за горкую долю мужыка і трошку-патрошку заводзяць з сынам гаворку аб тым, што «шкада — справа спознілася», «ах, не маіць яна ў нашы часы сэнсу», «трэба глядзець каля сябе глыбей, трэба спытацца ў народа, ці ж ён пойдзіць за вамі» і т. д.

І жыццёвая драма для чулага хлопца — гатова, а сын свайго бацькі патрапіць «расчаравацца»...

Руху сярод нашай праўдзівай інтэлігенцыі найболей і шкодзіць недахват волі і гэта рэфлексія, гэта самакрытыка, гэты самааналіз лепшых адросткаў карэння беларускага.

Вот тут-то я і звярнуся да «генералаў» адраджэння, кіраўнікоў руху... Тут я скажу ім: смялей гаварыце новае слова народу беларускаму! Смялей!! Менш уважайце на напасці з польскага і расійскага боку. Менш азірайцеся на іх. Смялей спраўляйце хаўтуры па тых святых мучаніках, на касцях каторых радзілася новая Беларусь, і смялей пасылайце добрыя весткі тым братам нашым, што «сярод лядоў, сярод жуды» пакутуюць за адраджэнне!

Смялей і выразней кажыце новую дарогу. Смялей і выразней цвярдзіце і гаварыце, да чаго вы кіруецеся і куды вядзіцё народ. І да паэтаў сваіх звярнуся: і ты, дзядзька Янка, і ты, дзядзька Якуб, і вы, усе другія «парнаснікі» нашы, калі вы хочаце папраўдзе быць пракамі народа нашага, а не толькі хваленымі аўтарамі кніжак у беларускай мове,— смялей і выразней гаварыце сваё новае

слова і дбайце, дбайце аб тым, каб у вас слова і дзела было нешта адно, каб у вас слова радзіла дзела, а дзела паддавала духу слову... Скажуць: слова паэта — яго дзела. Так! Але ў наш час беларускі паэт павінен памятаць, што толькі таго прарока вера шырыцца паміж народа, каторы быў прарокам як на слове, так і на дзеле, бо як вера без дзела мёртва, так і слова без дзела можа быць нікчэмна і яшчэ горай — шкодна. Памятайце, хто мае на тое памяць, як жыў Тарас Шаўчэнка. Не меў спакою вялікі Талстой, пакуль лупежыў панства, жывучы ў панстве, і недарма, «на санёх седзя», прад смертухнай сваёю ўцёк ён ад панства.

Дык смялей і цвярдзей! І выразней! Не баючыся болек і не хаваючыся ад святла.

Прыйдзіце к нам, справядлівыя, прыйдзіце к нам, цвёрдыя, упорныя, смелыя, прыйдзіце к нам, рухавыя. Прыйдзіце к нам з воляю крэпкаю, прыйдзіце к нам, асілкі волі! А вы, браты мае, сястрычкі мае, здабывайце сабе волю, гадуйце ў с а б е волю, перш-наперш будзьце вольны ў саміх сабе.

У часы палітычнай завірухі ў Расіі, калі хлынула хваля навіны, калі погляды мяняліся, часам плуталіся, калі навіна часам прымушала спачатку здзіўлена разяваць рот, многа тады было жалобнага, нямала і смешнага на грунце пашырэння сярод людзей гэтых новых палітычных думак, новых слоў, новых паняццяў. Было смешнага такжа і сярод троху-многа адукаваных галоў, малазнаёмых з тым новым, прыляцеўшым з Захаду, ну а сярод шэрага, белага жупана дык і пагатове. Помню, расказвалі гэткае здарэнне. Два браты дужа сварыліся паміж сабою. Адзін раз яны далаяліся да астатняга. Чаго толькі не казаў Якім на Яхіма,— і катаржнік, і машэннік, і брадзяка, і сабака, і такі і гэткі... Яхім або адбіваўся, або змоўчваў. Але Якім захацеў дапеч саўсім брата.

— Ах ты «самакрат» (дэмакрат)! — крыкнуў ён на Яхіма, і той гэтага новага, страшнага, невядомага не знёс.

— Дык я «самакрат»? — і паляцеў у бой. Так ухадзіла ў наша жыццё новае слова.

Таксама і цяпер. Пачынаюцца жарты...

— Вацлаў! Дык, значыцца, сепаратысты мы, а? — Ён усё можа знясці, але каб яго звалі сепаратыстам — ніколі.

— А пакіньце вы гаварыць, слухайце, ну што звягаеце: «Сепаратысты, сепаратысты...» Я вам раз назаўсёды

скажу, што я перш-наперш ні ад каго аддзяляцца не рыхтаваўся, я «расійскі падданы» і беларус... ну чаго вам трэба, які я вам сепаратыст. Запытайцеся вы ў народа, зразумелым для яго словам, сепаратыст ён ці не? Што ён вам скажыць:

— Супакойцеся, дзядзічка, дзякую богу, хоць вы трохy разышліся. А я, ведаіця,— сепаратыст. Чулі прыказку: «Хоць гаршком заві, толькі ў печ не садзі».

Так і мяне, заві якім сабе хочаш сепаратыстам, а не бунтуй адно быць мне самім сабою і жыць па-беларуску. Тыя, каторыя завуць мяне сепаратыстам, добра не ведаюць, у чым мой сепаратызм.

Якія мы сепаратысты?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аўтаномія... Слова нявузенькае, шырокае слова. Самаўпраўленне... І туды яго можна пакіраваць і туды. І вялікі сепаратызм і малы сепаратызм, і ёсць ён, і няма яго. Мне здаецца, што тыя людзі добра, хоць і па-свойму, разумеюць і аўтаномію і сепаратызм, калі гавораць: «Дайце нам жыць па-свойму, і мы, і ўсе «інародцы» расейскія дадуць новую сілу, новую моц і асабістую здольнасць да вялікага жыцця Расеі. Бо цяпер, плюшчы сабе вочы, хто не хоча пазіраць, а каму не відна, што старыя абмылкі дужа вялікі і на іх цяпер няможна будаваць здаровае жыццё вялікай імперыі».

Няхай сабе новыя ідэі раўнапраўя ўсіх нацый абмылкавы і не ўдзержацца ў жыцці... Гм... А толькі ж зірніце, паночкі, каля сябе, уцямце ўсё тое, што даў нам 19-ты век у адраджэнні заціснутых нацый, паглядзіце, што прынёс 20[-ты]! Трэба ж лічыцца з жыццём! Вы скажаце: «Мы самі творым жыццё!» Няхай сабе і так, як той казаў. А якім жа вы творыце жыццё? Вы творыце яго такім, якім яно выходзе і якое от цяпер яно ёсць. Ужо добра натварылі. Не, галубчыкі, як ні садзіце калякі ў спіцы бягучай гістарычнай калясніцы, гэта будзе дарэмная праца і смешнае марнаванне пігмеямі сілы сваёй на барацьбу з няверным ім сіламі натуры. Не крычыце: «Прыгожыя словы!» Не тлуміце галавы: «Палітычная распуста!» Не прыстаўляйцеся: «Мы гэтага не цямім!» Не цешцеся: «Адна справа — адраджэнне чэхаў з-пад нямецкага ярма і другая справа — «мазепінства» ўкраінцаў, сепаратызм беларусаў, над каторымі няма ніякага ярма, бо і яны р у с к і я і будавалі расійскае жыццё!» Паны! не ашуквайце самі сябе, бо

гэта ашуканства найлягчэйшае і страшнейшае... Праўда, справа нашага адраджэння іншая, чым справа хаця бы чэшская. Добра розніцу гэту нам і паказвае жыццё, але тое ж жыццё нам гаворыць: «Справа ідзе, ідзе як нешта нармальнае, законнае, жыццёвае...» Значыцца, няхай, каму люба, хавае, як трус, галаву сваю пад паху, няхай жа брыкаецца ўзад і ў бокі і ўбрыкне каго, пацешыць сябе, а жыццё як ідзе сабе, так і будзе ісці, бо можам згаджацца ці не згаджацца з палажэннямі тымі ці інымі аб значэнні звычайнага чалавека і генія ў ходзе міравых здарэнняў, няхай адны кажуць, што чалавек у гэтай справе — нядалужная шчапінка ў акіяне, а другія няхай сабе кажуць: «Чалавек у гэтай справе, як рулявы на караблі», няхай гадае кожны так, як яму гаворыць яго розум, а толькі ж лічыцеся, паночкі, з жыццём, не жмурыцеся ад яго зіяння, не плюшчыце вочы ад яго святла, тады вы самі скажаце, што адна вам найлепшая рада ў адносінах да таго, што завяцё вы «мазепінствам» ды «сепаратычнасцю», і рада гэта дзве тысячы гадоў назад сказана лепшым членам сінедрыёна: «Пакіньце іх... Калі ж іх дзела дрэннае і богу непрыемнае — яно само, без вас, згіне, а калі не — дык ніякімі сіламі зямнымі не здзяржаць вам яго і не патушыць!» Дык жа тыя, што валаклі апосталаў у сінедрыён, баяліся, дрыжэлі за сябе, каб новая навука апостальская не пакрышыла ў прах іхніх старых жыццёвых бажкоў... А вы? А вы чаго ж баіцёся? Мы ж даходзім праўды, толькі праўды, мы шукаем толькі таго, хто па праву належыць да нас, і чужога нам не трэба, не трэба, няхай бачыць найвышні! Дык пакіньце ж перашкаджаць нам, пакіньце мучыць нас, дайце нам нашу мясцінку пад небам, а вашы скарбы— вашы,— нам іх не трэба, хопіць нам свайго. Калі па вашай старане праўда, на ваш ахвярнік пашле бог святы агонь; па нашай — наша ахвяра загарыцца і богу прыемным дымам пойдзе ў нябёсы. Дык чаго ж вы, чаго ж вы хочаце быць горшымі за тых, што гналі святых апосталаў? Вам трудна вызірнуць з цёплага гнязда на тое, што праведнае і ясна і за што праз сотні гадоў вас асудзяць і людзі сваёю навукаю, як і подаўна асудзіць вас бог. Апамятайцеся! Калі вы людзі, дык бы вы яшчэ радаваліся, што *людзей* у нас павялічваецца, што з'яўляецца нешта нова-самабытнае, з'яўляецца новая арыгінальная літаратура, што племя, каторым сотні лет кіравалі цямнота і няпраўда, аб каторым і свет добра не ведаў, якое яно, што яно пачало па любаму для яго шляху так руплiва варушыцца да леп-

шай долі, да чалавечага жыцця, да таго, каб закрасаваць прад відам другіх народаў сваімі арыгінальнымі, самабытнымі, выразнымі прыгожасцямі.

«Апекуны» нашы! Я вам тут скажу два факты. Прашчуры «апекуны» з маскоўскага боку, не так ужо даўно, пры Аляксандры Першым, глядзелі на Беларусь як на край чыста польскі. Нават адукаваныя галовы, як, напрыклад, вучоны акадэмік Северін, так няясна сабе выяўляў істоту Беларусі і беларусаў, што ў сваіх дарожных пісульках (каторыя ён пісаў, ездзячы па нашаму краю) лічыў нашых дзядоў-беларусаў як бы «схізматыкаў» і дзівіўся, што тут сярод праваслаўных царкоўныя адправы і рызы папоў *дужа падобны* да нашага, грэка-расійскага... Таксама пазіралі на наш край і «высшыя сферы». Тады яшчэ прашчуры апекуноў нашых не дайшлі, не даўміліся да таго, якія можна гешэфты рабіць з паняццем «ісконі русскія начала».

Цяпер другі факт. Знаменіты польскі Ліндэ і другія вучоныя польскія яго часоў лічылі беларусаў («крывічоў» — так пісалі нас тады ў польскай літаратуры) за адростак племені *польскага*. Але навука сказала сваё слова аб тым, хто мы ёсць. І ўжо самі польскія слаўныя дзеячы з Літвы і Беларусі не выракаліся свайго «крывіцкага» роду, а тым часам былі вернымі і гуманнымі сынамі маткі-Польшчы. Цяпер... ці ж мы гаворым ілжу і няпраўду на іх хвальныя імёны? Не, мы яшчэ гаворым шчырае дзякуй ім, тым, што пазнавалі навучна свой родны беларускі, літоўскі край, гаворачы і думаючы не па-беларуску (Тышкевічы, Зянькевіч, Чачот, Нарбут, Кіркор і др.).

А як толькі мы захацелі быць беларусамі, думаючымі і гаворачымі па-беларуску, дык — стоп машына! Тут пайшлі і «ісконі русскія начала» і гістарычныя правы на нашу старонку «незгінэлых» і... божа мой! — пасылаюць-пасылаюць ужо нас вучыцца гісторыі «не па Іламайскаму», і як толькі самі не перакруцілі саўсім яе, беднай, дагэтуль на сваю карысць, як папробаваў адзін польскі пангісторык з Галіччыны, аб каторым летась пісала ў свой час «Рада».

Яшчэ раз скажу: «Лічыцеся з жыццём!» Бялінскі не зірнуў глыбей у жыццё ў справе адраджэння ўкраінскай літаратуры, ён пісаў, што ўкраінская літаратура немажліва як нешта самабытнае і далей пераліцованых Энеід яна не можа пайсці — ашукаўся!.. У нас, нягледзячы на паэтычную працоўнасць Марцінкевіча і цікавасць тагачаснага

краёвага грамадзянства да беларускай мовы і пісьменнасці, нягледзячы і на афіцыяльнае прызнанне яе ў польскіх афіцыёзных выданнях 60-х гадоў у Вільні, нягледзячы і на пытанне ў расійскіх журналах («Маяк») аб яе здольнасці да жыцця і патрэбе як літаратуры народа, маючага багацейшую сярод другіх славян міфалогію, нягледзячы на яе просьбы: «Жыць, жыць!» — яе задавілі і сказалі цікавым, што яна сама сябе задавіла, бо не мела чаго есці і з голаду зрабіла самагубства. А прайшло з паўсотні гадоў, і вот, таксама пад злосна-радасны рогат — «Позна! Позна! Спазніліся, беларусы!.. Го-го-го! Улю-лю-лю...» — яна ўсё ж ткі: жыве!

І будзе жыць, трудна з гэтым спрачацца яе злоснікам.

Наш младабеларускі фундамент — гэта свядомая інтэлігенцыя, каторая выйшла з беларускай народнай гушчы і адтуль жа бярэ сокі для свайго жыцця.

Два дзесяткі гадоў таму назад адзін этнограф пісаў, што ў беларусаў ужо няма «тутэйшай беларускай інтэлігенцыі...».

Цяпер мы скажам, што яна ўжо, ужо ёсць! Знайшлося семячка, лягло ў добрую зямельку, узышло і... няма чаго баяцца,— з аднаго бярозавага семячка вырасце бярозавы лес на колькі вёрст. А калі вырасце! Калі будзе мець усё тое, што патрэбна да жыцця расліны: свет, цеплату, ваду, паветра... І беларуская інтэлігенцыя будзе расці, развівацца — калі? Калі будзе браць жыццёвыя сокі ў народнай гушчы.

Значыцца, рух беларускі будзе павялічвацца беларускай інтэлігенцыяй, а яна будзе і далей багацець духоўна і фізічна, калі народ беларускі і надалей будзе здольны папаўняць яе сваімі дзяцьмі.

Што патрэбна для таго?

Што патрэбна, каб народ наш радзіў сваіх інтэлігентаў, бліжэй кажучы — шчырых младабеларусаў, а не палякаў з «Забранай Літвы» і не русакоў «с Западнаго Краю»?

Многае патрэбна... Паміж многа іншым — кніжка.

Яна, усемагучая, паддасць імпэту народнай гушчы нашай у нараджэнні *беларусаў*.

Трэба пусціць у народ кніжку.

Працаўнікі беларускага адраджэння і пусцілі яе, пу-

сцілі з рэзультатамі вельмі добрымі і не вельмі добрымі (як мне здаецца).

А каб у гэткім важным дзеле не здаралася аніводнай няўдачы, трэба спытацца ў народа, ці хоча ён чытаць і што ён любіць чытаць.

Адказаў набярэцца хіба столькі, сколькі запытаных будзе.

Калі ж хто скажа, што чытаць не хоча (мажліва!), то трэба перш-наперш давясці такому, пераканаць такога, што кніжка — лякарства ад многіх хвароб.

Калі ж хто скажа, што любіць чытаць непатрэбшчыну якую, трэба на яго словах наўчыцца і размеркаваць, як найлепей пакіраваць гэтага чытаку да добрага чытання.

О, гэта важная справа, карысная справа — такія пытанні! Чаму не падаюць сільней голасу тыя, што ўжо пыталіся, хадзілі?

Што чытае народ? Чым карміць яго? Якім спосабам пакіраваць яго да таго, каб нёс ужо ён з рынку не «мілорда глупага» ў мачульным выданні пана Сыціна, а хоць бы, скажу пакуль што, каляндар «Нашай нівы».

А найперш павінны мы даць духоўную страву сялянскай хаце і тым, яшчэ невыразным адсколкам работніцкага стану, якія цяпер у нас ёсць і ўсё выдатней выліваюцца.

Апрача двух каранёвых, асноўных мэнтаў нашага адраджэння — сялян і работнікаў з аднаго боку і свядомых інтэлігентаў з другога, трэба адзначыць і вялікі шмат ступенек-прыступак у гэтых гушчах і паміж імі. Раздзелы ж труднеюць яшчэ тым, што беларусы — праваслаўныя і каталікі, па крайняй меры на паперах, а колькі іх у жыцці такіх, што шукаюць свайго бога, што моляцца богу невядомаму, што асцюдзянелі і закамянелі ў сучасным, пхаючым да такіх праяў, жыцці і лічаць сябе «от так сабе...», а то атэістамі, бязбожнікамі, ці даюць сабе іншыя найменні.

І ўсім гэтым людзям, пакуль іх троху расштурхаем і зацікавім да беларускай літаратуры, патрэбна і розная духоўная страва.

Кожнага беларуса трэба здаволіць кніжкай.

Асабліва ж трэба гадаваць нашых маладзенькіх.

І, разумеецца, народную гушчу.

Па-мойму, цяпер дужа б ладна было зацікавіць народ беларускай кніжкай праз выбраныя народныя ж казкі, цікавейшыя песні, прыслоўі, пераказы-прэданні, легенды,

жартлівыя народныя апавяданні (бытавыя, аб прыгоне і т. д.), анекдоты і гэтаму падобныя, усё тое, што сабрана на Беларусі і запісана і што ходзіць паміж нашага народа. Калі ўсё гэта добра апрацаваць і выдаць даступна народу, рэзультаты працы будуць дужа важныя для нас, сыноў Беларусі.

Адным словам, звяртаючы належную ўвагу на народ, на яго жыццёвыя патрэбы, павінны мы, без аніводнай каму шкоды, улаўляць яго ў чалавечыя беларускія сеці.

Мы не можам не лічыцца з жыццём, [redacted] жыццёвымі патрэбамі народа нават і тады, калі гэтыя жыццёвыя патрэбы народныя, на наш погляд,— хворы, ненармальны і шкодзяць адраджэнню беларусаў. Не можам не лічыцца дзеля таго, каб не адарвацца ад карэння. Калі беларуская інтэлігенцыя адарвецца ў самым пачатку ад свайго народа, яна хоць і не загіне і будзе сяк-так мадзець і расці, але буйнага калашэння яе не будзе ніколі. У справе агульнага развіцця грамадзянскага жыцця ў Расіі многа шкоды было ад таго, што там інтэлігенцыя была без грунту, яна не мела ніводнага духоўнага вязьма з народам расійскім і, калі пачынала «хадзіць у народ» ці іншым спосабам шукаць рады, каб знайсці торную палітычную дарогу, дык гэта выходзіла... скажу першым узышоўшым на вум словам... выходзіла слёзна-жартаўліва, а то і горш. Беларуская інтэлігенцыя не павінна рабіць абмылак: трэба ёй усімі сіламі хапацца за народ, пакуль яна сама народна, дэмакратычна і папаўняецца новымі і новымі дзяцьмі беларускага дэмасу, каторых ён, дэмас, вывеў «у людзі». А каб не адарвацца ад народа, а, наадварот, выкарыстаць усё, што дае самая блізкая еднасць [redacted] ім, прыходзіцца, як паказвае жыццё, ісці яму насустрэчу, паступаючыся да часу не так ужо важнымі для слаўнага канца сваімі палажэннямі. Гэта не ёсць езуіцтва, бо хаця тут «цель оправдывает средства», аднак гэтыя спосабы ўжо нікому шкоды не робяць, бога не гневаюць і чорта не цешаць. Дарога к народу, а к народу трэба падходзіць патроху, умеючы. Жывеш ты сярод беларусаў, каторыя гавораць не «ёсць», а «есь!», не дзіві, ужывай і ты гэта «есь», каб не адпужнуць ад сябе нерухомага беларуса, тым часам кіруйся, каб сынок гэтага беларуса чытаў добра беларускую кніжку і, пайшоўшы ў свет, цвёрда стаяў на тым, што ён мае чалавечае права звацца беларусам, а не палякам ды не маскоўцам і што ён мае чалавечае права, права *не хавацца* са сваёю моваю, хай бы яна была і горшая ад другой мовы,

мае права пагарджаць «абразаплюйнікам», каторых цяпер шмат і сярод палякаў і сярод маскоўцаў і каторыя любяць, не сустракаючы доўжнага вострага адпору, пасмяяцца, паблазіць над мовай прыезджага несвядомага селяніна-беларуса.

Калі не хочаш ты расчаравацца ў жыцці, калі-ткі ты папраўдзе ёсць інтэлігент і жывеш не так, што «наеўся, напіўся і хвосцік завіўся»,— не глушы ў сваім дэмакратычным беларускім сэрцы беларускіх народных здаровых пачуццяў... Дай веры, не расчаруешся. Не бяжы ад народа, а бяжы да народа. Ён цябе разварушыць. А ў падзяку таму, хто даў табе сэнс жыцця, ты папрацуй шчыра. Не бойся спачатку, што выходзіць шыварат-навыварат: ты к народу, ты «сярод маны, сярод насмешкаў» туліш к грудзям нешта новае і нясеш яго народу, а народ гэты ад цябе ў віры глядзіць. А ты не прыпанімай так к сэрцу: усё мае свае прычыны, многае з часам зменіцца і няма таго дрэннага, што б не выйшла на ладнае!..

Дык вот жа, вы — інтэлігенты — будучыня адраджэння беларусаў залежыць ад селяніна; хаця, праўда, гурток інтэлігентаў ужо глыбока пусціў у нас карані, але калі селянін перастане выдзяляць са свае хаты дзяльцоў руху, дык рух будзе марнець.

Жадалася бы мне пагаманіць троху, паразважаць, палятаць думкай і аб літаратуры нашай.

Літаратура? Што гэта ёсць — літаратура? Ці не ёсць гэта само грамадзянства на фатаграфіі і ці не ёсць літаратура і грамадзянства як гук і літара?

Калі хочацца знаць, як жыве народ і да чаго ён кіруецца, трэба чытаць яго літаратуру.

Трэба чытаць і беларускую літаратуру дзеля таго ж самага.

Беларуская ж літаратура маладзенька, як дзяўчынка, і хоць вока бяжыць любавацца прыгожасцю гэтай дзяўчынкі, але, але... зразумець яе — яна ўсё яшчэ дзяўчынка!..

Не ўсё поўна адбілася з Беларусі ў беларускай маладзенькай літаратуры: тое трошачку бачком, тое брыжком, тое краюшком, тое зламаўшыся, скрывіўшыся. Часу! Часу! Вот цяпер бы я і клікнуў пісьменных беларусаў пахваліцца ў сваіх часопісах, што яны знайшлі, знаходзяць *глаўнага*, істотнага ў нашай літаратуры і куды яна павінна кіравацца. Гэта важна! Асабліва цяпер... Трэба добра

агледзецца каля сябе, і шпарчэй, можа, пойдзем уперад. А куды ж ісці ў творчасці нашым пісьменнікам[?]

Шлях мастацкі? Шлях карысны — жыццёвы? Пісаць жыццё, якое ёсць яно? Паказаць, якім магло б быць? Якім павінна быць?

Ці не мастацкая праўдзівашнасць — найлепшая дарога літаратуры нашай?

І ці не даволі засыпацца разнаколерным канфеці з вершыкаў і дробных малюнкаў[?]

Ці не пара б нашым пісьменнікам напісаць што даўжэйшае?

Ці не дадуць нам к дзесяцілеццю «Наш.[ай] нівы» нашы літаратары добры *раман*?

Хаця б з сучаснага жыцця раман? Аб тым, як трухлее старое і патроху, у муках, расце маладое? А можа б, якую гістарычную повесць, драму?

Я не раблю заказ, а думкамі супакойваю сябе ў жаданні найпатрэбнейшага.

Здаецца, праўду кажу?

Прозы, прозы, добрай, мастацкай прозы беларускай дайце нам!

Каб на стале ў нас каля тоўстай кніжкі вершаў «Шляхам жыцця» ляжала б не ценейшая кніжка прыгожай прозы.

Мне скажуць: «Беларус любіць песні — і вот у літаратуры вершы», а я скажу: «Беларус мае дзіўныя ладныя казкі — дайце прозу».

На аўтараў дробных вершыкаў у «Нашай ніве» ў нас урадліва... Індывідуальнасць у іх розная, у каждага з іх яна свая і можа быць болей выразная, чым гаворыць вершык; думкі і пачуцці — усё ў іх своеасаблівае,— але што калі чалавек божы лічыць, што, каб друкавалі яго творы, павінен пісаць так, як другія пішуць,— надрукаваныя, і ён пачынае рабіць па гатоваму шаблону і калечыць сваё асаблівае, можа, сваё новае, лепшае. Ён пабег па гатовай расцяробе, дзе, здавалася, лягчэй прайсці на Парнас, а сваю дарогу-расцяробу, праз каторую было б відаць адно поле ад другога, так і пакінуў, так і забыўся... Лепей бы ты, парнаснічак, не паказваў сябе, што і ты ўмееш нешта зрабіць, як паглядзіш на работу другіх; лепей бы ты схаваўся, бо ты забыўся, што не трудна зрабіць, ды трудна прыдумаць. Калі беларус бярэ ў рукі нумар газеты, ужо ён з тамленнем сэрца пытаецца сябе: «А можа, і не будзе шаблону і ёсць тут новае слова?» Чытаючы тры нумаровых вершыкі,

ён хацеў бы, каб хоць адзін з іх яго, ну, хоць трошачку ускалыхнуў, ці новую думку даў, ці прымусіў пасумаваць, ці шчыра пасмяяцца, ці сказаць вечны спакой рабу божаму, а дзеду нашаму, мучаніку Хвядосу, што сто гадоў таму назад згніў у скляпах-мурах панскіх — каменных.

Я, не плюшчыўшы вочы, скажу: няхай як мага скарэй праявіцца ў нас хоць бы адзін добры крытык. Усякая маладая літаратура, і беларуская, калі ўжо яна мае прад светам нейкі від праз выразнейшых і выбітнейшых пісьменнікаў, асабліва мае патрэбу і ў сур'ёзнай крытыцы. Маладым пісьменнікам маладой літаратуры з самага пачатку трэба паказваць іх абмылкі, калі гэтыя абмылкі могуць пашкодзіць далейшаму развіццю творчасці пісьменнікаў.

Пісьменнікаў нашых трэба навадзіць на добрую пуцявіну. Крытык можа ўжываць і лёгкую насмешку і сарказм, каб самі пісьменнікі былі стражэй да сябе, да сваіх твораў і сваёй творчасці.

Ведама: дрэнна крытыка такая, што крытыкуе не творы, а аўтара. Хоць праўдзіва мастацкі твор — частка душы аўтара, і крытыкуючы твор, мімаволі чапаем і струны душы; але гэта не страшна, калі крытык папраўдзе к р ы т ы к у е. Што значыць крытыкаваць творы?

Па-мойму, крытыкаваць — значыць шукаць таго ж, чаго шукаў аўтар, і рабіць думку яго яснейшай чытачу, і даходзіць, ці добра выклаў думку аўтар, і як выкладаў, і як бы мог выкласць лепей. На добрай крытыцы гадуюцца пісьменнікі і грамадзянства, і недарма з вялікай нецярплівасцю жду я беларускага крытыка.

Далей...

Ёсць, дзякуй богу, вельмі важная навучная праца шаноўнага прафесара Карскага аб нашай мове. Ёсць, хваліць бога, ужо кавалак літаратурных проз нямалай вартасці. Ёсць даволі зборнікаў этнаграфічных, дзе можна знайсці завосыць характэрных, прыгожых і граматычна цікавых зваротаў беларускай мовы.

Ёсць, такім чынам, даволі матэрыялу для навучнага пазнання мовы нашай, ёсць і навучная добрая праца.

А тым часам няма аніякай кніжачкі правіл граматычных нашай мовы для народа.

Дык няўжо няма хаця сярод студэнтаў-беларусаў ці наогул людзей з вышэйшай філалагічнай асветай, каб зрабілі першую пробу напісаць беларускую практычную граматыку?

Няхай бы іхныя палажэнні былі б толькі тэарэтычны і гіпатэтычны і ні для кога не канешны. Але гэта б быў важны крок уперад у нашым адраджэнні. Няхай бы было паказана, што калі я пішу *зямля* і *зямлі*, а не *землі*, дык гэта не значыць, што я пішу «жаргонам», а не літаратурнай мовай; гэта ж і расійская мова не траціць свайго значэння вялікай мовы, калі ў ёй гавораць «дѣти» і «дитя», а не «дѣтя», таксама і ў польскай.

Няхай бы адзін чалавек даводзіў у нас, што прыгажэй і лепей гаварыць і пісаць так:

*Што захочэ — тое скажэ.*

Другі так:

*Што захочыць — тое скажыць.*

Трэці так:

*Што захочэ — тое скажэць.*

Чацвёрты так:

*Што захочэ — тое скажыць.*

З'явілася б такая кніжка, пачалася б у нас праца мыслі ў гэтым кірунку, і мова, клянуся, дужа многа выкарыстала б дзеля граматнасці і гучнасці.

Бываюць творы: усе лініі ў іх строгай правільнасці, яны прыгожы, а нас не цягнуць.

І другія творы: нейкі недахват у іх невялікі, але гэты недахват такі любы і прыгожы, што магнэсам цягне. Так і мова.

У Польшчы да самага аж 16-га сталецця народная літаратура душылася пад панаваннем лацінскай асветы. Яна не магла закрасаваць датуль, дакуль палякі, закаваўшы сябе лацінскім жалезам, не дазвалялі адзін аднаму і падумаць, што можна ж гэтыя путы, па добрай волі ўздзетыя, скінуць. Не меншай бядою была мова царкоўнаславянская для праваслаўных славян.

А цяпер, скажу я, не меншая бяда для нас, адраджоных беларусаў, панаванне сярод нясмелых братоў нашых і сярод нашых суседаў такіх думак: «Ах, як гэта можна ламаць язык па-беларуску? Як гэта можна? Ці можна?»

Таксама ў прошлым веку многія чэхі думалі: «Ах, як гэта пісаць па-чэшску? Як гэта можна гаварыць чэшскай мовай, калі ж у ёй ані законаў, ані слоў да сучасных паняццяў?»

Цяпер гэткія думкі для чэха — дурнота!..

Так жа сама было і з латышамі, так жа сама было і трохі ёсць з украінцамі (што ўжо блізка да нас).

Асабліва прыкра бачыць панаванне закарэлых думак аб мове сярод дзядзек, выяўляючых сябе — фу-га! — паступоўцамі.

Лупаюць яны вачамі, сустрэўшыся з працай праф. Карскага аб белар.[ускай] мове ці пачуўшы музычны верш лепшых беларускіх паэтаў!

Увага! Калі ёсць дзе ў кутках Беларусі слова на вышэйшае («отвлеченное») паняцце («Гродзеншч.[ына]: летуцець — мечтать) ці добры тэхнічны тэрмін і т. д., каторых няхай сабе яшчэ і не ведаюць усе беларусы, дык іх варта ўвясці ў нашу літарат.[урную] мову, чымся пазычыць у суседаў. А калі для аднаго якога паняцця ў нас ёсць два ці некалькі слоў, але ў адным кутку Беларусі гавораць адно слова, а ў другім другое, то я раіў бы ўжываць такое, каторае, можна думаць, вядома большай частцы беларусаў. Так патроху ў нас выкуецца аднародная мова, мова літаратурная!.. У нас жа так многа нарэчый, гутарак, асаблівасцей фанетыкі, што калі з часам з усяго гэтага паднімецца нешта суцэльна-стройнае, то што гэта будзе за хараство, што гэта будзе за багацце, што гэта будзе за цікавасць, ой! Недарма некалі вялікі Міцкевіч хваліўся цікавейшымі і драгацэннымі скарбамі мовы нашай. Недарма ж велікарос Бяссонаў, дзівячыся «народности белорусской», хваліў разам і мову яе. «Языкъ свой *наложила* она на *большую часть* другихъ представительныхъ народностей, съ языкомъ *грамоту*, съ тѣмъ и другимъ *міръ воззрѣній*, а съ симъ посредствующимъ проводникомъ всѣ прочія самобытно-цивилизующія начала: на домашнюю *бесѣду*, на общественную *рѣчь*, на *письмо* всѣхъ гражданскихъ и даже отчасти государственныхъ дѣлъ, на первыя училища, на *слово и пѣснопѣніе* церкви». Далей: «...пѣснею и стихомъ, не широкими и не длинными, а *въ тысячѣ* видовъ, съ *изящнымъ* и частію шутливымъ характеромъ оглашался весь этотъ видимый и невидимый образъ жизни народной (беларускай)».

І мутарна ж так на сэрцы, што многія «ў чорным» сучасныя беларусы, пахваліўшыся, што знаюць беларускую мову, умеюць толькі зламаць «дык, як...». А потым думаюць, што і папраўдзе мова бацькоў іх такая ўбогая, і забываюцца, як нядаўна хваліліся «вясёлым мужычком», у каторага «адкуля што бярэцца», каторы па-беларуску «так і столька нагаварыць... лепш чым другі ў тэатры ці ў цырку... Во, прыставіць!..»

Эх вы, людзі, людзі!

Другі нябога крычыць: «Гэта слова — паланізм! Паланізм!» Бяру кніжку песень, казак, пасловіц, загадак беларускіх, запісаных на ўсходзе Беларусі, і паказваю тое слова ў чысцейшай беларускай мове старадаўнай беларускай песні...

З другога боку: «Як можна? Гэта русіцызм усюды ўжываецца беларусам праваслаўным і заваяваў правы грамадзяніна ў мове нашай?!»

Што мы ў тым вінаваты, што «представительные народности утилизировали» мядок нашай мовы (Бяссонаў і др.), а цяперашнія сляпні кусаюць нас паланізмамі ды русіцызмамі? Што мы ў тым вінаваты і ці такі ўжо нам грэх?..

Адзін прафесар (славіст) прагаварыўся, што ўкраінская літаратура не можа быць асабліва шырока, абшырна, глыбока, як літаратура мясцовая і літаратура простага народа. Значыцца, і з беларускай літаратурай то ж самае...

О, якая абмылка!

Ці не просты ўкраінскі народ даў філосафа Скавараду і ці не прыходзілася самаму пану прафесару страчаць у простага старога селяніна-беларуса задумкі і адгадкі на пытанні агульналюдскія, на пытанні ўсясветнага характару, глыбокія, строгія, класічныя.

Сярод сялян-беларусаў не менш арыстакратаў духу, чым сярод тых людзей, з каторымі жыве пан прафесар.

Як гэта можа быць? Толькі інтэлігент па свайму дужа развітаму інтэлекту можа быць такім?! Мужыку за сахой, касою куды ўжо там!..

А я то і скажу, што і сярод сялян (беларусаў) многа граматных людзей, як і сярод «інтэлігентаў», але саха ды каса ды блізкасць да таёмнага жыцця прыроды і змалку выпрацаваны арыстакратычна-духоўны погляд на няхват скарынкі хлеба ў селяніна і робяць тое, што літаратура такога простага народа і будзе мець пры добрых варунках значэнне сусветнае, так!

Як гэта выходзіць, судзіце, людзі божыя, а толькі чым болей я жыву і прыглядаюся да духоўнага жыцця беларуса, жыхара беларускіх таёмных пушч, чым болей я пазнаю нахіл яго да здаровага містыцызму, да неразлучных з яго жыццём пытанняў: «Адкуля ўсё і што яно?» Чым болей я знаёмлюся, як мне здаецца, з душой беларускай, тым з большай пэўнасцю станаўлююся я на тым, што беларускай літаратуры суджана сказаць многае новае ў вобласці духа... Скранулася Беларусь, узварухнуліся яе спрадвеч-

ныя імшары, і я з вялікай надзеяй жду беларускіх Дастаеўскіх, Ул. Салаўёвых і т. п.

Мне скажуць недаверкі: ці ж?..— шпарка палетуцелі: азірніцеся на вашу цяперашнюю «літаратуру»...

Гаварыце! А я скажу: гарджуся я тым, што ўжо маем! Гарджуся, і ёсць чым гардзіцца, гарджуся гордасцю не грэшнаю, а тут належнаю...

Доўга калела нешчаслівая зямля пры дрэнным надвор'і... А заззяла сонца, цяплынь пусцілася парай па зямлі, прайшоў цёплы дождджык, павеяла прыемнымі пахамі, і ўсё пацягнулася з мяккай зямелькі к свету, усё зазелянела, зарунела, закрасавала...

Вочы разбягаюцца... Той расце так, гэты жыве так, іншы сніць так... Добра! І крывое — калі добрае, прыгожа!

Так з нараджэннымі пісьменнікамі нашымі. А схопяць яны сваю беларускую істоту — пачнецца расцвет нашай літаратуры. Прырода не любіць скакаць, у яе ўсё ў свой час.

І я жду, па ўсіх прыметах, якія ўглядаю ў нашым жыцці, жду ў першай жа палавіне 20-га веку нараджэння беларуса — усясветнага пісьменніка.

Эх... Крыўдзілі і крыўдзяць нас гісторыкі літаратуры і палітыкі, калі забываюць ці не добра цямяць нашу мінуўшчыну і пішуць і думаюць аб нас, як аб нейкім нечым, што яно — «русское», прычым мы толькі так баўтаемся пад рукамі, а цэнтр вагі лажыцца на маскоўцаў...

Прыкрая сама па сабе і трагічная для нас абмылка!

Пакіньце! Навука сказала, а мы ўспамінаем вам палюдску, што мы — нешта асобна-самабытнае, што псіхіка наша не хоча нават і звацца псіхікай маскоўцаў, каторая ёй незразумела.

Дзе наш бытапісец сярод расійскіх пісьменнікаў з вялікаросаў? Дзе наша душа ў расійскай літаратуры?

Ждуць людзі беларускага Гогаля... Не прыйшоў яшчэ. А можа, прыйдзе? Можа...

Але ён яшчэ не прыйшоў, а Беларусь узабралася на сваю праўдзівую дарогу, і я жду не беларускага Гогаля, а беларуса — Гогаля, як Тарас Шаўчэнка, каторага і будуць лепшыя расійскія паэты перакладаць на расійскую мову, і будзе ён гаварыць і на ўсіх людскіх мовах...

## ДОКТАР ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

**(6 ЖНІЎНЯ 1517 г.— 6 ЖНІЎНЯ 1917 г.)**

Люди где зродилися и ускормлены суць па бозе, к тому месту вяликую ласку имают.

Скарына

У канцы пятнаццатага веку (прыкладам каля 1490 г.) у Полацку, «слаўным градзе Полацку», у заможных купцоў полацкіх Скарын, у шчаслівую дзеля Беларусі часіну, нарадзіўся сын, што, дарослы, праславіўся далёка пазамежжу Русі-Літвы.

Гісторыя не захавала аб ім напэўных вестак, калі нарадзіўся, калі памёр, як зваліся яго бацькі, як здолеў дастаць вялікай асветы, і — што найглаўней і найцікавей — гісторыя не захавала, а вучоныя людзі дагэтуль не дайшлі, якой верою верыў ён — праваслаўнай ці каталіцкай?

Уважаючы на тое, што ў тыя часы каталіцтва на Беларусі было зусім мала пашырана, асабліва ж сярод людзей сярэдняга, targовага стану, а таксама і на тое, што святыя кнігі ён выкладаў дзеля лепшага разумення народа паспалітага Русі-Літвы, а народ гэты быў праваслаўны, і што выкладаў кнігі моваю таго ж народа без аніякага кірунку да чаго польска-каталіцкага, то выходзе прызнаць, што і сам ён быў праваслаўны.

Уважаючы ж на яго ўласныя словы аб сабе: Скарынін сын Ф р а н ц ы с к а (імя каталіцкае), трэба прызнаць яго за каталіка.

Праўда, па акту ўжо шаснаццатага веку завецца ён яшчэ і Г е о р г і й Скарына, але наогул-то гісторыя гаворыць аб ім як аб Францішку.

Пытанне аб двайных імёнах у нашым вялікім княстве да уніі ніхто не растлумачыў, а тым часам знаемо, што вядомы князь Астрожскі Канстанты ў прадмове да Астрожскай Біблії пішацца «ў крэшчэнню Васілій», і яшчэ знаемо, што князь Богуш быў па актах «во святом крешченню Евфімій».

Дык во, тым цікавей і глаўней, што ў гісторыі нашай, якая поўна вострага, часам дужа шкоднага краю, змагання вер — праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай, арыянскай, лютэрскай, кальвінскай — у гэтай гісторыі ёсціка вялікі чалавек, вялікі магутны дух і так вышэйшы за рознае раз'юшанае чалавечае важджэнне аб драбязе,— што запісаў у гісторыю не аб тым, як дзеля тытулаў і прывілеяў перадаўся ў пануючую веру; не аб тым, як, бароначы са-

мабытнасць роднага краю, усё жыццё вадзіўся з «ворагамі», сваімі ж братамі, што зводзілі на нет Бацькаўшчыну; але запісаў у гісторыю аб тым, як светлы і чысты, выпэйшы ад спрэчак аб правай веры і звадак, усё жыццё, аднак, працаваў на карысць роднага люду, тварыў яго культуру, здабываў яму шчасце і славу.

Пачаткаў граматы Францыск навучыўся, мусі быць, пад бацькавай страхою ў Полацку як сын багатыроў, але як ён патрапіў у Кракаўскі універсітэт (можа, давучыўся ў Вільні?), то нет ведама.

З Вільняю ў Скарын было шмат зносін па розных справах.

Родны дзядзька Францыска Іван Скарыніч, гандлюючы ў Рызе, пазычыў там у віленскага мешчаніна, нейкага Садкалоўскага, 22 капы грошы (гэта нямала) і памёр, не аддаўшы доўгу.

Наследаваў гэтаму дзядзьку разам з другімі і Францыск і, відаць, меў праз тое многа непрыемнасці.

Потым ведама, што сын таго Івана, Раман, «служыў у немцох», лічыўся мешчанінам В і л ь н і, хоць меў зямлю ці дом і ў Полацку.

Мабыць, з-за такіх спраў патрапіў у Вільню і хлапец Францыск.

Сваімі выдатнымі здольнасцямі, добрым гадаваннем, выхаваннем і людскасцю звярнуў на сябе ўвагу віленскіх магнатаў, а яны і паслалі яго ў Кракаў да універсітэта, каб мець потым у родным месце і княстве вучонага мужа.

Пачаў там вучыцца Скарына хіба з 1504—[150]5 года, маючы, гэта значэ, не менш 14—15 гадоў ад роду.

А вучылі там хлапцоў такіх навук: граматыкі, логікі, рыторыкі, фізікі з арыфметыкай і геаметрыяй, музыкі, звездачоту, куды ўходзіла астраномія, навука выкладаць календары і вылічаць гараскопы (жыццёвую долю).

У ліку бакалаўраў філалагічнага факультэта Кракаўскага універсітэта 1506 г. успамінаецца Fran. de Poloczko, Lipthnaus, а раней у спіску студэнтаў 1504 г. ёсць там сходнае імя. Кажам, сходнае, бо некалі быў звычай замест фаміліі пісаць, з якога месца; дык жа сам Скарына любіў дадаваць да свайго імені, што ён з Полацка, слаўнага граду Полацка, у лекарскіх навуках доктар.

Агульны напрамак асветы універсітэцкай таго часу ў Кракаве быў чыста т э а л а г і ч н ы. Глаўней за ўсё лічылі спасенне душы, пасля ўжо сцаленне цела. Дык во, хто вучыўся ў тыя часы за доктара, таго прафесары настаўля-

лі, каб, явіўшыся да хворага, доктар першым дзелам казаў бы яму аб пакуце, аб грахах, аб пекле і раі і т. д., а потым, адратаваўшы душу, лячыў бы цела.

З гэтага можна бачыць, які там уплыў рабіўся на маладога, таленавітага, а «ўскормленнаго суть по бозе», Скарыну.

Хоць і не дайшло да нас, як і дзе, а тым часам завяршыў ён сваю вышэйшую асвету, дастаў пачэснае, важнае званне: у навуках вызваленых і ў лекарскіх доктар, вучоны муж, і апынуўся аж у чэшскай сталіцы Празе.

І тутака яму, поўнаму маладых выдатных сіл, пры гэткай асвеце, узгадаванаму ў шчырай любасці да людзей, з беларускай, праніткнутай духоўнасцю душою, жадалася ■ усёй сілы працаваць у навуцы на карысць людскую.

І няўжо ж на далёкай чужыне не летуцеў ён, не думаў ён аб родным Полацку з яго равамі, валамі, вежамі, брамамі і вулкамі, кірмашовым гулам на рынку людской таўпы з роднаю крывіцкаю гаворкай, вячэрнім магутна-гучным спевам звонаў і спрадвечным плёскам глыбокай, шырокай Дзвіны з гандлёвымі лайбамі; няўжо не летуцеў ён аб бязмерных родных абшарах і дрымучых пушчах з валатоўкамі, гарадзішчамі, камянямі прырэчнымі, прыдарожнымі — памяткай старадаўшчыны, дзе тама ды тута жыў родны народ роднага свайго княства, народ лагодны, прыемны, але яшчэ цёмны, што не меў нават па чым вучыцца, па чым маліцца?

З якой радасцю і ён сам, Скарына, памаліўся б тут, на чужыне, дзе не пачуеш слова роднага, па кнізе, у роднай мове выкладзенай!

І была б такая кніга і ў Полацку ў радні, і ў Вільні ў прыхільнікаў, і па ўсіх кутках Русі-Літвы, і з гарговым чалавекам у Рызе, ці Польшчы, ці далёка ў Прусах.

Як у той дзяўчыны:

...тчэ, забыўшыся, рука,
Замест персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.
(«Вянок» М. Багдановіча)

Так у яго, узгадаванага чужымі вучонымі на чужым грунце, з'яўляецца чыста нацыянальная, свая родная культурная праца.

Глыбока запала яму думка паслужыць роднаму гасударству выкладаннем кніг. Перш-наперш кніг для набажэнства. Мусі быць, той жа працы чакалі ад Скарыны і віленскія грашавітыя ды радавітыя людзі, што дбалі аб

развіцці культуры на Русі-Літве і што памаглі некалі грашмі Скарыне.

Цяперака яны памаглі грашмі [1], яшчэ й матэрыяламі.

Праз гэтых мецэнатаў дастаў Скарына царкоўнаславянскія тэксты Евангелля, Апостала, Пяцікніжжа Майсея, Псалтыр, кніг Прарокаў, Цароў, Суддзяў, Іова, Прытчаў, Еклезіаста.

Знаёмствы калішнія з Вільняю тута яму дужа памаглі.

І во, дзеля таго, што не только сами сабе народихомся на свет, но более ко службе Божыей и посполитаго добраго,— як піша сам Скарына,— і таксама наболей с тое причины, иже мя милостивы Бог с таго языка на свет пустив, доктар Францыск Скарына падняўся пропти тое, каб на карысць свайму прырожоному языку к науце усяго добраго і к лепшаму разуменню ўсякім чалавекам слова божага,— падняўся выкладаць святыя кнігі ў роднай мове і друкаваць іх.

Аз... нарожаны у руском языку,— гаворыць ён у прадмове да кнігі Данііла,— своей братіи Руси...

Шмат жа было працы: апроч чыста навучнага труду выкладання кніг з розных матэрыялаў, трэба было рабіць карэктуру (правіць друкаваныя чарнавікі) і пільнаваць за работай друкаршчыкаў, што былі хіба не з беларусаў, а з якіх пражскіх славянаў ці нат немцаў і часта перакручвалі напісанае доктарам.

Дабрахотна ўзваліў ён на свае плечы гэты цяжар, абы толькі пашырыць асвету свайго гасударства.

Не па заказу рабіў, а на карысць Бацькаўшчыны.

І тутака яму, праўда, некалі было ўдавацца ў крытыку матэрыялаў, поркацца па жыдоўскіх, грэцкіх, лацінскіх кнігах, дый не вынікала таго ціхамірная, шчыра хрысціянская душа беларуса, і во — здавальняючыся кнігамі царкоўнаславянскімі (тэкстамі), чэшскай Бібліяй 1506 года і каментарыямі Міколы Лірана — наш доктар, уважаючы на паспалітае разуменне, рабіў выкладанне; а яшчэ — дбаючы на добры чын роднай мовы, бо ведаў, што дзеткі на Русі-Літве вучыцца грамаце і мове будуць на яго кнігах (Псалтыры).

---

[1] На пражскіх выданнях Скарыны прыпіска: а то ся стало накладом Богдана Онькова с-на (сына) радці (суддзі) места Віленьского.

Детем малым — пачаток всякае добрае навукі, грамоты,— еже добре често (чытаць) и мовити вучыть (Скарына).

Так зрабілася вялікае дзела.

6 жніўня 1517 года выйшла ў свет Псалтыр беларуская, якой пачыналася выложеная працаю и вытисненая повеленьнем Скарыны першая беларуская друкаваная кніга Біблія (святыя кнігі).

Гэтак надрукаваў Скарына ў Празе:

у 1517 г.— 4 кнігі — 222 лісты,

1518 г.— 8 кніг — 348 лістоў,

1519 [г.] — 10 [кніг] — 524 [лісты].

У 1517 г., калі пачаў літаратурную і выдавецкую працу, меў ён, значэ, не менш як гадоў 27. Такім, ці троху старэйшым, ён выглядае і на партрэце, дададзеным да кнігі.

У 1519 г. па няведамых прычынах спыняецца яго пражская дзеяльнасць, і ён пераязджае на жыццё ў Вільню.

Можа быць, жадалася жыць у Бацькаўшчыне, бо тужыў па ёй; можа, нажыў ворагаў сабе і сваёй думцы ці дзеля гэтай святой думкі ўлез у даўгі; можа, разважаў, што ў Вільні лягчэй будзе працаваць, маючы блізка і знаёмых багатыроў, і асвечаных спагадаючых людзей, і матэрыялы, а можа, хацеў залажыць друкарню не за кардонам, а іменна ў родным сваім гасударстве на карысць яго.

У прадмове да кнігі Юдыфі, становячы мужам отчыны Юдыфь за прыклад, ён гаворыць, каб яны

всякага тружанія и скарбов для посполитого добраго и для отчыны своея не лютовали.

Так, удому почцивого мужа Якуба Бабича, найстаршаго бурмистра славнаго и великаго места Виленского, залажыў Скарына друкарню, дзе праца яго развівалась далей.

У Вільні ён выдаў: Апостал і Малую падарожную кніжыцу.

Тады ў беларускіх гарадах жылі не жыды, як цяперацька, а нашскія беларускія мяшчане (жыхары места-горада), тарговыя людзі, купцы, якія, апроч унутранага гандлю, мелі вялікі і бойкі торг з суседнімі гасударствамі: Маскоўскім царствам, Польшчай, немцамі і інш., а едучы часам дужа далёка ў чужыну, вязлі з сабою падарожны антымінс, каб там адпраўляць набажэнствы і розныя трэбы. Але да часоў Скарыны яны не мелі друкаваных свя-

тых кніжак, нават малітвасловаў, а рукапісныя былі рэдкі, у царкоўнаславянскай мове, і даступны толькі хіба самым багатырам.

Доктар Скарына, уважаючы на тое, выдаў для мірскіх людзей Малую подорожную книжицу, куды змесціў:

1) Псалтыр зупольную;
2) Часословец;
3) акафісты;
4) каноны;
5) Шостодновец краткі, Святцы і Пасхалію на многія леты.

Але, кажуць, няма прарока на сваёй Бацькаўшчыне,— так людзі, што жылі побач са Скарынай, мабыць, мала лічыліся з яго працаю, і доктара ўсё больш захоплівала ўласнае жыццё, будзёншчына, а потым пачаліся, відаць, розныя непрыемнасці ў яго жыцці — доля ўсіх вялікіх людзей асабліва.

З актаў і інш. ведама аб віленскім жыцці Скарыны, што паміж 1525—[15]29 гг. ён ажаніўся на ўдаве Юрыя Адверніка, Маргарыце.

У 1529 г. ён мае цяжбу з жонкінай раднёй за дом, каторы і высудзіў сабе.

Валачоба судовая так яму апрыкрала, што ён жаліўся на суддзяў і непарадкі каралю.

А ў 1532 г. выйшла нейкая (ужо позняя для справы) каралеўская грамата аб канфіскацыі маетнасці доктара Скарыны і выпаўненні ім розных старонніх абавязкаў.

У 1530 г. вялікі пажар спаліў Вільню.

У 1533 г. ахапіла яе маравое паветра.

У 1535 г. упамінаецца доктар Скарына ў судовай справе Івана Скарыны.

Дык во, розныя непрыемнасці, жыццёвыя незадачы, дробязь спынілі культурную працу і, мабыць, даканалі вялікага працаўніка ці прымусілі яго некуды выехаць у чужыя краі.

Бо ў 1535 г. было яму, прыкладам, не менш, праўда, за 45 гадоў, але што то за старасць?

Не дайшлі да нас яго рукапісы.

Што датычэ кніг яго з боку тыпаграфскае навукі, то яны стаяць вышэй за ранейшых славянскіх (чэшскіх) і сучасных ім венецыянскіх, лепей за нямецкія.

Яны маюць і гравюры, цікавыя літары рознай велічыні з рознымі ўкрасамі, хітрымі завітушкамі, застаўкі вялікія (з людзьмі) і малыя; вельмі прыгожа і па-мастацку зробленыя. У тым відаць талент Скарыны.

Мова яго кніг тагачасная беларуская.

Аднак ён іншыя царкоўнаславянскія словы ў малітвенных зваротах і спецыяльных набажэнскіх назвах у сваіх кнігах захаваў, бо ці лічыў іх для ўсіх зразумелымі, ці праз набожнасць.

Можна заўважыць на мове яго ўплывы моў: чэшскай, польскай і літоўскай, ёсць нат нямецкія словы (майстар, тахта), але ўсё да меры.

Ёсць у яго кнігах словы, якія цяперацька захаваліся толькі ў самых глухіх кутках Беларусі: вонках (на дварэ, ізўне), жужэлка (яшчарка), зараніца, волот (багатыр), дяўкоўна, братанічна (пляменніца), дружына (таварышы) і інш.

Ёсць такія, што праз чатыры вякі ані каліўца не змяніліся: борзды, бараніць, вінаваціць, вір, граблі, жыто, забрэхаць, вішчэць, заручыць, лемеш, карагод, пражыцца на скаўрадзе, пуга, скрыня, торг, не цяміць, узгорак, віхор і інш.

Астаецца дадаць, што кнігі доктара Францыска Скарыны былі ведамы далёка за межамі Руска-Літоўскага гасударства і па іх вучыліся выкладаць і друкаваць у заходнепаўдзённай Русі, Германіі, Цюбінгене.

Шчэ ў 1914 г. рыхтавалася беларускае грамадзянства святкаваць 400-лецце беларускага друку.

Дзеяч беларускі, аўтар «Гісторыі Беларусі» Власт, шчэ тады пачаў закладаць беларускае таварыства імені Скарыны, маючы на ўвазе культурную працу, работу па гісторыі, адкрыццё гістарычных музеяў і бібліятэк беларускіх, выданне тоўстага зборніка, дапасаванага да часу, і ўжо запрасіў шмат таварышаў.

Узнялася вайна, раскідала ўва ўсе бакі нашыя грамадзянскія сілы. Власта нямецкая хваля захапіла ў Вільні, і цяпер немаведама, ці робіцца тама што-якое дзеля ўспаміну нашага вялікага доктара, ці нарыхтаваліся там як мае быць да гэтага нацыянальнага свята, як было тое на думцы ў Власта?

На гэты бок акопаў нешта не чуць таго і свята. 400-лецце друку нашага пройдзе ціхенька адзначаным у нас і забытым у палякаў і маскоўцаў.

Найбольш баляць нам моўчкі беларусаў-русіфікатараў, тых людзей, што выракаюцца аўтаноміі Беларусі, выракаюцца кірунку беларускага, на з'ездах «змагаюцца» з беларусамі-адраджэнцамі, а самі, без маскоўцаў, не даўмяцца хоць крыху чым успамянуць гістарычнага чалавека свайго роднага краю, што пісаў «па-руску для брацііі Русі», не даўмяцца хоць «рускіе» кнігі і акты па гісторыі нашай сабраць да Беларускай гістарычнай бібліятэкі імені Скарыны, не даўмяцца сабраць хоць «рускіе» грошы на памятнік у Полацку хоць з «рускім» надпісам вялікаму Русічу, шчыраму Сыну Белай Русі.

І праз гэтакую нядбаласць і звадкі, праз праклятую здраду еднасці беларускай праходзе наша нацыянальнае свята, як хаўтуры...

## БУДЕМ ЖИТЬ!

Учитель стал на корме. Поднялась страшная буря. И ученики потеряли веру в спасение.

В эти наши дни дьяволы империализма и буржуазности изо всех сил сеют ветер в умах маловерных.

А, наверное, знают: сеющий ветер пожнет бурю!

Наверное, знают возмездие за работу свою: сметающий вихрь гнева народного...

На что же надеется змея с отсеченным хвостом?

Она надеется, что, пока занесенный над головою меч не опустился, демонский гипнотизирующий взгляд задержит карающую руку в воздухе.

Змеи, жалившие народ, строят теперь свои надежды, главным образом, на смятении в умах маловерных.

Ведь: маловерие расстраивает ряды бойцов.

И враги наши, угнетавшие отцов и дедов наших, менявшие матерей наших на гончих сук, почуяв гибель свою, смущают маловерных братьев наших.

И враги наши, что вышли частью из нашей же среды, мелкие буржуа, продавшие душу за панскую свитку, изменившие памяти убиенных предков, и эти янычары смущают маловерных братьев наших.

Но помните, отщепенцы: незамолимый грех измена ва-

ша, но страшнейший грех — смущать единого от малых сил. Недостойно!

Вы шевéлитесь смелее.

Что случилось? Что произошло?

Шайки тевтонских грабителей, вопреки воле народа своего, с огнем и мечом ринулись, как ваши избавители, на грады и веси мирного народа, не желающего во имя ложного достоинства и чести нации и в услугу кровопийцам, сосущим кровь бедняка, не желающего продолжать бессмысленную бойню.

И в чем достоинство? Не позор ли угнетателю? И не ему ли осуждение?

Но это — к слову. Главное:

Разве нам, претерпевшим карательные экспедиции, кнуты и расстрелы проклятого и еще недалекого прошлого, это ново?

И разве это страшнее? И разве борьба более нервна, чем тогда?

Только молодых борцов, только неопытных кормчих смутит эта рябь, навеянная теряющими силу демонами зла.

Не нас, видевших грозные валы.

Не нас, что в одиночку и малыми горсточками шли в бой со всемирной адской силой угнетения.

Разве у Николая было меньше бездушных штыков и служилых холопов, чем у Вильгельма?

Разве его железная лапа когда-то слабее сжимала, чем слабеющая длань Вильгельма [?]

Но вера не умирала. Но святой огонь в сердцах наших не угасал.

И гидра обезглавлена. Смрадный труп ее догнивает, и серая пыль развевается буйными ветрами воли.

Когда-то пробудившийся учитель утишил бурю.

Маловерные [!] Пусть будет вам учителем несокрушимая вера в идею, неугасимая вера в социализм, в братство, равенство и свободу.

Идеи не умрут. Они бессмертны.

Наши же идеи уже осуществляются. Наши идеи воплощаются в жизнь.

И нас много.

Где было два, три — там тысячи; где была горсточка — там миллионы.

Была нервная борьба для нас.

Когда-то...

Теперь она нервная для противников наших.

2. **«Гапон»,** повесць у вершах (1855 г.).
3. **«Вечарніцы»,** апавяданні-песні (1855 г.)
4. **«Купалле»,** народная повесць (1856 г.).
5. **«Шчароўскія дажынкі»,** повесць (1856 г.).
6. **«Пан Тадэвуш»** А. Міцкевіча, пераклад (1859 г.).
7. **Дробныя вершы** (1860 г. і інш. гг.).

Апроч таго, іншыя творы В. Д.-Марцінкевіча пабачылі свет толькі многа пазней пасля смерці паэта:

8. **«Пінская шляхта»,** фарс-вадэвіль, рукапіс 1866 г., першы раз друков.[аны] у 1918 г. («В.[ольная] Б.[еларусь]»).

9. **«Залёты»,** аперэта, муз. Кімонт, першы раз друкавалася ў «В.[ольнай] Бел.[арусі]» у 1918 г.

Не мінулася і дзесяці гадоў, як пасля оперы «Сялянка», у якой па-беларуску гамоняць толькі мужыкі, Марцінкевіч пусціў у людзі свайго «Гапона», повесць, «у мове беларускага люду напісаную». У «Гапоне» пяецца аб тым, як мужыцкія дзеці, дзяцюк Гапон і дзяўчына Кацярына, любяцца і рыхтуюцца пабрацца, але панскі аканом сам улюбіўся ў Кацярыну і падстроіў так, што Гапона здаюць у салдаты. Дзецюку, аднак, пашчасціла ў войску, і ён выходзіць на афіцэра. На новым наборы некрутаў у Магілёве за сталом сядзіць заслужоны Гапон. Тым часам паня пратурыла круцяля-аканома, і ён цяпер сярод некрутаў. Гапон пазнаў яго і здаў у салдаты. Пасля гэтага паехаў да свае пані і жаніўся з каханай Кацярынкай.

Гэтым творам В. Д.-Марцінкевіч хацеў давесці, каб паны пільнавалі за ўчынкамі сваіх дурных паслугачых, бо іначай сяляне, за іх, і паноў любіць не будуць; а мужыкам хацеў паказаць, што паны, зазвычай, бываюць добрыя і ў бядзе сялян невінаваты.

Аднак з гэтага твора пачынаецца штосьці новае ў адносінах беларускіх шляхоцкіх пісьменнікаў да сялян: у творах Марцінкевіча ўжо не кідаецца ў вочы, што сяляне — якаясь іншая парода людзей, чорная костка; аўтар нават выводзіць свайго героя, Гапона, у афіцэры і ўцяшаецца з яго. А з прычыны гэтакай блізкасці да сялян у Марцінкевіча пачынае прабівацца, быць можа, несвядома, нешта падобнае да *нацыянальных* беларускіх сімпатый. Ён уцяшаецца з Гапона якраз за яго прыхільнасць да ўсяго роднага.

І толькі тыпова шляхоцкае ўзгадаванне, б.[ыць] м.[ожа], апалячанасць і адсутнасць прад вачыма добрага прыкладу ў ранейшым беларускім пісьменстве замінаюць раз-

віцню сацыяльнай і нацыянальнай ідэйнасці нашага песняра. І ён развіваецца сам з развіццём ідэй у грамадзе. Але хоць і не йдзе ён на самым перадзе як галоўны правадыр, затое ж ён пэўным ужо шляхам вядзе за сабою вялікую грамаду шырокага грамадзянства, вядзе яе сваім прыгожым беларускім словам.

Такім чынам, В. Д.-Марцінкевіч падрыхтаваў нашую новую літаратуру, падрыхтаваў Ф. Багушэвіча.

## УЛАДЗІСЛАЎ ГАЛУБОК

(РАДЗ.[ІЎСЯ] 3 МАЯ 1882 г.)

Вядомы сучасны беларускі пісьменнік-драматург Уладзіслаў Галубок (праўдзівае прозвішча — Голуб) радзіўся ў Менску, дзе і жыве ўсё сваё жыццё. Бацька драматурга, Язэп Голуб, быў родам з Барысава, з Меншчыны; ён да 20-х гадоў жыў удому, а пасля працаваў на чыгунцы слесарам у менскім дэпо. Памёр рана, на 35 годзе жыцця; дзеля таго Уладзіслаў Галубок, скончыўшы ў 1893 годзе прыходскую школу і паступіўшы ў вышэйшую гарадскую, паўчыўся там толькі два гады і ў 1895 годзе мусіў кінуць навуку і зарабляць на хлеб прыказчыкам у адным з менскіх магазінаў. У 1897 годзе ён паступіў на чыгунку, дзе і праслужыў 22 гады да апошніх дзён, хоць цяпер і быў прымушан шукаць іншай працы абы-дзе яшчэ...

Па шляху беларускай творчасці У. Галубок пайшоў з 1908 г. Як белетрыст ён супрацоўнічаў у «Нашай ніве», «Маладой Беларусі», «Вольнай Беларусі», беларускіх календарах і іншых выданнях; пісаў прозу і вершы. За першы перыяд творчасці з-пад яго пяра выйшлі апавяданні: «Абмылка вучонага» (1913), «Сын вёскі» (1914), «Сірата Гануся» (1917) і інш., а таксама вядомы верш «Будучыня»:

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды-сюды снуе народ,—
Будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Звініць сталёвы лом;
На месцы даўнай старыны
Будуюць новы дом.
Штодзень угору сцены йдуць,
Ушыр і ўдоўж, кругом...
Баліць мазоль, ірвецца грудзь,—
А ўсё ж будуюць дом!

і г. д.

Калі з развіццём беларускага тэатра пачулася войстрая патрэба ў пашырэнні рэпертуару, Галубок наспех робіць п'есы з сваіх апавяданняў («Апошняе спатканне», «Парабкі», «Шчырае каханне»), а затым піша новыя драмы; апошнія тры гады творыць ён выключна ў драматургіі.

Да гэтага часу Галубок напісаў гэткія драмы і камедыі (у тым ліку перарobленыя з апавяданняў):

1) «Апошняе спатканне», 5 акт. [аў];
2) «Цярністы шлях», 5 акт. [аў];
3) «Бязвінная кроў», 3 акт. [ы];
4) «Ганка», 5 акт. [аў];
5) «Бязродны», 5 акт. [аў];
6) «Душагубы», 2 акты;
7) «Праменьчык шчасця», 4 акты;
8) «Хціўцы», 3 акты;
9) «Пісаравы імяніны», 3 акты.

Апрача «Хціўцаў», усе яны былі на сцэне (на менскай — з вучасцем самога аўтара, каторы сумяшчае ў сабе і здольнага артыста) і здабылі належную славу аўтару. Аб папулярнасці п'ес Галубка сведчыць тое, што іх ставілі ў глухой правінцыі і на далёкім усходзе Беларусі (Горы-Горкі ў Магілёўшчыне, тэатр Беларускай Секцыі Школьных Інстытуцый).

Цяпер Галубок у самай пары сваёй творчасці. Яшчэ многа чаго можна спадзявацца ад яго. Толькі ж вельмі цяжкія ўмовы жыцця надта перашкаджаюць гэтаму.

У Галубка вялікая сям'я, дзве яго дачушкі, безумоўна, маюць артыстычныя здольнасці, аб чым сведчаць іх выступленні на менскай беларускай сцэне.

Галубок не толькі піша, ён і малюе. Літаратурныя творы яго і карціны, поўныя рэалізму і прастаты, даступны і прыемны масаваму чалавеку.

Не дужа даўно беларускае выдавецтва ў Вільні выдрукавала «Апошняе спатканне», крытычны агляд каторага будзе ў чародным нумары «Бел. [арускага] ж [ыцця] ».

## [«АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ»...]

**«Апошняе спатканне»**, драма ў 4 актах Уладзіслава Галубка, 43 страніцы, цана 75 кап.

Рэцэнзіі аб гэтай рэчы Галубка, надта характэрнай для яго творчасці, у сваім часе ўжо з'яўляліся ў беларускіх

часопісах, калі яна, яшчэ не друкаваная, была на сцэне.

Літаратурныя крытыкі прынялі яе спакойна, затое сучасная тэатральная публіка вітала драму з асабліва радасным захапленнем.

Можна спадзявацца, што думкі літаратурных крытыкаў аб драме не зменяцца і цяпер, калі зручней разгледзецца па друку ў яе літаратурных вартасцях і заганах; тэатральная ж правінцыя напэўна паруліцца выпісаць цікаўную навінку, раней ёй недаступную.

Драма «Апошняе спатканне» мае ў сабе болей ад тэатра, чымся ад літаратуры... Яно і зразумела, калі ўспомніць, што драма — спешная аўтарская пераробка колішняга апавядання, споўненая для войстрых патрэб беларускага рэпертуару пры далёка неспагадных для праўдзівай творчасці ўмовах жыцця.

З тэатральнага боку драма сцэнічна, цікаўна, даволі бойка і нават эфектна. Эфектаў і для нашых буйных часоў там даволі: удоваль «мяцежнасці», стрэлаў з чорных рэвальвераў, «жупельнай» славеснасці, а ў астатнім акце стаіць шыбеніца і выходзіць увесь чыста чырвоны, у масцы кат.

З літаратурнага боку п'еса мае дзве грунтоўных заганы, не кажучы аб драбнейшых: 1) няма патрэбнага адзінства ў развіцці падзей; 2) няма патрэбнага драматызму, і яго трэба адкапваць з-пад громазду нічога не вартых без яго эфектаў.

Што меўся паказаць драматург? Ці драму асобы на фоне нацыянальных і сацыяльных зол, ці драму ўсяго прыгнечанага беларускага сялянства, драматызм *усяго жыцця*? Калі першае,— то мала ён паказаў; калі другое,— то гэта няможна паказаць ні «мяцежнымі», ні слёзна-жаласнымі рэплікамі дзеючых асоб.

З боку мовы — найлепшы твор Галубка. Чуецца старанная адшліфоўка, ёсць праўдзівае, шчырае чуццё ў словах многіх прыгожых кавалачкаў. Ёсць, аднак, і такая фраза: «Ідучы вуліцай за мной, шпег няўзнак цікаўся, я яго згледзіў...» Калі гэта не карэктарскі недагляд, няможна дапусціць такога сінтаксісу і такога пакарочання прыдатковых фраз... Праўда, і неўмірушчы «Тарас на Парнасе» мае *народны* сінтаксіс у радках:

Хадзіўшы на гарэ Парнаскай,
Мне дужа захацелась есць,—

але ў вышэйпісаных Галубковых радках — нешта не тое. Карыстаем з прыгоды, каб напомніць нашым філолагам,

што дагэтуль яшчэ школы нашыя не маюць надта патрэбнага беларускага падручніка — сінтаксісу. А беларускім пісьменнікам скажам, што даўно мінуліся тыя парадкі, калі адказнасць за чыстату і граматычнасць іх мовы браў на сябе рэдактарскі штамп «Нашай нівы».

Не пераказуем, аб чым пішацца ў «Апошнім спатканні», уважаючы, што кніга так танна, што кожны зацікаўлены ёю паруліцца яе выпісаць (Вільня, Завальная, 7, Беларускае выдавецкае таварыства).

## ЛЯВОН ГМЫРАК

**(1891—1915)**

Сапраўднае імя Лявона Гмырака — *Мечыслаў Бабровіч.* Нарадзіўся ён 6-га красавіка 1891-га года ў фальварку Пархвенава Вілейскага павета Віленскай губерні. Бацька яго служыў ляснічым у паноў Слатвінскіх. Матка яго — полька з Варшавы. Пад яе ўплывам рос Гмырак і змалку быў вельмі рэлігійны. На адзінаццатым годзе жыцця паступіў ён у 1-ю віленскую гімназію. Спачатку вучыўся дужа добра і за тое быў пераведзены ў бясплатны пансіён. Надта многа чытаў, асабліва — па-польску, галава яго была забіта героямі Сянкевіча, і ён нават рабіў тады дзіцячую спробу пісаць повесць — па-польску і з польскай гісторыі. З прыходам 1905-га года чад польскага патрыятызму ў яго значна слабее; хлапца захопліваюць ідэі сацыялізма, ён заводзіць бібліятэчку з забароненых кніжак, піша ў вучнёўскі журнал. Калі ж рэвалюцыя была знішчана і царскі ўрад не дараваў нават дзецям, на Гмырака таксама нехта данёс, да яго прыйшлі з рэвізіяй, знайшлі забароненыя кніжкі і павялі ў турму. Дзякуючы малалецтву, суд зменшыў кару да 6 месяцаў астрога, якія Лявон і адседзеў у Вільні ж. Маці яго ў гэты час захварэла на сухоты. Выйшаўшы на волю, Гмырак прыехаў дамоў, дзе троху чытаў, троху вучыў дзяцей у суседа-пана, а найболей сядзеў, заціснуўшы вусны, і слухаў ад бацькі розныя дакоры. У 1908 годзе яму ўдалося паступіць у прыватную тэхнічна-прамысловую школу ў Варшаве, якую скончыў у 1912 годзе. У Варшаве Гмырак пазнаёміўся з беларускім рухам і сам прымкнуў да яго. Гэта была новая непрыемнасць для яго бацькоў, і на гэты раз абое ішлі ў адно процiў няўдалага сына. Шмат было прыкрасцяў. Але сын

незвычайна любіў усё роднае, любіў родны народ. Чытае, напрыклад, меншая сястра аб расійскім «прянике» і думае, што гэта беларускі пранік да бялізны — Лявон з радасцю крычыць: «Вось *беларускае* дзіця!» Паставіў яго бацька (тады ён ужо меў свой фальварачак ля Пархвенава) даглядаць работнікаў, а Лявон, пабачыўшы, як адной старой бабульцы цяжка цягаць кошыкі з бульбаю, сам працуе за яе цэлы дзень, забыўшыся на сваю ролю прыганятага. Увосень забралі Гмырака ў салдаты, і ён служыў у Маскве ў грэнадзёрах, але цераз колькі месяцаў быў адпушчаны па льгоце. Паехаўшы ў Вільню, Гмырак ізноў бярэцца за практыку па сваёй спецыяльнасці, працуе як просты работнік пры закладцы мястовай каналізацыі і дзеяльна супрацоўнічае ў беларускай прэсе. Вайна 1914 года захапіла і Лявона. Блізка года прабыў ён у апалчэнскай дружыне ў Коўне, а пасля як прапаршчык пайшоў на пазіцыю і ў баях пад крэпасцю загінуў 30-га чэрвеня 1915-га года, здабыўшы за адвагу Георгіеўскі крыж.

Вялікія надзеі пакладала на Лявона Гмырака беларуская літаратура як на здольнага, арыгінальнага публіцыста, крытыка і белетрыста і шчырага, энергічнага беларуса-адраджэнца. За вельмі кароткі час ён аказаўся дужа плодным і пакінуў шмат артыкулаў аб беларускім земскім жыцці, аб беларускай школе (у «Нашай ніве»), аб беларускім адраджэнні і літаратуры («Калядная пісанка», 1914 г.) і інш. Пісаў ён і папулярныя рэчы ў месячніку «Лучынка», даў спробу чыста народнага апавядання (у «Нашай ніве»), пад псеўданімам Б. Заяц. Ды ўсё гэта — самая нязначная частка таго, на што можна было спадзявацца.

Сёлета — пяць гадоў, як няма з намі слаўнага таварыша. Цяжкі час палітычнага жыцця перажывае бацькаўшчына, і балючая страта, адна з многіх за астатнія гады, асабліва больна адчуваецца. Паэт Ясакар, блізкі прыяцель нябожчыка, склаў па ім у сваіх «Задушках» гэткія смутныя радкі:

Лявон Гмырак, з душой магутнай,
Любіў без мер свой край пакутны.
Сасонка Віленшчыны сумнай,
Дзіця Вяллі, ракі задумнай,
Хацеў рассеяць ён туман,
Хацеў ён волі для сялян.
Святлейшых, лепшых, шчасных дзён
Жадаў для брата свайго ён.
А лёс вайны шалёпай, дзікай,

Што абхапіў увесь свет вялікі,
У вір крывавы, вір чырвоны
Уцягнуў бязлітасна Лявона.
І на крывавых тых палёх
У бітвах ковенскіх ён лёг.
Цяпер у магіле брацкай спіць,
Аб родным краі толькі сніць.

## ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЦЁ

«Паходня», орган Цэнтральнага Бюро Прафесіянальных Хаўрусаў м. Вільні, змесціла ў № 11 пад загалоўкам «Беларускія дзеячы» гэткую заметку: «З 24-[га] снежня выйшаў № 1 беларускай тыднёўкі «Наша думка». Рэдактар-выдавец — п. М. Гарэцкі. «Наша думка» «надта здаволена» беларуска-літоўскаю ўмоваю, зробленаю ў Коўне 12-га лістапада так званым беларускім урадам п. Ластоўскага, хаця п. Гарэцкі нядаўна яшчэ не хацеў мець нічога супольнага з «кулацкім» літоўскім урадам. Некаторыя супрацоўнікі «Нашай думкі» пару тыдняў таму назад былі супрацоўнікамі «Нашай нівы», якая ў сваім часе так захаплівалася авантурай Балаховіча. Калі, аднак, зорка таго авантурніка сцямнела, «Наша ніва» пачала стыдліва адступаць, і некаторыя яе супрацоўнікі нарэшце апынуліся ў перадпакоях «кулакоў». Такія дзеячы не могуць узбудзіць да сябе ніякай пашаны і веры».

Гэтая заметка з'явілася праз няведанне «Паходні» аб беларускіх справах і яе крыўдную для беларусаў аднабокасць у нацыянальным пытанні, што ўжо раз, у адносінах да рэдактара «Krynicy», прымусіла яе пісаць зняпраўджанне (sprostowanie). Рэдакцыя «Нашай думкі» як не мела, так і не мае нічога супольнага з урадам Літоўскай рэспублікі. Аб поглядах М. Гарэцкага на «кулакоў», і не толькі на літоўскіх, але на ўсякіх, нават на тых, што ўмеюць прымазацца ў работніцкія органы, найлепей сведчаць яго творы, а не галаслоўныя абвінавачванні. Што датыча «Нашай нівы», то яна сама сябе абароніць, хоць з свайго боку адкрыта заяўляем: мы нідзе ў ёй не знаходзілі «захаплення авантурай Балаховіча». Звязываць яе імя з «Нашай думкай» з-за таго, што яны маюць супольных супрацоўнікаў у асобах нашых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, не выпадае, бо маем справу з літаратурным матэрыялам, які падходзіць для той і той газеты, як, да прыкладу, вершы

М. Канапніцкай падышлі для «Паходні», а друкуюцца і ў варожых для яе органах. «Наша думка» мае двух супрацоўнікаў (Дзед Кузьма і т. д.), якія пісалі ў «Паходні», пакуль яна не выдумала, што ёй быццам забараняюць пісаць па-беларуску. Урэшце спытаемся, якой пашаны варты новыя кіраўнікі «Паходні», што прэтэндуюць на сацыяльную свядомасць, а свядома ці не свядома — іхная справа — робяць паланізатарскую работу і тым чыняць вялікую духоўную крыўду беларускаму несвядомаму пралетарыяту.

## ГУРТУЙЦЕСЯ!

Шмат хто з сялян, жывучы ў глухой вёсцы, нічога не ведае аб палітычным жыцці свету і свае старонкі Беларусі. Газет спрадвеку не чытае, а цяпер, можа, паслухаў бы, як другія чытаюць, дык або пошты няма, або баіцца пайсці на падобную зборку, каб які-небудзь панок з «Стражы Крэсовай» не заарыштаваў яго. Так і жыве, як крот у зямлі, дзень да вечара, чакаючы зямлі і міру.

А як прыйдзе бяда, як пачнуць яго неўспадзеўкі і без дай прычыны крыўдзіць, рабаваць яго дабро, адным словам, як пачуе кулак вельмі ўжо блізка да свайго карка, тады не ведае, дзе яму дзецца, да каго ўцякаць з жальбою, у каго шукаць ратунку.

Як вераб'і ад шубня, разлятаюцца па канаплях хто куды, так неарганізаваныя нашы сяляне разбягаюцца пры відзе ворага хто куды і не бароняць таго, хто ўцячы не паспее і трапіць у бяду.

Аж дзіва і сорам бярэ, што шмат дзе беларускія сяляне аж дагэтуль не ведаюць, што ў Вільні ёсць Беларускі нацыянальны камітэт, які ёсць прадстаўнікам арганізаванага беларускага грамадзянства і бароніць яго ад усякіх напасцей і крыўдаў.

Дык гуртуйцеся, браты, беларускія сяляне!

Закладвайце свае нацыянальныя арганізацыі і дзяржыце звязак з павятовымі камітэтамі і з Вільняю. Пасылайце жальбы на пісьме, а ў разе патрэбы — наўмысных хадакоў.

Выпісвайце «Нашу думку». Непісьменныя прасіце пісьменных прачытаць вам яе і раз'ясніць незразумелае. Пасылайце сваіх дзетак у школу, каб навучыліся чытаць

вам газету. Выпісвайце газету ў кааператывы і школы. Пасылайце ў рэдакцыю заметкі аб усім, што баліць. Пішыце, як умееце.

## 75 ГАДОЎ ОПЕРЫ «СЯЛЯНКА»

Двухактовая камедыя-опера «Сялянка» была першым беларускім творам Вінцука Марцінкевіча (1807—1884), каторы пісаў па-польску і па-беларуску, але славу пісьменніка здабыў не польскімі, а беларускімі творамі.

«Сялянка» выйшла ў свет у 1846 годзе. Напісана яна вершам і прозаю. Паны гавораць па-польску, а войт Навум, Ціт і хор мужыкоў — па-беларуску. Беларуская мова дзеючых асоб добрая:

Хор. Ой, бяда, будзе бяда,
Прыйшла на нас чарада!
Скажыце ж, добры людзі,
Ды што з гэтага будзе?
Ціт. Заказаў жа нам мацар,
Ясны, моцны камісар,
Сабрацца чы ў карчму, чы ў двор
Мал, вялік, стары і хвор,
Войт усіх кіём пагнаў.
Хор. Штоб ён дабра не відаў!
Ціт. Ды і ён сюды ідзе,
Ён нам скажа аб бядзе...

Змешчаныя народныя песні значна выпраўлены аўтарам.

Ідэя ў «Сялянцы» тая, што бог на небе і паноў і мужыкоў зароўна ўважае (як аб гэтым кажа панам Юлія, пераапранутая па-сялянску). Тут першы раз паказаўся марцінкевіцкі *сентыменталізм і дыдактычнасць*, наіўнае жаданне шляхоцкага паэта пагадзіць прыгонныя інтарэсы пана з правамі яго падданага хлопа. «Сялянка» — першы пункт Марцінкевіча ў яго сацыяльнай ідэалогіі, якая мела для мужыкоў гэткі артыкул:

Хваліць толькі бога, шчыра працаваці,
Любіць добрых панаў, маўляў, родных браці,—
Вось вашае дзела...

Як ведаем, гэтая ідэалогія, пад уплывам вялікіх рэформ 60-х гадоў у Расіі, не ўстоіла, і той жа пясняр у вершы «Вясна, голад, перапала» (1860 г.) сказаў за мужыкоў:

Будзем роўныя з панамі,
Будзем самі як паны...

«Сялянка» была даволі пашырана, бо яшчэ ў астатнія гады хадзіла сярод беларускай апалячанай шляхты ў спісках без подпісу аўтара. Оперную музыку да «Сялянкі» напісаў вядомы польскі кампазітар — беларус Станіслаў Манюшка, друг Марцінкевіча і таксама родам з Меншчыны. «Сялянка» была на менскай сцэне і мела вялікі ўспех. Роль войта Навума згуляў сам Марцінкевіч.

Значэнне оперы «Сялянка» дзеля беларускай літаратуры аказалася ў тым, што яна разварушыла беларускія тэндэнцыі сярод шляхты, гэтай значнай часткі нашай тагачаснай інтэлігенцыі.

І хоць «Сялянку» дзеля панска-шляхоцкага характару не варта ставіць побач з лепшымі творамі свайго ж аўтара, як, скажам, з першай беларускай повесцю «Гапон» (1854), яна з боку гістарычнага дарага нам як першы крок творчасці Марцінкевіча на родным грунце. Зрабіўшы гэты першы крок, Марцінкевіч, далёкі ад нашай сучаснай нацыянальнай і класавай свядомасці, як далёка неба ад зямлі, тым часам сеяў зярняты беларускай свядомасці поўнаю жменяю. І яго стродкі суддзя Я. Купала з удзячнасцю і справядліва пяе аб ім (1910 г.):

Як сторож, стаў смела на варце
Радзімых запушчаных гоняў,
Стаў сеяць па-свойску ўсё тое,
Што мы далей сеем сягоння...

## ЛЮБІЦЕ ПОЛЬСКІ НАРОД

Вярнуўшыся, пасля даўгой адлучкі, у Вільню і зайшоўшы ў сваю рэдакцыю, даведаўся я, між іншым, цікаўныя рэчы. Шмат хто, асабліва і чуць не выключна з людзей «няпростых», піша ў «Нашу думку» такія карэспандэнцыі, у якіх няма розніцы ў адносінах *да польскіх паноў*, польскіх эндэкаў, ім падобных людзей і *да польскага народа*. Гэта ёсць вельмі брыдкая рэч. Аб ёй варта сказаць пару слоў, каб засцерагчы і рэдакцыю і людзей «простых». Вось жа скажу зусім сумленна, што варожасці да польскага народа ўсяго разам я нідзе на правінцыі з боку нашых сялян, нашага народа — не відзеў. Народ аказваецца разумнейшы за тых «няпростых» дапісчыкаў. Народ страшэнна цярпіць ад ваеннай абстаноўкі, народ цяпер відзіць, апроч таго, як жаўнеры-чужакі бяруцца за належную да белару-

саў зямельку, але ўсё ж няма ў ім нацыянальнай ненавідасці да польскага народа. Народ наш разумее, што не польскі народ вінават у тым, што нам робіцца вялікая крыўда. А калі і вінават, то столькі ж, скольki і мы самі вінаваты, скольki вінават бывае наогул усякі народ, у старонцы якога да таго ці іншага часу пануюць непарадкі. Тым часам, на вялікі стыд, людзі пісьменныя, няпростыя, казаў той, маючы злосць на якога-небудзь аднаго-другога ягомасця польскай нацыі, пачынаюць пераносіць яе на ўвесь польскі народ. Мала таго, пішуць у народную газету допісы, у якіх выліваюць гэтую ганебную злосць да цэлай нацыі і, мабыць, стараюцца прышчапіць яе і свайму народу. Нічога горшага прадставіць няможна! Дзякаваць богу, што сярод свядомых беларусаў я дагэтуль такіх рэчаў ніколі не заўважаў. Трэба вучыцца розуму ў народа. Глядзіце: у таго забралі астатнюю скацінку, у другога забралі збожжа без думкі на яго галодных дзетак, у там таго яшчэ зняважылі дзеўку, а ён, сцяўшы зубы, кляне гвалтаўніка — аднаго, другога, трэцяга, кляне *парадкі*, пры якіх гэта магчыма, бо чалавек робіць з голаду або з цемнаты, праз распаліванне панамі шавінізму, кляне паноў, але не кляне і не будзе клясці ані ўсіх чыста польскіх жаўнераў, ані ўвесь чыста польскі народ. Бо і там — такія ж людзі, як мы, шмат добрых і сумленных, у якіх сэрца баліць за нашу крыўду, але яны рады даць не могуць, як вось, прыкладам, і беларускі народ у сваёй старонцы ладу зрабіць не здолеў. Дык любіце польскі народ, няшчасны народ, якому, як і нам, шмат яшчэ прыйдзецца пакутаваць за ўчынкі шавіністаў, эндэкаў, крэсаўцаў. Польскаму жаўнеру раскажаце сваё гора, спяеце яму сумную беларускую песню і ўбачыце на яго вачах слёзы.

## ЭНДЭЦКІЯ ВЫКРУТАСЫ

Польская эндэцкая газета «Жэчпосполіта» вядома сваімі нялюдскімі і тым часам бясқарнымі знявагамі беларускага і літоўскага народаў. Зрэдку яна пускаецца, аднак, на «больш паважныя» доказы, што беларусы — гэта не беларусы, а палякі.

Так, у № 244 варшаўскага выдання гэтай газеціны змешчан артыкул п. Гжымалы-Седлецкага аб беларускіх вёсках Віленшчыны, у якім аўтар піша:

«Чуў іх (сялян), размаўляючых з прадстаўнікамі польскіх улад. У мове іхнай знойдзецца відочна той ці гэты выраз не польскі ці перакручаны, бо не гавораць: «конічына», але: «канюшына», скажуць: «кабан» замест: «вепш», «парсюк» замест: «просяк», але не скажуць: «рож», хацеўшы гаварыць аб жыце, не скажуць «кгорох», але «кгрох».

Далей п. Гжымала-Седлецкі прызнаецца, што ў тутэйшай мове ёсць такія звароты, як: «быўшы», «седзяўшы» (мабыць, «сядзеўшы»? — *А. М.*), «ехаўшы», «пачакаўшы». Але яму здаецца, што гэта, аднак, не русіцызмы (?), а «якаясь тутэйшая фармацыя, каторая тут урабіўшыся з невядомых прычын».

На ўсю гэту эндэцкую «гавэнду» адно можна сказаць, што п. Гжымала-Седлецкі з сваім артыкулам сапраўды «ўрабіўся», як дзіця. Можам яго ўпэўніць, што тыя ж самыя сяляне з прадстаўнікамі расійскай улады стараліся, страху дзеля іудзейска, казаць не сваё роднае «жыта», але «рожь», не «гарох», але «кгорохъ». Радзім таксама яму пашукаць невядомых для яго прычын аб беларускай мове ў школьнай беларускай граматыцы Браніслава Тарашкевіча, каторы тож паходзіць з віленскіх сялян «у адлегласці 17—18 кіламетраў ад места».

## ВЫБАРЫ Ў ПОЛЬСКІ ВІЛЕНСКІ СЕЙМ

Браты беларусы, працоўныя людзі! Дагэтуль у нас ніхто не пытаўся, чаго мы хочам і што нам баліць. Рабілі з намі, што хацелі. Адна была ў нас уцеха, што мы сваёй падпіскі на гвалт і здзек над намі нікому не давалі. Значыцца: рабі са мною, калі твая сіла, што хочаш, а маёй згоды на гэта нават пад прымусам няма! Ды вось прыйшоў такі час, калі без нашай згоды панаваць камусь над намі ўжо ніякава... Трэба яму, каб мы далі сваю падпіску. Прыдумалі склікаць у Вільні сейм. Намаўляюць нас выбіраць угодных Польшчы і панам людзей, каб яны далі за нас падпіску на вечную няволю. Дык жа не: няўжо ж мы гэткія цёмныя, што самі палезем у пастку на згубу? Выбраць сваіх верных людзей мы цяпер усё роўна не зможам, дык няхай сейм склікаецца без нас і пастанаўляе што хоцькі без нас! Вядома, ён пастановіць, што тут Польшча, дык трэба ў нас шмат зямлі пакінуць панам, а рэшту купяць у паноў дробныя панкі-мазуры ці будзе надзел ін-

шым каланістам з Польшчы. Але хай пастанаўляе! Калі ж на гэтую нягодную справу так патрэбна наша падпіска цераз выбіранне ў польскі віленскі сейм, дык падзівімся, што з яе будзе без нашай згоды! Мусіць, нічога не будзе, і нашым панам як ні круці, а прыйдзецца падзяліцца зямелькай з намі, а не так, як яны хочуць.

*Дык не слухайце ж, браты беларусы, працоўныя людзі, нікога, а толькі свайго Нацыянальнага камітэта, які загадаў, каб мы на гэтыя выбары, барані бог, не ішлі.*

А як будзе склікацца ў Вільні сейм пры іншых варунках, не для таго, каб далучыць нас да мазураў-каланізатараў, а для таго, чаго мы самі хочам,— тады, можа, і пойдзем. А цяпер — ні пад якім відам, каб не запрадаць свой родны край і не астацца вечнымі беззямельнымі батракамі.

## ПРАДМОВА
## [ДА «ХРЭСТАМАТЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ»]

Гэтая спроба выпісак з літаратуры павінна хоць троху здаволіць вялікую патрэбу грамадзянства ў падручнай гістарычна-літаратурнай хрэстаматыі.

Кніга больш-менш дапасована да маёй «Гісторыі беларускай літаратуры». Некаторых пажаданых выпісак у ёй няма дзеля незалежных ад мяне прычын.

Патрэба ў выпісках з літаратуры нашаніўскага часу троху меншая, бо творы найнавейшых нашых пісьменнікаў, хоць не ўсе, але ў большасці даступны грамадзянству ў продажы і бібліятэках. Таму з гэтай справай яшчэ можна чакаць лепшага часу.

## «ПІСАРАВЫ ІМЯНІНЫ» —
## КАМЕДЫЯ Ў 3-х ДЗ.[ЕЯХ] ГАЛУБКА

У суботу на мінулым тыдні Галубкова ж трупа ставіла гэтую камедыю ў 6-ці пяхотных курсах. Публіка з вайсковых і вольных людзей насілу магла стаўпіцца ў зале. Поспех спектакля быў поўны. Ад воплескаў дрыжэла ўсё навакола. Акторы згулялі свае ролі вельмі добра, асабліва сам Галубок (роль дзяка), Бусел (роль пісара), Крыцкі

(роль стоража Панаса), Галубкова (роль Панасавай жонкі) і Надзя Клочка (роль пісарыхі).

На сцэне адзін за адным праходзілі жывюсенькія персанажы царскага рэжыму, яшчэ гэтак нядаўна ўсіх нас душыўшага і ўжо гэтак далёка адышоўшага ад нас у нябыт. Па выражэнню аднаго прысутнага ў зале гледача-чырвонаармейца, усе асобы на сцэне былі «надта рэзкі», што азначала незвычайны мастацкі рэалізм, з якім яны паказаны ў іхных словах, учынках, думках, жаданнях, а нават у выглядзе. Грыміраваў актораў, як відаць, добры мастак у грыміравальнай справе, ён грыміраваў з творчым захапленнем. На сцэне — пісар з жонкаю, старшыня з жонкаю і ўраднік з двума стражнікамі, дзяк... Кожны з іх — мастацкі тып, а ўсе разам яны даюць дасканальны букет местачковага старарэжымнага начальства і «інтэлігенцыі».

Кажуць, быццам «Пісаравы імяніны» раней складаліся з аднаго, цяпер першага акта, а ўжо пасля аўтар дапісаў яшчэ два акты. Так яно і чуецца з п'есы. І галоўная мастацкая вартасць яе — у першым акце, у незвычайна вернай, сакавітай характарыстыцы выстаўленых тыпаў. Кожная драбніца на сцэне кажа пры гэтым гледачу: «Глядзі і навучайся цаніць заваёвы рэвалюцыі, якія знішчылі гэтае паскудства! Глядзі і навучайся цаніць навіну, даўшую табе новыя формы жыцця, далёкія ад гэтага старарэжымнага дрэнства! І глядзі і думай, каб ты і ў найменшай меры не быў падобны ў сваім новым жыцці да гэтых уваскрашоных перад табою драматургам старарэжымных нягоднікаў!»

З погляду строгіх тэарэтыкаў славеснага мастацтва два пазней дапісаныя акты «Пісаравых імянін» не дужа лоўка злеплены з першым актам, і першы акт добры сам па сабе, а два дапісаныя — самі па сабе. Два другія акты — гэта як бы самастойная рэч, якую можна азаглавіць «Пакараныя распуснікі», «Блудлівыя каты» ці як інач.

У першым акце няма для іх належнай завязкі, але, узятыя самі па сабе, яны цікаўны і не без мастацтва паказваюць штодзённы быт дробненькіх людзей. У гэтым іхная вартасць — разумеецца, меншая, чымся першага акта, паскольку яны меней за яго звязаны з пытаннямі агульнаграмадскага характару. У іх, аднак, болей камічнага элементу, болей чыста народных жартаў і смехаў, і сюжэт іхны ўзяты з удалай міжнароднай фацэцыі і ўжо колькі вякоў прышчэпленай на грунце беларускай куль-

туры. Таму яны і глядзяцца прымітыўным гледачом з большай, можа, цікаўнасцю, чымся першы акт.

Мова некаторых Галубковых герояў, напрыклад, і дзякава ў «Пісаравых імянінах», можа выклікаць спрэчкі сваёю нячыстасцю з мастацка-беларускага пункту гледжання. Але не Галубкова віна ў гэтай нячыстасці: гэткае было нашае жыццё і гэткія вымогі ставіць тая тэатральная публіка, перад якою выступае Галубок і дзеля якой ён піша свае драмы і камедыі.

Якія ж зробім вывады?

Ці тыя, што «Галубок піша п'есы, як бліны пячэ», і ўсё, і болей нічога? Ці тыя, што Галубок не заслужыў на большую ўвагу, ніж тая, якою надзяляюць яго жыхары ўсіх менскіх узмежкаў? Ці тыя, што сапраўды ў Галубковых п'есах няма нічога ад нашага і дзеля нашага часу пралетарскай рэвалюцыі і творчасці?

Перш чым зрабіць гэтыя вывады, трэба ўзяць пад увагу, што Галубок, па сваёй ці не зусім сваёй волі, мастак на ўсе рукі: ён драматычны пісьменнік, сцэнічны арганізатар, актор на першыя ролі, дэкаратар і грыміроўшчык. На жыццё, аднак, ён зарабляе не на сцэне, а канцылярскаю службаю.

Сацыяльны склад Галубковай трупы дужа паказальны: у ёй знойдзеце аматараў сцэны, зарабляючых на жыццё, як і Галубок, не сваімі выступамі на сцэне, але цяжкаю працаю пры варштаце, знойдзеце там сапраўдных прадстаўнікоў менскага беларускага пралетарыяту ці, калі каму хочацца фармальнасці ў назовах— менскага беднага мяшчанства.

Ходзяць на Галубковы пастаноўкі бедныя жыхары менскіх узмежкаў, ходзяць менскія масы, і, хоцькі не хоцькі, трэба прызнаць, што Галубок узгадоўвае гэтыя масы ў духу беларускай культуры і з тэндэнцыямі, прыбліжаючымі гэтыя масы к разуменню савецкага будаўніцтва, памагаючымі ім успрымаць ідэі Савецкай улады.

Строгім Галубковым крытыкам хочацца сказаць: зрабіце, сябры, пераацэнку цэннасцяў! У Галубковай літаратуры шмат спешнасці, неапрацаванасці, але шмат у ёй і сапраўды каштоўных рэчаў, маючых права на пачэснае месца ў нашай літаратуры. І калі ўсё ж з чыста літаратурнага погляду Галубкова дзейнасць можа выклікаць спрэчкі і нападкі, дык з погляду грамадскага, сучасна рэвалюцыйнага яна заслужвае толькі на пашану, падзяку і ўсякую падмогу.

## АБ ГАЛУБКОВЫХ СПЕКТАКЛЯХ

### («ВЕТРАГОНЫ» — П'ЕСА Ў 4-х ДЗЕЯХ)

У мінулую суботу ў клубе Дзям'яна Беднага Галубкова трупа згуляла «Ветрагонаў».

П'еса гэтая мае сацыяльна-бытавы змест. Час дзеяння — 1917 год, час кераншчыны. Месца дзеяння — тыл расійскай арміі на Беларусі. Сюжэт створаны вайскова-тылавым бытам і, на жаль, даволі пашыраны ў нас пад тую пару... Але да гэтага сюжэта далучыліся тут перажыванні каваля Пётры, які шчыра кахае маладзенькую ветраную дзяўчынку Просю, ды мусіць саступіць з дарогі перад бліскучымі штабнымі пісарамі. У Просі ёсць заможная бабуля і бедная маці. Прося і маці жывуць на бабуліным хлебе — і ў гэтым крыніца няшчасцяў дзеля Просі і трагедыі дзеля беднай маці. Багатая бабуля ўпадобіла бліскучых пісараў, і, нягледзячы на ўсялякія перасцярогі і спробы да змагання з боку маці, яна аддае падшытую ветрамі ўнучку гэтым пісарам. Пётра спрабуе змагацца, але ў ім, у кавалю, яшчэ не бачаць чалавека, і Прося дастаецца пісару. Той, лапнуўшы ў Просі 50 000, перад самым шлюбам уцякае. Другі пісар, яго сябар і гэтакі ж самы ашуканец, займае яго месца, жэніцца з Просяю па яго дакументах, а праз чатыры дні таксама ўцякае, лапнуўшы яшчэ 50 000. Гаротная Прося, выліўшы рэчку слёз, лезе ў пятлю, каб смерцю заплаціць за сваё нявернае каханне, за сваю дзявочую няпраўду і жыццёвую неспрактыкаванасць. Бабуля ж лезе ў пятлю, даведаўшыся, што грошыкаў ужо няма. Просю ратуе з пятлі верны Пётра, а здурнеўшую бабку цягне, як сабаку на вяроўцы, яе разумная дачка. Фінал — эфектны і дзеля ўсіх добрых людцаў здавальняюча-прыемны.

П'еса ў нашым бедным рэпертуары нязгоршая. Пасля пэўных літаратурных і сцэнічных паправак яе нават вельмі пажадана відзець на беларускіх сцэнах ад Дзяржаўнага тэатра да тэатра вясковых аматараў. Дзеля гэтага яе трэба надрукаваць і разаслаць ува ўсе вясковыя бібліятэчкі.

Можа, галоўнаю літаратурнаю хібаю п'есы, і то з пункту гледжання строгіх старых тэарэтыкаў, ёсць тое, што змаганне дзеючых асоб нарастае ў ёй без належнага імпэту. Але гэта ўсё ж ткі не столькі мінус, колькі пустое месца, на якім можна паставіць плюс. Падобных пустых месцаў можна паказаць некалькі. Дзіўна, напрыклад, чаму рэвалюцыйны час зусім не выяўляецца ў вонкавым жыцці

дзеючых асоб, як бы яны жывуць не ў 1917 годзе? Што ж да рэвалюцыйнасці п'есы наогул, дык яна, безумоўна, можа быць аднесена да п'ес рэвалюцыйных, толькі дух пратэсту, бунту, змагання знаходзіцца тут больш у патэнцыяльным стане, не выліваецца ў дзейнасць. Так і Пётра Каваль, як і многія іншыя героі Галубковых п'ес, вельмі рэвалюцыйны па духу пралетар, але аддае сваю Просю облізу без паважнага змагання, а такім чынам ён хутка сходзіць з дарогі і перад сваімі класавымі ворагамі. Аўтар паказаў Пётру лішне рамантычным, а мала па-сучаснаму практычным; гэткі тып цяпер нават на Беларусі не пашыраны. Можна зменшыць у п'есе грубы эфект Пётравага біцця з пісарам, а затое больш выявіць унутранае жыццё Пётры, матывы Пётравай пасіўнасці ў змаганні за жыццё. Бабка — тып дасканальны: кожная драбнічка ў яе на сваім месцы. Матка — таксама, але, на жаль, роль яе меншая, чым магла бы яна быць. Прося — дзяўчынка як дзяўчынка, дачушка пераходнага часу, пераходных думак, жаданняў і пераконанняў. У ёй добра выяўлена тая эпоха ломкі і ветранасці ў прыватным, як у другіх — у грамадскім жыцці. Пісары — прадстаўнікі армейскай гнілі, прэступнасці; іхная «ветрагоннасць» свядомая, злосная і ледзьве не ўкінула нашу дурненькую Просю ў магільную яму. Тып акторкі жыццёвы і добры. Астаецца дадаць, што ў трэцім акце, калі Прося горка плача ў шлюбным адзенні, чакаючы на жаніха-ашуканца, можна было б увесці вясельныя песні, якія ў нас гэткія сумныя ў словах і мелодыі.

Усе артысты згулялі свае ролі вельмі добра, асабліва Галубкова (бабка).

## БЕЛАРУСКІ ТЭАТР У ПАЛОВЕ XIX ВЕКУ

### (ДРАМАТЫЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ В. ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА)

Адраджэнне беларускай культуры пачалося на гістарычным рубяжы XVIII—XIX вв. Яно мела пад сабою сацыяльна-эканамічны грунт і было частковаю прычынай, звязанаю з усім агулам, са з'яваю новых форм грамадскага жыцця.

Аднак жа, у залежнасці ад варункаў, існаваўшых у самой Беларусі, адраджэнне беларускай культуры доўгі час не выходзіла за межы выключна літаратурных спроб, за-

баў і практыкаванняў і пасувалася наперад дужа павольна.

Гэтыя ўнутрана-беларускія варункі, як прычыны абмежаванасці і маруднасці адраджэння беларускай культуры, выяўляліся, найперш, у тым, што людская маса, гаварыўшая тады па-беларуску, была ў страшэннай духовай і эканамічнай няволі, адсунуўшай і адарваўшай тую масу ад сусветнай культуры і цывілізацыі.

І калі, ўсё ж ткі, наўздзіў магутныя і трывалыя ў такім становішчы творчыя сілы беларускага сялянства радзілі сваіх Кальцовых і Шаўчэнкаў, як першы беларускі паэт з сялян, Паўлюк Багрым, дык, ізноў жа, уласцівыя Беларусі варункі не давалі магчымасці развіцца гэтым шчаслівым выпадковым з'явам да памысных вынікаў. Паміж паноў на Беларусі, варожых беларускаму сялянству не толькі класава, але і нацыянальна, не знайшлося ніводнага, які, знаўшы рэдкага паэта-самародка, пасабіў бы яму выйсці на шырэйшую дарогу ў жыцці і творчасці. Таксама і паміж расійскіх чыноўнікаў і прафесароў, забраўшых паперы Паўлюка Багрыма пасля «бунту» крошынскіх жыхароў, не было нікога, у найменшай меры падобнага да апекуноў Кальцова і Шаўчэнкі...

З гэтых фактаў, між іншым, высвятляюцца ўжо і другія прычыны, вельмі шкодна ўплываўшыя на характар адраджэння беларускай культуры ў тую пару. Мы тут бачым, што лішне вялікая апалячанасць беларускіх паноў дужа далёка адсунула ці і зусім адарвала іх ад мовы, звычаяў і ўсяе нацыянальнай культуры іхных падданых хлопаў-беларусаў. Не толькі класавае, але і нацыянальнае пачуццё перашкаджала ім заапекавацца паэтам з мужыкоў і з беларусаў. Гэта — з аднаго боку.

З другога боку — русіфікацыя тады йшчэ не паспела прышчапіцца ў нашым краі. Людзі расійскай культуры былі тады ў Беларусі элементам нацыянальна зусім чужым для краю, а ў сваіх класавых інтарэсах, што галоўнае, былі яны элементам вельмі далёкім ад беларускага сялянства з яго класавымі інтарэсамі. А болей таго: не толькі далёкім, а і супярэчным. Інтарэсы расійскіх чыноўнікаў ніколі не маглі сысціся з інтарэсамі беларускага сялянства ў такой меры, каб можна было тварыць, разумеецца,— да часу, нейкі супольны фронт супроць агульнага ворага. І хоць расійцы ў краі і па-за краем загарэліся былі пасля паўстання 1863 года асаблівым каханнем да «рускіх мужыкоў у Севера-Западным краі», але ім ніколі і ў галаву

не прыходзіла памагаць адраджэнню беларускай культуры. І не затым, што карысць ад гэтага для «рускава дела» ў Беларусі была няпэўная, а затым, што поспехі русіфікацыі і без усякіх хітрэйшых прылад здаваліся зусім пэўнымі ў тагачасных абставінах. Ува ўсякім разе, калі сур'ёзныя расійскія публіцысты маглі сур'ёзна пісаць аб каланізацыі «вырождающчэйся Белоруссіі» расійскімі мужыкамі з цэнтральных губерняў, дык расійшчына ў Беларусі не магла даць нічога яскравейшага ў сэнсе прыхільнасці да беларускай культуры, як пасіўныя ляментацыі этнографа Бяссонава, даўшы ў другім кірунку аж надта яскравую і актыўную асобу Мураўёва-Вешацеля.

Беларусы ж расійскай культуры, стаяўшыя бліжэй да нацыянальнай (сялянскай) беларускай культуры, галоўным чынам — інтэлігентныя выхадцы з праваслаўнага духавенства (Насовіч, Шпілеўскі і інш.), складалі тады яшчэ дужа маленькую і распыленую сілу. Апроч таго, і яны, праз расійскую школу і літаратуру і за адсутнасцю дужэйшых затрымліваўшых фактараў, не маючы перад вачмі пэўных прыкладаў і традыцый, выходзілі з цвёрдага нацыянальнага грунту і наогул дзеля розных прычын не маглі аддаць і не аддалі сваёй працы на зусім свядомае адраджэнне беларускай культуры.

Калі ж бы ўжо ахопліваць усе важнейшыя прычыны абмежаванасці і маруднасці гэтага адраджэння аж да багушэвіцкага часу, дык трэ[ба] было б яшчэ адзначыць і небеларускасць гарадоў на Беларусі, адсутнасць у тую пару такой гарадской масы, якая магла бы выставіць актыўную сілу ў адраджэнні і за якой, як за кіраўніком, пайшла бы і гушча нашага сялянства.

Аднак жа адраджэнне, хоць бы і ў цесных рамках, а не спынялася, расло і часам, у залежнасці ад незвычайнай у сваім характары агульнай сітуацыі, пашырала рамкі з чыста літаратурнага выгляду аж да выгляду чыста палітычнага (К. Каліноўскі ў сваіх імкненнях і сваёй дзейнасці).

Бо само жыццё,— значыцца, сацыяльна-эканамічныя фактары,— палажыла пад будучы грандыёзны будынак адраджэння належна моцныя падваліны і прабівала доступ адраджэнню і ў польска-беларускія і ў расійска-беларускія слаі жыхарства на Беларусі — натуральна, больш дэмакратычныя, як больш бедныя і таму бліжэйшыя да сялянскага жыцця і сялянскіх інтарэсаў.

Новыя ідэі плылі ў краі з заходу, з усходу, а ў боль-

шай ці ў меншай меры часам і з паўдня (прыклад і ўплывы адраджэння ўкраінскай літаратуры). Яны знаходзілі падгатаваны сацыяльна-эканамічны грунт, стыкаліся з тутэйшымі варункамі — і спараджалі рух у грамадзянстве, адбіваліся на далейшым лёсе адраджэння беларускай культуры. Рамантызм, напалеонаўскія войны, заходнееўрапейскія рэвалюцыі, нацыянальна-культурнае адраджэнне іншых народаў, хлопаманства панскай моладзі, лягчэйшыя спосабы зносін уплывалі і на лёс адраджэння беларускай культуры. Польскія паўстанні хоць і адцягвалі апалячаных паноў-беларусаў ад пачуццяў, карысных для беларускай культуры, бо ўзгадоўвалі ў іх гарачы і сляпы польскі патрыятызм, але неспадзявана — і неспадзявана, быць можа, дзеля іх саміх у масе,— востра ставілі палітычныя пытанні аб Беларусі. Польскія паўстанні і падрыхтаванні да іх адбіваліся і на патрыятычных настроях расійцаў і зрусіфікаваных беларусаў. І з абодвух бакоў, з польскага і з расійскага, выклікалі працу, якая, паміма палітычных мэт, ішла на карысць адраджэння беларускай культуры.

Пэўна ж, гэта не ёсць самае галоўнае, гэта — пераходныя формы; а каб не было ў адраджэнні моцнага сацыяльна-эканамічнага грунту, каб не было належных жаданняў і імкненняў у беларускага сялянства, уціснутага класава і нацыянальна,— ніякая бы, асабліва штучная, пабочная, мала звязаная з сацыяльным становішчам беларускіх сялян праца не толькі не спарадзіла бы адраджэння, але не дала бы яму і ніякай часовай карысці.

Усё, дагэтуль сказанае, здаецца, лішне далёка адышоўшае ад пастаўленай тэмы, канешне, трэба браць пад самую пільную ўвагу, каб зразумець сутнасць і праўдзівы характар спроб тварыць тэатр у беларускай мове ў палове мінулага стагоддзя.

Развіццё нацыянальнага тэатра шчыльна звязана з агульным развіццём нацыянальнай культуры, а найбліжэй, разумеецца, з развіццём усяе нацыянальнай літаратуры. Мастацкая драматычная творчасць з'яўляецца труднейшаю літаратурнай творчасцю і для свайго належна высокага развіцця вымагае належна высокага становішча ўсяе нацыянальнай літаратуры. І мы, дарэчы, спытаемся: можа, дзеля гэтай прычыны ў нашай новай літаратуры аж да Марцінкевіча, да 40[-х] гадоў XIX веку, няма драматычных твораў (ці, прынамсі, яны да нас не дайшлі) і, можа, дзеля гэтай прычыны не было да таго часу спроб

тварыць новы беларускі тэатр (ці, прынамсі, мы аб гэтых спробах пакуль што не ведаем). Безумоўна, гэта ёсць адна з прычын, але не галоўная і нават не важная па сутнасці, калі ўзяць адну, без сувязі з усім агулам прычын; ці, лепей кажучы, гэта ёсць толькі вынік, які выцякае з асноўных, больш грунтоўных прычын, каторыя ствараюць становішча ўсяе нацыянальнай культуры і літаратуры. Бо калі мы прыгледзімся да беларускага эпасу і лірыкі новага перыяду да Марцінкевіча і калі мы дапушчальна ўявім сабе ў тым часе і беларускую драматычную творчасць і беларускі тэатр у належнай з тым эпасам і лірыкаю суразмернасці, дык мы ўбачым, што магла бы з'явіцца ў нас драма і нацыянальны тэатр у новым перыядзе яшчэ і да Марцінкевіча, пэўна ж, у дапушчальнай суразмернасці. Дык галоўныя, грунтоўныя прычыны ў нечым іншым. Яны ляжалі ў агульных умовах адраджэння беларускай культуры, прычым гэтыя ўмовы былі асабліва цяжкія, асабліва перашкаджалі якраз развіццю нацыянальнага беларускага тэатра, а тым самым у вялікай меры і развіццю драматычнай творчасці ў беларускай мове.

Хто і як мог тады тварыць беларускую драму, для каго, для якога чытача, і, ізноў жа, як, у якім духу можна было б яе тады тварыць, і хто, якая публіка магла тады купіць білеты і пайсці ў нацыянальны беларускі тэатр[?]

Адказы на гэтыя пытанні добра ведамы кожнаму, хто мала-мала знаём з гісторыяй беларускай культуры, але яны будуць дужа яскравыя, калі прыгледзецца да спроб тварыць беларускі тэатр у палове XIX веку.

Няма што падводзіць пад разуменне гэтых спроб літаратурна-этнаграфічныя практыкаванні расійска-беларускіх пісьменнікаў таго часу, якія ўсё ж такі пісалі нешта такое, што магло бы ўвайсці ў тагачасны «рэпертуар беларускага тэатра». Напрыклад, у «Могил.[евских] Губерн.[ских] Ведом.[остях]» за 1849 г. няведамы аўтар П. З. *** змясціў свой белетрыстычна-этнаграфічны твор «Дзяды», дзе ёсць добрыя сцэнкі спраўлення свята дзядоў, напісаныя па-беларуску ў драматычнай форме. У 1857 г. у Ленінградзе ведамы пісьменнік расійска-беларускай школы П. М. Шпілеўскі выпусціў сваю кніжачку ў 60 старонак — «Дожинки». Белорусский народный обычай. Сценическое представление в двух действиях, с хорами, песнями, хороводами и плясками белорусскими». У прадмове да кніжачкі Шпілеўскі прызнаецца, што, «назваўшы твор свой сцэнічным прадстаўленнем, а не драмаю ці каме-

дыяй», ён «ужо гэтым самым азначыў змест яго, які без ніякіх прэтэнсіяў на драматызм ці камізм змяшчае нарыс народнага жніўнага свята ў форме сцэнічнага твора». Мэта, якую ставіў сабе аўтар, гэта пазнаёміць расійскае і абруселае беларускае грамадзянства з жыццём мілай сэрцу аўтара Беларусі. Затым і твор яго напісан у мяшанай расійска-беларускай мове. Як бачым, тут яшчэ вельмі далёка да свядомага жадання тварыць нацыянальны беларускі тэатр, тут толькі яшчэ рамантычнае блуканне другой або і трэцяй катэгорыі, несвядомае шуканне выйсця свайму патрыятычнаму расійска-беларускаму пачуццю, сваёй пэўнага характару настроенасці... І калі «Дажынкі» Шпілеўскага цікавяць цяпер чым гісторыкаў беларускай літаратуры, дык гэта дзеля адной сваёй «асаблівасці»: вялікай падобнасці да «Сялянкі» Марцінкевіча не толькі ў сюжэце, ведамым і ў другіх літаратурах («Барышня-крестьянка» А. Пушкіна і інш.), але і ў многіх драбніцах сюжэта [1]...

Нам няведама, ці былі «Дажынкі» Шпілеўскага на сцэне, але калі і былі, дык не прыходзіцца лічыць гэты факт праўдзіваю спробаю тварыць новы беларускі тэатр, а злашча дзеля таго, што «Дажынкі» выйшлі ў свет на больш як дзесяць гадоў пазней за «Сялянку» Марцінкевіча, а з боку беларускасці асталіся далёка адзаду ў «Сялянкі».

Праўдзіваю спробаю пакласці пачатак тэатра ў беларускай мове ў тую эпоху несвядомага адраджэння беларускай культуры можна лічыць спробу, зробленую Марцінкевічам у палове XIX веку на менскай сцэне.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, польска-беларускі пісьменнік 40—50[-х] гадоў, быў самым плодным беларускім пісьменнікам XIX веку і першы пакінуў след у беларускай літаратуры не толькі як эпік-лірык, але як і драматург. Дзеля таго што царскі ўрад пачаў з 1863 года праследаваць друкаванае беларускае слова, робячы некаторыя палёгкі толькі акадэмічным і зусім «благонамеренным» выданням, як этнаграфічныя зборнікі, «нравоучительные» брашуркі для народа і інш., і, безумоўна, забараняючы лацінку, якою карысталіся тады нашы пісьменнікі-каталікі, Марцінкевіч свае творы пасля 1863-га года не друкаваў. Некаторыя рукапісы яго твораў пагінулі, некаторыя ж убачылі друк толькі пасля рэвалюцыі 1905 года, і то не

[1] Гл. «Літаратурны плагіят», арт.[ыкул] А. Навіны ў № 36 «Сына Беларуса» за 1924 г.

ўсе дажылі да гэтага часу ў арыгіналах, а захаваліся ў копіях з копіяў з папсаваным перапісчыкамі тэкстам. І з драматычных яго твораў цяпер ведамы толькі гэткія:

1) «Сялянка» (1844 г.), двухактовая камедыя-опера, выйшаўшая з друку ў 1846 г.;

2) «Пінская шляхта» (1866 г.), аднаактовы фарс-вадэвіль і

3) «Залёты» (1870 г.), трохактовая камедыя.

«Пінская шляхта» і «Залёты» ўбачылі сцэну і друк толькі пасля 1905 года. Спробу даць прадстаўленне з беларускага жыцця і ў беларускай (мяшанаю з польскай) мове зрабіў Марцінкевіч, паставіўшы «Сялянку» неўзабаве пасля яе з'яўлення ў свет. У той час у Менску быў досыць добры польскі тэатр, і на сцэне гэтага тэатра, стараннямі Марцінкевіча, адбываліся і беларускія прадстаўленні.

У гэтых прадстаўленнях выступаў на сцэне і ён сам у ролі войта Навума, дзеючай асобы ў «Сялянцы», меў вялікі поспех.

Спроба Марцінкевічу як бы ўдалася. Чаму ж, аднак, беларускі тэатр пасля гэтай спробы не пачаў развівацца і расці так, як на гэта можна было разлічаць [?] Ізноў, выключаючы нелегальныя малаведамыя пастаноўкі ў беларускай мове,— «Злодзей» Ядвігіна Ш. у 90-х гг. і беларускія дадаткі ў дывертысментах на польскай і расійскай сцэне, ізноў, пасля «Сялянкі», наступіла ў гісторыі беларускага тэатра другая пярэрва, ізноў нацыянальнага беларускага тэатра не было аж да нашаніўскага перыяду [1]. А паэзія ж наша тым часам развівалася, і ў працягу гэтай тэатральнай пярэрвы, у пару, калі ў гісторыі нашага тэатра было пустое месца, жыў і тварыў наш найвялікшы пясняр XIX веку — Францішак Багушэвіч,— безумоўна, выдатная асоба паміж рэвалюцыйна-сялянскіх паэтаў і ў сусветнай гісторыі літаратуры.

Нацыянальна-палітычны і нацыянальна-культурны ўціск, які цярпелі беларусы ад царскага рэжыму, быў тут адною з важнейшых прычын, бо развіццю тэатра і звязанай з ім драматычнай творчасці ён перашкаджаў болей, чымся развіццю іншых блізкіх галін культуры. Але ў падобным становішчы былі не адны беларусы, былі і другія

---

[1] Нам няведама, ці ставіліся дзе на сцэне драматычныя эцюды ў беларускай мове А. Пшчолкі (90-х і 900-х гадоў), як «Янкіна жальба» і інш.

нацыі. А ўсё ж ткі нацыянальны тэатр і ў падобным становішчы ў іх развіваўся. Значыцца, у беларусаў былі яшчэ і іншыя прычыны, перашкаджаўшыя развіццю нацыянальнага тэатра.

Акадэмік Карскі бачыць адну з прычын, чаму доўгі час не развівалася наша новая літаратура, у тым, што не з'яўлялася выдатных твораў у папярэдніх пісьменнікаў, што не было ў іх такіх твораў, якія выклікалі бы перайманне і штурхалі бы пазнейшых аўтараў-беларусаў тварыць больш інтэнсіўна і тварыць у беларускай, а не ў польскай ці расійскай мове. Чытаючы акадэміка Карскага («Беларусы», т. III, ч. III і інш.), можна прыйсці да вывадаў, вельмі сумных і некарысных для творчых сіл усяго беларускага народа, а не толькі апалячаных ці абруселых і таму страціўшых магчымасць нармальна развівацца ў роднай культуры беларускіх паноў. Але не будзем даследаваць тут абмылку ці тэндэнцыю акадэміка Карскага, якая залежыць, галоўным чынам, ад таго, што акадэмік Карскі не зварачвае належнай увагі на больш грунтоўныя прычыны і найчасцей разглядае беларускую літаратуру так, як бы яна развівалася тады ў роўна выгодных варунках, скажам, з расійскаю або і польскаю літаратураю. Адзначым толькі, што ў адносінах да «Сялянкі» і да магчымасці развіцця беларускай драматычнай творчасці ў наступны пасля «Сялянкі» перыяд гэтая прычына ніяк не стасуецца... «Сялянка» напісана досыць добра, асабліва з боку сцэнічнага. У ёй шмат вобразнасці, жывасці, сцэнічных эфектаў, праўдзівага народнага беларускага камізму. Сцэнкі беларускага народнага жыцця ў часе паншчыны паказаны ў ёй хоць і ў ідэалагічным асвятленні аўтара-пана, але сапраўды па-мастацку. Мала таго: музыку да «Сялянкі» напісаў не абы-хто, а чалавек з імем, якое магло пацягнуць публіку ў тэатр калі не дзеля слоў і дзеяння, дык дзеля музыкальных гукаў, напісаў Станіслаў Манюшка, зямляк і асабісты прыяцель Марцінкевіча. Ува ўсякім разе трэба прызнаць, што «Сялянка», можа быць, і вельмі слабая ў параўнанні з камедыямі і операмі, слаўнымі на ўвесь свет, магла, аднак жа, пакласці зусім цвёрды пачатак далейшаму развіццю беларускай драматычнай творчасці і беларускага тэатра, як прыклад благі на наш сучасны погляд, але добры тады для магчымых пазнейшых Марцінкевічаў.

А тым часам гэтак не сталася...

Бо дзеля гэтага патрэбна была маса ці хоць грамада

людзей, да якой тэатр у беларускай мове мог бы прышчапіцца і ў якой мог бы ён развіцца. Такою масаю было беларускае сялянства ў вёсках, беларускае беднае мяшчанства ў мястэчках і гарадах, нарэшце, дробная шляхта і блізкія да таго слаі грамадзянства. Ды ў гэтым кірунку Марцінкевіч не пайшоў. Такою грамадою ці такім гуртком маглі быць і падобныя Марцінкевічу хлопаманы, але іх было мала, і на гэтым грунце беларускі тэатр мог існаваць толькі часова, напэўна, да пераходу яго на шырэйшы шлях, шлях у масы. Марцінкевіч узяў кірунак на паноў, якія зусім не былі зацікаўлены ў адраджэнні беларускай культуры і якім ён, апрача таго, чытае ў «Сялянцы» свайго роду натацыі. І гэта быў памылковы шлях.

Каб будаваць беларускі нацыянальны тэатр у палове XIX веку, трэ[ба] было быць на свой лад рэвалюцыянерам, смелым і ўпартым грамадскім працаўніком, чалавекам, зусім адданым сваёй справе. Марцінкевіч шчыра жадаў дабра беларускаму народу, беларускаму сялянству,— праўда. Але якія пабудкі, прычыны, мэты былі ў Марцінкевіча, калі ён пісаў і ставіў на сцэне ў Менску «Сялянку». Можна з пэўнасцю сказаць, што найперш не было тут належнай свядомасці... Аўтар кіраваўся не столькі розумам, абдуманай ідэяй, колькі пачуццёвасцю, сентыментальным настроем, хлопаманствам без вызначаных у нацыянальным і класавым пытанні ідэалаў і мэт. Тут была толькі забава, забава панская, з дамешкаю спачуцця да сялян; была несвядомая прывязнасць да таго, сярод чаго ён, сын дробнага пасэсара, узгадаваўся, вырас. Яму не прыходзіла ў голаў вырашыць цвёрда, выразна, мэтазгодна пытанне аб становішчы сялян, аб беларускай нацыянальнай культуры. Вывады і заключэнні навязваліся яму пасля самога ўчынку, пасля нападаў на яго за шкадлівае хлопаманства з боку тых паноў, якія больш практычна, чымся ён, паэт, глядзелі на справу і адчувалі небяспеку дзеля сваіх класавых інтарэсаў ад адраджэння беларускай мужыцкай культуры, ад развіцця нацыянальнай свядомасці ў мужыкоў. Магчыма, што гэтыя вывады і заключэнні палохалі тады і яго самаго як пана, але ён, як пясняр і добры чалавек, не мог устрымацца ад несвядомай працы на карысць беларускага культурнага адраджэння. Ды не было тут ідэйнай заўзятасці, не было рэвалюцыйнасці, не было патрэбнай дзеля забяспечання поспеху свядомасці.

Творчасць Марцінкевіча мае характар падвойнасці, палавінчатасці, хоць і ў меншай меры, чымся ў другіх тага-

часных нашых пісьменнікаў. Як кажа Пыпін[1], у іх сумяшчаўся польскі і беларускі патрыятызм, як у другіх, дабавім ад сябе, сумяшчаўся патрыятызм расійскі і беларускі. У класавых поглядах у Марцінкевіча сумяшчалася прыязнь да сялян і ласка да паноў. Марцінкевіч меў ідэалогію добрага беларускага шляхціца-хлопамана, узгадаванага на ўлонні беларускай прыроды, сярод беларускага народа, але ў польскай культурна-палітычнай традыцыі. Ён — пан, які спачувае сялянам. У чым жа гэтае спачуццё выяўляецца ў «Сялянцы» [?] Паненка Юлія апранаецца ў уборы сялянскай дзяўчыны, каб свайго кузена, Кароля Лятальскага, прыехаўшага з Заходняй Еўропы, настроіць прыхільна да нашага селяніна, каб развіць у гэтым «еўрапейцу» любоў да свайго краю настолькі, што ён не спалохаўся бы нуды, не пабаяўся бы асесці ў сваім панскім двары ў «убогай Беларусі», каб сяляне мелі, такім чынам, добрага пана-«бацьку». Вуснамі Юліі аўтар кажа, апроч таго, панам, што «бог на небе і паноў і мужыкоў зароўна ўважае...».

А нават гэткія ўмеркаваныя матывы не маглі прыйсціся да смаку той панскай публіцы, якая тады магла купляць білеты на спектаклі. Толькі найбольш дэмакратычная частка панскай інтэлігенцыі, прыяцелі Марцінкевіча — хлопаманы і, галоўным чынам, пэўная частка панскай моладзі маглі спрыяць ідэям аўтара. Але сіла гэтая — і ўнутрана і ў аб'ектыўных умовах — была тады лішне слабая, каб будаваць новы нацыянальны беларускі тэатр. Уся ж маса паноў была настроена непрыхільна або і варожа супроць падобных спроб.

З другога боку, ці мог Марцінкевіч сваімі творамі, як «Сялянка», прамовіць да тысяч і сотняў тысяч сэрцаў беларускага сялянства і беднага беларускага жыхарства мястэчак і гарадоў. Прамовіць так, каб пацягнуць гэтыя сэрцы да беларускага нацыянальнага тэатра. Не. Паміма таго што ён наогул не падышоў з сваімі пастаноўкамі да беларускай масы, што і не мог зрабіць чалавек з яго ідэалогіяй і з яго любоўю да спакойнага буржуазна-шляхоцкага жыцця, Марцінкевіч і сваёю драматычнай творчасцю не мог захапіць шырокія масы.

І вось, калі «Сялянку», як і іншыя творы Марцінкевіча, разглядаць у іх літаратурнай вартасці выключна з боку ідэі, з боку тэндэнцыі аўтара, дык можна згадзіцца

[1] «История русской этнографии», т. 4.

з акадэмікам Карскім, што «Сялянка» не была добрым прыкладам для пазнейшых беларускіх нацыянальных пісьменнікаў. Гэта быў прыгожы пустацвет.

Марцінкевіч апынуўся ў трудным становішчы, як пісьменнік у беларускай мове, і ў выбары тэм і ў укладанні зместу сваіх твораў. Якую тэму і які змест мог узяць Марцінкевіч, каб яны адказвалі і яго тэндэнцыі і цікавілі б тагачасных чытачоў і гледачоў на Беларусі[?]

Беларускае жыццё — жыццё сялянскае. Аб ім ён узяўся пісаць для паноў. Аб чым жа пісаць [?] Сюжэты на агульначалавечыя праблемы лепей было апрацоўваць па-польску — так глядзела сфера, у якой жыў і над якою сам мала падняўся Марцінкевіч. Глыбей закрануць сялянскае жыццё не дазваляла яму сацыяльная несвядомасць, боязнь нападаў з боку паноў і пераследаванняў з боку царскага рэжыму. Аставалася мадзець з літаратурнымі практыкаваннямі этнаграфічнага характару, падпраўленымі пэўнай тэндэнцыйнасцю, што мы бачым у «Сялянцы» [1]. Вось чаму ў драматычных творах Марцінкевіча і няма праўдзіва-мастацкага драматызму. Ён толькі больш-менш удала трымаецца за народны беларускі камізм. Хараство яго драматычных твораў ёсць у тым, што ён дае жывыя сцэнкі народнага жыцця, таксама масавыя сцэны, народныя песні, дуэты, скокі, музыку, народны гумар.

Тое ж бачым і ў справе мовы драматычных твораў Марцінкевіча. Тады як эпічныя і лірычныя творы яго (не гаворачы аб творах у польскай мове, якіх у яго і зусім мала) напісаны ў беларускай мове без дамешкі польскай мовы; тады як і паны ў гэтых творах гавораць па-беларуску, а не па-польску, у драматычных яго творах, творах, прызначаных для сцэны, «просты» народ гаворыць «па-просту» (па-беларуску), а паны гавораць па-панску (па-польску). Чаму так[?] І якія вывады з гэтага можна зрабіць дзеля характарыстыкі драматычнай творчасці Марцінкевіча[?] Калі ён прызнаваў патрэбным перакласці «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча на беларускую мову, каб маглі прачытаць «нашы мілыя мужычкі», і пераклаў, сходаўшы пэўныя труднасці за адсутнасцю ў беларуска-сялянскім тагачасным лексіконе, якім ён карыстаўся, пэўных слоў для некаторых адцягненых паняццяў, дык не дзеля труднасці ж перакладу пакідаў ён у сваіх драма-

[1] У «Пінскай шляхце» і «Залётах» Марцінкевіч падняўся ў гэтым кірунку значна вышэй, але яны напісаны многа пазней і ў свой час не друкаваліся.

тычных творах звычайную штодзённую польскую мову апалячаных паноў на Беларусі. Можа быць, гэта зроблена з увагі на мастацкую праўду, каб і ў літаратуры захаваць усё так, як было ў жыцці. Дык чаму ж яго погляды на мастацкую праўду дазвалялі яму ў іншых, не драматычных, творах пераказваць словы паноў па-беларуску[?] Чаму толькі ў драматычных творах «паны і той нават пан з мужыкоў, Сабковіч,— як піша Янка Купала ў сваёй рэцэнзіі на «Залёты» [1],— павінны гаварыць па-польску, а толькі слугі іх гавораць па-беларуску, ды нягледзячы на тое, што ў той час шмат дзе па якіх дварах паны гаварылі паміж сабой па-беларуску» [?] Янка Купала, гаворачы аб уласцівай Марцінкевічу літаратурнай тэндэнцыі, кажа: «У яго літаратурных працах гэтая дзяльба панскіх і мужыцкіх душ перабягае скрозь чырвонай нітачкай, асабліва ў творах сцэнічных». Але з такім падыходам Янкі Купалы да мовы дзеючых асоб у драматычных творах Марцінкевіча згадзіцца няможна. Тут не столькі «дзяльба душ», колькі тое, але ў зусім іншым дусе, што мы бачым цяпер, напрыклад, у «Кастусю Каліноўскім» Е. Міровіча, дзе таксама гавораць не толькі па-беларуску, але і па-польску, па-расійску і нават па-французску. Марцінкевіч лічыўся з тою публікаю, дзеля якой ён пісаў свае драматычныя творы. Марцінкевіч уважаў, што, мусіць, лепей будзе, калі гэтая публіка пачуе са сцэны ад паноў польскую, а не беларускую мову. Значыцца, ён пісаў свае творы не столькі дзеля шырокіх беларускіх мас, якія не ўмелі па-польску і па-расійску, колькі дзеля паноў, якія ўмелі гэтыя мовы. Тут быў, можа, практычны падыход, так сказаць, згодніцкага характару, каб эвалюцыйна прыручыць паноў да тэатра ў беларускай мове. Але ў імя гэтага згодніцтва Марцінкевіч зграшыў і супроць лепшых поглядаў на беларускую літаратуру і супроць беларускага тэатра як тэатра дзеля беларускіх мас. Мы ведаем, што і Л. Талстой у сваіх раманах піша цэлыя фразы па-французску (праўда, ёсць унізе вынаскі па-расійску), але ўся справа ў падыходзе, у пэўнай мерцы і тоне. Талстой у імя мастацкай праўды паказаў нам, што расійская арыстакратыя зазвычай гаварыла міжсобку па-французску, бо яна спачатку срамілася мужыцкай расійскай мовы, а потым гэта ўвайшло ў арыстакратычную моду. Але ў Талстога ёсць пэўная мастацкая мерка і належны літаратурны тон.

---

[[1] «Наша ніва», 1915, 6 лютага.]

Наш паважаны Е. А. Міровіч таксама гаворыць у «Кастусю Каліноўскім» на розных мовах, каб даць пэўныя літаратурна-гістарычныя і сцэнічныя эфекты той публіцы, якая ад гэтага ў нашым цяперашнім Дзяржаўным тэатры не будзе мець ніякай нястройнасці, а хоць колькі польскіх і французскіх фраз у гэтай п'есе і не разумее, аднак жа лёгка даруе за гэта аўтару і валам валіць па многа разоў на «Кастуся Каліноўскага». І тут гэта згладжваецца пэўнаю меркаю, можа быць, і не зусім вытрыманаю ў адносінах да пальшчызны, і асабліва згладжваецца ўсім тонам п'есы, у якой бачым гераічнае змаганне за правы беларускага сялянскага народа, тонам, які сугалосна гучыць з тонам нашых душ. І ўсё ж ткі і цяпер можна пачуць жальбу, асабліва ад правінцыялаў з Усходняй Беларусі, на лішак польскай мовы ў «Кастусю Каліноўскім», як з часам мы можам пачуць падобную жальбу на расійскую мову ад правінцыялаў з Заходняй Беларусі (дзе беларускія дзеці і дзеці, прайшоўшыя школу, не ўсе зразумеюць па-расійску). І хоць заслугі п'есы «Кастусь Каліноўскі» ў гісторыі нацыянальнага беларускага тэатра, як ужо бачым і мы, сучаснікі, цяпер прост выключныя па сваёй значнасці, аднак жа з часам прыйдзецца ўвесь тэкст у ёй перакзваць па-беларуску, а будучым гісторыкам беларускай літаратуры і беларускага тэатра прыйдзецца тлумачыць сваім чытачам, чаму ў «Кастусю Каліноўскім» дзеючыя асобы гаварылі на розных мовах. Для беларускай культуры кепскімі былі ўмовы ў часы Марцінкевіча, праўда, але ўсё ж ткі мы не бачым у яго ні памыснага для беларускай літаратуры погляду, ні памыснай для беларускага тэатра меркі ў справе мовы. Паны ў яго драматычных творах гавораць па-польску ад пачатку да канца. Расійскія чыноўнікі ў «Пінскай шляхце» гавораць ад пачатку да канца па-расійску. Што ж гэта [?] Мастацкі *беларускі* твор ці сцэнкі з этнаграфічнага зборніка аб Беларусі? Марцінкевіч гэтым абніжаў аўтарытэт нацыянальнай беларускай культуры ў галіне літаратуры і тэатра; абніжаў тады, калі яго асабліва высока трэба было ставіць дзеля памысных вынікаў адраджэнцкай працы; абніжаў таму, што гэта быў Марцінкевіч. І слушна піша праўдзівы бацька нацыянальна-культурнага беларускага адраджэння і паэт класава-сялянскі, паэт-рэвалюцыянер Ф. Багушэвіч, што творы Марцінкевіча, «як бы смеючыся з нашага брата пісаны...». Тут не было свядомага высмейвання нашага брата, але было нешта падобна ад несвядомасці аўтара.

Ці мог жа ў такіх цяжкіх варунках, сіламі такіх людзей і з такім рэпертуарам развівацца нацыянальны беларускі тэатр[?]

Адзін адказ: не.

Пакуль не было будаўнікоў тэатра з народных мас, пакуль не было свядомай мэты ў яго тварэнні, пакуль не было рэвалюцыйнасці ў рабоце, тэатр не мог развівацца, не было магчымасцей.

І прызнаючы пэўныя заслугі за пачынальнікамі беларускага нацыянальнага тэатра ў палове мінулага стагоддзя, мы бачым, аднак, што магла даць і дала гэтыя магчымасці нашаму тэатру толькі рэвалюцыя 1905-га года і ў поўнай меры — рэвалюцыя ў Кастрычніку 1917-га года.

## МАЛАДНЯК

Надоечы ў Менску быў дужа цікаўны і мнагалюдны літаратурны вечар аб'яднання паэтаў «Маладняк». Спачатку выступалі самі маладнякоўцы, а тады і літаратурныя крытыкі з прысутнай публікі.

У кароткай пярэдняй прамове паэт-маладняковец т. Анатоль Вольны адзначыў, што «Маладняк» дае ў сваёй творчасці новы змест і новую форму, па-новаму выяўляе жыццё пралетарыяту і беднага сялянства Беларусі. Ён паказаў і на значны рост «Маладняка» за апошні год, бо цяпер у аб'яднанні налічваецца ўжо 50 паэтаў, ёсць у яго аддзелы па ўсіх большых местах Беларусі і ў Маскве, наладжаны зносіны з беларускімі паэтамі-маладнякоўцамі ў Чэхаславаччыне, Польшчы і аж Італіі.

Далей маладнякоўскі паэт і крытык т. Бабарэка прачытаў даклад аб ідэалогіі, заданнях і метадах працы «Маладняка». Ён сказаў, што «Маладняк» ідзе шляхам матэрыялізму, марксізму і ленінізму, у залежнасці ад чаго і знаходзіцца яго творчасць і праца. Прачытаўшы колькі вымак з Пляханава і інш., т. Бабарэка высветліў, як трэба ў сучасны момант глядзець на мастацтва, на літаратурную крытыку, на паэтычны вобраз і форму. На жаль, ён не падмацаваў сваіх слоў маладнякоўскімі прыкладамі і наогул крытычным разглядам творчасці самога «Маладняка», а ўжыў іншы спосаб, які завецца «доказам ад супрацiўнага». Ён паказваў, як не памысен для нашых дзён «сімвалізм» Я. Купалы, «рэалізм і рамантызм» Я. Коласа,

«імпрэсіянізм» М. Багдановіча, «вобразная містычнасць» З. Бядулі і як мала для нас цяпер той даўнейшай «пралетарскасці», якую некалі далі ў сваіх творах Цётка, Ц. Гартны і цяперашні маладняковец А. Гурло. Прызнаўшы, што ўся сучасная беларуская літаратура прадстаўляецца, з аднаго боку, Я. Купалам, Я. Коласам, Ц. Гартным, З. Бядулем, М. Грамыкам, а з другога боку — «Маладняком», лектар аддаў безумоўную перавагу «Маладняку». І ізноў, на жаль, ён і гэты свой погляд падмацаваў толькі параўнаннем назоваў, як «Безназоўнае» Я. Купалы (яшчэ друкуецца) або «Трэскі на хвалях» Ц. Гартнага — з «старога» боку і «Веснаход» М. Чарота — з маладнякоўскага боку і г. д. Там назовы — «старыя», а тут — «маладыя».

За ім паэт-маладняковец Пушча тлумачыў, як трэба разумець вобраз у мастацкай творчасці, і, між іншым, заначыў, што нашы старыя паэты, як Я. Купала, Я. Колас і інш., яшчэ толькі «гутаюцца ў калысках», што «балота іхнае творчасці зацягнулася цінаю», а «Маладняк» дае «новае» і «вечнае».

Вечар надта ажывіўся чытаннем маладнякоўскіх твораў. Чыталі: А. Вольны, Я. Пушча, А. Дудар, М. Зарэцкі і інш. Найбольш воплескаў было вершу А. Вольнага «Мікола» (на смерць чырвонаармейца).

Выступаўшыя з публікі крытыкі: старшыня камсамола Беларусі т. Самахвалаў, М. Грамыка, Ц. Гартны і інш. паказалі маладнякоўцам на некаторыя іхныя памылкі ў творчасці і ва ўсёй працы.

Якія ж вывады можна зрабіць з усяго, што казалася маладнякоўцамі і тымі, хто іх крытыкаваў на вечары[?]

Найперш трэба прызнаць, безумоўна, што маладнякоўцы — новая і ўжо значная літаратурная беларуская сіла. Яны — у цэлым — ёсць тое маладое, здаровае, поўнае жыццяздольнасці зерне, з якога вырасце ў будучыні наша новая, праўдзіва пралетарска-сялянская літаратура. Паміж іх ёсць і вельмі здольныя паэты (У. Дубоўка, М. Чарот, А. Вольны, [А.] Александровіч), і навелісты (М. Зарэцкі, Кузьма Чорны), і вельмі здольныя крытыкі ([А.] Бабарэка), публіцысты і наогул працаўнікі друку. Паміж іх ёсць і праўдзівыя дзеці пралетарыяту і беднага сялянства, і не толькі па сваім паходжанні, але і па сваёй ідэалогіі, па сваёй псіхіцы, па сваёй маладнякоўскай працы.

І за памыснымі буйніцамі, як той казаў, зусім хаваюцца і некаторыя благенькія драбніцы...

Але самі ж маладнякоўцы павінны звярнуць пільную ўвагу, а іх старэйшыя таварышы павінны памагчы ім, каб не было і тых драбніц, якія могуць пашкодзіць у далейшым.

Вось жа, пачнем з самае формы аб'яднання: што такое «Маладняк»? Дагэтуль мы думалі, што гэта ёсць аб'яднанне паэтаў пралетарскіх і бядняцка-сялянскіх, а прынамсі — блізкіх да гэтага па сваёй ідэалогіі, аб'яднанне людзей, якія ў сваёй творчасці выходзяць ад Кастрычніка і яго шляхам ідуць і да зместу і да формы творчасці. Так прыблізна і казаў у сваёй лекцыі т. Бабарэка. Аб старанні так ісці нам сведчыць і большасць лепшых маладнякоўскіх твораў.

А тым часам адкуль жа нанясло ліха «Маладняку» панскую хваробу — імажынізм? Бо іначай, як панскаю хваробаю ў нашай мужыцкай дагэтуль паэзіі назваць праявы імажынізму ў нашых маладнякоўцаў і няможна. Калі хочаце ажыўляць «балоты» новымі самабытнымі, клаcава і нацыянальна наскімі, як у вуснай народнай паэзіі, вобразамі — калі ласка! Але нашто мазгі круціць і сабе і добрым людзям, выціскаючы з сябе гэты самы незвычайны вобраз? Можа, у Я. Пушчы на гэта і ёсць час, можа, нават яму хто і плоціць за гэты час, але я раіў бы «Маладняку» зрабіць запытанне ў нашых пралетарскіх і сялянскіх мас, якія ўмеюць самі чытаць і якія ўмеюць пакуль што толькі слухаць, як другія ім чытаюць,— ці ёсць у іх час і ці аплоціцца ім гэты час мастацкаю насалодаю, пачас і ці аплоціцца ім гэты час мастацкаю насалодаю, пашырэннем светагляду і г. д., калі б яны мелі шчасце пасмакаваць такіх «новых» і «вечных» перлаў маладнякоўскага песняра Я. Пушчы: «Хай выбрыкуе рытм сівагрывы»; «І зарою аўсяніўся песень наліў»; «Заплаканы променя вырыс»... і г. д.

Можа, думаеце, што і да гэтага ж можна прызвычаіцца чытачу? Думаеце, што і гэта ж зусім як у народнай загадцы на гром: «Крыкнуў вол на сто гор»? Ахвотна згаджаюся: і можна, і зусім! Усё ж гэта не такая хітрая механіка, як прыдумаць машыну плесці лапці або заахвоціць польскага пана да чытання «Диалектического материализма» праф. С. Я. Вальфсона.

Але не буду гэтак жа падрабязна разглядаць усе іншыя хворыя ўхілы «Маладняка». Я прост каротка выпішу свае вывады. З аднаго боку:

1. Аб'яднанне «Маладняк» мае важную палітычную і культурную ролю ў жыцці беларускіх мас.

2. Праца яго сябе ўжо паказала ў вельмі памысных выніках (супрацоўніцтва з камсамолам і ўсёю пралетарскаю і сялянскаю моладдзю, пашырэнне камуністычных ідэй праз друкаванае і вуснае слова, ажыўленне «балота», накіраванне літаратуры на пралетарскі шлях, агітацыйна-мастацкае выяўленне барацьбы з польскімі панамі і г. д.).

3. «Маладняк» — школа, у якой маладыя пісьменнікі, праз супрацоўніцтва з сваімі ж дужэйшымі сябрамі-маладнякоўцамі, праз усю маладнякоўскую працу, належна развіваюцца і рыхтуюць сябе для далейшай творчасці і працы.

З другога боку:

1. У «Маладняку» няма яшчэ цвёрдай і выразнай арганізацыйнай формы.

2. «Маладняк», у асобе некаторых сяброў, не мае цвёрдай пралетарскай ідэалогіі, не пазбыўся дробнамяшчанскай, шкоднай сялянскай і нікчэмнай інтэлігенцкай псіхікі. Гэта адбіваецца часам на змесце, але найболей на фармальна-мастацкіх асаблівасцях твораў, цесна звязаных, аднак, з зместам. Некаторыя маладнякоўцы пішуць не столькі для мас, колькі для «літаратурнасці». У іх, у некаторых, лішне многа індывідуалізму, інтэлігенцкага літаратурнага выраблянія, вузкага (у залежнасці ад псіхікі) падходу да тэм, асабліва ў лірычных вершах і г. д.

3. «Маладняку» мала аддаецца належна-крытычнай увагі і з боку ідэалагічнага і з боку фармальна-мастацкага, і ў яго самога мала самакрытыкі. І Бабарэка і Пушча ў сваёй крытыцы старога, патрэбнай і непатрэбнай, больш бываюць падобны да тых ваякаў, што сядзяць на кані тварам назад, конь шалёна імчыцца наперад, а яны з усяе моцы махаюць мечам... назад. Самавіта, але нікому не страшна. Старых трэба крытыкаваць, ідучы не ад вобраза, не ад фармальна-мастацкага боку (бо ў гэтым якраз «Маладняку» з імі яшчэ няма што і думаць раўнавацца), а разглядаючы іх з боку ідэалагічнага, наколькі яны «папутчыкі» і наколькі добрыя «папутчыкі».

# ЧАТЫРЫСТА ГАДОЎ ДРУКУ НА БЕЛАРУСІ

У канцы 15-га і ў пачатку 16-га веку на Беларусь сталі даплываць з Заходняй Еўропы першыя павевы ідэй гуманізму. Гуманізм як сацыяльная з'ява быў пратэстам супроць сярэднявечнага прыгнечання асобы чалавека. І ў гэты час у нашым краі знайшоў ён падрыхтаваны грунт для свае прышчэпкі, прыняўшы тут свой краёвы выгляд. І характэрна, што першы выдатны прадстаўнік беларускага гуманізму, доктар медыцыны і філасофіі, пісьменнік і, наогул, культурны дзеяч Францыск Юрый Скарына, выйшаў з мяставай дэмакратыі, з сям'і полацкіх купцоў сярэдняй заможнасці, а памагалі ў яго працы прадстаўнікі віленскай гандлёвай буржуазіі. Бо не арыстакратыі ж і шляхце было тады клапаціцца або хоць думаць аб сацыяльнай перабудове жыцця ў Вялікім княстве Літоўскім. Становішча ж рабочай і сялянскай масы таго часу, мяркуючы хоць бы па Літоўскім статуце, было гэткае беспрасветнае, што з яе боку, пэўна ж, не магло быць руху ў гэтым кірунку. Таксама, калі гуманізм у нас падрыхтаваў магчымасць для шырэйшага развіцця на краёвым сацыяльным грунце Рэфармацыі,— першыя рэфарматы для рэвалюцыі, калі можна так сказаць, а не для адной моды, як было з боку магнатаў, выйшлі з бяднейшай часткі шляхты; прычым землеўласнік, хоць і дробны, Васіль Цяпінскі, бараніў усё ж права хрысціяніна на зямельную ўласнасць, а Сымон Будны і другія, што былі не звязаны падобнымі класавымі інтарэсамі, выступалі і супроць зямельнай уласнасці.

Увесь 16-ты век на Беларусі, як і ў другіх еўрапейскіх старонках, вызначаўся, на свой лад і час, сацыяльнымі ўзрухамі, рэвалюцыямі на сацыяльным грунце, але ў рэлігійным выглядзе, у рэлігійных формах. З гэтай гістарычнай асаблівасцю мы і павінны лічыцца, з гэтым гістарычным аб'ектывізмам мы і павінны падыходзіць да ацэнкі культурнай працы Скарыны як пачынальніка беларускага друку. Шмат прычын было, чаму ён быў матэрыялістам у сваёй выдавецкай практыцы, а не мог быць матэрыялістам у сваім светапоглядзе.

Для нас у даным выпадку цікаўна не столькі тое, што якраз друкаваў Скарына, якія ідэі праводзіў у сваіх прадмовах да кніг, колькі тое, што з яго імем звязан вялікі этап у культурным развіцці нашага краю. Нам цікаўна, ці можам мы знайсці і ўзяць сабе што-небудзь за навуку з яго

працы для сённяшняй нашай працы на культурным полі і для сённяшняга нашага змагання за вызваленне чалавецтва з-пад капіталістычнага ўціску і асобы чалавека і класа пралетарыяту і сялянскай беднаты.

Скарына радзіўся каля 1490 г. Грамаце вучыўся па Псалтыру ў доме бацькоў у Полацку — зразумела, па рукапісным Псалтыру, бо друкаваных кніжак у краі тады яшчэ не было. Потым ён нейкім выпадкам трапіў у сваё сталічнае места — Вільню, звярнуў на сябе ўвагу сваімі здольнасцямі і з дапамогаю багатых людзей, купцоў, паехаў вучыцца за граніцу, у Польшчу, у Кракаўскі універсітэт, які і скончыў з дыпломам кандыдата. Не здаволіўшыся гэтым, ён едзе яшчэ ў Італію, у найлепшы тады для ўсяго свету Падуанскі універсітэт, дзе і абараніў дысертацыю на дыплом доктара медыцыны і філасофіі. Зрабіўшыся перадавым і вучонейшым чалавекам свае эпохі, ён шукае новых ідэй у іх найлепшым выглядзе, падарожнічаючы па Заходняй Еўропе, едзе ў Нямеччыну, знаёміцца з Марцінам Лютэрам, але збліжэння ў іх няма. Лютэр нават не верыць, каб [redacted] нейкай «Скіфіі» мог быць гэты вучоны малады чалавек, ён думае, што гэта — спакуснік-д'ябал у вобразе чалавека, і Скарына застаецца прававерным гуманістам, пабожным, культурным адраджэнцам свае цёмнай бацькаўшчыны. Ён шукае шляху для найлепшага і найпамыснейшага прыкладання сваіх здольнасцей і свае веды — і бачыць яго ў перакладанні на родную мову і друкаванні кніг. У сваім краі не дазваляе нізкі ўзровень тэхнікі, і ён найперш арганізуе друкарню ў Празе ў Чэхіі. Яшчэ з 1491 г. у Кракаве нейкі Швайпольт Феоль друкаваў кірылаўскія царкоўнаславянскія кнігі з некаторымі асаблівасцямі беларускай мовы, але тых асаблівасцей замала, каб лічыць іх беларускімі. Феоль жа неўзабаве мусіў кінуць сваю працу, бо быў абвінавачан у ерасі і ўцёк у Угоршчыну (Венгрыю). Так што першая прыбліжаная да народнай беларускай мовы друкаваная кніга выйшла з пражскай Скарынінай друкарні 6-га жніўня (аўгуста) 1517 г. Гэта і быў пачатак беларускага друку (Псалтыр).

Пачатковым годам друку на Беларусі лічыцца 1525 г., бо з гэтага года захавалася першая кніжка з Скарынінай друкарні ў Вільні, перанесенай з Прагі («Апостал»). Дня на кнізе не паказана, але паказана, што «месеца марта».

Скарына выдрукаваў блізу ўсю Біблію, друкаваў і іншыя меншыя кніжкі, адны перакладаючы на беларускую

мову, а другія толькі прыбліжаючы да яе заменаю забытых славянскіх слоў жывымі, народнымі беларускімі.

Асабліва цікаўны яго прадмовы да кніг, бо гэтымі прадмовамі ён пашыраў свае ідэі.

Ён навучае сваіх чытачоў імкнуцца да асветы, чытаць, развівацца, працаваць не толькі для свае карысці, а для «паспалітага добрага», значыцца, для ўсенароднага дабра, для культуры свайго краю і г. д. Ён друкуе свае кнігі, як «детем малым початок всякое наукі, граматы», ён друкуе кнігі, каб яны былі даступны і незаможным людзям (бо рукапісную кнігу, як дужа дарагую, мог купіць толькі пан або цэлае таварыства, царква, манастыр), і друкуе кнігі такога фармату, каб не былі дужа дарагія (як, скажам, уся Біблія ў адной кнізе), друкуе часткамі. Пэўна ж, у яго быў і камерцыйны падыход, бо трэба было звярнуць затрачаны капітал, а грошы ў яго справу ўкладалі багатыя купцы. І ўсё ж ён разарыўся, яго засудзілі на канфіскацыю маёмасці, і памёр ён у беднасці і недастатках. Сам ён быў і перакладчыкам, і карэктарам, і рысавальшчыкам, а часам і складальнікам (наборшчыкам).

Выдадзены яго кнігі дужа хораша, чотка, на добрай паперы з рысункамі. Яго друкарскую тэхніку пераймалі друкары на Украіне, у Маскоўшчыне і ў другіх старонках, нават у Заходняй Еўропе. Па часе выхаду яго Біблія займае трэцяе месца (першая друкав.[аная] — нямецкая, другая — чэшская, трэцяя — Скарыны). Цяпер яго кнігі незвычайная рэдкасць, бо шмат іх папалілі ў часе рэлігійнага расколу ў Маскоўшчыне. Толькі ў Лондане, у Брытанскім музеі, ёсць найболей поўны камплект яго кніжак.

Такім чынам у марцы 1925 г. мы будзем спраўляць чатырохсотгоддзе друку на Беларусі, пачынальнікам якога быў гэты выдатны культурны працаўнік нашага краю.

## КУЛЬТУРНАЕ СВЯТА

### (400 ГАДОЎ ДРУКУ НА БЕЛАРУСІ)

Пачынальнікам беларускага друку быў Францыск Юрый Скарына.

Ён радзіўся каля 1490 г. у Полацку, у купецкай сям'і сярэдняй заможнасці. Чытаць вывучыўся па рукапісным Псалтыру. Універсітэцкую навуку праходзіў за граніцаю,

у Кракаве, а дакончыў сваю адукацыю ў Італіі, пры універсітэце ў горадзе Падуані. Меў высокае вучонае званне — доктара медыцыны і філасофіі.

Спачатку Скарына адчыніў друкарню ў Чэхіі, у горадзе Празе. Тут ён у 1517—1519 гг. надрукаваў Біблію на беларускай мове. Першая кніжка выйшла 6-га жніўня (августа) 1517 г. Гэты дзень і лічыцца днём, з якога пачаўся беларускі друк.

Пазней Скарына перанёс друкарню ў свой родны край, у Вільню. Тут першая кніжка выйшла ў сакавіку (марцы) месяцы 1525 г. Гэта і быў пачатак друку на Беларусі.

Памёр Скарына каля 1550 года. Памёр у беднасці і розных жыццёвых нястатках.

Чатырыста з нечым гадоў таму назад кніжкі ў нашым краі былі толькі рукапісныя. Каштавалі яны дужа дарага: невялікая кніжка прадавалася за 50—100 рублёў. Купіць кніжку мог толькі багаты чалавек ці цэлая ўстанова (князь, шляхціц, купец, цэрквы, манастыр). Для бедных людзей кніжка і наогул пісьменнасць была зусім недаступна.

Найперш быў знайдзен спосаб друкаваць кніжкі — у Нямеччыне, у 15 веку, 1440 г., Іаганам Гутэнбергам. Гэта было вялікае адкрыццё, якое незвычайна памагло развіццю ўсяе чалавечае культуры. Аднак жа новыя адкрыцці трэба яшчэ й пашырыць, прышчапіць у жыцці. І ў справе друку зрабіў гэта для Беларусі і для ўсяго ўсходу Еўропы — Скарына. На ўсім усходзе Еўропы яго друкарня была першаю. У Маскве першая друкаваная кніжка выйшла ў 1564 г. Але культура там стаяла настолькі нізка, што цёмныя масы друкарню і гэтую першую кніжку спалілі, як толькі яна выйшла з друку. Толькі [ў] 1587 г. у Маскве ўдалося аднавіць друкарню і надрукаваць кніжку.

Такім чынам, у Маскоўшчыне друкаваная кніжка выйшла ў свет на 70 г. пазней, чым на Беларусі. Апрача таго, Скарына перакладаў Біблію з царкоўнаславянскай мовы на мову беларускую, зразумелую для ўсяго народа. Друкаваў яе асобнымі часткамі, каб і бяднейшыя людзі маглі іх купіць, бо й друкаваная вялікая кніжка каштавала многа грошы.

Да кожнай кніжкі ён пісаў прадмову. У гэтых прадмовах заахвочваў сваіх землякоў вучыцца, працаваць не толькі для сябе, але для ўсяго народа, развіваў любоў да асветы, да культуры свайго краю, сеяў думкі аб новым лепшым жыцці. Друкаваў кніжкі для таго, каб на іх маглі

дзеці выўчыцца чытаць і гаварыць («добре чесьці і мові-ці вучыць», як ён пісаў).

Перакладаў і друкаваў ён пабожныя кніжкі... Але для нас цяпер гэта няважна, як няважна і тое, што якраз з яго імем звязан пачатак беларускага друку. Бо не зрабіў бы гэтага ён, дык зрабіў бы нехта іншы.

Усё ў гісторыі ідзе сваім шляхам. І вось не паны, багатыя і тож вучоныя ў заграпічных універсітэтах, не паны робяць гэтую справу, а ён, мяшчанскі сын, больш і цясней звязаны з патрэбамі свайго народа, чым гэтыя паны.

І вось ён хоць і друкаваў пабожныя праваслаўныя кніжкі, але не задумаўся ж прыняць каталіцкае імя Францыска, каб толькі паступіць у каталіцкі Кракаўскі універсітэт (яго праваслаўнае імя было — Г е о р г і й, Юрка).

Гэтыя кніжкі толькі і маглі тады шырока пайсці ў прадажу і вярнуць грошы, якія давалі яму на яго справу багатыя купцы. І для нас важна цяпер не гэта, а самы факт, што друк быў пачат, што друкованыя кніжкі лягчэй пашыраць, як рукапісныя, што друкованыя кнігі Скарыны прыблізілі ў нашым краі асвету да шырэйшых слаёў грамадзянства, да народа — прыблізілі і па кошту кнігі і па яе мове.

У месяцы сакавіку (марцы) гэтага, 1925, года будзе, такім чынам, чатырыста гадоў, як на Беларусі пачалося друкаванне кніжак.

Гэта — выдатнае культурнае свята.

Належныя ўстановы БССР, у першы чарод Інбелкульт (Інстытут беларускай культуры), ужо вядуць падрыхтавальную п р а ц у. Дзень святкавання будзе абвешчаны Інстытутам беларускай культуры.

Складаецца належны зборнік, у якім з усіх бакоў будзе высветлена дзейнасць Скарыны і час, калі гэтая дзейнасць адбывалася, будуць наладжаны выстаўкі беларускага друку і г. д., але святкаванне будзе насіць, галоўным чынам, школьны характар. Наша школьная моладзь, дзеці пралетарыяту і сялянскай беднаты, павінна ў сувязі з выдатным днём у гісторыі культуры на Беларусі добра ведаць вялікае значэнне друкаванага с л о в а ў жыцці культурных людзей яе, у змаганні рабочых і сялян за сваё вызваленне. У гістарычным развіцці беларускага друку ад Скарыны да нашых дзён яна павінна ўбачыць, якімі шляхамі ідзе культурнае развіццё працоўных мас, павінна ўбачыць, каб належна цаніць заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі, і даражыць імі, і бараніць іх, і несці іх туды, дзе іх яшчэ

няма, у першы чарод — да нашых закардонных братоў, у тую Вільню, дзе наш друк пачаўся і дзе ён цяпер душыцца панамі.

Паміж гэтых паноў — не толькі людзі спрадвеку польскай нацыянальнасці,— паміж іх ёсць і апалячаныя беларускія паны. Яны дзеля сваіх класавых інтарэсаў адышлі ад беларускай культуры. Для іх цяпер 400-леццe беларускага друку, спраўлянае ў БССР, спраўлянае, на іх пагляд, «мужыкамі», «хамамі», «некультурным быдлам», з'яўляецца не святам, а грозным знакам. Рост нашай культуры ёсць ростам нашай сілы. Рост беларускай культуры ў БССР — ёсць ростам тае сілы, што будзе святкаваць не толькі ў Менску, але і ў Вільні. Па вестках віленскіх беларускіх газет, «Беларускае навуковае таварыства» ў Вільні таксама падрыхтоўвае святкаванне 400-леццproperly беларускага друку. Але ў панскай Польшчы яно кончыцца толькі новым палітычным працэсам, новымі арыштамі.

Кнігі, з якіх можна даведацца аб Скарыне і пачатках беларускага друку, галоўныя і больш даступныя — гэтакія:

I. Праф.[есар] Янчук — «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўны перыяд».

II. Акад.[эмік] Карскі — «Беларусы», том 3-ці, частка другая (на расійскай мове).

III. Граф Уладзіміраў — «Доктар Францыск Скарына» (на расійскай мове, спецыяльная манаграфія, вялікі том з 3-ма рысункамі).

IV. М. Гарэцкі — «Гісторыя беларускай літаратуры», выданне 3-е. Апрача таго, большы ці меншы матэрыял можна знайсці ў «Гісторыі Беларусі» праф.[есара] Ігнатоўскага, «Гісторыі Беларусі» праф.[есара] Пічэты, у розных беларускіх часопісах, асабліва ў «Вольнай Беларусі» за 1917 г. з прычыны святкавання ў тым годзе пачатку беларускага друку (але яшчэ не на Беларусі, а ў Празе).

## МСЦІСЛАЎШЧЫНА

### I

Бывала, да Мсціслаўля дабрацца было трудна: ад станцыі Пачынак, што між Смаленскам і Рослаўлем, было 60 вёрст коннай дарогі. Цяпер да яго ад станцыі Ходасава, што між Воршаю і Унечаю, усяго вёрст 17.

Цяпер ходзіць вагон з Менска да Унечы без перасадкі, і завецца ён на мове падарожных — «нацыянальным» вагонам. Бо, кажуць, пусцілі яго па загаду беларускага Саўнаркома, і ў ім, апрача таго, зазвычай можна пачуць беларускую мову не толькі ад сялян, але і ад савецкіх і партыйных працаўнікоў, што едуць з Клімавіч, з Горак у Менск ці з Менска туды. Як бы ён ні зваўся, але жыхарства Калінінскай акругі дужа задаволена гэтым вагонам і, едучы ў Менск ці з Менска, не раз успамінае добрым словам таго, па чыйму загаду «нацыянальны» вагон пушчаны: бывала, мучыліся ў Воршы і з-за раскладу язды і з-за перасадкі.

Выйшаў я з гэтага вагона на станцыі Цёмны Лес, не даязджаючы Ходасава. Адгэтуль мне да бацькоў, куды я цяпер ехаў, усяго 12 вёрст. Здаецца, мала, але дарога на вёрст 9 цягнецца па лесе, які таксама завецца Цёмным і аб якім вы можаце прачытаць у «Выпісах з беларускай літаратуры» ў адрыўку «Патаёмнае». Праўда, лес за гэтыя гады значна пасвятлеў, але ваўкі ў ім ходзяць табунамі асоб па 10—15, а кажуць яшчэ, што ходзіць у ім часам і двухногі воўк — на прозвішча Чырвонец. На бяду, пакуль брат, прыехаўшы па мяне на санях, чакаў у вёсцы Цёмны Лес (тут жа, пры станцыі), пайшоў дождж, і снег, якога і так было мала, зусім растаў. Аднак мы паехалі — а 12-й гадзіне ўночы. Чырвонца не баяліся, бо нічым ён бы ў нас асабліва не пажывіўся, хіба кажухі садраў бы, дык прыйшлося б толькі бегчы, каб не прастудзіцца, а супроць ваўкоў мы мелі адно аружжа: серчыкі і салому. Калі выязджалі з лесу, мне аж троху шкода было, што ні Чырвонец, ні ваўкі намі не пацікавіліся... Ніякіх паэтычных прыгод! Нудна шумеў Цёмны Лес, шлёпала па вадзе або коўзалася па мёрзлай грудзе непадкаваная братава кабыла, брат не столькі ехаў, колькі ішоў, каб ёй лягчэй было, а я, захінуўшыся ад ветру, строіў планы, цераз колькі гадоў правядзём мы тут добрую шосу і пасядзем калі не на аўтамабілях, дык хоць на лепшых коніках, чым братава кабыла.

«Героем дня» ў нашай Багацькаўцы цяпер т. Бабарэка, загадчык аддзела народнай асветы ў Мсціслаўлі. Не дужа даўно ён прыязджаў у Багацькаўку, расказаў багацькаўцам «усё чысценька, што толькі ё на свеце», паклаў пачатак арганізацыі хаты-чытальні, зрабіў Піліпа Шнарскага, у якога начаваў, злоснікам усіх папоў на свеце, жартуючы напалохаў непісьменных, што не будуць іх жа-

ніць, калі не наўчацца хоць распісацца,— адным словам, скалатнуў Багацькаўку. «Чым ён так прыпаў вам да сэрца?» — пытаўся я. І мне казалі: «Першага такога чалавека відзелі, бо начальнік усё ж ткі, а гаманіў ну зусім як свой чалавек, ані загневаецца, ані загардзіцца, усе яго слухалі цэлы вечар, да першых петухоў, і часам было так ціха, што і муху можна б было пачуць. Ён і пажартуець, ён і пасмяецца, але справу, брат, кіруець лоўка!»

«Па-беларуску гаварыў з вамі?» — «Па-беларуску!.. Яшчэ, брат, чысцей, чым ты!» — «Камуніст ён?» — «Да ўжо ж ня йначы, але такіх у нас яшчэ не было... не было... Гэта, брат, чалавек!»

Ніколі я не бачыў т. Бабарэку, ніякага прыяцельства з ім не меў і не маю, не для пахвалы яму гэта пішу, але хачу з радасцю зазначыць, што карысць ад праграмы «лицом к деревне» я ўбачыў на свае вочы пасля побыту ў Багацькаўцы т. Бабарэкі. Ён дыхнуў на Багацькаўку новым жыццём, ён знайшоў дарогу да багацькаўскага розуму і сэрца.

Агульная трывога: няма снегу! Баяцца перасеву. І што такое? Кажуць, Белае мора ў другі бок паплыло. Кажуць, цяпер на Каўказе будзе наш клімат, а ў нас каўказскі. І многа чаго кажуць. Разганяюць трывогу жартамі: «Нічога... Можа, кааператыў надумаецца выпісаць вагонаў дзесяць снегу з Масквы, бо ў Менску, кажуць, таксама няма». А каб снег, дык у будучым годзе падатак зусім не страшны: за пуд пянькі плацяць ужо 8 р. 40 к. Да вайны, калі была добрая цана, у нас многа сеялі канапель і лёну. І сёлета, «хто быў разумны», сеялі ўжо болей, чым летась, а налета кожны лёгка расплоціцца адной пянькой. Пакуль жа што — з падаткам цяжкавата. І ва ўсіх адна думка: як бы палепшыць землекарыстанне. На жаль, няма яшчэ патрэбнай дружнасці, многа чыста сялянскай старой думкі пра аднаго сябе, пра адну сваю выгаду, і няма ніякага штурхача зверху, ад начальства. Ужо ўсе і памногу сеюць віку, некаторыя хочуць перайсці на канюшыну, але няма насення, няма грошай на насенне, няма як і сеяць, пакуль надзельная зямля ў трохполлі. Перайшлі б на шырокія палосы, але «без начальства не паміраецца». Некаторыя, аднак, самі па сабе пачынаюць абменьвацца кавалкамі зямлі, найболей пры гародах,— той, хто выселіўся на паласу ў поле, з тым, хто застаўся на старым і мае зям-

лю побач. А другія, маласвядомыя, на іх бурчаць: нашто поле (сваю паласу) забіраюць пад гарод, пашы для скоту застаецца меней. Збіраюцца садзіць сады, каб яблыкамі выплачваць падатак, але не ведаюць, дзе ўзяць столькі прышчэпак, ці прост яшчэ цягнуць па розных прычынах: то далёка ехаць, то няма грошай, то хто яго ведае, дзе там каго шукаць, як там з кім гаварыць... «Кажуць, у Горках прышчэпкі прадаюцца, а хто яго ведаець, ці праўда, ці не... А можа, дужа дарага? Ат, застанецца ўжо пакуль што так...» Вучыцялі бліжэйшыя гэтымі справамі не цікавяцца. Толькі слаўнаўскага вучыцеля сяляне хваляць. Казаў: «На чым не станець, а купіны ў старынскіх канцох зрэжу».

## II

У школах пачалі з восені вучыць па-беларуску. Справа ідзе добра. Дзеці вучацца па-беларуску з радасцю. «Адвеку мы спалі» ведае цяпер і стары і малы. Калі вучыцель не ўсякае слова разумее, памагаюць вучні. Але няхват беларуска-расійскага слоўнічка — вялікая прыкрасць. «Хоць бы ў канцы падручнікаў былі маленькія «слоўнічкі»,— казаў мне адзін настаўнік. Бацькі, з якімі я гаманіў, падходзяць да беларушчыны па-свойму. Ёсць яшчэ і такія, што кажуць: «Як даўней у рускіх кніжках дык хоць малітвы былі, а ў гэтых у вашых, беларускіх,— *ішоў бай па сцяне*... Ну, нашто ён дзяцём гэты бай, калі яны і так яго ўмеюць». Другія задаволены, што «Беларусь хоць кніжкі ткі дала. А то бывала — на дзесяць дзяцей адна кніжка і тая падраная». Тут трэба адзначыць, што «за граніцаю», вёрст сем-дзесяць ад нас, і цяпер кніжак у школах дужа мала, а ў беларускія школы падаслалі сёлета значна болей. Праўда, мая 10-гадовая пляменніца вучыцца па «Выпісах з беларускай літаратуры», ч. II! Але колькі радасці і гонару ёй, што ў школе далі кніжку! Меншыя носяцца з лемантаром С. Некрашэвіча, як з цукеркамі. Нядаўна раздаў вучыцель «Роднае слова», аб чым дзеці мне і пахваліліся, наўмысля прыйшлі пахваліцца, і вочы іх ззялі вялікаю ўцехаю. Бацькі хаваюць сваё здаваленне за паважнымі ўхмылкамі. Але я бачу, як падкупіла іх «гэтая ўжо Беларусь» не толькі кніжкаю, а і пяром, асадкаю (ручкаю), лістком паперы. Ёсць у нас і зусім сведамыя ў беларушчыне сяляне; выпісваюць і «Беларускую

вёску» і «Савецкую Беларусь», газету «Наш працаўнік»[1]. Яны толькі прасілі мяне «сказаць там», «каб пісалі троху прасцей», «бліжэй да нашага».

Тут жа мімаходам адкажу, што заязджаў у Багацькаўку па нейкай справе селянін «з-за граніцы», з в. Сямёржы, казаў, што іхная вёска і яшчэ некаторыя суседнія ўжо год, як падалі просьбу, каб іх далучылі да БССР, але дагэтуль ніадкуль ніякага адказу не маюць. Іх дужа дзівіць, чаму так доўга няма адказу. Наколькі гэта праўда, я не ведаю і за праўдзівасць яго слоў не ручаюся.

Я ўсё прошлае лета пражыў у Багацькаўцы і бачыў ужо тады, як у сувязі з далучэннем да БССР, раёнаваннем, некаторую зменаю працаўнікоў і г. д. куток наш значна ажыўляецца. Цяпер жа яшчэ болей усё заварушылася. Часцей прыязджаюць партыйныя і савецкія працаўнікі. Часцей і лепей гамоняць з сялянамі. Бліжэй сталі сельсаветы. Ад нас сельсавет цяпер за 5 вёрст, у Слаўнаве. Туды цяпер прывозяць пошту. Пры ім адчынілася хата-чытальня. Завяліся там камсамольцы... Адчыніўся там каапературыў. Ажывіліся ўсе школы. Настаўнікі і камсамольцы ставяць спектаклі. Ставяць на беларускай мове, і гэтая навіна таксама ўсіх варушыць. Праўда, не ўсе настаўнікі роўныя, ёсць яшчэ ўсякія, але ўсе, як мне здаецца, стараюцца падцягнуцца. Працуюць і камсамольцы; ад старых людзей па іх адрасу можна пачуць не зусім ласкавенькія словы, асабліва, разумеецца, за бога, і гэта знак, што праца камсамольская даецца ў знакі, няўпынна расце. Можна толькі пажадаць, каб таварышы камсамольцы нашага глухога кутка болей змагаліся з тою блытанінаю ў старых галовах, што калі хто не верыць у бога, дык ён ужо і бацьку «старым дурнем называе і ў грудкі з ім гуляць бярэцца», што яму ўжо тады «ніякія законы не пісаны». Змагацца з гэтым трэба як словам, так і дзелам, зварочваючы, між іншым, належную ўвагу на ўчынкі тых некамсамольцаў, але, так сказаць, «памагачых», якія даюць ворагам камсамольцаў некаторую аснову нападаць на «памагачых», а з імі разам і на камсамольцаў.

Едучы назад у Менск, я начаваў у вёсцы Цёмны Лес, бо цягнік сюды прыходзіць а 6-й гадзіне ўночы і ехаць ноччу цяпер дужа дрэнна.

[1] Выдаецца ў Клімавічах.

Тут ад дзяўчыны Пёклы запісаў я 12 беларускіх песень. Як даў ёй за гэта цукерак на 30 кап. (болей не меў), яна была дужа ўсцешана, што і песні яе нечага варты, і надта прасіла, каб заязджаў яшчэ, калі трапіцца ехаць, і што яна спяе мне «хоць сотню» песень. Цікаўна, што запісаў я тут песню «Ой пайду я лугам, лугам», аб якой думаў, што яна ёсць толькі на захадзе Беларусі.

Вось вам цёмналескі адменнік гэтае песні і разам — прыклад цёмналескай гаворкі:

Як пайду я лугым, лугым,
А мой мілы арэць плугым.
Пынясу я яму есці,
Ці ні скажыць мілый сесці.
Пынясу яму я піці,
Ці ні станіць гаварыці.
Ён наеўся і напіўся,
Ны ральлю пыкаціўся.
Што ж ты, мілінькі, ня вор(і)ыш [1],
А са мною не гавор(і)ыш і г. д.

## ЗБІРАННЕ І АПРАЦОЎКА ФАЛЬКЛОРУ

Говары вуснай паэзіі маюць важнае навукова-грамадскае і літаратурна-мастацкае значэнне.

Збіранне і даследванне іх асабліва патрэбна цяпер, у пару беларусізацыі і новага будаўніцтва беларускай культуры ў БССР.

Збіранне нашых вусных твораў можа мець масавы характар, можа ажывіць усю нашу краязнаўчую працу.

Даследванне нашых вусных твораў шмат чаго вытлумачыць нам у гісторыі культуры — як агульнай, так і нашай, і дасць нам належныя падставы ў справе гістарычнай паэтыкі.

Гэтае даследванне раскрые нам сутнасць самабытнабеларускай паэтычнай творчасці. Яно будзе дапамагаць нашым паэтам і пісьменнікам тварыць і працаваць па-беларуску з належнай тэарэтычнай свядомасцю і тэхнічнай дасканаласцю. Яно высветліць наш фальклорны матэрыял так, што і школа наша зможа карыстацца ім у належнай меры і з належным падыходам.

Дагэтуль шмат сабрана, але мала даследвана. Сабраны дагэтуль матэрыял мае ў нашых вачах і дадатныя і ад-

[1] Чуецца «р» сярэдняе між цвёрдым і мяккім.

моўныя бакі. З аднаго боку, тут даўнасць запісаў, запісы з розных мясцовасцей, шмат друкавалася (параўнальна), захаваны дыялектычныя асаблівасці (больш-менш), сабраны матэрыял дапамог вывучэнню беларускай культуры, дапамог развіццю беларускай літаратуры і г. д. З другога боку, тут: дужа мала даследванняў (дык не ствараілася належных перспектыў для далейшай працы), збіранне мела выпадковы характар, не было ніякай агульнай планавасці, па тэрыторыі і па часе запісвання сабраны матэрыял дужа няроўна прадстаўлены, дзе і калі многа, дзе і калі нічога, збіральнікі не былі належна кваліфікаваны як наогул, так і ў збіральнай працы (ёсць розныя памылкі ў запісах, ёсць падпраўленыя месцы, ёсць ухіл у бок расійскай мовы і правапісу, няма ніводнага матыву, прасочанага збіральнікам, па магчымасці, поўна, часта не захаваны метры, рытмы, строфы і не дадзена пры гэтым мелодыя, наогул мала запісана мелодый, а доследаў у справе мелодый і зусім няма, няма запісаў таго самага твора ад тае самае асобы ў розны час, зазвычай не паказана, як рабіліся запісы, і некаторыя, напр.[ыклад], казкі, запісаныя вучнямі, пісарамі і да т. п., магчыма, не перадаюць і прыблізна таго мастацтва, з якім казаў казачнік, часта не паказваецца, дзе і калі запісана і г. д.); апроч таго, друкаваных зборнікаў цяпер няма ў продажы, часам няма нават у кабінетах навуковых устаноў.

У працы па збіранні і даследванні нашага фальклору, якая вядзецца цяпер, таксама ёсць пэўныя дасягненні: вышэйшы стан навукі ў гэтай справе, вышэйшая тэхніка (фанографы, стэнаграмы і г. д.), вышэйшая кваліфікацыя сярэдняга масавага збіральніка і да т. п., але ёсць і шмат заган і недахопаў. На гэта мы, маючы практыку нашых папярэднікаў, павінны цяпер звярнуць належную ўвагу і выйсці на лепшы шлях. Прыкладам кажучы, і цяпер у нас блізу не робіцца доследаў, прынамсі, мы яшчэ не маем дзейнай цэнтралізаванай даследчай працы над нашым фальклорам, дзеля гэтага, ізноў жа, не ствараецца належная навуковая перспектыва і не выцякаюць з агульнай працы належныя дырэктывы, г. зн., кіраўніцтва не мае і не можа мець моцнай падставы, носіць тэарэтычны характар. Сабраны матэрыял не друкуецца, няма навуковай крытыкі на яго, няма сувязі з суседзямі (нават па Саюзе), няма шырокадаступнага для доследаў матэрыялу, няма і паляпшэння ў збіральнай працы паасобных працаўнікоў. А галоўнае — пры нашым сучасным стане працы няма і

не можа быць цвёрдага і добра распрацаванага плана, інструктаж маем толькі самага агульнага характару, яшчэ і гутаркі не можа быць аб належнай дэталізацыі збірання па асобных мясцовасцях. Мы наглядаем цяпер раскіданасць у працы і з таго боку, што хапаюцца за ўсё адразу, збіральнікі не спецыялізіруюцца на пэўных відах фальклору. Звычайная рэч — простае тэхнічнае няўмельства пры самым добрым жаданні і пры належных магчымасцях даць дабраякасны матэрыял (бо і праграма па збіранні вуснай народнай творчасці толькі-толькі надрукавана ў № 2/3 «Нашага краю»). Далёка яшчэ не заўсёды і не ўсюды наглядаецца і належная зацікаўленасць і актыўнасць у краязнаўчай працы наогул, а значыць, і ў збіранні фальклору з боку шырокіх слаёў нашай нават сялянскай інтэлігенцыі. Ну ці ж не мог бы кожны наш настаўнік мімаходам запісаць вусныя творы ў сваёй вёсцы? А па колькі народных мелодый умеюць пяяць нашы настаўніцы? Сялянка ўмее 50—100, а настаўніца-сялянка часам усяго 2—3 мелодыі. Можна яшчэ зазначыць, што нашы літаратурныя гурткі, школьныя і інш. хоры не звязаны шчыльна з жыццём нашых мас: ёсць пэўная адарванасць ад масавай песні і ад масавага апавядання.

Вывады з вышэйсказанага.

Трэба зараз арганізаваць і распачаць даследчую працу над нашым фальклорам. Трэба друкаваць сабраны матэрыял і тэарэтычныя артыкулы як вынікі доследаў. Трэба паставіць на ногі замежную і ўнутраную інфармацыю. Трэба пашырыць культурную агітацыю ў справе збірання, ствараючы і грунт і абставіны, якія спрыяюць рабоце, трэба тварыць масавыя хоры і развіваць пяянне ў самых шырокіх размерах, трэба ўводзіць пяянне прымітывак (але без найменшай утрыроўкі і шаржавання), трэба, каб пялі не толькі вучоныя артысты-прафесіяналы, а выступалі б на сцэне і пеюны-мастакі з рабочых і сялянскіх мас без ўсякай тэарэтычнай падрыхтоўкі, але прызнаныя той масай, што іх акружае. Трэба, каб літаратурныя гурткі мелі ў ліку сваіх членаў і казачнікаў з народа, каб гэтыя казачнікі-мастакі выступалі з сваімі апавяданнямі, прымалі б удзел у літаратурных з'ездах і нарадах, каб імя іх папулярызавалася ў прэсе, як імя артыстаў. Трэба, каб наш універсітэт штогодна рабіў узорныя запісванні фальклору, пасылаючы калектывы студэнтаў пад кіраўніцтвам спецаў. Зараз трэба звярнуць увагу на тыя мясцовасці, якія дагэтуль зусім невядомы ў навуцы сваім фальклор-

ным багаццем. Трэба спяшацца, бо шмат чаго пад уплывам рэвалюцыі, ломкі быту, пад уплывам школы і кнігі (прычыны, агульныя для СССР) і пад уплывам русіфікацыі і паланізацыі, шмат чаго гіне. Трэба павышаць кваліфікацыю збіральнікаў праз інструктаж на пісьме і на з'ездах і ў асабістых гутарках — абменам думак і таварыскай крытыкай пры ўсякай магчымасці. Не трэба з даследчага матэрыялу нічога адкідаць зняважліва, бо ў самым дрэнным запісе знойдзецца нешта карыснае для ўвагі даследчыка. Трэба заахвочваць збіральнікаў прэміямі і да т. п.

Гаварыць тут аб самой тэхніцы запісвання не прыходзіцца як дзеля таго, што на даклад даецца дужа мала часу, так і дзеля таго, што паспешныя тэарэтычныя развažанні ўсё роўна нічога асаблівага не дадуць таму, хто практычна не займаўся яшчэ збіраннем фальклору, і не здаволяць таго, хто цікавіцца рознымі дэталямі. Але ўсё ж трэба хоць звярнуць увагу на тыя дэталі ў «Праграме збірання вуснай народнай творчасці» («Наш край», № 2, 1925 г.), якія варта будзе абгаварыць хоць у камісіі. Вялікае пералічэнне таго, «што трэба запісваць», можа быць карысным з таго боку, што нагадвае пеюну ці казачніку які-небудзь ведамы яму твор (я лістаў этнаграфічны зборнік, чытаў пачатак песні і пытаўся: «Ці ўмееш гэтую песню?» Вынік быў дужа добры). Далей — «як трэба запісваць?». Я думаю, што, калі ўжо моваязнаўцы вядуць самастойныя запісы, мы ў сваіх запісах павінны, разумеецца, захоўваць усе, па магчымасці, асаблівасці мовы, але не столькі паганяць за гэтым (дыфтонгі і да т. п.), колькі за дакладнай перадачай літаратурна-мастацкага боку ў слоўным творы. Пры запісах абавязкова трэба даваць розныя належныя весткі, зазначаючы заўсёды, ці збіральнік сам гэта ведае, ці ён гэта толькі чуў ад каго.

Што да «апрацавання» сабранага матэрыялу, як аб тым гаворыцца ў пастаўленай тэме даклада, дык тут трэба сказаць хоць пару слоў аб прынцыпе падзелу вусных народных твораў на асобныя групы; праца, якую прыйдзецца весці і ў меншых краязнаўчых асяродках. Можна б было дзяліць па эпохах, па матывах, але ўсё гэта звязана ўжо з даследчай працай, а пры кваліфікацыі нашага сярэдняга працаўніка гэта было б хіба не дужа карысна, а трудна і не прадукцыйна. Дык можна спыніцца на такім падыходзе. Збіральнік прысылае творы ў тым парадку, у якім ён іх запісваў, не трацячы дарэмна часу на класіфікацыю, але

пішучы кожны твор на асобных лістках дзеля зручнасці нератасавання. Меншы краязнаўчы асяродак дзеліць прысланыя ў такім выглядзе матэрыялы на групы «па старынцы» — так, як твор жыве ў народзе (песні: калядныя, вяснянкі і г. д.), падбіраючы яшчэ матэрыял і ў адной групе па сходных матывах-тэмах. Да зборнікаў прыкладаецца спіс, у якім паказваецца падзел матэрыялаў па мясцовасці, па часе, па роду, віду і матыву (матыў-тэма каротка зазначаецца, хаця ў двукоссях, пры назове кожнага твора). У такім выглядзе матэрыял ідзе ў Інбелкульт. Гэта не выключае магчымасці друкаваць індывідуальныя зборнікі (сабраныя адным чалавекам). Нарэшце, усё, што я кажу аб «апрацаванні», павінна разглядацца толькі як матэрыял для дыскусіі. Літаратурная камісія Інбелкульта апрацуе належную інструкцыю, калі гэта прызнана будзе патрэбным. А прызнанне прыйдзе толькі ад самога жыцця.

Дазвольце выказаць пажаданне, каб склікаліся з'езды не толькі агульныя ўсіх краязнаўцаў, але і спецыяльныя з'езды фалькларыстаў, на якіх было б троху болей часу пагаманіць па спецыяльнасці.

## МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН

### ПУСТАСЛОЎЕ НА ПУСТАСЛОЎЕ...

У № 42 (1341) «Савецкай Беларусі» змешчан «Маленькі фельетон» — «Пустаслоўе...» Алёшы.

Бачыце, не паспела мая «Гісторыя беларускай літаратуры» з'явіцца ў продажы, як Алёша кінуўся на яе «ўрожкі». Перагарнуў туды і сюды, не знайшоў таго, што яму хацелася, і смела зрабіў заключэнне:

«Глупства ў навуковых доследах».

Пэўна ж, той, хто прачытае маю кніжку, сам убачыць, ці ёсць у ёй гэтае глупства, ці яно толькі створана разумнаю галавою Алёшы.

Аднак дзеля таго, што прыёмы, якімі арудуе Алёша, з'яўляюцца зусім новымі ў гісторыі беларускай літаратуры, я лічу патрэбным звярнуць на іх увагу чытачоў «Савецкай Беларусі». Дый лічу не лічу, хачу не хачу, а мушу, бо такая ўжо мая нешчаслівая прафесія.

Дык вось, галоўны баявы прыём Алёшынага бокса, як і яго французскай барбы, гэткі: ён бярэ на свае рожкі

толькі пачатак з майго тлумачэння таго ці іншага слова, падстаўляе ножку і стараецца паваліць... скрываючы, што ёсць яшчэ і працяг і канчатак!

Напрыклад, у мяне напісана:

«*Проза* — зазвычай прынята называць прозаю ўсё тое, што напісана не вершам, адзначаючы невершаваныя мастацкія творы назовам: мастацкая проза, прыгожая проза. У праўдзівым жа значэнні проза — гэта літаратура, пісаная без творчасці, без натхнення, у якой не павінна быць вымыслу, фантазіі. Проза — навуковая літаратура, школьныя падручнікі, газетныя артыкулы і да т. п. (геаграфічныя апісанні, летапісы, успаміны; гісторыя, біяграфія, характарыстыка, манаграфія, крытыка, прамова і г. д.)».

Не скажу, каб гэта было дужа дасканалае тлумачэнне, бо хоць у другім месцы кнігі я і тлумачу, што і ў празаічных творах бывае паэтычны элемент, але не кажу выразна, што такія празаічныя жанры, як фельетон Алёшы, таксама пішуцца з натхненнем. Навуковая памылка, праўда! Але хто не памыляецца? І калі можна «памыліцца» ў маленькім фельетоне на Алёшыну мерку, дык у вялікай кнізе можна памыліцца і на маю мерку.

Алёша ж піша так:

«Але вышэйшай мудрасці дасягнуў аўтар у тлумачэнні слова: *Проза* — зазвычай прынята называць прозаю ўсё, што напісана не вершам...»

І на гэтым у Алёшы — стоп, як бы ніякага тлумачэння болей у мяне і няма. Алёша падстаўляе ножку, закрывае недаказам усякія працягі і канчаткі і пераможліва рагоча: вось дык вытлумачыў — «усё тое, што не верш, дык проза, а што не проза, дык верш...».

Як бачым, у такім прыёме можна абысціся і без вышэйшай мудрасці. Але хоць прыём і новы, небывалы ў ведамым мне «навуковым доследзе» ўсяе гісторыі беларускай літаратуры, але ж і няпэўны прыём. Гэтак можна і ножку літаратурную вывіхнуць.

Бо нядобрая гэта справа ўтойваць... І канчаткі і пачаткі, дзе іх утойваць не дазваляецца. Ну як бы, скажам, выглядала, каб я, аналізуючы тыя ўплывы, пад якімі складалася ідэалогія якога-небудзь аўтара, выпнуў бы наперад шкадлівыя ўплывы яго ранейшых гадоў, а пра ўплывы сучаснасці ўзяў дый нічога не сказаў бы?

Гэта было б з майго боку амаль што так, як зрабіў у сваім «Пустаслоўі» Алёша. І мэта разгляду была б зусім

такая, што і ў Алёшы, калі ён рынуўся пісаць гэтае «Пустаслоўе».

Фельетон мой выйшаў не зусім «маленькі», але справа, як самі бачыце, не столькі асабістая, колькі літаратурна-грамадская: ахова ад алёшанскіх прыёмаў...

## БІБЛІЯТЭКА ПАД ЗЯМЛЁЮ

### (ДА ЎВАГІ ІНБЕЛКУЛЬТА) (М. КАЛІНІНСК)

Прыблізна ў 1897 ці ў 1898 годзе ў клімавіцкім астрозе рабілі рамонт. Калі ў адной камеры перасцілалі падлогу (па-тутэйшаму — «мост»), дык зямля праваліласе як у якое бяздонне.

Разгледзеўшы гэтае правалле, знайшлі ў ім вялікі мураваны склеп, усё роўна як пакой жыць. Ля сцен пакоя стаялі вялізныя дубовыя шафы з паліцамі, і ўсе паліцы былі пазастаўлены вялікімі і грубымі кнігамі.

Начальнік астрога, на прозвішча Марціноўскі, замкнуў камеру і пайшоў да іспраўніка паведаміць.

Іспраўнік даў гэткі загад:

«Немедленно самым тщательным образом засыпать щебнем и мусором и залить цементом образовавшееся подземелье, отнюдь ничего в нем не трогая» [1].

У 1913 ці ў 1914 г. дачуўся аб гэтай справе ад астрожных даглядчыкаў настаўнік Клімавіцкай мужчынскай гімназіі Ярaслаўцаў. Настаўнік гэты, як я чуў ад т. Алеся Адамовіча, а яму казалі клімавічане, жыве цяпер ва Уладзівастоку. У сваім геаграфічна-статыстычным нарысе пра Клімавічы Ярaслаўцаў апавядае аб сваёй спробе адкапаць бібліятэку.

Ён прасіў дазволу ў турэмнага інспектара, графа Талстога, падняць на свой кошт падлогу ў адной астрожнай камеры.

Неўзабаве пасля таго Талстой прыязджаў у Клімавічы і дазволіў Ярaслаўцаву падняць драўляную падлогу ў камеры, што побач з тою, у якой некалі праваліласе зямля.

На гэты раз пад зямлёю знайшлі вузкі калідор, з пабялянымі сценкамі, і з калідора — дзверы ў той пакой, дзе кнігі.

---

[1] С. Я. Ярославцев. Город Климовичи, Вильно, 1914 г.

Аднак, як піша Яраслаўцаў, прабіцца ў бібліятэку яму не ўдалося: гэтак дужа было забіта зямлёю, дробным каменнем, жвірам і заліта цэментам. Перашкодаю было, мусіць, і тое, што павесці большыя раскопкі на свой кошт Яраслаўцаў не меў грошай.

Яраслаўцаў думае, што тут якраз, дзе цяпер астрог, і быў той Клімавіцкі дамініканскі манастыр, які існаваў да 1626 года [1], а потым сляды яго для пазнейшых часоў згубіліся.

І зусім магчыма, што ў гэтай манастырскай бібліятэцы, пахаванай ад вока людскога на колькі сот гадоў, ёсць вялікія гістарычныя і літаратурныя скарбы.

Інстытут беларускай культуры, затраціўшы на шуканне бібліятэкі зусім малыя грошы, можа мець вынікі незвычайнай каштоўнасці.

І варта было б зрабіць гэта ў сёлетнім жа леце, калі спраўляем 400-годдзе друку на Беларусі.

## НАШАНІЎСКІ ПЕРЫЯД У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Паважаныя таварышы і калегі! Пасля даклада М. М. Піятуховіча мне застаецца толькі ў пэўнай меры дэталізаваць агляд нашай літаратуры. Я спынюся на агульнай характарыстыцы так званага «нашаніўскага» перыяду, ці нацыянал-адраджанізму (па выразу, уведзеным т. Бабарэкам), і зраблю вывады адносна перыяду пасля-кастрычніцкага.

Ужо папярэдні дакладчык сказаў, што гісторыя беларускай літаратуры ёсць яшчэ маладая навуковая дысцыпліна. Як стаіць справа ў нас на Беларусі наогул з літаратуразнаўствам? Яно ў нас пастаўлена слаба. Але ўжо з'яўляюцца працы вучоных беларусаў і вучоных, якія працуюць на грунце беларускай навукі (праф.[есар] Замоцін, Вазнясенскі, Барычэўскі і інш.). Калі мы прыглядзімся да крытыкі ў агульным абхваце літаратуразнаўства, дык мы павінны сцвердзіць, што крытыка ў нас слаба развіта. Але апошнім часам ужо пачынае развівацца самастойная беларуская крытыка. Я зварочваю ўвагу на развіццё крытыкі марксісцкай, асабліва патрэбнай для

[1] «Slownik geograf», t. IV, старонка 152.

правільнага літаратурнага развіцця. Гісторыя літаратуры — самая самастойная частка нашага літаратуразнаўства. Над гісторыяй беларускай літаратуры цяпер шмат працуюць нашыя беларускія вучоныя і ў першую чаргу праф.[есар] Піятуховіч і У. Дзяржынскі.

Якімі метадамі мы карыстаемся ў Беларусі? Праф.[есар] Піятуховіч ужо казаў аб гэтым. Я толькі адзначу, што ў нас на Беларусі да апошняга часу ў нашай гісторыі літаратуры быў падыход ідэалістычны і матэрыялістычны. Ідэалістычны падыход дазваляў казаць так, напрыклад, што беларускія шляхецкія пісьменнікі пісалі «в силу естественного влечения писать на родном языке». Нас такое тлумачэнне літаратурнай з'явы, як з'явы сацыяльнай, цяпер не здавальняе, тым болей што роднаю моваю для гэтых пісьменнікаў была болей мова польская, чым беларуская. І вось цяпер ёсць другі падыход, падыход матэрыялістычны, які тлумачыць нам гэтую з'яву зусім правільна. Я павінен таксама сказаць, што гісторыя Беларусі наогул даследавана мала. Гісторыкі беларускай літаратуры не могуць карыстацца гатовымі матэрыяламі гісторыкаў-сацыёлагаў. Тут толькі адно выключэнне, гэта кніжка праф.[есара] Ігнатоўскага — «Гісторыя Беларусі XIX—XX стст.». Вы бачыце, якія цяжкасці мы маем пры вывучэнні нашай гісторыі літаратуры.

Цяпер, калі б мы хацелі пачаць аналізаваць нашую літаратуру за апошні час, дык мы, безумоўна, павінны разгледзець той перыяд, які прывёў нас да паслякастрычніцкага перыяду.

Нацыянал-адраджэнцкі характар гэтага літаратурнага перыяду выяўляецца ў ідэалізацыі культурна-нацыянальнага беларускага адраджэння, у любові да Беларусі, да яе культуры, быту, прыроды і г. д.

Сялянскі характар нашаніўскай творчасці выяўляецца ў сялянскіх імкненнях аўтараў, у іх індывідуалізме, блізкасці да прыроды, у перажываннях, звязаных са з'явамі ў прыродзе, у мімавольнай ідэалізацыі сялянскай працы, у вялікай прывязанасці да свайго роднага кутка, да таго кавалка зямелькі, дзе жылі і спачываюць дзяды.

Галоўнымі тэмамі нашаніўцаў былі агульнарэвалюцыйныя, сацыяльна-бытавыя, нацыянальна-бытавыя і звязаныя з асабістымі перажываннямі аўтараў. Тут можна знайсці жыццё вёскі, настаўніцтва, вучнёўскай моладзі, зрэдку — жыццё мястэчковых рамеснікаў. Тут можна знайсці палітычную лірыку. Тут можна знайсці заклік да

змагання. Ёсць у нашаніўцаў і горыч безнадзейнасці, хоць і не дужа часта. Гэтая вялікая горыч залежала ад таго, што народ беларускі, які складаецца галоўным чынам з сялянскіх мас, надта цяжка было ўсвядоміць нацыянальна і наогул сацыяльна. Беларускія палітычныя партыі мелі справу з сялянствам, і вось пасля рэвалюцыі 1905 года ў некаторых беларускіх пісьменнікаў заўважваецца расчараванне адносна ўсведамлення сялянскіх мас; гэтае расчараванне даходзіць часам да такой безнадзейнасці, якая прывяла Сяргея Палуяна да самагубства. Тэмы свае бяруць яны і з мінулага Беларусі, прычым характэрна, што Янка Купала, малюючы ў нашаніўскім тоне гэтае мінулае Беларусі, з аднаго боку, як бы наўмысля ідэалізуе яго, як, напрыклад, у вершы «Над Нёмнам», а з другога — піша «Курган», страшны пратэст супроць князёў, супроць здзеку над працоўнымі беларускімі масамі. Чаму гэта так? Таму, што нашаніўцы, малюючы мінулае Беларусі, хацелі прывесці масы да нацыянальнай самасвядомасці. З другога боку, яны хацелі ўсвядоміць беларускія масы сацыяльна, хацелі паказаць праўдзівае жыццё даўняга часу. Ці трэба казаць, што мы, апрача таго, знаходзім у нашаніўскай паэзіі любоўную лірыку, прыродаапісальную лірыку і г. д. Але нават у лірыцы кахання тыповы нашанівец пастараецца правесці ідэі нацыянал-адраджанізму, звязанага з эканамічным адраджэннем.

Калі мы паглядзім на фармальна-мастацкі бок нашаніўства, то можна сказаць, што ён стаіць у залежнасці ад агульных сацыяльна-эканамічных прычын. Творы нашаніўцаў яшчэ невялікія, таму што вялікіх твораў не маглі пісаць рабочыя і сяляне. Асобнай літаратурнай школы або кірунку няма, як сказаў праф.[есар] Піятуховіч. Але ўсе нашаніўцы пішуць свае творы ў здаровым рэалізме, на глебе народнай творчасці. Аднак яны высака падымаліся над агульным прымітывізмам народнай творчасці.

На беларускую мову нашаніўцы глядзелі так, што яна павінна ахапіць усе з'явы жыцця (вышэйшая адукацыя, дзяржаўнае дзелаводства, тэхнічныя тэрміны і г. д.). Зразумела, што ў той час яны не мелі той дапамогі з боку самога жыцця, якую маем мы цяпер у БССР у развіцці беларускай літаратурнай мовы, калі беларусізуецца універсітэт, сельскагаспадарчая акадэмія, шырокую працу разгарнуў Інбелкульт, беларусізуюцца ўсе дзяржаўныя ўстановы і ўся перадавая частка інтэлігенцыі заўсёды і ўсюды гаворыць выключна на беларускай мове. У залежнасці ад

свайго погляду на мову нашаніўцы і стараліся развіваць багацце і гібкасць беларускай літаратурнай мовы, але знаходзіліся яны з гэтага боку ў вельмі цяжкіх умовах.

Сацыяльны склад нашаніўскіх паэтаў і пісьменнікаў паказвае, што большасць іх была з працоўных мас, галоўным чынам, з сялянства малазямельнага і беззямельнага, з местачковых і гарадскіх рамеснікаў і чорнарабочых. Заможная частка сялянства асабліва ахвотна паддавалася русіфікацыі і паланізацыі і амаль не дала ідэолагаў у нашаніўскай творчасці. Школьная адукацыя нашаніўцаў званычай надта малая. Школы былі сацыяльна і нацыянальна варожыя беларусу-бедняку. Для масы сялянства былі адчынены спецыяльныя школы — царкоўнапрыходскія. Сялянства мусіла вучыцца ў гэтых школах, таму што толькі гэтыя школы і былі яму даступны.

Першыя крокі самастойнага жыцця ў нашаніўцаў прыпалі на час рэвалюцыі 1905 года. Пры гэтым трэба адзначыць, што пасля рэвалюцыйнага ўздыму жыццё пераходзіць у страшэнную рэакцыю, у якой нашаніўцы і павінны былі апынуцца. Надзеі, што праз школу можна было палепшыць сваё эканамічнае становішча, разбіваліся. Не было грошай, каб дапамагчы бацьку; ён і далей хадзіў у лапцях, як і тады, калі сын быў невучоны. Усе яны чакалі новай рэвалюцыі, але ніхто не ведаў, калі яна прыйдзе. І не было моцных эканамічных арганізацый, якія б падтрымалі пісьменніка. І вось патроху развіваецца песімізм, буйнымі кветкамі расце індывідуалізм, які мае глыбокае карэнне і ў сялянскім паходжанні аўтара. Узмацняецца, такім чынам, ідэалістычны светагляд. Сацыялізм у іх афарбоўваецца ўсё болей у нацыянальныя колеры.

Частка нашаніўскіх паэтаў і пісьменнікаў жыве і творыць і пасля Кастрычніка.

Агульную характарыстыку сучаснага стану беларускай літаратуры найлепей пачынаць з аналізу літаратурнага развіцця ва ўсесаюзным маштабе. Тут ёсць шмат агульнага, толькі заўсёды трэба дадаваць пункт: нацыянальнае пытанне, нацыянальная культура. Я дазволю сабе спыніцца на рэзалюцыі, прынятай Камуністычнай партыяй у галіне мастацкай літаратуры. Мы бачым, што ў сувязі з агульным уздымам эканамічных сіл развіваецца і вялікая літаратурная прадукцыя ў нашых савецкіх умовах. Мы бачым, што класавае змаганне, не спыняючыся наогул, не спыняецца і на літаратурным фронце. У класавай грамадзе няма нейтральнага мастацтва. Але што да зместу тво-

раў, дык крытэрый у пралетарыяту мог быць выпрацаваны раней — і ён ёсць, а што да формы мастацкіх твораў, дык тут крытэрыю мы пакуль што не маем. Наша эпоха свайго стылю яшчэ не знайшла. І вось у нас, нават у нашых самых рэвалюцыйных літаратурных аб'яднаннях, як «Маладняк» і «Узвышша», ёсць розныя формы, ёсць розныя погляды на форму.

У беларускай літаратуры паслякастрычніцкага перыяду найперш няма той аднапітнасці пісьменнікаў, якая была раней. Пісьменнікі рэзка падзяляюцца на «старэйшых і маладзейшых». Старэйшыя перамагаюць у форме, а маладзейшыя перамагаюць у ідэалогіі. Але я маю адвагу заявіць, і думаю, што мае таварышы з ліку старэйшых са мною згодзяцца, што маладыя пісьменнікі пачынаюць перамагаць і ў форме, бо яны шукаюць новых форм, а старэйшыя пісьменнікі ў гэтым кірунку робяць значна меней. Ніхто другі, як наш маладняк (сябры арганізацый «Маладняк» і «Узвышша»), прынёс у нашую новую паэзію верлібр (вольныя вершы), а таксама і іншыя фармальна-мастацкія дасягненні, што добра разгледзеў у сваіх артыкулах паэт і малады вучоны т. Дубоўка.

Праз увесь гэты час у літаратуры адбіваюцца нацыянал-адраджэнцкія настроі, з аднаго боку, і пралетарская ідэалогія — з другога боку. Але я таксама цвёрда скажу, што ў БССР пасля 1921—[19]22 гг. няма такога беларускага пісьменніка, які б не імкнуўся да выяўлення пралетарскай ідэалогіі, таму што толькі пралетарская літаратура з'яўляецца цяпер рэвалюцыйным фактарам. Да 1922 г. дзеля акупацыі, разрух і г. д. некаторыя беларускія пісьменнікі наогул не маглі пісаць, а дзеля прычын ідэалагічнага парадку, як я ўважаю, ім не пісалася на савецкія тэмы. Вось тут і трэба ўспомніць аб пункце: нацыянальнае пытанне, нацыянальная культура. Мы ўсе ўжываем выраз «нацыянальная культура». Для некаторых гэта з'яўляецца лозунгам, але ж лозунг «нацыянальная культура» — ёсць лозунг буржуазны, і толькі ў пэўных умовах гэты лозунг дае імпэт да рэвалюцыйнага змагання. Інакш кажучы, мы разумеем пад нашай нацыянальнай культурай культуру пралетарыяту, сялянскай беднаты, культуру працоўных мас ва ўсім свеце, але тым часам толькі на нацыянальнай мове, у нас на Беларусі — на беларускай мове. Трэба сказаць, што многія з нашаніўцаў перажывалі крызіс у нацыянальным пытанні, як перажываў яго і я сам. Асабліва балючым быў гэты крызіс тады, калі пры-

ходзілася чуць, што чым болей беларусы на ўсходзе абрусеюць, а на захадзе апалячацца, то тым бліжэй яны будуць да Інтэрнацыянала. Кампартыя, Савецкая ўлада, занятыя крывавым змаганнем на многіх франтах, не маглі спачатку выдзеліць належнай увагі на культурнае будаўніцтва. Але як толькі прыйшла магчымасць, дык зараз нацыянальнае пытанне на Беларусі знаходзіць сваё належнае развязанне і пачынаецца шырокае культурнае беларускае будаўніцтва ў савецкіх умовах.

Калі мы прыгледзімся да творчасці Янкі Купалы, дык мы ўбачым, што ён спаткаў Кастрычніцкую рэвалюцыю з вялікім уздымам рэвалюцыйнага пачуцця. Ён дае жменю вершаў, напісаных у 1918 годзе ў надзвычайна прыгожай форме (санеты ў «Спадчыне»), дзе мы бачым, як ён радуецца, што прыйшла гэтая рэвалюцыя. Але, праўда, ён яшчэ не мае ў належнай меры класавага падыходу. Потым, яшчэ за Керанскім, ставіцца пытанне аб нацыянальнай культуры на Беларусі. Янка Купала адчувае і бачыць, што многае тое, на што трэба было спадзявацца, не спраўджваецца. Былі такія выпадкі, калі жаданне гаварыць па-беларуску звязвалася з агульным абвінавачаннем у контррэвалюцыі. Янка Купала пэўны час маўчыць або піша вершы, у якіх адбіваецца ідэалагічная хваравітасць. У 1922 г., калі пачынаецца культурнае будаўніцтва ў Савецкай Беларусі ў новых умовах, Янка Купала піша сваю камедыю «Тутэйшыя», у якой ён праводзіць ідэі беларусізацыі, але ў якой няма гераізму эпохі, і я думаю — не толькі таму, што ў гэтым жанры ён не можа быць, бо Янка Купала браў тую форму, якая была патрэбна да зместу. У 1924 годзе з далучэннем да БССР усходняй Беларусі Янка Купала зноў гарыць полымем творчасці. Злосць яго супроць ворагаў нацыянальнай беларускай культуры змяншаецца, і ён піша нізку вершаў «Безназоўнае». Там у прадмове мы чытаем:

О так, я пралетар!
Яшчэ учора раб пакутны,
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны.
Мне бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся,—
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі.

Вось у гэтых 8-мі радках мы бачым Янку Купалу, мы бачым усю нацыянальна-адраджэнцкую беларускую інтэлігенцыю.

Калі пераходзім да Якуба Коласа, дваццацігодні юбілей творчасці якога мы сёлета спраўляем, дык найперш трэба зазначыць, што ён піша праз увесь час з тым ці іншым імпэтам. Але жыццё на чужыне ў немагчыма цяжкіх умовах не дае яму як след разгарнуць свае творчыя здольнасці. І толькі калі з дапамогаю Савецкай улады ён у 1921 годзе пераязджае на Беларусь і далучаецца да актыўнага культурнага будаўніцтва на Беларусі, дык пачынае пісаць надзвычайна многа. Спярша ён хапаецца дапісаць старыя творы («Новая зямля», «Сымон-музыка»), на якіх ужо адбіваецца паслякастрычнікавы настрой аўтара, потым піша новыя творы з эпохі рэвалюцыі 1905 г. («У палескай глушы», «Забастоўшчыкі») і ад іх пераходзіць на тэмы савецкія.

Ён малюе пералом у настроі сялянства (зборнік «На рубяжы»), пералом у настроях інтэлігенцыі («Пракурор» і інш.) і, нарэшце, дае быт савецкай вучнёўскай моладзі («На парозе», «За парогам»).

Змітрок Бядуля мае вялікія заслугі ў тым, што ён загадваў літаратурным аддзелам «Савецкай Беларусі» ў той цяжкі час, калі ідэалагічна вытрыманага матэрыялу амаль не было, а трэба было на старонках газеты даваць яго. Змітрок Бядуля выхоўваў наш літаратурны маладняк і разам з тым сам выхоўваў у сабе і выяўляў у мастацкай творчасці пралетарскую ідэалогію.

Цішка Гартны мог сябе выявіць толькі пасля Кастрычніка. На жаль, у сваім рамане «Сокі цаліны», асабліва ў другой частцы, напісанай якраз пасля Кастрычніка і значна лепшай з мастацкага боку, чым першая частка, мы яшчэ не маем таго, што нам цяпер асабліва патрэбна. Рыгор Нязвычны, герой рамана, рабочы-рэвалюцыянер, мае ў сваім характары такія асаблівасці, на якіх не варта было б асабліва спыняць увагу нашай сучаснай вучнёўскай моладзі.

«Маладняк» і «Узвышша» — вось наша праўдзівая рэвалюцыйная сучаснасць, вось наша вабная будучыня. Безумоўна, «Маладняк» і «Узвышша» ў цэлым даюць якраз тое, што цяпер патрэбна для беларускай культуры — пралетарскай у змесце, нацыянальнай у форме.

З боку ідэалагічнага зместу асабліва патрэбна адзначыць высокамастацкія паэмы і лірычныя вершы Міхася Чарота («Босыя на вогнішчы», «Марына» і інш.).

І ўсе нашыя маладыя пісьменнікі паслякастрычніцкага перыяду ідуць тым жа шляхам, даючы мастацкія тво-

ры, цікавыя з боку формы і сувязі свайго зместу з сучаснасцю, у якім кірунку яны ўсё больш і больш развіваюцца (У. Дубоўка, Кузьма Чорны, [К.] Крапіва, Я. Пушча, А. Дудар, М. Зарэцкі, [А.] Александровіч і інш.).

Развіваецца і маладая марксісцкая крытыка (А. Бабарэка і інш.).

Яшчэ зазначу, што ў справе мастацкасці некаторых літаратурных твораў гэтага часу («Песні працы і змагання» Ц. Гартнага, «Буралом» З. Бядулі, некаторыя вершы «Маладняка») можна следаваць прыкладу Пляханава ў аналізе мастацкасці твораў расійскіх народнікаў. І як Някрасава сучасная моладзь хацела ставіць вышэй за Пушкіна, так і ў нас цяпер часам нешта падобнае бывае. Зазначаючы гэта, я ўсё ж цвёрда стаю на высокай мастацкасці нашай паслякастрычніцкай літаратуры, беручы яе агулам.

## СМАЛЕНСК — МЕНСК — ВІЛЬНЯ

Пасля Кастрычніка я жыў у Смаленску і ў самым канцы 1917 г., ці ў самым пачатку 1918 г., пачаў супрацоўнічаць у «Известиях Смоленского Совета».

Я даваў спачатку фельетоны і пераклады з сваіх жа апавяданняў у беларускай мове, пад псеўданімам Дзед Кузьма.

Агалашэнне ў снежні 1918 г. на камуністычнай канферэнцыі ў Смаленску незалежнасці Беларусі нарабіла тады гуку. І яшчэ ў Смаленску, у «Западной Коммуне», а можа быць, і ў «Звяздзе», быў змешчаны мой невялічкі артыкул аб Савецкай Беларусі з загалоўкам па-беларуску: «Няхай жыве Савецкая Беларусь!» Гэта былі, мусіць, першыя прызнаныя беларускія словы ў смаленскіх газетах.

Тады ў Менску мела развінуцца шырокая культурная беларуская праца, і я ахвотна згадзіўся на прапазіцыю тав. Кнорына — пераехаць у Менск на сталую працу ў «Звязду».

Перад самым нашым пераездам дні два газеты ў Смаленску не выходзілі, бо не было электрычнасці. Дык у стары нумар, якога было надрукавана штук сто, пакуль

працавала машына, дадалі трохі новага матэрыялу і так выпусцілі.

У Менску рэдакцыя «Звязды», пераехаўшы з Смаленска, змяшчалася спачатку ў доме, дзе цяпер клуб Карла Маркса, супроць менскага тэатра. Там жа рэдакцыя сфатаграфавалася: тав. Кнорын, тав. Мяснікоў (рэдактары), тав. Іофэ (сакратарка), тав. Пэраль (рабочае і прафесійнае жыццё) і яшчэ некаторыя таварышы. Картка была змешчана ў 2-тыднёвым ілюстраваным часопісе «Заря Запада», які тады выходзіў у Менску. Пазней рэдакцыя «Звязды» перайшла на Савецкую, 63, дзе яна і была да пераезду ў Вільню. Мяне спачатку ганялі з аддзела на аддзел, нарэшце я замацаваўся на тэлеграмах.

Пазней, па маёй ініцыятыве, быў заведзены ў «Звяздзе» маленькі аддзельчык «Эканамічная старонічка». Яго таксама рэдакцыя даручала весці мне.

У самым канцы сакавіка ці ў самым пачатку красавіка 1919 г. рэдакцыя «Звязды» пераехала з Менска ў Вільню, але не ў тым складзе, у якім была ў Менску. На прапазіцыю тав. Кнорына паехаў і я.

Сумна было глядзець у дарозе, колькі разбітых дамоў, пасечанага лесу, акопаў, галодных уцекачоў. Дзе была Смаргонь — там толькі каміны тырчаць ды пабітая цэгла валяецца, болей нічога няма, дрэвы і тыя — пакалечаны, паломаны...

Пасля панавання немцаў Вільня спусцела, людзей было мала, конка не хадзіла, фурманоў не відаць, гандляры керанак не хочуць браць, усё надта дорага, а хлеба і зусім не дастаць.

У савецкіх установах чулася найбольш польская і літоўская мова, на вуліцах — польская і яўрэйская, а калі я зварочваўся да газетніка, фурмана, нумарнога ў гатэлі па-беларуску, дык яны кідалі мову польскую ці расійскую і гаварылі па-беларуску.

Тым часам белыя былі недалёка: станцый за тры ад Вільні ці бліжэй. Іх то адганялі, то яны ізноў бліжэй падсоўваліся. Над Вільняю лёталі часта аэрапланы, кідалі, як мне прыходзілася чуць ад людзей, пракламацыі з заклікам бунтавацца супроць Саветаў. Усюды было шмат шаптуноў; шапталі самае фантастычнае.

«Звязда» змяшчалася ў доме, дзе была раней Літоўская тарыба, на рагу Юраўскага праспекта і Віленскай

вуліцы. У рэдакцыі сталі працаваць часткаю новыя, маласвядомыя мне супрацоўнікі.

Мінулася тыдні тры — і на Вільню наляцелі легіёны пана Пілсудскага. Я прачнуўся ад грукату гармат і кулямётаў.

Тав. Кнорына ўбачыць ужо не здолеў. У гатэлі «Брыстоль» жыла тав. Іофэ, сакратарка «Звязды», і тав. Пятроў — супрацоўнік. Я насілу прабраўся да іх. Калі мы выйшлі на вуліцу апошні раз, пакідаючы ўжо «Брыстоль» зусім, дык кулі ляцелі ад Катэдральнага Пляца ўздоўж па Юраўскаму праспекту, і пераходзіць вуліцу было небяспечна.

Між іншым, справядлівасць вымагае адзначыць, што дапамог нам ратавацца, з немалою рызыкаю і небяспекаю для сябе самога, беларускі драматург і артыст Францішак Аляхновіч. Ён прывёў нас да сябе на кватэру, і там, на Мастовай вуліцы, мы і прыпыніліся, каб трохі абдумацца, якім спосабам выбрацца з Вільні.

Перад Зялёным мастом (што цераз Вяллю, гэта недалёчка ад Мастовай вуліцы) бой быў зацягнуўся, чырвонаармейцы і дружыны камсамола пагналі былі белых трохі назад.

Але выбрацца нам тады не прыйшлося, мы мусілі застацца ў Вільні...

## ТВОРЧАСЦЬ МІХАСЯ ЧАРОТА

З маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, якія пачалі пісаць пасля Кастрычніка, першае месца і па часе з'яўлення, і па вытрыманасці пралетарскай ідэалогіі, і па мастацкай вартасці твораў займаў Міхась Чарот. У «Выпісах з беларускай літаратуры» У. Дзяржынскага змешчана аўтабіяграфія Міхася Чарота, напісаная 5 траўня 1926 г. Адтуль мы даведваемся, што Міхась Чарот — малады чалавек (радз. [іўся] 7 лістапада 1896 г.), сын селяніна, сам працаваў на зямлі, мае невялікую школьную адукацыю (настаўніцкая семінарыя), у часе кераншчыны быў у войску, у часе польскай акупацыі браў удзел у падпольнай камуністычнай працы.

На жаль, крытычнага матэрыялу аб яго творчасці, у параўнанні, маем мала, асабліва за апошнія гады. Тут варта адзначыць гэткія артыкулы і рэцэнзіі: 1) *М. Піятуховіч.*

Рэц. [энзія] на зборнік «Завіруха» («Полымя», № 1, 1922 г.); 2) *У. Ігнатоўскі.* «Матывы лірыкі М. Чарота» (выд. 1922 года); 3) *В. Кнорын.* «На пути к белорус. [ской] пролетар. [ской] поэзии» (дадатак да першага выдання паэмы «Босыя на вогнішчы», 1922 года); 4) *З. Жылуновіч* «Аб крытыцы «Босыя на вогнішчы» і яшчэ аб саміх «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота» («Полымя», № 1, 1922 г.); 5) *М. Маразоўскі.* «Белы дом толькі журыцца...» (Аб «Босыя на вогнішчы» і аб меншавіцкіх акулярах») («Полымя», № 2, 1923 г.); 6) *А. Бабарэка.* «Лірыка Міхася Чарота» («Маладняк», № 9, 1925 г.); *А. Б.* Рэц. [энзія] на «Выбраныя вершы» («Маладняк», № 10(1), 1926 г.); *Л. Трыер.* Рэц. [энзія] на паэму «Ленін» («Узвышша», № 3, 1927 г.).

Дагэтуль з'явілася ў друку два зборнічкі яго лірычных вершаў: «Завіруха» (1922 г.) і «Выбраныя вершы» (1925 г.), шэсць закончаных паэм: «Босыя на вогнішчы» (1923 г.), «Чырванакрылы вяшчун» (1923 г.), «Ленін» (1924 г.), «Марына» (1925 г.), «Беларусь лапцюжная» (1925 г.) і *«Карчма»* (1926 г.), зборнік апавяданняў *«Веснаход»* (1924 г.) і няскончаная [аная] повесць *«Грышка-свінапас»* (пачатая друкам у «Маладняку» з 1923 г.). Паэмы яго друкаваліся ў розных часопісах, а цяпер выйшлі асобн. [ымі] выданнямі. Апрача таго, Міхась Чарот напісаў некалькі драм і камедый, напрыклад, кам. [едыю] *«Мікітаў лапаць»* (Сцэнічныя творы, кн. I, 1923 г.), драм. [атычны] абраз. [ок] у вершах *«Сон на балоце»* (Сцэн. [ічныя] творы, кн. II, 1924 г.), а таксама п'ескі дзеля дзяцей *«Пастушкі»* (час. [опіс] «Зоркі», № 1 і 2) і інш. Музыкальная драма «На Купалле» ішла шмат разоў у Дзяржаўным тэатры з вялікім поспехам, але ў друку не была.

Як бачым, Міхась Чарот даў творы ў розных жанрах, вершах і мастацкаю прозаю. Піша ён і газетныя артыкулы. Гэта — лірык, эпік, драматург і публіцыст.

*Лірычныя вершы і паэмы* ў Міхася Чарота з мастацкага боку стаяць вышэй за ўсё іншае ў яго творчасці. Яны складаюць сабою нешта суцэльнае, бо паэмы яго або развіты з лірычных вершаў, або маюць у сабе шмат лірычных уставак, нават цэльнымі раздзеламі, так што гэтыя раздзелы могуць жыць як самастойныя лірычныя вершы.

У яго вершах першага перыяду (1919—1922 гг., «Завіруха») яшчэ многа слабізны, тут ён часам і пераймае старэйшых, нацыянал-адраджэнцкіх, паэтаў, жадаючы адпіхнуцца ад іх ідэалагічна і знайсці зусім свой самабытны

шлях. Тут у яго два галоўныя матывы: 1) адкрыты, часам афішаваны матыў — гэта адбітак рэвалюцыі, заклік да рэвалюцыі; 2) прыхаваны матыў — гэта нацыянальны, беларускі. І тут ужо ўсюды — рух, імпэт, імкненне, нават у паасобных вобразных выразах і словах і загалоўках вершаў: мяцежны бунтар (хоць гэта і не зусім па-беларуску), вокліч мой, гудзе звон, вечная бура, завіруха, апошні крык і да т. п.

Тут несвядома, а часам і даволі свядома адбіваецца дынаміка рэвалюцыі. У вершах другога перыяду (ад 1922 г., «Выбраныя вершы») больш самастойнасці і арыгінальнасці, цвёрда выяўляецца пралетарская ідэалогія і даецца вельмі мастацкая форма, а калі паэт часам мімаволі каго і пераймае, дык гэта расійскіх савецкіх паэтаў. З боку зместу тут найчасцей знаходзім ідэалізаванне беларускіх паўстанцаў, камсамольскую радасць жыцця, рэвалюцыйнае змаганне. З боку формы тут усё тое, што знойдзем і ў паэмах.

Паэмы ў яго, як было казана, выглядаюць даўжэйшымі лірычнымі вершамі, цыклямі, нізкамі лірычных вершаў з болей-меней агульным зместам. Сюжэта ў іх фактычна няма, або сюжэт выступае ў іх толькі агульным контурам, часам нейкімі агульнымі напамінкамі. Прычына гэтаму, мусіць, тая, што ў гэтых паэмах рэвалюцыйная радасць такая вялікая і мімаволі напышлівая (пафас), што не дае яму магчымасці звярнуць увагу на распрацоўку сюжэта. І ўсюды ў паэмах аўтар больш выяўляе свае ўласныя думкі і пачуцці; паэмы яго дужа лірычныя, суб'ектыўныя. Тэма ўва ўсіх яго паэмах адна: рэвалюцыйнае змаганне беларускай беднаты за сваё вызваленне з сацыяльна-эканамічнага і нацыянальнага ўціску — і то буйная, то ціхая радасць паэта з гэтай прычыны. І герой ува ўсіх паэмах таксама адзін, як гэта першы сказаў А. Бабарэка (гл. яго рэферат на Першым Усебеларускім з'ездзе «Маладняка», 25.XI.1926 г., «Бюлетэнь з'езда», стар. 63). Герой гэты — беларуская бедната. У «Босых на вогнішчы» яна яшчэ неарганізаваная, кідаецца ў вірах рэвалюцыі і туды і сюды. У «Чырванакр.[ылым] вешчуне» яна імкнецца да супольнасці з сусветным пралетарыятам, тут яна, у асобе свайго песняра, фантазуе аб тым часе, калі сусветная рэвалюцыя знішчыць межы між народамі і між класамі і наогул між людзьмі. У паэме «Ленін» яна перажывае ўтрату правадыра. У «Беларусі лапцюжнай» яна імкнецца да «смычкі» з гарадскім пралетарыятам, што паэт прыгожа заве

«шлюбам» вёскі з горадам. У паэме «Марына» яна ў паўстанні — гэта, так сказаць, развіты эпізод з «Босых на вогнішчы», прычым паэт ужо болей канкрэтна, ужо болей акрэслена, азначана, выразна малюе вобразы змагання. У паэме «Карчма» яе жыццё ахопліваецца паэтычным аглядам праз усе апошнія гады і асабліва выстаўляецца ў факце яўрэйскай зямельнай каланізацыі, бо пад беларускаю беднатою паэт разумее беднату ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць на Беларусі. Адным словам, паэмы ў Міхася Чарота — як бы часткі адной агульнай паэмы, з адною тэмаю, з адным героем і з аднаго жыцця.

Паэма *«Босыя на вогнішчы»* з'явілася канчатковым адыходам аўтара ад старых беларускіх матываў, і з яе фактычна пачынаецца ў нас новы, паслякастрычніцкі перыяд. Бо калі ў зборн.[іку] «Завіруха» (1922 г.) яшчэ шмат матываў нац.[ыянал]-адраджэнцкіх, вузкасялянскіх і інтэлігенцкіх, індывідуалістычных, дык у вострай супярэчнасці з гэтымі матывамі стаіць першая паэма песняра «Босыя на вогнішчы», напісаная і выдрукаваная ў тым самым 1922 годзе, пераломным годзе ў гісторыі ўсебеларускага культурнага будаўніцтва і ў канчатковай дыферэнцыяцыі галоўных беларускіх культурных сіл. Тут у 20[-ці] раздзелах, напісаных вершам рознага размеру (у залежнасці ад характару зместу), дадзена некалькі стыпізаваных вобразаў і пачуццяў з часу класавага змагання і акупацый на Беларусі за апошнія гады. Апрача галоўнага героя паэмы, «босых», тут бачым, хоць каротка, колькімі радкамі, але ўдала характарызаваных паноў, духавенства, афіцэраў, спекулянтаў. І канчаецца паэма песнятворчаю вераю паэта ў тое, што перамога яго класа над ворагам прыблізіла час вызвалення ўсяго чалавецтва, канчаецца гімнам таму, ува што паэт і яго клас верыць і за што змагаецца.

В. Кнорын аб паэме «Босыя на вогнішчы» пісаў так:

«Тым болей цэнім мы першага паэта, які адышоў ад народніцкіх матываў, які найперш у беларускай паэзіі ўзяўся пяяць пра басоту — пралетарыят, які знайшоў у сваіх лепшых творах выяўленне дзеля нашай пралетарскай рэвалюцыі ў яе поўным развіцці з яе шматвобразным рытмам.

Такім паэтам ёсць тав. Чарот.

Калі ў яго даўнейшых вершах яшчэ аддаецца падатак народніцтву, чуецца сувязнасць старой формы з старымі прынцыпамі паэзіі, дык паэма «Босыя на вогнішчы» з'яўляецца ўжо зусім цэльным і вытрыманым творам прале-

тарскай літаратуры, глыбокім па змесце і багатым па форме, адбіваючым новы размах жыцця, новыя гарадскія шумы і рухі».

«Босыя на вогнішчы»,— піша далей В. Кнорын,— гэта не паэма арганізаванага гарадскога пралетарыяту вялікіх прадпрыемстваў, гэта паэма басоты — нашай сялянскай беднаты, нашага напаўпралетарыяту і неазначанага пралетарыяту. Але ў Беларусі гэта і ёсць самая перадавая і самая рэвалюцыйная сіла. Тыя, што хацелі пісаць пра гэтую беднату, застаючыся ў народніцкай ідэалогіі, маглі толькі плакаць,— іх паэзія ў цяперашні час рэакцыйна па істоце».

«М. Чарот адчуў і выявіў, як гэтая басота падлягае сусветнаму рэвалюцыйнаму руху, дыктатуры гарадскога пралетарыяту, як яе жыццё пачынае цячы ў новых гарадскіх рытмах» («На пути к белорусской пролетарской поэзии», стар. 44—45).

Мімаходам трэба заўважыць аб некаторай неканкрэтнасці, не поўнай выразнасці і азначанасці вобраза беднаты ў паэме, што, мусіць, і з'яўляецца прычынай таго, што ў Кнорына — гэта рэвалюцыйны авангард на Беларусі, а ў Жылуновіча, напрыклад, гэта — басякі і хуліганы (гл. яго паказаны вышэй артыкул, «Полымя», № 1, 1922 г.). Некаторая паэтычная неканкрэтнасць вобразаў прызвычаена і іншым паэмам Міхася Чарота. Ад чаго яна залежыць? Ці ад некаторага няведання аўтарам справы і наогул ад яго індывідуальнасці, ці ад узятага ім жанру і яго поглядаў на гэты жанр? Магчыма, што тут сышлося ўсё патроху ды яшчэ навалiўся нястрыманы рэвалюцыйны пафас песняра, і гэты пафас перашкодзіў яму канкрэтызаваць некаторыя вобразы, удакладняць іхняе мастацкае значэнне, як і дэталізаваць, упадрабніваць сюжэт.

Паэму *«Ленін»* напісаў М. Чарот у студзені 1924 г., мусіць, пад уражаннем ад смерці Леніна. Зараз жа яна была і надрукавана («Полымя», № 1, 1924 г.), а ў канцы 1926 г. дачакалася нарэшце асобнага выдання (гл., між іншым, рэц.[энзію] Л. Каплана ў «Савецк.[ай] Беларусі», № 294 за 1926 г.).

У паэме апавядаецца аб вёсцы, імперыялістычнай вайне, на якой у селяніна Мікіты забілі двух сыноў. Трэці сын вярнуўся з вайны бальшавіком, прынёс у вёску партрэт Леніна і новыя думкі і словы. Потым — мірнае жыццё, сын-бальшавік у горадзе на фабрыцы, а ў вёсцы ідзе

землеўпарадкаванне, заможныя сяляне цісну́ць бедных, Мікіта бачыць гэта і хоча ехаць да Леніна і сына. Сяляне пішуць Леніну ліст. Аж Мікіта даведваецца, што Ленін захварэў. Пастанова — паслаць Мікіту цераз год. Трывога, ці палепшае Ленін на здароўі,— і нарэшце жахлівая вестка: «Ленін памёр».

Гэтая паэма дужа тыповая дзеля спосабаў, якімі карыстаецца Міхась Чарот у збудаванні сваіх паэм. Так, болей-меней, збудаваны ўсе яго паэмы. І тут шмат ва ўсім схематычнасці; фабула — толькі ў самых агульных рысах. Тым часам паэма робіць моцнае ўражанне, што дасягаецца ў ёй: важнасцю ўзятай тэмы; драматызмам чакання, надзеі, якая забіваецца катастрофаю; пафасам паэта, і хаця тут часам лішне многа саладковай слязлівасці, але пафас мастака ахарошвае нават прыкрасць ад гэтай слязлівасці; нарэшце, уражанне дасягаецца вельмі прыгожым наогул, хоць і троху напышлівым ды не заўсёды дагледжаным, стылем. Слабейшыя месцы там, дзе занадта голыя публіцыстычныя разважанні аўтара. Ёсць нацыянальныя матывы: «Адвеку мы спалі...» (стар. 8), «Новай, вольнай Беларусі» (стар. 22), але выяўлены яны дужа асцярожна. Напісана паэма вольным вершам (неаднакавыя стопкі і неаднакавы лік іх у рытмічных радках). Строфіка (звароткі) таксама вельмі вольная, часам нічым не звязаная і наогул неўгрунтаваная. Скрозь асанансы і алітэрацыі, сугучнасць галосных і зычных гукаў. Паэма дужа гучная, галосная. Вобраз у зваротцы «Было поле...» нагадвае «Слова аб палку Ігаравым» (хоць, замест «алавяным» збожжам, лепш было б — «сталёвым»). Асабліва блага ў гэтай паэме выглядае, калі прыгледзецца, слязлівасць: «Мікіта ў слёзы ўміг», «Праліў слёз лужу» (наогул недарэчны вобраз ад непрыемнай супярэчнасці між светласцю слёз і брудам лужыны, калі чалавек плача па нябожчыку-правадыру), і вёска «ліе за слёзкаю слёзку...» зусім як у Дуніна-Марцінкевіча. «Скіфія», «прарок», «слава прароку», «о неба! о зоры!», «без Леніна ні да парогу», «Ленін блага-славіў» — усё гэта ў паэме дрэнна. Непраўдападобна, што Мікіта на каленях моліцца Леніну, дый трэба выкідаць падобныя рэчы з сучаснай паэзіі.

Паэма *«Марына»* вызначаецца найбольшаю вобразнасцю і музыкальнай звонкасцю, асабліва ў тых месцах, якія набліжаюцца да народнай творчасці. Гэта твор высокамастацкі, нацыянальны і народны, але і тут ёсць недахопы, калі ўважаць недахопамі тое, што дзеянне развіваецца без

належнай звязанасці і паступовасці або што атаманка Марына родзіць у паўстанні (разам з тым, гэта цікавая спроба аўтара — даць зусім новы тып беларускай сялянкі). А вялікае хараство ў такіх, напрыклад, выразах: «золак зоры з неба скінуў», «сцеле сцежку раніца», або гіпербалічны вобраз, калі Іван косіць каля Свіслачы, а чуе, што над Нёмнам людзі галосяць, або «слухае Марына плач з-пад Белавежы».

Паэма *«Беларусь лапцюжная»* першы раз друкавалася ў «Маладняку», № 6 за 1925 г. Пісана яна, мусіць, хапаючы, бо з карыстаннем даўнейшымі запасамі чаротаўскіх вобразаў і спосабаў, ужо паказаных у даўнейшых творах. Але форма кавалкаў моцная. Асобныя звароткі можна браць за эпіграфы, выслоўі, сентэнцыі. І ў гэтай паэме бачым схематызм, адцягненасць, неканкрэтнасць (вобразаў і думак).

Паэма *«Карчма»* хоць і мае аднастайны рытм (цікава, чаму гэта Чарот вярнуўся да старыны?), але ж вызначаецца вялікім хараством зместу і формы і мае нейкі асаблівы элегічны тон і настрой, блізу нідзе не напсаваны нампшлівасцю і слязлівасцю.

Цяжка сказаць, у якім парадку можна было б паставіць чаротаўскія паэмы з мастацкага боку, бо ў творчасці паэта, побач з класічнымі старонкамі, часта чуецца недахоп культуры. Найбольш беззаганныя паэмы — «Марына» (па форме), «Карчма» (па змесце і форме), «Ленін» (калі выкінуць некаторыя няўдалыя радкі). А ў кожнай паэме: рэвалюцыйная рамантыка, пафас, драматычнасць, не надта глыбокі змест, але паважны ідэалагічны падыход, важнасць узятай тэмы, часам непраўдападобнасць, зазвычай — схематызм, адцягненасць, часта — перайманне народнай творчасці, усюды вольны верш (апрача аднаго выпадку — «Карчма»), і наогул рытміка вершаў сучасная, асапансы, алітэрацыі, гучная музыкальнасць, так што трэба чытаць на ўвесь голас, перад вялікай аўдыторыяй, з боку гучнасці — гэта як бы магутны аркестр, якім кіруе сакавук. Нарэшце можна адзначыць у Міхася Чарота імкненне да большай глыбіні. Невялікі размер паэм — якраз добра нашым часам. На жаль, бывае форма недагледжаная, неапрацаваная. Здаецца, што ён не можа сістэматычна працаваць. Стылістычныя спосабы ў яго, гэта, найчасцей — эпітэты, паўторы, параўнанні і розныя метафары. Эпітэты ў яго наогул даволі простыя, звычайныя (дзень новы, новыя ночы, век новы), але ўзмоцненыя другімі спо-

сабамі, асабліва паўторамі, на якія Чарот часам занадта шчодры.

Паўторы — або чыста псіхалагічнага парадку, звязаныя адным паходжаннем з усім яго пафасам («Ой, Рахіль! ой, шынкаркі дзіця!», «Многа згіне, згіне многа»), або залежныя ад пераймання народнай творчасці і, безумоўна, лепшыя («Каля рэчкі касец косіць, каля рэчкі касец косіць...», «Зашумеце, ды сыры бары, загручэце, перуны-громы...»). Метафары ён любіць ужываць вельмі яскравыя (неба абліта агнём — пажар, стогне віхар-бура — рэвалюцыя), як любіць гучнасць і ўва ўсім.

*Мастацкая проза* ў Міхася Чарота можа быць характар[ыз]авана гэткімі характэрнымі асаблівасцямі: шчыльная сувязь з жывым жыццём, рухавасць апавядання і дзеяння, цікавы сюжэт, часам драматычнасць і нават, на жаль, меладраматызм (як у паэзіі лішні пафас), гумар (які не так выразна ёсць і ў яго вершах і паэмах), светагляд, вясёласць, фельетонны характар, публіцыстычнасць, агітацыйнасць, наогул, пэўны элемент антыэстэтызму, залежнага ад публіцыстычнай тэндэнцыі, грубаватасць стылю, часам некаторая неапрацаванасць, напрыклад, сюжэтная няцэльнасць і незакончанасць або павярхоўнасць і празаічнасць. (Між іншым, цікава, чаму ў яго апавяданнях няма лірызму? Адгэтуль пытанне яшчэ адно: ці мог бы ён пісаць паэмы без пафасу?) У апавяданнях ён найчасцей апісвае жыццё сялян і сялянскай інтэлігенцыі, дае супаставу старога і новага быту, паказвае зрэдку адмоўнае і ў новым быце, і ў новых людзях. Ён малюе змены ў жыцці і думках сялянства. Моладзь і незаможная частка сялянства бліжэй да рэвалюцыі. Старыя людзі і заможныя — далей ад рэвалюцыі, яшчэ знаходзяцца пад уплывам старых настрояў.

У зборніку *«Веснаход»* змешчаны такія апавяданні: 1) «Пасля буры...» (сказ старога дзядулі) — рамантыка змагання з польскімі панамі. 2) «Да сонца» — рэвалюцыйная рамантыка, радасць вызвалення, першамаёвая радасць. 3) «Самалёт» — быццам нейкі чырванакрылы вяшчун, прылятае самалёт у глухую беларускую вёску, і яна далучаецца да сацыялістычнага будаўніцтва; вясёласць. 4) «Кірмаш» — поп, ацец Парфіры, якога варта параўнаць з папом Парфірам у Кузьмы Чорнага («Пачуцці»), напіваецца самагону; непрыстойныя прыпеўкі і нецэнзурныя выразы (стар. 23 і інш.); дужа грубы, прымітыўны гумар. 5) «Чалавек, які не радзіўся» — бюракратызм у нізавых

савецкіх установах (воласці); пісар з прозвішчам Хапунчык; ізноў поп; стаpанны гумар. 6) «Споведзь самагоншчыка» — варта параўнаць, з боку літаратурнага прыёму, з апав. [яданнем] З. Бядулі «Як я зрабіўся кантрабандыстам»; і тут самагон (ад жадання палепшыць гаспадарку); п'янства, міліцыя, суд; лёгкі гумар і сатыра. 7) «Дзіўная заява» — непісьменнасць у вёсцы (уздумаем на «Кантракт» Т. Гушчы); заява — замест слоў, малюнак: забітая свіння; гумар. 8) «Бацюшка» — антырэлігійная прапаганда; поп выракаецца сану і робіцца земляробам Пётраю. 9) «Сон Габруся» — дапамога галодным у Паволжы; літаратурны прыём — сон (як ёсць і ў паэме «Ленін»). 10) «На пасеках» — рэвалюцыйнае змаганне ў вёсцы. 11) «Непатрэбны чалавек» — бандыт, былы пан; настаўніца чамусьці забівае яго; меладраматызм. 12) «Апошняя ноч» — бандытызм, дэзерцірства; эфектны сюжэт, але меладраматызм. 13) «Талачка-шкрабалачка» — рэвалюцыя і вясковая інтэлігенцыя; канца няма, сюжэт не закончаны. 14) «Саматканая світка» — адмоўнасць у новым; варта параўнаць з «Галіфэ» З. Бядулі. 15) «Галя» — каханне, былыя людзі; тэндэнцыя аўтара тут досыць незразумелая.

Такім чынам, сюжэты ў Міхася Чарота найбольш як і ў «Апавяданнях» З. Бядулі або як і ў другіх нашых сучасных апавядальнікаў: змаганне з панамі і бандытамі, антырэлігійная прапаганда, сатыра на сабатаж, на самагон, на валакіту і да т. п.

Недапушчальную грубасць некаторых месц, на жаль, паўтораную і ў другім выданні «Веснаходу», можна тлумачыць уплывам на аўтара з боку некаторых сучасных расійскіх пісьменнікаў, наогул характарам нашай эпохі і індывідуальнасцю аўтара, а магчыма, што і невытрыманасцю ў некаторых выпадках нашай савецкай цэнзуры.

*Драматычная творчасць* Міхася Чарота пакуль што ўсяшчэ не мае нічога асаблівага, характэрнага, новага, сучаснага. Але п'есы яго вельмі жывыя і сцэнічныя.

На мове Міхася Чарота шмат расійскіх уплываў. Пажадана, каб нашы вучоныя мовазнаўцы часцей пісалі б на гэтыя тэмы.

Аўтабіяграфія Нёманскага змешчана ў «Выпісах з беларускай літаратуры» У. Дзяржынскага (1926 г.). Нёманскі (Пятровіч) — спралетараны селянін з с. Шчорсаў, з Навагрудчыны, быў настаўнікам, здабыў універсітэцкую адукацыю, быў на розных франтах у Чырвонай Арміі.

Раней ён пісаў артыкулы ў «Дзянніцы» (Масква). Потым у першым нумары «Полымя» (1922 г.) было надрукована яго першае апавяданне «Над Кроманню», пазначанае 24-м лістападам 1922 г. У канцы 1925 г. выйшаў у Менску, у Дзярж.[аўным] выдав.[ецтве] Беларусі, зборнік апавяданняў Нёманскага «На зломе» [1]. Аб творчасці Нёманскага пісалі дагэтуль мала. Кароткая характарыстыка яго твораў ёсць у «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (IV выд., 1926 г.), некалькі заўваг змешчана ў «Выпісах...» У. Дзяржынскага ды ў рэцэнзіях на зборнік «На зломе» (напр.[ыклад], «Полымя», № 1, 1926 г.). У зборніку «На зломе» ўсяго сем апавяданняў, але яны даволі доўгія і па свайму агульнаму характару выглядаюць аповесцямі. У сярэднім на кожнае апавяданне прыходзіцца 33 немалыя старонкі. Гэта ў наш час кароткага апавядання — зусім повесці. Але дзеянне ў яго апавяданнях развіваецца часам дужа павольна, і таму яны здаюцца расцягненымі.

Ва ўсіх яго апавяданнях галоўная тэма — злом жыцця, пераход ад старога да новага і змаганне за гэты пераход. У апав.[яданні] «Над Кроманню», узятым з часоў 1905 г., Нёманскі дае абраз нарастання рэвалюцыйнасці ў беларускіх працоўных масах, першыя праявы змагання. Нёманскі, як і Т. Гушча (Я. Колас), перш чым пісаць творы з паслякастрычніцкага жыцця, дае абраз рэвалюцыйнасці з 1905 г. У апав.[яданні] «Рамэа і Джульета на Беларусі» [2] Нёманскі вельмі ўдала выяўляе сутнасць нацыянальных і рэлігійных пытанняў на чыста беларускім грунце, прычым змаганне, з імі звязанае, аказваецца ў нас глыбока класа-

---

[1] На жаль, дзеля выдавецкай няўважнасці, толькі на вокладцы стаіць назва зборніка, а змест кніжкі дык не паказалі зусім. Сшыта кніжка таксама не па-людску: у адных экземплярах няма аркушаў, у другіх жа лішнія аркушы. Ёсць недагляды і стылістычнага рэдактара, бо імя пішацца адзін раз Т а ц я н а, другі раз Т а ц ц я н а (пехта правіў!).

[2] Ад імя герояў п'есы Шэкспіра «Рамэа і Джульета», дзе таксама дзеці кахаюцца, а бацькі (Мантэкі і Капулеці) сварацца.

вым па сваёй сутнасці. Мы тут бачым, што рэлігія — сапраўды опіум дзеля народа і што змагацца за новыя погляды — цяжка. Апавяданні «Дэзерцір» і «Маці» — дасканалыя малюнкі змагання рабочых і сялян з сваімі класавымі ворагамі пасля Кастрычніка на Беларусі. Далей — пералом у жыцці гарадскога мяшчанства, служачых пры Савецкай уладзе («Зварот»), змаганне новага, савецкага быту з старым у сялянскай сям'і («Тодар Базылёнак»), адыход слабейшых да старога і змаганне моцных за новае ў грамадскім і сямейным жыцці інтэлігенцыі — настаўніцтва («Абмылка»).

Даючы прыблізныя працэнты ад усіх гэтых 7 апавяданняў, можна сказаць, што ў творах Нёманскага займае месца: жыццё да Кастрычніка — у 28 % апавяданняў (два апавяданні); жыццё пасля Кастрычніка — у 72 прац. [энтах], рэвалюцыйнае змаганне і рэвалюцыйны быт — у 85 прац. [энтах], Беларусь — у 100 прац. [энтах], Заходняя Беларусь пасля міру ў 0 прац. [энтах], нацыянальнае пытанне да Кастрычніка — у 14 прац. [энтах], беларусізацыя і наогул нац. [ыянальнае] пытанне пасля Кастрычніка — у 0 прац. [энтах], вёска і мястэчка — у 71 прац. [энце], горад і мястэчка — у 29 прац. [энтах], спралетараныя сяляне, сезонныя рабочыя, смалакуры — у 14 прац. [энтах], рабочыя фабрычныя — у 14 прац. [энтах], настаўнікі — у 14 прац. [энтах], чырвонаармейцы — 28 прац [энтаў]. Але жыццё фабрычных рабочых, настаўнікаў і штодзённы быт чырвонаармейцаў не стаіць асяродкам гэтых апавяданняў.

Такім чынам, відаць, што найглыбейшы след у яго ўспрыманнях пакінула рэвалюцыйнае змаганне, жыццё ў беларускай вёсцы і, часткова, быт гарадскога служачага. І трэба прызнаць, што ў падборы сюжэтаў Нёманскі ёсць тыповы беларускі аўтар нацыянал-рэвалюцыйнага і паслякастрычніцкага перыяду,— ён ахоплівае беларускае жыццё досыць разнастайна і поўна.

Калі ён у сваёй творчасці дагэтуль не паказаў, як стогнуць яго браты ў Заходняй Беларусі (0 % апавяданняў), дык гэта можна вытлумачыць тым, што ён не жыў цяпер у Зах. [одняй] Беларусі, а па сваёй натуры належыць да пісьменнікаў, якія не могуць пісаць аб тым, чаго самі непасрэдна не наглядалі. Настаўніцкае жыццё ён мала паказвае, мусіць, дзеля таго, што мала быў настаўнікам або не спатыкаўся ні з дужа адмоўнымі, ні з дужа дадатнымі тыпамі настаўніцтва.

Але зусім незразумела і не відаць з яго аўтабіяграфіі,

чаму ён дае 0 % у справе беларусізацыі і наогул нац. [ыянальнага] пытання пасля рэвалюцыі на Беларусі. З адказам на гэтае пытанне трэба пачакаць. Мастацкае ўражанне ў апав. [яданні] «Над Кроманню» дасягаецца: актуальнасцю ўзятай тэмы, драматызмам змагання, якое мае цяжкі канец, малюнкамі страшэннай эксплуатацыі і класавай несвядомасці і замканнем сюжэта. Актуальнасць тут — рэвалюцыйнае змаганне. Змагаюцца сяляне з панамі, Антон з Сымонам Гузам. Смалакуры зарабляюць так мала, што шкадуюць сабе солі, бульбіну еўшы, пасаліць. Брыдкая класавая несвядомасць — у развагах і ўчынках хваравітага Піліпа. Замкаецца апавяданне, як і пачынаецца, «казкаю», і гэты стылістычны спосаб хоць троху тут у Нёманскага і меладраматычна выглядае, але арганічна зліты з апавяданнем. У апав. [яданні] «Рамэа і Джульета на Беларусі» [ўражанне] дасягаецца малюнкамі змагання герояў з перашкодамі на шляху да іхнага шчасця, драматызмам забойства і вар'яцтва, антытэзамі ахвяраванасці і эгаізму, чыстасці і бруднасці, паэтычнай мяккасці, кволасці і цынічнай жорсткасці. У апав. [яданні] «Дэзерцір», апрача эфектаў, звязаных выключна з дэталямі сюжэта і фабулы, маем, ізноў жа, незвычайны драматызм наогул і пераход ад ганебнага дэзерцірства да геройскай смерці. Гэтае апавяданне робіць цяпер незвычайна моцнае ўражанне, хоць у іншую эпоху будзе здавацца троху лішне эфектаваным і грубаватым у стылістычных прыёмах. У апав. [яданні] «Маці» аўтар хоча зрабіць мастацкае ўражанне на чытальніка, малюючы трагедыю маці, у якой яе вялікае каханне да аднаго сына і некаторая сцюдзёнасць да другога апынуліся ў супярэчнасці з яе класавым пачуццём. У апав. [яданні] «Зварот» — сюжэт не цэльны і не закончаны, але мастацкі, бо ўсё дзеецца вакол асоб Максіма Гукоўскага і Ядзі. У аснове мастацкага ўражання тут ляжыць элемент камедыйнасці і сатыры (смяхотная нестасоўнасць між учынкамі ў Гукоўскага і разумнаю патрэбаю жыцця). Тут жа троху высоўваецца другое — уражанне ад таго, што лінія Гукоўскага ідзе толькі ўніз, што нават лінія Ядзі з ёю крыжуецца, быццам ідучы ўгору. Але не зусім гэта тыпова, каб з мяшчанкі Ядзі было штонебудзь добрае, хоць бы і рэвалюцыйным часам. У аснове апавядання «Тодар Базылёнак» ляжыць стылістычны спосаб супрацьпаставы, звязанай з драматызмам змагання і з падкрэсленай дыдактычнай развязкаю: Давыд (Тодарка) і Галіаф (дзед). Давыд перамагае з дапамогаю неча-

канай справядлівай сілы (Савецкая ўлада). Праўда, што «Давыд» тут троху лішне ўжо недарослен

ькі. У апав.[яданні] «Абмылка», з аднаго боку, у асобе Петруся Грышана змагаецца рэвалюцыйнасць з старымі, мяшчанскімі формамі працягвання роду, з другога боку, паказваецца ў асобе Зосі пераход ад рэвалюцыйнасці да мяшчанскасці.

Піша Нёманскі незвычайна проста і праўдзіва, не паганяючы за танным поспехам праз бульварныя эфекты, як гэта робяць, на жаль, некаторыя нашы маладыя пісьменнікі. І калі ў яго зборніку тым часам усё ж ткі смерць у 56 прац.[энтах] апавяданняў, дык гэта трэба тлумачыць характарам эпохі, у якую адбываецца дзеянне ў гэтых апавяданнях. Драматычныя моманты ў яго не надуманы, а выцякаюць самі з усяго ходу апавядання... Плытнік памірае, бы той беспрытульны сабака,— ці ж гэта ў нас на Беларусі было надумана? Або тыя горкія смалакуры ў якасці штрэйкбрэхераў, бо яны цёмныя і таму несвядомыя,— гэта дзеля эфекту? Дзед над забітым Антонам — гэта эфектоўная казка, а не самая будзённая быль з 1905 г.? Апавяданне Васіля Хлэмкі пра лічбан святога Антонія, што гэта — ці літаратурны прыём зацягнуць апавяданне на цікавым месцы, каб болей заінтрыгаваць чытача, ці самая звычайная, штодзённая прычына ў мінулым жыцці беларусаў, каб вяселле мела самы драматычны канец? Ляшкевіч забівае сына Яся, Алеся звар'яцела — літаратурны спосаб узнервоваць чытача дапушчэннем мілага вобраза да самай безнадзейнай крайнасці (яшчэ шэкспіраўскі спосаб, паўтораны колькі разоў і ў нашай літаратуры — Зося ў «Раск.[іданым] гняздзе» Я. Купалы і інш.). А можна быць пэўным, што Нёманскі ні свядома, ні несвядома не рабіў тут ніякага асаблівага прыёму, а браў з жыцця тое, што некалі яму ўзарвала сэрца, і ён пэўны — узарве сэрца і яго чытачу. Такая несвядомасць абнізіла б Нёманскага як мастака, калі б мы не бачылі, што ў яго шмат зусім свядомых літаратурных прыёмаў. Драматызм у Нёманскага — само жыццё, у якім і чырвонаармейцы голыя, босыя, з убогім узбраеннем, мерзнуць, а ваююць, і страшэнныя атакі на белых, і Васіль Каляда стаіць вока ў вока з польскім жаўнерам Францішкам, які адабраў у яго жонку Кацярыну. Гэта ж само жыццё, што палякі-ваякі забілі Кацярыну і малога Юзіка, пасля страшных катаванняў, а хату і ўсё спалілі. Само жыццё, калі бандыты катуюць і забіваюць маці Таццяну і калі брат-бальшавік ловіць брата-бандыта.

У апав.[яданні] «Над Кроманню» галоўная асоба —

Антон, тып спралетаранага селяніна. Гэткія людзі і рабілі рэвалюцыю на Беларусі. Дзесятнік Сымон Гуз — супрацiўны яму тып, таксама моцны, але моц яго — адмоўная, і ён толькі падкрэслівае сабою дадатныя бакі ў Антоне. Дзед Язэп мае шырокі светагляд, але на старасці ў яго робіцца крызіс, і гэтым у апавяданні падкрэсліваецца моц змагання. Дзед Язэп — прадстаўнік тых, якія ўжо страцілі надзею на лепшую будучыню, але добра разумеюць імкненне такіх, як Антон. У дзеда ёсць нешта агульнае з маці ў апав.[яданні] «Маці»: маці патроху знаходзіць праўду ў Рыгора, а дзед у Антона. Піліп — класавая несвядомасць, асабліва яскравая ў слабога, хваравітага чалавека. Рыжы Цімох — масавы чалавек, але не асабліва характэрнай катэгорыі. У апав.[яданні] «Рамэа і Джульета на Беларусі» на першым плане стаіць Алеся — цікавы і сімпатычны тып беларускай сялянскай дзяўчыны, паказаны тут, галоўным чынам, у каханні. Яна шчыра і моцна кахае. Сэнс жыцця ў яе — каханне да Яся. Жыць без яго яна не можа. Яна з адной галерэі тыпаў, як Паўлінка («Паўлінка») і Зося («Раск.[іданае] гн.[яздо]» у Янкі Купалы, Ядвіся («У пал.[ескай] глушы») у Я. Коласа, Зося («Сокі цал.[іны]») у Ц. Гартнага. Ясь — нерашучы. Ясь і Алеся — тыпы дадатныя; Васіль Хлэмка, Пранцысь Ляшкевіч, поп, ксёндз — тыпы адмоўныя. Поп і тоўстая пападдзя — прадстаўнікі эгаізму на грунце грошай, бо яны прадстаўнікі пануючай рэлігіі, ксёндз-пробашч, вікарны ксёндз, ахмістрыня Мальвіна — прадстаўнікі эгаізму больш на грунце веры, бо яны прадстаўнікі ўцісканай рэлігіі. У апав.[яданні] «Дэзерцір» чырвонаармеец Васіль Каляда значна яскравейшы тып, чым Сяргей Карага ў Я. Коласа. Кацярына, яго жонка, тып, мусіць, рэдкі і спрэчны. У Нёманскага яна — перадавая сялянка, з рэвалюцыйнай свядомасцю. Яна ўпікае Васіля, нашто ён уцёк з Чырвонай Арміі, бо «кепская ж тады надзея ў нашых сялян», кажа яна. Мы ведаем ад аўтара, што яна доўга змагалася за сваю жаночую долю, але ўмовы жыцця прымусілі яе здацца і стаць жонкаю польскага жаўнера. Значыцца, яна сама, так сказаць, у пэўнай меры «дэзерцір» на сваім фронце... А можа, і была такая Кацярына, хто яе ведае.

У апав.[яданні] «Маці» тып рэвалюцыянера, праўдзівага бальшавіка бачым у асобе Рыгора, а тып контррэвалюцыянера, белагвардзейца бачым у асобе другога брата — Міхася. Рыгору — няма родных, а ёсць рэвалюцыйная справядлівасць. Рыгорава жонка носіць імя *Алеся*, як

і дзяўчына Алеся ў апавяданні «Рамэа і Джульета на Беларусі». Алеся — тып новай жанчыны, і ён удаўся аўтару. Алеся дапамагае Рыгору ў барацьбе з бандытамі; яна выпраўляе Рыгора, а не затрымлівае, што зрабіла б іншая, несвядомая жанчына (тут у яе нешта агульнае з Кацярынаю). Яна — жонка і таварыш. А з якою простаю, пралетарскаю далікатнасцю падыходзіць яна да Рыгоравай маці. Між іншым, Алеся мае ў сабе тое, што так сімпатычна выяўляецца ў асобе Дашы ў «Цементе» Ф. Гладкова. Ёсць жа на свеце такія слаўныя жанчыны! І ёсць жа аўтары, якія ўмеюць знайсці іх і паказаць у сваёй літаратурнай творчасці. Маці варта параўнаць з маці ў апов. [есці] Горкага «Мать». У Горкага бацька і сын, у Нёман. [скага] на месцы бацькі — Міхась, на месцы сына — Рыгор, а вобраз маці мае шмат агульнага, і тут і там — у перажываннях маці адбітак рэвалюцыйнага змагання. У апав. [яданні] «Зварот» Гукоўскі — б. [ылы] чыноўнік казённай палаты, потым сабатажнік, потым савецкі служачы, трус, мешчанін, пусты мізэрны чалавек. Ядзя, яго жонка,— шляхцяначка, што мае шмат агульнага з «Талачкай-шкрабалачкай» у М. Чарота. У апав. [яданні] «Тодар Базылёнак» найбольш яскравая постаць — Сымон Карнач; гэта класічны тып прадстаўніка старой мужыцкай заможніцкай сялянскай Беларусі, «каршун», разумны, але бязлітасны і дзікі. Тодар — маладое, рэвалюцыйнае, піянер у поўным сэнсе гэтага слова; у ім — дзедава сіла, але яна на правільным шляху (толькі занадта малы ён у аўтара). Малодшы сын Карнача, дзядзька Тодараў,— годны свайго бацькі «каршуна», але дурнейшы. Агата — класічнае ўвасабленне белар. [уска]-сялянскага жаночага гора. Свякрова, Сыманіха,— сляпая пакора мужу, і сама робіцца такою, як ён. У апав. [яданні] «Абмылка» цікавы сучасны тып, Пятрусь Грышан, б. [ылы] селянін, рабочы на сернікавай фабрыцы, рэвалюцыянер, цяпер загадчык павятовага аддзела асветы. Зося — паненка, брала ўдзел у рэвалюцыйным руху, настаўніца, класічны тып мяшчанкі.

Асаблівая мяккасць чуецца ў Нёманскага ў адносінах да жаночых тыпаў, паміж якіх маем у яго апавяданнях і дзяўчынку-каханку (Алеся Хлэмка), і маладзіцу-жонку (Кацярына, Алеся Рыгорыха, Ядзя Гукоўшчыха, Зося Грышаніха), і маці (Агата, Таццяна), толькі чамусьці сястры няма! Сялянкі, жанчыны фізічнай працы — дадатныя тыпы. Наадварот, інтэлігенткі, мяшчанкі — адмоўныя тыпы.

Паміж мужчынскіх тыпаў найбольшаю сімпатыяй у аўтара карыстаюцца рабочыя, спралетараныя сяляне — смалакуры, як той Антон, дзед Язэп, Рыгор Талока, Пятрусь Грышан і іншыя. Да вясковых сялян ён адносіцца па-рознаму, але наогул разумеючы іх і не выраўняючы іх катэгарычна адмоўнымі; так, Тодара Базылёнка ён вельмі любіць, селяніну-чырвонаармейцу Васілю Калядзе вельмі спачувае, а над цемнатою Васіля Хлэмкі, Сымона Карнача, нават шляхціца-земляроба Пранціся Ляшкевіча як бы пахавана бядуе. І наадварот: панскі служачы Сымон Гуз, афіцэр Міхась Талока і чыноўнік Максім Гукоўскі ў яго — катэгарычна адмоўныя тыпы.

З тыпізацый беларускай прыроды найлепей выходзяць у яго апісанні лесу ў розных апавяданнях («Над Кроманню» — скрозь, патроху, «Маці» — стар. 95, тураўскія лясы, «Тод.[ар] Баз.[ылёнак]» — усюды патроху, «Абмылка» — стар. 197—198 і інш.).

Добра выглядаюць у яго бытавыя малюнкі, напр.[ыклад], тыпавы кірмаш («Рамэа і Джульета на Бел.[арусі]», стар. 40). А яго батальныя малюнкі трэба прызнаць найлепшымі ўва ўсёй нашай літаратуры (напр.[ыклад], класічнае апісанне бою ў апав.[яданні] «Дэзерцір»).

Яго апісанні працы і быту на фабрыцы, і не дзе-небудзь на чужыне, а на Беларусі, асабліва каштоўны ў нашай літаратуры, бо іх у нас дагэтуль было так мала да Кастрычніка і яшчэ меней, прапарцыянальна з умовамі жыцця, у нашай літаратуры пасля Кастрычніка. Тут — праўдзівы рабоча-фабрычны быт, а не адзін які фабрычны шрубчык.

Як характэрную асаблівасць у творах Нёманскага трэба адзначыць геаграфічнасць. Псеўданім ён узяў сабе «Нёманскі», першае апавяданне — «Над Кроманню»; яшчэ большая дакладнасць — наступ з боем каля в.[ёскі] Б. Чарніцы («Дэзерцір»), потым у апав.[яданні] «Маці» — тураўскія лясы, і наогул, аўтар ведае край з поўначы на поўдзень: Віцебск, Маркоўшчына, Чашнікі («Зварот»), Докшыцы («Дэзерцір»), Петрыкаў («Маці») і г. д. Але мова не ўласцівая дзеля мясцовасці.

Мова ў творах Нёманскага незвычайна простая, сціплая (скромная), але часта вельмі вобразная, драматычная і з гумарам, а гумар яе залежыць ад яе народнага характару. Яна чыстая народная з Навагрудчыны, з прыгожымі, рэдка лішнімі паветалізмамі *(усцішша)*, расіянізмамі *(касцёр)* і паланізмамі *(пэнт)*. На жаль, спатыкаюцца празаізмы *(апошні сказаў)*, некаторыя няправільнасці ў зна-

чэнні слоў (*астатнія* у значэнні рэшты, замест расійскага «остальные»).

Вось некалькі прыкладаў яго расіянізмаў (у мове і дзеючых асоб і самога аўтара): *дзень-та, хтось-та, чые-та* (шмат разоў), *ліш бы* (колькі разоў), *вачкі або ачкі* (стар. 130), *настаяшчы* (стар. 135), *наскучыла* (стар. 195).

Паланізмы: *статэчны* (стар. 132), але гэта ў мове Ядзі, *пэнт* (стар. 133), *сконтвечная* (стар. 163).

Украінізмы: *швідка* (стар. 168).

Нявытлумачаныя рэдкія мясцовыя словы: *андуфэльт* (стар. 3), *усцішша, сумелая* (стар. 167), *спонкі* (стар. 183). І добрыя, больш вядомыя, паветалізмы: *кангаз* (стар. 3), *гавяда* (стар. 4), *бома* (стар. 5).

Няправільна ўжытыя беларускія словы *асабіста* (зам.[ест] асобна (стар. 17), *астатнія* (зам.[ест]) рэшта, або іншыя, стар. 171), *здольныя* (стар. 154): «гэтыя дні былі вясёлымі, здольнымі», *спадабаецца* (зам.[ест] падабаецца, стар. 160, у мове Ядзі), *надзеў новыя лапці* (стар. 163), замест абуў (але студэнты-случчане казалі мне, што так у народзе гавораць).

Празаізмы: *апошні* (стар. 158): «становіцца між ёю і Максімам і пасабляе ёй адхіліць гутарку з апошнім».

Мастацтва Нёманскага з фармальнага боку пераймае буржуазных класікаў, але *ідэалогія ў аўтара пралетарская*, і ён выяўляе сваю ідэалогію не толькі ў вонкавых рысах літаратурнай творчасці (падбор тэм, лірычныя выслоўі і г д.), але ўсёю сваёю істотаю, кожнаю драбніцаю апісанага жыцця.

## ЯКУБ КОЛАС ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА

У пачатку 1918 г. Якуб Колас быў адпушчаны з войска як настаўнік. Увесь час, да выезду на бацькаўшчыну, і быў [ён] на Куршчыне настаўнікам, потым школьным інструктарам. Цэлую зіму 1918—[19]19 гг. быў ён сакратаром камуністычнай ячэйкі ў сяле Ліпавец. У Ліпаўцы адчыніў хату-чытальню, арганізаваў бібліятэку, звязаўшыся з палітасветнымі ўстановамі ў Чырвонай Арміі, дзеля чаго, калі прыйшоў Дзянікін, ён мусіў уцякаць і хавацца.

У 1918 г. яго творы друкуюцца ў нацыянал-рэвалюцыйнай «Вольнай Беларусі» (Менск) і, што трэба асабліва падкрэсліць, у некалькіх нумарах бальшавіцкай «Дзянніцы» (Масква). Але «Вольная Беларусь», пэўна, змяшча-

ла матэрыял, прысланы даўней, пакуль Менск не быў за фронтам ад Якуба Коласа. А вось цікава было б высветліць, чаму так мала яго матэрыялу ў «Дзянніцы»: ці ён не пасылаў, ці там не друкавалі? [1] Апрача таго, у Менску выйшла з друку паэма «Сымон-музыка» (першыя тры часткі).

Калі пасля дзянікінскага наезду ізноў замацавалася Савецкая ўлада, Якуб Колас пайшоў на асветную працу, быў школьным інструктарам.

У 1919—1920 гадах творы яго друкуюцца нумарах у двух «Дзянніцы». А напісаў ён у 1919—1920 гадах, за два гады, апрача некалькіх лірычных вершыкаў, усяго два раздзелы «Новай зямлі» («Зіма ў Парэччы» і «На рэчцы»). Не думаецца, каб ён так мала пісаў тады дзеля прычын ідэалагічных, як гэта магло быць у іншых тагачасных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў у залежнасці ад іхняга крызісу, галоўным чынам у нацыянальным пытанні.

У травені месяцы 1921 г., з дапамогаю Народнага камісарыята асветы БССР, Якуб Колас пераязджае нарэшце ў Менск, прабыўшы на чужыне ажно 6 год. Прыехаўшы на бацькаўшчыну, паэт балюча адчуў яе падзел (якраз і яго родная вёска засталася пад Польшчаю), на свае вочы ўбачыў яе зруйнаванне, але, як піша ён у сваёй аўтабіяграфіі (гл. зборнік «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы», Менск, 1926 г.), беларуская культурная справа, з якою ён пазнаёміўся па прыездзе ў Менск, і яе перспектывы пры Савецкім урадзе зрабілі на яго найлепшае ўражанне, і ён «прыйшоў да такога пераканання, што ні пры якім іншым урадзе ў цэлым свеце нацыянальная культура і справа адраджэння прыгнечаных нацый не пастаўлены і не могуць быць пастаўлены ў такія спрыяючыя ім умовы, як пры Савецкай уладзе».

У 1921 г. творы Якуба Коласа друкуюцца ў «Вольным сцягу» (працяг «Сымона-музыкі»), яшчэ ў «Зорках», а ў Коўне друкуецца яго зборнік «Казкі жыцця». А піша ў гэтым годзе Якуб Колас вельмі многа. Ён спяшаецца дапісаць старыя рэчы («Новую зямлю»), робіць увязку іх з новым часам праз эпоху 1905 г. («У палескай глушы») і

---

[1] З матэрыялу, пасланага аўтарам гэтага артыкула ў Маскву ў «Дзянніцу», «Зажынкі» і якое мела быць «Жніво», рэдактару Жылуновічу (Ц. Гартнаму), усё дзесь пагінула (апав.[яданне] «За што?», надрукав.[анае] цяпер пад назваю «Ціхія песні», «Кросны» і інш.), апрача аднаго маленькага абразка, надрукаванага ў «Дзянніцы».

зараз пачынае маляваць савецкі быт (апав.[яданне] «Хаім Рыбс»).

Пішучы «Новую зямлю», ён «душой адпачывае», бо гэта ёсць крыніца яго творчай моцы, бо ў «Новай зямлі» змалёвана тая нацыянальна-народная падстава, якая дае сэнс усёй яго творчасці і без якой таксама не мела б сэнсу і нацыянальная палітыка Савецкай улады на Беларусі. Аб высокай мастацкай якасці «Новай зямлі», калі браць паэму ў суцэльнасці, цяпер няма ўжо спрэчак, але ў ёй, на правялікі жаль, ёсць часам у некаторых раздзелах пэўная слабізна з боку сучаснага вершаскладання.

Апав.[яданне] «Хаім Рыбс» кладзе пачатак тэматыцы ў творах Якуба Коласа, звязанай з савецкім бытам. Напісана апавяданне з уласцівай Якубу Коласу мастацкай прастатою; збудавана яно на камізме ад неадпаведнасці і ў пэўнай меры паказвае нам цікавыя і характэрныя куткі чалавечай душы.

У 1922 г. выходзіць з друку «Водгулле» (Менск, 107 стар.), зборнік вершаў за 1908—1921 гг. Творчая прадукцыя ў 1922 г. была ў яго вялікая: 1) восем раздзелаў «Новай зямлі» («Дзедаў човен», «Сесія», «Начаткі», «Вечарамі», «Воўк», «Каляды», «Летнім часам» і «Агляд зямлі»); 2) другое апавяд.[анне] з савецкага быту — «Курская анамалія», напісаная ў Менску ў глыбокую восень, і 3) частка аповесці «У палескай глушы».

Што да яго першых апавяданняў на савецкія тэмы, то калі «Хаім Рыбс», на першы погляд, мала гаворыць аб паважнасці адносін да сучаснасці, дык другое апавяданне, «Курская анамалія», паказвае зусім выразна, што ён задаецца мэтаю тыпізаваць сучаснасць, як праўдзівы мастак свае эпохі, і найперш шукае сутнасць гэтай эпохі ў найбліжэйшым да сябе жыцці.

У 1923 г. у Менску выходзіць з друку «Новая зямля» (284 старонкі верша) і ў Вільні — аповесць «У палескай глушы».

«Апав.[яданне] «Крывавы вір» малюе нам рэвалюцыйную навалу, вір, у якім гіне вінаваты і невінаваты, у якім яшчэ ніхто добра не разбірае, не ведае, што і як будзе, у якія выльецца формы. Студэнт Грыша, паніч, прыхільнік рэвалюцыі, робіцца потым дэзерціраам і ўмірае ад разлютаваных сялян як ахвяра за ўчынкі сваіх бацькоў і дзядоў. Помста засляпляе сялянам вочы. Прадстаўнік старога, дзед Патап, баіцца яшчэ прайсці праз панскі двор, але ўсімі сіламі ненавідзіць паноў, а маладзейшыя сяляне

ствараюць ужо цэлы аддзел ахвотнікаў дзеля змагання з белымі. Апав. [яданне] «Дачакаўся» дае нам, з аднаго боку, тып заможнага селяніна, як Раман Шулядзяк, які пачынае не любіць Савецкую ўладу за ўчынкі люмпен-пралетарыя Хведзькі Кандратавага, а з другога боку, гэтае апавяданне дае нам тып апралетаранага селяніна-незаможніка, сталяра Пётру Мазалеўскага, у якога і грошы ў банку прапалі, але які ўсімі сіламі стаіць за чырвоных. Раман Шулядзяк мяняе свой погляд на справы, калі белыя пагаспадарылі над ім і над яго сям'ёю і гаспадаркаю. Апав. [яданне] «Сяргей Карага», у якім малюецца светлы вобраз чырвонаармейца-камуніста, з апралетараных сялян, гаворыць нам ужо, што досыць трошкі ўсведаміць сялян і паказаць ім на прыкладзе, як трэба змагацца за свае класавыя заваёвы (гэта зрабіў Сяргей Карага),— дык Ахрэменка і Петручок зараз перабягуць ад дзянікінцаў да чырвоных.

З фармальна-мастацкага боку паказаныя апавяданні Якуба Коласа хоць і выглядаюць усяго толькі абразкамі, усё ж такі лепей выглядаюць, чым апавяданні шмат якіх іншых нашых сучасных белетрыстаў, бо хоць і няма ў іх асаблівай бліскучасці, але ў суцэльнасці ў іх усё на сваім месцы, прынамсі, няма ў іх ні нуды з апавяданняў Цішкі Гартнага, ні вульгарнасці з апавяданняў Міхася Чарота, ні танных эфектаў з творчасці Зарэцкага-Касянкова.

У апав. [яданні] «Крыв. [авы] вір» мы ўвесь час напружана чакаем трагедыі, але затое яшчэ лепей бачым вялікі сэнс рэвалюцыі; у апав. [яданні] «Дачакаўся» мы з прыемнасцю наглядаем расчараванне героя, у апав. [яданні] «Сяргей Кар. [ага]» у нас расце сумная трывога за героя; але мы знаходзім супакой ад яго смерці ў тым, што так паміраюць за вялікія ідэі. І так вось у кожным апавяданні аўтар умее зрабіць на чытача належнае мастацкае ўражанне.

У 1924 г. выходзяць зборнікі даўніх і новых апавяданняў Якуба Коласа: «На рубяжы», «У ціхай вадзе», «Крок за крокам», «Першыя крокі» (гэты зборнік прызначаецца чытаць дзецям), а ў «Маладняку» друкуецца яго цікавая казка «Што яны страцілі?», а ў 1925 г. выходзіць, нарэшце, з друку рамантычная (што так усімі падкрэсліваецца) паэма «Сымон-музыка» ў закончанай (пад рэалізм) форме, на 277 старонак. Скончыўшы, такім чынам, дапісванне даўнейшых твораў і напісаўшы яшчэ «Забастоўшчыкі», Якуб Колас завінуўся пісаць апавяданні на савецкія тэмы

і за адзін гэты год напісаў большую частку зборніка «На прасторах жыцця», болей як сотню вялікіх старонак мастацкай прозы: у пачатку года, у Менску, ён піша апавяданне «Пракурор» і «Туды, на Захад» і першую частку аповесці «На прасторах жыцця» («На парозе»); улетку ў вёсцы Патрэбе, пад Менскам, ён піша тры апавяданні: «Царскія грошы», «Называецца зарабіў» і «З боку ад жыцця», а ўвосень у Менску — апав.[яданне] «Агатка». У гэтым жа годзе напісаў ён «Казкі жыцця» — «Ноч, калі зацвітае папараць» і «Купальскія светлячкі». Як новае, трэба адзначыць, што ў гэтым годзе ён ужо малюе з пэўным замілаваннем быт савецкай моладзі («На парозе»).

«Забастоўшчыкі» («Полымя», № 1, 1925 г.) — п'еса на 2 акты, у якой апісваецца з'езд настаўнікаў-беларусаў, што быў 9-га ліпеня (ст.ст.) 1906 г. За падобную рэвалюцыйную дзейнасць і сам аўтар пасядзеў у астрозе 3 гады. Тут паказана шмат рэвалюцыйнага запалу, але і няўмельства, трусасці некаторых. Беднасць настаўніцкая (усе ў лапах Довіда). Канчаецца арыштам. Шмат гумару.

У 1926 г. выходзіць з друку зборнік «Казкі жыцця» (Менск, 73 стар.), у якім зьмешчаны казкі, піс.[аныя] ад 1907 да 1925 г., зборнік «На прасторах жыцця» (Менск, 217 стар.), у якім сабраны апавяданні, пісаныя ад 1921 г., і выходзіць яшчэ вялікі падручнік «Методыка роднай мовы».

Напісаў вершаваную казку «Рак-вусач» (друкавалася ў «Белар.[ускай] вёсцы»), колькі раздзелаў аповесці «У глыбі Палесся» (працяг апов.[есці] «У палескай глушы») і частку паэмы «На шляхах волі». У гэтым годзе грамадзянства беларускае адсвяткавала яго 20-гадовы юбілей, Савет Народных камісараў Беларусі падкрэсліў яго заслугі ў рэвалюцыйным руху на Беларусі і надаў званне народнага паэта рэспублікі.

Як бачым, асобных лірычных вершаў пасля Кастрычніка піша ён мала. Частка іх зьмешчана ў «Водгуллі». Наогул жа, з першаю магчымасцю, з 1912 г., піша дужа многа. Найбольшая прадукцыя прыпадае на 1921—[19]22 гг., калі ён піша проста недазволена многа для паэта.

Падзяліць літаратурную творчасць Якуба Коласа за паслякастрычніцкі перыяд можна так: 1) дапісванне старых твораў (з 30 раздзелаў «Новай зямлі» ажно 19 напісаны пасля Кастрычніка; большая частка паэмы «Сымон-музыка» і ўся яе канчатковая рэдакцыя напісана таксама пасля Кастрычніка); 2) пісанне новых твораў, у якіх

жыццё ўзята з дакастрычніцкай пары, галоўным чынам з эпохі 1905 г. («У палескай глушы», «Забастоўшчыкі») і 3) новыя творы, у якіх і жыццё ўзята з паслякастрычніцкага часу (зборнікі «На рубяжы», «На прасторах жыцця», паэма «На шляхах волі» і інш.).

Уплывы новага часу мы бачым на пазнейшых раздзелах «Новай зямлі» і ў пазнейшай рэдакцыі паэмы «Сымон-музыка»: паэт болей цікавіцца сацыяльна-эканамічнымі пытаннямі, вастрэй крытыкуе паноў і ўрадоўцаў і выяўляе нават класавыя рыскі ў пэўных месцах.

Пісанне новых твораў, але з дакастрычніцкага жыцця, галоўным чынам, з эпохі, звязанай з 1905 г., значыцца, з маладых, рэвалюцыйных гадоў аўтара, як бы дапамагала Якубу Коласу перайсці на маляванне паслякастрычніцкага рэвалюцыйнага часу. Аповесць «У палескай глушы» (гл. агульны агляд яе ў IV вып.[уску] «Гісторыі белар.[ускай] літар.[атуры] М. Гарэцкага) паказвае жыццё, узятае з пярэдадня рэвалюцыі 1905 г., выяўляе нам некаторую сутнасць таго працэсу, які прывёў да гэтай рэвалюцыі.

Новыя творы Якуба Коласа (апавяданні і аповесці), узятыя і з новага, паслякастрычніцкага жыцця, паказваюць пералом у настроях сялянства, адносіны інтэлігенцыі да рэвалюцыі, быт савецкай моладзі, г. з[н]. вучнёўскай, і г. д.

Быт інтэлігенцыі і яе адносіны да рэвалюцыі мы бачым найперш у апав.[яданні] «Курская анамалія» і апав.[яданні] «Пракурор».

У першым апавяданні настаўнік Угоднік ледзьве не ўмірае з голаду-холаду, не можа рабіць заняткаў і цярпліва чакае, што з ім будзе далей. Сяляне толькі тады ўспомнілі пра яго, калі ім спатрэбіўся поп. Пракурор — прадстаўнік буржуазнай інтэлігенцыі; ён спачатку дужа варожа глядзіць на Савецкую ўладу, але пабыўшы ў становішчы сваіх былых падсудных, пакраўшы ноччу дроў у плоце, ён нарэшце робіцца саўслужам і вызнае вялікае значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Што да быту савецкай, гал.[оўным] чынам, вучнёўскай моладзі, дык Якуб Колас змаляваў яго ў вялікай, на дзве часткі, аповесці «На прасторах жыцця», на жаль, дагэтуль нікім яшчэ з нашых даследчыкаў літаратуры добра не прааналізаванай. Гэтая аповесць хоць трохі запоўніла вялікае пустое месца ў навейшай беларускай літаратуры. Колас любіць моладзь, ён прысвячае ёй «Сымона-музыку», ён разумее моладзь — і бярэ быт моладзі, быт рабфака, бо

гэта, мусіць, на яго погляд, і ёсць тое дадатнае, што ёсць у новым быце і што сапраўды з'яўляецца новым [1].

Другое вялікае пустое месца ў нашай літаратуры запоўніў Якуб Колас аповесцю «Туды, на Захад», бо хаця збольшага паказаў, як жылося нашым уцекачам на чужыне.

У другіх сваіх апавяданнях Якуб Колас апісвае гарадское жыццё — жыццё, галоўным чынам, гарадской рамесніцкай беднаты ў савецкіх умовах («Калектыў пана Тарбецкага» і інш.).

Апавяданне «Называецца зарабіў» наўмысля трэба адзначыць, як цікава збудаванае — тут неспадзявана аказаўся той самы літаратурны прыём, што ў вядомай казцы «Быка на індыка», і прыём гэты дало Коласу само жыццё!

Наогул жа, увесь зборнік Якуба Коласа «На прасторах жыцця» — гэта даволі багаты і гэтак рэдкі ў нас апошнім часам падарунак самаму шырокаму беларускаму чытачу.

У «Полымі» друкавалася ўжо троху яго паэма «На шляхах волі», якая таксама, як і аповесць «У глыбі Палесся», з'яўляецца шырэйшым развіццём яго даўнейшых тэм. Друкаваныя кавалкі гэтай паэмы з мастацкага боку вельмі моцныя.

Робячы вывады з агульнага агляду твораў Якуба Коласа, напісаных пасля Кастрычніка, найперш трэба адзначыць зрух яго ад рэвалюцыйнага нацыянал-адраджанізму да выконвання заданняў, якія ставіць у нашай літаратуры пралетарская ідэалогія. З боку мастацкага, безумоўна, вышэй стаяць яго вялікія вершаваныя рэчы, але апавяданні апошняга часу таксама выяўляюць у ім спрактыкаванага майстра і прыроднага мастака. Творы Якуба Коласа чытаюцца лёгка, успрымаюцца масавым чытачом, і ўсе іх, можа, з нязначнымі выняткамі, можна лічыць найлепшым матэрыялам дзеля нашых хат-чытальнень і вучнёўскіх бібліятэк, не гаворачы ўжо аб вялізным значэнні твораў гэтага народнага паэта рэспублікі дзеля кожнага грамадзяніна Рэспублікі і дзеля рабоча-сялянскіх мас у Заходняй Беларусі.

---

[1] Мімаходам кажучы, трэба, аднак, паказаць аўтару на адзін хаця бы выпадак у яго мове. На стар. 182 ён піша: «Што яна паступіць у педтэхнікум, у Сцёпкі не было ніякага сумлення». Пабеларуску тут павінна быць: «Сцёпка быў пэўны». А то выйшла так, што ў Сцёпкі «не было никакой совести».

## ПЭЎНЫ ГВАЛТ

### (У СПРАВЕ ТВОРЧАСЦІ М. ГРАМЫКІ)

Аўтабіяграфія Грамыкі змешчана ў «Выпісах з беларускай літаратуры» У. Дзяржынскага (стар. 523).

Буйнейшыя творы ў Грамыкі гэткія: драма *«Змітрок з Высокай Буды»* (друк.[авалася] у «Вольн.[ай] Белар.[усі]», 1918 г.); вершы *«Крылан»* (друк.[аваліся] у альм.[анаху] «Адраджэнне», № 1, 1922 г.), *«Гвалт над формай»* («Полымя», № 1, 1922 г.), *«Сямімільнымі крокамі»* («Полымя», № 2, 1923 г.), *«Мільён»* («Полымя», №№ 5—6, 1923 г.), вершаваная паэма *«Лесніčанка»* («Полымя», № 2, 1924 г.), драма з *жыцця Францыска Скарыны*, якая дагэтуль не друкавалася, але, як кажуць, з поспехам ішла на сцэне 1-га Бел.[арускага] дзярж.[аўнага] т.[эатра] у Менску, здаецца, узімку 1925—1926 гг.; апрача таго, Грамыка зрэдку змяшчаў свае *лірычныя вершы* ў розных беларускіх выданнях, галоўным чынам у газетах.

У першых сваіх творах Грамыка выяўляў яшчэ звычайныя нацыянал-адраджэнцкія імкненні, толькі з пэўным ухілам у бок пераважна інтэлігенцкіх інтарэсаў жыцця (*«Змітрок з Высокай Буды»*, 1918 г., і іншыя рэчы). Потым, у 1922 г., у № 1 «Полымя», быў надрукованы яго артыкул «Паэзія аб рэвалюцыі і рэвалюцыя ў паэзіі», дзе ён разважае аб змесце і форме ў мастацкіх творах і аб уплывах на змест і форму з боку рэвалюцыі. Следам за артыкулам змешчаны вершы *«Гвалт над формаю»*, як пэўны прыклад новага зместу і новай формы. З. Жылуновіч, у сваім артыкуле «Беларускі Парнас у новай вопратцы» («Полымя», № 2, 1923 г., стар. 82), называючыся якраз і на вершы «Гвалт над формаю», пісаў аб Грамыку, што ён «парывае з усім старым, імкнецца да новага і дае першыя скуткі, досыць багатыя, сваіх шуканняў»., адно што «паэт заглыбака ўдараецца ў пагоню за формай, даючы ёй у ахвяру сэнс і выразнасць вобразаў».

Прааналізаваўшы гэтыя вершы, смела можна сказаць, што сапраўды тут ёсць пэўныя «шуканні», галоўным чынам у тым кірунку, каб стары беларускі нацыянал-адраджанізм прыбраць у савецкую вопратку,— так што, гаворачы фігуральна, гэта ёсць маленькая, але даволі яскравая праява пачаткаў нэпа ў беларускай паэзіі; што ж да мастацкага афармлення гэтай праявы, дык, безумоўна, тут ёсць пэўны гвалт і над сэнсам і над формаю...

На жаль, Жылуновіч нічога не кажа аб прычынах, ад

якіх мог залежаць гэты падвойны гвалт. Але можна думаць, што прычыны гэтыя — не столькі ідэалогія аўтара, колькі яго мастацкія здольнасці. Здогад гэты пацвярджаецца тым часам іншымі творамі аўтара.

10 травеня 1923 г. Грамыка напісаў паэму *«Мільён»*, якая і надрукована ў №№ 5—6 «Полымя» за той самы год. Змест гэтых вершаў — усяго патроху... Чырвонаармейцы зайшлі начаваць, бабуля пусціла іх, паслала ім саломкі, усе спяць. Чырвонаармеец Рыгор заляцаецца да Алесі, просіць даць пацалунак («апошні ад роднай краіны»). Дзяўчына баіцца яго, што ён не верыць у бога. Рыгор распачынае з ёю супрацьрэлігійную гутарку. Потым — бой з панамі. Рыгор забіты, ці што, пан забіты. Тэмы-матывы тут: рэвалюцыя, змаганне з польскімі панамі, антырэлігійныя настроі, рэвалюцыйныя імкненні з ухілам у бок пралетарскіх сімпатый, перажыванні маці і дзяўчыны, а самае асноўнае — беларускі нацыяналізм. Аб форме тут можна сказаць, што верш даецца Грамыку цяжка, але часам аўтар мае пэўныя дасягненні. Наогул жа, форма гняце яго, бо ён не ўмее валодаць ёю, і ад гэтай прычыны ён хоча рабіць над ёю пэўны «гвалт», дапушчае нібы «наўмысныя» вольнасці ў форме, часам сапраўды з вышчарбленнем сэнсу. Напр.[ыклад], патрэбна яму рыфма да слова «снег», і ён піша: «Спяць без пацех» (?!). Ёсць выразныя ўплывы «Двенадцати» А. Блока («Чырвоная ночка, бялюткі снег...», «Дык жа па ўсім свеце вецер, братка, вецер...»), ёсць водгукі і «Босых на вогнішчы» М. Чарота, а магчыма, яшчэ — і «Варожбы» А. Гаруна. А ўвесь яго тон у паэме болей-меней нервуе чытача, а дзеля таго, здаецца, і захоплівае троху.

Паэму *«Лесні́чанка»*, як нейкае далейшае развіццё падзей, закранутых у паэме «Мільён», Грамыка напісаў у вясну 1924 г. Змест яе агульнавядомы, бо яна пасля «Полымя» надрукавана яшчэ і ў «Выпісах...» У. Дзяржынскага. Тут — змаганне паўстанцаў-беларусаў з акупантамі-палякамі, змаганне нацыянальнае, якое ва ўмовах Заходняй Беларусі зазвычай бывае і змаганнем у поўнай меры класавым. Напісана паэма з пачуццём і ўся ахоплена рэвалюцыйна-рамантычным настроем аўтара. Тут сем песень і дасказанне, амфібрахічны верш, размер блізу ўсюды без памылак і шурпатасцей, але верш агулам слабы, мова не дужа правільная, расіянізмаў шмат.

Агулам кажучы, Грамыка — пісьменнік інтэлігенцкага складу, даволі далёкі ад жыцця рабочых і сялян, і нацы-

янал-адраджэнец, які пралетарскую ідэалогію ў творчасці прымае там, дзе яна абымае рэвалюцыйны беларускі нацыянал-адраджанізм. Ён — слабы мастак, але аматар паэзіі; арыгінальнічае, але мімаволі ўпадае ў рамантыку, і паэзія ў яго лішне «разумная», праграмная, але падагрэтая пэўным настроем. Верш у яго не звонкі, не гучны і штучна бойкі; шмат у яго вершах прыдуманага, а не спянага. Мова беларуская далей ад яго, чым мова расійская; між іншым, магчыма, што і з гэтай прычыны цяжка яму пісаць беларускія вершы; мусіць, ён зусім не працуе над паглыбленнем свае веды ў беларускай мове, бо зусім слаба ведае беларускую фразеалогію; добра было б, каб хто-небудзь разгледзеў усе яго творы з боку мовы і вытлумачыў бы яму ўсе яго памылкі ў мове; напрыклад, у такой невялічкай аўтабіяграфіі, пісанай жа дзеля школьнага чытання, знаходзім гэткія выразы: *«тады як* лінія дзедавага брата (Іван Грамыка) *і па гэты дзень* працуе *над зямлёй...»* («Выпісы...» У. Дзяржынскага, стар. 523),— а па-беларуску трэба было напісаць хоць гэтак: тым часам лінія дзедавага брата (Івана Грамыкі) і дагэтуль працуе на зямлі... Бо пісаць з такімі недаглядамі — гэта ёсць, безумоўна, пэўны гвалт.

## АБ ТВОРЧАСЦІ МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА

Усе творы Міхася Зарэцкага, па часе апісанага ў іх жыцця, можна раскласці ў пэўнай паступовасці. Так, 1917 г., і наогул пачатковы перыяд рэвалюцыі, ён дае цяпер у рамане «Сцежкі-дарожкі». Грамадзянскую вайну на фронце ён яшчэ, на жаль, не паказаў, але жыццё чырвонаармейцаў у яго творах, наогул, маем (апав.[яданне] «Чаплюк», часткаю апав.[яданне] «Мар'я»). Маем таксама, хоць слабенькую, спробу паказаць змаганне беларускіх паўстанцаў з польскімі жандарамі (апав.[яданне] «Бацькаў сын»). Змаганне з контррэвалюцыяй і бандытызмам бачым у апав.[яданнях] «Ворагі», «Адна партыя ў шашкі», «42 дакументы». Ёсць у яго і спроба перадаць сутнасць дэзерцірства, з якога мог быць і бандытызм (апав.[яданне] «У Саўках»). Наогул развіццё разбойнага элемента на вёсцы пасля вайны і ў часе рэвалюцыі хацеў ён, мусіць, выявіць апавяданнем «Ноччу», але што хацеў сказаць тут аўтар, застаецца даволі незразумелым. Змаганне

вясковых незаможнікаў з багатырамі, якія паспелі нават прымазацца да Савецкай улады, аўтар дае ў апав.[яданнях] «У віры жыцця», «Цішка Бабыль». Далей тут маем: вызваленне жанчыны ў вёсцы (апав.[яданне] «Ганулял»), старае і новае ў сямейным быце — на вёсцы (апав.[яданні] «Мар'я», «На маладое») і ў горадзе (апав.[яданні] «Бель», «Дзіўная»), канец рэлігіі ў савецкіх умовах жыцця (апав.[яданні] «Спакуса», «У велікодную ноч»), канец апошніх старарэжымнікаў у савецкім быце (апав.[яданне] «Голы звер», апав.[яданне] «Двое Жвіроўскіх»), нарэшце, дагаранне спаленых рэвалюцыйным змаганнем і наогул жыццём (апав.[яданні] «Кветка пажоўклая», «Смерць») і камсамольскія парасткі (апав.[яданне] «Як Настулька камсамолкай зрабілася»).

Адгэтуль жа мы бачым, што Міхась Зарэцкі апісвае тыя самыя праявы жыцця, што і іншыя нашы белетрысты гэтых гадоў, і ў яго апавяданнях шмат ёсць раўналежнага зместу з апавяданнямі Бядулі, Чарота, Нёманскага. Але трэба прызнаць, што ў Міхася Зарэцкага найбольш разнабокасці бытапісання па ліку закранутых з'яў жыцця. Пэўна ж, гэтая акалічнасць не з'яўляецца ні дадатнаю, ні адмоўнаю, калі пісьменнік у сваёй тэме не з'яўляецца бытапісальнікам. І толькі мімаходам можна адзначыць, што і ў Міхася Зарэцкага пры ўсёй яго паўнаце, абхопе ёсць і прыкрыя пустыя месцы: змаганне за БССР, беларусізацыя, быт вучнёўскай моладзі і да т. п. з'явы, закранутыя іншымі нашымі пісьменнікамі, не гаворачы ўжо аб тэмах, блізу нікім яшчэ не закранутых (беларусы ў Сібіры і Амерыцы, беларуская белая эміграцыя і г. д.). І ткі Міхась Зарэцкі, мусіць, не з'яўляецца па сваёй пісьменніцкай прыродзе бытапісальнікам, а тое, што ён хапаецца за сюжэты з розных бытавых з'яў жыцця, сведчыць толькі аб тым, што ён яшчэ не знайшоў сябе як пісьменніка, а можа, ніколі і не знойдзе. Яго моц не ў бытапісанні, а ў пэўных праблемах жыцця, якія цікавяць яго самога і якія ён даволі цікава ставіць перад чытачом. Галоўныя з гэтых праблем — адносіны мужчыны і жанчыны ў новым быце, звязаныя або вынікаючыя з агульнай мэтаімкнёнасці аўтара ў гэтым кірунку. Самыя яскравыя і ў большасці самыя даўгія творы ў яго: «Ворагі», «Бель», «Мар'я», «На маладое», «Кветка пажоўклая», «Дзіўная», «Голы звер» (не гаворачы аб «Сцежках-дарожках», пакуль рэч не закончана друкам). У гэтых творах аўтар найбольш мае самавітасці, тым часам рэштаю сваіх твораў ён нічым асаб-

лівым не вызначаецца ў шэрагу іншых нашых белетрыстаў. У гэтых творах — найлепей выяўленая галоўная тэма аўтара.

Тэма гэтая, больш-менш, адна: пытанні родавых адносін, пытанні сямейнага быту, каханне, эротыка,— хаця на першы погляд здаецца, што ў апав.[яданні] «Ворагі» аўтар хоча паказаць змаганне за рэвалюцыю, або што ў апав.[яданні] «Голы звер» ён хоча разгарнуць і выявіць звырыную сутнасць белагвардзейшчыны.

Паказаная тэма бывае ў іншых пісьменнікаў часоваю тэмаю, звязанаю толькі з пэўнымі гадамі,— хто ведае, можа, так будзе і ў нашага аўтара. А ці выйграе ад гэтага яго творчасць ці прайграе,— сказаць цяжка.

Усе творы Міхася Зарэцкага ўзяты з сучаснага жыцця, усе з савецкага, толькі два з беларускага пад польскай акупацыяй, у большасці твораў — вёска і сяляне, у меншасці — горад і розныя служачыя і паны.

Але ні савецкае, ні заходнебеларускае жыццё ў Міхася Зарэцкага не мае нацыянальна-народных асаблівасцей, дзеля таго яно можа быць залічана і да беларускага і да якога хаця, адно што апісанага кніжнаю беларускаю моваю. З мастацкага боку, у сучасны момант, гэта значны недахоп, асабліва ў тых выпадках, калі апавяданне павінна быць звязана з пэўным народным бытам. Таксама апісаныя ў яго апавяданнях звычайныя сяляне не маюць асабліва яскравага колеру; трошку яскравей яны выглядаюць у апралетараным стане або ў чырвонаармейскім шынялі (гл. апав.[яданні] «У віры жыцця», «Чаплюк»). Самыя яскравыя персанажы ў яго — чэкісты, матросы, паны, бандыты і белагвардзейцы, а наогул, незалежна ад сацыяльнага стану, яскрава выглядаюць у яго ўсякія ўдзельнікі любоўных гісторый і асабліва жанчыны. На жаль, самыя яскравыя тыпы ў яго, калі можна зваць іх тыпамі, не характар.[ыз]уюць сутнасці свайго часу або асаблівасцей свайго класа, а калі і даюць некаторае ўяўленне аб сваёй эпосе, дык хіба толькі ў справе родавых адносін. Возьмем апав.[яданне] «Ворагі». Старшыня павятовай Чэка, Павел Мікалаевіч Гуторскі, цераз дзесяць год ізноў спатыкае сваю былую сімпатыю, дачку пана-абшарніка, Ніну Васільеўну Купрыянаву; а калі яе жаніха, бандыта Зарубу, злавілі і расстралялі, хоча жаніцца з ёю, бо дужа закахаўся, але ўжо нічога з гэтага не выйшла. І наогул, мімаходам кажучы, няма таго апавядання ў гэтага аўтара, каб у людзей, якія хочуць будаваць жыццё па-новаму, дайшло б да

ладу. Дык вось Гуторскі, што ён такое? Праўдзівы тып старшыні Чэка? — ні ў якім разе! Гэта чалавек выдуманы або спісаны з якой-небудзь не тыповай для чэкіста натуры. Але ён — улюбёны тым часам герой у Міхася Зарэцкага, паўтораны з пэўнымі адменамі ў іншых творах. Гэта ён, напрыклад, у ролі Булановіча ў ап. [авяданні] «Кветка пажоўклая». Нават адважымся сказаць, што гэта ён, разведзены Яроцкім з «Голага звера» і разліты папалам, крышталізуецца ў Аснача ў апав. [яданні] «Адна партыя ў шашкі»... Зразумела, што і Ніна Куприянава, якая прадае каханага чалавека, носячы ад яго дзіця, прадае, каб нібыта вызваліць бацьку, а потым дружыць з Гуторскім, які навёў яе на гэткі ўчынак, зразумела, што і яна таксама ні ў якім разе не з'яўляецца рэальным ці наогул мастацкім тыпам. Гэта — гераіня крымінальных раманаў невысокай мастацкай якасці. Але аўтару патрэбна была незвычайная «паэзія кахання», бо іншай паэзіі ў рэвалюцыйным змаганні ён не ўбачыў, яму патрэбна была дзеля інтрыгі і пэўная супярэчнасць, і ён яе знайшоў: абавязкі старшыні Чэка супроць кахання да Ніны. Перамагаюць абавязкі, што і трэбавалася давесці. Ці трэба ўжо казаць аб такіх драбніцах, як тое, што Матросу брыдка браць Зарубу «здрадаю», што ён хоча борыцца з гэтым бандытамканешне адзін на адзін і г. д. А такога рамантычнага падсалоджвання, як нейкай анахранічнай недарэчнасці ў бытапісальніка рэвалюцыі, у Міхася Зарэцкага шмат. Бо ён паганяе за таннымі эфектамі. І калі «Ворагі» — першае апавяданне маладога неспрактыкаванага чалавека, за якое можна дараваць яму з увагі на пэўныя літаратурныя заслугі, дык, напрыклад, апав. [яданне] «Кветка пажоўклая» ўжо выяўляе паўтор хваробы. І тут самы яскравы чалавек у аўтара, камуністка і былая чэкістка, на прозвішча Гарнова, чамусьці аказваецца паненкаю, дачкою вялікага абшарніка з Віленшчыны, яна падпісала расстрэл роднаму брату, хоць чужому чалавеку, кажа, не падпісала б, і г. д. і г. д. А дзе ж праўдзівыя тыпы бальшавікоў? Іх тут няма, апрача некалькіх інтэлігенцікаў з ліку асістэнтаў мадмуазель Гарновай. Бо аўтар паганяе за таннымі эфектамі, упадае ў мяшчанства, якое таксама не заўсёды любіць натуральную, жывую, хоць бы і палявую кветку, а шукае лепей штучных кветак, хоць і пыльных, і з паперы і ■ таннай фарбы, але зробленых на «благародны» манер... Не дзіва, што ў яго і Ніна Куприянава аказваецца, нягледзячы ні на што, амаль не кандыдаткаю ў Марылі Гарновы

(фактычна гэта дзве адмены аднаго тыпу жанчыны). Слушна піша Я. Кудзер у рэц. [энзіі] на збор. [нік] «Пела вясна», што такіх танных эфектаў, як тое, што Аснач забівае злоўленага ім пана-бандыта, прайграўшы яму партыю ў шашкі, што такіх танных эфектаў можна знайсці ў Міхася Зарэцкага шмат. Найболей іх у апав. [яданнях] «Ворагі», «Адна партыя ў шашкі», «42 дакументы», «Адкупіўся», «Бацькаў сын», «Голы звер», а ёсць яны і ў іншых яго творах,— і даўно пара яму ведаць, што не ўсё тое золата, што блішчыць.

І, мусіць, таму ў апавяданнях «Ворагі» і «Кветка пажоўклая» слаба выяўлена галоўная тэма яго творчасці, што ён пагнаўся за эфектамі і, апрача таго, хацеў давесці гэтымі апавяданнямі нешта зусім іншае, чым тое, што падказвала яму яго тэма. Дзеля гэтых жа прычын, паміма розных іншых, не ўдалася і аповесць «Голы звер», бульварны раманчык, дзе, між іншым, такі энергічны белагвардзеец Яроцкі і такі мізэрны камуніст Горскі. Апавяданні ж «Мар'я», «Бель», «На маладое», а нават апавяд. [анне] «Дзіўная» трэба прызнаць болей удачнымі, бо ў іх аўтар шчыра казаў тое, што яму хацелася казаць, а хацеў ён тут казаць аб сваёй галоўнай у сучасны момант тэме. Асабліва ўдалася яму постаць сялянкі Мар'і, толькі забойствам дзіцяці псуецца троху мастацкае ўражанне. У апав. [яданні] «Бель» не зусім тыповыя рабочыя, мала фабрычнага быту і не зусім удалае абрамленне апавядання: снегам пачынаецца і снегам канчаецца, а дзеля чаго тут сапраўды снег? Можна было б і дождж пусціць...

Што да стылю ў Міхася Зарэцкага, дык, безумоўна, пяро тут вельмі бойкае. Але, ізноў жа, пакуль аўтар не паганяе за таннай бліскучасцю стылю, у яго тады хоць і няма асаблівай мастацкай бліскучасці, але затое ўсё ў парадку. Аднак жа і ў справе стылю ён не заўсёды можа ўтрымацца: часам ён кідае звычайны, просты, рэалістычны, а таму і добры стыль і пачынае пісаць падкрэслена размеранымі сказамі, абрыўкамі сказаў, рознымі напамінкамі і таннымі слоўнымі фокусамі, кшталтам таго, што «кветка пажоўклая», а не «пажоўклая кветка». Асабліва гэта выявілася ў апов. [есці] «Голы звер». Што сказаць аб такім стылі? Па-першае, стыль гэткі не навіна. Па-другое, ніколі ён не лічыўся дужа мастацкім ці проста мастацкім. Па-трэцяе, гэткі стыль ні ў якім разе не з'яўляецца яшчэ характэрным дзеля нашай эпохі. Тым часам ёсць паклоннікі і гэткага стылю. Аўтар фельетона аб апов. [есці] «Голы звер»,

нейкі П. Б., даўшы некалькі даволі шырокіх і трапных разважанняў аб сацыяльна-эканамічных падставах, на якіх з'яўляюцца ў нас «голыя зверы», пісаў некалі ў «Сав. [ецкай] Белар. [усі] », што «фармальны бок «Голага звера», па магчымасці, адпавядае ўсім новым вымогам літаратурнай творчасці», а гэтыя вымогі П. Б. бачыць у тым, што Міхась Зарэцкі «не дакучае чытачу нудным, падрабязным пратаколам аб тым, а якой гадзіне прачнуўся герой, а якой ён выйшаў з дому і г. д.». Пэўна ж, у параўнанні з некаторымі іншымі нашымі раманамі, можа, гэта і добра, але гэта яшчэ нічога не кажа аб мастацкасці стылю ў апов. [есці] «Голы звер» і ў некаторых іншых творах або толькі месцах твораў Міхася Зарэцкага, дзе, ізноў жа, блішчыць, ды не золата...

## [ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА XI З'ЕЗДУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ]

Таварышы! Мы прыехалі з далёкіх Горак, каб далучыць да прывітанняў, якія тут былі ад прадстаўнікоў беларускіх рабочых і сялян, і свой голас — голас навуковых працаўнікоў Беларусі.

Таварышы! Мы жадаем вам, а праз вас і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, каб у Польшчы выбары ў сейм прайшлі так, што Камуністычная партыя Заходняй Беларусі правяла б як мага больш сваіх таварышаў і каб навуковыя працаўнікі, якія зараз там сядзяць у турмах, як тт. Луцкевіч, Тарашкевіч і іншыя, каб яны былі ў такіх умовах працы там, у якіх мы знаходзімся тут, а каб тыя, хто іх засадзіў, самі сядзелі.

Далей я вельмі жадаю вам, каб тое, што робіцца ўнутры партыі ў справах апазіцыі, каб яно найхутчэй было вырашана на карысць рабочым і сялянам.

Тут я хацеў сказаць, што ў нас, на месцах, з боку людзей, якія нават не разумеюць, у чым справа, пачынаюцца нейкія шаптанні, што можа быць некаторы рэвізіянізм у адносінах да інтэлігенцыі і ў справе нацпалітыкі, але ўсё-такі павінен сказаць, што ўсе мы, навуковыя працаўнікі Акадэміі, цвёрда верым у тое, што па шляху, па якім вядзе нас Камуністычная партыя, яна і далей цвёрда нас павядзе.

Далей я хачу падкрэсліць тое, што праф. [есар] Фралоў

ужо адзначыў, што ўсе навуковыя працаўнікі стараюцца па меры сваіх сіл тварыць навуку ў беларускіх умовах, каб падняць нашу гаспадарку, каб будаваць сацыялістычную гаспадарку на Беларусі. Але, таварышы, я павінен сказаць, што мы знаходзімся ў даволі цяжкіх умовах працы, напрыклад: праводзіць беларусізацыю ў Горках вельмі цяжка. Чаму цяжка? Я прасіў бы Камуністычную партыю Беларусі звярнуць увагу на тое, што я скажу — ці правільна, ці, можа, памылкова. Мне здаецца, што цяжка беларусізацыю праводзіць таму, што інтэлектуальнае развіццё нашага студэнцтва невысокае і што дзякуючы таму, што студэнт перагружан працай, ён не можа звярнуць увагу на тое, каб належна ўспрыняць элементы беларускай культуры.

Акрамя таго, у такога студэнта не можа быць належных перспектыў у справе беларусізацыі наогул. Я лічу, што Камуністычная партыя Беларусі павінна прыняць усе крокі, каб уздымаць увесь час агульнае інтэлектуальнае развіццё студэнцтва.

Другі пункт, на мой погляд, чаму цяжка праводзіць беларусізацыю, гэта тое, што сацыяльны склад нашага студэнцтва яшчэ, як вам вядома, не належны. Асабліва ў нас у Горках, у сельскагаспадарчай Акадэміі, ёсць шмат яшчэ дэкласаваных элементаў.

Трэці пункт — у складзе навуковых працаўнікоў самы мізэрны працэнт беларусаў па культуры, і нам патрэбна дапамога ў гэтай справе.

Акрамя таго, з боку кіраўніцтва Акадэміі, секцыі навуковых працаўнікоў, нават верхавінкі студэнцкіх арганізацый бываюць усялякія недагляды і промахі. Камуністычная партыя павінна нам дапамагчы ў гэтай справе.

Усё, што было магчыма, мы зрабілі, каб набыць камуністычнае выхаванне. Мы ўсё або зусім успрынялі, або прыблізіліся да пралетарскай ідэалогіі, і ўсё магчымае, што ад нас залежыць, мы робім і будзем рабіць.

Мы аддамо ўсе свае сілы на тое, да чаго мы пристаўлены, і калі б трэба было, мы цяпер жа і без усякіх хістанняў аддалі б усё за заваёвы рэвалюцыі.

# БЕЛОРУССКАЯ ЛИТЕРАТУРА

## (КРАТКИЙ ОЧЕРК)

### СТАРАЯ ЛИТЕРАТУРА

Старая белорусская литература существовала восемь столетий. За это огромное количество времени она пережила несколько разнообразных периодов, связанных с общим историческим развитием Белоруссии.

1) Во времена Полоцкого периода (до конца XII в.) Белоруссия представляла своеобразную федерацию нескольких государственных образований, постоянно и упорно боровшихся за свою самостоятельность, противопоставленную захватническим стремлениям Киева. В культурном отношении все эти образования, для своего времени, стояли на довольно высокой ступени развития, что видно даже из тех редких и совершенно случайно уцелевших литературных памятников, которые сохранились до нашего времени.

Наибольший культурный расцвет был, по-видимому, в XII столетии, когда из отдельных литературных имен можно назвать: в Полоцком княжестве — княжну Предславу, известную больше под именем Евфросии Полоцкой, в Смоленском княжестве — Климента Смолятича и Авраама Смоленского, в Пинско-Туровском — Кирилла Туровского (1130—1182). Белорусские писатели и общественные деятели этой эпохи боролись за внедрение в сознание масс начал христианско-византийской культуры и относились отрицательно к дальнейшему развитию своей национальной языческой культуры. Поэтому белорусские литературные памятники Полоцкого периода имеют религиозный и религиозно-агитационный характер и почти совершенно не отображают народной жизни. Церковноболгарский язык этих произведений, общий и для киевской литературы того времени, был, по-видимому, тоже довольно далек от современного ему языка белорусских народных масс.

2) Продолжительный Литовско-Белорусский период в истории Белоруссии (XIII—XVI вв.) был во второй своей половине, в XV—XVI вв., временем пышного расцвета старой белорусской культуры и значительных западноевропейских влияний на нее. Государственным языком Литвы и Белоруссии, с половины XIV в. и до 1697 г., т. е. в течение 350 лет, был белорусский язык. За это время он достиг большого совершенства. Из видов его

друкаваліся доўгія апавяданні і рэчы — *«Салавей»* Бядулі і *«Сястра»* Чорнага. У Менску ў расійскай газеце *«Рабочий»* друкаваўся пераклад доўгай рэчы белетрыста Зарэцкага *«Сцежкі-дарожкі»*, хоць, на жаль, сам аўтар лістом у рэдакцыю абвясціў пераклад благім (па-беларуску рэч друкавалася ў «Полымі», у гэтым жа годзе). Найлепшая за ўвесь год рэч — адрывак аповесці Чорнага *«Вецер і пыл»* у часопісе «Полымя». Апрача таго, выйшаў новы зборнік лірыкі Дубоўкі *«Наля»*, у якім ёсць вершы з арыгінальна зробленымі месцамі. Орган Кампартыі Беларусі «Звязда» з восені перайшоў на беларускую мову; пасланыя за межы Гартны, Чарот і Зарэцкі навязвалі сувязь з пралетарскімі пісьменнікамі ў Нямеччыне і ў Чэхаславаччыне.

На мяжы 1927 і 1928 гг. утварылася літаратурнае аб'яднанне *«Полымя»;* увайшлі: Купала, Колас, Гартны, Грамыка, Чарот, Нёманскі, Зарэцкі, Александровіч, Дудар, Вольны і інш. Аб'яднанне паведаміла (гл. «Савецк.[ую] Бел.[арусь]», № 1 — 1928 г.), што ставіць мэтаю выяўляць у сваёй творчасці пралетарскую ідэалогію, паляпшаць нацыянальную форму творчасці і дапамагаць сябар сябру.

Гэтым жа часам арганізавалася з маладых аўтараў «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна» і ўжо выпусціла першы нумар свайго часопіса *«Росквіт»*.

Як бачым, не толькі маладзейшыя, але і старэйшыя беларускія пісьменнікі хочуць імкнуцца цяпер да выяўлення ў сваіх творах пралетарскай ідэалогіі. Але не адразу дайшлі яны да вывадаў, што толькі пралетарская творчасць ёсць цяпер рэвалюцыйным і наогул праўдзейным фактарам у жыцці Беларусі, што толькі яна патрабуецца жыццём.

У першыя гады рэвалюцыі некаторым беларускім пісьменнікам не пісалася або дрэнна пісалася. Прычынаю тут, пэўна ж, быў і завірушны характар часу: вайна, голад, холад, акупацыі і выключная патрэба ў творах вельмі актуальнага, галоўным чынам агітацыйнага значэння, і тэхнічная адсталасць ува ўмовах эканамічнай разрухі. Але не толькі гэта. Прычынаю тут быў таксама ідэалагічны крызіс у большасці беларускіх пісьменнікаў.

Дзеля таго, што творчасць беларускага пісьменніка гэтым часам павінна была мець актуальны характар, трэба было мець аўтару нейкую моцную ўстаноўку на пэўную палітычную ідэалогію.

Зрабіць гэтую ўстаноўку па ідэалогію, катэгарычна варожую Савецкай уладзе, перашкаджала сацыяльная сутнасць блізу ўсіх, калі не ўсіх, тагачасных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў — нацыянальных рэвалюцыянераў, пахаджэннем сялян, рамеснікаў і рабочых, а па сацыяльна-эканамічнаму становішчу найчасцей, так сказаць, пралетараў інтэлігенцкага і паўінтэлігенцкага роду заняткаў. Зрабіць жа ўстаноўку на ідэалогію катэгарычна пралетарскую не давала ім іхная прыналежнасць да таго стану, які ў вачах людзей пралетарскай ідэалогіі лічыўся нацыяналістычным, рэакцыйным або і контррэвалюцыйным. А часам прычынаю тут магла быць нават самая звычайная палітычная непісьменнасць таго ці іншага аўтара.

Наогул, гэта была як бы хвароба росту ў беларускай літаратуры. У гэтай хваробе і рабіўся пераход ад нацыянал-адраджанізму да пралетарскіх настрояў і пераконанняў.

Гэтаму пераходу вельмі дапамагло тое, што пасля Кастрычніка ў беларускай літаратуры з'явіўся цэлы шэраг маладых пісьменнікаў. Сацыяльны склад іх падобен да нашаніўскага, магчыма, троху з большым ухілам у бок апралетаранага сялянства, местачковых і гарадскіх рамеснікаў і служывых. Моладзь не адчула на сабе прыналежнасці да мінулага перыяду і рашуча заявіла сябе ваяўніком на літаратурнай ніве за Кастрычнік і яго ідэі (сябры арганізацыі «Маладняк»). Вядома, у паэтаў, роджаных Кастрычніцкаю рэвалюцыяй, не магло быць ідэалагічных крызісаў у сувязі з тымі ці іншымі ідэямі Кастрычніка. І яны адразу пачалі тварыць новы перыяд у беларускай літаратуры: яны пяялі амаль не выключна аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і яны ўдала ці не ўдала, але шукалі новую форму.

Калі маладыя падраслі ў гадах і выраслі ў мастацтве, а старыя выпрасталіся ў ідэалогіі, дык падзел на старэйшых і маладзейшых страціў сваё прынцыповае значэнне. Цяпер з'явіліся новыя падставы для падзелаў усяе грамады беларускіх пісьменнікаў на літаратурныя групы. Найперш вылецеў рой з «Маладняка»: увосень 1926 г. утварылася «Узвышша», далучыўшы да сябе з нашаніўцаў чамусьці аднаго толькі Бядулю. Як цяпер можна меркаваць, галоўная прычына гэтага раення была тая, што малады ўзвышавец спалохаўся старасці ў тагачасных арганізацыйных формах «Маладняка», спалохаўся свайго перарасту. Мінула часу адзін год — і тая рэшта маладнякоўцаў, якая асабліва востра нападала на ўзвышаўцаў за ўтварэнне новай

арганізацыі, сама зрабіла тое самае, магчыма, з тымі ж матывамі, і скарыстаўшы, з аднаго боку, прыклад «Узвышша», а з другога боку — тую акалічнасць, што якраз гэтым часам Цішка Гартны і іншыя, у тым ліку і народныя паэты рэспублікі, Купала і Колас, таксама адчулі патрэбнасць і выгоднасць уваходзіць нашым часам і ў нашых умовах у літаратурную арганізацыю; так зрабілася «Полымя». Прычыны ўтварэння «Літаратурнае камуны» пакуль што яшчэ мала высветлены. Што ж да «Маладняка», дык ён, як паказаў яго з'езд у лютым 1928 г., адчувае ўжо патрэбу змяніць свае арганізацыйныя формы так, каб надалей не быць нейкім падрыхтавальным класам дзеля пісьменнікаў. На гэтым жа з'ездзе «Маладняк» прыняў пастанову ўвайсці ў «ВАПП» — гэта першы ўваход беларускай літаратурнай арганізацыі ва Усесаюзную асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

Галоўныя матывы ў лірыцы і паэмках беларускіх савецкіх пісьменнікаў — хвала Кастрычніку, пралетарыяту, барацьбітам за вызваленне пралетарыяту, беларускім паўстанцам, камсамольская радасць жыцця і да т. п.

Галоўныя матывы ў апавяданнях і аповесцях — агітацыя за савецкі лад жыцця, з ілюстрацыямі з грамадзянскай вайны, з вайны з палякамі і змагання з палітычнымі бандамі, змаганне з сабатажам, дэзерцірствам, кантрабандыстамі, самагонам, рэлігіяй і рознымі праявамі старога быту.

У драматычнай творчасці, болей-меней, тыя самыя матывы, што і ў мастацкай прозе.

Апісванне Беларусі паслякастрычніцкага часу, галоўным чынам — Савецкай Беларусі, займае блізу ўсё месца ў сучаснай творчасці беларускіх савецкіх пісьменнікаў. У параўнанні з Савецкаю Беларуссю дужа мала апісваюць яны сучасную замежную Беларусь і беларускае жыццё на чужыне. Нават запанаваў такі погляд, што толькі той аўтар мае поўнае права лічыцца савецкім пісьменнікам, хто піша амаль не выключна аб сучасным савецкім жыцці. Аднак жа пакуль што і быт рабочага і нават селяніна выяўлен у сучаснай беларускай літаратуры помала і павярхоўна. Лепей паказаны перажыванні саміх пісьменнікаў і жыццё савецкіх працаўнікоў.

Рэвалюцыйныя моманты ў мінулым, асабліва эпоха 1905 г., даюць цяпер аўтарам прыемны матэрыял, а таму

аўтары імкнуцца да выяўлення тых момантаў. Часам апісваецца прыгоннае жыццё, цяжкая доля беларускага селяніна за часы паншчыны. Імперыялістычная вайна, бежанства, беларускі нацыянальны рух, нямецкая акупацыя, польская акупацыя — вельмі мала закрануты ў сучаснай беларускай літаратуры.

Характэрнаю асаблівасцю беларускай літаратуры ў БССР, у залежнасці ад ідэалогіі аўтараў, з'яўляецца тое, што яны ўсё часцей выходзяць з цесных нацыянальна-беларускіх і пераважна сялянскіх бытавых асадак. Наша-ніўцы апісвалі, галоўным чынам, жыццё беларускіх сялян і сялянскай інтэлігенцыі, а пасля Кастрычніка ў беларускай літаратуры часцей ужо спатыкаюцца матывы (або і жанравыя малюнкі) гарадскога, работніцкага жыцця, не гаворачы ўжо пра жыццё рамеснікаў ці служывых; часцей трапляюцца апісанні жыцця, узятага і па-за межамі Беларусі.

На жаль, у некаторых творах гэтага часу маладых аўтараў ёсць пэўная адарванасць ад народна-нацыянальных, народна-бытавых беларускіх асаблівасцей, так што часам бывае цяжка зразумець, ці гэта беларускае сялянскае жыццё, ці гэта жыццё сялян у Расіі або ў Польшчы, толькі апісанае беларускаю моваю. Часам наглядаецца свядомае ці несвядомае абмінанне пытанняў беларусізацыі і наогул нацыянальнай палітыкі ў савецкіх умовах, што заўважаецца і ў тых аўтараў, якія і могуць і павінны выяўляць гэтыя пытанні, калі не хочуць, каб савецкі чытач глядзеў на справу толькі паводле герояў «Тутэйшых» Купалы ці іншых падобных твораў. Не заўсёды таксама давала добрыя вынікі жаданне аўтараў унесці ў беларускую літаратуру матывы горада і работніцкага жыцця; гэта было там, дзе аўтары браліся за паказаныя матывы без належнай блізкасці да іх. Непраўдападобнасць і фальш чулася часам і ў апавяданнях на рэвалюцыйныя тэмы (напр. [ыклад], у Зарэцкага — «Адна партыя ў шашкі», «42 дакументы» і інш.).

У справе фармальна-мастацкіх дасягненняў у беларускай літаратуры пасля Кастрычніка трэба зазначыць, што наогул беларуская творчасць з гэтага боку незвычайна мала даследвана, бо гэта цяжэйшая справа, чым шукаць памылак у ідэалагічным змесце, бо яна патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі і прыроднай любові да мастацтва.

Аднак жа і тут ёсць чым пахваліцца ў параўнанні з нашаніўскім перыядам. Па-першае, цяпер у ліку беларускіх культурнікаў, як пісьменнікаў, так і крытыкаў, значна болей ужо людзей з вышэйшаю і нават вышэйшаю спецыяльнаю ў мастацкіх справах адукацыяй. Вырасла наогул культура аўтара, а яшчэ болей выраслі культурныя запатрабаванні, якія ставяцца цяпер беларускаму аўтару. І хоць рэвалюцыйны час даў магчымасць праславіцца некаторым маладым паэтам і пісьменнікам не столькі за мастацкасць іхнае творчасці, колькі за ідэалагічны змест яе, але цяпер ужо пачалася іншая плынь: усямернае паляпшэнне мастацкай якасці твораў, безумоўна, з гэткім самым паляпшэннем іхніх ідэалагічных вартасцей. Вядома, што ў справе падымання роўню мастацкасці мае вялікае значэнне агульнае развіццё беларускай культуры, асабліва ж пранікание беларускай мовы ў вышэйшую школу, у навуку і ў штодзенны ўжытак шырокага кола людзей з высокаю інтэлігентнасцю і адукаванасцю.

І цяпер, мусіць, ніхто не будзе ўжо спрачацца, што першыя вершы кожнага болей-меней вядомага сучаснага маладога беларускага паэта стаяць з фармальна-мастацкага боку вышэй за першыя вершы нашаніўцаў, а кожны болей-меней выдатны малады паэт піша вершы з тэхнічнага боку лепшыя за вершы Ясакара або Цішкі Гартнага.

Асобныя літаратурныя беларускія групы, як было ўжо аб іх казана, пакуль што адрозніваюцца адна ад адной чым хоця, але толькі не фармальнымі падставамі творчасці. Асаблівае імкненне «Узвышша» да мастацкасці яшчэ не сведчыць, аднак, аб якіх-небудзь асаблівых фармальна-мастацкіх прыметах творчасці ў узвышаўцаў у параўнанні з творчасцю няўзвышаўцаў, хоць, праўда, у часопісе «Узвышша» друкуюцца і захоплены некалі імажынізмам Пушча, і шуканнік арыгінальнага хараства ў вершаскладанні Дубоўка, і літаратурныя даследчыкі-фармалісты праф.[есар] Вазнясенскі і Ю. Бярозка. Магчыма, што калі ўмовы беларускага літаратурнага жыцця палепшацца, дык з цягам часу ўзвышаўцы створаць асобную, арыгінальна-беларускую літаратурную манеру пісання, як можа зрабіць гэта, скажам, і «Росквіт», але пакуль што ўсе беларускія аўтары пішуць болей-меней тымі самымі прыёмамі і спосабамі творчасці, без усякіх асаблівых «гвалтаў над формаю», пішуць у даступных сучасным шырокім гушчам рэалістычных танах, з некаторым толькі ўхілам у бок шукання і навізны.

Шуканне і навізна выявіліся ў беларускай літаратуры пасля Кастрычніка, найперш у імажынізме. У 1923—[19]24 гг. у беларускай прэсе былі нападкі на імажынізм, і беларускія імажыністы, з тагачаснага складу «Маладняка», спачатку казалі, што іхны імажынізм пераймае не расійскіх імажыністаў, а беларускую народную вобразнасць, а потым, калі яшчэ і настаўнікі пачалі жаліцца на незразумеласць некаторых маладнякоўскіх вобразаў дзецям-школьнікам, дык беларускі імажынізм неяк сам сабою знік, як нешта асобнае, і перайшоў, напрыклад, у Пушчы, у зусім здаровую і патрэбную творчасць арыгінальных слоў і вобразаў. Мала таго, у пэўнай сувязі з тою імажынісцкаю плынню палепшылася вершаскладальная тэхніка і ў старэйшых аўтараў, асабліва ў Коласа («Сымон-музыка») і Гартнага («Урачыстасць»).

З літаратурных жанраў і пасля Кастрычніка, як і ў нашаніўскую пару, найлепей развіваюцца лірычны верш, кароткая вершаваная паэма, часткаю — кароткае апавяданне. Найслабей тады і цяпер развіваецца беларуская драма.

Раўнуючы паслякастрычніцкі перыяд з нашаніўскім, цікава звярнуць увагу на тое, што цяпер з'яўляюцца даўжэйшыя рэчы, з'яўляюцца шырокія літаратурныя палацёны. Даўней беларускі аўтар не меў магчымасці пісаць доўгую рэч, бо літаратураю займаўся толькі рэдкаю вольнаю часінкаю; апрача таго, ён павінен быў пісаць так, каб яго творы можна было лягчэй і зручней пашыраць. Цяпер жа беларускаму пісьменніку плоцяць ужо ганарар, творы яго пашыраюцца дзяржаўнымі ўстановамі, цяпер з'явілася беларуская чытацкая маса,— і цяпер беларускія пісьменнікі пішуць раманы, аповесці, вялізныя паэмы. Даўжэйшыя беларускія рэчы пачалі выходзіць з друку спярша ў Вільні, але потым, з 1922 г., яны далёка астаюцца ад менскіх выданняў.

Мова прыгожых твораў вызначаецца цяпер большаю літаратурнаю апрацаванасцю. Гэтаму дужа дапамагае развіццё беларускай навуковай тэрміналогіі і фразеалогіі і беларусізацыя ўсіх галін культурнага жыцця ў БССР. Пагоня маладзейшых пісьменнікаў за формаю, часам троху лішняя на першы погляд пагоня, ніяк не можа ў сучасных савецкіх беларускіх умовах катэгарычна сведчыць аб упадніцтве. Такое тлумачэнне было б лішне спрошчаным прыстасаваннем пэўных ісцін да маладаследаванага жыцця. Пагоня за формаю можа тут сведчыць аб тым, што і гэтыя пісьменнікі, як некалі нашаніўцы, ставяць дасканалае раз-

віццё беларускай мовы ў сувязь з агульным развіццём беларускай культуры, разумовае і матэрыяльнае: дасканаласць беларускага санета залежыць ад дасканалага росту беларускай бульбы, але і дасканалы рост беларускай бульбы залежыць ад таго, на якіх беларускіх санетах будуць мець сваё выхаванне студэнты Акадэміі ў Горках. Так што гэта, можа быць, не ўпадніцтва, а беларусізацыя, якая, пэўна ж, можа быць ідэалагічна вытрыманаю і нявытрыманаю.

Самае лепшае, што з'явілася ў беларускай літаратуры пасля Кастрычніка, гэта, на мой погляд, галоўным чынам, *лірычныя вершы,* і шмат якія лірычныя вершы: *Купалы, Чарота, Дубоўкі, Пушчы, Лужаніна* і іншых паэтаў.

Потым — *паэмы:* дапісаныя цяпер паэмы *«Новая зямля»* і *«Сымон-музыка» Коласа* і звязаныя выключна з паслякастрычніцкаю эпохаю моцныя паэмкі *Чарота «Босыя на вогнішчы», «Марына»* і іншыя, а таксама творы гэтага жанру *Дубоўкі — «Кляновыя лісты», «Студэнт»* і іншыя і дзе-якія падобныя рэчы ў іншых маладых песняроў.

Потым — некаторыя *байкі Крапівы.*

Потым — некаторыя *апавяданні Чорнага («Хвоі гавораць»* і іншыя), *Гушчы-Коласа, Бядулі, Нёманскага, Чарота, Зарэцкага, Гартнага* і іншых, галоўным чынам маладых аўтараў.

Потым — *аповесці і раманы: «Вецер і пыл» Чорнага* (калі меркаваць па тых адрыўках, што друкаваліся), *«У палескай глушы» Гушчы-Коласа, «Салавей» Бядулі, «Сокі цаліны» Гартнага* і іншыя рэчы некаторых гэтых і іншых аўтараў.

Потым — *драматычныя творы: «Тутэйшыя» Купалы, «Пан міністар»* і іншыя п'есы *Аляхновіча,* часткаю некаторыя рэчы *Галубка,* як *«Суд», «Пісаравы імяніны»* і іншыя, а таксама розныя рэчы іншых аўтараў, пісаныя дзеля сцэны, але не пазбаўленыя часам і літаратурна-мастацкай цаны, асабліва п'есы *Міровіча* (дагэтуль, здаецца, не друкаваныя).

Пэўна ж, гэта не ацэнка; гэта толькі погляд, вельмі суб'ектыўны і нічым не даведзены, але ж і няма яшчэ ў беларускай крытычнай літаратуры тых бясспрэчных, у належнай меры навукова даведзеных і аўтарытэтных ацэнак, якія можна было б калі не ўвесці ў гісторыю літаратуры,

дык смела ўводзіць у агульныя агляды беларускай літаратуры за апошні перыяд. Дзеля гэтага лепш сказаць свой суб'ектыўны пункт погляду і, можа быць, выклікаць абмен думкамі, чым нічога не сказаць.

Гаворачы аб паасобных аўтарах, трэба пашкадаваць, што найвялікшы сучасны беларускі паэт, *Янка Купала*, блізу перастаў пісаць, а пачынаючы з 1916 г. напісаў мала. Яго лепшыя рэчы за гэты час: санеты 1918 г. у «Спадчыне», некалькі вершаў, аб'яднаных у цыкл «Безназоўнае» (у зборніку пад той жа назваю), юбілейны верш «Шляхам гадоў» (1925 г.) і п'еса «Тутэйшыя». І цяпер вызначаецца Купала ў беларускай паэзіі сваім вялікім артызмам, але справядліва сказаў у адным артыкуле Антон Навіна, што пасля «Нашай нівы» Купала не выявіў гэткай самай эвалюцыі ў творчасці, якую ён выявіў у сваёй ідэалогіі.

Другі народны паэт БССР, *Якуб Колас — Тарас Гушча*, даў гэтым часам беларускай літаратуры больш за Купалу і за кожнага іншага беларускага пісьменніка. Яго лепшыя рэчы за гэты час: паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка», аповесць «У палескай глушы» і шэраг апавяданняў у зборніках «На рубяжы» і «На прасторах жыцця». Вялікае значэнне паэмы «Новая зямля» ў беларускай літаратуры сцверджана ўжо самымі аўтарытэтнымі ў гэтай справе людзьмі. Не сціхла толькі яшчэ водгулле некаторых спрэчак у справе, як мне здаецца, вершаскладальнай тэхнікі ў некаторых месцах паэмы. Дык што Колас можа даць самую дасканалую тэхніку ў беларускім вершаскладанні, аб гэтым якраз сведчыць уся паэма. Але ёсць некаторыя месцы, пісаныя, мусіць, у вельмі цяжкім стане жыцця, у тыя цяжкія гады, і ў гэтых месцах, безумоўна, можна знайсці лішне частае ўжыванне дзеяслоўных рыфмаў. Але гэты недахоп, па-першае, не будзе мець значэння ў перакладах «Новай зямлі» на іншыя мовы, а па-другое — у беларускай мове ён змяншаецца такімі высокімі мастацкімі якасцямі твора, як шырыня паэтычнага размаху, глыбіня пачуцця, народны характар вобразнасці, незвычайная сакавітасць і прыгаства мовы і г. д. Недахоп у некаторых пазнейшых апавяданнях Коласа — пэўны элемент навучальнасці («На прасторах жыцця») і, як мне здаецца, меншая сакавітасць мовы, чым у даўнейшых кароценькіх апавяданнях; а перавага гэтых пазнейшых апавяданняў над тымі ранейшымі — большая шырыня і закончанасць мастацкіх тыпізацый. У працягу аповесці «У палескай глушы», што выйшаў пад назваю «У глыбі Палесся», слабая сюжэтная пабудова і

высокамастацкая партрэтнасць асобных тыпаў, што заўважыў рэцэнзент Улідзе.

*Змітрок Бядуля* не выяўляе цяпер сваёй прыроднай тэмы так, як выяўляў даўней, хоць, напрыклад, у аповесці «Салавей» якраз ёсць і псіхалагічнае змаганне, і перажыванні мастака. Цяпер Бядуля часта бывае фатографам, хоць, ізноў жа, гэтай фатаграфіяй займаецца праўдзівы, прыродны мастак, толькі, можа, не асабліва вучоны як майстар. Пасля «Нашай нівы» даў Бядуля некалькі высокамастацкіх апавяданняў, што змешчаны ў зборніку «На зачарованых гонях». Таксама значнай мастацкай моцы дасягае Бядуля і ў пэўных месцах аповесці «Салавей» (друкавалася ў «Узвышшы» за 1927 г.); праўда, шмат у аповесці і недахопаў, а галоўныя недахопы — неапрацаванасць, збіванне на казачны прымітыў і, нарэшце, навучальны тон. У зборніку «Апавяданні», побач з мастацкімі абразкамі, часам чуецца фельетон і агітка. Мацней зроблены зборнік «Танзілія». Што да рэвалюцыйных вершаў Бядулі-Ясакара, дык яны ўсё ж ткі лепшыя за рэвалюцыйную лірыку Гартнага, хоць лепей бы пісаў Бядуля толькі апавяданні і аповесці.

*Цішка Гартны* напісаў раман «Сокі цаліны», і ў гэтым яго галоўная і, бадай, адзіная пакуль што сур'ёзная заслуга ў беларускай літаратуры. Раман, як вядома, мае значныя недахопы, але ў ім шмат і праўдзіва-мастацкіх апісанняў жыцця і людзей. Апавяданні Гартнага маюць часам даволі добрую сюжэтную пабудову, але іхная расцягненасць, цяжкі стыль, няправільныя беларускія звароты мовы і агульная пануранасць тону — робяць свайму чытанніку немалую пакуту. Гэтыя недахопы спатыкаюцца і ў рамане «Сокі цаліны», але не маюць там такога адмоўнага значэння.

*Міхась Чарот* мае моцны прыродны талент, але яшчэ не мае такой культуры пісьменніка, якая адпавядала б яго здольнасцям. Дзеля гэтага ў яго часам бывае ў бочцы мёду лыжка дзёгцю, што і падхапіў у часопісе «Узвышша» рэцэнзент адной яго паэмы. Пры ўсім тым Чарот — найлепшы ў беларускай літаратуры пясняр Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вершы яго, пісаныя пачынаючы з 1922 г. і некаторыя ранейшыя, вызначаюцца вялікай мастацкасцю; у іх шмат рэвалюцыйнага пафасу і музыкальнай гучнасці. Яго шэсць паэм — найлепшае, што ён даў, і блізу таго — найлепшае ў беларускай пралетарскай паэзіі.

*Уладзімір Дубоўка* мастацтвам сваіх лірычных вершаў

і паэмак заняў ужо адно з самых першых месц у беларускай паэзіі. У яго творчасці — глыбіня, музыкальнасць, свядомае хараство, але часам на мяжы з майстэрствам.

З маладых празаікаў хутка высунуўся і заняў першае ці адно з першых месцаў у сучаснай беларускай мастацкай прозе *Кузьма Чорны*. На жаль, яго раман «Сястра», друкаваны ў «Узвышшы» ў 1927 г., сведчыць аб недахопе ў аўтара самакрытыкі.

Вялікаю папулярнасцю ў самых шырокіх народных гушчах пачынаюць карыстацца сатырычныя вершы і апавяданні *Крапівы*.

На гэтым можна скончыць агульны агляд, не закрануўшы тым часам яшчэ шмат чаго даволі моцнага ці арыгінальнага ў творчасці новых, маладых, часам вельмі надзейных беларускіх літаратурных сіл.

## КОЛЬКІ СЛОЎ АБ ТВОРАХ І МОВЕ М. ЛЫНЬКОВА

Будзем разглядаць кніжачку М. Лынькова «Апавяданні» [1]. Змест у ёй чамусьці не паказаны. Тут пяць апавядальных рэчаў, якія займаюць: 1) «Чыгунныя песні» — 21 старонку, 2) «Крот» — 11 стар., 3) «Над Бугам» — 17 стар., 4) «Гома» — 23 стар. і 5) «Гой» — 56 стар.

У першым апавяданні, *«Чыгунныя песні»*, сюжэт хаваецца за фразеалогіяй і стылізацыяй мовы. Пафасам і стылізацыяй хоча зрабіць аўтар мастацкае ўражанне на чытача. А без патрэбы. Сюжэт тут сам па сабе моцны: у Сібіры, на глухой станцыі, чэхаславакі, адступаючы, забіваюць стрэлачніка і гвалцяць да смерці яго дачку Арынку. Потым едуць чырвонаармейцы, знаходзяць гэта жудаснае злачынства і хаваюць нябожчыкаў. І піша аб усім гэтым аўтар з глыбокім пачуццём і з праўдзівым рэвалюцыйным уздымам. І вобразы і словы ўмее часам даць ён такія простыя і такія моцныя ў сваёй прастаце. Апавяданне, безумоўна, цікавае і моцнае. Але стылізацыя, нарэшце, даку-

[1] М. Лынькоў, «Апавяданні», выданне ЦБ «Маладняка», Менск, 1927 г., стар. 128, невялікага фармату. Цана 70 кап. Выданне вельмі прыгожае.

чае. Бо вось чамусьці падабаецца аўтару, цераз меру падабаецца, каб песні былі «чыгунныя», гукі — «медныя і чыгунныя», поступ «чыгунны», накіп — «сталёвая» і г. д. Усё гэта добра дзеля выяўлення нашае эпохі, эпохі «железных потоков», але добра — калі ўжываецца на сваім месцы, у належнай меры і ў пэўным жанры. Апавяданне ж «Чыгунныя песні», хоць і робіць цяпер на нас, сучаснікаў, моцнае ўражанне, бо мы самі шмат ведаем аб тым, што хоча сказаць аўтар, але яно, напэўна, не зможа па-мастацку ўзрушыць нават трошку пазнейшага за нас чытальніка, якому патрэбна будзе не столькі фразеалогія, колькі належная ў гэтым жанры апавядальнасць і апісальнасць. Добра напісана ў апавяданні размова чырвонаармейцаў. Слаба выяўлены перажыванні стрэлачніка і Арынкі. Вобразы іх выйшлі даволі цьмяныя, схематычныя. Слаба паказаны і белагвардзейцы; адразу нават цяжка пазнаць, ці гэта чэхі, ці гэта расійскія белагвардзейцы.

У другім апавяданні, *«Крот»*, фразеалогіі значна меней. Сюжэт тут задуманы гэтаксама дужа цікавы, але фабулы блізу няма. Адступленне Чырвонай Арміі з Польшчы. У фурманкі пагналі нейкага польскага шляхцюка Зяленскага. У яго сын чырвоны. У яго дачка Яніна — спачувае бальшавікам. А сам ён — «крот», цёмны прадстаўнік усяго старога. Ён хітра прапануе аўтару, ці асобе, ад якой вядзецца апавяданне, вярнуцца і жаніцца з Янінаю. Аўтар, ці асоба, ад якой вядзецца апавяданне, хоча яго забіць. Начою Зяленскі ўцякае. Вобразы Яніны і чырвонаармейцаў намалёваны слаба. Больш яскрава паказаны «крот» Зяленскі, але не зусім зразумела, чаму аўтар так ненавідзіць яго і наогул траціць на яго столькі ўвагі,— мусіць, доўга ехалі разам, дык абрыд яму дужа. А Яніну аўтар ідэалізуе. Гэта рамантычны, але, на жаль, незвычайна рэдкі тып польскай шляхцянкі.

Лепшае, найбольш вытрыманае апавяданне ў зборніку — трэцяе, *«Над Бугам»*. Аўтар добра ведае і ўмее паказаць паходны быт чырвонаармейцаў, па-мастацку дае іхныя размовы, трапна выяўляе адносіны іх адзін да аднаго. Аўтар не ідэалізуе чырвонаармейца, а паказвае нам яго такім, якім ён ёсць у праўдзівым жыцці. Чытач, па волі аўтара, зжываецца з яго сябрамі-чырвонаармейцамі, пераймаецца іхнымі інтарэсамі, жыве іхнымі надзеямі,— і таму так шкода яму, калі пасля гэтых надзей, пасля смехаў і жартаў гінуць яны за вызваленне пралетарыяту, над далёкім Бугам. Аўтар дае тып чырвонаармейца-селяніна

(Ванька разанскі) і тып чырвонаармейца з горада (Васька Шкетаў, быў кухарам, чалавекам ў рэстарацыі, басяком, кахаў прастытутку). Больш ён цікавіцца Васькаю, але, па-мойму, лепш яму ўдаўся Ванька. У апісанні драбніц паходнага чырвонаармейскага жыцця ён часам пакідае за сабою і Коласа, і Нёманскага, і Зарэцкага.

Чацвёртае апавяданне — *«Гома»*. Сюжэт: у нейкім мястэчку бедны студэнт Гома кахае прыгожую Лэю, дачку заможнага крамніка Залмана, але Лэя ідзе замуж за мясніка Хаіма, і бедны Гома звар'яцеў. Яго нешчаслівае жыццё і зацікавіла аўтара. Местачковы быт і трагізм сацыяльнай няроўнасці паказаны даволі добра, але наогул сюжэт не распрацованы, і Гомава вар'яцтва можна лічыць нават не зусім праўдападобным. Таксама не выявіў аўтар, чаму Лэя забылася на Гому.

Нарэшце, пятае апавяданне — *«Гой»* — самае даўгое ў зборніку. Разам з апавяданнем *«Над Бугам»* яно з'яўляецца найбольш удачным, толькі канец у ім троху не вытрыманы. Тут такая гісторыя. Шавец Мотэль. У яго слаўненькая дачка Рыва. У іх закватэраваў чырвонаармеец, таварыш Міхась, вельмі сімпатычны чалавек. Праходзіць троху часу — і Міхась і Рыва кахаюцца. Бацькі і ўсё местачковае яўрэйства супраць гэтага кахання. Міхась ідзе ў паход. На мястэчка налятаюць балахоўцы, расстрэльваюць, здзекуюцца. З'яўляюцца чырвонаармейцы. Міхась ратуе Мотэля ад смерці... Цераз шэсць год мы бачым сямейнае шчасце ў сям'і Мотэля і яго зяця Міхася і творчую культурную працу ў мястэчку. Каханне і быт у гэтым апавяданні малююцца добра. Троху слабей — напад балахоўцаў і такі рэдкі шчаслівы выпадак, што Міхась паспеў якраз у самую хвіліну. Як жывая стаіць уваччу Рыва, дый Міхась і Рывіны бацькі, а таксама і яшчэ некаторыя местачковыя жыхары паказаны таксама зусім добра.

Можна заўважыць, што ўсе апавяданні ў гэтым зборніку М. Лынькова напісаны па дзвюх пэўных схемах. Па першай схеме напісаны апавяданні «Чыгунныя песні», «Крот», «Гой» і «Гома». У гэтай схеме зазвычай маем: бацькоў, дачку, каханка, змаганне чырвоных з белымі, паходны быт чырвонаармейцаў, драматычную развязку і лірычнае заканчэнне. Бацька бывае добры (стрэлачнік), нядобры (Зяленскі), добры, але несвядомы (Мотэль). Маці заўсёды бывае паказана менш выразна, чым бацька. Дач-

ка найчасцей добрая (Арынка, Яніна, Рыва), толькі ў адным выпадку троху добрая, троху нядобрая (Лэя). Каханак заўсёды добры (нейкі Алесь, што паказаны ў Арынкіных думках, потым аўтар, ці асоба, ад якой вядзецца апавяданне, далей — шчаслівы Міхась, нарэшце — нешчаслівы Гома). Развязка залежыць ад змагання чырвоных з белымі (у схеме апав.[ядання] «Гома» месца чырвоных займае Гома і яго бацькі, а месца белых — мяснік Хаім і Лэіны бацькі; у апав.[яданні] «Гой» змаганне вядзецца ўжо часткаю і на культурна-бытавым фронце). Калі перамагаюць белыя — развязка трагічная, калі чырвоныя — развязка шчаслівая. Заканчэнне выконваецца зазвычай рэвалюцыйнай фразеалогіяй або якім чулым абразом. Па другой схеме напісана толькі адно апавяданне «Над Бугам». Але і ў гэтай другой схеме шмат момантаў агульных дзеля абедзвюх схем (белыя — чырвоныя; паходны быт чырвоных; Васька Шкетаў і яго каханка; Іван і яго жонка; трагічная развязка; чулы абразок на заканчэнне). Значыцца, гісторыі ў гэтым зборніку апавяданняў М. Лынькова хаця і цікавыя, але ў большасці даволі аднастайныя.

У зборніку ёсць вельмі ўдалыя месцы, напрыклад, пра гузік (стар. 36): «Іван шые старанна, аж пот выступае на лысіне, але ж гузік цяпер не адарвеш паўротай салдат, прышыў гузік навек, штаны падзяруцца, а гузік цэлы будзе». Але залішняя любоў да стылізацыі даводзіць аўтара да няўдалых сказаў, напрыклад (стар. 29): «Закрыеш вочы — і дзіўныя вобразы адзін за адным лунаюць у карагодзе бясконцым, у карагодзе, сатканым з красак стагоддзяў, з магутных подыхаў людской грамады, з вобразаў даўно мінулых дзён прашумеўшых, з жалезнага рокату расквітаючых дзён будучыні, з чалавечых дум і жаданняў...» Шмат прыгожых слоў, але карысці ад іх мала.

Апрача таго, вось некалькі заўважаных мною недакладнасцей або недарэчнасцей у стылі ці няправільнасцей у мове, на якіх варта спыніцца і паразважаць:

«Марозы лютыя і ледзяныя каралі» (3).— Можна адразу падумаць, што гэта лютыя і ледзяныя марозы кагосьці каралі, а тым часам аўтар хоча сказаць, што гэта былі лютыя марозы і ад іх былі каралі (?) з лёду.

«Напаўняйце іскрамётным полымем вашы думкі і сэрца» (3).— І не па-беларуску, і вобраз не зусім удалы.

«І чым болей мароз, чым сільней ён стрыбушыць саламяныя стрэхі» (4).— Як гэта стрыбушыць?

«Пекці» (7).— Гэта ў мове самога аўтара, а не ў мове дзеючых асоб, дык чаму гэта «пекці», а не «апячы»?

«Кляшчоткай» (13).— Мусіць, ад слова «клешчы»? Але ж клешчы па-беларуску завуцца абцугамі, а падобнае слова «клякотка» па-беларуску азначае тое, што па-расійску «трещётка».

«Чаравік парыжэлых» (16).— Чаравікаў парыжэлых.

«Бача» (23).— Бачыць (праўда, гэта не ў мове аўтара, а ў мове паляка, але чаму паляк павінен гаварыць па-беларуску «бача», а не «бачыць»?).

«Ззяюць чырванню нафарбаваныя вусны» (51).— Ці ж яны ззяюць? А тут жа побач і ўдалыя эпітэты: «салодкі, даўкі пах пудры».

«Твой сын чалавекам будзе, а не чым-небудзь там іншым» (55), або яшчэ: «аб беласнежных і іншых кветках» (66).— Тут гэтыя «іншым», «іншых» — такія нудныя празаізмы!

«Растуць хлопаты» (56).— Расце клопат.

«Сулілі яму светлую будучыню» (58).— Хіба: «жадалі яму мець светлую будучыню», бо «сулілі» — гэта бліжэй да «прапанавалі».

«Прызнаваліся Лэі ў дарагой любві, прасілі, malілі аб узаемнасці» (61).— Не па-беларуску сказана, і невядома, каму тут гэтая любоў была дарагая.

«Знача» (62).— Чамусьці так у мове самога аўтара, калі ж паводле Лёсіка, трэба пісаць «значыць».

«Прагавора» (62).— Таксама ў мове самога аўтара, а трэба ж пісаць «прагаворыць», а яшчэ лепей — «прамовіць».

«Ты мне трэба» (80).— Ты мне патрэбна.

«Каб іх жыццё праходзіла як мага найлепей» (89).— Калі «мага», дык не трэба «най», а яшчэ лепей зусім без «мага», а проста — «як найлепей».

«Не адчуваў сябе ў сваім асабістым жыцці адным-адзіным» (89).— Як гэта «адным-адзіным» і па-якоўску гэта?

«Занадта ты спадабалася ад усіх дзяўчат» (103).— Ці мог так сказаць нават яўрэй, які ў іншых месцах у апавяданні ўсюды гаворыць правільна па-беларуску? Мусіць, проста аўтар не дагледзеў.

«Шубу табе набыць» (106).— Гаворыць яўрэй, але ж яго мова не характарызуе ў апавяданні мовы беларускіх

местачковых яўрэяў, дык па-беларуску ён павінен быў сказаць «футра (ці кажушок) табе пашыць».
«Спалохаўшыя ўжо раз мястэчка гукі» (113).

Наогул, аб мове, якою піша т. М. Лынькоў, трэба было б пагамаціць зусім асобна і даўжэй, бо ад гэтага была б некаторая карысць шмат каму з нашых маладых пісьменнікаў. Але гэтая справа належыць да нашых спецаў у моваз наўстве, і я тым часам абмяжуюся толькі паказаннем некаторых расіянізмаў, заўважаных мною ў зборніку, калі я чытаў яго.

Спярша — расіянізмы ў мове самога аўтара:
іскрамётным (=што сыпле іскрамі?), 3 стар.;
сільней (=дужэй, мацней), 4;
медныя (=медзяныя), 5, 11;
зачым (=дзеля чаго), 7;
прамая (=простая), 9;
хрустальныя (=крыштальныя), 13;
ртоў (=ратоў), 13;
корні (=карані, карэнне), 15;
жэсць (=бляха), 15, 50;
надаедліва (=надакучліва), 16;
годы (=гады), 21;
поступ (=хада), 21;
накіп (=шумавінне), 21;
траскую (=дрогкую), 22—23;
прышэльцаў (=чужынцаў), 24;
беласнежныя (=белыя, як снег), 25, 36;
безучасны (=безуважны?), 51;
бяскрыўдны, з рас.[ійскага] «безобидный» (=лагодны?), 51;
прывет (=вітанне, прывітанне), 51;
сіліцца (=намагаецца), 53, 70;
лавачнікам (=крамнікам), 54;
нялоўка (=нязручна), 55;
лежабока (=абібок), 56;
сверліць (=свердліць, свідруе), 56;
шубы (=футры, кажухі), 56;
чысцільшчык комінаў (=камінар), 57;
гатовіцца (=рыхтуецца), 59;
урокаў (=лекцыяў), 59;
вуцюгом (=прасам), 59; вуцюг, 60;
храбрацы (=адважныя), 61;

малілі (=упрашалі), 61;
дзелам (=справаю, работаю), 64;
плацце (=сукенка), 64, 66;
лаўка (=крама), 65;
базарных (=у справе рынку), 65;
каварства (=здрада), 69, 70, 71;
прыклееную (=прылепленую), 71;
шавеліцца (=шаволіцца), 71;
усіляўся (=дужэў, мацнеў), 73;
умясцёх (=разам), 77;
уздохі (=уздыханні), 78;
зашыпела (=засіпела), 79;
наследства (=спадчына), 82;
масліцам (=маселцам), 106;
цежалей (=цяжэй), 112;
ружжамі (=стрэльбамі), 124;
з-за патрэбы (=дзеля патрэбы), 24;
за табакеркай (=па табакерку), 35;

барада Івана (36), бацька Рывы (88—89), вочы Рывы (90), пляменнік Шэвеля (106), пацалунак Рывы (109), матка Рывы (125) (=Іванава барада, Рывін бацька і г. д.);

чарней цемені ночы (=чарней за цемень ночы або чарней за цямноту ўночы), 61;

нібы за якою справай (=нібы ў якой справе), 61;

ёкнулі сэрцы Мотэля і Панкрата (=ёкнула сэрца ў Мотэля і ў Панкрата), 77;

а гукі чыгунныя ўсё мацней і мацней патрасаюць паветра (=а гукі чыгунныя ўсё мацней і мацней траслі паветра або — а паветра ўсё мацней і мацней траслося ад гукаў чыгунных), 78;

то Мотэль мыў ці, вярней, апалосквў (=ці, праўдзівей, ці лепей кажучы і г. д.), 86;

аж боляча-боляча зрабілася (=аж забалела-забалела (руцэ), 99;

думкі, адна другой цежалей (=думкі, адна адной ці адна за адну цяжэйшыя), 112.

Зразумела, што, апісваючы жыццё стрэлачніка ў Сібіры ці нават местачковага крамніка на Беларусі, даючы размовы чырвонаармейцаў, яўрэяў, палякаў, чэхаў,— М. Лынькоў павінен быў даваць словы і сказы, характэрныя ў мове гэтых людзей. Але вось яшчэ некаторыя расіянізмы ў мове дзеючых асоб, зусім непатрэбныя ў апавяданні з мастацкага пункту погляду:

хужэй (=горш), 16, 75;

скварэшня (=шпакоўня), 16;
доч (=дачка), 25;
зачым (=нашто, дзеля чаго), 26, 76, 91, 100, 110, 113;
лодыр (=лотра, латруга), 36;
сляпец (=сляпы, сляпун), 71;
татай (=татам), 75;
пазваў (=паклікаў, гукнуў), 91;
следавацель (=следчы), 91, 92;
хужэйшае (=горшае), 92;
вечарам (=увечары), 93;
адарваўшыйся (=адарваны, які адарваўся), 102;
плацце (=сукенку), 103;
чэсны (=сумленны), 110;
умясцёх (=разам), 114;
палучаць (=атрымоўваць або адзержваць), 115;
імені (=імя), 118;
подзь сюды (=хадзі сюды), 12.— Гэта ў мове чэхаў;
пытаеш мяне (=пытаешся ў мяне), 75;
толькі і ўсяго (=і толькі таго), 91;
аддзякаваць вас (=падзякаваць вам), 114;
расстраляе ўсіх астатніх (=не ў сэнсе «рэшты», а ў сэнсе «іншых»), 122.

Потым не толькі т. М. Лынькоў, а шмат хто цяпер у Савецкай Беларусі піша: «падобнымі на шкло» (4), «падобнаму на кураслеп» (33) або нават так: «казкам падобны» (7). Усё гэта рэжа вуха беларускаму селяніну. Павінна быць: падобнымі да шкла, падобнымі да кураслепу, падобныя да казак.

А як пісаць: гарбата ці чай? М. Лынькоў піша: «чай» (стар. 33, 84). Па-мойму, у мове дзеючых асоб, калі яны з усходу Беларусі, можа быць і «чай», але ў літаратурнай мове даўна прынята слова «гарбата» (ад лацінскага караня), і прыказка беларуская кажа: «Што кажух — то не вата, што капуста — то не гарбата».

Слова «савет» т. Лынькоў ужывае не толькі ў сэнсе «Савет дэпутатаў», як гэта прынята цяпер ужываць у Савецкай Беларусі, але і ў сэнсе «даваць раду, ра́дзіць, раіць» (стар. 56). Гэтак беларускія сяляне нідзе не кажуць і ўжываюць словы: «рада, дай раду», парадзь, парай, а не «савет», «дай савет».

Ужываючы слова «неабходныя» (стар. 59), не трэба забывацца, што па-беларуску лепей у гэтым сэнсе сказаць: «патрэбныя, пільна патрэбныя» і г. д.

Нарэшце, т. М. Лынькоў піша выключна «любві» (53, 61, 69 і інш.), «любоў» (69), «палюбіўшае» (74) у сэнсе кахання мужчыны і жанчыны. І слова «любоў» і слова «каханне» ўжывалася ў беларускай мове яшчэ, напр.[ыклад], з часоў Ф. Скарыны і, як вядома, ужываецца і ў сучаснай беларускай мове, народнай і літаратурнай. Але слова «любоў» азначае ўсякую любоў і ў родным склоне будзе «любові», а не «любві». Пэўныя ж адносіны мужчыны і жанчыны прынята называць, галоўным чынам, праз слова «каханне», а не «любоў».

Не разумею, навошта піша т. М. Лынькоў украінскія і польскія словы: «чобат» (=бот), прасціраддлы (=посцілкі), «да забачэння» (=бывайце і г. д. ці, калі так хочацца: «да ўбачання», але ж не «забачэння»).

## БЯДУЛЯ ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА

### ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНЫЯ НАТАТКІ

Калі ў 1915 г. Вільню забралі немцы, Бядуля нейкі час жыў у м. Пасадзец, у бацькі. У 1916—[19]17 гг. ён працаваў у менскім беларускім камітэце дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Каля гэтага камітэта гуртаваліся тады беларускія культурнікі ў Менску. У 1918 г., пад нямецкай акупацыяй, Бядуля супрацоўнічаў у газетах («Вольная Беларусь», «Беларускі шлях»). У 1919 г., да польскай акупацыі, працаваў у савецкіх установах, а потым, у 1919—[19]20 гг., пад польскай акупацыяй, ізноў мусіў перайсці ў газету («Беларусь»). У 1921—[19]22 гг. Бядуля быў рэдактарам першага беларускага савецкага дзіцячага часопіса («Зоркі»), а ў 1922—[19]24 гг. кіраваў літаратурным аддзелам у «Савецкай Беларусі», на старонках якой гэтым часам раслі выдатнейшыя сілы літаратурнага маладняка. З 1924 г. ён працуе ў Інстытуце беларускай культуры як рэдактар краязнаўчага часопіса «Наш край». У 1926 г. Бядуля ездзіў лячыцца на Каўказ. З гэтага ж года ўвайшоў ён у склад літаратурнага аб'яднання «Узвышша».

Праз увесь гэты час Бядуля піша лірычныя вершы і вершаваныя паэмкі пад псеўданімам *Ясакар*, а таксама, як і раней, апавядальныя рэчы мастацкаю прозаю. Наймен-

шая прадукцыя за гэты час прыпадае ў яго на 1918 г. і на 1919—[19]20 гг., калі ў умовах нямецкай, а потым польскай акупацыі жыць і тварыць беларускаму пісьменніку было надта цяжка. За гэты час трэба адзначыць гэткія творы Бядулі: 1) *«Пад родным небам»* (1922 г.) — зборнік вершаў, галоўн.[ым] чын.[ам], з 1921—[19]22 гг.; 2) *«На зачарованых гонях»* (1923 г.) — зборнік апавяданняў, галоўн.[ым] чын.[ам], з 1917—[19]23 гг.; 3) *«Буралом»* (1925 г.) — зборнік рэвалюцыйных вершаў, галоўн.[ым] чын.[ам], з 1917—[19]25 гг.; 4) *«Апавяданні»* (1926 г.) — зборнік апавяданняў ад 1923 г.; 5) *«Танзілія»* (1927 г.) — зборнік апавяданняў ад 1926 г.; 6) *«Салавей»* (1927 г.) — аповесць, друкавалася ў часопісе «Узвышша».

*Вершы* ў Бядулі — слабейшыя за яго мастацкую прозу. Рэвалюцыйныя вершы — слабейшыя за іншыя. У іх мала музыкальнасці і наогул лірычнасці. Прычына слабасці рэвалюцыйных вобразаў у яго, мусіць, тая, што ён перажываў цяпер ідэалагічны крызіс, ад нацыянал-адраджанізму прыйшоў да пралетарскіх настрояў, а таксама пісаў хапаючыся, у тлумных газетных абставінах. Асабліва невысока з мастацкага боку стаяць рэвалюцыйныя вершы, сабраныя ў зборніку «Буралом». Бядуля захапіўся навіною, але яшчэ не вынасіў, не выпесціў гэтых вобразаў у сваім сэрцы, не перахварэў на іх.

Цікава параўнаць яго верш «Беларусь», напісаны ў 1922 г. і змешчаны ў зборніку «Пад родным небам», з вершам «Беларусь», напісаным у 1923 г. і змешчаным у зборніку «Буралом». У першым — любоў да беларускай прыроды і народнай беларускай творчасці, звязванне беларускай мінуўшчыны з сучасным культурна-нацыянальным адраджэннем, злосць на ворагаў беларускай культуры, палітычны момант у нацыянальным пытанні — усё яшчэ ў духу нашаніўства. Другі верш — блізу тыя самыя матывы, але ўжо з класавым падыходам да справы, з кірункам на чырвоную Маскву. Параўнанне гэтых двух вершаў, з аднакімі назвамі, дае вельмі яскравы малюнак крутога ідэалагічнага пералому ў настроях Бядулі.

Галоўныя тэмы і матывы ў зборніку вершаў «Пад родным небам»: любоў да Беларусі, любоў да жанчыны і мастацкае апрацаванне беларускага фальклору, прычым апрацаванне гэтае здавальняе імкненні аўтара да харастваа. Верш «Напрадвесні» (1922 г.) — адзін з характэрных

вершаў. Тут русалка пад лёдам — можа, ідэя аўтара, што не мае магчымасці выявіцца; можа, Беларусь; можа, увасабленне аўтарскага ідэалу ў каханні; можа, што іншае, несвядома адлюстраванае праз стылізацыю вобразаў з беларускага фальклору. Выразы: «як мордачкі ягнят, тырчэлі яе грудкі», «разрэзаным грыбком былі адкрыты губкі» і інш. сведчаць, магчыма, аб некаторым уплыве біблейнае «Песні песень» і аб некаторых індывідуальных асаблівасцях аўтара.

Галоўнае ў зборніку вершаў «Буралом» — гэта жаданне аўтара даць рэвалюцыйныя вершы ў беларускай мове.

Што да *апавядальных рэчаў мастацкаю прозаю*, якія напісаў Бядуля пасля Кастрычніка, дык у іх таксама — у даўнейшых, малюецца яшчэ дакастрычніцкае жыццё, і найбольш у нашаніўскіх настроях і толькі ў пазнейшых знаходзім жыццё пасля Кастрычніка і ўплывы Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Да гэтых даўнейшых рэчаў трэба залічыць частку апавяданняў у зборніку «На зачарованых гонях». Тут знаходзім гэткія, напрыклад, рэчы: «Дзе канец зямлі?» (1917 г.) — пакора чалавека перад бязмежнасцю зе́мных прастораў і магутным хараством прыроды; «Бондар» (1920 г.) — погляд аўтара на мастацтва, на яго значанне ў жыцці чалавека, прычым перажыванні мастака даюцца ў перажываннях бондара Данілы; у гэтым апавяданні выяўляецца адна з уласцівых Бядулі тэм, гэта — любоў да хараства, імкненні да яго і наогул праблема творчасці; найлепшыя, аднак, у яго апавяданні — «Дванаццацігоднікі» (1921 г.) і «Сярод ночы» (1921 г.); яны таксама найбольш характэрныя ў тэматыцы Бядулі, апрача таго, маюць глыбокі сацыяльны змест і моцную мастацкую форму; у першым — адносіны паноў і мужыкоў, змаганне бяздушнага зла з распачліваю, бядулеўскаю, праўдаю, а ў другім — змаганне добрых і нядобрых пачуццяў у сэрцы людзей, сялян, на грунце горкай долі іхнага суседа, беднага злодзея Ігналі.

У 1922—[19]24 гг., як ужо было казана, Бядуля кіруе літаратурным аддзелам у «Савецкай Беларусі»; ён выхоўвае наш літаратурны маладняк, псуе сабе мову і нервы, разменьваецца на драбніцы, але затое і ў яго самога расце палітычная свядомасць і настроі ў кірунку пралетарскай ідэалогіі. Да апавяданняў, узятых ужо з паслякастрычніц-

кага жыцця і напісаных пад уплывам Кастрычніка, належаць некалькі змешчаных яшчэ ў зборніку «На зачарованых гонях». Напісаны яны якраз у 1922—1923 гг. Гэта: нарыс «На зачарованых гонях» (1922 г.), назва якога ўзята назваю дзеля ўсяго зборніка, потым «Панскі дух» (1922 г.), «Аднаго разу ў нядзелю» (1922 г.), «На балоце» (1923 г.) і «Воўк» (1923 г.). Нарэшце, выключна жыццё пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі малюецца ў зборніку «Апавяданні» (1923—[19]26 гг.).

Галоўнае ў Бядулевых апавяданнях з паслякастрычніцкага жыцця гэта — рэвалюцыя, вайна з белапалякамі, змаганне з бандытамі («На зачарованых гонях», «Панскі дух», «На балоце», «Аднаго разу ў нядзелю»), змаганне з кантрабандыстамі («Воўк», «На варце», «Як я зрабіўся кантрабандыстам»), быт духавенства ў савецкіх умовах, антырэлігійная прапаганда («У глушы», «Летапісец», «Пуд жыта»), новы быт на вёсцы («Дэлегатка»), праца камсамола («У глушы»), ліквідацыя непісьменнасці («Тры крыжыкі»), вызваленне жанчыны («Дэлегатка»), савецкія тыпы, прычым адмоўнае паміж іх бачым толькі ў адным апавяданні («Галіфэ»).

Шмат якія з савецкіх апавяданняў у Бядулі пісаны, як відаць, хапаючыся, у іх ёсць розныя недагляды і неапрацаваныя месцы, а галоўнае — чуецца, што аўтар збіваецца з уласцівай яму тэматыкі і пераходзіць на тое, што патрабавалася жыццём і газетным характарам літаратуры. Мусіць, у новых умовах жыцця ён яшчэ не знайшоў ці не хацеў браць такога матэрыялу, які адпавядаў бы яго індывідуальнай тэматыцы. Гэтым жа часам, у газетных абставінах творчасці, знізіў ён і літаратурныя вымаганні сабе ў галіне стылю і мовы. Нешта падобнае наглядаецца часам і на яго творах, друкаваных у часопісе «Узвышша». Цяпер гэта тлумачыцца, мусіць, тым, што ён піша вельмі шмат і не мае належнай дапамогі з боку крытыкі.

Добра характарызуе творчасць Бядулі за апошні час неразгледжаны яшчэ нашымі крытыкамі зборнічак апавяданняў «Танзілія» (1927 г.). Тут адны апавяданні або нават толькі пэўныя часткі аднаго апавядання напісаны ў даўнейшым бядулеўскім тэматычным і стылістычным духу, а на другіх апавяданнях або толькі пэўных частках іх ляжыць ужо след пазнейшага часу ў яго творчасці. Так, апавяданні «Танзілія», «У гарах» і «Іслам-бэй» сваім су-

пакойным і глыбокім псіхалагізмам, крайняю датклівасцю пачуцця і багатаю мастацкаю сакавітасцю малюнкаў — узятыя ў суцэльнасці, належаць да апавяданняў з тымі даўнейшымі бядулеўскімі дасягненнямі. А пэўныя часткі гэтых самых апавяданняў і ўзятае ў суцэльнасці апавяданне «Powiedz, dzie jest twòj syn?» («Кажы, дзе твой сын?») — больш нагадваюць прыёмы, якія Бядуля выявіў у зборніку пад назваю «Апавяданні». Канец апав.[ядання] «Танзілія» лішне жудасны, а ў параўнанні з усім творам — скамечаны і не зусім увязаны. Апав.[яданне] «У гарах» не мае сюжэтнай цэльнасці, але перажыванні хворага Арнаута і яго маці дадзены па-мастацку. «Іслам-бэй» — цікавы і добра зроблены партрэт каўказскага чалавека, хоць прычына душэўнай драмы ў Іслам-бэя лішне выкручаная, каб быць зусім праўдападобнаю (не гаворачы ўжо аб тыповасці). Апав.[яданне] «Powiedz, dzie jest twòj syn?» («Кажы, дзе твой сын?»), хоць і мае на сабе налёт фельетоннага жанру, але ж пры тых незвычайных цяжкасцях, якія ставіць падобны сюжэт свайму аўтару, напісана яно моцна і з'яўляецца адным з найбольш мастацкіх у сваёй галіне. Нарэшце, трэба адзначыць, што Бядуля закрануў у гэтым зборнічку новае дзеля беларускай літаратуры жыццё: татарскае жыццё на Беларусі, жыццё горцаў на Каўказе і панскія здзекі над беларускім селянінам у Заходняй Беларусі, як яны выглядаюць сёння, пасля ўсіх лямантацый урада Пілсудскага аб аздараўленні жыцця ў Польшчы. Тут малюнак такога страшнога катавання ў польскай дэфензіве, перад якім здрыгнуўся б самы дзікі барбар даўно мінулых вякоў. І каб мы не ведалі, што гэтак сапраўды ёсць у сучаснай Польшчы, дык і гэты малюнак назвалі б самаю няпраўдападобнаю і фантастычнаю выдумкаю.

Аповесць «Салавей», друкаваная ў 1927 г. у «Узвышшы»,— першая даўгая рэч у Бядулі. Жыццё ў аповесці ўзята з часоў паншчыны на Беларусі,— і тут маем сапраўды шмат мастацкіх тыпізацый з гэтых часоў, хаця ў асяродку сюжэта і тут стаіць асоба прыроднага мастака, яго перажыванні ў неадпаведных дзеля яго таленту ўмовах і г. д., што мы ўжо бачылі ў некалькіх даўнейшых творах Бядулі. Аповесць «Салавей» трэбуе спецыяльнага доследу ці хаця паважных крытычных артыкулаў у чарговых нумарах часопісаў, але ўжо зараз трэба сказаць, што пры ўсіх сваіх недахопах яна з цікавасцю чытаецца і, безумоў-

на, з'яўляецца каштоўным укладам у беларускую літаратуру, так бедную пакуль што мастацкімі творамі з часоў паншчыны. Гэта з аднаго боку. А з другога боку, яна з'яўляецца, можна сказаць, ужо выразна афармаваным новым этапам у творчасці Бядулі ў галіне стылістычных прыёмаў, далёкіх ад яго стылю ў даўнейшых апавяданнях. Адмоўнае ў гэтых новых яго стылістычных прыёмах — тое, што часам чуецца ў іх нейкі фельетонны, бойкі публіцыстычны тон, а дадатнае, пэўна ж, тое, што яго новая пабудова сказаў надае дзеянням і ўсяму апавяданню больш рухавасці і напружанасці.

Пачакаем, што скажуць у гэтай справе крытыкі.

## АРКАДЗЬ МОРКАЎКА

Аркадзь Моркаўка нарадзіўся 26 студзеня (ст. ст.) 1900 г. у вёсцы Зазер'е, 15 вёрст ад м. Рудзенска, на Чэрвеншчыне. Бацька — селянін, быў будачнікам на чыгунцы. Скончыўшы пачатковую школу, далей вучыцца не меў сродкаў. З 1916 па 1924 г. служыў на чыгунцы. З 1922 г., служачы, ён разам і вучыўся ў рабочым тэхнікуме ў Менску. З 1924 г. вучыўся ў Віцебскім электрамеханічным тэхнікуме, які і скончыў у 1927 г. Цяпер (1928 г.) працуе ў Палаце мерак і вагі ў Менску.

З беларускаю літаратураю Моркаўка пазнаёміўся яшчэ за царскім рэжымам, у 1912— [19] 13 гг., калі нейкі час вучыўся ў вясковай школе разам з дзецьмі зазерскага аканома, братам і сястрою Буйламі. Яны далі яму цэлы пук газет «Наша ніва», якая зрабіла на яго, як цяпер сам успамінае, вялізнае ўражанне. Вершы М. Багдановіча і Я. Купалы далі яму імпэт да першых літаратурных спроб. З расійскіх паэтаў асабліва любіць А. Блока. «Апрача літаратурнай працы, шмат энергіі аддаў на працу ў літаратурнай студыі Віцебскай філіі «Маладняка». У ёй А. [ркадзь] А. [ндрэевіч] вёў заняткі па паэтыцы і беларускай літаратуры» [1].

Першая друкаваная рэч Аркадзя Моркаўкі — верш «К новаму году», змешчаны ў «Вольным сцягу», № 1 за

[1] М. Каспяровіч. «Вывучэнне віцебскай літаратуры і мастацтва» («Маладняк», № 6, 1927 г.).

1922 г. З 1923 г. яго вершы друкуюцца ў «Полымі», потым — у «Маладняку» і ў розных газетах. Творчая прадукцыя ішла ў яго вельмі няроўна. У 1922 і 1923 гг. ён напісаў некалькі вершаў. У 1924 г.— нічога не напісаў. У 1925 г.— зноў некалькі вершаў, а ў 1926 г.— зноў нічога, ніводнага верша. Найболей напісаў у 1927 г. Мала і з вялікімі перапынкамі піша ён, між іншым, з прычыны цяжкіх умоў жыцця: быў нейкі час без працы, кватэра ў яго маленькая, а сям'я вялікая, цесна, тлумна — няма ні часу, ні спрыяючых умоў для творчасці.

Цяпер, улетку 1928 г., выйшаў першы зборнічак яго выбраных вершаў пад назваю «Дым жыцця».

Крытыка мала дапамагала Аркадзю Моркаўку. Аб яго творчасці пісаў толькі З. Жылуновіч (артыкул «Купчастыя руні» («Полымя», № 2, 1926 г.) і два рэцэнзенты: П. Фралоў (рэцэнзія на зборн.[ік] Віцебскай філіі «Маладняка» «Пачатак», у «Аршанскім маладняку», № 6, 1927 г.) і А. Гародня (рэцэнзія на «Дым жыцця» ў «Маладняку», № 8, 1928 г.).

Аркадзь Моркаўка — інтэлігент сялянскага паходжання, узрос без асаблівай блізкасці да рабочай асярэдзіны і рэвалюцыйнага руху, шчыра пранsocialуся матэрыялістычным светаглядам, але не мог шырока і глыбока развіць яго ў сабе праз адукацыю; літаратурна развіваўся пад уплывам нашаніўства і выпадкова, бессістэмна чытаных расійскіх аўтараў, як Блок, Брусаў, Бунін (у вершах), з запалам аддаў свае маладыя сілы сацыялістычнаму будаўніцтву ў Савецкай Беларусі, але мусіў цярпліва зносіць розныя недагоднасці жыцця як савецкі служачы, нейкі час беспрацоўны,— і гэтым вызначаюцца межы, у якіх знаходзіцца змест яго творчасці.

Рэцэнзент П. Фралоў пералічае такія галоўныя матывы ў вершах Моркаўкі, змешчаных у зборніку Віцебскай філіі «Маладняка» «Пачатак»: сацыяльнае змаганне («Крык вуліцы»), заклік да сацыялістычнага будаўніцтва («Працуй», «Сцены»), успаміны аб грамадзянскай барацьбе, захапленне адраджэннем бацькаўшчыны. Рэцэнзент П. Фралоў кажа, што ў Моркаўкі «ёсць поўная сугучнасць матываў, адпавядаючых сучаснасці, бадзёрасць...». Ён кажа: «Асобна стаіць верш «Я жыў», дзе паэт разважае над ідэяй колазвароту свету, але і тут ён бадзёры...» [1]

Рэцэнзент А. Гародня піша: «У сваіх вершах Моркаў-

[1] «Аршанскі маладняк», № 8, 1927 г., стар. 63.

ка адбівае і свае індывідуальныя настроі, і розныя выдатныя здарэнні грамадскага жыцця — рэвалюцыя, забойства Сака і Ванцэці, індустрыялізацыя краіны, будаўніцтва, паўстанчы рух і г. д. Чыстая лірыка, асабістыя перажыванні, часам з водценнем псіхалагізму, таксама займаюць у творчасці Моркаўкі выдатнае месца. Наглядаецца часам імкненне аўтара ўвайсці ў глыб сваіх унутраных перажыванняў. Пэўная частка вершаў пабудавана на эмацыянальных адносінах да рэчаіснасці, адчуваецца нейкі, часам беспрадметны, меланхалічны сум; у другіх вершах — наадварот — глыбокі, філасофскі падыход да тых ці іншых жыццёвых з'яў, даюцца інтэлектуальныя, разумовыя адносіны песняра да ўсяго навакольнага, часам — наглядаюцца спробы філасофскага іх абагульнення». Рэцэнзент А. Гародня зазначае, што «некаторыя вершы Моркаўкі — безумоўна, не для мас, некаторыя з іх занадта складаныя і заблытаныя як у сэнсе формы, так і ў сэнсе зместу» [1].

Паказаная характарыстыка ідэалагічнага зместу ў творчасці Аркадзя Моркаўкі — зусім правільная, прынамсі, у сваіх агульных рысах. Застаецца толькі падкрэсліць некаторыя моманты.

Безумоўна, Аркадзь Моркаўка ў сваёй творчасці — інтэлігент, з нахілам да філасофскіх разважанняў, да сімвалічных вобразаў і да класічнай формы ў вершаскладанні. Ён нават піша верш: «Краса, краса! табе мой спеў!» («Дым жыцця», стар. 47). Тым часам паэт не забываецца на класавае змаганне і на сваё паходжанне «з вясковай галоты». У адным лепшым сваім вершы ён піша аб сабе так:

Я не маю роскашы чырвонцаў,
Не заўсёды нават маю медзь,
Не ваджу я залатога сонца,
Каб цябе, мой край, агнём сагрэць.
Але маю ў сэрцы звоны веча,
Але маю пчолак-песень рой,
Што падслухаў у калядны вечар,
Што збіраў я роснаю зарой.
Ды і гэта я аддам балотам,
Ды і гэта я пушчу ў аўсы;
Хай паслухае вясковая галота,
Аб чым звоніць яе брат і сын.

На жаль, аднак жа, творчасць Аркадзя Моркаўкі, як яна выяўлена ў зборніку «Дым жыцця» і як А. Гародня зазначыў толькі наконт некаторых вершаў, безумоўна, не можа быць зусім сваёю, блізкаю і роднаю ў балотах, аўсах

[1] «Маладняк», № 8, 1928 г., стар. 82—83.

і ў сэрцах вясковай галоты. Лірыка яго сапраўды такая часам індывідуалістычная, такая туманна-філасофская і наогул такая выкручаная ў матывах, вобразах і проста зваротах мовы, што не можа быць лірыкаю не толькі для вясковай галоты ці гарадскога рабочага, але і для звычайнага савецкага служачага. Гэтая лірыка — хіба для тых толькі «братоў і сыноў вясковай галоты», якія вучыліся на вершах Блока, Буніна, Багдановіча і Купалы, але не здолелі яшчэ скінуць з сябе іхныя ўплывы і стварыць нешта зусім новае, сваё, рабоча-сялянскае, як у змесце, так і ў форме і пралетарскае не толькі ў фразеалогіі, а ва ўсёй сваёй сутнасці. Трэба зрабіць пэўнае тлумачэнне, каб не пакрыўдзіць сляпых ушанавальнікаў Багдановіча і Купалы, асабліва Купалы. Купала — самы блізкі беларускім народным масам паэт, але не ва ўсёй сваёй творчасці. Аркадзь Моркаўка наследуе Купалу якраз у той часці яго творчасці, якая бліжэй да індывідуалістычна-інтэлігенцкіх настрояў, чым да настрояў сялянска-масавых. Аркадзь Моркаўка імкнецца да калектывізму, але покуль што больш застаецца сам і сабою, а сам з сабою ён — даволі мінорна настроены інтэлігент, з нахілам да псіхалагізму, рэфлексій, углыблення ў сябе, да меланхоліі («меланхалічнага суму» — паводле А. Гародні), да філасофскіх разважанняў, праз якія хоча ён, як відаць, знайсці прымірэнне з жыццём...

Самы галоўны матыў, так сказаць, ідэалагічная аснова ў творчасці Аркадзя Моркаўкі, гэта — зусім не змаганне, як піша рэцэнзент П. Фралоў, уводзячы ў падман савецкага чытача [1], а філасофскія разважанні на тэму аб тым, што няма нічога вечнага на гэтым марным свеце, але шкадаваць не варта, трэба жыць і знаходзіць імпэт да жыцця хоць бы ў гэтай філасофіі прыцiснутага вечнасцю. Бачыце, у гэтым ёсць сваё харaство:

Мы рассыплемся яскравым пылам,
Зорным пылам зікнем ля дарог.

Так піша Аркадзь Моркаўка ў першым, так сказаць, праграмным вершы «І раней гадзіны звонам стылі...» (стар. 7), пад якім стаіць дата 1. XII. 1927 г., і ў шмат якіх іншых вершах у зборніку. З такім падыходам піша ён нават аб смерці Сака і Ванцэці (туманны верш «Паў на калені дзень», стар. 11). З такім падыходам піша ён нават аб адносінах між горадам і вёскаю, між фабрычным рабочым і

[1] «Аршанскі маладняк», № 6, 1927 г., стар. 63.

селянінам-земляробам (верш «Завівайцеся, дымы заводаў», стар. 12). З падобным падыходам пяе паэт нават аб каханні, аб адносінах да каханай жанчыны. Скрозь у яго — філасофія, праз якую імкнецца ён знайсці сэнс і хараство ў жыцці ўсяе прыроды і чалавека, імкнецца прыняць і ўсхваліць працэсы жыцця такімі, якія яны ў сваім асноўным былі, ёсць і будуць,— але, пэўна ж, ён стаіць за ўсё тое, што вядзе чалавецтва далей наперад, стаіць за класавае змаганне, за пралетарыят і г. д. і г. д.

І каб не засталося ў каго-небудзь няправільнае ўяўленне аб творчасці Моркаўкі з ідэалагічнага боку, трэба падкрэсліць таксама і тыя вершы ў яго зборніку, у якіх найбольш выразна выяўляецца яго класавае пачуццё, калі не поўная класавая ідэалагічная ўгрунтаванасць, яго зусім здаровы імпэт да змагання з класавым ворагам. У некаторых яго вершах, па-першае, шмат непасрэднай радасці жыцця, бадзёрасці, як гэта слушна адзначыў рэцэнзент П. Фралоў (вершы «Дзень», «Накрыліся хаты» ды інш.). У Савецкай Беларусі гэтая радасць можа быць толькі ў чалавека пралетарскай ідэалогіі. А ў вершы «Крык вуліцы» ён піша:

Над намі кпілі, здзек над намі
Тварылі ўсе, забыўшы грэх.
Цяпер мы робім над панамі
Апошні суд, суд не на смех... (Стар. 33)

У вершы «З дарогі» паэт уцяшаецца, убачыўшы ў вёсцы арку, што засталася пасля святкавання 1 Мая. Ён бачыць, як цяжка залячыць старыя раны і рабіць новае, сацыялістычнае, будаўніцтва, ён не баіцца паказаць і недахопы. Але разам з тым ён добра бачыць і новае. Характэрныя радкі:

Вось і школа, дзе дзірак нямала,
Як нямала й бязногіх сталоў,
Толькі з сцен пазірае Купала
На капу маладняцкіх галоў. (Стар. 43)

І паэт канчае верш так:

Але новыя песні звіваюцца,
Ды сасоннік узняўся другі,
Ды са твараў сялянскіх змываюцца
Кросны доўгай сялянскай тугі. (Стар. 44)

Рэцэнзент П. Фралоў піша: «Мастацкія сродкі Моркаўкі самыя звычайныя — няма новых вобразаў. Не пазбаўлены ён і старых маладнякоўскіх выкрутасаў, збітых воб-

разаў: «крынічыць», «кудзеліць», «пенны» і інш. Не ўдалася яму і алітэрацыя:

А родны рады росны ложак
Ускіне ўгору сотні моў —

і незразумела і груба» [1]. Трапна зазначаючы ўплывы «выкрутасаў», добра падаўшы незразумелы вобраз у гэтых двух радках верша, П. Фралоў робіць тым часам вялікую памылку, думаючы, што мастацкія сродкі ў Моркаўкі самыя звычайныя і што ў яго няма новых вобразаў. Якраз самае моцнае ў творчасці гэтага паэта — вобраз і фраза. Тут ён узлятае часам вельмі высока. Але ж у гэтым, праўда, бываюць у яго і галоўныя недахопы: у вобразе і фразе ён часам нізка валіцца. Я гэта тлумачу тым, што ён увесь час шукае і стараецца даць моцны вобраз і моцна збудаваную фразу, але не заўсёды добра разлічае на свае сродкі, на свае штукарства ў слове і таму, паклаўшы шмат стаnранняў, мае ўсё ж ткі не належныя вынікі. Гэтым, праўда, абясцэньваюцца шмат якія вершы ў зборніку. Гэта, так сказаць, «лыжка дзёгцю ў бочцы мёду» — ад лішняга апрацоўвання формы, ад механічнай працы, ад працы без тых ужо эмоцый, якія былі ў паэта, калі ён пісаў верш, і якія, быць можа, зноў з'яўляліся ў яго, калі ён пачынаў апрацоўку, але, не рэалізаваныя ў невялікі працяг часу, слаблі і зусім знікалі, пакідаючы вобраз шурпатым у агульнай гладкасці. Гэта яшчэ неспрактыкаванасць мастака, які тым часам ставіць сабе вельмі цяжкія заданні, вельмі шмат вымагае ад сябе з боку формы. Трэба пажадаць, каб усе нашы маладнякоўцы так адносіліся да формы сваіх твораў, як гэта робіць Аркадзь Моркаўка, але трэба пажадаць ім таксама, каб яны ведалі псіхалогію творчасці і тую тэхніку працы, якая была патрэбна нават самым вялікім мастакам. Няможна вылучваць з сябе арыгінальную форму, калі даўгая механічная праца аслабіць або зусім знішчыць уздым патрэбных эмоцый.

Можна цалкам згадзіцца з А. Гародняю, калі ён піша: «У сэнсе формы ў творчасці Аркадзя Моркаўкі адчуваецца некаторы ўплыў экспрэсіянізму ды імажынізму; апошняе выразна выступае ў сістэме пабудовы вобразаў, якія, між іншым, у Моркаўкі часта бываюць вельмі моцныя і вельмі смелыя» [2]. Няўдалыя вобразы ў Аркадзя Моркаўкі А. Гародня тлумачыць «памылкамі». Правільна зазначае

[1] «Аршанскі маладняк», № 6, 1927 г., стар. 63.
[2] «Маладняк», № 8, 1928 г., стар. 83.

А. Гародня ў вершах Аркадзя Моркаўкі і «не зусім здаровы ўхіл у бок мяшчанскага эстэтызму, у псеўдакласічным стылі»[1], толькі не зусім надаюцца тут тэрміны «мяшчанскі эстэтызм» і «псеўдакласічны стыль». Я сам не ведаю, як лепей было б гэта назваць, але справа ж тут, безумоўна, не ў мяшчанстве, як зазвычаена яго ў нас разумець, і не ў «псеўда»,— а хутчэй у «неа» класічным стылі. Гэта ўсё — неператраўленая як мае быць спадчына і ўплывы ад Блока, Брусава, Буніна, Багдановіча, Ясеніна ды інш. Уплываў і практыкаванняў яшчэ поўна ў творчасці Аркадзя Моркаўкі, але ёсць у яго і ўжо свой, зусім самабытны шлях у маладой беларускай паэзіі, і, безумоўна, Аркадзь Моркаўка выяўляе ў паэзіі сучаснага маладняку адну з асобных плыней, але яшчэ цяжка назваць гэтую плынь зусім акрэслена. Гэта не народна-рамантычная плынь, як у Паўлюка Труса; гэта не рэвалюцыйна-рамантычная плынь, як у Звонака, Фаміна і шмат у каго з іншых маладнякоўцаў; гэта не футурыстычныя практыкаванні, што заўважаліся пэўны час у Відука; гэта і не пачаткі канструктывізму, якім пачынае захапляцца цяпер М. Хведаровіч. Найбліжэй, паводле некаторых асаблівасцей, стаіць Аркадзь Моркаўка да Валерыя Маракова і Ізраіля Плаўніка.

Аркадзь Моркаўка — праўдзівы паэт, праўдзівы мастак вобразаў і слоў. Глыбінёю думкі, нахілам да філасофскіх разважанняў яго вершы нагадваюць творчасць Багдановіча, Дубоўкі, часткова Купалы, Гаруна ды інш. паэтаў. Гэта — вельмі сур'ёзны паэт, вельмі дарослы ў сваіх поглядах на жыццё, хоць часам і памылковых і не сваіх для нашай эпохі. Арыгінальнасцю ў форме вобразаў яго вершы таксама нагадваюць Багдановіча, Дубоўку, Купалу, Пушчу, але ён ужо даволі таксама самабытны мастак. Няўдалых вобразаў і зваротаў, што А. Гародня называе памылкамі, хібамі і «паэтычнымі вольнасцямі», у яго, праўда, шмат. А. Гародня дае прыклад:

> Ой за вольнасць свету разьбяры ў тумане,
> Разьбяры заснулі ў тумане чорным. (Стар. 10)

Мусіць, паэт хацеў сказаць слова «заснулі» ў сэнсе «памерлі», а то выходзіць недарэчнасць. І яшчэ прыклады няўдалых месцаў, паводле А. Гародні: *«прастру любоў»* (стар. 18), «узняла на шмат *паверх»* (86), «аддыха» (45).

---

[1] [«Маладняк», № 8, 1928 г., стар. 83].

Каб дапамагчы паэту, я, з свайго боку, звярну яго ўвагу на такія няўдалыя, на мой погляд, вобразы:

Я сэрца слухаю. І, здэцца, мора жыта
Пад латамі рабёр — пад небасхілам сінім. (Стар. 22)

Ну, што ж гэта за сіні небасхіл і мора жыта ў вантробе? І яшчэ, у вельмі паэтычным наогул вершы «Ноччу»:

Цемру начную я здужаю,
Здужаю ведзьмаў-кабет. (Стар. 41)

Хоць тут вялікага крыміналу няма, але калі вы называеце ведзьмаў кабетамі, дык дужацца з імі мужчыне — далёка не паэтычны занятак, у кожным разе — занятак смешны. У трэцім месцы, апісваючы светлы, радасны дзень (верш «Дзень»), паэт кажа, што дзень гэты самы —

То гамонкаю радаснай школаў
Аплятае сады, бы павук.

Не ведаю, можа, у мяне пэўная адсталасць у непрыхільнасці да павукоў, можа,— пэўная асацыяцыя пасля чытання брашуры «Павукі і мухі», але неяк не падабаецца параўнанне, што радасная дзіцячая гамонка аплятае сады, як павук.

А тым часам удалыя вобразы ў Аркадзя Моркаўкі ідуць скрозь праз увесь зборнік; няўдалых у параўнанні з імі вельмі мала. Паэт умее сказаць у вершы «Я сэрца слухаю...»:

Між поўных каласоў, пяшчотны, ціхі, кволы,
Застыў і васілёк — блакітны дар красе.
Бы нітку доўгую, звіваюць песню пчолы,
І ён жартліва ім галоўкаю трасе. (Стар. 22)

Або ў вершы «Я цалаваў жанчын і марыў»:

Гады лажацца мяккім пылам
На кволы след пярэйдзеных дарог.
Што маладосць калісьці сніла,
Змёў венік дзён у яму за парог. (Стар. 26)

Або ў вершы «Квяцісты палісаднік ран і болек»:

Адной рукой пушчаем к небу птушак,
Другую сунем гідка ў твань,
І копы матылькоў прыгожых тушым,
А самі прагнем хараства. (Стар. 30)

Або ў вершы «Ноччу»:

Месячык цэдзіць праз сіты праменні
На грамаду камяніц.
Месячык блытае кволыя цені,
Хіліць маўкліва іх ніц. (Стар. 41)

Гэта — што да будавання і наогул формы вобразаў. У поглядзе на вобразнасць Аркадзя Моркаўкі П. Фралоў, безумоўна, вельмі памыліўся. Але П. Фралоў у поглядзе на мастацкія сродкі паэта мае пэўную рацыю, калі закрануць строфіку, метры і рытмы, а таксама рыфмаванне. Блізу ўсюды ў вершах Аркадзя Моркаўкі пануе чатырохрадкоўе, метры і рытмы даволі звычайныя, хоць верш, аднак жа, даволі музычны, рыфма — таксама звычайная, часам спатыкаюцца пажаданыя ў наш час асанансы і алітэрацыі.

Недахопы — і вялікія — у Аркадзя Моркаўкі: 1) недакладнасць выразаў, 2) граматычныя няправільнасці, 3) некаторыя не вельмі мілагучныя месцы.

Недакладнасць выразаў робіць часам яго верш незразумелым, хоць вобраз сам па сабе і зразумелы і даступны.

> Паў на калені дзень... Як шэпты ціхіх лоз,
> Узнятыя растаць, пыліцца у вадзе,—
> З душы трывожнае з трывогай дня сплыло. (Стар. 11)

Незразумелае месца. Аўтар хацеў сказаць, што шэпты ўзняліся, каб растаць, распыліцца ў вадзе, а хто гэта лёгка зразумее? Такіх недакладнасцей у Моркаўкі шмат, яны і псуюць яго паэзію.

Граматычныя няправільнасці спатыкаюцца даволі рэдка, але псуюць справу не менш чым недакладнасці. Паэт піша:

> Гэта песня ціхаму канцу
> І мяжы гадзінам і загонам,—
> Абарвецца залаты ланцуг
> І рассыплецца далёкім звонам. (Стар. 14)

Можа, тут друкарская памылка, што няма косак пасля слоў: «мяжы», «гадзінам». А калі памылкі няма, дык аўтар хацеў, мусіць, сказаць: «І мяжы гадзін і загонаў», але дапусціў няправільнасць, ужыўшы давальны склон замест роднага.

Потым ён піша слова «мора» ў множным ліку з націскам на канцы — «мары» (стар. 8). Адразу не зразумець:

> Шмат пражыта на гонях,
> Помнім чужыя дары...
> Нас ля труны не прыгоняць
> Край свой прадаць за мары!

Нягучныя месцы ў Моркаўкі найчасцей бываюць ад дрэннага ўжывання гуку і.

І свячамі-соснамі,
Й маладосцю губ —
Вечарамі роснымі
Убірала шлюб. (Стар. 17)

Мімаходам кажучы, вобраз «свячамі — соснамі» нагадвае адзін вобраз у Дубоўкі, толькі там, здаецца, кіпарысы, што лепей. Ёсць нешта і ад Купалы: «Чвыр прыгаруніў» (стар. 38). Уплывы добрыя і для маладога паэта зразумелыя і дапушчальныя.

Мімаходам жа і пра мову. Яна ў Моркаўкі наогул добрая, вельмі рэдка — расіянізмы ў слоўніку: радам (=побач, 15, 35), калясом (=колам, 42), на ём (=на ім, 46). Чвыр (=жвір), палі (=віткі, вехі) трэба разглядаць як паветалізмы, якія, можа, яшчэ і не зусім прышчапіліся ў літаратурнай мове, хоць спатыкаюцца і ў іншых нашых паэтаў з паўднёвай Меншчыны, Случчыны, Бабруйшчыны.

*Вывады.* Аркадзь Моркаўка — адзін з самых моцных паэтаў паміж літаратурнай моладзі. Яго моц — у вобразе, філасофскім ухіле і стараннай апрацаванасці верша. Але яму трэба наблізіць сваю вобразнасць да вобразнасці мас, а сваю філасофію да сучаснасці. Трэба звярнуць увагу на метры, рытмы і строфіку. Розныя шурпатасці ў форме знікнуць з далейшым ростам паэта.

## СЫМОН БАРАНАЎ

*Біяграфія.* Сымон Баранаў нарадзіўся 1-га верасня 1900 года ў вёсцы Рудкова Самахвалаўскага раёна, на Меншчыне. Бацькі — сяляне, земляробы. У 1928 г. скончыў рабочы факультэт у Менску і паступіў на педагагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пісаць пачаў з 1927 г., быўшы на другім курсе рабочага факультэта. Першая друкаваная рэч — абразок «У млыне» — была змешчана ў «Чырвонай змене» 30 студзеня 1927 г. У «Маладняк» уступіў у маі 1928 г.

*Бібліяграфія.* Сымон Баранаў піша толькі апавяданні. За 1927—[19]28 гг. надрукавана каля двух дзесяткаў яго абразкоў і апавяданняў у розных беларускіх выданнях: «Чырвонай змене», «Беларускім піянеры», «Чырв.[оным] сейбіце», «Савецкай Беларусі». Увосень 1928 г. ён здаў у час.[опіс] «Маладняк» даўжэйшае апавяданне «Начныя цені».

*Ідэалагічны змест.* Апісвае Сымон Баранаў, галоўным чынам, жыццё ў вёсцы, а троху — жыццё ў горадзе. Ён малюе быт беларускіх сялян і іхных дзяцей, быт вясковых яўрэяў, дае зарысоўкі з адміністрацыі ў сельсавеце і з савецкіх служачых у горадзе.

Галоўная ў яго тэма: маленькае штодзённае змаганне на сацыяльна-бытавым грунце за новы быт, за новае жыццё.

Ён выварачвае гнілыя рэшткі старога быту. Ён дае малюнак вясёлага, але шкоднага сялянскага п'янства на кірмашы («У маладзіковую нядзелю»). Ён апавядае аб сялянскім нядбальстве і неахайнасці («Каля Гіляровай студні»): гаспадар ніяк не збярэцца паправіць студню і нарэшце хварэе на тыфус ад нездаровае вады, жонка яго штодзень прыбівае дошкі ў гэтай студні далонню, баіцца, каб не ўвалілася дзіця, нарэшце ў студні топіцца свіння. Ён паказвае вясковую цемру, бабскае пляткарства, пажары ад неасцярожнасці і няўважнасці («Раніцаю»), кулацкую скнарасць («Боты») і г. д.

Але ўсё гэта — звычайна дарэвалюцыйны быт, які застаўся яшчэ і ў савецкіх умовах.

У іншых сваіх апавяданнях з вясковага жыцця Сымон Баранаў паказвае з'явы, уласцівыя і характэрныя ў савецкіх умовах. Вось неспадзявана пасварыліся і ледзь не пабіліся завознікі ў млыне, завёўшы гутарку аб выгане,— гэта змагаецца незаможная вёска з заможнікамі («У млыне»). Вось добрае і ціхае сялянскае вяселле канчаецца дзікім забойствам — гэта заможніцкая, кулацкая помста за абрэзкі («На вяселлі»). Вось дробны шляхцюк выкручваецца ад савецкага падатку («Лявон Чэмер»), а скнары заможны дзядзька, за Савецкаю ўладаю, эксплуатуе свайго парабка («Боты»).

Быт вясковага яўрэя на Беларусі, даўнейшы і цяперашні, закранае Сымон Баранаў у апавяданні «Моцька».

Адмоўныя тыпы старшыні сельсавета і сакратара бачым мы ў яго апавяданні «Лявон Чэмер».

Плямы на савецкім быце бачым і ў гарадскім жыцці, у дзейнасці нейкага старшыні курортнай камісіі, які пасылае на курорт сваю знаёмую здаровую стэнаграфістку і праз гэта пакідае без курортнага лячэння сухотніцу — тэхнічную працаўніцу («Плямы»),— якраз так робіцца і ў сельсавеце, апісаным у апавяданні «Лявон Чэмер», дзе едзе на курорт старшынёва жонка і не можа паехаць хворая на сухоты настаўніца. Мяшчанскую хцівасць і поўнае

неразуменне заданняў Савецкай улады ў справе ўнутраных пазык бачым мы і ў нейкай гарадской савецкай служачай, якая хоча выйграць пяць тысяч і ледзь не вар'яцее ад гэтых думак («Аблігацыя»).

Апрача таго, Сымон Баранаў напісаў і некалькі абразкоў з дзіцячага жыцця. Тут у яго — успаміны з свайго маленства, а разам з тым і мастацкая агітацыя супраць вясковай цемры, супраць, напрыклад, лячэння ў шаптуноў («Хлопчык Петручок»). Цікава і праўдзіва перадае аўтар дзіцячую псіхалогію: як хлопчык хацеў быць падобным да дарослага і пачаў курыць і як бацькі яго — сяляне — ужывалі разумныя педагагічныя сродкі ў выхаванні дзіцяці («Не пашанцавала»). Тую ж цікавасць апавядання і праўдзівасць псіхалогіі маем у апавяданні «Злосць» — як хлопчыкі пасварыліся, а потым, як адзін тонуў, а другі яго ратаваў, злосць іхная адышла.

*Фармальна-мастацкія асаблівасці.* Сымон Баранаў умее даваць невялічкія, просценькія, але вельмі жывыя сцэнкі, кавалачкі жыцця, напісаныя з дасканалым веданнем і разуменнем справы, з тонкаю нагляднасцю і з чыста народным гумарам.

Яму асабліва ўдаюцца апавяданні з дзіцячымі перажываннямі, малюнкі кірмашу, вяселля, выпіўкі, бойкі, пляткарства і г. д.— наогул, жанравыя бытавыя зарысоўкі, асабліва такія, што чым-небудзь смешныя. Аўтар умее памастацку перадаць камічныя Вінцусёвы разважанні аб карове, ён умее і сам ад сябе ў тым самым тоне сказаць пра камара. Адным народным словам ён часам дасягае пэўнага ўражання. Гэта — народны гумар: «З каго ты іх (цялят) выгадаваў без самастойнай каровы?» або: «Ён быў курцом не другой, а першай гільдзіі».

Апавяданне Сымон Баранаў вядзе роўна і спакойна, без траскучай фразеалогіі, без тэндэнцый і падкрэсліванняў, не ўпадаючы, з другога боку, у засмучэнне,— піша, як свой аб сваім і аб сваіх. Ён стаіць на тым ідэалагічным шляху ў літаратурнай беларускай творчасці, які вядзе да здаровага народнага рэалізму, да блізкіх народным масам інтарэсаў і гісторый і да лёгкай і роднай дзеля іх формы жывога, трошку камічнага апавядання. У сучасным «Маладняку» ён належыць да той рэалістычнай плыні, якую ўсё больш і лепей афармляюць Ліманоўскі, Галавач, Хурсік, Хв. Явар і інш., ён ужо мае ў ёй сваю выразную індывідуальнасць.

Што да формы паасобных апавяданняў, дык трэба ад-

значыць некаторыя недахопы, на якія аўтар павінен звярнуць сваю ўвагу дзеля карысці ў сваёй далейшай літаратурнай творчасці. Абразок «У млыне», безумоўна, не зусім закончаны: развязка мала ўвязана з усім абразком. У абразку «На вяселлі» не зусім выразна выяўлены дзеючыя асобы, прыходзіцца задумвацца, каго там памылкова забілі. У апав.[яданні] «Лявон Чэмер» лішне складаная пабудова; можна было б даць проста дзённік старшыні сельсавета, зусім адкінуўшы размову двух сяброў, з якой апавяданне пачынаецца. У апав.[яданні] «Боты» — цікавы прыём: праз здарэнне з дзядзькавымі ботамі аўтар апісвае ўсяго дзядзьку; але здарэнне гэтае не вельмі моцна ўвязана з цэлым апавяданнем. У апав.[яданні] «Моцька» скалечаны канец; калі аўтар хацеў даць параўнанне старога і новага сацыяльнага становішча яўрэяў на Беларусі, дык трэба было новае паказаць значна больш у параўнанні з тым, як яно паказана.

Вобразы ў Сымона Баранава простыя, народныя, жывыя. Мова народная. Аднак, побач з вельмі мастацкімі выразамі, ёсць яшчэ няўдалыя («для прыклёпу») і нават зусім няправільныя («Факт вінавайцы яго дзённікам падмацоўваецца»).

*Вывады.* Агулам — творчасць Сымона Баранава яшчэ толькі пачынаецца. І, з упэўненасцю кажучы, што з яго можа развіцца вельмі добры беларускі пралетарскі белетрыст, хочацца параіць яму больш апрацоўваць творы з фармальна-мастацкага боку, існці шляхам кароткага апавядання і не гнацца тым часам за доўгімі творамі. Трэба яму таксáма больш працаваць над моваю, каб да яго дасканалай народнай мовы далучылася і дасканалае валоданне беларускаю літаратурнаю моваю.

Апавяданні Сымона Баранава з прыемнасцю і з карысцю дзеля сябе будзе чытаць селянін, рабочы, савецкі служачы — наогул масавы сучасны чытач. Зборнік яго апавяданняў быў бы пажаданым гасцём у масавых бібліятэках, асабліва ў хатах-чытальнях. Але некаторыя з іх аўтару трэба, змяшчаючы ў зборніку, троху перарабіць, часам скараціць.

## ІЛАРЫ БАРАШКА

*Біяграфія*: Ілары Мацвеевіч Барашка нарадзіўся 12-га ліпеня (ст.ст.) 1905 года ў Менску ў сям'і рабочага. Бацька яго працаваў на шпалернай фабрыцы Кантаровіча. Жылося бедна і цяжка. З малых год прыйшлося працаваць і Іларыю. Потым, у 1915—[19]16 гг., давялося зазнаць гора на ўцякацтве ад вайны. Рэвалюцыя дала Іларыю доступ да навукі, і ён цяпер студэнт педфака Белдзяржуніверсітэта. Праца ў дзяржаўным архіве, кажа ён, адабрала ў яго нямала здароўя, але дапамагла і яго агульнаму развіццю. Яна ж скіравала яго да гістарычных тэм.

Грамадска-літаратурная дзейнасць Барашкі пачалася з 1920 года. Працаваў ён у мінскіх арганізацыях моладзі. З 1924 года быў сакратаром часопіса «Полымя». З 1925 па [19]27 год быў рэдактарам часопіса «Маладая араты». У 1927 годзе быў намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена».

*Бібліяграфія*. Пачаў пісаць з 1922 года. Першая друкаваная рэч — апавяданне «Сельсаветчыца Параська» — была надрукавана ў 1924 годзе ў часопісе «Беларуская работніца і сялянка». З таго часу друкуецца ў розных беларускіх выданнях: «Беларускім піянеры», «Чырвоным сейбіце», «Савецкай Беларусі», «Маладняку». У 1926 г. выйшаў зборнік яго мастацкай прозы «Прасторы». Некаторыя рэчы перакладзены на ўкраінскую мову, як апавяданні «Іерогліфы Яэля» (пераклаў С. Піліпенка), «Нататкі пра Украіну».

*Ідэалагічны змест*. Ілары Барашка выйшаў з рабочага асяроддзя. Выхадцы з гэтага асяроддзя — пакуль што яшчэ вельмі рэдкія госці ў беларускай літаратуры, нават у складзе сучаснага «Маладняка». Лік іх узрасце з ростам індустрыялізацыі ў умовах Савецкай Беларусі. Барашка ёсць адным з тых маладых пісьменнікаў, якія найбліжэй стаяць да Кастрычніка і найбольш выразна выяўляюць яго ў беларускай літаратуры.

Галоўны матыў у яго творчасці — рэвалюцыйнае змаганне.

Сюжэты для выяўлення гэтага матыву ён шукае часам у самым далёкім мінулым. Так, у невялічкім апавяданні «Іерогліфы Яэля» аўтар з замілаваннем стварае вобраз Яэля, правадыра паўстанцаў у старажытным Егіпце супроць фараонаў.

Часцей, аднак, бярэ Барашка рэвалюцыю 1905 года на

Беларусі («Пяты год», «Бяда»), блізка пазнаёміўшыся з гістарычнымі матэрыяламі ў архіве. Тут — літаратурнае аднаўленне таго, што сапраўды было. Аўтар захоплівае напружанасцю пачуцця і рэвалюцыйным пафасам. У нарысе «Бяда», які ёсць, так сказаць, часткаю нарыса «Пяты год», аўтар апавядае аб рэвалюцыйнай дэманстрацыі ў Менску каля Віленскага вакзала, у часе якой рабочы Якім быў ранены і памёр, пакінуўшы жонку, асіраціўшы дзетак.

Асабліва ж блізкая Барашку тэма — грамадзянская вайна на Беларусі, крывавае змаганне з разбэшчанымі акупантамі-палякамі («Ліпнёвыя дні», «Дэзерцір», «Дар за дар»). Нарыс «Ліпнёвыя дні» — гэта ўспаміны з часоў эвакуацыі белапалякаў з Менска, пад напорам Чырвонай Арміі. Тут — жудасныя малюнкі разбою, рабункаў, пажараў, прычым паказвае гэтыя малюнкі — навочны сведка, якім ёсць сам аўтар. У апавяданні «Дэзерцір» чалавек зрабіўся дэзерцірам, шкадуючы згаладнялую і хворую на сухоты маці. Але потым, замучаны сумленнем, прызнаецца ёй, што ён дэзерцір, і з яе маральным падтрыманнем сам з'яўляецца ў Чырвоную Армію і ідзе на фронт. На высокім беразе Прыпяці ў брацкай магіле пакояцца яго косці. Апавяданне «Дар за дар» («Маладняк», № 6 за 1928 г.) — адно з характэрных для эпохі апавяданняў. Тут — 1920 год на Беларусі, здзекі польскіх жаўнераў з беларускіх сялян, розныя праявы змагання, тып слаўнай вясковай дзяўчыны Антосі і тып самай брыдкай істоты ў беларускім жыцці — польскай патрыёткі з простага, але панаватага беларускага асяроддзя Вандзі Хведарчэні, роднай сястры яшчэ «Моднаму шляхцюку» Каганца, тып адважнага паўстанца Рыгора Галоты і тып нікчэмнага польскага сяржанта Дабравольскага і г. д.

Той жа рэвалюцыйны матыў скрозь праходзіць у Барашкі і тады, калі ён дае схематычны агляд нядаўна мінулых гадоў у эскізе «Брат, родны мой брат!». Эскіз гэты напісан з пачуццём, з жалем, з любоўю да людзей і з вялікай імкнёнасцю да жыцця.

Матэрыялу тут хапіла б на вялікі раман, але Барашка яшчэ не можа спакойна апавядаць аб гэтым і спяшаецца выказаць усё ў кароткіх моцных вобразах і словах.

Як барацьбіт за пралетарскую ідэалогію, малюе далей Барашка сацыялістычнае будаўніцтва ў Савецкай Беларусі і змаганне за новы, савецкі быт, прычым сюжэты бярэ з сялянскага жыцця, з жыцця вясковых камсамольцаў, настаўнікаў і з жыцця фабрычных рабочых.

У апавяданні «Лайдачка» бацька забараняе Гэльцы хадзіць у камсамольскую ячэйку, але камсамольцы, настаўніца, потым брат-чырвонаармеец дапамагаюць Гэльцы, і маладое перамагае. Нарэшце нават бацька пад уплывам новага жыцця мяняецца. У апавяданні «Сельсаветчыца Параська» — гісторыя вясковай жанчыны. Жанчына вызваляецца. Параська, пасля 20 гадоў цяжкога сумеснага жыцця з недарэчным мужам, разводзіцца, робіцца грамадскаю працаўніцаю. Яна — старшыня сялянскага камітэта ўзаемадапамогі, беднякі выбіраюць яе ў сельсавет.

Абразок «Прузына-ленінка» ўзяты з жыцця рабочых на Беларусі (шпалерная фабрыка). Тут ёсць ідэалізацыя фабрычнай працы, адна з першых спроб у гэтым кірунку ў беларускай літаратуры.

Вобраз Прузыны намалёван аўтарам з вялікім замілаваннем. З 11 г. працуе Прузына і працуе ўжо 9 г. Цяпер яна — вясёлая, энергічная, пяе, бо цяпер яна — будаўнік новага жыцця, цяпер яна — ленінка!

Апавяданне «Праблема» ўзята з настаўніцкага жыцця. Тут грамадская праца настаўнікаў, маладыя імкненні, каханне. Але аўтар закрануў не адну, а некалькі праблем, ды не выявіў выразна, якую праблему і як ён развязвае.

Не зусім зразумелая думка і ў яго рэчы «Кантрасты і сугучнасць». Гэтая рэч належыць да асобнага жанру ў Барашкі, да жанру сімвалічных апавяданняў, ці малюнкаў, ці нарысаў, ці як іх назваць, пісаных пад уплывам народнай творчасці і паэтычна стылізаванаю моваю (з гэтай жа, больш-менш, стылізацыяй напісан і эскіз «Брат, родны мой брат!»). Да гэтых яго твораў належыць стылізаванае паданне «Красуня і васількі», дзе пад Красуняю трэба, мусіць, разумець Беларусь. Тут — рэдкі ў Барашкі матыў нацыянальнага вызвалення. Добра апісана харaство дзяўчыны і васількоў. Гэткімі вершамі ў прозе напісаў Барашка «Замак на возеры» — найлепшае апрацаванне народных сюжэтаў з рэвалюцыйным настроем. Тут — жорсткі князь, права першай начы, лютая расправа з падданымі і г. д. Найлепей апісана бабулька, у вусны якой укладзена паданне,— вобраз вельмі маляўнічы і мастацкі.

*Фармальна-мастацкія асаблівасці.* Можна сказаць, што Барашка яшчэ не знайшоў зусім свайго пэўнага жанру. Ён піша і апавяданні, і нарысы, і вершы, і фельетоны, і артыкулы, і рэцэнзіі. «Але,— кажа Барашка,— цяпер я зразумеў, што такое становішча ў маёй featrнабаковай твор-

часці далей трываць не можа, хоць наша беларуская рэчаіснасць да гэтых часоў вымагае ад чалавека, які ідзе побач з жыццём, самай разнастайнай працы. Сур'ёзна бяруся за адно — за прозу. Лічу, што ўсе мае рэчы не маюць патрэбнай дасканаласці і глыбіні для літаратурных твораў у поўным сэнсе...» Гэтае прызнанне сведчыць, аднак жа, не аб слабасці Барашкі, а аб яго моцы, сведчыць аб тым, што ён ужо сам навучыўся заўважаць тыя недахопы, якіх раней, можа, не бачыў. А гэта — вялікі крок наперад. На маю асабістую думку, Барашка павінен ісці і далей шляхам кароценькага апавядання і мастацкага нарыса, як і «Іерогліфы Яэля», «Сельсаветчыца Параська», «Прузына-ленінка» і інш., пішучы іх у рэалістычным стылі, але ўносячы ў сваю мову гэтулькі ж паэтычнага хараства, колькі ён унёс яго ў свае рэвалюцыйна-рамантычныя рэчы, як «Брат, родны мой брат!», «Красуня і васількі», «Замак на возеры» і інш. Можна яму параіць, каб не гнаўся з уласціваю маладой гарачай натуры асаблівасцю хутчэй сказаць і выказаць усё. Можна параіць яму, каб у сваіх гістарычных рэчах даваў сюжэт, як у абразку «Бяда», і каб ён больш даваў рэчаў з гістарычным беларускім зместам, бо ў нас на іх яшчэ такая вялікая беднасць. Можна параіць яму, каб ён яшчэ больш выяўляў жыццё беларускага рабочага, фабрычны быт, бо ў нас на гэта таксама вялікая беднасць ды яшчэ непараўнальна большая патрэба, чым на іншыя рэчы. А хто ж паміж нашых сучасных беларускіх пісьменнікаў найлепей можа зрабіць гэта, калі не пісьменнікі, што самі выйшлі з рабочага асяроддзя? Барашка можа гэта зрабіць. У яго ёсць дзейная пралетарская ідэалогія, вялікая любоў да свайго асяроддзя, глыбокае пачуццё і здольнасці ў валоданні беларускім мастацкім словам.

## ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

Платон Раманавіч Галавач нарадзіўся 18-га красавіка (нов.[ага] ст.[ылю] 1903 года ў в. Пабокавічы, вёрст 15 [на] захад ад Бабруйска. Бацькі яго — сяляне, земляробы. Скончыў беларускі Камуністычны універсітэт (1926 год).

З беларускаю літаратураю пазнаёміўся яшчэ ў вёсцы. Паэма Янкі Купалы «Сон на кургане» зрабіла на яго вялікае ўражанне. Бtypo

[19]25 года на працу ў вёску, у Віцебшчыну, пасля гэтага, у пачатку 1925 г., пачаў пісаць у «Савецкую Беларусь» (у вёсцы ў Межанскім раёне).

Улетку 1925 г., быўшы на партыйнай працы ў Мсціслаўлі, напісаў сваё першае апавяданне «Загубленае жыццё», з тутэйшых фактаў. Яно было надрукавана ў «Савецкай Беларусі» ў лістападзе 1925 года. У 1927 годзе выйшаў зборнік яго апавяданняў «Дробязі жыцця». Пасля таго друкаваліся яшчэ яго вялікія апавяданні ў «Маладняку»: «Бывае й так» (1927 г.), «Дзве сцежкі» (1927 г.), «Кнак» (1928 г.), «Дасужая» (1928 г.). У «Чырвонай змене» было надрукавана яго апавяданне «Уцякач».

У зборніку «Дробязі жыцця» чатыры вялікіх апавяданні. Змест іх — па чарзе, як змешчаны ў зборніку, гэткі:

У апавяданні «Уяўленая» — выдуманае папом дзіва. Сяляне даведаліся аб ашуканстве, і поп павесіўся на вяроўцы ад звону.

У апавяданні «Загубленае жыццё» — доля беднай сялянскай дзяўчыны-парабчанкі. Паніч ашукаў яе. Яна атруцілася.

У апавяданні «Рубанаўскі вузел» — землеўпарадкаванне ў вёсцы Рубанаўцы, да рэвалюцыі і пасля, роля ў гэтым папа, настаўніцы, каморнікаў, нягоднага старшыні валвыканкома з дзядоўскіх зяцёў, спрэчкі вясковай беднаты з заможнікамі, бойка, пажар. Савецкая ўлада належна разблытвае вузел.

Апошняе ў зборніку апавяданне — «Абмылілася». Апісваецца жыццё дзяўчыны, дачкі гарадскога рамесніка, як яна імкнулася да новага жыцця, але абмылілася, спаткаўшы на сваёй сцежцы распутнага тыпа з былых паноў, што прымазаўся да партыі.

У апавяданні «Бывае й так» малюецца разбэшчаны і труслівы савецкі служачы, які падлабуньваецца да тэхнічнай служачай, але баіцца кары.

У апавяданні «Дзве сцежкі» — бацька-кулак і яго сын, які пайшоў іншаю сцежкаю ў жыцці. Дзеянне пачынаецца яшчэ да вайны, потым сын на вайне, у рэвалюцыі, нарэшце, прыязджае рабіць абрэзку зямлі ў бацькі. Бацька ў хаўрусе з бандытамі. Бандыты робяць напад на прадстаўнікоў Савецкай улады, але самі пападаюцца.

У апавяданні «Кнак» малюецца страшэнная сялянская цемра і адсталасць. Маці памірае, надарваўшыся ад пра-

цы, затое пакідае «кнак» — царскія грошы, якія страцілі цану. Бацька, прыйшоўшы з вайны, не апраўляе гаспадарку, каб не крануць гэты кнак. Нарэшце, ён доўга таргуецца з хлапцом, які хоча ўзяць яго дачку, але з пасагам. Вяселле адбываецца ў самым пачатку сваркаю і скандалам, бо дачка ўкрала ў бацькі гэты нічога не варты кнак.

У апавяданні «Дасужая» — жыццё беднай сялянскай дзяўчыны. Была яна «дасужая» змалку, імкнулася да навукі, ды не магла здзейсніць сваіх жаданняў у дарэвалюцыйны час. Потым яна — рабфакаўка. Супрацьстаўляецца гэтае жыццё жыццю дзяўчыны «пад капелюшом», з мяшчанскага асяроддзя.

Апавяданне «Уцякач» — эпізод грамадзянскай вайны на тэму аб дэзерцірстве.

Як бачым, галоўнае ў ідэалагічным змесце твораў Галавача гэта супрацьстаўленне новага ладу жыцця старому ладу жыцця. Апавядаючы аб мінулым, аўтар малюе страшэнную сялянскую беднасць, бяспраўнае становішча працоўнага чалавека, надмерную працу, цемру і забабоны, злосць, сваркі...

Пераходзячы да сучаснасці, ён паказвае, як цяжка перакуліць усю гэтую спадчыну яшчэ і цяпер, у савецкіх умовах. Але ж, кажа ён сваімі апавяданнямі, у гэтых умовах рэлігійны дурнап'ян разбураецца і дзед выкрывае папоўскае ашуканства. У гэтых умовах паніч яшчэ можа загубіць няшчасную Ніну, бо яна цёмная, слабая, але цяжэй гэта зрабіць падмазаніку да сучаснасці Капцюру ў адносінах да Ліды, і ён будзе мець належную ўзнагароду за сваё злачынства. І вось ужо, у гэтых умовах, з'яўляецца моцная, свядомая, энергічная барацьбітка за новы лад «дасужая» Надзя. У гэтых умовах рубанаўскі вузел развязваецца. У гэтых умовах бацька-кулак не завяжа свету свайму ідэёваму сыну, а наадварот — сын-камуніст адбярэ ў гэтага бацькі зямлю і аддасць яе працоўнай бядноце.

Як бачым, сюжэты свае найчасцей бярэ Платон Галавач з блізкага яму ад малых дзён вясковага жыцця, часам малюе і гарадское, пазней ім пазнанае, жыццё. У апавяданні «Абмылілася» закранае фабрычнае жыццё. Найбольш ён апісвае добра яму вядомае жыццё сялян, побач з якім закранае ролю, якую мела ці мае ў гэтым жыцці духавенства, настаўніцтва, сельская адміністрацыя, каморнікі, гандляры, купцы. У сялянскім жыцці ён малюе шмат дадатнага, але смела выяўляе і самыя жудасныя з'явішчы з гэтага жыцця. Пры гэтым яго не пакідае не толькі аб'ек-

тыўнасць у падыходзе да справы, але і вялікая любоў да працоўнага чалавека. Дадатнае ён бачыць найчасцей у быце той беднаты, якая ахвотна бярэцца будаваць новае жыццё.

Часта апісвае Платон Галавач і жыццё моладзі, якая заўсёды ў яго імкнецца да новага, лепшага і змагаецца з старым, нядобрым.

Што да фармальна-мастацкіх асаблівасцей, дык трэба сказаць, што збудаваны апавяданні ў яго яшчэ не заўсёды з належнай цвёрдасцю, вытрыманасцю. Шмат ёсць выпадковасці, якая сведчыць, што аўтар яшчэ практыкуецца, яшчэ шукае. Часта апавяданне будуецца так, што дзеянне пачынаецца яшчэ да вайны і рэвалюцыі, а потым ужо развіваецца як мае быць у сучасным. Пры гэтым бываюць нявытрыманасці ў прапарцыянальнасці частак апавядання: ёсць размах на аповесць, але аўтар уціскае сябе ў асадкі апавядання. Апавяданне развіваецца, галоўным чынам, з жыццём аднае асобы. Паўтараецца просты літаратурны прыём, які часта карыстаецца і Сымон Хурсік: аўтар спатыкаецца з кімсьці, хто і апавядае яму ўсю гісторыю. Трапляецца таксама просты прыём уставак: устанаўляецца ліст, запісы з дзённіка. Лепш удаюцца аўтару апавяданні карацейшыя або з кароценькімі жывымі раздзеламі («Загубленае жыццё», «Абмылілася», «Дасужая»). Некаторыя апавяданні без патрэбы расцягнуты, як «Рубанаўскі вузел». Часам розныя, далей адхіленыя ад сюжэта, уставачныя сцэнкі псуюць цэльнасці апавядання і збіваюць яго на збор мастацкіх нарысаў і зарысовак, як апавяданне «Рубанаўскі вузел». Аўтару не трэба шкадаваць нават самых мастацкіх і жывых сцэнак, як сцэнка з адносін Капцюра і нэпманкі Ляхавіцкай («Абмылілася»), трэба без жалю выкідаць іх, калі яны — не столькі падкрэсліваюць пэўныя рысы ў героях, колькі змяншаюць цэльнасць і мастацкую звязнасць сюжэта.

Часам у Платона Галавача занадта шмат сур'ёзнасці, мала жывасці, не выяўляецца гумар і сатыра, хоць нахіл да іх у некаторых месцах ёсць зусім выразны і намысны («Кнак» і інш.). Але ў яго ёсць пачуццё, шчырая спагада да бяздольных людзей, ласка да маладых парыванняў, і ў гэтых месцах апавяданні яго ажыўляюцца і робяць большае мастацкае ўражанне. Ажыўляюцца яны і там, дзе аўтар бічуе адмоўнае, набліжаецца да сатыры.

Аўтар любіць прыроду, адчувае яе хараство. У яго трапляюцца вельмі мастацкія апісанні лета, восені, сумна-

га шляху, жытняй нівы. Але і тут ён яшчэ не выяўляе меры, ён яшчэ як бы аглядаецца на тыя літаратурныя ўзоры, па якіх ён вучыўся літаратурнаму ўмельству.

Вобразы ў яго простыя, жывыя, народныя. Мова — добрая, народная мова, хоць, на жаль, трапляюцца часам такія расіянізмы, без якіх зусім лёгка абысціся. Трапляюцца яшчэ і немінучыя ў маладога аўтара празаічныя звароты і выразы, часам лішняя літаратурнасць, кніжнасць.

Галавачова творчасць, па стылю, літаратурных прыёмах, прастаце апавядання і г. д., стаіць у сучасным «Маладняку» ў адной плыні з Ліманоўскім, Хурсікам і інш. Ён трымаецца здаровага рэалізму. У яго няма голай тэндэнцыі, якая часам бывае не схавана ў Ліманоўскага, няма ў яго ўхілу і ў лішні натуралізм, што заўважаецца часам у Хурсіка.

Яго апавяданні з прыемнасцю і з карысцю для сябе прачытае самы масавы савецкі чытач. Але ў далейшых выданнях некаторыя з іх добра было б значна перапраўіць, скараціць, ажывіць — і тым яшчэ болей наблізіць да масавага чытача.

## ПАЖАДАННІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Таварышы! Шчыра вітаю «Маладняк» з пяцігоддзем яго існавання. «Маладняк» — гэта першая арганізацыя пралетарскіх пісьменнікаў на Беларусі. «Маладняк» ужо за гэтыя пяць год выканаў гістарычную ролю на Беларусі. «Маладняк» у сваёй творчасці ўжо выявіў гераізм нашай эпохі.

Асаблівае значэнне мае пралетарская літаратура ў беларускіх умовах.

У нашай краіне мала было фабрычнага пралетарыяту, мала было таго асяроддзя, якое з'яўляецца найлепшым выхавальнікам пралетарскай свядомасці, якое найлепш выхоўвае тую напорыстасць у чалавека, што патрэбна ў сацыялістычным будаўніцтве, што патрэбна на шляху да сацыялізма.

Саюз Савецкіх Рэспублік яшчэ знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні. І таму нам вельмі цяжка адбудоўваць сваю гаспадарку. І таму Беларусь яшчэ не можа развіць такі тэмп індустрыялізацыі, які нам хацелася б развіць. Але мы яго ўсё ж такі развіваем. І мы ўжо маем Асінбуд,

мы маем рост фабрык, наогул рост беларускай прамысловасці. А гэта значыць, што растуць тыя кадры, з якіх будуць выходзіць найбольш загартаваныя барацьбіты за пралетарскую літаратуру.

Цяпер «Маладняк» і сябры іншых беларускіх літаратурных арганізацый — «Полымя» і «Узвышша»,— калі не ўсе, дык шмат якія з іх,— даюць тое, што павінны даваць пралетарскія пісьменнікі. І мы ўжо маем тое, што можна назваць пралетарскаю літаратураю ў нашых умовах.

Спачатку «Маладняк» меў асабліва значныя дасягненні ў вершаванай паэзіі. Маладнякоўцы ў сваіх эпічных вершах выявілі гераічнае змаганне пралетарыяту з класавым ворагам. У сваіх лірычных вершах маладнякоўцы выявілі радасць перамогі над класавым ворагам. Маладнякоўцы ў сваёй паэзіі ўвесь час будзілі ў свайго чытача класавае пралетарскае пачуццё, выхоўвалі напорыстасць у змаганні, увесь час яны рабілі тое, што дапамагала змагацца за сацыялістычнае будаўніцтва. У першыя гады свайго існавання «Маладняк» у мастацкай прозе быў слабейшы, але за апошнія гады ён вельмі вырас ужо і ў мастацкай прозе. Тут мы ўжо маем даволі глыбокі мастацкі аналіз нашага жыцця, асабліва жыцця нашай вёскі. Тут мы маем яскравыя апісанні барацьбы з кулацтвам. Мы маем не толькі агітацыйнае апісанне кулацтва, але маем ужо псіхалагічны аналіз кулака, што дае нам магчымасць глыбей яго пазнаць. І таму мы можам лепей з ім змагацца. За апошнія гады з'яўляюцца маладнякоўскія раманы, вялікія аповесці, шмат апавяданняў. І толькі драматычная творчасць «Маладняка» да гэтага часу пакідае жадаць шмат лепшага, як і наогул драматычная творчасць усіх сучасных беларускіх пісьменнікаў.

І вось, шчыра вітаючы «Маладняк» з пяцігоддзем, я хачу выказаць некалькі пажаданняў.

Па-першае, няхай маладнякоўцы больш пішуць такіх твораў, якія б адбівалі жыццё рабочага. На жаль, матывы фабрычнай працы, сюжэты з жыцця фабрычнага пралетарыяту яшчэ не часта спатыкаюцца ў творах сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Па-другое, я шчыра жадаю маладнякоўцам, каб яны асабліва пільна выконвалі сваю пастанову аб уцягненні ў беларускую літаратуру маладых пісьменнікаў з рабочага асяроддзя.

Па-трэцяе, няхай маладнякоўцы цясней згуртуюцца з іншанацыянальнымі пралетарскімі пісьменнікамі Белару-

сі і смела ўваходзяць у ВОАПП. Няхай «Маладняк» смела ідзе гэтым шляхам, няхай ён яшчэ бліжэй, яшчэ болей згуртуе беларускія пралетарскія літаратурныя сілы з пралетарскімі літаратурнымі сіламі іншых краін, у першую чаргу Расіі, Украіны, Закаўказзя і ўсіх рэспублік Саюза. Гэта з'яўляецца адзіным правільным шляхам для развіцця пралетарскай літаратуры і разам з тым для развіцця беларускай культуры.

Мне хацелася б сказаць яшчэ аб гегемоніі пралетарскай літаратуры на Беларусі. Шчыра жадаю «Маладняку» ў гэтым кірунку поспеху. Але не трэба забывацца на розныя цяжкасці, трэба больш уважліва адносіцца да тых прычын, якія ўтвараюць холад у адносінах не толькі між «Маладняком» і «Узвышшам», але, апошнім часам, і між «Маладняком» і «Полымем». «Маладняку» трэба пільна сачыць за агульнай лініяй не толькі «Узвышша», але і за агульнай лініяй «Полымя», яму трэба бязлітасна крытыкаваць не толькі паасобных сяброў «Узвышша», але [і] паасобных сяброў «Полымя». Толькі такім шляхам будзеце вы, таварышы маладнякоўцы, ісці да таго, каб беларуская літаратура ў сваім развіцці не мела ніякіх ушчэрбаў, якія б маглі потым адбіцца вельмі адмоўна.

Я шчыра жадаю таварышам маладнякоўцам больш наладзіць крытычны аддзел у сваім часопісе і больш развіваць самакрытыку ў сваёй творчасці. Вядома, «Маладняку» трэба знайсці магчымасць выдаваць свой часопіс з значна большым лікам аркушаў, чым ён мае цяпер.

Я шчыра жадаю таварышам маладнякоўцам як можна больш мець на ўвазе масавага беларускага чытача. Я жадаю «Маладняку», каб ён у сваіх фармальна-мастацкіх асаблівасцях не забываўся, што форма ёсць таксама ідэалогія, каб ён пісаў такія вершы, якія б зрабіліся песнямі самых шырокіх мас, каб ён пісаў такія творы, якія былі б даступны самым шырокім масам. Аднак патрэбна, каб гэта не было зніжэннем да мас, а каб гэта было падняццем мас.

«Маладняку» трэба звярнуць большую ўвагу на перавыхоўванне некаторых сяброў, хаця гэта і цяжка, бо вось як ні стараўся «Маладняк» выхоўваць сваіх сяброў, але ўсё ж некаторыя яго сябры ўцяклі ў «Узвышша» і ў «Полымя». Тут адзін таварыш з «Полымя» праўду сказаў, што ў складзе сучаснага «Маладняка» ёсць яшчэ сябры, якія патрабуюць перавыхоўвання. Але я жадаю «Маладняку» звярнуць большую ўвагу на далейшае выхоўванне прале-

тарскага духу і ў тых былых сваіх сяброў, якія ўвайшлі ў «Полымя».

Пралетарская літаратура на Беларусі мае вялікае і асаблівае значэнне. Пралетарская літаратура на Беларусі выхоўвае пралетарскую свядомасць у працоўных масах. Пралетарская літаратура выхоўвае той інтэрнацыяналізм, які асабліва патрэбен у нашых беларускіх умовах. Яна знішчае той антысемітызм, аб якім мы цяпер так многа пішам і гаворым. А надоечы пісалася ў газетах, што кулакі пабілі сакратара с. [ельскага] Савета за тое, што ён праводзіў сход на беларускай мове. Антысемітызм і гэтая з'ява — аднолькавага характару. І пралетарская літаратура павінна змагацца з гэтым, яна павінна выхоўваць на Беларусі той інтэрнацыяналізм, які нарэшце дашчэнту знішчыць такія з'явы.

І вось, вітаючы «Маладняк» у дзень яго пяцігоддзя, я шчыра жадаю яму з поўным поспехам ісці далей наперад як арганізацыі пралетарскіх беларускіх пісьменнікаў.

Няхай жыве беларуская пралетарская літаратура! Няхай жыве «Маладняк» як усебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў!

Няхай жыве Камуністычная партыя і Савецкая ўлада, якія кіруюць і дапамагаюць усімі сродкамі развіццю пралетарскай літаратуры на Беларусі!

Няхай жыве пралетарыят, яго літаратура, яго творчасць!

# 1913

## 1. У КНІЖНЫ СКЛАД «НАШАЙ НІВЫ»

*29 мая 1913 г., Горкі*

У восьмы дзень мая паслаў я па Вашаму адрасу пяць руб. [лёў] грошы і прасіў, каб Вы парупіліся прыслаць мне «Словарь белорусского наречия» Носовича.

Сягоння ўжо, хвала богу, 29-ты дзянёк мая, але я нічога ад Вас яшчэ не дачакаўся.

Мо грошы мае к Вам не дайшлі?

Калі ласка, адгукніцесь хутчэй па адрасу:

Горки Мог. [илевской] губ. [ернии] землемерно-агрономическое училище, М. Горецкому.

1913 г.

## 2. А. М. УЛАСАВУ

*16 чэрвеня 1913 г., Горкі*

16/VI—13 г.

Ш. П.!

Восьмага мая паслаў я ў «Нашу ніву» па пошце 5 рублёў грошы, просячы, каб мне парупіліся выслаць «Словарь белорусского наречия» Носовича, а што астанецца ад пяці рублёў, каб аддалі п. Ф. Чарнышэвічу на пагарэлае.

*28 мая*, не даждаўшыся аніякага адказу з Вільні, я паслаў ужо адкрытку з пытаннем, ці дайшлі мае грошы і ці вышлюць калі мне «Словарь».

І дужа прасіў адгукнуцца мне хутчэй. Сягоння *16-ты дзень іюня*, але я і цяпер яшчэ не маю ні «Словаря», ні адказу, у чым тут прычына.

Мяне гэта дзівіць. Тым болі, што *за адзін тыдзень* паспела надоечы прыйсці ў Горкі ад Вас кніжка Я. Куп. [алы] «Шляхам жыцця» на імя майго таварыша п. А. Сухога.

Дык будзьце ласкавы, прашу,— адгукніцеся мне.

З паш. [анай] *М. Гарэцкі.*

Горкі, Маг.[ілёўская] губ [ерня].

## 3. Ц. ГАРТНАМУ

*26 верасня 1918 г., Багацькаўка*

13/26/IX—18.
Багацькаўка

Дзядзька Жылуновіч!

Я ўжо меўся выязджаць гэтымі днямі ізноў у Смаленск шукаць працы і выдаваць *беларуска-рускі* слоўнік. Паеду, мусі быць, у суботу 15/IX. Са Смаленска пашлю ў «Жатву»: 1) *«Знібее сэрца»* — 3 стр.; 2) *«Прысяга»* — 7 стр.; *«Кросны»* — 16 стр. і 4) *«За што?»* — 36 стр. Калі ўсяго друкаваць няможна, друкуйце *«Кросны»* і *«За што?»*. Апаведанні пісаны ў розную пару і не аднакім правапісам; выбачайце і рабіце «як лепей». Каб выдаць слоўнік, мне не хапае руб. [лёў] 1000 грошы; добра б было, каб Вы выслалі мне (у Смаленскі Камісарыят, пакуль не ведаю кватэры) колькі можна *авансам*; зрабіце, дзядзька, ласку!

*М. Гарэцкі.*

## 4. У САВЕТ ПРАФЕСАРАЎ СМАЛЕНСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ МАСКОЎСКАГА АРХЕАЛАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА

*10 кастрычніка 1918 г., Смаленск*

В Совет профессоров Смоленского отделения
Московского археологического института
гражданина Максима Ивановича Горецкого

Прошение

Честь имею просить о зачислении меня слушателем лекций по истории искусств.

Прилагаю: две фотографические карточки и удостоверение Смоленского уездного воинского комиссариата за № 31 от 4 октября 1918 года.

*М. Гарэцкі.*

10 октября 1918 г.
Смоленск, Авраамиевская ул.,
д. № 8 Геллера, кв. Степанова

# 1919

## 5. У МАСКОЎСКІ АРХЕАЛАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ

*7 лютага 1919 г., Менск*

В Московский археологический институт
слушателя Смоленского отделения
факультета истории искусств
Максима Ивановича Горецкого

Просьба

Ввиду моего переезда из Смоленска в Минск по служебным обязанностям и изменившегося отношения к воинской обязанности, убедительно прошу незамедлительно выслать мне мою регистрационную карточку (кажется, за № 39), выданную приемочной комиссией Смоленского уездного воинского комиссариата в начале октября 1918 г.

*М. Горецкий.*

Адрес: г. Минск, Юрьевская ул., д. № 35, кв. № 6.

7/II—19 г.

## 6. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА»

*1 ліпеня 1919 г., Вільня*

Міласлівы Гаспадар,
Пане Рэдактар!

Катэгарычна пратэстую проці спосаба крытыкавання літаратурных твораў, з якога карыстае нейкі дабрадзей Я., гаворачы ў № 33 «Беларускай думкі» аб маёй рэчы «Ідуць усе — іду я» ў № 2 «Беларускага жыцця».

Калі дабрадзей Я. меўся выкладаць навуку аб шкоднасці «хныкання» і аб патрэбе цвёрдасці ў наш адказны час, дык мог ба ён зрабіць гэта ў тоне элементарнай ветласці журналіста да чалавека, думку ці настрой каторага ён не можа ці не хоча зразумець.

Пратэстую, Міласлівы Пане Гаспадару, проці таго, што Вы надрукавалі «рэцэнзію» ў выглядзе, каторы яна мае.

Ад літаратурнага супрацоўніцтва ў «Беларускай думцы» не адмаўляюся пасля такой прыгоды толькі дзеля

таго, што ахвярую сваім «Я» ва ймя святога ўсім нам адраджэння.

*Максім Гарэцкі.*

1 ліпеня 1919 г.
Вільня.

## 1921

### 7. Л. ЖАЛІГОЎСКАМУ

*1 ліпеня 1921 г., Вільня*

Яго Эксцэленцыі,
Начальніку Сярэдняй Літвы,
Міласціваму Пану Генералу Жалігоўскаму
беларускага літаратара Максіма Гарэцкага,
мешкаючага ў м. Вільні
на Вастрабрамскай вуліцы, дом № 7, кв. 5.

Паданне

Маю гонар прасіць Вашу Эксцэленцыю прыйсці Сваёю Высокашляхетнаю Моцаю на помач нам, чытаючым кірылаўскімі літарамі беларусам, у пільнай і балючай справе мець на прасторах Сярэдняй Літвы сваю газету.

У даным часе такога часопіса няма, і мененае беларускае грамадзянства збегам акалічнасцей прымушана нічога не ведаць аб жыцці на свеце, жыць без яднання друкаваным словам або, што найгорш, чытаць газеты маскоўскія і затое на згубу свае нацыі — далей абмаскаліваццa.

Хай Вашая Вяльможнасць шляхетна не возьме ў гнеў шчырыя словы аб тым, што *ў звязку з закрыццем «Нашай думкі»* Аддзел Прэсы сістэматычна адкідае паданні беларусаў аб газеце кірыліцаю і тым росціць незадаваленне і раздражнёнасць.

На гэта я, як першы па часе рэдактар «Нашай думкі», асмелюся сказаць, што часопіс пры маім рэдактарстве, у № 3—1921 г., пісаў аб Вашай Эксцэленцыі: «...генерал, паборнік свабоды слова, друку...» А пазней, пры другім рэдактары, пісала цэлы артыкул «Любіце польскі народ» (№ 19—1921 г.), а таксама змяшчала падзяку беларускіх вучыцялёў ашмянскаму школьнаму інспектару за яго не якую міласць, а толькі нарадовую талеранцыю (№ 25—

1921 г.) і наогул заўсёды радасна вітала людскія адносіны шляхетных людзей польскай нацыі да сваіх братоў беларусаў. Скажу болей: нават у пазнейшых нумарах (з № 26—1921 г.), калі я быў зняўшы сваё імя з ліку супрацоўнікаў, яе войстрасць ніколі не перавышала войстрасці нападак на беларускае грамадзянства з боку некаторых польскіх газет, і цяпер выходзячых у Вільні.

Каб вывесці мененае грамадзянства з цяжкога ў газетнай справе становішча, я маю выдаваць і рэдагаваць тыднёвы часопіс «Беларускія ведамасці» з мэтамі інфармацыйнымі і культурна-нацыянальнымі. Прыкладаючы пры гэтым паданне Аддзелу Прэсы, пільна а пільна прашу Вашу Эксцэленцыю зрабіць яго ўспешным!

Хай не загневаецца Міласцівы Пан Генерал, што з прымусу турбуем Яго Эксцэленцыю гэтай справай пры ўсім вялікім цяжары Ягонае працы.

Беларускі літаратар *М. Гарэцкі.*

1 ліпеня 1921 г.

## 8. Я. Ф. КАРСКАМУ

*26 верасня 1921 г., Вільня*

Глыбокапаважаны і міласцівы
пане акадэмік!

З вялікай радасцю прачытаў учора Вашую адкрытку і сягоння ж пасылаю Вам «Гіст.[орыю] бел.[арускай] літ.[аратуры]» па адрасу: Рэваль, Post kast, 153. Так мы пасылалі газеты, і яны даходзілі. Калі ж бы кніга пагінула ў дарозе, то пашлю нейкім другім шляхам. За дакляраванне выслаць «Бѣлоруссы», III, 2 — «Старая западнорусская письменность» шчыра Вам дзякую і буду чакаць кнігу з вялікай нецярплівасцю.

Літаратурных навін у нас, можна сказаць, зусім няма. Маем толькі адну прыемнасць, тую, што на страніцах газет, якія тут выходзілі, азначылася новая, пэўная і спадзейная талань маладой паэтэсы Наталлі Арсеньевай. Гэта з тых Арсеньевых, што з радні М. Ю. Лермантаву. Бацька паэтэсы быў у Вільні таможным інспектарам (калі не памыляюся); цяпер яны жывуць дужа бедна, і дзяўчына, скончыўшы сёлета нашу беларускую гімназію, не мае магчымасці, на вялікую шкоду, вучыцца далей. У польскі віленскі універсітэт не прымаюць, а ехаць у Прагу няма

грошы. Цяпер яна настаўніцай беларускай пачатковай школы — тут, у Вільні. Вершы яе многа лепшыя за вершаў К. Буйло.

Газеты выхадзілі ў Вільні за гэты час такія: летась увосень выйшла некалькі №№ «Нашай нівы» пад рэд.[акцыяй] Антона Луцкевіча; перад калядамі стала выхадзіць «Наша думка» (спачатку пад маёй рэдакцыяй), зачыненая вясною за «шкодны кірунак». З восені ж выхадзіў пад рэд.[акцыяй] Ф. Аляхновіча «Беларускі звон», выразна паланафільскі, потым быў зачыніўся, а цяпер ізноў выходзіць пад той жа рэдакцыяй, але з кірункам, недалёкім ад «Нашай думкі». Узімку з'явіўся ў Вільні Аляксюк і стаў выпускаць «Jednaść», пад рэдакцыяй нейкага В. Шашкова, а з кірункам, блізкім да той польскай «Зоркі» на нашай мове, што была летась у Менску. Газеціна гэтая і цяпер то перастане, то зноў выходзіць. Алексюкоўская ж кампанія з месяц таму назад выпусціла два №№ «Роднай страхі». Цяпер я з вялікім трудам дастаў дазвол на «Беларускія ведамасці», газету інфармацыйную і нацыянальна-культурную... Апроч таго, увесь час выходзіць ксяндзоўская «Krynica» з кірункам зусім добрым і шчыра беларускім. Усе пералічаныя газеты — тыднёвыя, бо на выпуск хоць бы два разы ў тыдзень няма дазволу. Камплекты іх, пры першай зручнасці, пастараюся Вам даставіць.

За гэты час выйшла некалькі брашурак. Не ведаю, ці чыталі Вы «Польскую акупацыю на Беларусі» А. Навіны? З'явілісь новыя чытанкі, кніжачкі па каапераацыі Станіслава Чыжэўскага, Евангелле з навукамі (не ўсё яшчэ), выданае «Krynicaj» лацінскімі літарамі, другія выданні маіх слоўнікаў, прычым II выданне «Маскоўска-белар.[ускага]» слоўніка братоў Гарэцкіх, разумеецца, мае зусім мала супольнага з першым яго выданнем, за якое мне цяпер надта сорамна, хоць вінаваты, праўда, не столькі браты Гарэцкія, колькі слоўнік І. І. Насовіча, — хай свят ляжыць наш слаўны зямляк! Выйшла маленечкая кніжачка «Сцэнічныя творы» Л. Родзевіча, «Uspaminy» Ядвігіна Ш. (адбітка з «Jednaści»); выйшла другое выданне «Гісторыі Беларусі» У. Ігнатоўскага, грам.[атыка] Б. Тарашкевіча. Надоечы з'явіўся пераклад «Алгебры» Кісялёва, а раней «Rodny kraj» Л. Гарэцкай, IV выданне (лацінкаю) і цяпер «Родны край» — 3 і 4 ч., яе ж. У польскай газеце (па духу — літоўскай) «Nowiny Wileńskie» друкуецца мой «Кароткі агляд гіст.[орыі] бел.[арускай] літ[аратуры]». У рукапісе ляжыць мая «Хрэстаматыя да «Гіст.[орыі]

бел.[арускай] літ.[аратуры]», кароценькая, на гвалт патрэбная для школ. Дужа трудна прыхадзілася мне з выпіскамі, бо ў б.[ылой] Віленскай публ.[ічнай] бібл.[іятэцы], якая цяпер — універсітэцкая Ст.[эфана] Баторыя, трудна даступіцца і знайсці патрэбную кнігу. Напр.[ыклад], я не мог у іх дабыць кнігу праф.[есара] Владимирова аб Скарыне... А ўсё ж такі спісаў «Песні» Чачота, кавалачкі і хранографаў, з пісьменнікаў XVII ст. і яшчэ тое-сёе. У бібліятэцы Літоўск.[ай] прав.[аслаўнай] семін.[арыі] я знайшоў вучыцельнае Евангелле Каліста, кнігу І. Пацея і таксама троху выпісаў. На шкоду, не ўсё ў ёй можна знайсці, што ёсць у каталогу, бо некаторыя кнігі валяюцца ў беспарадку, замочаныя вадою, некаторыя ляжаць у мяшках, бо летась іх хацеў забраць універсітэт Баторыя (праф.[есар] Пташыцкі, доктар Чаркоўскі, Берэнштэйн і інш.), але мы абаранілі. Цяпер бібліятэку прыводзіць у парадак В. К. Нядзельскі.

Паэт Алесь Гарун памёр 28 ліпеня 1920 г. ці то з тыфусу, ці то з крываўкі. Пахован у Кракаве. Дайшлі да нас весткі, што недзе ў Віцебшчыне памёр і паэт Андрэй Зязюля (ксёндз А. Астрамовіч).

Б. Тарашкевіч (дастаўшы Вашу адкрытку, я з ім яшчэ не відзеўся) працуе як рэферэнт беларускіх школ пры Дэпарт.[аменце] асветы Сярэдняй Літвы. Можа, і шмат чаго робіць для нашых школак, але не піша ні сінтаксісу, ні тэорыі славеснасці па-беларуску, што нам тут патрэбна да зарэзу.

В. Іваноўскі, пабыўшы сярэдне-літоўскім міністрам аправізацыі, цяпер служыць у гандлёва-прамысловай фірме «Пацыфік»; зарабляе, як кажуць, да 200 000 польскіх марак у месяц, ад беларускай жа работы неяк аддаліўся.

Праф.[есар] Масоніус чытаў летась нейкі час беларускую мову ва універсітэце Баторыя, але сёлета адмовіўся, бо не знайшлося ахвотнікаў яго слухаць, асабліва после таго, як ён сказаў аднаму студэнту, што па-беларуску можна ў яго пытацца толькі ў калідоры, а не ў аўдыторыі.

Кажуць, што ў Вільню прыязджае праф.[есар] Клос.

Р. Зямкевіч ездзіць нейкім інжынерам, часам працуе ў Федароўскага, усё збірае, а нічому ходу не дае і наракае на ўсіх нас.

У гімназіі нам трудна працаваць, як з боку матэрыяльнага, так і духоўнага.

Вельмі больна, міласцівы пане акадэмік, прызвычай-

ваццa к думцы, што час ідзе, а замест светлай творчасці з шырокім размахам сілы марнуюцца нет ведама на што.

Адданы Вам *М. Гарэцкі.*

26/IX 1921
Вільня, Вастрабрамская, 7—5.

## 1922

### 9. ДА РОДНЫХ

*Канец студзеня ці пачатак лютага 1922 г., Вільня*

Як Вашы здароўі? Я здароў, як звычайна. Даюць чытаць кнігі. Быў у лазні. Бялізну мыюць. Падаў пракурору просьбу, каб скарэй дапрос.

## 1923

### 10. Я. Ф. КАРСКАМУ

*18 жніўня 1923 г., Вільня*

Wilno, Ostrobramska, 7-5.
18.VIII.1923

Глыбокапаважаны і дарагі Яхім Фёдаравіч!

Найперш дзякую Вам дужа і шчыра за «Беларусаў», т. 3, ч. II і ч. III. З другой часці я шмат скарыстаў пры ўкладанні «Хрэстаматыі» (якую меў гонар пасланць Вам), а трэцяя выклікала цэлае паломніцтва на маю кватэру, бо выпускаць яе з рук, як унікум у Заходняй Беларусі, я не важыўся.

На гэты раз асмельваюся турбаваць Вас у вось якой справе. Я бедны, і не мог, пры ўсім маім жаданні, выслаць дзеля Вашай навуковай працы друкаў Заходняй Беларусі. А тут ёсць ксёндз-літовец, Крышчукайціс, які збірае, здаецца, грамадскім коштам, вялізную краёвую бібліятэку. З Вашых кніжак ён мае шмат чаго, але не мае «Беларусаў», апроч 1-га тома, які друкаваўся ўва «Временнику». Прасіў іх у мяне, але я таксама не ўсё маю, а што маю, з

тым без болю, нават дзеля грамадскай бібліятэкі, расстацца не магу. Крышчукайціс тады і папрасіў мяне напісаць просьбу да Вас: ці не была б Ваша ласка пасобіць яму ў справе выпіскі некаторых кніжак з вашых акадэмічных складаў? За гэта ён бярэцца выслаць усё чыста патрэбнае Вам. Яму патрэбна шмат чаго, між іншым слоўнік Насовіча, усе рускія і беларуска-літоўскія летапісы, «Беларусы» і інш. Грошы ён мае, толькі не ведае, якім спосабам наладзіць справу. Пакуль не ўбачыў у мяне высланых Вамі цераз Акадэмію Вашых кніжак, дык думаў, што абмен кніжкамі з СССР цяпер наогул зусім немагчымы. Можа, аджалеіце, паважаны Яхім Фёдаравіч, частку свайго дарагога часу — і напішыце, ці можна гэтую справу наладзіць.

Ад грам.[адзяніна] Зямкевіча (ён меўся Вам пісаць) чуў я, што многа кніжак з Вашай асабістай бібліятэкі трапіла ўжо ў рукі варшаўскіх букіністаў; некаторыя выкупіў ён. У Вільні таксама: я купіў у букіністаў адну кніжку з бібліятэкі нябожчыка, пухам яму чужая зямелька, Еўдак.[іма] Рам.[анавіча] Раманава, адну — Дабранскага, адну — Даўгялы, а ўся бібліятэка б.[ылога] Духоўн.[ага] вучыл.[ішча] — тож у букіністаў. Лепшыя кнігі выкуплены ўжо грашавітымі любіцелямі, Крышчукайцісам, наезджымі з Варшавы букіністамі і інш., а нямала чаго, пэўна ж, згінула навекі. Усё гэта нарабіла вайна з усім тым, што з яе выцекла.

А на тым, дзеля розных прычын, і кончу.

Будзьце ж здаровенькі і шчасна вядзіце сваю слаўную беларусазнаўчую працу далей, каб мелі мы ўсё тое, аб чым пішаце ў прадмове к 3-й ч. 3 т. «Белар[усаў]».

*М. Гарэцкі.*

## 1927

### 11. Я. Ф. КАРСКАМУ

*30 красавіка 1927 г., Горкі*

30.IV.1927 г.
Белоруссия, Горкі, Акадэмія с. г., кв. 68

Глыбокапаважаны Яхім Фёдаравіч!

Надоечы пераслалі мне Вашу поўную цёплай ласкі адкрытачку з Менска, з Інбелкульта. Быў я дужа рад, што

піша мне ўсесаюзны акадэмік Карскі, але мімаволі зрабілася прыкра, што той Ваш ленінградскі вучоны, пасланец на Акадэмканферэнцыю, дац. [энт] Гарчынскі, праз так доўгі час не перадаваў Вам пасланай мною кніжкі. Адраса яго не маю, дык не магу даведацца, у чым прычына такой вольнай ці нявольнай неакуратнасці і няўважнасці. Выбачайце Вы яму, калі ласка. І мне выбачайце, што паслаў не поштаю, а праз яго.

Шчыра дзякую за прысланыя папраўкі. Ды скарыстаць іх — мне ўжо, мусіць, не прыйдзецца. Мінаецца час, калі мусілі мы, няўчоныя беларускія працаўнікі, «перерабатывать,— праўду кажаце,— старую российскую науку на белорусской почве»... Я ўжо не хацеў, каб і гэтае выданне ішло ў друк, але прымусілі, а потым не па-людску аблаялі («Полымя» за 1926 г., № 8, рэц. Дорндорфа — як кажуць, псеўданім Жылуновіча).

З прыемнасцю сведчу Вам, Яхім Фёдаравіч, сваю радасць з прычыны з'яўлення Вашай працы ў перакладзе на нямецкую мову. Пахвалу, якую ласкава выказваеце там, між іншым, маім кампіляцыям і некампіляцыям («Гістор. [ыя] белар. [ускай] літар. [атуры»]), я ў большай яе частцы аддаю глыбокапаважаным аўтарам тых кніг, па якіх я меў магчымасць пазнаваць гісторыю мае роднае літаратуры. На мой заўсёды вялікі жаль, некаторым з іх, можа, найбольш заслужаным, я не мог у сваёй кнізе аддаць хоць ласкавым словам тое, што ім некалі аддадуць, нелицеприятно, нашы на потым будучыя, праўдзівыя, вучоныя гісторыкі; але не мог — дзеля прычын, ад мяне незалежных...

Таксама адданы Вам *М. Гарэцкі.*

## 1928

### 12. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

*4 красавіка 1928 г., Горкі*

Паважаны т. рэдактар!

У № 5 «Літаратурнага дадатку» да «Савецкай Беларусі» (31 сакавіка 1928 г.) надрукавана ў хроніцы нататка аб

артыкуле нейкага М. Г. у украінскай газеце «Діло». Нататкa гэтая напісана так, што неасвядомленыя чытачы могуць падумаць, быццам у ліку беларускіх пісьменнікаў, якіх аўтар артыкула ставіць «на адну дошку з Янкам Купалам і Якубам Коласам», ёсць гэткія «мяшчане ў літаратуры», што даюць некаму весткі аб беларускай літаратуры, карысныя толькі дзеля іх персанальна, або нават у сваіх крытычных артыкулах самі сябе хваляць. Дык прашу надрукаваць у адным з бліжэйшых нумароў «Савецкай Беларусі», што ў жыцці паказаных пісьменнікаў, і наогул у вядомай гісторыі беларускай літаратуры і крытыкі, ніколі нічога падобнага не было, і я пэўны, што і не будзе, а калі апошнім часам у беларускіх літаратурных спрэчках здараліся выпадкі несумленнага хавання пад псеўданімы ці нават ніколі даўней не чутага свядомага карыстання чужымі ініцыяламі, дык гэта былі толькі дробныя, сапраўды мяшчанскія, выбрыкі, якіх, пры належнай увазе з боку рэдактараў, напэўна, больш не будзе. Не чытаўшы артыкула М. Г., цяжка сказаць, ці ёсць тут правакацыя ў адносінах да майго імя, але мушу заявіць, што абсалютна нічога супольнага з гэтым М. Г. я, вядома, не маю.

Мімаходам яшчэ адна папраўка. У № 78 «Савецкай Беларусі» (1 красавіка 1928 г.) напісана, што знойдзены дакументы, быццам паэма «Тарас на Парнасе» «з'яўляецца творам нейкага Арцёма Вярыгі-Дарэўскага». З кнігі акад.[эміка] Я. Ф. Карскага «Беларусы», том III, частка III, і з маей «Гісторыі беларускай літаратуры» відаць, што гэты «нейкі» ёсць вядомым беларускім пісьменнікам 19-га веку.

Прашу іншыя газеты і журналы перадрукаваць.

*Максім Гарэцкі.*

4—IV 1927 г.
Горкі.

## 1930

### 13. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*27 чэрвеня 1930 г., Еўпаторыя*

27/VI 1930 г.

Добры дзень! Як маецеся? І чаму гэта нешта не пішаце, — адну адкрытачку атрымаў, і ўсё. Але супакойваюся

тым, што даў жа адрас і для тэлеграм (Евпатория, «Дюльбер», мне). Для лістоў: Евпатория, ул. Плеханова, «Джалита», мне. Як справы з Анісам? Ці паехала мама? Ці бываеце ў Гаўрылы? Ці ўсё добра ў вас, на новым месцы? У мяне навін няма. Заўтра пайду да праф.[есара] Андрэева па ўнутраных — паказацца. Грэюся на сонцы, хоць начамі бывае дождж, а ўвечары вецер. Але надвор'е ўжо нішто. Кормяць так сабе. Нудна, хаджу з сваім сукватарантам, слухаю яго апав.[яданні]. Чытаю. Як Леня і Галя? Як ты? Цалую моцна.

*Ма.*

Леня і Галя! Ці прывезці вам каробачкі з ракушак? А можа, цюбецейкі? А можа, Галі кралі? Напішыце. І не дужа свавольце, каб мама магла адпачыць.

*Бацька.*

## 14. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ

*2 ліпеня 1930 г., Еўпаторыя*

2 ліпеня 1930 г.
Еўпаторыя

Добры дзень, Леня!

Твой ліст і малюнак «На новую кватэру» я сёння атрымаў і рад. Малюнак задуман і зроблен добра. Калі прыеду, будзем хадзіць купацца. Тут лечацца і дзеці — гразззю, вадою і сонцам. Многа калек, яны папраўляюцца. Прывязу табе новы ножык. Гуляй добранька. Пішы мне яшчэ.

*Бацька.*

## 15. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ

*6 ліпеня 1930 г., Еўпаторыя*

6 ліпеня 1930 г.
Еўпаторыя

Добры дзень, Леня!

Твой калгасны малюнак я атрымаў. Зроблен ён прыгожа. Можна было б дадаць яшчэ адзін будынак і троху дрэўцаў. Пісталет табе я шукаю, але пакуль што яшчэ не знайшоў. Тут дужа многа прадаюць прыгожых каробачак

ракавінак. Калі хочаш, прывязу табе доўгенькую, класці алавікі і інш. Пішы мне яшчэ. Вітаю маму і Галю.

Бывай здароў.

*Бацька.*

Мне пісала дзядзіна Анісся. Баба даехала добра.

## 16. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*11 ліпеня 1930 г., Еўпаторыя*

11.VII.1930 г.
Еўпаторыя

Добры дзень! Учора атрымаў адразу і ад цябе, і ад Галі, і ад Лені, і ад Гаўрылы,— як ніколі! Гаўрыла ўжо заехаў на месца. А я ўжо рыхтуюся з месца. А пісталецікa Лені нідзе не магу знайсці, пайду яшчэ сёння ў спартыўны магазін «Динамо». Надвор'е ў нас ізноў пасцюдзянела, начою на моры дождж і перуны, раніцою і ўвечары вецер. Больш мне не пішыце — не паспее дайсці.

Цалую.

*Ма.*

Вітаю з Леневымі нарадзінамі!

## 1931

## 17. ДА РОДНЫХ

7/I—1931

*7 студзеня 1931 г., Менск*

Добры дзень, мама, Лёля і дзеці!

Адсылаю: *верхнюю кашулю, ніжн.[юю] кашулю, нагавіцы, ручнік, 2 насавічкі.*

Усё ваша атрымаў, вельмі дзякую. Хлеба прысылайце яшчэ меней, а то застаецца. Яблык так многа не трэба. Наогул я сыт, думайце пра сябе. Прышлі, Лёля, яшчэ троху рэзанае паперы.

Я здароў. Віншую вас з Новым годам. Адкрытку атрымаў. Хай Лара пераходзіць да вас на кватэру. Цалую моцна.

*Максім.*

## 18. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*14 студзеня 1931 г., Менск*

14/I 1931

Добры дзень!

Адсылаю *навалачку* і *хустачку*. Усё ваша атрымаў, вельмі ж дзякую, але не пасылайце мне столькі, думайце пра сябе. Хлеба, пакуль не напішу, не пасылай зусім. Я здароў. Крэпка цалую маму на ад'язджанне, няхай перадасць нізкі паклон і прывет тату і ўсім родным. Цалую вас усіх моцна. Прасіў пабачання з табою ці з мамаю,— пакуль нічога няма.

*Максім.*

## 19. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*Студзень (?) — сакавік (?) 1931 г., Менск*

А што ты зрабіла з даручэннем атрымаць 100 руб., якія не выданы мне за час адпачынку? Па-мойму, яны забароне не падлягаюць? Прафсаюзн.[ы] білет не патрэбен. Мяне ў саюз не возьмуць. Ці выйшаў мой пераклад М. Горкага?

## 20. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*20 сакавіка 1931 г., Менск*

20 сакавіка 1931 г.

Добры дзень! Гáліну адкрытку ад 13.III атрымаў і быў вельмі рад. Я здароў, чуюся добра. Кніжкі — «Разгром», «Госпожа Бовари», «Верноподданный» і «Маладняк» адсылаю заўтра, а Твэна, Франса, «Савецкую краіну» і «Бальшавік Беларусі» яшчэ не атрымаў. З перадачаю прысылайце мне толькі булку чорнага хлеба і бялізну, больш нічога не трэба. Я клапачу, што вам цяжка плата за кватэру, але рады ніякай даць не магу. Рабі, Лёля, так, як знойдзеш сама патрэбным. Наогул, я прашу цябе глядзець на нашы адносіны так, што я цябе абсалютна нічым і ні ў чым не звязваю. Ніякага нездаволення з майго боку не будзе. Мае боты і дэмісезоннае паліто можаш прадаць. Як здароўе таты, мамы і ўсіх родных? За каго Юля выйшла замуж? Ці бывае ў вас Маня? Перадайце ад мяне прывет

Клаўдзі, выходзіць, што я ўжо маю ўнука, а тата і мама — праўнука! Баюся, што мама вельмі клапоціць па мне; хацеў бы, каб яна была хоць так спакойна, як спакоен я. Спаткання болей не прасіў, бо ўсё роўна нічога не выходзіць. А ці даўно прасілі вы? Галя і Лёня, я сёлета рад вясне, як даўно не быў рад.

Моцна цалую.

*Максім.*

## 21. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 сакавіка 1931 г., Менск*

30/III 1931

Добры дзень! Атрымаў усё, шчыра дзякую. Адсылаю пару бялізны, дзве насаткі, ручнік.

Здароў. Чуюся добра. Прышлі «Историю искусства», «Историю философии», рэзанае паперы і цвёрды аловак.

Добра, што пераехала Лара да цябе на кватэру. Муж яе, мусіць, ізноў пабліжэў да яе. Моцна ўсіх цалую. Бывайце здаровы!

*Максім.*

## 22. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*10 красавіка 1931 г., Менск*

10/IV 1931

Добры дзень! Як маецеся? Ліста вашага я не атрымаў. Як справы з спатканнем, таксама нічога не ведаю. Я здароў, чуюся добра. Клапачу толькі, што вам і бацьком цяжкавата жыць, але за сэрца мяне гэта ўжо не хапае,— так што і вы плаціце мне тым самым і патрошку сцюдзянейце да мяне. Нервы мае прыйшлі тут у парадак, аж сам дзіўлюся. Можа, таму, што ем, сплю і гульма гуляю. Пакуль не напішу, не пасылайце болей кніжак. Кніжкі, якія табе і дзецям не патрэбны, можаш прадаць, калі хто купіць. Сэрца маё не ляжыць ужо да іх, і я рад, што хоць гэтае ярмо жыцця майго звалілася з мяне. Так што нет худа без дабра. Навін у маім становішчы пакуль што ніякіх няма. Прынамсі, я іх не ведаю. Бывайце здаровы. Цалую ўсіх яшчэ мацней, чым заўсёды, бо даўно не цалаваў.

*Максім.*

Пісаў бы часцей, але не ведаю, як пісаць, каб даходзіла. Бывайце!

*М.*

## 23. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*25 чэрвеня 1931 г., Вятка*

25.VI. 1931
Вятка 17 1/2 гадзін

Добры дзень! Толькі што выйшаў на волю. Пішу на пошце, кватэры яшчэ не маю. У Волагдзе хварэў і я, толькі была не ангіна, а нешта кшталтам грыпу. Як жа гэта ты схапіла ангіну? З дарогі пісаць нельга было, гэта першы ліст пасля выезду з Менска. Са мною яшчэ Нічыпар Чарнушэвіч. Кісляков ехаў са мною да Вяткі і паехаў далей на Перм (22.VI), яму ехаць у Амутное. Ён даў мне кавалак сала і цукру. Нічога мне пакуль што не прысылай. Потым пра ўсё напішу, а цяпер толькі — кароценька, а то трэба ісці шукаць начлегу. А дзе быў Гурыкаў Славік? Я вельмі клапаціў пра Гурыка, што нічога ніхто не мог мне пра яго сказаць. Галю і Леню, мусіць, ужо выправіла ў Багацькаўку? Ну, бывай! Цалую моцна.

Горад вялікі, прыгожы.

*Ма.*

## 24. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 чэрвеня 1931 г., Вятка*

30 чэрвеня 1931 г.
г. Вятка

Добры дзень! Выбачай, што як напісаў 25/VI, у дзень выхада на волю, дык аж дагэтуль не пісаў. Усё хадзілі (я і Н. Чарнушэвіч) шукалі кватэру і працу. Памяшкання так яшчэ і не знайшлі, жывём часова на вышках, на другім, недабудаваным, паверсе дома А. Ф. Палкіна, № 24, па Хлынаўскай вуліцы, далёка ад цэнтра. Плата за такую кватэру па 10 руб. у месяц з кожнага. Сёння пойдзем яшчэ раз у ГПУ, прасіць, каб давалі нам памяшканне праз камгас. Як будзе з працаю — таксама яшчэ невядома. Сёння пойдзем да рэдактара «Вятской правды» (ужо трэці

раз) пытацца, ці ўзгодніў ён пытанне наконт нас, бо мы прасіліся на работу ў газету і ён казаў, што ёсць карэктарская работа. Заўтра пойдзем у Земтрэст (другі раз) канчаткова даведвацца наконт чарцёжнай работы (туды нас накіравалі з зямельнага аддзела). У аддзеле народнай асветы адмовілі. Чарнушэвіч хоча пайсці рахункаводам у коопгас (падгародная гаспадарка Вяцкай ЦРК). Мы там былі колькі дзён таму, гулялі, дужа прыгожая мясцовасць, салодкае паветра, недалёчка ад станцыі і горада, дарога на Перм, гароды, капуста, пасаджаная на лагу, і ўсякае збожжа на горцы. Можна падзённа — 1 р. 75 к. і смачны абед (возяць у поле). Былі і на прыстані — прыгожа, цікава, людна, але работа цяжкая.

Я здароў, загарэў, папраўляюся. Прадукты тут дзешавы, як усе кажуць. Масла па 6 р. фунт слівачнае, на рынку яго многа. Сала не відаць. Найбольш малочных прадуктаў. (Тут і Ветэрын.[арна]-заатэхн.[ічны] інстытут). Малако па 2 р. чвэрць (такая тут мера), і на мой погляд, дзешава. Хлеб дзешаў, пуд мукі 6—7—8 руб., кілё ў краме 50 к.

Напісаў ліст дамоў.

Зараз пойдзем у справе службы, кватэры і атрымліваць наборныя кніжкі.

Пішы пакуль што да затрэбавання.

Хадзіць у ГПУ рэгістравацца трэба 4 разы ў месяц. Пішу лежучы на вышках, выбачай. Цалую.

*Ма.*

Як дзеці і што Гурык і багацькаўцы?

## 25. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*3 ліпеня 1931 г., Вятка*

3 ліпеня 1931 г.

Добры дзень, Лёля! Сёння, толькі што, атрымаў два тваіх лісты (ад 27 і 29 чэрв.[еня], з Галіным лістом) і 30 руб. грошы.

І прачытаў гэтую навіну пра Гурыка... Я раней чуў падобнае пра другіх, а таму чакаў усяго. Але я прымаю ўсё гэта даволі спакойна, мяркую, што будзе змяншэнне тэрміну і Гурык скора будзе на рабоце. Пры ўсім тым я выразна ўяўляю сабе памер нечаканай бяды і вельмі шкадую Гурыка. Нашто ты пасылала мне грошы, у мяне ёсць і скора пайду на работу. Пакой яшчэ, на вялікі жаль, не знай-

шоў, жыву на вышках, на той самай Хлынаўскай вул., № 21. Сплю добра, здароў, многа п'ю малака. Як будзе з работаю, не ведаю. Па спецыяльнасці работы пакуль што не дастаў.

Прадукты тут дзешавы параўнальна: пуд мукі ад 6 да 8 рублёў, масла да 5 руб. фунт, яйкі 2 руб. дзесят.[ак], на рынку ўсяго многа, і мяса. Абед у сталовых 2 руб. Нам выдаюць наборн.[ую] кніжку, далі хлеба 1 кілё і 250 гр.[амаў] і булку, усё за 18 кап. За пяць дзён, ці што. Хлеба нам на дзень, здаецца, па 300 гр.[амаў]? Пасля напішу. Пішу адкрытку на пошце, каб зараз адказаць на твае лісты.

Карпа, Калугіны выехалі, а як там другія?.. Ну, бывай. Цалую моцна.

Жыві спакойна. У Багацьк.[аўку] напішу.

## 26. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*5 ліпеня 1931 г., Вятка*

5 ліпеня 1931 г.
г. Вятка

Добры дзень, Лёля. Пішу табе на лесазаводзе № 2, «Заря революции», куды мяне паслала на працу біржа. Прыйшоў рана, а 8-й гадзіне, заняткі ў канторы пачнуцца толькі праз 1/2 гадзіны, дык маю час і пішу табе. Па-першае, схадзі ў ГПУ, у камендатуру, і забяры мой гадзіннік і паясок. Гадзіннік мне пры адпраўцы ў Маскву не аддалі, а квітанцыю дзяжурны дазорца забраў. Мне казаў Сікорскі, што ўсе рэчы, рукапісы і кнігі, узятыя пры вобыску, аддадуць назад, калі яны не будуць патрэбны для справы; казаў, што пашлюць родным павесткі, каб прыйшлі забраць рэчы. Як відаць, табе павесткі не было. Дык я не ведаю, ці варта хадзіць і прасіць, каб аддалі чамадан, партфель, кнігі і хоць тыя сшыткі, што ў партфелі («Хроніка»). Можа, яны ў ГПУ пакуль што спакайней будуць, але шкода, калі загінуць зусім (аднак жа не такая шкода, каб «плакаць» па іх, калі і так досыць смутку). А ў камендатуру па гадзіннік схадзі абавязкова, потым, калі аддадуць, прывязеш мне або вышлеш.

Учора знайшла мяне на Хлынаўскай вул.[іцы], 24, на вышках, Аніхоўская. Муж яе пакуль што яшчэ тут, у допры, бо на допр накладзен (да 7.VII) каранцін. Мы з Чар-

нушэвічам вырваліся, бо нас адразу ў Вятцы накіравалі ў ГПУ, затым, што тут выпускаць, а Аніх.[оўскі], Гурскі, Міцкевіч, Корань, Багдановіч Г. В. і інш. яшчэ сядзяць, чакаючы адпраўкі пасля каранціну. Яны прыехалі раней за нас. Ан-[іхоўс]кая казала мне тое-сёе пра Менск і як вы турбаваліся.

Як у мяне будзе з кватэраю і з работаю, сам яшчэ не ведаю. Учора напісаў заяву начальніку ГПУ у Вятцы, каб мне далі права атрымаць пакой праз камхоз, бо так знайсці цяжка, адмаўляюць, што палітссыльны, баяцца вобыскаў і г. д., або заламліваюць цану, каб сам адмовіўся. Можа, зняць пакойчык часова, які прыйдзецца, каб ты хутчэй магла прыехаць? Грошы ў мяне ёсць (80 руб.). А як у цябе з грашмі на дарогу?

Наконт работы сёння нешта пачую. Не спадабаецца — буду прасіць другую.

Гэтыя дні мне ўсё думаецца пра цябе, пра дзяцей, як яны там адны, пра бацькоў і братоў, шкода Гурыка. Дамоў я напісаў ліст, чакаю адказу.

Бывай. Цалую. Вітаю Лару і ўсіх. Пішы да затрэбавання.

*М.*

## 27. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*8 ліпеня 1931 г., Вятка*

8 ліпеня 1931 г., Вятка

Добры дзень! Сёння зайшоўся, як і кожны дзень, на пошту і, не атрымаўшы ліста, чамусьці надумаўся спытацца, ці няма тэлеграмы. Вельмі здзівіўся, што якраз ёсць. Але пралежала яна тут аж ад 3 ліпеня, пяць дзён. Чаго ж «беспокоишься»? Я ж табе пішу. Як толькі атрымаў грошы, дык зараз, тут жа на пошце, і напісаў. Ну, а потым чакаў адказу; апрача таго, не было ніякіх «экстрэных» навін. Вось, не ведаю толькі, чаму нічога не адказваюць мне з Багацькаўкі? Мусіць, ці не затрымлівае там хто лісты ў сябе. У маім становішчы ніякіх змен не адбылося: усё яшчэ шукаю працы і памяшканне. Але з працаю, здаецца, відаць ужо нейкі канец: буду або карэктарам, або чарцёжнікам. Плата невялічкая, але і тое добра. З кватэраю справа такая: можна часова перайсці туды, дзе жыве Чарнушэвіч, гэта *па вуліцы Розы Люксембург, дом № 21-а, у*

*Аляксандры Міхайлаўны* (ад вакзала далёка, фурманы бяруць рублёў 6). Калі б я туды перайшоў, дык і ты магла б там спыніцца, надумаўшыся прыехаць. Якраз сёння там і начавалі Аніхоўская-Сапун і Аніхоўскі. Яго ўжо выпусцілі; да Слабадскога, дзе мае жыць, паедзе сам. А яна жыла тры дні ў доме калхозніка (селяніна), а болей нельга, дык перабралася да Алякс.[андры] Міхайлаўны. Гаспадыня там нішто жанчына, і запрашае мяне пераходзіць, і ведае, што ты маеш прыехаць; але там асобнага пакоя няма і шмат клапоў. Дык я не ведаю, што рабіць. Аніхоўскія заўтра едуць у Слабадское. Пабудзе яна там у мужа, казала, дзён 10. Слабадское ад Вяткі 33 вярсты, чыгункаю. Тут, у допры, у сувязі з каранцінам, яшчэ сядзяць А. Бабарэка, М. Азбукін, А. Міцкевіч, Гурскі, Улашчык, Г. В. Багдановіч і інш. Аніхоўскай дарога дорага не каштавала, бо яна мімаездам. А колькі табе будзе каштаваць білет, не ведаю. І наогул я не ведаю тваіх рэсурсаў. Што да пераезду ў Вятку ўсёю сям'ёю, дык трэба пачакаць, боязна, каб не прыйшлося сядзець галодным і халодным. Гурыку я йшчэ не пісаў і ад яго нічога не меў. Начую пакуль што ўсё там жа сама, на вышках, на Хлынаўскай, 24, дом Палкіна. Ліст пішу ў бібліятэцы імя Герцэна. Бібліятэка вельмі добрая і мае 600 000 тамоў. Брукаваных вуліц у Вятцы толькі 30 %. Ну, зараз іду ў ГПУ рэгістравацца (4 разы ў месяц). Можа, спаткаю каго з ссыльных і пачую што-небудзь пра кватэру. Пішы пра сябе і дзяцей. Бывай здарова і спакойна. Цалую.

*Максім.*

Старайся не клапаціць і адпачыць.
Спаць будзем на верандзе, а хочаш — у зале.

## 28. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*11 ліпеня 1931 г., Вятка*

11 ліпеня 1931 г.
г. Вятка

Добры дзень, Лёля! Заўчора атрымаў твой ліст ад 3/VII, а сёння ад 6/VII. Як бачыш, лісты гэтыя прыйшлі ўжо не на трэці дзень, як ранейшыя, а на пяты-шосты. Не ведаю, у чым прычына, але нейкая ж прычына ёсць. І я шкадую, што не нумараваў сваіх лістоў да цябе, бо калі згубіцца каторы, дык і ведаць не будзем. Прыпамінаю, што два пер-

шых пісаў, здаецца, на пошце, а ў двух другіх, успамінаю, што адзін пісаны на лесазаводзе № 2, дзе я меў стаць на працу, а другі ў бібліятэцы імя Герцэна. Ну нічога, я ўжо прызвычаіўся да ўсяго. Шкода мне толькі, што ты нервавалася, чакаючы ад мяне лістоў, бо я рэдка пісаў. А рэдка пісаў з той прычыны, што ўсё чакаў нейкага «абсталявання» ў сваім новым жыцці, гаворачы тваімі словамі. На жаль, «абсталяванне» туга прыходзіць. Аднак жа нешта выразнае ўжо відаць. Па-першае, праз колькі дзён напэўна буду мець свой асобны пакойчык. Вышкі я ўчора пакінуў зусім; сёння начаваў па вуліцы Валадарскага, дом 114, кв. 2, адкуль і пішу табе гэты ліст. Пусціў мяне адзін знаёмы; пакойчык у яго такі, што дваім ледзь павярнуцца. І я буду вельмі рад, калі выйду і адгэтуль у свой пакойчык. Тады ўжо ты можаш смела ехаць да мяне. Але чамусьці ты ў апошнім лісце пра гэта ні слова не пішаш. Між радкоў твайго ліста прачытаў я грашовы клопат. І падумаў: як яна будзе жыць з дзяцьмі, калі выйдзе якая замінка з перакладамі?

Можа, хто і апрача мяне даведаўся і пацікавіўся, з якіх сродкаў ты жывеш у Менску? І вось тут пішу «па-другое». Па-другое — работы дагэтуль я йшчэ не маю, але заўтра канчаткова высветлю і, здаецца, застануся пакуль што чарцёжнікам, на 65 руб. у месяц. Потым — пабачу, што рабіць; можа, знайду які прыробак. А не дадуць і чарцёжнай работы, дык пайду на земляныя работы, тут многія гэтым займаюцца і добра зарабляюць. У карэктарскай рабоце адмовілі. Балазе, дадуць пакойчык: дух у мяне ўжо паднімаецца, што буду мець прытулак, а там і без работы сядзець не буду. Грошы твае, 30 руб., атрымаў. І яшчэ раз пішу: нашто пасылала? Я абышоўся б са сваімі, а калі ж бы мне патрэбны былі, хіба я сам не папрасіў бы ў цябе? Дык вось, мяркуй сама, ці зможаш прыехаць, ці не. Дарога, кажуць, адзін білет туды і назад будзе каштаваць рублёў 90. Я асабіста ніколі на такія справы грошы не шкадаваў, прадаў бы што з рэчаў, калі трэба. Але ж трэба меркавацца, што з рэчаў што-небудзь прыйдзецца прадаваць, каб купіць кавалак хлеба. Тады, ясна, падарожжа можа адпасці... Вось так і мяркуй, будзь прадугледліва і будзь шчыра са мною... Я «выйшаў у тыраж», а табе таксама не пад сілу цяжкі воз матэрыяльных клопатаў ды яшчэ ў цяжкім маральным стане. За пасылку дзякую. Павесткі яшчэ няма (яе таксама трэба пытацца да затрэбавання). Мне нічога не трэба было пасылаць, апрача атэстата, які

будзе патрэбен. Яшчэ хіба не завадзіла б мецъ брытву і галярск. [ія] прылады, бо пабрыцца 30 к., а не брыцца — барада дужа разрастаецца каля шыі. Ты мне пакінь адну брытву, што Гурык падарыў, тоненькая, ці другую, усё роўна, а адну цэлую і адну з паламанаю ручкаю можна прадаць (Парфір там прадасць або я тут). Пальто маё зімовае (я ж табе перасылаў яго з «амерыканкі») таксама прыйдзецца прадаць, а тут я куплю сабе на зіму палушубак (цана ў краме 50 руб.), бо ўсе тут узімку ў палушубках. Таксама, я табе даўно пісаў, што можаш прадаць буфетную і адзежную шафы, стол, скрынку, чамаданчык. Тут гэта зараз бы ўсё пайшло, на рынку, па абвестках на слупах, і г. д. Не ведаю, як у Менску. Мне казалі, што вы мерзлі ўзімку, купляючы па возіку дроў і мяркуючы па паленцу на дзень... Кніжкі ўсё ліквідуй, апрача канечне патрэбных. Там кніжак з пару засталося такіх, што купіць дзяржаўная бібліятэка (т. Сіманоўскі), а 20 тамоў энцыкл. [апедыі] можна прадаць букіністам (на Пляцу Волі ў варотах, на Савецкай па дарозе ў ГПУ), за цану, якую дадуць,— так што, можа, выгадней будзе яе спаліць. А нашто ўсё гэтае барахло займае кватэру? Газету мне не выпісвай; калі што цікавае будзе — даведаюся і так. Я тут хаджу чытаць у бібліятэку Герцэна (3-я ў Саюзе, калі праўда, 600 000 тамоў). Нешта няма ліста з Багацькаўкі. Я ім паслаў адзін ліст, а потым 10 рублёў і пісаў на пераводзе. Пачакаю яшчэ, а тады напішу і ўкладу канверт з адрасам і маркамі. Бедныя дзеці! Як скора прыйшоў той час, што паехалі без бацькі. І хто ведае: можа, гэта для іх лепей, вырастуць лепшымі, чым бацька. Думаецца мне таксама, як там пойдуць далей багацькаўскія справы. Толькі я ўжо да ўсяго адношуся спакойна. Ці зарабляе Лара? Чаму нічога не пішаш пра Юлю? Што з яе замуствам? Дзе жыве Маня і яе сястра? Чаму ездзіў у Воршу Іван, а не тата? Як ты маешся? Хто за табою ўхажвае? Можаш пагуляць. Бывай. Цалую.

*Ма.*

Кааперац. [ыйных] кніжак такім, як я, здаецца, не даюць; даведку аб плаце вышлю; у касе ўзаемадапамогі я не быў.

## 29. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*16 ліпеня 1931 г., Вятка*

16 ліпеня 1931 г.
Вятка, вул. Валадарскага, 114.

Добры дзень! Сёння атрымаў адразу два тваіх лісты, адзін ад 10/VII, другі ад 12/VII. Пакоя яшчэ не маю, але Хлынаўскую вуліцу ўжо пакінуў, як і пісаў табе аб гэтым. Пакойчык хоць прахадны, але чысценькі, светлы, вясёлы. Часова начую па вуліцы Валадарскага, дом № 114 (на таблічцы па-старому — 114, дом Курбановской), на ніжнім паверсе, кв. 2, у самым канцы калідора, у клетцы, што мне і гаспадару — толькі легчы ўдваіх на падлозе. Ісці сюды ад станцыі бліжэй, чым да Розы Люксембург, 21, дом Аляксандры Міхайлаўны (Матус?), на другім паверсе, дзе жыве Чарн.[ушэвіч]. Гэта якраз па дарозе. Ад станцыі ў горад спярша адна вуліца, галоўная, потым звярнуцца ўлева ўгару, па вуліцы Карла Маркса. Вуліца Валадарскага паралельная з вул. К. Маркса, толькі на квартал далей у горад. Дом 114 зараз за ровам, направа. Роў, прыблізна, пасярод горада, цягнецца ў бок ракі Вяткі. Мне дакляравалі даць пакойчык гэтымі днямі. Калі дадуць, дык прышлю яго адрас тэлеграмаю. А не паспеюць, ды прыйдзеш на вул. Валадарскага, 114, кв. 2, забяром мае рэчы і пераселімся на вул. Розы Люксембург, 21. А потым я дастаўлю твае рэчы з вакзала. А калі хочаш, вазьмі фурмана, ад станцыі да Валадарскага, 114 (д. Курбановской), будзе каштаваць рублі 3—4. Гэта на дамы 3—4 бліжэй і ніжэй саду «Аполло», які вядом у горадзе. Калі мяне не будзе, дык пакладзеш рэчы ў калідоры, а сама пачакаеш у садзе «Аполло».

Прывязі мне толькі мае штаны карычневыя ці старыя кортавыя (калі я не адаслаў іх у Багацьк.[аўку]) і брытву. Гадзіннік, зразумела (калі аддадуць). З кніжак нічога не трэба. Пасылку тваю я атрымаў, дзякую. Калі вернуць (з рэчамі) мой стары чамадан, дык вазьмі яго з сабою, а тут пакінеш. А калі нязручна — не бяры. Распытайся, як перасаджвацца ў Маскве. Мусіць, абавязкова трэба браць білет адразу да Вяткі, а то прыйдзецца сядзець у Маскве. Якія парады яшчэ даваць — не ведаю. Ці сама ты залепліваеш клеем канверты і налепліваеш маркі па 5 к., каб не адляталі? Можа, і мае ў дарозе адлепліваюцца? Пра Ізбранных не пішы, не раю. А чаму ты не дыктуеш на

машынцы, а пішаш ад рукі? Калі выйшлі якія новыя тваё кніжачкі, прывязі. З Багацьк. [аўкі] яшчэ не пісалі. З лёсам Гурыка я ўжо абдумаўся. Што ты зробіш? Крыўда вялікая, жаль на «прыяцеляў», якія тапілі яго, але што ты зробіш. Ну, бывай.

Цалую.

*Ма.*

## 30. І. К. ГАРЭЦКАМУ

*20 ліпеня 1931 г., Вятка*

20 ліпеня 1931 г.

Добры дзень усім! Як здаровы, як маецеся? Я здароў. З учорашняга дня перайшоў ужо на пастаянную кватэру. Пакойчык хоць прахадны, але чысценькі, светлы, вясёлы. І ў камхозскім доме, дык недарагі. Суседзі — людзі добрыя, прыветныя. Цяпер ужо пачну хадзіць на пастаянную работу, змагу трошку і вам дапамагчы. Ад вас ліста я йшчэ не меў, але Лёля нядаўна паведамляла, што дзеці ёй пісалі, дык я не клапачу. Яна пісала, што Гурык быў ужо ў Віцебску. Самае цяжкае яму будзе — гэта пакуль у дарозе, а тады стане лягчэй, і наогул можна спадзявацца, што скора будзе яму аблягчэнне. А як жывецца вам? Старайцеся, каб у калгасе жыць з усімі дружна і ласкава, каб калгас добра развіваўся, тады ўсім будзе добра. Спярша, можа, будзе цяжкавата, а далей — усё лепей. Галоўнае — згода і агульны інтарэс, а не свой індывідуальны. У Вятцы многа фабрык і заводаў, кругом калгасы. Горад вялікі, на шырокай судаходнай рацэ Вятцы. Чэраз Вятку дарога ідзе на Котлас. Улетку цёпла, як у нас, а ўзімку троху халадней. Няхай мне напіша Галя. Адрас такі: *Вятка, улица Свободы, дом 109, кв. 4. М. И. Горецкому.*

Цалую ўсіх дужа. Бывайце здаровы.

## 31. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*16 жніўня 1931 г., Вятка*

16 жніўня 1931

Добры дзень, Лёля і ўсе дамачадцы! Выбачай, Лёля, што рэдка пішу. Перад гэтым я паслаў толькі адкрытачку Лары. У Багацькаўку таксама ўчора напісаў на пераводзе (паслаў 10 руб.). Ад цябе атрымаў адкрытку з Масквы і

14 Зак. 2541

адкрытку з Воршы. Адкладаў пісанне, думаючы, што буду мець якія навіны ў сваім жыцці, а іх пакуль што няма. У Амутнасталі сказалі пачакаць яшчэ пяць дзён, а тады «напэўна дадуць работу чарцёжніка». У камгасе сказалі зайсці дні праз два, будуць пытацца. Учора ў газеце была абвестка, што патрэбны чарцёжнікі ў ФУПе (фабр.[ика] учебн.[ых] пособий). Дык я да сённяшняга дня зноў хадзіў на пабудову лазні, перавёз сотні тры з паловаю пяску, скончыў учора і пастанавіў пакуль што спыніць там работу і пахадзіць наконт службы, каб больш мець часу і фізічнай магчымасці для пісання. Думаю, што знайду службу. Быт мой даўнейшы. Без цябе тры разы ўжо разводзіў прымус, свой, з дапамогаю «Крывой». Учора прыехала Еўдакія Міхайлаўна, прасіла цябе вітаць. Красіну мне за гэты месяц дадуць шэсць літраў, усё добра. Крэселка дастаў на час у таго жыхара, што жыве на падворку, у пуньцы (ён прыходзіць з працы ўночы, дык не хоча ў доме, каб ніхто не турбаваўся адчыняць яму). Сёння пайду купляць столік, бо іхны, як пішу, хістаецца. Дастаў цукру за ліпень 500 грам. Прадаў рудыя штаны за 47 руб. Калі сходзіш у БАН наконт грошы і адмовяць, напішы,— тады напішу ім я. Думаю, усё ж ткі напісаць і Гольцману, каб аддаў хоць рублёў 50. Як у цябе з работаю ці службаю? Як там дзеці? Ці не дакучаюць яны там? Як ты з'ездзіла, хто цябе вёз?

Што піша Гурык? У «Праўдзе» быў артыкул пра Мурман, дні чатыры таму, там пісана і пра Хібінагорск. Добра было б, калі няма надзеі на лепшае. Кажухоў на рынку (у крамах) пакуль што больш не бачыў. Ну вось. Дык бывайце здаровы. Не гневайся, Лёля, на рэдкае пісанне. Цалую. *М.*

### 32. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*18 жніўня 1931 г., Вятка*

18/VIII 1931

Добры дзень! Надоечы я паслаў табе адкрытачку. Не паспеў яе адаслаць, як прыйшла твая адкрытка з Менска. Ты пішаш: «ганю сум». Добра робіш. Не сумуй, трэба жыць, як прыходзіцца. Бывае горш, нічога не зробіш. А ў мяне прыемная навіна. З учарашняга дня ўзялі мяне на чарцёжную работу ў ФУП (фабрика учебных пособий), у

аддзел капітальнага будаўніцтва. Будуюць новую фабрыку, сабралася вельмі многа чарцёжнай работы. Плату вызначаць пасля двухтыднёвага іспытання. Працаваць ад 9 да $4^1/_2$. Учора хадзіў у іхную сталоўку, вельмі смачна і танна паабедаў. У Вяткамстроі атрымаў 43 р. Пяску налічылі 30 кубам.[етраў], ды капаў канаву. Не забудзься прыслаць мне ключык ад чамаданчыка. Ці аддалі рэчы? Ты дужа пра іх не клапаці, часта не хадзі. Я ведаю, што ў цябе цяпер шмат свайго клопату. Учора, казалі, ехала назад Сапунянка, але я не хадзіў да яе, бо змарыўся на рабоце. Як твае здароўе пасля дарогі? Глядзі, беражы сябе, а то будзеш бегаць, справы, дык прастудзішся. Як Леня і Галя? Што піша Гур.[ык]? Я здароў. Жыву па-даўнейшаму. Цалую.

*М.*

## 33. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*23 жніўня 1931 г., Вятка*

23/VIII 1931

Добры дзень! Сёння атрымаў твой ліст і спяшаюся адказаць, каб ты не траціла працаздольнасці. Мне здаецца, што гэта ты яшчэ не выйшла з экзальтацыі, не прыйшла да нормы. Трэба супакоіцца. Таксама трэба так наладзіцца, каб і думка табе ў голаў не прыходзіла, што мяне каля цябе няма ці што я доўга не пішу. А я пастараюся пісаць акуратней. Пэўна, ты ўжо атрымала маю адкрытку, у якой я пісаў, што паступіў на працу ў ФУП (фабрика учебных пособий). Плату вызначаць праз два тыдні з часу паступлення. Рублёў каля ста, мусіць, дадуць. Не ведаю толькі, ці надоўга там хопіць гэтай чарцёжнай работы. Цяпер я рысую план трэцяга паверха новага фабрычнага будынка (здымаю копію) і паказваю, дзе вентыляцыя, апальванне, дзе паставіць варштаты і г. д. (тут ужо трэба канструяваць). Праца якраз па мне. Пры фабрыцы сталоўка, ем танныя абеды. І больш навін няма, жыву па-даўнейшаму. Атрымаў ад Гур.[ыка] ліст і паслаў яму адкрытку (на Ленінград). Паслаў у Багацькаўку 10 руб. Пасылак з прадуктамі мне не пасылай, клапаці пра сябе і дзяцей. Калі туга прыйдзецца, сам папрашу. А вось Георгій Аляксеевіч усё гаворыць, ці не можна атрымаць па чыгунцы яблык-антонавак. Я не ведаю, што яму адказаць. Але гэта і не спеш-

на. А тут яблычка, дробненькае, 25 кап. Шубіны ўчора прынеслі мне на сподачку ватрушкі, яны сабе пяклі. «Яравая» ляпёшка, а згары бульба. Смачна. Пасылку тваю яшчэ не атрымаў. Як прыйдзе, дам Шубіным сушаных яблык на сподачку. А як жывяце вы? Перакладаў хіба няма? Шукай якой службы. Я думаю, як ты будзеш жыць? Але што я параю? Рабі, як ведаеш. Энцыклапедыю, мне здаецца, можна на утыль, болей дадуць, чым так прадаць. Як былі дажджы, я троху працаваў, троху ў хаце сядзеў. Цяпер ізноў пацяплела. Пісанне маё пасоўваецца марудна. Як гадуюцца дзеці? Ці прыехаў Лёня? Хто яшчэ жыве на кватэры? І мне бывае часам сумна, але я ўжо закамянеў. Ну, цалую.

*Ма.*

## 34. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 жніўня 1931 г., Вятка*

30/VIII 1931

Добры дзень! Адкрытку тваю ад 21/VIII атрымаў. З Багацькаўкі таксама пісалі ад 22/VIII. Лёня меўся паехаць 26/VIII. Пасылка яшчэ не прыйшла, на пошце сказалі, што з Масквы і то часам ідуць па тры тыдні, дык яшчэ прыйдзе. А ты мне больш нічога не пасылай, толькі пальто. Гуліны просяць выслаць ім яблык. Дык калі знойдзеш такога чалавека, што ўзяў бы на сябе гэты клопат (вядома, за плату), то вышлі. Спярша напішы, тады Гулін вышле грошы і дасць свой чыгуначны адрас. А калі табе і так досыць клопату, дык абойдзецца і без яблык.

Сёння я даведаўся, што ты без працы, у карэктаркі не ўзялі, і што ў цябе сумны настрой. Не бядуй! Думаю, што працу знойдзеш, а пакуль што прадавай што з рэчаў, і я каля 10. IX вышлю рублёў трыццаць, усё хоць за кватэру будзе заплаціць. Неяк будзем жыць. Можа, я ўмацуюся на гэтай ці на якой іншай службе, тады можна будзе падумаць і аб пераездзе. Чарнушэвіч яшчэ без службы. Учора ў яго ішла кроў. Бачымся мы з ім рэдка, я нічым яму дапамагчы не магу, а зазначаю толькі, што на педагагічную працу тут, мусіць, ні я, ні ён не трапім. Так што чаму і не пераехаць, але жыць нам будзе дужа цяжка. Цэны нашы цяпер нічым не розняцца ад менскіх, толькі мука, мусіць, дзешавей. А дзе Лара? Ці заехаў ужо Гур.[ык]? Я та-

бе доўга не пісаў, думаў, што скора атрымаю пасылку, дык напішу тады. Выбачай. Цалую цябе і дзяцей. Бывайце.
*М.*

## 35. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*4 верасня 1931 г., Вятка*

4/IX 1931

Добры дзень! Пасылку атрымаў, нічога не папсавалася. Вельмі дзякую, але ніякай яды больш не пасылай, пратрымаюся і так. Клапачу, як у цябе будзе са службаю. У мяне навін няма, усё па-даўнейшаму. Хаджу на службу. Грошы заплоцяць каля 10-га. Пасылаю табе сёння з кніжкі, каб падвесяліць цябе, і пасылка падмацавала мяне. Ці ёсць у Лёні боцікі? Пішыце. Цалую. *Максім.*

## 36. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*13 верасня 1931 г., Вятка*

13.IX.1931

Добры дзень! Адкрытку, у якой гневаешся за грошы, атрымаў. Дармо гневаешся: я ж ведаю, як яны табе цяпер патрэбны, на ўсё, і на дровы. Я не ведаю, як і што вы ясцё. А я магу абысціся. Пасылкі, твая з ядою і багацькаўская, вельмі падтрымалі мяне. Паліто таксама атрымаў. Я ўжо пісаў аб гэтым. Даручэнне на атрыманне паю паслаў; ці атрымала ліст? У пайнікі такіх, як я, не бяруць. З рэчаў пакуль што болей нічога не прадаваў, толькі брытву і асялок, за абедзве рэчы разам узяў (у парыкмахерскай) 20 руб. Так што неўзабаве здолею выслаць табе яшчэ колькі рублёў. Адрас Гулін даў такі: большой скорости; Вятка1; получатель: завпитомником Георгий Алексеевич Гулин; его адрес: *Экспедиция нач.[альника] станц.[ии], питомник Перм.-[ской] ж.[елезной] д.[ороги];* число мест 1; род упак.[овки] — ящик; наимен.[ование] груза: сортовые яблоки; вес по указ.[анию] отпр.[авителя] 16 кг. А грошы яшчэ не выслаў, дык і ты не хапайся. Сама не рабі, даручы каму і заплаці, толькі вышлі талон (?) ад накладной, заказным лістом. Выбачай за гэты клопат, мне дужа прыкра, што турбую цябе. Я здароў. Працую. Навін

ніякіх няма. Спрабую пісаць, але нешта туга пішацца. Надвор'е стаіць восеньскае, але гэтыя дні добрае. Ну як ты, як дзеці? Ці пасылаюць што Гур.[ыку] з яды?

Цалую моцна. *Ма.*

### 37. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*20 верасня 1931 г., Вятка*

20/IX 1931

Добры вечар! Спярша адкажу на вашы пытанні. Хадзіць мне недалёчка, хвілін 10—15; кантора знаходзіцца за паўгоні ад бібліятэкі імя Герцэна. У лазню я хаджу ў месяц разы два-тры. Лазня вельмі добрая, каштуе ўсяго 25 кап., и знаходзіцца таксама недалёчка, па дарозе мне на службу; у раздзявальні кожнаму асобная шафка з вешалкаю і палічкамі; парнага аддзялення, праўда, няма, але гэта, можа, і добра,— больш культурна; ёсць і асобныя нумары, з ваннамі,— гэта каштуе, здаецца, рубель ці рубель 25 к. Калі я мыюся і бачу, як бацькі мыюць хлопчыкаў, дык успамінаю Лёню і ўсіх вас. Пакойчык мой добры, толькі што прахадны; я яго не мыю, не падмятаю, гэта робіць Еўдакія Міхайлаўна, бо я хаджу па ваду, ёй хадзіць не прыходзіцца. Пакуль што ў пакойчыку цёпла, у печы яшчэ не палена, а далей — думаю згаварыцца з Шубінымі, каб яны палілі, а я буду плаціць ім памесячна; топка ж выходзіць у іх кватэру; не ведаю, ці згодзяцца яны, яшчэ не гаварыў, а дроў пакуль што не купляў. Бялізну мыць занёс у бальнічную пральню (ці прачкарню?); гэта далёка — пад станцыю Вятка II; не хацелі браць, што шмат надавалі ім ад чырвонаармейцаў і розных устаноў, але потым згодзіліся, узялі, толькі гатова будзе не раней як праз месяц; плата 70 кап. за кілё; я занёс тры кілё; чыстую бялізну маю. Са святлом як? Электрычнасці так і не далі, бо не хапае ў горадзе энергіі; купіў 7-лінейную лямпу; газы выдавалі ўсім па 10 літраў, і мне столькі далі; цяпер, кажуць, доўга не будуць даваць; гэта патрэбны былі бочкі, ці што; але газы хапае; толькі набраўся клопату з пасудаю, некуды было ліць; бідоны на рынку па 8 руб.; дык я зліў у адну пасуду з Гулінымі, у іхную; Еўд.[акія] Міх.[айлаўна] дае мне вару з самавара ці кажа ставіць чайнік на іхны прымус; часам варыць мне гарох, што ўзяў на кніжку, ці бульбу. Бульбы таксама далі ўчора на заборную кніжку (і не

члену каапер.[атыва]). Вось і ўсё адказаў. Магу дадаць, што гарэлку Еўд.[акія] Міх.[айлаўна] купіла ў каапер.[атыве] у Вятцы, у іхным, за 3 р. 20 к. Яшчэ не ўставіў, слёсар-сусед не здолеў адкруціць, дык аблілі газаю і паставілі пастаяць. Гарох я еў з альняным маслам, і падкладалі соды, каб разварыўся; вельмі смачна было; учора даеў. Сала ем, але прыблюдаю, каб хапіла на даўжэйшы час. Наогул, з ядою і з рознымі бытавымі справамі мне не дрэнна цяпер. Толькі думаю: а як-то вам? І яшчэ часта думаю, што есць Гурык? можа, пасладь яму хоць раблёў дзесяць? ды не ведаю, ці можа ён там што купіць? Пасылаю вам даручэнне на атрыманне 100 р. І думкі не дапушчаю, каб грошы гэтыя прапалі. А нарэшце... з Волагды і дагэтуль яшчэ шлюць; заявілі пракурору. Гадзінніка яшчэ не атрымаў. Сорамна, што ўсё пішу толькі пра такія справы... А дзе ты лабаранткаю? З вашым лістом прыйшла адкрытка і з Багацьк.[аўкі], усе здаровы. Ты мяне спатворыла лістамі, дык як дзён шэсць не было, я ўжо быў і засумаваў. Надвор'е было дрэннае. Учора ўгодкі па Ганначцы. Сёння пагода; хадзілі спатыкаць чырвонаарм.[ейцаў] з манеўраў.

Цалую. *Ма.*

## 38. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*24 верасня 1931 г., Вятка*

24.IX.1931

Добры дзень вам, мая дарагая жонка і любыя дзеткі! Учора атрымаў ліст з паведамленнем аб нешчаслівым выпадку. Устрывожыўся, але таксама думаю, што магло быць і горш. Ну што ты зробіш. Пэўна, ты і дзеці спалохаліся дужа. Вядома, не варта ісці табе на такую работу. А я не зразумеў, думаў, што цябе паслалі «лабаранткаю» ў які навуковы кабінет выдаваць кніжкі. Як-небудзь пражывём. Неўзабаве я вышлю вам яшчэ троху грошай. Напішы мне хутчэй, ці палепшала павека. Думаю, што ты нічога не скрыла ад мяне і напісала ўсю праўду. Радуюся, што дзеці вучацца добра. Я спрабую пісаць, але пісанне маё мне не дужа ўдаецца. Думаю кінуць гэта, што пішу, і ўзяцца за што другое,— можа, пойдзе лягчэй. Навін ніякіх не маю, жыву па-даўнейшаму. Часам вельмі стамляюся на рабоце, але, наогул, чую сябе нішто, здароў. Ключык — ад чама-

дана. Сёння хадзіў на рынак, але на такую рэч тут няма ахвотнікаў. Папрабую занесці ў камісійны магазін. Ці вярнулі ў партфелі «Сямейную хроніку»? Будзьце здаровы і будзьце весялейшыя. Цалую моцна.

*Максім.*

## 39. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*26 верасня 1931 г., Вятка*

26/IX 31

Добры дзень!

Ну, як тваё павека? Ці дужа знервавалася? Не клапаці. Неяк будзе... У мяне навін няма. Атрымаў за $^1/_2$ месяца плату 52 руб. Пасылаю 25. Цалую моцна цябе і дзетак.

*Ма.*

## 40. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*16 кастрычніка 1931 г., Вятка*

16/X 1931

Добры вечар, і жонка і дзеткі! Учора атрымаў вашу ўстрывожаную адкрытачку. Даруйце, што доўга не пісаў. От, так выйшла. 3-га і 4-га хадзіў на вакзал (але дарэмна). Выхадны дзень — працаваў (але капаць бульбу не хадзіў, бо замест гэтага рабіў пільную чарцёжную работу). Потым колькі дзён спусціў — высвятляючы справу з кааператыўнымі даручэннямі. І быў крыху прастуджаны, не ў гуморы. Ну, даруйце. Вы старайцеся нічога благога не думаць і ніколі не трывожцеся. Жыву па-даўнейшаму. Пасцюдзянела, паменела гразі, а то была гразь незвычайная. 14-га ехала з дзяцьмі Бабарэчыха. Я бачыў іх і дапамог ім перасесці на слабадскі. Дзяўчатам даў па цукерцы, а яны далі мне два вялікіх яблыкі. Схадзіў, прынёс бялізну. Быў у лазні. Картку мне выдалі цяпер 2-й катэгорыі. Чытаю. Сёння чытаю «Краму старажытнасцяў» Ч. Дзікенса; узяў у фабрычнай бібліятэцы. Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў» (калі іх табе вярнулі з усімі рукапісамі); можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць).

У Гурыкавым адрасе я не расчытаў добра літар у скарачэнні,— хай Лара дасць табе адрас, а ты прышлі. І сэнсу літараў не разумею. Хіба ж ён яшчэ ў перасыльным аддзяленні,— зн.[ачыць] да месца не даехаў? Я кажу пра адрас, які мне прыслала Лара. А ці маюць яго адрас у Багацьк.[аўцы]? Тата і мама напісалі б яму. Як шкода, што яны непісьменныя. За іх мне піша Анісся,— кароткія адкрыткі, вядома. Рэчаў, пасля брытвы, я болей не прадаваў. За кватэру заплаціў. Дроў яшчэ не купляў і з Шубінымі не ўмаўляўся, бо пакуль што цёпла ад Гуліных і ад кухні. Шубіна-крывая заваліласе на сходах, пабіла галаву аб скрыню, ляжыць хворая. Да іх усялілі яшчэ адну старую настаўніцу, яна мне пазычыла столік і пару крэслаў. Напішы ж мне, Лёля, як ты працуеш і як вы цяпер жывяцё? Забегалася, мусіць. А як вы, Галя і Лёня, маецеся? Бывайце здаровы. Цалую.

*М.*

## 41. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*24 кастрычніка 1931 г., Вятка*

24 кастрычніка 1931 г.
Вятка, ул. Свободы, 109, кв. 4

Добры вечар! Сёння атрымаў пальто і сухары. Дзякую вельмі. Толькі нашто было пасылаць сухары, хай бы дзеці з'елі. Я харчуюся нішто сабе. Думаю, як вы там. Рэчаў пакуль што болей не прадаваў, і з пальтом прыйдзецца пачакаць. Бо цяпер страшэнная гразь, рынкі збіраюцца меншыя, і прайсці на іх — значыцца, згубіць калёшы. Апрача таго, апошнія тры выхадных дні я не меў на гэта часу. Навін у мяне няма. Што Пічэта тут, я, здаецца, ужо пісаў. Ужо мае пакой, і прыехала ў госці жонка. Учора я спаткаў яго ў ФУПе — хацеў ён там паступіць на месца, але, мусіць, не застаўся, бо я яго потым не бачыў у аддзеле, які ён называў (эканамічна-планавы). Пэўна, яму дадуць педагагічн.[ую] работу. А я чытаю тым часам абы-што, больш з гісторыі, але думаю, ці не прыйдзецца ўзяцца за тэхніку. У поўным разбродзе я цяпер, не ведаю, якім шляхам і да якой прафесіі ці занятку больш кіравацца. Чарчу нішто. Марудна, але нішто. Заўваг не маю. А чаму ты не хвалішся, дзе працуеш і колькі зарабляеш? Можа, выслаць троху грошай? Магу. На якую хваробу нядужала Галя і як яна і Леня цяпер? Добра, што ён будзе мець

пальцечка. Як у вас з дрывамі? Што пішуць з Баг. [ацькаўкі] і што чуваць аб Гур. [ыку]? Апошнюю маю адкрытку ты, мусіць, яшчэ не атрымала, я там пытаўся пра Гур. [ыкаў] адрас. Пішы мне, як жывецца. Мне жывецца нішто. Здароў.

Цалую вас моцна. Не гневайцеся, што рэдка пішу.

*Максім.*

## 42. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*4 лістапада 1931 г., Вятка*

4/XI 1931 г.

Добры дзень! Пасылаю 40 руб. К святу, на дровы і наогул... Надоечы атрымаў гадзіннік і паясок. З Волагды грошы яшчэ ідуць, але, здаецца, прыйдуць. Учора атрымаў ад цябе ліст з перапісаным Гурыкавым лістом. Больш «навін» няма. Здароў. Купіў воз дроў — «рэйкі» з лесапільні, за 16 р. А воз праўдзівых каштуе 20—25 руб. Як вы? Вітаю з святам. Леня і Галя, святкуйце вясёла. Цалую.

*Ма.*

Другі дзень падае сняжок!

## 43. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*10 лістапада 1931 г., Вятка*

10 лістапада 1931 г.

Добры дзень! Як адсвяткавалі? Я — нічога. Хадзіў на дэманстрацыю. Надвор'е было добрае, толькі брудна. Сёння ўжо падмарозіла і лёг сняжок. Я ўсё чакаў, каб падмарозіла, але цяпер мне ўжо не бяда: купіў калёшы. Праўда, на левую нагу № 15, а на правую № 12, але заплаціў усяго 5 руб. і вельмі здаволены гэтым набыткам. Ці атрымалі ўжо ад Гурыка чарговы ліст, ад 2.XI? Я рад, што цяпер Гурыку лепей. Першы месяц яму было дрэнна, а як пераехаў у Мядзведжую Гару, зрабілася лепей. Там і кормяць лепей, і далі ватны бушлат, ватныя штаны, бацінкі. Усё гэта добра. Дзве Ларыных пасылачкі таксама падтрымалі яго. Надоечы я напісаў яму адкрытку. На жаль, мала чаго мог напісаць яму пра Лару і дзяцей. Напісаў толькі, што Славік прыехаў, а больш сам нічога не ведаю. Ці Лара жыве з табою, Лёля? З Багацькаўкі мне даўно не пісалі. Што яны пішуць вам? Ну, а як жа Парфір? Дзе ён жыве? У мяне ўсё па-даўнейшаму. Чарчу. Увечары чытаю, пішу.

Толькі — збіўся з тропу ў гэтым чытанні-пісанні,— не ведаю, за што хапіцца, ці за механіку ці за гісторыю? Таксама непакоіць ваша бытаванне. Што вы ясцё? Дзе знаходзіце грошы на кватэру і дровы? Ці прадала ты, Лёля, за гэты час якія рэчы? 4-га паслаў вам 40 руб., каб хоць дроў купілі. Ты, Лёля, пісала, каб я «гэтага больш не рабіў...». А мне здаецца, што я і так больш дбаю пра свой лантух, чым пра свой бацькаўскі абавязак... Можа, ты гэта ў насмешку мне пісала? Галя, што ты цяпер чытаеш, дзе бярэш кніжкі для чытання і хто кіруе тваім чытаннем, апрача мамы? А ты, Лёня, ці чытаеш? Як тваё маляванне? Ці сварыцеся вы з Галяю? Калі ласка, не сварыцеся, забывайцеся на дрэнныя прыклады. І сцеражыцеся прастуды, а то яна лёгка да вас чэпіцца. Лёля, перадай Лары, каб яна не турбавалася; вядома, адзін ліст прыходзіць раней, другі пазней, а ён здароў, на тым самым месцы, і ўсё добра. Ну, бывайце. Пішыце.

Ваш *Мак.*

## 44. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*17 лістапада 1931 г., Вятка*

17/XI 1931

Добры дзень, жонка і дзеткі!

Пішу, ідучы на працу, дык хапаюся. Учора атрымаў рукапіс «Віленскіх камунараў». Вельмі дзякую за высылку. Аказваецца, і не вельмі дорага каштуе, заказн. [ая] бандэроль — і ўсяго 40 к. Толькі мяне здзівіла рука на адрасе,— чыя гэта рука? А ліста ад Вас усё няма. Ці атрымалі 40 руб. грошы? Я пасылаў 5/XI. Ці атрымалі маю адкрытку ад 8/XI? З Багацьк. [аўкі] таксама не пішуць даўно. Гэта мяне крыху непакоіць, хоць я прызвычаіўся ўжо да ўсяго. Сумную тваю адкрытку, Лёля, дзе пішаш, што службу статыстыка мусіш пакінуць, я атрымаў. Не падай духам. Знойдзеш што-небудзь другое. Пішы больш пра сваё становішча. Можа, што параджу. У мяне навін няма. Здароў. Працую. Учора засеў за «Віл. [енскіх] камунар. [аў] ». Як Вы здаровы? Мусіць, нехта хворы?

Цалую.

Ваш *Максім.*

## 45. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*20 лістапада 1931 г., Вятка*

20/XI 1931 г.

Добры дзень, жонка і дзеткі! Ліст ад 14/XI атрымаў. Ён ужо выйшаў як быццам весялейшы. А ўчора прыйшла і Парфірава адкрытачка, што пісаў 9-га ў Багацькаўцы. І ўсе лісты, пра якія пытаешся, атрымаў. Я рад, што цяпер Гурыку лепей. «Камунараў» атрымаў, пра што ўжо паведамляў табе. Там частка рукапісу засталася ў цябе, дык няхай сабе, абыдуся без яе. Што пішу? Усё патроху. Цяпер якраз прыводжу да ладу рукапіс «Камунараў». Яшчэ канчаткова не ведаю, у якім плане напішу. Ці гэта будзе нешта падобнае да нарыса ці нейкай сыраватай повесці з розных абразкоў і сцэнак. Сёння ў мяне выхадны. Хадзіў па газу. Газы мне хапае, хоць і доўга можна сядзець увечары. Навін жа няма. Грошы з Волагды ніяк не ідуць. Ужо мала на іх і надзеі, але трошку яшчэ (надзеі) ёсць. Пічэта ўжо працуе, у Цэрабкопе нешта лічыць. Даўно з ім не бачыўся, чуў ад Чарнушэвіча, бо ён заходзіў, каб жыць у Шубіных (тая крывая бабулька памёрла). Але яны не здалі яму пакойчыка. Я працую (на службе) добра, стараюся, троху чаму і падвучываюся. Адносіны да мяне добрыя. Сталоўка фупаўская вельмі падтрымлівае, бо картка ў мяне цяпер 2-й катэгорыі. Хадзіў сёння на рынак. Думаў, можа, трапяцца калёшкі для Лені, ды не знайшоў. Ну, цалую. Бывайце.

*Максім.*

Скажы Парфіру, што ехаць да мяне далёка, а хвароба ў яго мінецца, гэта ад працы.

## 46. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*28 лістапада 1931 г., Вятка*

28/XI 1931

Добры дзень! Адкрытку атрымаў. Бурак і калёш няма. На рынку — валенкі, на яго нагу рублёў 30, дык няма сэнсу купляць, лепей зваліць у Багацьк. [аўцы] ці пачакаць калёш. А зараз купі яму добрыя боты, хадзіць без калёш. На гэта і пасылаю грошы. Калі не хопіць — пазыч,

потым дашлю. У нас ужо зіма. Учора было 20 градусаў, а сёння, мусіць, яшчэ болей. Я здароў. Працую над «Камунарамі», пішу ў форме нарыса. Навін няма. Бывайце здаровы. Цалую моцна.

*Максім.*

P. S. Хто яшчэ жыве на кватэры? Боцікі яму абавязкова купі ці закажы.

## 47. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*5 снежня 1931 г., Вятка*

5/XI 1931

Добры дзень! Ліст з Леневымі малюнкамі атрымаў. Быў вельмі рад. Ужо ты, Леня, яшчэ лепш малюеш, чым раней. А чаму пра Галю нічога не напісалі? Ці здаровы вы? Што чуваць з Багацьк.[аўкі]? Я здароў. Была насмарга — прайшла. Маразы меншыя. Цалую моцна.

*Максім.*

Матэрыя крыху з бракам.

## 48. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*10 снежня 1931 г., Вятка*

10 снежня 1931 г.

Добры вечар! Дні два таму атрымаў ліст, у якім пісана, што ў той жа дзень, раней, паслала адкрытку. Чакаў я тую адкрытку, думаў, што ў ёй будзе напісана, ці здарова Галя. Адкрыткі ўсё не было, нарэшце сёння атрымаў-ткі. Але ізноў няма трох слоў: «Мы ўсе здаровы». І нічога няма пра Галю. І мне думаецца, што яна хварэе (можа, на шкарлятыну, бо ў школе была шкарлятына), а вы мне нічога не пішаце. Таксама не пішуць і з Багацькаўкі, ужо даўно, і мне думаецца, што і ў іх нешта ёсць, што ад мяне тояць. Сумна мне ад гэтага, хоць ужо прызвычаіўся я да ўсяго. І супакойваю сябе тым, што ўсё роўна нічым не пасоблю. І тлумачу сваю спадумлівасць рэакцыяй пасля прастуды. Я таксама (як і ты пішаш пра сябе, Лёля) быў крыху занездаровеўшы, але перахадзіў. Вінаваты галёшы... Пілаваў дровы (рэйку), падпільваючы крыху пілкаю і

даламваючы нагою. Пабег здзеў новыя галёшы, каб не папсаваць, надзеў старыя, і ногі дужа пазяблі. А потым хадзіў многа, было выхадным днём. І неспадзявана прастудзіўся. Але ніводнага дня не прагуляў. Хвароба ўжо мінулася, толькі ўсё думаецца, чаму ні слова пра Галю і нічога не пішуць з Баг.[ацькаўкі]. Надоечы паслаў вам кавалак мануфактуры, крыху папсаванай, што выдавалі па авансах, па камерц.[ыйнай] цане, мыла (сыраватага, бо добрага не знайшоў), бо ты, Лёля, некалі казала, што мыла варта купляць. Але, аказваецца, перасылка дорага каштуе. Я і не ведаў, што кожная пасылка табе столькі каштавала. Лені ўсё-ткі купіце боты. Або, як толькі будуць,— калёшкі. І напішыце мне пра Галю. Дзякую табе, Леня, за ліст. Ты ўжо нішто пішаш. Калі не ведаеш, як правільна пішацца якое-небудзь слова, дык пытайся ў мамы і гамані, як пісаць, з Галяю. Я рад, што ты чытаеш ужо і большыя кніжкі, але чытай пакуль што лягчэйшыя. У мяне навін няма. Канчаю апрацоўваць «Камунараў». Цяжка мне іх пісаць для друку, усё баюся, каб не зрабіць якой памылкі ў асвятленні.

Цалую моцна ўсіх. *Максім.*

## 49. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*16 снежня 1931 г., Вятка*

16 снежня 1931 г. Добры вечар! Заўчора атрымаў заказную бандэроль з рэштаю рукапісу «Віленск.[іх] камун.[араў]», а ўчора твой і Лёнеў ліст з яго малюнкамі. Чаму ж Галя нічога не прыпіша? «Калгас» намалёван нішто́, а «Горад» незвычайна добра. Ты, Лёня, мусіць, і цяпер увесь вольны час праседжваеш над малюнкамі? Раю табе болей гуляць, яшчэ паспееш наўчыцца маляваць. Ліст твой напісан добра і цікава. Толькі дужа кароценькі. Пішы мне болей, пра ўсё. Пішы, як умееш. Як думаеш і гаворыш, так і пішы,— і будзе добра. Але не прымушай сябе, а як захочаш — напішы. Ты, Галя, таксама напішы мне пра сваё жыццё хоць трошку. А таксама прашу цябе напісаць кароценька ў Багацькаўку, дзеду і бабе. Напішы ты, затым што маме ж цяпер дужа некалі. А яны будуць надта рады твайму лісту. Я ад іх ужо другі месяц не атрымліваю лістоў і не ведаю, у чым справа. Думаю, што нехта ў іх хворы, а можа, лісты прападаюць, як улетку. А ў вас — ці

зусім ужо мінулася прастуда? Сцеражыцеся яе, дзеткі, а то яна лёгка да вас чэпіцца. Сцеражыцеся, калі яна ўжо і мінаецца. А то я, вось, не пасцярогся вентылятара( ён недалёка ад мяне ў сцяне, дзе я працую), і прастуда мая не паспела добра мінуцца, як ізноў прыхапілася — заўчора і ўчора мучыла мяне. А сёння ўжо нічога. Учора быў у мяне выхадны, на службу я не хадзіў, а заўчора і сёння хадзіў. Сёння ў нас рабілі прышчэпкі ад брушнога тыфусу. (Там, на службе; калі хто захоча сабе зрабіць.) І я сабе зрабіў. Яшчэ будуць два ўколы, праз пяцідзёнкі. Цяпер я раблю прадольны і пяць папярочных профілей дрэваапрацоўчага цэха. Работы многа. А ўвечары чытаю «Гісторыю цывілізац.[ыі] у Англіі» Бокля і канчаю апрацоўваць «Віленск.[іх] камунар[аў]». Нічога выйшаў нарыс, але папрацую яшчэ. А больш навін у мяне няма. Вось, сяджу, пішу вам, а прымус мой шуміць, толькі ціхавата, бо няма тоненькай іголачкі. Калі ў вас ёсць, прышліце мне пару. Пасылку маю вы, мусіць, яшчэ не атрымалі. Марозы ў нас былі вялікія толькі тады, як «стыла рака» (так тут кажуць). Было да 30 градусаў. А цяпер градусаў 10, ціха,— дык як у нас у часе адлігі, толькі снег пад нагамі скрыпіць. Ні ў кога не бываю — часу няма і некуды. Зрэдку заходзіць Чарнушэвіч. Ён дзеля хваробы адмовіўся ад працы ў Вет.[эрынарным] інст.[ытуце]; хоча «падправіцца», а то дагэтуль страшэнна многа працаваў, дык ізноў кроў горлам паказалася. Яму ўжо далі, учора, паперу ў жылчасць на атрыманне пакойчыка. Грошы з Волагды так дагэтуль і не прыйшлі. Напісаў туды пракурор яшчэ раз. Ці пераехала ўжо Лара? Як будзе ў Гурыка, няхай моцна пацалуе яго і ад мяне. А дзе вучыцца Славік? Ну, бывайце здаровы і вясёлы. Не гневайцеся, што рэдка пішу. Цалую ўсіх моцна.

*Ма.*

P. S. Лара, аддайце Вы той чэрап у школу ці закапайце на могілках. Гэта не містыка, а «ўспаміны»... Бывайце!

17.XII. Добры дзень! Учора не паспеў укінуць. Зараз укіну, ідучы са службы. Сёння ўночы раптоўна памёрла адна наша машыністка, кажуць, «ад прышчэпкі». У яе быў парок сэрца. Хто ведае, чаго...

*Ма.*

## 50. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*27 снежня 1931 г., Вятка*

27/XII 1931

Добры дзень! Адкрытку вашу ад 25.XII атрымаў учора. Лара пісала з Багацькаўкі і з Мядзведжае Гары (адтуль 18.XII). Дабралася, відаць, добра. У мяне навін няма. Здароў. Прастуда мінулася. Сёння чысціў тратуар, мая чарга. Устаў рана, падчысціў тратуар, прынёс дроў і яшчэ спяшаюся перад службай напісаць вам. Я быў вельмі рад Леневым лістам, але падумаў, што Галя хварэе, таму што пра яе ні ў тваіх лістах, ні ў яго нічога не было. Добра, калі ўсе здаровы. А з кім яна хадзіла ў лазню? Пытаюся таму, што з лазні лёгка прастудзіцца.

Я ўжо даўно не быў у лазні, бо, калі ні пойдзеш, усё чарга вялікая. Шкода, што ў Лені няма калёшкаў. Калі іх яму не знойдзеш, дык купі ці закажы яму боты. У баціначках яму, без калёш, пэўна, сцюдзёна. Ці было ў пасылцы мыла і цукар? Мыла дрэннае, бо добрага не знайшоў. (Не, не паспею напісаць, бо ўжо без чвэрці 9, пабягу...) Дапісваю ўвечары на пошце, ідучы са службы. Цэлы дзень рысаваў разрэз лесвічнай клеткі, нясучай бакі. Вылічаў адхон, колькасць прыступак. Троху чаму і навучыўся. Адліга, цёпла (градусаў 7—10). Вітаю з Новым годам. Можа, 1933-ці будзем ужо спатыкаць разам,— толькі дзе? З кватэрамі тут справа дужа цяжкая. Кіслякоў не чуваць яшчэ. Кажуць, многіх, як Карпа і Вулька, адпусцілі. «Камунараў» напісаў, але нешта нездаволены ўжо. Хай паляжаць. Цалую моцна. *Максім.*

Надоечы зрабіў прышчэпку 2-гі раз.

# 1932

## 51. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*4 студзеня 1932 г., Вятка*

4 студзеня 1932 г.

Добры дзень усім! Нашто ж гэта вы, хлопчыкі, б'іцё Галю? Добра, калі гэтак толькі жартуеце, жартаваць можна, а дакучаць забараняецца. Ну, нічога, яна ўжо вам не здаецца. Дзякуй табе, Леня, што пацешыў мяне сваімі лістамі і малюнкамі, а цяпер дзякую і табе, Галінка. Я быў дужа рад, што і ты адгукнулася. Маладзец, што пасабля-

еш маме і насіла заказную бандэроль. Гэта, мусіць, другую, што я ўжо атрымаў. Я па тых рукапісах напісаў цікавую гісторыю, калі-небудзь прачытаеце. Там пра Вільню, дзе вы радзіліся, і пра віленскіх камунараў. Вам будзе прыемна, бо вы ж ужо піянеры і шмат што разумееце. А якія ж ты кніжкі бярэш, Галя, у школьнай бібліятэцы? І якія ты, Ленічка, чытаеш? — таксама напішы, як будзеш мець вольны час і захочацца напісаць. Я прасіў дзядзьку Івана, каб ён купіў табе калёшкі. Я атрымаў грошы з Волагды, быў рад. І ў той жа дзень прыйшоў ліст ад Вас, што пісала мама і Галя, і ў той жа вечар ён заехаў да мяне.

Славікаў тата прыслаў мне кніжку «Вопросы ленинизма» Сталіна, і шахматы, і свае бацінкі і калёшы, а мама яго прыслала мне кавалачак добрага мыла. Мама твая, Славічак, скора прыедзе, а можа, ужо прыехала, а тата жыве добра, і ты жыві добранька і вясёленька. Іголкі для прымуса я ўжо маю, дык не клапаціцеся за гэтым. Прышчэпку ад тыфусу надоечы зрабілі мне ўжо трэцюю, адчуваў я сябе ніштo, добра. Мне пераслалі з Баг. [ацькаўкі] кілбас, кавалак сала і бутэльку мёду. Я рад, што ты, Лёля, бярэшся за нешта арыгінальнае. І думаю: замучылася ты перакладамі. Як у цябе са службаю? Цалую моцна.

*Ма.*

## 52. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*14 студзеня 1932 г., Вятка*

14.I.1932 г.

Добры дзень! Даруйце, што доўга не пісаў. От, так выйшла. Пасылаю 30 руб. на дровы. Надоечы дастаў і зрабіў адну прыватную чарцёжную работу. Лара пісала, што выязджае 7-га. Каля 20-га Іван павінен быць дамоў. Прывязе галёшы. Я здароў. Жыву, працую. Цалую.

Пішыце.

## 53. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*14 студзеня 1932 г., Вятка*

14 студзеня 1932 г.

Добры дзень другі раз! Першы раз казаў на пераводзе (паслаў 30 р., хоць на дровы). Цікава, чаму гэта на вашым

лісце і на малюначку («Параход») стаіць дата 4.I, а на канверце менская дата — 8, а ліст прыйшоў сёння. Ці ён у вас пралежаў чатыры дні (4—8), ці яшчэ што? Ну, добра, што хоць прыйшоў. Дзякую табе, Ленічка, за малюнак і за ліст. I маладзец, што дапамагаеш маме ў рабоце. I Галя маладзец, што дапамагае, ужо і бандэроль сама насіла. Толькі асцярожненька хадзі, а то ж там, па Ленінскай і Савецкай, вялікі рух. Спярша я не ведаў, што параіць, ці ехаць хлопцам з дзядзькам Парфірам ці не. А дзядзька Іван раіць ехаць. I абяцаўся сам па іх пад'ехаць і кажушкі падвезці. Дык як уважаеце. Каб толькі не прастудзіліся малыя ў дарозе. Ну і Лара ж, пэўна, ужо выказала свой пагляд. Яе ліст я атрымаў. Вось жа паехалі малыя Феня і Паўлюк (ну ён-то ўжо парадачны хлопец) да братоў. А ехаць жа было вёрст паўтараста з гакам, конямі. Толькі што коні гэтыя бегаюць вёрст па 10 у гадзіну. I ехалі ж адны, толькі з дзядзькам, без бацькоў і большага брата і малой сястры. Як прыходзіцца. Між іншым, чаму ж вы пілуеце дровы? Хіба няма пілаваных? Як відаць, у нас справа з дрывамі лягчэйшая. I ўвесь час надвор'е стаіць даволі цёплае, вялікіх маразоў няма. Думаю, што ў цябе, Лёля, дрэнны гумар не толькі праз дровы. Як у цябе з пераніцаваннем чужых выдумак і пісаннем сваіх арыгінальных? Мусіць, не плацяць доўга за пераклад? А як са службаю? Нічога, будзь весялейшаю. Скора я яшчэ падашлю рублёў колькі. «Неяк яно будзе»,— казаў ці думаў Жартаўлівы Пісарэвіч. Даруйце, што ў адрасе вуліцу напісаў не так і паправіў. I хоць бы ж п'ян быў.

Цалую моцна. *Ма.*

Пішу, бачыце, на вакзальнай пошце, дык таму, можа, і адрас і думкі блытаныя.

## 54. ГАЛІ ГАРЭЦКАЙ

*19 студзеня 1932 г., Вятка*

19/I 1932 г.

Любая Галінка! Маміну адкрытку ад 11/I і твой ліст ад 12/I я атрымаў. Дзякую табе, што ты, як толькі троху паздаравела, зараз і напісала. Таксама трэба асцерагацца з ядою, хоць і не заўсёды гэта лёгка можна зрабіць табе цяпер. А якія ж ты кнігі ў бібліятэцы бярэш? Што за гэты час прачытала? I ці прыходзілася табе апавядаць аб прачытаным, калі такі парадак? А чым жа вы корміце сваіх

курачак і дзе іх трымаеце? Гэта добра, што ты ўдарніца. Але позна хадзіць усё-ткі не варта, трэба старацца, каб неяк іначай арганізаваць гэта, калі можна. Глядзі, правіл трымайся, дык і далей не будзе заўваг. Калі мы праходзілі простыя дробы, дык я не ўсё разумеў, мне цяжкавата было. А з геаметрыяй мне было лягчэй. Цяпер і падручнікі многа лепшыя, уся матэматыка скамбінована ў адным падручніку для пэўнай групы, а ў нас было паасобку і ўсё горш было выкладзена. А што ж вам там даюць на абед? І што вы ясцё дома? Ты пытаешся, як я працую? Звычайна... Іду ў чарцёжную і чарчу там ад 9 да $4^1/_2$ розныя чарцяжы. Надоечы быў на пабудове. Гэта за горадам з вярсту ці болей. Бачыў «цеплякі»: абгароджана дошкамі, і печы бляшаныя, і можна і мур класці, і бетон залівалць, калі і мароз. Дрэваапрацоўчы цэх будзе гатоў ужо ўлетку. А потым — металаапрацоўчы. Будуць рабіць розныя дапамогі для школ (па фізіцы, хіміі і інш.). Я здароў. Жыву нішто. І ў мяне ў пакоі цёпла. Абедаю ў сталоўцы пры фабрыцы, часам вару бульбу дома на прымусе. Надвор'е стаіць цёплае, і даўно, аж усе дзівяцца, што такая тут сёлета зіма. Дзядзіна Лара, мусіць, ужо прыехала? А калёшы, пэўна, будуць ужо куплены, бо адкрытка прыйшла пазней.

Цалую. *Ма.*

Гора маё, што не ўмею хутка напісаць, а то прыслаў бы вам пра Задумекуса.

У мяне сёння ўкралі рукавічкі, але мама (баба) мне прыслала другія.

## 55. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ

*25 студзеня 1932 г., Вятка*

25/І 1932 г.

Добры дзень, Леня! Адкрытку тваю і маміну атрымаў учора абедзве разам. Што ты гэта прастуджваешся? Сцеражыся, братка, прастуды. У хаце распранайся, на двары не расшпільвайся, ногі старайся трымаць у цяпле. Мама пісала, што калёш ужо не трэба, але адкрытка спазнілася, і калёшы табе і Галі, здаецца, будуць. Прывязе Ніна ці дзядзька Парфір. Ты не шкадуй, што за прастудаю не прыйшлося ехаць у Багацькаўку. Узімку да іх ездзіць сцюдзёна маломи, з'ездзіш улетку. Абы здароўе. У мяне навін няма. Здароў, жыву, працую. Надоечы быў у Чарну-

шэвіча; да яго прыехаў у адведкі брат-чырвонаармеец, прывёз яму сала, і мяне частавалі. У нас ізноў пачаліся марозы. Я цяпер чарчу разрэзы леснічнай клеткі, над якою будзе стаяць бак з вадою. Многа чаму навучыўся. У Ленінскі дзень мы працавалі і заробак за гэты дзень аддалі на школы Марыйскай аўтаномнай рэспублікі. Я пісаў пра Задумекуса, ды пакуль што адлажыў, бо не пішацца так, як хочацца. Малюначак твой на адкрытцы харош. Ну, бывай.

Цалую ўсіх. *Максім.*

## 56. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 студзеня 1932 г., Вятка*

30/I 1932

Таксама — добры вечар! Атрымаў сёння вашу адкрытачку ад 23.I. Вельмі дзіўлюся, дзе ж гэта так доўга блыталася мая адкрытка, пісаная на вакзальнай пошце. А паслана ж была ў той жа дзень, як і грошы (14.I.). А прыйшла пазней за іх. Вось тут і пішы... Крыўдуеце на мяне, што рэдка пішу. Праўда. Вінават. Пастараюся пісаць часцей. А вы мне пішаце часцей, але неяк надта каротка. Можа, так і трэба. Я не крыўджуся. Як ёсць, так і ёсць. Я не выпісваю з Менска ні газет, ні часопісаў, бо няма на гэта грошай. Дый дужа не гарую па гэтым. Як ёсць, так і ёсць. Мне ж трэба крыху і падвучвацца ў сваёй новай спецыяльнасці. Патрэбен на ўсё час. Дзе тут займацца тым, што адрэзана. Жыву ціха, спакойна. Дружу з сваім вечаровым столікам. Шаную і дагаджаю свайму дзеннаму століку, які я называю сваім фаховым тронікам. Сёння ў мяне выхадны. Купіў бульбы на 2 рублі і масла на 7 руб. Даўно масла не купляў. Быў у мяне гемарой, але, балазе, мінуўся. І здароўе сваё шаную. Клапаціў, што ў Лені такая прастуда. З калёшкамі ізноў не ўдалося. А я ж думаў, што знойдуцца на гадоў 12, каб можна было газеткі падлажыць, калі вялікія. Ну што ж, прадай іх, можа, дастанеш большыя. Ну, Лёнічка, віншую цябе з першымі доўгімі штанамі. Будзь маладзец. Якія ў вас яшчэ навіны? У нас пачаліся былі марозы, цяпер ізноў пацяплела. Хлеб на рынку 1 р. кілё. Масла альняное 7 р. 50 к. літар (было 10 р.), а кароўскае 7 р. 50 к. фунт. Свініна (сала з мясам) — 6—7$^1/_2$ руб. кілё. Бульба — 4 руб. пуд. Дровы 15—23 руб. воз. Удалося мне сёння купіць 10 сшыткаў па 10 к.

штука. Буду што-небудзь пісаць. Напісаў надоечы ў Багацькаўку і Гурыку. Ну, цалую цябе, Галю, Леню і ўсіх.

Бывайце здаровы.

Ваш *Максім.*

## 57. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*3 лютага 1932 г., Вятка*

3/II 1932

Добры вечар, Цярплівая Ласка! Добры вечар, парасткі малыя! Заўтра ў Задумекуса выхадны дзень. Зараз ляжа Задумекус у свой аблезлы човен і панясецца на выспу Патмос. У той дарозе, можа, спаткае любых сэрцу свайму, пабачыцца з імі, пагамоніць. Цёпла будзе блазеннаму, бо ў каморы ў яго сёння настрой Арктыкі і кіно-парад скарбаў жыцця перад задуманымі вачыма. А ты пішаш для дзяцей пра трактар і старанна вывучаеш механізм гэтае машыны... Што ж, няхай жыве сталёвы конь! Радуецца сэрца імпатэнта... У цябе лічбы, лічбы і лічбы, а ў мяне маршы, маршы і маршы лесвічнае клеткі, і цяцівы, і касавуры, швелеры і таўровыя балкі, ступені жалезабетонныя і металёвыя, і поручні, і пярылы... Гэтыя маршы — да новага жыцця, гэтыя ступені — для новых ног.

Радуецца сэрца імпатэнта, бо ён ужо — амаль што не блазенны, парад яго — амаль што не сумны. Што яшчэ скажа ён Цярплівай Ласцы і сваім парасткам любым? Няхай пра яго не думаюць, няхай пра яго не клапоцяць. Каб не быў ён ім зубам, што ные і ные... Ну нічога: жыццё само палечыць, час усё загоіць. І тады не будзе таго ліпняга наракання: чаму ён часцей не піша? — Як трэба — напіша. Як зможа — паможа. Толькі трэба менш пра яго думаць. Трэба ісці сваім шляхам. Навін у мяне няма. З Багацькаўкі яшчэ не пісалі... А што пісаў Гурык? Ці яшчэ не пісаў? Калі вас што цікавіць, напішыце, пра што вам пісаць. А ці выйшла твая кніжачка пра свінаводчую станцыю, ці яшчэ не? А мыла гэтае, аказваецца, яны самі вараць, і яно дрэннае. Каб ведаў, не купляў бы. Бывайце здаровенькі.

*Брадзяга.*

## 58. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*9 лютага 1932 г., Вятка*

9.II.1932

Добры дзень! Чаму не пішаце? Што там у вас здарылася такое? Лепей мне ведаць, чым не ведаць. Ці, можа, адкрыткі мае дзе-небудзь прападаюць, а вы думаеце, што я не пішу, і ўсё чакаеце. Апошнюю вашу адкрытку я атрымаў першага чысла. Навін у мяне няма ніякіх. Увесь час стаяць вялікія марозы, да 35° (па Цэльсію). Халодна. Дровы падаражэлі. Сёння хадзіў купляць і не купіў. Абеды ў нашай сталоўцы таксама падаражэлі. І наогул усё падаражэла. А як у вас? Няўжо таксама? Як жа вы жывіцё? У блізкім часе пастараюся вам выслаць хоць рублёў 20. Заўтра, мусіць, дадуць грошы. З Багацькаўкі мне не пішуць. Апошняя адкрытка была ад 19.I. Няўжо Парфір яшчэ не прыехаў? Вось што: цяпер, як будзеце мне пісаць, дык заўсёды адзначайце, якую адкрытку маю атрымалі, каб я ведаў, дайшла ці не дайшла. І я таксама буду рабіць. Калі будзеш мець час, Лёля, вышлі мне заказною бандэроллю мой спытак «Хронікі», што да 15-га года. Хоць я яго троху спарадкую. Не ведаю, ці вярнулі табе мае рукапісы з успамінамі пра дзіцячыя гады, вучэнне ў Крушні і Норках. Усё гэта я пісаў там. І гэта ўсё мне цяпер бы спатрэбілася. Але нічога: калі няма, дык я напішу ізноў. Там яшчэ было: плытагонская тэрміналогія, розныя запісы, «Мяшчанскае каханне», «Джаліта», «Маруся», «Вяселле» і інш. А дзе ж гэта Лара на адпачынку? І што піша Гурык? Як дзеці? Усё «чхаюць»? Ці большае што? Ты ад мяне не хавай, я заўсёды да ўсяго гатоў. Але хачу думаць, што ўсё добра. Можа, сама падупала? Ой, сніў жа я пра цябе такія сны, што і сказаць табе няма як. Але мая роля была ў іх няшчасная. Я цяпер часта сню вельмі цікавыя сны. Гэтак са мною бывала і раней, напр.[ыклад], у 1916—[19]17 гг. Фантастыка самая буйная і часам — вельмі страшная. Мусіць, што куру. Хацеў бы кінуць, ды як ты кінеш? Ну, бывайце, бывайце.

*Стары дурань.*

## 59. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*14 лютага 1932 г., Вятка*

14/II 1932

Добры дзень, жонка і дзеткі і ўсе дамачадцы! Атрымаў Лёнеў і твой ліст ад 5/II і твой ад 7/II. Як жа твой нос, Лёня? Ці палепшаў? Усё гэтая прастуда... Наконт пераезду я не забываюся. Але думаецца ўсяк. «Штось трывожны свет і людзі...» Піша Лёня, для свайго ўзросту, нішто, добра. Газет і часопісаў мне выпісваць не трэба, і, калі ласка, не выпісвай і не думай. Усё гэта мне лішняе і непатрэбнае. Досыць з мяне маскоўскіх і тутэйшых. А грошы, якія пайшлі б на іх, хай пойдуць на кавалак сала. Гэты месяц мне было з грашмі тугавата, і хоць хваліўся, што скора вышлю рублёў 20,— дагэтуль не выслаў. Дык не трэба траціцца на мяне, ні ў якім разе. Будзь вельмі эканомна. Ну, як Галя, што сказалі на медаглядзе, ці здарова? Бялізну сваю я лаплю сам; нічога, яшчэ доўга абыдуся без новай. Чаму гэта ў Лёні нервовасць? Я ж думаў, што без мяне ён паспакайнеў... І чаго табе, Лёля, быць неспакойнаю і нервавацца, калі праўда, што пішаш пра сябе? Ці ж ты нікуды не ходзіш, нікога не прымаеш? Часцей бывай на людзях, дык падабрэеш, можа... Бацькам пашлю сёння 12 рублёў. Атрымаў адкрытку ад іх. Іван шкадуе, што няўдача з калёшкамі. Пасылку мне прышлюць. Не цешся дужа з майго пісання: вынік пакуль што мізэрны, хоць плануе, мяркую, накідваю тое-сёе. У цябе вынікі, па-мойму, лепшыя. Статыстыкі і тут патрэбны, праўда, але цяжкая гэта праца. Вядома, кажу з свайго погляду, бо я гэтай працы, здаецца, не вынес бы. Хто да чаго... Пра Гурыка што чуваць? Ці пісаў? Дык пра пераезд я не забываюся, і не пішы ты ні пра якія надзеі і ні пра які сум. Пачакаем вясны. Потым, можа, ты папросіш, каб мяне перавялі куды бліжэй,— ну, хоць у Бранск. А нельга — будзем жыць і ў Вятцы. З кватэрамі тут дужа цяжка, але дадуць, «неяк будзе». Каб толькі ўсё добра было. І што вы за людзі: жывіцё ўсё нейкімі надзеямі, а ўзяць жыццё, як яно ёсць, не прызвычаіліся. Ну, нічога, нічога: усё добра будзе. Маразы ў нас 2 тыдні, градусаў 30. «Хроніку» (пачатак) прышліце. Цалую.

*Задумекус.*

## 60. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*21 лютага 1932 г., Вятка*

21/II 1932

Добры дзень! Учора Галін ліст, а сёння тваю адкрытку ад 17/II атрымаў. Здароў. Жыву па-даўнейшаму. Ем суп ці боршч (20 к.), пюрэ (20 к.) і кашу (20 к.), два разы ў дзень. Яда спажыўная і здаровая, толькі ўсё з альняным маслам. Купіў дроў, возік 16 руб. Другі дзень адліга, павесялела. Цалую.

*Ма.*

Гурык здароў. Жыве па-даўнейшаму.

## 61. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*26 лютага 1932 г., Вятка*

26/II 1932

Добры дзень ці, праўдзівей,— ноч, бо першая гадзіна начы з 25 на 26. Запісаўся «Хронікаю». Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло да мяне ў хату. І хоць усімі сіламі хачу скараціцца, каб хутчэй, і хапаюся, але прыемна мне, і радуюся, што на лад пісанне маё патрошку пайшло. Калі ласка, прышлі, Лёля, яшчэ матэрыялы да 1913 і 1914 гг. Іх, праўда, вельмі мала, але прышлі. Яны ўкладзены, здаецца, за 1913 г. да выпраўленага друку «У чым яго крыўда?», а за 1914 г. да выпраўл.[еных] і друкаван.[ых] на машынцы запісак «На імпер.[ыялістычнай] вайне». Бандэроль была крыху разарвана, але атрымаў, пэўна, усё: тры сшыткі, першы да 1913 г., другі — 1915 г. і трэці — 1916. Хоць апошніх і не прасіў, але добра, што здагадалася.

Галінка, дачушка мая любая! Што ж гэта ў цябе плечкі няроўныя? Можа, мы вінаваты, а можа, ты сядзіш у школе няправільна. Старайся сядзець, пішучы і чытаючы, роўненька. Але нічога, не клапаці. У мяне правае плячо ніжэйшае — жыву. Што ты зробіш... І ты, Леня, галубок, старайся сядзець роўненька. Сумна мне, падумаўшы, што не магу памагчы вам нічым. Калі вам гаворыць хто штонебудзь брыдкае, благому навучае,— вы не слухайце і *пра ўсё, пра ўсё* маме расказвайце. Не бойцеся і не саромцеся, мама заўсёды зразумее вас і зробіць тое, што трэба для вас, для вашага добрага ўзгадавання. Надоечы паслаў вам

20 руб. Грошы нам за гэты месяц часткова крыху зацягнулі. Ізноў стаяць марозы. Але ў мяне цёпла, купіў дроў. Ну, бывайце.

Цалую моцна. Адкрытку № 2 атрымаў.

Ваш *Ма.*

## 62. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*29 лютага 1932 г., Вятка*

29/II 1932 г.

Добры дзень! Вітаю Галінку з 11-ма гадамі і пасылаю на гасцінцы. Ці атрымалі маю адкрытку, у якой я паведамляю, што бандэроль атрымаў? Я ад вас пасля № 2 лістоў не меў. Навін у мяне няма. Здароў. Працую. Жыву падаўнейшаму. Яшчэ марозы, але сонца ўжо прыгравае. Бывайце. Цалую моцна.

Ваш *Максім.*

## 63. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ

*4 сакавіка 1932 г., Вятка*

4.III.1932

Добры дзень, Леня!

Адкрытку тваю ад 25.II я атрымаў. Гэтымі днямі я атрымаў таксама адкрытку ад дзеда з Багацькаўкі, а сёння ліст ад дзядзькі Гурыка з Мядзведжае Гары. Дзед піша, што ў іх усе жывы-здаровы, жывуць па-даўнейшаму. Яны намалолі сабе мукі і надралі круп, у Курманаве, бо там ужо наладзілі млын. Толькі ў іх крызіс з кармамі для жывёлы, але спадзяюцца атрымаць з калгаса. Я ім паслаў за мінулы месяц 12 руб., а за гэты збіраюся паслаць 13 руб. Дзед піша, што ён даўно напісаў бы мне, каб сам умеў. Аніссін бацька зваліўся і зламіў сабе рабро, дык Анісся хвалюецца. Дзядзька Гурык піша, што жывецца яму добра; ён шмат працуе па геалогіі, стараецца, і за гэта яму лепей. У мяне навін няма. Здароў, нішто. Шмат працую і цяпер не толькі чарчу, але маю справу з рознымі вылічэннямі,— за гэта мне, можа, рублёў 10 прыбавяць. Увечары пішу «Хроніку» і напісаў да 1903 г. Усё добра. Толькі мяне клапоціць, што табе баліць нос. Можа, гэта аскладненне

пасля грыпу. Ты, Леня, схадзі да доктара, абавязкова. Ну, вось. Перадай прывітанне Галі і ў дзень яе нарадзін будзь з ёй увесь дзень асабліва ласкавы і ў гэты дзень сыграй ёй што-небудзь на гармоніку, калі нікому не будзеш перашкаджаць. Ну, бывай.

Твой *Максім*.

## 64. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*4 сакавіка 1932 г., Вятка*

4.III.1932

Добры дзень! Тваю адкрытку, Лёля, ад 29.II і Ларын ліст з Зазер'я ад 27/II таксама атрымаў. Дзе ж гэта ты схапіла грып? Цяпер асабліва сцеражыся, не бегай. Грып часам цягне за сабою аскладненні, горшыя, чым ён сам. І чаму ж не напісала, што хварэеш? Ну, Галя ўжо зусім маладзец у нас, і па тэлефону, калі трэба, пазвоніць. У нас доўга стаялі вялікія марозы, але цяпер адліга, і сонейка прыгравае па-веснавому, пацяплела. Вакно маё за дзень адтайвае зусім. Я рад, што дроў трэба меней. Купіў за зіму тры вазы. Думаю, што больш да лета купляць не буду, абыдуся, бо яшчэ троху ёсць. Пішу на пошце, за сталом, а тут нейкі гандлёвы агент адтуль знайшоўся, гутарыць пра Менск і перашкаджае пісаць. Кажа, што ён хоча сюды пераехаць, бо тут усё дзешавей. Пытаецца, гамоніць. Ану яго. У мяне навін няма, я ўжо пісаў Лені. Заўтра выхадны. Цяпер у нас 6-дзёнка. Працы гэтыя дні было вельмі многа. Тэхнік спярша піў, потым хварэў, а цяпер зусім разлічыўся, і мне прыйшлося складаць вялізарную ведамасць для заявак на матэрыялы на [19]32 г., па нормах [19]32 г. Гурык у сваім лісце, каб мяне падахвоціць да пісання, столькі нагарадзіў пра Талстога, Пушкіна, Лангфела, што мне аж прыкра за сваю мізэрную работу зрабілася. Называецца — «перабаршчыў». І калі мне пісаць? Часу няма... А дзе ж гэта будуць жыць Ларыны бацькі? З вамі? Дык гэта добра. Вельмі я рад, што Парфір на добрай дарозе (пісала Лара). А з Леневым носікам схадзіце да доктара, не запускайце. Якое доўгае апавяданне ты збіраешся пісаць? А што чытаюць Галя і Леня? Ці кіруеш ты іхным чытаннем? Ну, бывайце. Цалую моцна.

*Ма.*

Прывітанне Лары. Напішы, як твае службовыя справы.

## 65. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*12 сакавіка 1932 г., Вятка*

12/III 1932

Добры дзень! Адкрытку, у якой пытаешся, куды падаваць заяву, надоечы атрымаў. Калі падаваць, дык, мусіць, у Калегію ў Маскву. Але, здаецца, трэба пачакаць. Я не ведаю, што і як рабіць. Можа, найлепей нічога не рабіць. Я здароў. Мне цяпер плацяць 119 р. 42 к. Сёння мароз 15 градусаў. Надоечы была завіруха. Чаму мала пішаце? Цалую. Бывайце.

*Максім.*

## 66. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*19 сакавіка 1932 г., Вятка*

19/III 1932

Добры дзень, жонка і дзеткі. Сёння ў мяне выхадны дзень, засеў пісаць. Напісаў у Менск следавацелю Сікорскаму, каб выслаў, калі можна, мае рукапісы («Джаліта», «Вяселле», «Маруся», «Мяшчанскае каханне», «Дырыжаблі» і інш.), што я напісаў, як быў там. Навін у мяне няма. Так жыву, як і жыў. Плацяць мне цяпер 119 р. 42 к. Можа, яшчэ прыбавяць, бо маю справу з каштарысамі, раблю выбарку матэрыялаў для заявак, лічу, менш чарчу. У нас таксама пераглядалі штаты. Папсаваўся мой гадзіннік, аддаў ладзіць за 9 руб. Занёс, нарэшце, і бацінкі, хаджу ў Гурыкавых. Паслязаўтра будуць гатовы. Занёс сёння і старыя калёшы; заплацілі 8 кап. і далі талон, што магу купіць без чаргі новыя, як прыйдуць. Калі будуць дзіцячыя, дык куплю 13 №. Усё троху падаражэла. Кватэры яшчэ не шукаю, але распытваюся ў знаёмых, каб сказалі, калі што будзе. Наконт заявы аб пераездзе ў іншы горад (Смаленск, Бранск, Цвер?) ці якой палёгцы,— не ведаю. Дасведчаныя людзі раяць пачакаць да года (да лета). І не ведаю, ці самому пісаць ці цябе, Лёля, прасіць. Можа, лепей, каб ты спярша напісала Вільгельму Георгіевічу Кнорыну. Ён, пэўна, цяпер у Маскве. Мне, можа, нязручна пісаць,— як ты думаеш? Нядаўна меў ліст ад Гурыка. Нічога, піша добра. Я паслаў вам 30 руб. і дамоў 14. Думаю пра Ленеў нос і Галіна плячо. Напішыце. І як твая хвароба? Чаму баліць галава? Схадзіла б да доктара. Бачыў у Чарнушэ-

віча «Беларусь калгасную» і «Літар.[атуру] і мастацтва». Ну, бывайце.

Цалую. Ваш *Максім.*

## 67. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 сакавіка 1932 г., Вятка*

30/III 1932 г.

Добры дзень, жонка і дзеткі! Я ўжо пісаў, здаецца, што адкрытку вашу ад 16.III атрымаў. А 27/III атрымаў ліст, з Леневаю «Зімою». Праўда, малюначак настраёвы — зусім зіма. Добра, Леня, што ты і дзядзьку Гурыку паслаў малюначак; ён будзе рад. І гэта добра, што ты цяпер больш чытаеш. Я не ведаю, што цяпер трэба чытаць дзецям твайго ўзросту. Але, мусіць, трэба ўжо табе чытаць некаторыя апавяданні Гогаля, Пушкіна. Яшчэ была ў нас кніжка «Гаявата» Лангфела, можа, яна табе спадабаецца. Парайся з мамаю, што чытаць. І пытайся ў школе, якія кніжкі браць у бібліятэцы. Таксама і ты, Галя. А чаму гэта Галя ў лісце нічога не напісала? Вы, калі пасылаеце ліст, дык пішыце ўсе патрошку і на асобных лістках. Можа, у вас няма паперы, дык я вам прышлю вучнёўскіх сшыткаў, у мяне ёсць. Прысласць? Як жа гэта ты, Леня, злавіў птушку? А я, калі ў нас былі вялікія маразы, бачыў каля паштовай скрынкі, каля паштамта, нежывога верабейчыка на снягу — мусіць, змерз. Тут кажуць, што сёлетняя зіма у іх — вельмі лютая. А я не заўважаў. Былі марозы нейкі час троху большыя, чым бываюць у нас, і ўсё. Цяпер ужо і ў нас кожны дзень на вуліцы макравата, тратуары ачысціліся. Вось, Лёля, заклапаціла ты мяне сваім баленнем галавы ад таго няшчаснага выбуху ў лабараторыі (у якой, я і дагэтуль не ведаю). Зразумела, я навучыўся быць спакойным, але ж гэта справа сур'ёзная. Трэба было б схадзіць да якога спецыяліста. Таксама — ці ёсць у цябе на руках які дакумант, што няшчасны выпадак здарыўся на рабоце? Гэта ж павінны былі б даць табе нейкі адпачынак. Я не ведаю, як гэта робіцца. Ты спытайся там у людзей. Найлепей, вядома, каб галава болей не балела, і ўсё мінулася б. Я нядаўна таксама хварэў на грып. Ездзіў абмяраць руіны манастырскага сабора на цэглу для новай ФУП (цяпер ужо ФУП № 5), троху застудзіўся, а потым хадзіў даведвацца Чарнушэвіча, ён хварэў на грып. Дык во адно

к аднаму. Ну, я ўжо здароў, толькі сцерагуся, захінаюся ходзячы, а ў яго, бедака, ізноў кроў горлам пайшла. Пічэта — нічога, бегае. Бачымся рэдка. А пад канец адкрытачкі прыемнасць. Гэта, каб ты не клапаціла, што я «ўва ўсім уразаю сябе, каб прыслаць вам». Мне будуць плаціць яшчэ болей. Інжынер гаманіў з дырэктарам, і пастаноўлена давесці маю стаўку да 180 руб. Ну, бывайце здаровы.

Цалую моцна. *Максім.*

## 68. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*11 красавіка 1932 г., Вятка*

**11/IV 1932 г.**

Добры дзень! Ліст ваш атрымаў. А ці атрымалі вы мае адкрыткі? Ці падавала заяву аб маім пераводзе? Грошы мне так яшчэ і не прыбавілі,— рана пахваліўся... Але калі не прыбавяць, дык заплоцяць з 1/III здзельна, буду мець колькі «лішніх» рублёў. Працую цяпер у вячэрнюю змену, іду на працу к $3^1/_2$, а прыхаджу а $10^1/_2$. Праз тыдні два будзем хадзіць у кантору на пабудове, далёка. З Багацькаўкі нядаўна пісалі. Усе здаровы. Хаджу ў новым пінжаку і вельмі рад. Пуд мукі ў нас ужо 35 руб. Чарнушэвіч лёг на месяц у санаторый. Я здароў. Як вы?

*Ма.*

Галя і Леня, у нас вясна, цуркі, і праз раку ўжо забаронена ездзіць і хадзіць.

## 69. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*22 красавіка 1932 г., Вятка*

22/IV 1932 г.
Вятка.

Добры дзень! Апошні ліст ад вас быў пісаны 8/IV. Такім чынам, ужо за паўмесяца не ведаю вашага жыцця: ці здаровыя вы і што там у вас і як. Маўчанне ваша тлумачу тым, што лісты або затрымаліся ў дарозе, або зусім прапалі. Але грошы 30 руб., што паслаў з тыдзень таму, пэўна, атрымалі. Гэтымі днямі вышлю яшчэ рублёў 10, каб вы хоць крыху аздобілі сабе 1-шы Май. У нас падняліся цэны, падаражэў хлеб, пуд мукі каштуе 40 рублёў, а служачым прадуктовых картак 1/IV у нас ужо не выдалі,— як у вас?

Толькі вы пра мяне не клапаціце, мне прыбавілі пенсіі, і зарабіў яшчэ вечароваю работаю. Прадаў тое бобрыкавае паліто. Хоць ужо і добра паўжыванае было, а далі 75 руб. Паладзіў бацінкі, аддаў памыць усю бялізну, купіў мыла на 10 руб., надоўга хопіць. Зрабіў маленькі запас прадуктаў, бо дарога папсавалася, дык на рынку сялян амаль што не бывае. Снегу ўжо засталося мала, прыляцелі гракі і жаўранкі, цёпла. Кранулася гэтымі днямі рака Вятка. Перад Першым мая, пэўна, будзе выплата пенсіі, дык я вышлю вам яшчэ, бо выплата ў нас крыху зацягнулася. Пасля грыпу ў мяне яшчэ цягнецца кашаль. Я хадзіў да доктара, у платную паліклініку. Доктар (Рассіхін) нічога не знайшоў, толькі маленькі міякардыт сэрца, маленькі артэрыясклероз і, мусіць, нейкія зрашчэнні на месцы апендыцыта. Лёгкія — нічога, а кашаль ад курэння, трэба менеи курыць. Есці трэба цёплае і не хапаўшыся. Прапісаў парашкоў. Вось і ўсё. Так што я здароў. Работы цяпер многа, і кожны выхадны дзень ходзім на суботнікі, на пабудову, ачышчаем, каб хутчэй пусціць часць фабрыкі. Праз некалькі дзён кантора наша туды пераязджае. Прыйдзецца хадзіць гадзіну туды, гадзіну назад. Але мне гэта — прагулка толькі. Няма часу пісаць. Гурык даўно не пісаў.

Цалую. *Ма.*

## 70. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*24 красавіка 1932 г., Вятка*

24/IV 1932 г.

Добры дзень! Чаму гэта вы мне не пішаце? Што такое там у вас? Пасылаю к 1-му Маю дзецям. Меліся ўчора даваць пенсію, ды не далі, а сёння выхадны, дык пасылаю, каб дайшлі да 1 Мая. Ідзе дождж, мокра. Хлеба ў сталоўцы ў нас ужо не даюць, добра, што я зарабіў крыху звыш пенсіі. Дык пішыце ці прышліце хоць тэлеграму, што здаровы, калі лісты гінуць.

*Ма.*

## 71. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*29 красавіка 1932 г., Вятка*

29/IV 1932, Вятка

Добры дзень! Учора атрымаў вашу адкрытку, пісаную 22/IV. Як відаць, адна адкрытка мая да вас не дайшла. Ну,

нічога. Ад Гурыка таксама даўно не маю вестак. Ці ведаеце вы пра яго што? З Смаленскам згаджаюся,— каб толькі дазволілі. Я там жыў бы ўжо і заўсёды, бо ў Менск мяне зусім не цягне. Але ці дазволяць? Можа, прыйдзецца бавіць час у Вятцы ці яшчэ дзе далёка, аж пакуль не адчыніцца простая дарога да Вільні. Туды б я таксама паехаў. Але, ізноў жа, калі тая дарога будзе? Падаў заяву наконт кватэры. Цяжкая тут справа з кватэрамі. І клапоціць мяне, што трывога пануе ў свеце. Хто ведае, куды трапіш... Але нічога. Усё нічога. Усё добра будзе. Часам находзіць на мяне вялікая злосць і крыўда, што фактычна адкінулі мяне ад літарацкае работы, як апошнюю непатрэбшчыну. Бо ці ж я магу ў сваіх цяперашніх умовах пісаць? А няўжо ж я так-такі нічога не варты, нават з самага левага пункту погляду? І вось надоечы напісаў у Менск начальніку ГПУ, каб вярнулі мне мае затрыманыя рукапісы. Але хто там пачуе мой голас, калі я не пісьменнік, якога б нехта цаніў як пісьменніка? Ну, нічога. Усё нічога. Усё добра будзе. Каб толькі мне напісаць гэтую сваю «Хроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае. Працую на службе многа. Ну, прыедзеце,— вядома, «будзе лягчэй і весялей», як ты пісала. А калі што якое,— можаце ж і назад паехаць. Пінжак прыстараўся Іван. Можа, напішаш, якую кніжку перакладаць, дык я дапамог бы? Як ведаеш... Заўтра выхадны, і святкуем 1-га і 2-га. Тры дні адпачынку. Рака разлілася дужа, на вярсту, увесь той бераг, дзе купаліся, і лесазавод,— пад вадою. Чарнушэвіч заўтра выходзіць з санаторыя, але справы яго невясёлыя. Хоць бы там брат за яго стараўся, а то застанецца ён у Вятцы навекі. Пічэта нічога, бегае. Дык дзякую табе, што падала заяву. З Баг.[ацькаўкі] пісалі. Цалую.

*Максім* дурны саўсім.

## 72. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*2 мая 1932 г., Вятка*

2/V 1932 г.

Вяцкі народ хвацкі

Першы май і вялікдзень у гэтым годзе прыйшліся на адзін дзень. Яны пяклі, смажылі — хто іх ведае, да якога свята. Усе добрапарадачныя абываце́лі, вядома, для свайго

свята, але гэта, як здавалася Лявону, не заўсёды было так у змесце, як у форме. Гаспадары запрасілі яго ўвечары да сябе (раптоўна, калі ён лапіў кашулю і штаны). Пачаставалі пірагом з рыбаю і коўшыкам бражкі. Так спаткаў ён з добрымі людзьмі Першы май. Памыцца к святу не ўдалося, бо тут праз усю зіму заўсёды была чарга ў лазню, а ў гэты дзень яна была вялізарная. Стрымаўшы свой нялюдскі апетыт, каб не зменшыць лічбу яе ватрушак і не папсаваць яе гумар, ён развітаўся і выйшаў у свой пакой. І надумаўся крыху прайсціся на свежым паветры, хоць у гэткую пару на вуліцах Крутагорска могуць распрануць — як піць даць. Ну, сёння ж на вуліцах мнагалюдна. Вось — Цараўская цэрква (ад яго кватэры толькі праз мост). Бітма набіта. І людзі розных станаў. І ўва ўсіх свечачкі ў руках. Гэта табе не цёмны закутак у палескай глушы, дзе чалавека не зацягнеш у царкву, калі верыць аўтару той повесці пра Ядвісю. Ну, ладна. І п'яных ужо вядуць і вядуць. Але трэба выспацца. Заўтра ж маніфестацыя. І Лявон вярнуўся, выспаўся — і назаўтра хадзіў, як і ўсе людзі. Гэтак, як і ў вас там. Заўважце: жаляцца, наракаюць... часам і тыя, ад каго не спадзяешся. А ўсе добра прыбраныя (вядома, не па-панску), і твары ўва ўсіх здаровыя, як і ў звычайны сыты час. Надвор'е добрае, уражанне прыгожае. Па абедзе на пляцы — вайсковыя практыкаванні. Ну, самая праўдзівая вайна: грукат, страляніна, агонь, дым, газы, выбухі. Лявон ніколі нічога падобнага на практычных занятках не спадзяваўся ўбачыць, і стаяў доўга, і ўспамінаў свой 1914 год. Сёння ён шыў, чысціў, варыў бульбу, сушыў сухары. Заўтра на работу. І думаў пра вас.

Сніў Ганначку, чаго ўжо даўно-даўно не было...

## 73. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*8 мая 1932 г., Вятка*

8/V 1932

Добры дзень, жонка і дзеткі! Атрымаў вашы першамайскія лісты, і Ленеў, і Галін, і твае прыпіскі. Ну, дзякую вам вельмі. А вас, дзеткі, і віншую з прэміямі. Так, сёлетні май быў лепшы, чым леташні, хоць і не былі мы разам, як і летась. Ну, можа, хутка будзем. Не ведаю толькі, як уладзіцца з кватэраю. Да вашага прыезду, пэўна, не дадуць вялікага пакою, а дадуць метраў на 10, толькі асоб-

ны. Так абяцалі. І ў паўночным раёне, гэта бліжэй мне да фабрыкі, але вельмі далёка ад вакзала. Фурман возьме дорага за перавозку. Навін у мяне няма. Хоць — не, ёсць. Выдалі ўсім прадуктовыя картачкі, і мне за маю работу далі 1-ю катэгорыю! Вось, бачыце, і я маю як бы прэмію. Гэта ў маім бюджэце вялікае падтрыманне. Праўда, працаваць прыходзіцца здорава. А я таму і рад. Толькі што малавата застаецца часу на пісанне. Але тое-сёе раблю і з сваёю «Хронікаю». Упарадкаваў «1915-ты год». Надоечы пісалі мне з Багацькаўкі. Ліст нешта невясёлы,— «што няма з бацькамі ніводнага сына»,— але я не зразумеў, куды ж паехаў Іван. Паслаў маме бацінкі, на разінках, як ёй трэба. Хоць дужа грубыя, але паслаў. Яны пісалі, каб не грошы, а лепей ёй бацінкі. І вам паслаў пасылачку — што выдалі па авансах, па эканамічнай цане, матэрыю. Пісаў Гурык. Ён працуе, не хапае часу, і не бядуе, жывецца яму добра. Вельмі радуецца, што мае магчымасць займацца геалогіяй. У нас цёпла і нават горача, хаджу ўжо і я ў адным пінжаку. Сеюць. Дрэўцы ўчора, пасля дожджыку, зазеляненеліся. Ну, бывайце! Цалую.

Ваш *Максімішча.*

Усе гэтыя выкрутасікі ў адрасе зрабіў я дурэючы. Цяпер думаю: нашто я зрабіў? Але шкода адкрыткі. Не гневайцеся. Больш не буду. Як прыедуць дзеці, буду балавацца з імі, а выкрутасікаў гэтых рабіць больш не буду. Ну, не гневайцеся, проста Гарэцкія, без «горе» і без «горы». Цалую.

Ваш *Максім* — дурны саўсім.

Лявох! Дзякую за малюнак.

## 74. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*9 мая 1932 г., Вятка*

9/V 1932 г.

Добры дзень! Атрымаў пенсію і пасылаю вам 30 руб. Калі Парфір ці Ніна былі ў вас, дык напішыце мне пра Івана. Ці рыхтуецеся ж вы пераязджаць і калі думаеце пераехаць? Гэта ж шмат клопату. Найперш ліквідуй усе лішнія кніжкі. А нарэшце — рабі, як ведаеш. Ты ў гэтых справах разумнейшая за мяне. У нас дужа цёпла, сеюць, горача хадзіць. Цалую.

*Ма.*

## 75. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*14 мая 1932 г., Вятка*

14/V 1932 г.

Добры дзень! Атрымаў ваш ліст ад 8/V. Вядома, дровы варта было ўзяць. Але ці ёсць у цябе грошы? Ці не залязаеш ты ў даўгі? І хто табе пазычае? (Калі не сакрэт, а сакрэт, дык не пішы,— як я і заўсёды табе казаў.) І потым яшчэ хочаш ехаць у Маскву, а з Масквы да мяне. Усё гэта мяне палохае, што вельмі многа патрэбна грошы. А сваю кніжачку ты мне так і не прыслала. Хіба яна яшчэ не выйшла? Да каго ж ты паедзеш у Маскву? Хіба да жонкі М. Горкага («Чырвоны крыж»). Дык завязі ёй мой пераклад «Чалкаша», «Канавалава» і «Озорника». А ці маеш ты мой артыкул (1928 г.?) у «Маладняку» (агляд белар.[ускай] літар.[атуры] пасля «Наш.[ай] н.[івы]»)? Там у раздзеле аб польскай акупацыі я характарызую польскую шляхту. У падполлі выдана кніжачка майго перакладу «Хто такія камуністы?» (Мініна, здаецца),— з даручэння Міцк.[явічуса]-Капсук[аса]. Потым «паслугі» — Рус., Стас. і інш. А нарэшце — мусіць, усё гэта пустое... Хіба яны не ведалі! Ну, рабі, як ведаеш. А мне жывецца *добра* (без жартаў). Не думай, што «невясёла». Хаджу ўжо на пабудову, далёка, але маю картку 1-ае катэгорыі. І жыццём сваім здаволены, адно што не хапае часу пісаць. Цалую і цябе, і Галю, і Леню.

*Ма.*

## 76. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*22 мая 1932 г., Вятка*

22/V 1932

Добры дзень!

Дзён колькі таму атрымаў тваю адкрытку, у якой дэкляруеш напісаць аб усім больш падрабязна. Чакаў-чакаў, не дачакаўся. Дык пішу сам. Навін няма. Ходзім ужо на пабудову. Гадзіну іду туды, гадзіну назад. Працы многа. Але нічога. Жыву, радуюся. Гэтыя дні стаяў холад. Троху пацяплела, але яшчэ не надта.

(Між іншым, і тут сяляне кажуць: надта, абутак, лонісь, дапамагчы, прыйдзеш, ідзеце і да т. п. Прыродныя

мясцовыя сяляне,— мусіць, патомкі старадаўных наўгародскіх крывічоў ці якіх прыгонных ці палонных перасяленцаў.) Тут іншы год бывае «азимица» — у маі, калі зацвітае бэз: часам вываліць снег у паўметра. А сёлета нічога, толькі халаднавата, як і ў нас у маі бывае. Гэта таму, што я тут. З кватэраю пакуль што спыніўся, бо ўсё роўна вялікага пакою на аднаго не дадуць, а прасіць потым другі раз — горш. Дазволу на Смаленск, мусіць, не дачакаемся доўга,— можа, да разгляду ўсяе справы ў цэлым, там, каля восені. А нарэшце — хто іх ведае. Кніжкі прадавай усе. А не прадасі — аддай каму на сховы. Між іншым, тут мне казалі людзі, што на чыгунцы могуць не прыняць мэблі. Даведайся. І ліквідуй усё, а тут зробім драўляненькае. А нарэшце — як ведаеш, бо ты разумнейшая. Рукапісы перабяры: «Хроніку» прывязі (17—21 гады прышлі поштаю, маючы час), а копіі чарнавікоў аддай каму, калі возьме, і пакажы, што даеш, а непатрэбнае знішчы, з чым не вазіцца. Вось. Ну, цалую.

Твой *Стары Дурань.*

Што ж дзеткі мае, галубяткі мае, парабляюць? І бацькі мае ці пішуць?

## 77. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*27 мая 1932 г., Вятка*

27 мая 1932 года, горад Вятка, а паводле Салтыкова-Шчадрына — г. Крутагорск. Па-мойму, горы не надта крутыя, а толькі крутаватыя. Можа, таму так мне здаецца, што ўцягнууся ў хадню, ходзячы на пабудову. Ужо троху пацяплела, а як вы прыедзеце, будзе вельмі цёпла. Кватэру дакляруюць, але, мусіць, прыйдзецца пажыць у гэтым пакойчыку. Што ж такое, нічога. Цяпер лета, і суседзі добрыя, прытулак будзе неблагі. Вязіце толькі самыя патрэбныя рэчы: вёдры, посуд, адзенне. Ложкаў, мусіць, не прымуць на станцыі. Рэчы прадавайце, а калі не прадасцё (не за бясцэн жа аддаваць), дык падкіньце каму паляжаць (ці пастаяць, бо я не ведаю, што там яшчэ ў вас ёсць, а чаго ўжо няма). Парфіру аддайце, калі возьме. Ці даручыце забраць, калі ў яго яшчэ няма кватэры. Кніжкі везці не варта. А каму іх там прадаць і як,— не ведаю. Па этнаграфіі купіла б бібліятэка, але іх мала, ці варта хадзіць, тым больш што т. Сіманоўскі, можа, пабаіцца купіць ад такіх «заразных» людзей. Звалíце іх у якую скрыню, і няхай

15*

стаяць у гаспадара ў пуні. Ці хопіць жа вам грошы на дарогу? Я вышлю вам толькі рублёў 60, бо болей не маю. Вышлю 30-га мая, выхадным днём. Ліст ваш, дзе піша і Леня і пасылае вітанне Галя, я надоечы атрымаў, а той першы, пра які ўспаміналі, мусіць, прапаў. Пісалі мне з Багацькаўкі, што «Іван шчу ў горыдзі». Пэўна, сумуюць яны там цяпер. Паслаў ім пацяшальную адкрытачку, але не дужа вясёлая напісалася. Памёрла Піліпіха. Хварэюць свінні, адзін у нас здох. Ці атрымалі ж вы матэрыю,— чаму не пішаце? Пра сшыткі Леня піша, дзякуй яму, «Лявончыку-дурончыку». Шырокі ложак не будзе дзе і паставіць у гэтым пакойчыку. Ехаць будзеце бесперасадачным. Кажуць, што цяпер цесна дужа ехаць. Я сёння быў у лазні. А гэтыя дні замардаваў мяне інжынер складаннем генеральнага каштарыса на будаўніцтва. А ўсё нічога: жыву і радуюся. І вы радуйцеся. Ці надоўга паехала Лара?

Цалую. Ваш *М. Г.*

## 78. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 мая 1932 г., Вятка*

30/V 1932

Добры дзень! Сёння атрымаў вашу адкрытку ад 26/V. Нешта хутка прыйшла. Я ж табе казаў, што энцыклапедыю прадавай на паперу, бо яна дужа ўстарэла. Калі возьме Парфір, падары яе яму: можа, калі што ў ёй паглядзіць. А за іншыя кніжкі 75 % — гэта нешта надта ўжо добра. Больш за іх і нельга прасіць (апрача старых па этнаграфіі). Куды ты, Леня, ходзіш з хлопчыкамі на рэчку? Глядзі, не лезь там дзе дужа, каб не замачыць ногі і не прастудзіцца.

Надоечы прыслалі мне з Багацькаўкі белых сухароў каробачку. Я ім адпісаў, а сёння напісаў яшчэ, што ўжо ведаю пра Івана. Прыйдзецца, відаць, яму адтуль выбірацца, а то загрызуць яго Мікіцёнкі і іншыя «нехацімцы». У вас пацяплела, а ў нас яшчэ халаднавата. З кватэраю пакуль што руху няма. Цэны ў нас панізіліся гэтымі днямі, на калгасных базарах, а трымаліся такія: мука 40 р. (хлеб 2 р. кілё), малако 4 р. чвэрць, масла таплёнае 9 руб. фунт, яйкі 4—5 руб., альняное масла 10 руб. літр, свініна (сала з мясам, не салён.) — да 12 р., мяса валоўскае — 8—9 р. Ну, бывайце.

Цалую. *Ма.*

## 79. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*30 мая 1932 г., Вятка*

30/V 1932

Яшчэ раз добры дзень, бо напісаў адкрытку. Пасылаю 60 рублёў, а 8—10 атрымаю рублёў 70, дык гэта будзе на фурмана і на першы пражытак тут. А пасылаць ужо болей не буду. Яшчэ ж я і чамаданчыка не прадаў. Ты ж бяры білеты на экспрэс, без перасадкі, гэта трэба неяк загадзя, а то замучыцеся ў дарозе. Калі дадуць, вазьмі з сабою які пераклад, пакінь ім свой адрас. Калі з ганарарам затрыманне,— пазыч грошы,— вышлем.

Цалую.

*Максім.*

## 1935

## 80. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*31 жніўня 1935 г., Смаленск*

31/VIII 35 г.
Ст. Смаленск

Добры дзень! Як вы здаровы, як жывіцё? Я атрымаў у аблана Зах.[одняй] вобласці прызначэнне — выкладчыкам мовы і літаратуры ў поўнай сярэдняй школе ў г. Пясочню. Заўтра а 7-й раніцы буду там і напішу вам, што гэта за месца. Загадчык Пясочнінскага райана, з якім я еду з Смаленска разам, вельмі хваліць. Кажа, што там чыгуналіцейны завод, вялікія будынкі, бары, азёры, яблыкі. Гэта на ўсход ад Рослаўля кілам.[етраў] 60, а ехаць па лініі на Казлоў. Пры чыгунцы. Станцыя Фаянсавая. Цалую.

*Максім.*

## 81. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*24 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)*

24/IX 35. 9 г. рання

Добры дзень! Прыехаў учора ўвечары, але прыйсці ў больніцу было ўжо позна. Адпусцілі мяне з умоваю, што абавязкова прыеду назад. І сказалі, каб даў ім тэлеграму, прыехаўшы. Так зраблю. Напішу, што прыеду «скора».

Пачакаюць. Да таго часу падрыхтуюць кватэру. Я прывёз супроцьдызентэрыйных прышчэпак, 5 ампул,— можа, яны патрэбны? А наконт ваты не здагадаўся. Можа, знойдзем сёння ў горадзе. І віна. Памятай, што ў гэтай хваробе — дысцыпліна і дыета ёсць самае галоўнае. Як бы ні хацелася есці, трэба трымацца, есці дужа асцярожна, памалу. Калі што трэба, напішы. Я йшчэ не агледзіўся. У нас начавала цётка Адаміха з дачкою. Помні, што рухацца, пісаць, нервавацца — нельга, пакуль добра не ачуняеш. Цалуем.

*Ма* і дзеці.

Ампулы прынёс з сабою.
Пасылаем:
1) бутэльку кагору
2) місачку і лыжачку
3) дзве ваты
4) газеты.
Прыйшлі ўтраіх: я, Галя і Леня (яны на вуліцы).

## 82. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*24 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)*

24/IX 35, 5.30 дня

Добры дзень!

Прыйшлі яшчэ раз даведацца цябе і насварыцца, каб з ложка да вакна не хадзіла. Казалі: ходзіш. Падхадзілі к нам пад акно Сітчыхіна (без мяне), потым (пры мне) Суворава з нейкаю жанчынаю, а пасля Поля. Вітаюць, кланяюцца. Казалі перадаць ім бюлетэнь, каб к канцу месяца атрымаць грошы. Няма калі і напісаць. Цэлы дзень — гаспадарчыя справы, хадзілі з Галяю на рынак, купілі бульбы, сала, малака. Чысцілі, прыбіраліся. Галя зварыла абед. Цяпер сядзяць Тараймовічы. Але канчаю і йдзем. Бо зараз 6 гадзін. Цалуем.

Многа не адказвай.

## 83. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*25 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)*

25/IX 35, 4 $^1/_2$ г. дня.

Добры дзень! Прынёс паперы. Паехаць я думаю ў пачатку кастрычніка, калі цябе выпішуць і калі я перавязу

цябе дамоў. Я помню, калі ў часе маёй такой жа хваробы (на фронце) мне пачалі даваць бульбяное пюрэ і два-тры сухары ў дзень, дык гэта я ўжо папраўляўся, самае горшае засталося адзаду. Толькі мне дужа балела ў праходзе (ставілі свечкі). А гной у мяне йшоў (спачатку многа, потым меней і меней) — месяцы два. І вынікам хваробы было толькі тое, што я з галадухі страшэнна аслабеў, сам ледзь увайшоў у вагон, насілу падняўся на прыступкі. А тады хутка ачуняў, дужа хацелася есці. Толькі есці трэба дужа-дужа асцярожна. Дык я, вось, і думаю, што мы з Лёнем паедзем, а ты пабудзеш з Галяю, пакуль добра не ачуняеш. Наконт рэчаў я думаю — наляпіць абвестку ў акне і патроху прадаваць, калі знойдуцца ахвотнікі,— стол, шафку, ложак і цюфяк (бо цюфяк цяжка прадаць, дык каб вам меней клопату, паспаць можна на тапчане), крэслаў з пару. Вось і ўсё. Можна будзе зрабіць так, каб вам і нічога не здаваць у багаж ці здаць невялікія рэчы. Здаваць на гарадской станцыі.

У Маскве заедзеце да Ул. [адзіміра] Іванавіча, ён вельмі прасіў, там пераначуеце і адпачнеце. А можна і на вакзале, нядорага, і ложкі, і душ. Адным словам, усё «ўтрамбуецца». Грошы хопіць. А не хопіць, пашлю тэлеграму Гурыку, каб прыслаў. Будзеш папраўляцца — ні ў чым сабе не адмаўляй. З бюлетэнем — не пільна, гэта твае сяброўкі хацелі гэтым дапамагчы. Потым жа ты можаш, як устанеш, падаць заяву ў свой камсод, каб прадаць троху абліганый, бо з прычыны хваробы дазваляюць. Мне дадуць пад'ёмныя, 100 р. ужо далі. Адносіны там да мяне вельмі добрыя. І жыць там добра будзе. А галоўнае — зачапіцца хоць там і з год папрацаваць. Ну, годзе. Хворай нельга ні шмат чытаць, ні шмат пісаць. Сёння я кухаварыў, а Галя адпачывала, толькі не паспеў зварыць да адходу ў школу. Дык пілі малако і елі хлеб з маслам.

Развесяліся! Цалуем. *Ма.*

Я прывёз яблыкаў. Дзеці ядуць *асцярожна.*

## 84. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

***26 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)***

26/IX 35, ранне

Добры дзень! Як маешся? Што прынесці? Можа, сушак? Калі можна іх есці, дык прынясу. А так — усё тое самае.

Сёння ніхто ў нас не начаваў. Не ведаю, чаму не прыйшлі. Учора, як мяне не было, прыходзіла Г.[анна] Ад.[аміха], пакінула свой кошык,— мусіць, яшчэ і сёння прыйдзе. Учора ўвечары быў я ў Г.[еоргія] Ал.[яксеевіча], афармляў атрыманне паю. Вельмі яны ласкавыя, але Максімаву хочуць усадзіць. Я казаў так, як ты раіла. Ну, там тое будзе. Не нервуйся, дык усё будзе добра. Цалуем. Увечары, можа, прыйду.

*М.*

## 85. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*27 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)*

27/IX 35, ранне

Добры дзень! Учора ўвечары не быў, бо хадзіў у жакт. Яны займаюцца ўвечары. Ну, як здароўе? *Што прынесці?* У нас навін няма. Абвестку наляпіў, але яшчэ нічога не прадаў. Грошы (пай) атрымаю пасля выхаднога, у жактаўскі дзень, усё аформлена. Бывай вясёла. Цалуем.

Галя пытаецца: як Наташа?

Купіў па дарозе сушак, ды не дужа сухія, дык не перадаю. А ці можна пячэнне?

## 86. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*27 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)*

27/IX 35, 5.10 дня

Добры дзень! Прынёс 300 гр. цукру. Газет не дастаў на пошце, а цікава: пастанова аб зніжэнні цэн з 1/X. Вельмі добра! І хлеб і цукар. Хадзіў сёння на барахолку. Глядзеў боты для Лёні. Прадаў троху свайго стар'я (дрот і інш.).

А па абвестцы на акне прыйшоў... прараб мой, т. Баравікоў. Не ведаў, што я тут. Шукаў варшаўскі ложак, а купіў кніг па будаўніцтву (15 р.) — яны мне не патрэбны. Варылі сёння бульбу, макароны і кісель. Паслаў ліст у школу, што пастараюся прыехаць к 5/X. Ну, усяго! Цалуем.

*М.*

## 87. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*29 верасня 1935 г., Кіраў (б. Вятка)*

29/IX 35

Добры дзень! Прынёс сушак, мы іх троху падсушылі. Ватнік Галя падшывае. Талоны на цукар пашукае. Бабарэкі па ордэр пойдуць сёння. Здаровы. Цалуем. Як справы?

*М.*

Лёневы паперы вазьму, ідучы ад цябе. Учора не было дзелавода.

## 88. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*2 кастрычніка 1935 г., в дарогі*

2/Х 1935

Ну, добры дзень! Вось ужо і паехалі. Толькі мы на станцыю, аж стаіць цягнік, ды не наш, а № 41 (які і ходзіць увечары). Мы ўгрунь кампасціраваць. Толькі паспелі нам паставіць № 3 вагона, як і два званкі. Вагон № 3 быў якраз супроць дзвярэй вакзальных. Мы спакойна селі і паехалі. Лявох глядзіць у акно, а я пішу, каб з бліжэйшай станцыі паслаць. Каб хвіліны на дзве пазней, дык не паспелі б на гэты цягнік. Аўтобуса доўга чакалі. А на вуліцы спаткалі Еўдакію Міхайл.[аўну], яна пыталася, як тваё здароўе і хто едзе. Я сказаў, а яшчэ дадаў, што нам важна захаваць гэты пакой у такіх людзей, каб мы маглі і прыехаць да іх назад у Кіраў, калі прыйшлось бы. Ну, лепшай, менш спадумлівасці («мнительн.[ости]»), усё будзе добра. Зараз 1-я астаноўка пасля Кірава. Цалуем.

*Ма.*

**Мы вельмі добра паспелі на поезд. Цалую. Ле́ня. Я гляджу ў акно, вельмі цікава.**

Тут на полі яшчэ снапы ў суслонах. Ехаць у вагоне слабодна.

*М.*

Брудны столік, хоць я сціраў. Папэцкалася папера.

## 89. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*3 і 4 кастрычніка 1935 г., з дарогі*

**3/Х 1935 г., 10 $^1/_2$ г. раніцы**

Добры дзень!

Блізка Масква, застаецца кіламетраў 30. Лявох ізноў

ужо прыліп да акна. Часам нават жартуе: «Татыцка, мамыцка...» Выспаўся ён добра. І я — нішто. І ўсю дарогу маем побач з сабою жанчыну з чайнікам, дык пілі гарачае. Маскву паглядзім, калі дазволіць вяземскі цягнік,— а то шкода губіць суткі. Вам учора напісалі зараз, як селі ў цягнік. Укінуў я ліст на раз'ездзе перад Лянгасавам. І Гурыку напісаў. Непакоіць твая хвароба. Будзем чакаць лістоў кожны дзень. Ты, аднак, не бойся: мне здаецца, нічога небяспечнага няма, толькі трэба спакойна паляжаць. А калі прыйдзецца ехаць ізноў у больніцу,— бяры возніка, грошы не шкадуй, бо самае галоўнае — здароўе. А ты, Галя, калі і прапусціш троху ўрокаў, таксама не бяда. Даглядай матку. І сама сцеражыся, часцей мый рукі.

4.X.1935 г. $10^{40}$ раніцы, Беларускі вакзал. Учора на свой цягнік не паспелі. *З Беларускага на Вязьму трэба ехаць $11^{45}$ раніцы* (запомніце!), а наш спазніўся і прыйшоў у Маскву толькі ў $11^{15}$. Суткі прапалі. Ну, паглядзеў Лявох Маскву затое. Начавалі ў Вл.[адимира] Ив[ановича]. Яны і вас вельмі запрашаюць. (Остоженка, дом 7, кв. 8). Остоженка цяпер завецца — Метростроевская, але вы пытайцеся: Остоженка. У метро нас з кошыкам не пусцілі. З чамаданамі можна. Ад Паўночнага вакзала зараз направа м.[етро] і ехаць да Дворца Советов, а там блізюхтанька да іхнае кватэры. Прымалі нас і частавалі дужа добра. Прасілі напісаць, каб і вы заехалі. А ўлетку яны прыедуць да нас у грыбы. Аб тваей хваробе яны ведалі ад Ніч.[ыпара] Фёд.[аравіча], і першае пытанне: «Як Л.[еаніла] У.[сцінаўна]?» Кажуць, праз тыдні два ўсё пройдзе, толькі і потым дужа трэба сцерагчыся з ядою. Калошы падаражэлі, але мы купілі Леню. І сшыткаў купілі — вольны продаж. Цалуем. Чакаем вестак аб здароўі.

*М.* **Леня.**

## 90. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*12 кастрычніка 1935 г., Пясочня*

12/X 1935 г.

Добры дзень!

Учора атрымалі ваш ліст ад 7/X і адкрытку ад 6/X (што Галя забылася была ўкінуць). І троху супакоіліся, а то думалі, што хвароба не праходзіць.

Мы жывём нішто. Толькі з кватэраю няма яшчэ поўна-

га ладу. У школьным флігелі пакой невядома калі асла-баніцца, і я не хачу болей чакаць на яго. Дык вось зараз пайду ў гарсавет — канчаткова высвятляць: ці заставац-ца ў Ашніпых (даюць большы пакой), ці пераязджаць на яшчэ адну кватэру, якую даюць, але я не бачыў яшчэ яе. Наладзіцца з кватэраю — і будзе добра.

А мне не было часу. Гісторык паехаў загадваць сямі-годкай, і яго ўрокі я таксама запаўняў. Класнае кіраўніцт-ва, напачатку адбірае шмат часу. І калі я на ўроках,— Лёня вольны; я звальняюся — Лёня ідзе на ўрокі. А ён адзін не хоча ісці ў сталоўку. Дык гаспадыня варыла яму бульбу. І купляем малако, яблыкі, масла. А яму «няма ча-су» і дома пад'есці. Ну, і гэта патроху наладзім. Часу бу-дзе болей.

Аб сваіх уражаннях Лёня вам пісаў. А цяпер палежы-вае, чытае кніжку і так заняўся, што «не буду я цяпер пісаць»... Дык пасылаю без яго дапіскі.

Цалуем. *М.*

## 91. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*27 кастрычніка 1935 г., Пясочня*

27/X 35

Добры дзень! Сёння атрымалі Галіну адкрытку ад 21/X. Дарма Вы непакоіцеся аб нас, мы здаровы, і жывём добра, і харчуемся нішто. Толькі нам дужа некалі. Але ж мы вам пішам, і надоечы Лёня напісаў ліст, і я нядаўна паслаў адкрытку. Чаму вы не пішаце ў гэтай адкрытцы, калі вас чакаць? Няўжо ж ты, Лёля, усё яшчэ ляжыш? Наогул, чаму так скупа пішаце аб стане здароўя? Каст-рычнік ужо блізка. Мы ўжо рыхтуемся, і канец чэцверці, дык і мала ў нас часу. Тут усё дорага, даражэй, чым у Кіраве. Але калі вам патрэбны грошы, дык я хоць троху, ды прышлю. Падаў рахунак на аплату дарожных выдат-каў. Плацяць за фактычны кошт пераезду, дык можаце вез-ці і ложак нават (абы не болей 200 кіло). І здавайце на гарадской станцыі так, каб і на кватэру па рэчы прыехалі. Квітанцыі прывязіце (і білеты не аддавайце). Сёння я ўзяў у школы 150 кіло бульбы, ссыпаў пад печ у кухні. Школа ж дала 3 кбм дроў. Кепска з газаю, нідзе не дастаць. Настаўнікі пазычаюць па ½ літра. Вуліца цёмная і ўжо гразкая. Толькі гразь тут скора праходзіць. Купляю мяса,

варыць (Леню) суседка, м-[ада]м Шуб. Бяром малако (у гражд.[аніна] Фактаровіча (па 1 р. 20 к. літр). Купляем яблыкі — 80 к. кіло. Заўчора пісаў тата, што памёр дзядзька Касцюк (Юлін бацька) і ў Багацькаўцы Хлімоніха. Тата пытаецца, як яму далей жыць. Ну вось... Жывіце весялей, не нервуйцеся.

Цалуем. *Ма.*

Тратуараў ад школы да кватэры няма. Грыбоў многа, амаль пад самым акном.

## 92. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*28 кастрычніка 1935 г., Пясочня*

28/X 1935 г.

Добры дзень! Сёння атрымалі вашу адкрытку ад 25/X. Сёння я паслаў адкрытку ў адказ на Галіну адкрытку. А цяпер яшчэ пішу ў справе вось чаго. Я падаў рахункі на аплату пераезда, а бух.[галтар] і дырэктар, абмеркаваўшы, сказалі мне, каб я прадставіў даведку, што жонка хварэе, дык тады выплацяць мне пад'ёмныя, адразу ўсё, а не па частках. Бо авансы выдаваць нельга і па частках аплачваць пераезд членаў сям'і таксама нібы ці то нельга, ці то ім нязручна. Дык кажуць: хай жонка прышле даведку аб хваробе і мы выплацім адразу ўсё. Я не ведаю, ці так гэта, і як жа яны выплацяць кошт перавозу рэчаў, якія будзеце везці вы, калі невядома, колькі чаго вы прывезіцё (а выплата па фактычнаму кошту). Ну, але раз яны кажуць, дык прышліце даведку. Хай Галя ці хто з мужчын сходзяць у больніцу (ці куды там трэба) і папросяць даведку, што ты захварэла тады-то, ляжала ў больніцы і яшчэ хворая. Ці наогул — якую там дадуць даведку. А можа, амбулаторны доктар напіша. Я прадстаўлю, хай аплацяць, як яны надумаліся. А то далі 100 р. авансу (даўно) і кажуць, што і за гэта запісалі ім у акт пры абследванні школы. Старога дырэктара школы ўжо засудзілі на тры гады (за сакрыцце ад партыі сацыяльн.[ага] паходжання). Новы дырэктар — малады, добры працаўнік. Адносіны да мяне ладныя. Мала часу. Гурткі, палітзаняткі, канец чвэрці, падрыхтоўка. Надвор'е папсавалася. Увечары ідзеш на кватэру — то і глядзі: калёшу згубіш. А наогул — добра. Прывязіце Лёню камеру, трыкутнік (чарціць). Вязіце лыжы, сякеру, наогул усё. З тым, што я

прывёз, больш 200 кг не набярэцца. Заязджайце да Ул.[адзіміра] Ів.[анавіча] (Остоженка — Метростроевская па-новому — дом 7, кв. 8). І начуйце ў іх.

*М.*

Цалуем.

## 93. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*4 лістапада 1935 г., Пясочня*

4/X 35

Добры дзень! Учора атрымалі вашу адкрытку ад 30/X. Дык тэлеграму даваць трэба з Масквы, каб я ведаў, калі мне ехаць з Пясочні на Фаянсавую спатыкаць вас. Бо цягнік ваш да Масквы можа спазніцца і вы можаце прыехаць у Пясочню на дзень пазней, як і мы. Апрача таго, вы ж заедзьце да Ул.[адзіміра] Ів.[анавіча] (Остоженка, 7, кв. 8). З Масквы на Вязьму трэба выязджаць у 11.30 (так, здаецца, адным словам — з цягнікам, што ідзе каля гэтага часу). У Вязьме будзеце троху чакаць цягніка на Бранск. Ад Вязьмы да Фаянсавай будзеце ехаць уначы, дарога цёмная, не праспіце. На Фаянсавай не хапайцеся, выйдзіце, чакайце мяне. Там я вас перавяду на «кукушку», і праз гадзіну, у самую начную глухамань будзем у Пясочні. Там ісці па вуліцы Леніна, міма райспалкома, нашай школы, да дома № 54 (Шатова). Над домам рад высокіх густых дрэў (гусцей, як за ўсю дарогу ад «кукушкі»). Дом з правага боку, як і школа. Мы здаровы, жывём добра. У Маскве купіце Лёню камеру і трывугольнік (або і гатавальню руб. за 15). Едзьце, калі сілы дазваляюць.

*Ма.*

Цалуем.

# 1936

## 94. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*18 чэрвеня 1936 г., в дарогі*

18/VI 36. Добры дзень! Пад'язджаем к Гусіну, за Смаленскам. Учора паспелі якраз (выехалі а 7-й). З Фаянсавай-1 выехалі а 8-й. Білеты $21^{40} \times 2 = 42^{80}$. Даведаўся: ідзе цягнік Сухінічы — Менск (праз Кіраў — Рослаўль — Крычаў — Магілёў — Асіповічы). Калі ехаць з Падпісной, дык

перасадка ў Крычаве, а білет Падпісная — Цёмны Лес каштуе ўсяго 15 [90]. У Занознай чакалі $3^{1}/_{2}$ гадзіны. Там рамонт, лаўкі вынесены ў садзік, і Галя спала на свежым паветры — як салодкая. Да Смаленска спалі, бо прасторна. Прыехалі а 7-й раніцы. Галя есці не захацела. Пайшлі ў горад. Чаго шукалі,— не знайшлі. Галя і гэтых туфель, што я купіў і паслаў, купляць не хацела, ганіла. А я купіў, бо хоць што-небудзь. Каштуюць 22 р. Пасылку паслаў вам без цаны, бо нечым было прашыць. Паслана: туфлі, 2 камеры і пакрышка, гатавальня, фарбы, туш. Галя купіла сабе глыбокія калёшы (на выпадак дажджу) і чамаданчык (падобны да таго, што ў яе быў), і я купіў сабе чамаданчык і ножык. А больш нічога. Туфлі былі толькі такія, кажуць, што № 38. Бачылі вучнёўскую маніфестацыю і жывога слана. Лявох, папрабуй гатавальню. Сала абатры.

Цалуем. *Максім.*

## 95. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*24 чэрвеня 1936 г., Багацькаўка*

24/VI 36. Багацькаўка

Добры дзень! Мы паслалі вам са Смаленска пасылку, а потым я паслаў адкрытку і Галя адкрытку. Ад вас яшчэ нічога не атрымалі. Жыць тут нішто, толькі няма чаго рабіць, дык нудна. Ужо дзве начы спаў я на сене пад павеццю. Сена накасілі ў садзе. Гэтымі днямі паспела шура. Адно што — няма дзе купацца. Я два разы купаўся ў Курманаве, а Галя нідзе не купалася. Яблыкі будуць, хоць і не дужа многа: мароз пабіў вясною. Доўгі час стаяла вялікая суш, людзі дужа клапацілі, а цяпер перападаюць дажджы. Грыбоў яшчэ няма. Харчуемся мы нішто, хоць і пераважае малако ў розных відах. Галя спіць з Ліляю («Лілія»), дачкою Аніссінага брата Гаўрылы, вельмі слаўнаю дзяўчынкаю, 8 гадоў. Скора будзе больш сена, можна будзе спаць пад павеццю (у сухое надвор'е). Тут яйцы 1р. 50 — 1 р. 80 к. дзесятак, сала — 9—10 руб. кілаграм. Я нават здзівіўся. Пішыце, як жывіцё вы?

*М. Г.*

## 96. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*22(?) ліпеня 1936 г., в дарозі*

23 (?) VII 36 г.

Добрае ранне! Забыўся чысло — здаецца, 22. Пад'язджаем к Цёмнаму Лесу. З Падпісной выехалі а 1-й гадзіне начы. Да Крычава ехалі ў дамскім вагоне і ўсю дарогу спалі. У Крычаве — з поезда на поезд, наш прыйшоў на хвілін 15 раней.

**Тата пайшоў купляць канфет.**

(Гэта ўжо ў Цёмным Лесе.)

Знайшоўся падводчык (хлопчык) з Пуцят, з ім і паедзем. Ага, а назад ехаць, дык чакаць у Крычаве аж 8 гадзін; можа, лепей — і на Смаленск. Раніца ціхая, сонечная. $7^1/_2$ г.

*М.* Леня.

Цалуем.

## 97. Л. У. ГАРЭЦКАЙ

*23 ліпеня 1936 г., Багацькаўка*

23/VII 36

Добры дзень! Даехалі добра. З Цёмнага Лесу паслалі адкрытку. Галя і ўсе здаровы. Сямейка нічога сабе: дзед, Аніссіна матка, Домна, і 2[-е] Таццяніных дзяцей, Анісся з дзяцьмі і нас трое — 11 чал.[авек]. Але нічога тым часам. Лявох у добрым гуморы. Галя да нас была ў добрым (па-свойму), а цяпер у горшым. А за кніжкі брацца не хоча. Іванавы не прыехалі, жыве адна Галя ў Клаўдзі. Тата казаў, што ждаў усіх нас, і ўжо хацеў браць ключы ў Клаўдзі ад Іванавай хаты. Гарачыня. Жнуць жыта, возяць, бяруць лён. І свацця з Домнаю ўзяліся выбіраць гектар. У Ганны (Гапкінае) радзілася дзяўчынка. У калодзежы мала вады. Цалуем.

*М.*

Стала многа мух.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

## АД РЭДАКЦЫІ

Дадзенае выданне складаецца з пяці раздзелаў: «Мастацкія творы», «Літаратурная крытыка і публіцыстыка», «Лісты», «Пасляслоўе», «Каментарыі».

У першы раздзел уваходзяць: аповесць «Дзве душы», апавяданні «Лірныя спевы», «У 1920 годзе», «Фантазія», «Апостал», [«Незадача»], «Усебеларускі з'езд 1917-га года», п'еса «Жартаўлівы Пісарэвіч»; у другі — карэспандэнцыі, нататкі, фельетоны, рэцэнзіі, літаратурна-крытычныя артыкулы; у трэці — лісты, запіскі і афіцыйныя паперы Максіма Гарэцкага.

Чацвёрты раздзел складаецца з літаратурна-крытычных артыкулаў, у якіх аналізуецца змешчаная ў дадзенай кнізе спадчына пісьменніка.

Пяты раздзел — «Каментарыі».

Тэксты пісьменніка падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці ўнутры кожнага раздзела: па даце напісання або па даце першай публікацыі, калі звесткі пра час напісання адсутнічаюць.

Артыкулы, надрукаваныя ў перыядычных выданнях у адзін дзень (без аўтарскай даты), размяшчаюцца ў алфавітным парадку.

Мастацкія творы, літаратурна-крытычны і публіцыстычны матэрыял друкуецца па тэксце першай публікацыі, паколькі яна з'яўляецца адзінай крыніцай аўтарскага тэксту. Выключэнні агаворваюцца.

Матэрыялы эпісталярнага жанру друкуюцца па арыгінале. Лісты № 6 і № 12 — па тэксце першай публікацыі.

Рэдактарская дата і месца напісання ліста падаюцца курсівам у выглядзе падзагалоўка да нумара ліста і назвы адрасата (незалежна ад таго, ёсць гэтыя звесткі ў пісьменніка ці не).

З агульнай колькасці лістоў, якая склала 97 адзінак, 44 публікуюцца ўпершыню. 40 — адрасаваны Леаніле Усцінаўне Гарэцкай-Чарняўскай, 4 — афіцыйныя і дзелавыя лісты (№ 4 і № 5 выяўлены В. Скалабанам).

Частка лістоў (51 адзінка) была апублікавана ўпершыню ў кнізе: Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы.—

Мн.: Маст. літ., 1984. Спасылка на крыніцу першадруку для гэтых лістоў у каментарыях не даецца.

Тэксты лістоў Максіма Гарэцкага ў пераважнай большасці напісаны на паштоўках, асобныя на картках да паштовых пераводаў. Па гэтай прычыне многія словы аўтарам скарочаны. Рэдактарскія дапаўненні ў такіх выпадках (як і ва ўсім выданні) падаюцца ў квадратных дужках. Подпіс аўтара і падкрэслены ім тэкст друкуюцца курсівам. Сказы, напісаныя рукой сына, выдзяляюцца тлустым шрыфтам. Прыпіскі да лістоў, зробленыя Максімам Гарэцкім у розных месцах паштовак (унізе, уверсе, з бакоў, на адваротным баку: дзе пішацца адрас), змешчаны ў канцы ліста.

Некаторыя лісты Максіма Гарэцкага да Леанілы Усцінаўны напісаны на паперы рознага фармату. Канверты ад іх не захаваліся. Імя адрасата выяўлена па змесце. Тэкст лістоў напісаны розным чарнілам, простым алоўкам. Запіска з Лукішскай турмы адціснута вострым прадметам на шматку грубай абгортачнай паперы.

Матэрыялы выдання друкуюцца галоўным чынам па сучасным правапісе з захаваннем найбольш характэрных асаблівасцей аўтарскай мовы. Асобныя выпадкі, у якіх назіраецца рознае напісанне аднаго і таго ж слова (часам на адной старонцы), да адзінай нормы напісання не прыводзяцца. У мастацкіх творах пакінута нязменным напісанне такіх слоў, як *хурман, парахвія;* не падпарадкаваны правілам арфаграфіі словы *вакно, імгла* і некаторыя іншыя, што выклікана імкненнем захаваць рытміку мастацкага тэксту, перадаць стылёвыя асаблівасці аўтарскага пісьма на пэўным этапе творчасці.

У выніку навуковага аналізу тэкстаў выяўлены і выпраўлены друкарскія памылкі ў апублікаваных крыніцах. Найбольш істотныя — агавораны ў каментарыях.

Каментарыі да кожнага раздзела ўключаюць біябібліяграфічныя і гісторыка-літаратурныя звесткі.

У ім разглядаецца пытанне пра псеўданімы і крыптанімы Максіма Гарэцкага. Пры гэтым абгрунтоўваецца прыналежнасць таго ці іншага подпісу пісьменніку, а разам з тым дакументальна пацвярджаецца аўтарства многіх артыкулаў і мастацкіх твораў, якія ўключаны ў выданне.

У каментарыях таксама ўказваецца першадрук тых твораў, якія Максім Гарэцкі разглядае ў крытычных артыкулах, паколькі для некаторых з іх першая публікацыя да сённяшняга часу застаецца адзінай друкаванай крыніцай тэксту. У тых выпадках, калі першадрук не выяўлены, называецца выданне, дзе друкаваўся гэты твор. Калі Максім Гарэцкі аналізуе твор у складзе пэўнага зборніка, крыніца першадруку не прыводзіцца.

У каментарыях да лістоў даведкі пра адрасатаў, блізкіх і знаёмых пісьменніка даюцца пераважна пры першым іх упа-

мінанні, калі прозвішчы іх не вынесены ў «Анатаваны паказальнік імёнаў».

Пры падрыхтоўцы тома да выдання выкарыстаны рукапісны матэрыял М. Гарэцкага. Звесткі аб ім даюцца ў каментарыях у кожным асобным выпадку. *«Храналогія маіх твораў»*, *«Спіс маіх твораў»*, *«План мае творчасці»*, якія захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР (ЦНБ АН БССР), ф. 7, воп. 1, адз. зах. 43, характарызуюцца ніжэй, паколькі ў каментарыях на гэты матэрыял робяцца неаднаразовыя спасылкі.

*«Спіс маіх твораў»* — ліст паперы, на якім чорным чарнілам зроблены пералік твораў, напісаных не пазней 1922 года. Агульная колькасць іх склала 70 назваў (парадкавы нумар 71 — закрэслены, назва «Рускі» — пакінута); ёсць паметкі.

*«Храналогія маіх твораў»* — пералік напісаных і ў большасці апублікаваных твораў (да 1922 года), назвы якіх зарэгістраваны ў храналагічнай паслядоўнасці пад пэўнай паметай года. Запіс зроблены чорным чарнілам на 2-х лістах паперы.

Ёсць яшчэ адзін ліст — без загалоўка, у якім пералік твораў пададзены па тым жа прынцыпе. Запіс зроблены простым алоўкам і адносіцца да больш позняга часу, паколькі пералік твораў завяршаецца 1932 годам. Пры гэтым аўтарам дапушчаны некаторыя недакладнасці ў датаванні асобных твораў, што не супадае са звесткамі папярэдняга рукапісу. З-за дэфекту ніжніх вуглакоў ліста, а таксама з-за таго, што карандашны запіс сцёрся, некаторыя мясціны тэксту расчытаць немагчыма.

*«План мае творчасці»* — план, складзены паводле тэматычных і жанравых адзнак. Запіс зроблены чорным чарнілам на лісце паперы. Датуецца 24-м ліпенем 1928 года.

Рэдкалегія выказвае падзяку Г. М. Гарэцкай за дапамогу ў падрыхтоўцы да выдання дадзенай кнігі.

# ДЫЯЛЕКТЫКА ДУШЫ

«Душа двailася. Адна палова несказанна плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі. І калі ён троху выстагнаўся, казала: «Уцячы, уцячы...»

Што баліць герою «Дзвюх душ» Ігнату Абдзіраловічу? Чаму раздвailася душа? Няўжо прычынаю недасягальны воблік красуні-арыстакраткі Алі Макасеевай — «белы тварык з чорнымі бліскучымі вачмі і курчавымі пасмачкамі, дзявоцкі смех і жарты»?

Уцячы? Марнае спадзяванне. Можна кінуць-рынуць спякотны Пяцігорск, ускочыць у цягнік ды з'ехаць куды далей, на сваю шэрую, невясёлую старонку, «да хатак Беларусі». Можна развітацца з марамі-летуценнямі пра «дзяўчыну-ветрык». Ды хто ўцякаў ад самога сябе? Ад гэтай няшчаснай звычкі пакутаваць «праклятымі», «вечнымі» пытаннямі, ад гнятлівай патрэбы «ў яснасці і добрай цямнасці ўва ўсім, што ёсць навакол і таксама ў сваім жыцці...».

Гэткія натуры, паводле аўтарскага сцвярджэння, найболей знойдзеш паміж славянаў ды ўсходніх народаў, але не толькі ў славянскім паходжанні героя тут прычына. А і ў тым, што былы паніч, спадчыннік заможнага кубла Абдзіраловічаў, пасля «апрашчонік і народалюбец», студэнт, якога выкінулі з універсітэта за вольныя думкі, пасля прапаршчык царскага войска і сціплы службовец у савецкай установе — ён заўсёды інтэлігент. З тых, што сумняваюцца, што ў рэчах, простых на першы погляд, бачаць палярныя бакі і пакутуюць думкаю паміж процілегласцямі, не ведаючы, да якога берага прыстаць.

Паводле схільнасці да рэфлексіі Абдзіраловіч працягвае шэраг герояў-інтэлігентаў з ранейшых твораў М. Гарэцкага, з апавяданняў «У лазні», «Роднае карэнне», аповесцяў «У чым яго крыўда?» і «Меланхолія». Але Абдзіраловіч, у адрозненне ад Кліма Шамоўскага і Лявона Задумы, памешчаны ў эпоху, якая дае няшмат часу для роздуму і ваганняў,— у рэвалюцыйную.

З вышыні сваіх васьмідзесятых гадоў, з пазіцыі ўсёведання, якую займаем дзякуючы часу, мы бываем занадта патрабавальнымі да нашых папярэднікаў, тых, хто жыў у пару рэвалюцыі, браў або не мог, не рашаўся браць у ёй удзел. З легкадумнай паспешлівасцю раздаём характарыстыкі накшталт: «не ўсвядоміў», «не адразу прызнаў», «успрыняў аднабакова». Супярэчнасці ў творчасці таго ці іншага мастака мы ахвотна спісваем на ягоную ідэёвую ці нават класавую абмежаванасць і гэтым самым прыніжаем яго як творчую асобу, ставім ніжэй за сябе. Не заўсёды здагадваемся зверыць твор з супярэчнасцямі яго часу, гісторыі. Хіба ёсць эпохі без супярэчнасцей? Імі ж рухаецца гісторыя. А рэвалюцыя заўсёды — цэлы згустак супярэчнасцей.

М. Гарэцкі меў магчымасць назіраць нарастанне рэвалю-

цыйных падзей з розных геаграфічных пунктаў: з Каўказа, Масквы, Смаленска. Мастак не мог ахапіць позіркам увесь рэвалюцыйны працэс, яго разгортванне ў прасторы і часе, бо падзеі змяняліся надта імкліва і будучае не заўжды праглядалася; але тое, што ён назіраў, пасля ўвайшло ў ягоны твор як непадробныя, пазбаўленыя лакіроўкі вобразы таго часу. Эшалоны, што везлі скалечаных фізічна і духоўна людзей адтуль, дзе не змаўкалі грымоты першай сусветнай бойні; аратары, што горача прамаўлялі да галоднага, збяднелага люду; крывапралітныя сутычкі на гарадскіх вуліцах, дзе кожнага выпадковага прахожага магла зачапіць куля; страшэнная галеча абяскроўленых вёсак... Тымі ж шляхамі, праз Каўказ, Маскву і горад N. (недзе на Смаленшчыне або Магілёўшчыне) Гарэцкі правёў і свайго героя, перадаўшы яму і балючыя пытанні, над якімі пакутаваў сам.

Але ён не даверыў Абдзіраловічу казаць ад свайго імя. Паміж аўтарам і героем — немалая дыстанцыя. Ёсць пункты, па якіх пазіцыі істотна разыходзяцца. Скажам, Абдзіраловічу не гэтак балела, як Гарэцкаму, тая дэмаркацыйная лінія, што па-жывому рэзала Беларусь на дзве няроўныя часткі, большая з якіх засталася пад Германіяй. А Гарэцкі, са свайго боку, мог і не падзяляць той настрой, з якім персанаж глядзеў, як вясковы хлапчук круціць дулі партрэцікам панскіх продкаў, вынесеным з раскіданага маёнтка Абдзіраловічаў...

Герой жыве сваім літаратурным жыццём, у якім элементы мастацкага вымыслу чаргуюцца з паказам рэальных гістарычных падзей. Фабула твора пачынае свой адлік ад гісторыі паходжання Абдзіраловіча. У сядзібе заможнага памешчыка Абдзіраловіча гадаваліся побач паніч і сялянскі сын. Гаспадар, аўдавелы пасля трагічнай нагоды, амаль не выходзіў са свайго «габінэту», нават каб палюбавацца на свайго малога Ігналіка. Тым часам карміліца, жадаючы лепшай долі свайму дзіцяці, пераменьвае немаўлятак. У выніку яе сынок «выгадоўваецца на пана», а панічык, стаўшы «Васілём»,— на мужыцкага сына.

Гэты фабульны ход — вядома, з шэрагу традыцыйна-«кніжных». Ды асноўнае дзеянне аповесці, відаць, тое, што цесна пераплятаецца з рухам рэальных гістарычных падзей. Абодва персанажы — Ігнат і Васіль — праводзяцца праз рэвалюцыю, грамадзянскую вайну. Пры гэтым асаблівая аўтарская ўвага скіравана менавіта на вобраз Ігната Абдзіраловіча, на яго светабачанне, якое Гарэцкі, вядома, не выдаваў за сваё ўласнае.

Чым блізкія пазіцыі персанажа і апавядальніка — дык гэта інтэлігенцкай удумлівасцю, немагчымасцю ўспрыняць адной сляпой вераю нават тое, чаму той або іншы інтуітыўна спачувае. І тут пытанне: ці заўжды роўны, гладкі шлях інтэлігента ў рэвалюцыю, да еднасці з воляй працоўнай масы? Чаго б варты быў гэты выбар, калі б рабіўся аўтаматычна, бяздумна?

Абдзіраловіч спярша бачыць рэчаіснасць праз прызму на-

запашаных раней, відаць, у часы бурлівага студэнцтва, уяўленняў аб справядлівасці і дабрыні. Аказваецца, гэты гуманізм старасвецкага, талстоўскага кшталту месцамі абарочваецца праўдзівай сацыяльнай відушчасцю. Гэтак у эпізодзе, дзе Абдзіраловіч нечакана для самога сябе кажа палымяную прамову перад натоўпам бежанцаў-беларусаў у Пяцігорску. Перад тым князь Гальшанскі, будучы белагвардзейскі афіцэр, прамаўляў наступным чынам: «У нас, белорусов, нет классовой борьбы!.. Нет ее, не должно быть и не будет!!» І раптам супраць яго — ціхманы, стрыманы Абдзіраловіч: «Вашых бацькоў паны забівалі бізунамі, і мянялі на заморскіх сучак, і прадавалі, як быдла... Вашых матак гвалтавалі панічы... З вас саміх высмакталі кроў. За бярозавую хлабасцінку з панскага лесу вас гнаілі ў турмах... І цяпер вам кажуць: у вас няма змагання класаў перад агульным ворагам... О, не! Яно ёсць!!»

Гэткую ж сацыяльную афарбоўку мае стаўленне Абдзіраловіча да капітана Гарэшкі, таго ж самага белагвардзейскага агента, які пад маскаю бальшавіцкага актывіста будзе працягваць сваю падрыўную дзейнасць. «...Проці Гарэшкі было штосьці тупое, цяжкое, ненавіднае, што не магло яшчэ прарвацца ў звычайнай злосці і быццам чакала асаблівай дарогі для свайго разгону». Адзначым, што гэта пачуццё нараджалася ад іншага — простага адчування справядлівасці, якая не пакідае месца фальшу, подласці, падступніцтву.

Ці лёгка даецца гэтае пачуццё Абдзіраловічу, які сам гадаваўся ў асяроддзі, што спарадзіла гальшанскіх і гарэшкаў?

Нялёгка. Яно прабіваецца праз складанасці. Праз супярэчлівы, «двоісты» стан душы, праз унутраны канфлікт.

«Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі, цяпер цвярдзее, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасці і нават жорсткасці. Няхай сабе тая плача па нейкай паненцы. Ёй не шкода, і яна не здрыгнецца, калі дзікая людская куламеса пашарпае на шматкі і князя, і Макасея-міліёншчыка, і разумца-армяніна. Ёй не шкода... А тая, другая, падумала і здрыгнулася».

Герой на раздарожжы, ён блізкі да таго, каб прыняць бок працоўнай большасці, яшчэ раней ён парваў адносіны са старым Абдзіраловічам, хаця пазней будзе горка перажываць яго смерць. Але канчатковы выбар замаруджваецца з-за гэтых бясконцых ваганняў, узважванняў усіх «за» і «супраць». Трэба думаць, ад гэтай звычкі герой не пазбавіцца нават тады, калі (ужо за межамі аповесці) гэты выбар будзе зроблены. Безумоўна, гэтыя ваганні ў тых абставінах не ішлі на карысць яму самому, не выклікалі сімпатыю і разуменне ні ў персанажаў, што абкружылі яго, ні ў некаторых крытыкаў, якія досыць сурова падыходзілі да гэтага літаратурнага вобраза. Гэтую ўнутраную супярэчлівасць, канфліктнасць аднабакова вызначалі як панскую двудушнасць, інтэлігенцкую

мяккацеласць. А галоўнай прычынай бачылася паходжанне Абдзіраловіча: мужыцкі сын у маленстве трапіў у панскую сям'ю.

Каб гэта было так, аналагічнае «раздваенне» мы назіралі б і ў душы Васіля, сапраўднага панскага сына, які выхоўваўся сялянкаю. Васіль — натура таксама досыць складаная, але больш цэласная, чым ягоны малочны брат.

Навошта тады ўвогуле ўведзены авантурны, досыць банальны матыў з пераменелымі немаўляткамі ў гэтую інтэлектуалізаваную, псіхалагічную прозу?

Адказ, на наш погляд, не можа быць адназначны.

Па-першае, нейкі элемент займальнасці ўсё ж такі прыходзіць у гэтую прозу разам з авантурным матывам. Ён, як і іншыя аналагічныя сюжэтныя хады — нечаканыя сустрэчы, супадзенні і г. д.,— надае дзеянню больш дынамізму, напружанасці.

Па-другое, гэта — калі не прычына, дык нейкі «сімвал», які фіксуе, падкрэслівае ўнутраную раздвоенасць героя.

Па-трэцяе, раскрыццё «сямейнай тайны» нейкім чынам уплывае на свядомасць Абдзіраловіча. Ужо не цьмяны «покліч продкаў», а яснае веданне свайго паходжання ўзмацняе ў ім пачуццё духоўнай блізкасці да працоўнай масы, дапамагае прыйсці да высновы: «Я з-за непаразумення трапіў у панскія сыны, я сын гэтай чорнай грамады і хацеў ба павесці яе ляпей за ўсіх да шчасця».

«Ляпей за ўсіх» — гэта, трэба думаць, без супярэчнасцей і кровапраліцця. Бо яго, гуманіста талстоўскага кшталту, найболей бянтэжыць у рэвалюцыі магчымасць і неабходнасць забіваць, хай сабе і ў імя святой мэты. Шукаючы сябе ў дзейнасці Саветаў, Абдзіраловіч усе свае намаганні кідае на тое, каб выратаваць з «чразвычайкі» двух беларусаў-адраджэнцаў, якім пагражала смяротная небяспека.

Рэвалюцыя без ахвяраў — такое на той час магло прымроіцца, бадай, заўзятаму ідэалісту, але намер «назаўсёды знішчыць магчымасць расстрэлу невінаватых людзей» — ён слушны і на той час і нават сёння. У гэтай думцы Абдзіраловіча гатовы падтрымаць і чалавек іншага складу — Васіль.

Псіхалагічна бяднейшы, не гэтак разгорнуты, як характар Абдзіраловіча, гэты вобраз усё ж пазначаны аўтарскай спробай надаць яму шматмернасць. Гэта не прыхарошаны, не ўзведзены на катурн вобраз рэвалюцыйнага кіраўніка, надзеленага і моцнай воляй, і здольнасцю сумнявацца, крытычна ацэньваць свае ўчынкі. Шкада, што пазней у творах гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі гэты дыялектычны падыход не часта знаходзіў развіццё, у творах шмат каго з савецкіх празаікаў людзі рэвалюцыі паказваліся схематычна, выглядалі безаблічнымі варыянтамі славутай «скуранай курткі».

Рэвалюцыянер у «Дзвюх душах» паказваецца не на кані і не ў скуранцы — а ў роздуме, у клопатах.

Задуменны, змрочны, вяртаецца з вёскі, дзе рэквізаваў хлеб. На пытанне Абдзіраловіча аб тым, як успрымаюць сяляне гэтую акцыю, адказвае не па-газетнаму, чорным гумарам: «Як прыймаюць?.. Вот, так сабе, як і дзе; дзе каламі, дзе чым...»

Барацьба за хлеб — часовая, вымушаная мера, гэтак разумее яе Васіль, але ад таго яна не губляе ў ягоных вачах драматызму. Бо ён бачыў і перажыў — канаючую ад няшчымніцы вёску.

Іншая, не менш драматычная праява, якая ўспрымаецца свядомасцю Васіля ў яе непрыхарошаным выглядзе: да новай улады пачалі прымазвацца выпадковыя малаадукаваныя тыпы, якія сваёй бязглуздай «актыўнасцю» дыскрэдытуюць справу рэвалюцыі: «Сяло беднае, дык усе маладыя йшлі раней у свет, у гарады, а цяпер паварочаліся дамоў гультаямі, бандытамі і пад штандарам бальшавізму здзекуюцца над усімі сялянамі. Жывуць паразітамі, паўлезлі ў камітэт беднаты, і ніхто іх не зачапі»,— з горыччу распавядае аб убачаным Васіль.

У творы буйным планам пададзены «гарадскі» варыянт прымазаніка — Іван Карпавіч Гаршчок. Характэрна, што і ў «двудушнага» інтэлігента Абдзіраловіча, і ў больш «маналітнага» пралетара Васіля выпрацоўваецца аднолькава непрыхільнае, грэблівае стаўленне да гэтага тыпу.

У шэрагу эпізодаў гэты вобраз успрымаецца як проста карыкатурны. Напрыклад, калі Гаршчок уцякае ад ворагаў рэвалюцыі ды вельмі непрыгожа пры гэтым верашчыць. Або калі прамаўляе перад даверлівым натоўпам, са сваім вісклівым пранізлівым голасам, б'ючы сабе ў грудзі. Або як п'янствуе ў абдымку з Гарэлікам-Гарэшкам, глыбакадумна развažаючы пра «інцынарацынал» і хвалячыся сваімі «заслугамі» — бязвінна расстралянымі ахвярамі.

Напэўна, гэты вобраз глядзеўся б спрошчаным, калі б аўтар абышоўся б адным акарыкатурваннем. У аповесці робіцца спроба вывесці сацыяльную радаводную Гаршка. Ён — з «чарады», з вялікай кагорты беларусаў, што па розных прычынах пакінулі бацькаўшчыну, з'ехалі з родных селішчаў. Асяроддзе гэтае, унутры сябе досыць шматстайнае, спараджае і багатыроў-«міліёншчыкаў», такіх, як стары Макасееў, і змардаваных, гаротных бедакоў, накшталт тых, якіх бачым у трэцяй дзеі п'есы «Чырвоныя ружы». Але паміж вялікімі сацыяльнымі пластамі застаецца «экалагічная ніша», якую запаўняюць асобы, чый грамадскі статус ніколі не бывае да канца вызначаным, бо зменлівасць — спосаб іх існавання. Хто такі Гаршчок? Няўдалы, паўадукаваны настаўнік, няшчыры манах, што раскрадае царкоўную маёмасць, раптам валацуга, «люмпен», нечакана пралетарый, рабочы-металіст, нарэшце, палітычны кіраўнік, нават «ідэолаг»... Тут важна падкрэсліць момант дыялектычнага пераходу паняцця «без карэнняў» з га-

ліны сацыяльнай у ідэалагічную. Бо Гаршчок, па сутнасці, ніколі не меў ні «глебы», ні «карэнняў» уласнага светагляду, яго мысленне — суцэльны эклектызм, набор ідэй, не ўсвядомленых як след і не спераджытых. Адсюль — ненадзейнасць, хісткасць пазіцыі, пра што папярэджвае аўтар у характарыстыцы, дадзенай Гаршку: «...Правадыры-інтэлігенты з іх характэрнай інстынктыўнай цямнасцю не мелі да яго асаблівай прыхільнасці. Чулі ў Карпавічу той гатунак людзей-самавукаў, каторыя хоць і вялікай высакосці даходзяць у мастацтве, палітыцы ці абы-якой навуцы, але назаўсёды застаюцца з нейкай хібаю ў самым грунтоўным, а дзеля таго неўспадзеўкі і страшна лёгка зваліваюцца часам на самы дол чалавечай думкі. Яны, гэтакія, нейкім дзівам сумяшчаюць у душы сваёй найлепшы, здаецца, гуманізм і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію і алхімію, марксізм і хірамантыю і з аднолькавай шчырасцю веруюць у тое і другое. Багі іхныя любяць завадзіць сварку, скідаюць адзін аднаго з пасаду і робяць у галаве свайго паклонніка незвычайны сумбур. Багоў гэных зазвычай надта многа, але бываюць часіны, што і няма нічога, вось тады людзі такога гатунку і выробляюць розныя неспадзеўныя штучкі».

Вымалёўваецца пэўны сацыяльны тып, і гэты мастацкі ход успрымаецца як смелы, нават рызыкоўны, бо нават у нашыя дні часта аспрэчваецца мастакоўскае права тыпізаваць на падставе негатыўных фактаў. Нярэдка з боку крытыкаў ставіцца пытанне: ці настолькі распаўсюджаная з'ява, каб абагульняць яе? Іншых жа трывожыць шырыня абагульнення: ці не кідае цень на станоўчае? Але ж нават Абдзіраловічу відавочная тая мяжа, што аддзяляе «аўноў» ад «козлішчаў». Бальшавізм, лічыць ён, не вінаваты, што «правінцыя мае толькі такіх кульгавых беларусаў, як гэты Гаршчок...». Мастацкая літаратура — не статыстыка, яна не вылічвае «кульгавых» палітыкаў у жыцці, яна трывожна сігналізуе: ёсць! І папярэджвае аб небяспецы. Прароцтва спраўдзілася: як з нябачнага ганчарнага кола пачалі сыходзіць гэтакія гаршкі і з трыумфам насяляць прыдатную для сябе эпоху — сталінізм, дзе якраз «да месца» аказаліся іхнія палітычная і маральная няўстойлівасць, адсутнасць самакрытычнай думкі, спрошчанасць мыслення, што выдавалася за прынцыповасць. У сістэме масавых рэпрэсій трыццатых гадоў прыдаўся гаршкоўскі «прынцып»: «Сячы трэба да карэння!»

Адна з апошніх сцэн перадае адчуванне дысанансу, з якім успрымалася «дзейнасць» Гаршка. Яго, загінуўшага ад рукі свайго ж сябрука, Гарэшкі (вунь як сышліся крайнасці!), хаваюць пад надзвычай урачыстыя, журботныя гукі пахавальнага маршу. Гэтакае «гукавое афармленне» служыць своеасаблівым «акампанементам» балючаму роздуму Абдзіраловіча, які з нейкай часіны не пакідаў яго: пра тое, што «тэорыя» новага сацыяльнага ладу часам разыходзіцца з «практыкай».

Абдзіраловіч блізкі да таго, каб прыняць ідэі рэвалюцыі, але чакае бясконца таленавітых, мудрых, амаль ідэальных выканаўцаў, што пачнуць ажыццяўляць гэтыя ідэі. Блізкім да этанолону яму бачыцца Васіль, з ягонай мэтапакіраванасцю, удумлівасцю (вывучае «Капітал» Маркса, ставіць сабе і іншым складаныя пытанні, некатэгарычны ў пошуку адказаў). Адзначым, што і аўтар выказваецца аб партыйных «правадырах-інтэлігентах» як найбольш дальнабачных і праніклівых выразніках волі працоўнае масы. Разам з тым мастацкая дыялектыка твора не абмінае складаных практычных пытанняў рэвалюцыі, якія вырашаліся досыць балюча і супярэчліва. Адно з іх — нацыянальнае.

Вобразы змагароў за беларушчыну — Іры Сакавічанкі, Міколы Канцавога, Сухавея — надзелены непрыхаванай аўтарскай сімпатыяй. Разам з тым гэтае пачуццё не мае нічога агульнага з ідэалізацыяй або бяздумным любаваннем. Гарэцкі-аналітык увогуле далёкі ад таго, каб адназначна ацэньваць той ці іншы вобраз. Персанажы аповесці ставяцца ім у такое ўзаемадачыненне, пры якім іх характары, светапогляды, нібы праз прызму, праводзяцца праз свядомасць іншых дзеючых асоб. Атрымліваецца цэлая сістэма ўзаемных ацэнак і суджэнняў.

Адна з такіх «прызмаў» — свядомасць усё таго ж Абдзіраловіча. Яго стаўленне да пазіцыі беларускіх інтэлігентаў-адраджэнцаў дыялектычна неадназначнае: прыцягненне-адштурхоўванне. Звычайнае пачуццё справядлівасці падказвае яму слушнасць справы тых, хто жадае адраджэння дзяржаўнасці, культуры, мовы Беларусі. У творы перададзена градацыя поглядаў Абдзіраловіча на гэты рух. У пачатку твора чытаем: «...Быў сам несвядомы і хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недавернасцю думаў аб руху адраджэння, аб якім некалі чуў краем вуха». Бліжэй да фіналу ўжо сам Абдзіраловіч мусіць прызнацца: «Я, бачыце, як беларус, патроху знаходжу сябе ў беларускай нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці». Разам з тым і тады застаецца адштурхоўванне: Абдзіраловіча трывожыць «заядласць» знаёмых яму адраджэнцаў у выяўленні нацыянальнага пачуцця.

Але прырода гэтакай «заядласці» выразней відаць праз іншую прызму — аб'ектыўных фактаў, якія выяўляюцца сучаснымі гісторыкамі ў тым складаным часе. Настойлівасць, з якой інтэлігенты-адраджэнцы адстойвалі актуальнасць нацыянальнага самавызначэння Беларусі, у нейкай ступені можна лічыць і як супраціўленне тым палітыкам, якія гэтае пытанне ігнаравалі. Прызнаючы заслугі А. Мяснікова, В. Кнорына і іншых партыйных кіраўнікоў Заходняй вобласці, гісторыкі (В. Кругалевіч, У. Якутаў і іншыя) звяртаюць увагу на тое, што спачатку гэтыя дзеячы разглядалі беларусаў як адгалінаванне вялікарускай нацыі, іх мову лічылі дыялектам рускай... Памылкі, як бачым, былі досыць сур'ёзныя. Пра іх трэ-

ба ведаць, каб зразумець пазіцыю аднаго з адраджэнцаў, Міколы Канцавога, хай сабе і досыць суб'ектыўную: «Міколе, як і ўсім адраджэнцам, было дужа цяжка знасіць тое, што на тэрыторыі Беларусі ў бальшавізме, апрача чужынцаў, ачынуліся і ўзяліся кіраваць беларускім сялянствам якраз найгоршыя на іх пагляд беларускія людзі, бо абмаскаленыя беларусы, закарэлыя рэнегаты і партыйна-тупыя праціўнікі «ўсякага там яшчэ адраджэння», пагарджаўшыя, з іх убогай духоўна фанатычнасцю, беларускай моваю і ўсім нацыянальна-беларускім».

Магчыма, палемічная завостранасць гэтага і падобных да яго апавядальных момантаў насцярожвала крытыкаў і цэнзараў «Дзвюх душ», што не дазваляла належным чынам ацаніць увесь твор. У выніку аповесць доўгі час не перавыдавалася — і ў яе не было магчымасці «самарэабілітавацца», разгарнуўшы перад чытачом складанасць мастацкага свету.

Мастацкі час твора мае хранікальны характар: дзеянне рухаецца амаль следам за рэальнымі гістарычнымі падзеямі. У нейкі момант яно раптоўна перапыняецца, і, такім чынам, шмат якія пазначаныя ў творы супярэчнасці застаюцца нявырашанымі. Усё наперадзе ў самога Абдзіраловіча, які яшчэ вагаецца перад апошнім выбарам, наперадзе і нацыянальнае самавызначэнне Беларусі. Ёсць падставы меркаваць, што ў Гарэцкага была задума працягу твора, калі разглядаць шэраг яго наступных апавяданняў як абразкі да новага маштабнага твора. Але мы маем тое, што маем, і ацэньваем тое, што ёсць. Варта падкрэсліць не толькі гістарычную, але і літаратурную вартасць твора, што нагадвае пра супярэчнасці часу, у якім, па сённяшняй ацэнцы гісторыкаў, шмат «белых плямаў». Адзначым і тое, што ў гэтым творы аўтару не здрадзіў нязменны псіхалагізм яго пісьма. Нарэшце, тое, што аповесць з'яўляецца ўзорам інтэлектуальнай прозы, працягам філасофскага пошуку адказаў на «вечныя» пытанні.

Яшчэ не поўнасцю раскрылася таямніца хараства, якое прыцягвае сучаснага падрыхтаванага чытача да прозы Гарэцкага. Думаецца, «Дзве душы» Гарэцкага, гэтак жа як верш «Паязджане» і п'еса «Тутэйшыя» Янкі Купалы, задаюць новую загадку. Дзе крыніца хараства твораў, у якіх акцэнты наўмысна ці міжвольна не прастаўлены да канца, а ідэя не прыйшла да раўнавагі ці адназначнасці? Можа быць, справа якраз у настроі такіх твораў, у іх паэтычнай замглёнасці і незавершанасці, адкрытасці гісторыі? Ці ў больш акрэсленых законах творчасці, паводле якіх складанасці і супярэчлівасці быцця адпавядае мастацкая дыялектыка вобраза?

Трэба думаць, адказ на гэтае пытанне знойдзецца. Галоўнае ж, што «Дзве душы» зноў існуюць для шырокага чытача — і маюць шанц быць прачытанымі без перадузятасці і дагматызму.

*Пятро Васючэнка*

## НА ПЕРАЛОМЕ ЭПОХ

Уключаныя ў аднатомнік апавяданні і драматычны абразок, як і аповесць «Дзве душы», па розных прычынах не трапілі ў Збор твораў М. Гарэцкага. Іх адсутнасць там тлумачыцца не толькі абмежаваным аб'ёмам выдання (100,0 др. арк.), але і грамадска-палітычнымі ўмовамі часу, калі чатырохтомнік рыхтаваўся да друку. Падрыхтоўка першых тамоў, дзе змешчаны «малая проза» і драматычныя творы (т. 1, 1984, т. 2, 1985), прыпадала на пачатак 80-х гадоў — яшчэ да тых дабратворных змен, якія сёння адбываюцца ў грамадска-палітычным жыцці савецкага народа. Канкрэтызуючы гаворку пра неспрыяльную атмасферу застойнага перыяду, у першую чаргу трэба сказаць пра непераадоленую ў тыя гады насцярожанасць да М. Гарэцкага, які ў вачах прыхільнікаў сталінскай мадэлі сацыялізму па-ранейшаму належаў да ідэйна нястальых, ідэалагічна нявытрыманых пісьменнікаў, да дзеячаў быццам бы нацыяналістычнай арыентацыі. Уключаць у чатырохтомнік паасобныя творы перашкаджала таксама і боязь той жорсткай, бязлітаснай праўды, з якой іх аўтар, мастак-рэаліст, паказваў падзеі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, гора і пакуты людзей, сутыкненні і канфлікты, якімі суправаджалася вырашэнне нацыянальнага пытання на Беларусі, утварэнне беларускай дзяржаўнасці. Суровая, мужная праўда не ўпісвалася ў спрошчаныя схемы паказу рэвалюцыі, якія былі выпрацаваны афіцыйнай думкай і арыентавацца на якія павінна была літаратура не толькі 30-х — першай палавіны 50-х гадоў, але і часоў застою. І герой апавяданняў М. Гарэцкага таксама часта выпадаў з сістэмы ідэалізаваных, аднапланавых герояў, удзельнікаў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. А іншы раз апавяданню ці публіцыстычнаму матэрыялу, пра які размова пойдзе ніжэй, не знаходзілася месца ў Зборы твораў толькі таму, што М. Гарэцкі прыгадваў там імя «забароненага» беларускага пісьменніка ці дзяржаўнага, грамадска-палітычнага, культурнага дзеяча, як гэта мае месца, напрыклад, у эцюдзе «Фантазія». У асобных выпадках рашэнню ўключыць пэўны матэрыял у Збор твораў перашкаджалі сумненні адносна прыналежнасці яго М. Гарэцкаму, як у выпадку з «Усебеларускім з'ездам 1917-га года», падпісаным невядомым крыптанімам *Я. С.* Здаралася і так, што крытыка часоў застою праяўляла ідэалагічную звышпільнасць і знаходзіла непажаданыя, «крамольныя» выказванні там, дзе іх і ў паміне не было. Напрыклад, апавяданне «Лірныя спевы» разглядалася даследчыкамі (гл. «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры». Т. 2, 1969) як выдатны ўзор нацыянальнай прозы, як удалая спроба распрацоўкі гістарычнай тэматыкі. У апавяданні сцвярджаецца ідэя вернасці роднай зямлі, асуджаецца здрада дзяржаўным інтарэсам. Аднак наяўнасць у творы рэплік мніха Грыгорыя аб тым, што «не хоча

Польшча Русь Літоўскую сястрой роўнай лічыць, дык не будзе ні Літвы, ні Польшчы, а будзе магутная бесканечная Маскоўшчына», аказалася прычынай таго, што апавяданне не ўвайшло ў Збор твораў.

Змешчаныя ў аднатомніку апавяданні і п'еса, бясспрэчна, уносяць новыя штрыхі ў творчы партрэт М. Гарэцкага — празаіка і драматурга. Творы гэтыя сведчаць аб маштабнасці таленту пісьменніка, багацці яго мастацкай палітры, аб майстэрстве выкарыстання ім разнастайных форм і сродкаў вобразнага ўвасаблення рэчаіснасці. Гарэцкі-пісьменнік заўжды востра рэагаваў на падзеі часу, выяўляў свае адносіны, зыходзячы з уласных светапоглядных пазіцый. У гісторыка-літаратурнай навуцы склалася, аднак, няплённая традыцыя, паводле якой вартасць пэўнага мастацкага твора нярэдка ацэньвалася з пункту гледжання адпаведнасці адлюстраваных пісьменнікам падзей афіцыйна прынятай іх трактоўцы. А між тым пэўны твор павінен цікавіць гісторыка літаратуры як этап ідэйна-мастацкага, светапогляднага станаўлення пісьменніка. Інакш даследчыкам ніколі не ўдасца стварыць аб'ектыўную «Гісторыю літаратуры».

На гэтыя думкі наводзіць разгляд апавядання М. Гарэцкага «У 1920 годзе», якое таксама не трапіла ў Збор яго твораў. Не трапіла менавіта таму, што аўтарская ацэнка падзей 1920 года не супадала з тымі ацэнкамі, якія гэтым падзеям былі дадзены пазней гісторыкамі, афіцыйнай думкай. Апавяданне багатае на змест, нязвыклае і аблічкам дзеючых асоб. Безымянны герой твора характарызуе сябе як «народнага чалавека», прыналежнага да «народнай справы» — ён з'яўляецца сувязным паміж рознымі палітычнымі арганізацыямі, якія варожа настроены «супраць маскоўска-бальшавіцкага наезду». «Народнаму чалавеку» ўдалося перабрацца праз лінію фронту, а вось ягонаму праваднiку не пашчасціла, ён быў схоплены чырвонаармейцамі і, відаць, расстраляны. І зараз герой-апавядальнік душэўна пакутуе, ведаючы, якое вялікае гора ён прынёс сям'і селяніна-праваднiка, асіраціўшы яго дзяцей. Верны жыццёвай праўдзе, М. Гарэцкі паказаў складанасць, супярэчлівасць тагачаснага становішча. І змагары за «народную справу» былі розныя. Адны змагаліся, кіруючыся цвёрдым палітычным пераконаннем, верачы ў дэмакратычныя ідэалы, другія — прыстасоўваліся, шукалі асабістае выгады. І ў гэтай праўдзівасці адлюстравання — каштоўнасць апавядання. Герой твора аказаўся міжвольным слухачом размовы двух удзельнікаў змагання, здавалася б, таксама за «народную справу». Адзін з іх настаўнік, другі былы афіцэр. Яны калісьці разам служылі ў адным палку...

Каб не памерці з голаду, настаўнік вымушаны быў у розных вёсках прапаноўваць дочкам багатых бацькоў сваю руку і сэрца. Зараз ён уцёк ад разгневаных закаханых і выдае сябе за ідэйнага барацьбіта. Субяседнік збеглага настаўніка, які

таксама «ўцёк з-пад бальшавікоў», сваю праграму характарызуе наступным чынам: «Я «прымазаўся» да беларусаў, дастаю паёк у беларускай вайсковай арганізацыі і пакуль што — гора ўкрай! Цяпер прыехаў вось сюды (на нейтральную паласу.— *М. М.*) вербаваць ахвотнікаў». Былы афіцэр, як ён сам прызнаецца, мовы беларускай не ведае, не любіць («адно свінства»), на сваю працу вярбоўшчыка глядзіць як на «камедзію», бо яго цікавяць «пайкі і грошы», а тых, хто верыць у магчымасць стварэння самастойнай Беларусі, называе «ідыётамі». Настаўнік не хоча пагадзіцца з сваім субяседнікам. Ён пярэчыць яму: «Але я ведаю добра, што беларуская агітацыя страшэнна шырыцца. У нас увесь народ за беларусаў, хоць другі дагэтуль і не ведаў, што ён таксама беларус. За беларусамі цяпера пойдзець кожны селянін, бо ад іх толькі ён і спадзяецца добрага».

Але пярэчанне настаўніка нясмелае. У адказ ён чуе пагрозлівае: «Дык чаму ж ты яшчэ не ў беларусах, гэткі гарачы? — насмешліва і нездаволена спытаўся афіцэр». І адначасова адказ: «Як будзе адзіная недзялімая Расея, то я й цябе адным заходам пастараюся павесіць». Пагроза, аднак, не асабліва падзейнічала на ідэйнага «змагара» за беларускую справу, бо, выслухаўшы вялікадзяржаўніка, змагар тым не меней звяртаецца да яго з просьбай: «А ўсё ж ты мяне завярбуй у сваё беларускае войска па старой дружбе».

Аўтар апавядання не імкнецца тут расставіць усе кропкі над «і», вынесці прысуд кожнаму персанажу. Структура яго твора, мэтавая ўстаноўка — інакшыя. Перад намі — жывы кавалак рэчаіснасці, дзе ў тугі вузел сплялося высокае і нізкае, трагічнае і камічнае і дзе чытачу даецца магчымасць самастойна разабрацца ў складанасцях жыцця.

Сярод твораў, якія не трапілі ў Збор твораў,— эцюд «Фантазія». Паводле жанрава-выяўленчых прыкмет гэта — фантастычны рэалізм, дзе паэтычная ўмоўнасць, гіпербалізацыя і высокая патэтыка зліваюцца ў цэласнае мастацкае адзінства. М. Гарэцкаму ўдалося намаляваць тут злавесны вобраз вайны, вобраз пакутніцы-Беларусі, залітай слязамі і агорнутай крывавым туманам. «Пад гулкі грукат гармат, траскатанне стрэльбаў і кулямётаў, пры водбліску страшных пажарышчаў раздаваліся дзікія воплі і балючыя стагнанні забіваных, рэзаных, паміраючых з голаду людзей».

Відовішча раскрыжаванай краіны і людскія пакуты былі такімі нясцерпнымі, што кранулі «расцерзанае да краёў» сэрца вялікага гуманіста і першадрукара Францыска Скарыны, уваскрасілі яго душу. Абуджаная душа асветніка паляцела ў родны край, каб дапамагчы канаючаму народу. Скарына звяртаецца да хворага з галадухі Я. Купалы, затым выклікае з магіл цені заўчасна памершых сыноў беларускага адраджэння — Ф. Багушэвіча, Цёткі, М. Багдановіча, І. Луцкевіча, Л. Гмырака, А. Гаруна, В. Дуніна-Марцінкевіча, С. Палуяна,

К. Каганца. Скарына пераконаны, што былыя адраджэнцы, барацьбіты за волю народа павінны зноў кінуць магутны кліч па ўсёй Беларусі. Скарына не спадзяецца на хуткі поспех, бо хоць палымянае слова Купалы даўно гучыць «па межах родных і разорах», «народ за доўгія вякі няволі аглох і зрабіўся нячулым». Тым не менш надзея не пакідае асветніка, ён верыць, што агульнымі намаганнямі ўдасца абудзіць беларусаў да актыўнага жыцця, выратаваць краіну.

Апавяданне «Апостал» можна з поўным правам аднесці да лепшых твораў М. Гарэцкага ў жанры «малой прозы». Яно цікавае перш за ўсё вобразам галоўнага героя — «гарачага камуніста... даўнейшага прыхільніка беларускага руху, таварыша Курапы (партыйная клічка — Жабін)». Курапа збіраецца палітычна ўсведамляць цёмную, адсталую вёску, прышчэпліваць там з дапамогай палымяных прамоў і заклікаў новыя ідэалы. Але кожны крок асветніка сведчыць аб яго страшэннай адарванасці ад жыцця, аб дагматызме яго мыслення. Курапа не разумее рэальных запатрабаванняў вёскі, ён не можа знайсці агульную мову нават з фурманам, які вязе яго на сустрэчу з сялянамі. Па думцы Курапы, лепшым пацвярджэннем роўнасці камуніста і фурмана было б тое, каб яны сядзелі побач. «Якая, аднак, чыста буржуазная чырта ў спосабе рассаджвання фурмана і падарожнага,— падумаў з знаёмым асадкам ёлкасці таварыш Жабін.— Ён, як быццам якое ніжэйшае стварэнне, сядзіць спераду, а я, камуніст, быццам які пан, сяджу адзаду...» Вось гэту «рэвалюцыйную» ідэю ўсталявання ўсеагульнай роўнасці і братэрства асветнік Курапа-Жабін расцэньвае як «важную». Але ў той канкрэтнай сітуацыі яна на самай справе была недарэчнай, а яе носьбіт аказаўся парадыйнай фігурай партыйца, які вульгарызуе ідэі марксізму.

Самаўпэўнены Курапа кожны раз б'е не ў тыя, што трэба, званы, але камізму становішча не ўсведамляе. Для яго не існуюць рэальныя людзі з іх паўсядзённымі клопатамі і турботамі, а на ўсе выпадкі жыцця ім падрыхтаваны набор мёртвых адцягненых догм. Калі фурман у адпаведнасці з агульнапрынятымі побытавымі нормамі звярнуўся да важнага пасажыра з запытаннем: «А як пана назвіска?», пасажыр, пераблытаўшы калёсы з трыбунай, «нечакана крыкнуў над самым вухам фурмана»: «Далоў паноў! Іх трэба біць, як сабак. Правільна, таварыш?» А сам з палёгкаю падумаў: «Ланцуг пррыкррасці тррэба рра-здзірраць адразу». Што было рабіць беднаму селяніну ў такой нязвыклай сітуацыі? І ён пакорна адказаў: «Правільна», хоць зусім не збіраўся біць паноў, якіх, дарэчы, ужо выгнала Чырвонае войска. Яго цікавіла ў той момант іншае пытанне: «Нам бы, таварыш, ксяндза скуль параілі. Ксяндзы з палякамі паўцякалі. Людзі родзяцца, уміраюць, а мы не ведаем, што з імі рабіць».

Вядома ж, дапамагчы селяніну ў развязванні жыццёва

важнай для яго праблемы Курапа не змог. Ды і не хацеў, захоплены ідэяй рэвалюцыянізацыі вёскі. Ён толькі «з жаласцю і пагардай паглядзеў на пахіленае тулава гаспадара і нічога яму не запярэчыў». Аднак жалю і пагарды тут варты не селянін, а Курапа. Ён, па ўсяму відаць, належаў да тых дзеячаў, якія здольны сваім нястрымным энтузіязмам давесці да абсурду, пазбавіць нармальнага сэнсу любую тэорыю, любое палітычнае ці маральна-этычнае вучэнне. І ўсё гэта яны рабілі, упэўненыя ў высакародстве і бескарыслівасці ўласных памкненняў. Курапы-Жабіны — гэта левакі, якія хацелі адразу вырашыць усе пытанні, звязаныя з будаўніцтвам новага жыцця. Але паспяховай рэалізацыі іх планаў перашкаджалі... канкрэтныя людзі. Нездарма апавяданне заканчваецца шматзначнай сцэнай: Жабін не знайшоў у вёсцы сялян, якія павінны былі слухаць яго прамову, і скамандаваў фурману: «Вязі на поле!» «Толькі яны завярнулі за гумно, нейкі верхавы на злом карку кінуўся з-за стога саломы к лесу. Камуніст інстынктыўна схапіўся за похву рэвальвера». Якая трапная дэталь! Дэмакрат хапаецца за зброю, каб навесці парадак! «— Хаваюць коні ад «учоту» ў лес, а я вазі ды вазі,— бурчэў невясёлы Шашок.

— Вязі на дарогу, я ім пакажу! — крыкнуў раззлаваны Жабін, і фурманка завярнулася назад.

Нечыя вочы глядзелі скрозь шчэлку ў гумне, як яна запыліла на дарозе».

Як бачым, поўным маральным крахам закончылася спроба Жабіна палітычна ўсведаміць вёску. Вельмі лагічным і заканамерным быў шлях героя ад сентыментальнай расчуленасці, пропаведзі братэрства да пагрозлівага вокліку: «Я ім пакажу!» Не атрымалася з Жабіна апостала, прапаведніка новай веры, бо, каб ім стаць, трэба любіць жывых людзей, а не адцягненую тэорыю, трэба разумець душу і сэрца чалавека.

Апавяданне «Незадача» прадаўжае тэму «Апостала», але ўжо ў новым яе варыянце. Галоўным героем тут таксама з'яўляецца актыўны ўдзельнік рэвалюцыі, «часовы камісар N-скай франтавой надзвычайнай камісіі ў справе змагання з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і дэзерцірствам, таварыш Батрачонкаў». Вынікі паездкі Батрачонкава ў вёску на службовым самакаце таксама аказаліся сумнымі, як і ў Курапы-Жабіна, хоць ехалі яны туды ўсё ж з рознымі мэтамі: адзін — каб рэвалюцыянізаваць адсталае сялянства, другі хацеў наведаць бацькоў на свята, а заадно і «даведацца, як ідзе рэвалюцыя ў вёсцы». Але прычыны няўдач у кожнага героя былі розныя. Духоўная закасцянеласць, дагматызм мыслення, пагарда да канкрэтнай чалавечай асобы — вось што прывяло Жабіна да краху, зрабіла яго камічнай фігурай, жывой пародыяй на сапраўднага змагара-асветніка. Батрачонкаў жа, які праз дзень па звароце з вёскі быў «арыштаваны і аддадзены пад суд» за «спекуляцыю, п'янства і шкодную для службы адлучку для

асабістых патрэб на казённым самакаце»,— Батрачонкаў аказаўся ахвярай тых жа жабіных, якія маглі мысліць толькі ў межах, рэгламентаваных пэўным параграфам статута. Іх не цікавіла сутнасць справы, не бянтэжыла абсурднасць абвінавачвання. Дастаткова было бруднай плёткі і абгавору, што пусцілі па свеце перапалоханы царкоўны стараста і бацюшка, каб лёс камісара быў вырашаны.

Спадзяёмся, што чытач зверне ўвагу і на пазнейшыя аўтарскія перапрацоўкі тэксту апавядання. Яны дадуць магчымасць глыбей зразумець першапачатковую задуму твора і характар героя, які «змалку дзён не любіў не толькі паноў, але ўсіх апранутых «па-панску», значыць, у гарадскую вопратку, усіх «у чорным». Складанымі былі і ўзаемаадносіны часовага камісара надзвычайнай камісіі з таварышамі па рабоце. «Іх — цэлая туча, розных сяброў калегіі, агентаў, падагентаў, служачых. Усе яны — партыйныя ці спачуваючыя, што быццам напісана ў кожнага на лобе, па грубаватай смеласці можна пазнаць. Але ніводнага добрага чалавека не чула камісарава сэрца, і ніводнага сапраўднага камуніста не знаходзіў ён. Прыязнасць меў там толькі да ахраны, да салдатаў, бо яны былі дзеці адной з ім пустыні, сяляне, апранутыя па-салдацку, а ў тайнасцях сваіх мужыцкіх душаў не любіўшых тое самае, што не любіў і ён».

Як бачым, з высокімі маральнымі крытэрыямі падыходзіў герой апавядання да ацэнкі сапраўднага камуніста. На першае месца ён ставіў чалавечую дабрыню. Яе адсутнасць у тых, хто ацэньваў учынак Батрачонкава, і прывяла да несправядлівага рашэння.

Герой апавядання М. Гарэцкага супрацьстаіць той галерэі іканапісных, ідэалізаваных, аднапланава спрошчаных вобразаў камуніста, якія запаланілі савецкую літаратуру 30-х — першай палавіны 50-х гадоў і пазнейшых дзесяцігоддзяў. У творах многіх пісьменнікаў замест жывога, паўнакроўнага вобраза са сваім адметным, індывідуальным абліччам з'явілася схема. На змену даследаванню жыцёвай рэальнасці прыйшла голая ілюстрацыйнасць, зададзенасць. Такое зніжэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню літаратуры было заканамерным, паколькі многія выдатныя творы, накшталт прыгаданых тут апавяданняў М. Гарэцкага, былі выведзены з літаратурнага працэсу.

Апавяданне «Усебеларускі з'езд 1917-га года» таксама не ўвайшло ў Збор твораў, бо аўтарскае асвятленне адлюстраваных там падзей не ўкладвалася ў афіцыйна прынятую іх трактоўку. Але ці правамерна да мастацкага твора падыходзіць як да гісторыка-дакументальнай працы і шукаць там поўнай адпаведнасці рэальным фактам? Такі падыход, думаецца, несумяшчальны са спецыфікай мастацтва. Тым болей што і самі факты, пра якія ідзе гаворка ў творы, ацэньваліся па-рознаму. Адназначна адмоўная ацэнка з'езда сёння, як вя-

дома, падзяляецца не ўсімі гісторыкамі. Таму і падыход да апавядання М. Гарэцкага павінен быць інакшы, чым раней. Галоўная вартасць твора — не ў паўнаце ўзнаўлення тагачасных падзей, а ў маральнай ацэнцы паводзін удзельнікаў з'езда, у аўтарскім непрыманні любых форм прымусу і непавагі да нацыянальных патрабаванняў беларускага народа. Цэнтральнае месца ў сюжэце твора — гэта абурэнне героя-апавядальніка ўчынкам «чарнамазага начальніка», які прымяніў сілу да дэлегатаў з'езда. «Што за ліха,— думаем сабе,— здаецца ж, супроць іх нічога не пастанаўлялі, контррэвалюцыянераў сярод нас няма: усё мужыкі, салдаты, народныя людзі з мужычкоў. Хочам, каб усё пайшло народу, і зямля, й лясы, і ўласць,— за што ж яны разганяць нас будуць?»

Драматычны абразок «Жартаўлівы Пісарэвіч» — гэта яшчэ адна ўвасобленая ў вобразнай форме трагічная старонка гісторыі шматпакутнага беларускага народа, звязаная з імперыялістычнай вайной, якая прымусіла сотні тысяч сем'яў пакідаць роднае котлішча і ехаць у далёкі свет. Учарашнія гаспадары станавіліся бяздомнымі падарожнікамі, пазбаўленымі сталай працы і элементарных умоў жыцця. Бежанства прынесла незлічоныя чалавечыя ахвяры, страты і разбурэнні народнай гаспадаркі і культуры. У полымі вайны, якая прыйшла на тэрыторыю Беларусі, загінулі вялікія духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці.

Як пісьменнік і літаратурны крытык М. Гарэцкі заўжды надаваў вялікае значэнне распрацоўцы новай тэмы. У паспяховым мастацкім асваенні новых пластоў рэчаіснасці Гарэцкі бачыў важную перадумову нармальнага развіцця ўсёй літаратуры як адзінага, цэласнага арганізма, бо адбіццё ў мастацкім слове новых з'яў — гэта перш за ўсё паўната адлюстравання народнага жыцця, гісторыі народа. Новыя бакі рэчаіснасці — гэта адначасова і новыя грані праяўлення духоўных магчымасцей чалавека, выпрабаванне яго маральнай сілы. Менавіта гэтымі аспектамі — навізной тэмы і ўвагай пісьменніка да ўнутранага свету чалавека, да яго здольнасці супрацьстаяць неспрыяльным абставінам — і цікавы драматычны абразок «Жартаўлівы Пісарэвіч». Паказальна, аднак, што і да сённяшніх дзён тэма ўцякацтва не знайшла належнага адлюстравання — адэкватнага свайму маштабу — у беларускай літаратуры, хоць сам М. Гарэцкі і закранаў гэту тэму неаднаразова («Літоўскі хутарок», «Пакінутыя хаты», «Уцекачы»). У абразку «Жартаўлівы Пісарэвіч» пісьменнік стварыў вельмі яскравы, непаўторны і псіхалагічна пераканальны вобраз цярплівага пакутніка-беларуса, які дае не толькі сваім сучаснікам, але і іх болей шчаслівым нашчадкам урок сапраўднай маральнасці, высакародства і веліччы духу. Пісарэвіч — гэта сапраўдны герой гісторыі, гэта нацыянальны тып, які насуперак злому лёсу і чэрствым людзям сцвярджае высокую чалавечую годнасць, душэўную сілу і самапавагу. Жартаўлівага

16 Зак. 2541

Пісарэвіча мы з поўным правам можам паставіць побач з героямі «Віленскіх камунараў» і «Камароўскай хронікі», з гераічнымі вобразамі Янкі Купалы, з манументальнымі героямі «Новай зямлі» Якуба Коласа, з велічнымі героямі ваенных раманаў Кузьмы Чорнага.

Драматычны абразок Максіма Гарэцкага, іншыя з прыгаданых вышэй твораў зоймуць належнае ім месца ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства, стануць яшчэ адным духоўным набыткам удзячнага чытача.

## «ШУКАЙЦЕ БРАТУ СВАЙМУ ДАРОГУ ДА ПРАЎДЫ...»

З такім усхваляваным заклікам звярнуўся Максім Гарэцкі да маладой беларускай інтэлігенцыі ў 1913 годзе. Яго ўласная творчасць якраз і была беззапаветным служэннем свайму народу, настойлівым, паўсядзённым пошукам шляхоў да сэрца і розуму працоўнага беларуса, які заўжды заставаўся для пісьменніка родным братам. У народзе бачыў М. Гарэцкі асноватворныя пачаткі жыцця, верыў у яго духоўную сілу і невычэрпныя здольнасці. «А народ усё ж ткі знойдзе сваю праўду»,— сцвярджаў М. Гарэцкі. Святая вера ў працоўнага чалавека, стваральніка ўсіх багаццяў зямлі, натхняла мастака слова ў яго творчай дзейнасці. На жаль, многія бакі багатай, шматграннай творчасці пісьменніка па-ранейшаму застаюцца малавядомыя шырокаму чытачу, у тым ліку і яго літаратурна-крытычная, навуковая і публіцыстычная спадчына. Ліквідаваць гэта прыкрае ўпушчэнне і мае на мэце дадзены аднатомнік, змешчаныя тут публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя матэрыялы, хоць і яны, зразумела, не даюць вычарпальнай паўнаты, якая магчымая толькі ў Поўным зборы твораў. Але такое выданне — справа будучых дзён, справа калектыўных намаганняў вучоных.

У прыватнасці, чакае свайго надрукавання «Гісторыя беларускай літаратуры», якую М. Гарэцкі выдаваў у 1920, 1921, 1924 і 1926 гадах.

Ужо самыя раннія творы — кароткія нататкі, карэспандэнцыі, якія накіроўваў у «Нашу ніву» вучань Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча,— даюць магчымасць акрэсліць кола і напрамак інтарэсаў будучага пісьменніка. Іх аўтар выявіў непадробную цікавасць да тых набалелых, вострых праблем, якімі жыла тады беларуская вёска, цікавасць да гаротнага становішча беззямельнага селяніна. Гарэцкі ўсхвалявана гаварыў аб велізарнай маральнай адказнасці, якая ўскладзена на беларускую інтэлігенцыю, заклікаў да бескарыслівай працы на ніве народнай асветы. Сваімі нататкамі, у

пераважнай большасці падпісанымі псеўданімамі Беларус, Максім Беларус, крыптанімамі М. Б., М. Б-с, малады Гарэцкі дэманстраваў цвярозасць поглядаў на навакольнае жыццё, крытычную настроенасць пры яго асэнсаванні, а таксама ўменне ўвасабляць сваю думку ў даступнай чытачу форме. «Народ навокал жыве небагата, бо зямлі мала, а фабрычна-заводскага промыслу ці якога іншага няма і да жалезнага шляху далёка, а гарэлкі п'е тутэйшы селянін надта многа. Страшэннае п'янства і сярод гарадскіх земляробаў». А некаторыя з занатаваных у карэспандэнцыях здарэнняў уяўлялі сабой сюжэт будучага мастацкага твора, бо гэта здарэнне несла глыбокую супярэчнасць, тут быў канкрэтны ўдзельнік канфлікту, найчасцей — ахвяра ненармальных грамадскіх парадкаў або неспрыяльных абставін жыцця. Успомнім, напрыклад, псіхалагічны стан селяніна, перад якім — у выніку памылкі валаснога начальства — паўстала пагроза яшчэ раз плаціць ужо выплачаныя грошы ў пазычковую касу.

Але не толькі негатыўныя побытавыя з'явы з жыцця дакастрычніцкай вёскі — цемната, шырока распаўсюджанае п'янства («Не глядзелі б вочы...», «Краіна добрых абычаяў»), крадзёж, нізкі ўзровень бытавой культуры сялянства прыцягвалі ўвагу М. Гарэцкага. Вельмі рана абудзілася ў душы будучага пісьменніка і цікавасць да грамадска-палітычных праблем, узнікала жаданне разабрацца ў прычынах той ці іншай грамадскай супярэчнасці. Так, у нататцы «Нашы» М. Гарэцкі з'едліва высмейвае палітычную праграму некаторых кансерватыўных, ахраніцельных органаў друку («Русское слово», «Биржевые ведомости»), выкрывае тых беларускіх інтэлігентаў, якія здраджваюць інтарэсам народа, ідуць на ўслужэнне вялікадзяржаўнікам.

Публіцыстычным матэрыялам М. Гарэцкага ўласціва глыбокая праблемнасць. Пры гэтым сацыяльна-палітычныя аспекты тут знітаваны з нацыянальна-культурнымі, з такімі пытаннямі, як шляхі развіцця літаратуры, распаўсюджванне перыядычнага друку, асветы і г. д. Тыповым прыкладам такой арганічнай знітаванасці могуць быць артыкулы «Наш тэатр» і «Развагі і думкі». Па сутнасці, гэта праграмныя выступленні пісьменніка, у якіх выкладзены яго погляды на многія вострыя, надзённыя пытанні часу, яго ідэйна-эстэтычнае крэда, прынцыпы рэалістычнага мастацтва. Так, у артыкуле «Развагі і думкі» М. Гарэцкі паставіў перад сабой складаную задачу — выявіць сацыяльныя, грамадскія вытокі, карані беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, вытлумачыць прычыны яго ўзнікнення і перспектывы развіцця. «Беларускі рух... беларускі рух... Што гэта за дзіва? Што яшчэ за праява — адраджэнне белых русічоў? Што гэта за навіна часоў нашых — «свядомыя» беларусы? Скуль яно, тое дзіва, пайшло, адкуль узялося? І што гэта за дзіва?» Пісьменнік пераканальна даводзіць думку аб тым, што рух узнік у самім жыцці, з'яўляецца

гістарычнай заканамернасцю, ён абумоўлены ўнутранымі патрэбамі духоўнага развіцця народа, нацыі. Тое, што шырокія народныя масы абудзіліся да актыўнай грамадскай, нацыянальна-культурнай дзейнасці, было пацвярджэннем іх багатых унутраных магчымасцей, якія ва ўмовах несправядлівага грамадска-палітычнага ладу не маглі знайсці свайго ажыццяўлення. «Можа, гэта крык аб правах народа, ядынага ў псіхіцы і здольнага да самабытнага жыцця сярод народаў, катораму не да твару быць прыбаўкаю, дадаткам да нацыі дужэйшай....»

М. Гарэцкі з'едліва высмеяў абразлівыя закіды публіцыстаў рэакцыйнага друку наконт быццам бы нізкага інтэлектуальнага ўзроўню беларуса. Пісьменнік рашуча адвёў паклёпніцкія выдумкі. Сваю задачу ён бачыў у тым, каб раскрыць сапраўдныя прычыны цемнаты і адсталасці селяніна. Яны — у несправядлівым грамадскім ладзе, у сацыяльнай няроўнасці і нацыянальным уціску народных мас. А яшчэ — у пасіўнасці, грамадскай абыякавасці, якая пануе сярод працоўнага люду. Царская адміністрацыя прыкладвала нямала намаганняў, каб вытруціць з душы і свядомасці беларуса ўяўленне аб яго нацыянальнай прыналежнасці. Вось чаму шмат у якіх беларускіх сем'ях, зазначае пісьменнік, вядуцца спрэчкі, да якой нацыянальнасці яны належаць і ці трэба іх дзецям «беларусіцца». Трэба, сцвярджае М. Гарэцкі. Трэба як найхутчэй адкінуць усялякія сумненні і скіраваць думку ў рэчышча канкрэтнай грамадскай, культурна-прасветнай дзейнасці. Неабходна выхоўваць у народзе веру ў будучае і гартаваць волю да актыўнай працы. «Руху сярод нашай праўдзівай інтэлігенцыі найболей й шкодзіць недахват волі і гэта рэфлексія, гэта самакрытыка, гэты самааналіз лепшых адросткаў карэння беларускага».

Велізарнейшая роля ў высакароднай, святой справе абуджэння і выхавання належыць вядучым дзеячам вызваленчага руху, а таксама выдатным мастакам слова. «Вот тут-то я і звярнуся да «генералаў» адраджэння, кіраўнікоў руху... Тут я скажу ім: смялей гаварыце новае слова народу беларускаму!.. Смялей і выразней цвярдзіце і гаварыце, да чаго вы кіруецеся і куды вядзіцё народ. І да паэтаў сваіх звярнуся: і ты, дзядзька Янка, і ты, дзядзька Якуб, і вы, усе другія «парнасвікі» нашы, калі вы хочаце папраўдзе быць прарокамі народа нашага, а не толькі хваленымі аўтарамі кніжак у беларускай мове,— смялей і выразней гаварыце сваё новае слова і дбайце, дбайце аб тым, каб у вас слова і дзела было нешта адно, каб у вас слова радзіла дзела, а дзела паддавала духу слову... Скажуць: слова паэта — яго дзела... Так! Але ў наш час беларускі паэт павінен памятаць, што толькі таго прарока вера шырыцца паміж народа, каторы быў прарокам як на слове, так і на дзеле, бо як вера без дзела мёртва, так і слова без дзела можа быць нікчэмна і яшчэ горай — шкодна. Памятайце, хто мае на тое памяць, як жыў Тарас Шаўчэнка. Не меў спакою вялікі

Талстой, пакуль лупежыў панства, жывучы ў панстве, і недарма, «на санёх седзя», перад смертухнай сваею ўцёк ён ад панства.

Дык смялей і цвярдзей! І выразней! Не баючыся болек і не хаваючыся ад святла!»

Тут М. Гарэцкі паслядоўна абгрунтоўвае канцэпцыю сацыяльна актыўнай, дзейснай літаратуры, разглядае яе развіццё ў адзінстве з барацьбой працоўных за вызваленне ад сацыяльнага прыгнёту і нацыянальнага ўціску. Прадстаўнікі беларускай літаратуры, інтэлігенты, якіх павінна нарадзіць і ўжо пакрысе нараджае народ — менавіта «шчырых младабеларусаў, а не палякаў з «Забранай Літвы» і не русакоў з «Западнага Краю»,— яе прадстаўнікі павінны стварыць і пусціць у народную гушчу кніжку, зацікавіць ёю не толькі свядомых, але і тых, хто яшчэ далёкі ад спраў адраджэння. У аснове гэтай кніжкі павінна быць ідэя народнасці, родных каранёў. «Мы не можам не лічыцца з жыццём, з жыццёвымі патрэбамі народа нават і тады, калі гэтыя жыццёвыя патрэбы народныя, на наш погляд — хворы, ненармальны і шкодзяць адраджэнню беларусаў. Не можам не лічыцца дзеля таго, каб не адарвацца ад карэння. Калі беларуская інтэлігенцыя адарвецца ў самым пачатку ад свайго народа, яна хоць і не загіне і будзе сяк-так мадзець і расці, але буйнага калашэння яе не будзе ніколі».

Думкі-меркаванні Гарэцкага, выказаныя ім тры чвэрці стагоддзя назад, на жаль, і сёння шмат у чым не страцілі ранейшай актуальнасці. «Не бяжы ад народа, а бяжы да народа» — гэты заклік таксама гучыць надзённа. Сваім адрасатам ён мае не толькі прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, але і кожнага грамадзяніна, ад асабістай актыўнасці якога залежыць будучы лёс краіны, лёс беларускай нацыі, нацыянальнай культуры.

М. Гарэцкі востра палемізуе ў артыкуле з тымі непрыяцелямі беларускага вызваленчага руху, хто, зыходзячы са сваіх карыслівых, эгаістычных інтарэсаў, абвінавачваў удзельнікаў гэтага руху ў прапагандзе сепаратызму, ідэй аўтаноміі. Абвінавачванні кідалі людзі, якім не хацелася прызнаваць за беларускім народам права на самастойнае існаванне, яны лічылі Беларусь ці Паўночна-заходнім краем ці часткай польскай тэрыторыі. Беларускі пісьменнік даў гэтым няпрошаным апекунам належную водпаведзь: «А як толькі мы захацелі быць беларусамі, думаючымі і гаворачымі па-беларуску, дык — стоп машына! Тут пайшлі і «іконі русскія начала» і гістарычныя правы на нашу старонку «незгінэлых»...

Да жанравай формы публіцыстыкі М. Гарэцкі асабліва часта звяртаўся ў перыяд рэвалюцыі і ў першыя паслякастрычніцкія гады. Па волі лёсу ў гэты час ён стаў актыўным супрацоўнікам газеты «Известия Смоленского Совета» (канец каст-

рычніка 1917 — да жніўня 1918 года). Артыкулы «смаленскага перыяду» прыкметна адрозніваюцца ад ранейшых публіцыстычных матэрыялаў Гарэцкага. Яны напісаны на рускай мове (а магчыма, перакладзены з беларускага) і друкаваліся, як правіла, пад псеўданімамі Дзед Кузьма, Ваш Амсціслаўскі, Максім, а некаторыя — пад крыптанімамі П. Б-н, П. Б.

У 1927 годзе М. Гарэцкі прыгадваў: «Пасля Кастрычніка я жыў у Смаленску і ў самым канцы 1917 г., ці ў самым пачатку 1918 г., пачаў супрацоўнічаць у «Известиях Смоленского Совета». Я даваў спачатку фельетоны і пераклады з сваіх жа апавяданняў у беларускай мове, пад псеўданімам Дзед Кузьма». Выбар менавіта такога літаратурнага псеўданіма — Дзед Кузьма — нельга лічыць чымсьці выпадковым, неістотным. Свядомы акцэнт на сталым узросце аўтара мае зусім пэўную ідэйна-сэнсавую скіраванасць, а менавіта жаданне падкрэсліць пераемнасць вопыту пакаленняў. Гарэцкі-публіцыст выступаў ад імя працоўнага класа і лічыў неабходным узброіць тых, хто будзе бараніць рэвалюцыю, маральным, духоўным вопытам мінулага, вопытам народнага жыцця. І хаця псеўданім характарызаваў аўтара артыкулаў як асобу сталага ўзросту, змест яго выступленняў раскрываў псіхалагічны стан і памкненні чалавека перадавога, актыўнага, дзейснага. У яго выступленнях пераважаюць прамоўніцкія інтанацыі, пануе высокая эмацыянальная ўзрушанасць, нават мітынговая танальнасць.

Тэматычны аспект гэтых выступленняў шырокі, разнастайны. Перш за ўсё — цвёрдая вера ў перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі, заклік да ўдзельнікаў рэвалюцыйнай барацьбы быць мужнымі, не баяцца перашкод, пераадольваць цяжкасці. Дзед Кузьма ў сваіх усхваляваных зваротах да чытачоў гнеўным словам выкрывае абаронцаў старога ладу. Сярод тых, хто хацеў бы вярнуць ранейшы парадак,— абывацелі, якія ахвотна распаўсюджваюць чуткі, нянавісць да рэвалюцыі, настроі разгубленасці і страху.

Дзед Кузьма выступае ў абарону заваёў Кастрычніка, ён кліча да салідарнасці працоўных розных нацый у барацьбе за ідэалы ўсеагульнай свабоды, сацыяльнай роўнасці і братэрства, верыць, што ахвяры, прынесеныя на алтар рэвалюцыі, не будуць дарэмнымі. Змест выступленняў Дзеда Кузьмы вызначаўся канкрэтнымі абставінамі часу, запатрабаваннямі бягучага моманту. У артыкуле «Кое-что о нашем быте» адводзяцца папрокі ў нізкім культурным узроўні працоўных як нібыта спрадвечнай якасці, раскрываюцца сацыяльныя прычыны гэтай з'явы. Адкуль жа народным масам, ставіць пытанне Дзед Кузьма, быць адукаванымі, багатымі, калі на працягу стагоддзяў яны бязлітасна эксплуатаваліся? Буржуазныя праваахоўнікі любяць размовы пра нізкую пабытавую культуру народа і супрацьпастаўляюць яму краіны Захаду. Але яны маўчаць там, дзе патрэбна б было адказаць на пытанне: чаму

так здарылася? Адказ для абаронцаў буржуазнага ладу быў бы несумяшчальны:

«Почему так?

— Да потому, что паны выжимали из нас все, что могли, и увозили наши денежки в Ниццы да Баден-Бадены и Карлсбадены. А бывает, обеднеет панок, продаст купцу наш родимый лес, а тот его нашими руками до щепки сведет, сплавит в чужедальние стороны, капиталец в карман — и был таков, хвостом накроется. А у нас опять — дороги непроезжие, бревнышка на хату не на что купить, училище в лачуге и нет мостов, ни шоссе, ни народных домов».

Ужо адзначалася, што нават у ранні перыяд Гарэцкі-публіцыст да разгляду сацыяльна-палітычных праблем нярэдка падключаў пытанні нацыянальна-культурнага характару, звязаныя з перспектывамі развіцця беларускай літаратуры, мастацтва. Такое спалучэнне надае артыкулам пісьменніка асаблівую каштоўнасць. Падобным жа прыёмам і поспехам карыстаўся і Дзед Кузьма. У цытаваным ужо артыкуле «Кое-что о нашем быте» ім даволі крытычна ацэньваецца апавяданне А. Новіча «Амерыканец», дзе з чыста асветніцкіх, маралізатарскіх пазіцый паказвалася беднасць, галеча дакастрычніцкай беларускай вёскі. Але гэтым аўтар апавядання і абмежаваў сваю задачу, не заглыбіўшыся ў прычыны беднасці беспрацоўнай вёскі, што і выклікала крытычныя адносіны з боку Дзеда Кузьмы. «...больно и обидно было читать его. Пану автору уколола глаз только грязь наша, и он предвзято стал поучать нас чистоплотности. А хотелось крикнуть ему в глаза: «Кто виною этому?»

У артыкуле прыгадваецца і яшчэ адзін твор, блізкі да апавядання А. Новіча,— «Перагародка» М. Г., г. зн. Максіма Гарэцкага. Тут раскрываецца драматычная гісторыя маладога селяніна, якога незаслужана пакрыўдзіла старая вёска і які збег у горад. Але і ў дадзеным выпадку вінаваты тыя, хто эксплуатаваў селяніна, хто ўбіваў яму ў галаву думку пра ягоную духоўную непаўнацэннасць. І селянін звыкся з гэтым абразлівым, несправядлівым сцверджаннем. Але рэвалюцыя паклала канец эксплуатацыі і падману. Яна заклікае адмовіцца ад старых, заскарузлых, рабскіх звычак, ад няверʼя ў свае сілы.

Дзед Кузьма разам са сваімі сучаснікамі падзяляў высакародныя памкненні і наіўныя спадзяванні на хуткую перамогу сусветнай рэвалюцыі. Вось як марыў ён пра недалёкую светлую будучыню: «Скромно отпразднуем 1-е Мая в сем году, а в будущем (блажен, кто верует) к этому времени заалеет стягами красными вся Европа, будет праздников праздник, недалеко до нового урожая,— передохнем. Еще несколько терний и острых камней по пути,— и будет счастье». Чаканне сусветнай рэвалюцыі, пачатку эры непазбежнага шчасця не перашкаджала, аднак, аўтару артыкулаў бачыць і тыя надзённыя

праблемы, якія патрэбна было неадкладна вырашаць. Сярод іх — барацьба са спекуляцыяй, з новай буржуазіяй, якая ішла на змену старой. «Новая прикрывается своими лохмотьями, потому что не чувствует потребности одеться, да ей и выгодно походить на бедняка. Она нахально и громко спорит с милицией, ругает буржуев. Но еще больше ругает Советскую власть, борющуюся со спекуляцией. Советская власть им теперь не нужна, потому что теперь время грабить и боязнь, что отнимут так быстро нажитое».

Думаецца, у нас няма падстаў папракаць аўтара артыкула тым, што ён без належнай дыферэнцыяцыі падышоў да ацэнкі сацыяльнага складу новай буржуазіі і ўключыў у яе лік грамадзян, якія праяўлялі працоўную актыўнасць, гаспадарчую ініцыятыву, не чакаючы хуткай перамогі сусветнай рэвалюцыі. Не, аўтар меў на ўвазе тых, хто нажываў багацце несумленным шляхам — спекуляцыяй, падманам. Селяніна, які пасеяў 10 мяшкоў бульбы і сабраў шчодры ўраджай сам дванаццаць — 120 мяшкоў, пісьменнік крытыкуе не за тое, што той браў 60, потым 50 і 40 рублёў за меру. Падставай для абурэння была эксплуатацыя селянінам наёмных работнікаў. «Сам не рыл. К нему приходили из города жены рабочих и другой бедный люд и просили: сами нароем, только продай.

И рыли. И за месяц на моих глазах мужик выручил 12 000 за картошку». Увагу пісьменніка прыцягвае тут і маральна-палітычны аспект: менавіта тыя людзі, якія ўмеюць выкарыстоўваць цяжкае эканамічнае становішча краіны, якія нажываюцца на няшчасці галодных, якраз і скардзяцца, што «жизнь ноне стала невтерпеж».

Канкрэтызуючы некаторыя палажэнні ранейшага свайго артыкула «Развагі і думкі», М. Гарэцкі зноў — толькі ўжо на іншым узроўні — уступіў у палеміку з тымі абаронцамі буржуазнага правапарадку, хто распаўсюджваў злосныя чуткі пра дзікунскія адносіны простага чалавека да матэрыяльных багаццяў мінулага. Паводле гэтых сцвярджэнняў, беднякі, якім адвялі пад жытло былыя кватэры эксплуататараў, нібыта знішчаюць, абруджваюць усё каштоўнае, што будавалася, што збіралася стагоддзямі. Аўтар артыкула «Берегите» (падпісаны псеўданімам Максім) далёкі ад таго, каб у эмацыянальным прапагандысцкім запале аспрэчваць падобныя факты. Яго задача іншая — вытлумачыць сацыяльныя прычыны такіх паводзін працоўных нізоў і звярнуцца да іх з заклікам: «...товарищи, берегите. Берегите то, что досталось вам; не потому, что это чужое. Теперь нет чужого. И не потому, что это ваше. Берегите потому, что это общее, потому что, действительно, в этих квартирах есть много хорошего, что составит теперь достояние народа; потому что в них, в этих хорошо и со вкусом обставленных квартирах, будет расти ваше молодое поколение, и пусть оно приучается жить в этой обстановке, чтобы потом его нельзя было снова загнать в подвал или под

крышу...» Як бачым, хоць нагода напісання артыкула, здавалася б, была часовая, мела пераходны характар, пісьменнік тым не менш знайшоў тут глыбокі сэнсавы ракурс. Ён перавёў тэму ў план размовы аб выхаванні ў асяроддзі народа пачуццяў уласнай годнасці, самапавагі, пачуццяў гаспадара.

Тэма народа, тэма неабходнасці маральнай падтрымкі працоўнай вёскі з боку горада знайшла свой далейшы працяг і паглыбленне ў нарысе «Деревня», які болей нагадвае фрагмент мастацкага твора. Тут дамінуе роздум пісьменніка над гаротнай, незайздроснай доляй беларускай вёскі першых паслярэвалюцыйных гадоў. Адносіны да яе з боку аўтара дваістыя, як у героя лермантаўскага верша «Радзіма». Ён не можа спакойна слухаць тых, хто ганьбіць вёску, папракае яе нізкім культурным узроўнем, коснасцю, але і сам бачыць цёмныя змрочныя бакі вясковага жыцця.

«Ох! Темны и убоги наши хаты.

Мизерна внешность хат.

Мизерна духовная жизнь обитателей хат.

Даже в момент величайших потрясений и грандиознейших сдвигов.

Даже в этом бурлящем водовороте, этом клокочущем вулкане революционных событий.

Если есть что-нибудь скушать, так скушают в деревне с грязью и пылью: обольют стол, испачкают одежду и вымажут пальцы, словно «квач» в дегте.

Если есть из чего одежонку сделать, деревня сделает ее так, что хоть пещерный человек одевай ее! Некрасиво и неудобно: то слишком длинно, то очень коротко; криво и косо.

А язык — одежда народной души? Слишком просты нравы и быт, и в разговоре деревни вы об этом услышите. Груб язык, как груба душа».

З глыбокім душэўным болем і спачуваннем гаворыць пра ўсё гэта пісьменнік. Здавалася б, няма выйсця з драматычнага становішча, бо зрухі да лепшага ў вёсцы адбываюцца паволі. І М. Гарэцкі звяртаецца да інтэлігенцыі з заклікам аказаць вёсцы маральную падтрымку — ёй патрэбны кніга, газета, асветная праца.

У прыгаданых артыкулах М. Гарэцкі, улічваючы новыя, народжаныя сацыялістычнай рэвалюцыяй магчымасці, канкрэтызуе ўласную канцэпцыю вёскі, якая ўжо была ўвасоблена ім у мастацкіх творах. Мы бачым, што пісьменнік не закрывае вачэй на негатыўныя моманты, але і не кідаецца ў роспач. Ён верыць у творчыя сілы народа, у самаахвярнасць інтэлігенцыі.

Сярод публіцыстычных выступленняў М. Гарэцкага на старонках друку падчас знаходжання ў Смаленску асаблівую ўвагу прыцягвае яго артыкул «Няхай жыве камуністычная Беларусь[!]». Артыкул напісаны на рускай мове, але загаловак яго — на беларускай. М. Гарэцкі закрануў тут шэраг вострых

палітычных пытанняў, звязаных з утварэннем Беларускай Савецкай Рэспублікі. Асноўны прадмет гаворкі — адносіны бальшавіцкай партыі да права нацый на самавызначэнне, а таксама выкрыццё прэтэнзій прадстаўнікоў беларускіх буржуазных партый — «полесского помещика Скирмунта» і «совершенно не известного до последнего года в белорусских кругах» Варонкі — выступаць ад імя народа. Буржуазныя дзеячы сцвярджалі, што «коммунисты попирают право на самоопределение». М. Гарэцкі, вядома, не ставіў сабе за мэту шырока асвятліць усе перыпетыі гэтай складанай барацьбы. Ды і наўрад ці мог ён прадбачыць, з якімі цяжкасцямі сутыкнуцца беларускія камуністы пры вырашэнні пытання аб самавызначэнні нацыі.

У апошнія гады беларускія гісторыкі, перш за ўсё В. А. Круталевіч, пісьменнік Э. Ялугін, аўтар аповесці «Пасля небыцця», пераканаўча паказалі, што далёка не ўсе тагачасныя партыйныя кіраўнікі, адказныя грамадскія дзеячы Беларусі ўзнімаліся да ленінскага разумення шляхоў вырашэння нацыянальнага пытання, дапускалі сур'ёзныя памылкі, адступленні ад ленінскага вучэння. У дадзеным выпадку для нас істотна тое, што М. Гарэцкі ў 1919 годзе рашуча падтрымаў пазіцыю «известнейшего белорусского коммуниста-литератора Дмитрия Жилуновича», які стаіць «во главе... рабоче-крестьянского правительства Белорусской Советской Республики».

Артыкул «Няхай жыве камуністычная Беларусь[!]» быў надрукаваны ў «Известиях Смоленского Совета» 4 студзеня 1919 года і падпісаны крыптанімам П. Б-н. Пазней М. Гарэцкі прыгадваў: «Агалашэнне ў снежні 1918 г. на камуністычнай канферэнцыі ў Смаленску незалежнасці Беларусі нарабіла тады гуку. І яшчэ ў Смаленску... быў змешчаны мой невялічкі артыкул аб Савецкай Беларусі з загалоўкам па-беларуску: «Няхай жыве Савецкая Беларусь!» Гэта былі, мусіць, першыя прызнаныя беларускія словы ў смаленскіх газетах». Выступленне М. Гарэцкага дапамагае глыбей адчуць атмасферу складанага, напружанага рэвалюцыйнага часу, дапамагае зразумець яго грамадскую, палітычную пазіцыю ў перыяд барацьбы за Савецкую Беларусь. Артыкул важны і для вывучэння эвалюцыі светапогляду пісьменніка. Нават калі тут мела месца і пэўнае спрашчэнне праблемы, калі рэальная практыка палітычнага жыцця аказалася куды болей драматычнай і трагічнай, чым уяўлялася М. Гарэцкаму, выразнасць ягонай пазіцыі ў такім складаным пытанні, як права нацый на самавызначэнне, і рашучая падтрымка ўтварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі сёння павінны быць ацэнены па вялікім рахунку.

Да псеўданімаў А. Мсціслаўскі, Дзед Кузьма Гарэцкі-публіцыст звярнуўся і ў час свайго знаходжання ў Вільні. У пачатку 1919 года вядомы грамадскі і партыйны дзеяч В. Кно-

рын запрасіў М. Гарэцкага супрацоўнічаць з рэдакцыяй газеты «Звязда». Пісьменнік пераязджае ў Мінск, а неўзабаве — у сувязі з утварэннем Літоўска-Беларускай рэспублікі — у Вільню. Пазней М. Гарэцкі пісаў: «У самым канцы сакавіка ці ў самым пачатку красавіка 1919 г. рэдакцыя «Звязды» пераехала з Менску ў Вільню, але не ў тым складзе, у якім была ў Менску. На прапазіцыю тав. Кнорына паехаў і я». У красавіку таго ж 1919 г. горад нечакана захапілі «легіёны пана Пілсудскага», і Гарэцкі вымушаны быў застацца ў Вільні, дзе знаходзіўся да 19 студзеня 1922 года. За гэты час яму давялося быць выкладчыкам беларускіх настаўніцкіх курсаў і адначасова працаваць у Беларускай Віленскай гімназіі, рэдагаваць і выдаваць газету «Беларускія ведамасці» (верасень 1921 — студзень 1922 гг.) і «Дэкламатар», у якім змяшчаліся літаратурныя і гістарычныя матэрыялы з «Беларускіх ведамасцей». Пад рэдакцыяй Гарэцкага ў гэтым жа годзе пэўны час выходзіла газета «Наша думка» (з 1 па 9 нумар). Актыўна выступаў пісьменнік і на старонках «Беларускай думкі» і «Беларускага жыцця». Тут змяшчаліся мастацкія творы, навуковыя працы і публіцыстычныя матэрыялы. Сярод апошніх звяртаюць на сябе ўвагу артыкулы, палемічныя нататкі «Тутэйшае жыццё», «Гуртуйцеся», «Любіце польскі народ», «Эндэцкія выкрутасы», «Выбары ў польскі віленскі сейм» і іншыя.

У гэтых матэрыялах М. Гарэцкі яскрава выявіў сябе не толькі як культурны дзеяч, актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага руху, шчыры абаронца інтарэсаў працоўнага беларускага люду, прапагандыст беларускай культуры, вучоны-асветнік, але і як інтэрнацыяналіст, паслядоўны прыхільнік ідэй дружбы і брацтва народаў розных нацыянальнасцей, веравызнанняў. Так, у артыкуле «Любіце польскі народ» пісьменнік рашуча абвяргае тых карэспандэнтаў «Нашай думкі», хто не бачыў розніцы паміж польскімі панамі і польскім народам, хто атаясамліваў палітыку правячых колаў буржуазнай Польшчы з інтарэсамі польскіх працоўных: «Вось жа скажу зусім сумленна, што варожасці да польскага народу ўсяго разам я нідзе на правінцыі з боку нашых сялян, нашага народу — не відзеў. Народ аказваецца разумнейшы за тых «няпростых» дапісчыкаў. Народ страшэнна цярпіць ад ваеннай абстаноўкі, народ цяпер відзіць, апроч таго, як жаўнеры-чужакі бяруцца за належную да беларусаў зямельку, але ўсё ж няма ў ім нацыянальнае нянавіднасці да польскага народу. Народ наш разумее, што не польскі народ вінават у тым, што нам робіцца вялікая крыўда. А калі і вінават, то столькі ж, сколькі і самі вінаваты, сколькі вінават бывае наогул усякі народ, у старонцы якога да таго ці іншага часу пануюць непарадкі».

М. Гарэцкі выступіў з палымяным заклікам да сваіх чытачоў «любіць польскі народ», якому шмат давядзецца «паку-

таваць за ўчынкі шавіністаў, эндэкаў, крэсаўцаў» — тых прадстаўнікоў палітычнай партыі і мілітарысцкіх сіл, хто падтрымліваў рэакцыйную палітыку польскага ўрада ў дачыненні да беларускіх зямель, захопленых у 1920 годзе ў час савецка-польскай вайны.

Актыўна пратэставаў М. Гарэцкі і супраць спроб польскага нацыяналістычнага друку зняважыць беларускі і літоўскі народы, даказаць, як гэта намагалася польская буржуазная газета «Жэчпосполита», што «беларусы — гэта не беларусы, а палякі» («Эндэцкія выкрутасы»). Знаёмства з такімі выступленнямі паказвае, што пісьменнік упэўнена адчуваў сябе ў жанравай форме памфлета, умела выкарыстоўваў такія выяўленчыя формы публіцыстыкі, як іронія і сарказм.

Бясспрэчна, выступленні М. Гарэцкага садзейнічалі выхаванню грамадскай, палітычнай, нацыянальнай свядомасці працоўных тагачаснай Заходняй Беларусі, спрыялі разгортванню і ўмацаванню нацыянальна-вызваленчага руху, ідэйнай кансалідацыі рэвалюцыйных сіл.

М. Гарэцкі, як мы ўжо бачылі, адначасова выступаў у жанрах уласна мастацкай літаратуры, публіцыстыкі і літаратурнай крытыкі, хоць у колькасных адносінах публіцыстычныя матэрыялы і ўступаюць гісторыка-літаратурным і літаратурна-крытычным. Сапраўды, цікавасць М. Гарэцкага да гісторыі нацыянальнай літаратуры і бягучага літаратурнага працэсу, да сферы культурнага жыцця беларускага народа на ўсім працягу яго творчай дзейнасці была сталай, глыбокай.

Крытычнаму слову М. Гарэцкі надаваў вялікую ідэйна-выхаваўчую ролю яшчэ ў раннія гады сваёй працы. У цытаваным ужо артыкуле «Развагі і думкі» ён выказваў шкадаванне, што ў беларускай літаратуры няма крытыкаў-прафесіяналаў, нецярпліва чакаў іх з'яўлення, дапамагаў нараджэнню прафесійнай крытыкі: «Я, не плюшчыўшы вочы, скажу: няхай як мага скарэй праявіцца ў нас хоць бы адзін добры крытык. Усякая маладая літаратура, і беларуская, калі ўжо яна мае перад светам нейкі від праз выразнейшых і выбітнейшых пісьменнікаў, асабліва мае патрэбу ў сур'ёзнай крытыцы».

Важна падкрэсліць, што для М. Гарэцкага, як і для М. Багдановіча, літаратурная крытыка не была пераважна сродкам абгрунтавання ідэйна-эстэтычных прынцыпаў, якіх ён прытрымліваўся ў сваёй уласнай творчасці. На крытыку Гарэцкі глядзеў як на самастойную форму творчасці, як на фактар паспяховага развіцця літаратуры. Літаратурна-крытычны жанр і гісторыка-навуковае даследаванне. Гарэцкі не схільны быў лічыць чымсьці другарадным, менш патрэбным, менш сацыяльна прэстыжным.

У чым М. Гарэцкі бачыў задачу крытыка? Крытык, лічыў ён, павінен глыбока пранікнуць у задуму аўтара, спасцігнуць логіку яе развіцця. «Па-мойму, крытыкаваць,— меркаваў Гарэцкі,— значыць шукаць таго ж, чаго шукаў аўтар, і рабіць думку яго яснейшай чытачу». Але крытык, хоць ён і не мае права навязваць мастаку ўласных меркаванняў, не павінен пасіўна ісці за пісьменнікам. Ён абавязаны разабрацца ў вартасцях твора як мастацкай з'явы, выявіць, «ці добра выклаў думку аўтар, і як выкладаў, і як бы мог выкласць лепей».

Важны ў метадалагічным плане таксама тэзіс Гарэцкага аб тым, што «дрэнная крытыка такая, што крытыкуе не творы, а аўтара. Хоць праўдзіва мастацкі твор — частка душы аўтара і, крытыкуючы твор, мімаволі чапаем і струны душы, але гэта не страшна, калі крытык папраўдзе крытыкуе». Гарэцкі-крытык крытыкаваў «папраўдзе», г. зн. сумленна, аб'ектыўна, імкнучыся дапамагчы аўтару, клапоцячыся пра чытача. «На добрай крытыцы гадуюцца пісьменнікі і грамадзянства»,— падкрэсліваў ён.

Аўтар «Развагі і думак» глядзеў на крытыку як на форму самаўсведамлення літаратуры. Такі погляд сведчыў аб яго навуковай, тэарэтычнай сталасці як крытыка і даследчыка. Не ўсё ў роўнай ступені задавальняла Гарэцкага-крытыка ў сучаснай яму беларускай паэзіі, прозе: адно адбілася ў ёй «трошку бачком», другое — «краюшком», трэцяе — «зламаўшыся», «скрывіўшыся». Задача «пісьменных беларусаў», паводле меркаванняў Гарэцкага, у тым, каб на старонках перыядычных выданняў адкрыта, выразна сказаць, «што яны знайшлі, знаходзяць галоўнага, істотнага ў нашай літаратуры і куды яна павінна кіравацца. Гэта важна! Асабліва цяпер...»

Істотна і тое, што Гарэцкі падкрэслівае неабходнасць вызначыць перспектыву развіцця літаратуры, яе заўтрашні дзень, кірунак руху: «Трэба добра агледзіцца каля сябе і шпарчэй, можа, пойдзем уперад».

Метадалагічнае значэнне крытычных артыкулаў і выступленняў Гарэцкага яшчэ і ў тым, што яны актыўна замацоўвалі найболей перспектыўны кірунак развіцця крытычнай думкі, шляхі і сродкі вывучэння мастацкага твора, г. зн. замацоўвалі метад сацыялагічнага і эстэтычнага аналізу ў іх адзінстве і ўзаемасувязі. Гарэцкі глядзеў на літаратуру як на форму адлюстравання сацыяльнай рэчаіснасці («Што гэта ёсць — літаратура? Ці не ёсць гэта само грамадзянства на фатаграфіі?» І «ці не ёсць літаратура і грамадзянства як гук і літара?»), як на адбітак духоўнага жыцця народа, але не зводзіў яе ні да люстранога, пасіўнага капіравання, ні да ілюстрацыі загадзя вызначанага тэзіса.

Гарэцкаму, які вырас на глебе народнага жыцця, уласцівы народны склад мыслення. Гэтая арганічная рыса яго натуры яскрава выявілася і ў галіне мастацкай, і ў навуковай, і ў

публіцыстычнай дзейнасці. Як літаратурны крытык Гарэцкі таксама аказваўся на вышыні патрабаванняў часу. Вызначальным у працэсе крытычнага аналізу для Гарэцкага быў прынцып гістарызму. Ацэнкі яго вынікалі з канкрэтнага аналізу, былі ўзважанымі, прадуманымі, а вывады і назіранні і сёння не страцілі свайго значэння.

Ужо самыя раннія выступленні М. Гарэцкага ў жанры літаратурнай крытыкі засведчылі яго схільнасць да канцэптуальнага мыслення, яго імкненне ставіць вострыя, набалелыя пытанні часу. Такім, у прыватнасці, з'яўляецца артыкул «Наш тэатр», надрукаваны ў тым жа 1913 годзе, што і першае апавяданне «У лазні» — годзе літаратурнага дэбюту Гарэцкага. У артыкуле М. Гарэцкі абгрунтоўвае рэвалюцыйна-дэмакратычны кірунак у беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Да з'яўлення артыкула ў друку Гарэцкі быў ужо аўтарам апавяданняў «У лазні», «Стогны душы», «Роднае карэнне», «У панскім лесе», «Красаваў язмін». У 1913 г. напісаны і апавяданні «Што яно?», «Патаемнае», «Буйніцы і драбніцы», «Хаўтуры», «Усё мінаецца», відаць, распачата праца над драматызаванай аповесцю «Антон». А ў жніўні таго ж года на старонках «Нашай нівы» быў змешчаны ліст да пісьменніка, у якім рэдакцыя пісала: «Дужа дзякуем за Вашы творы, каторыя Вы нам прысылалі ў апошнія часы. Мы верым, кажучы словамі нашых прадзедаў, што праз Вас «памножана будзе слава слаўнай айчызны нашай», калі толькі агонь, каторы гарыць у Вас, будзе далей разгарацца».

У артыкуле маладога празаіка і крытыка, натхнёнага высокай публічнай ацэнкай яго працы, узняты многія пытанні, якія мелі першаступеннае значэнне для развіцця нацыянальнай літаратуры: тут ідзе размова пра грамадзянскі доўг і абавязак пісьменніка, пра ўзаемаадносіны народа і інтэлігенцыі, пра беларускую літаратурную мову, пра фальклор як крыніцу творчасці, пра мэты і задачы нацыянальнага тэатра.

М. Гарэцкі звярнуўся да беларускіх пісьменнікаў з заклікам стварыць вартыя працоўнага народа драматычныя творы, якія б далі жыццё нацыянальнаму тэатру. Роля тэатра ў сацыяльным і нацыянальным абуджэнні селяніна-працаўніка, рабочага, рамесніка, у выхаванні грамадзянскіх пачуццяў надзвычай вялікая: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця — і божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патраціць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта — у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырока-далёкае, роднае поле вольнага жыцця».

Артыкул М. Гарэцкага цікавы яшчэ і тым, што ў ім знайшла непасрэдны водгук палеміка пра шляхі развіцця беларускай літаратуры, якая ўзнікла ў 1913 г. на старонках «Нашай нівы» і ў якой удзельнічаў Я. Купала. Пазіцыя М. Гарэцкага тут блізкая да пазіцыі Купалы, выразніка перадавых рэвалюцыйна-дэмакратычных поглядаў, абаронцы інтарэсаў прыгнечанага народа. Гарэцкі выразна гаворыць пра гэта, цытуючы назву аднаго з артыкулаў пра «сплачванне доўгу». Літаратура, тэатр, падкрэслівае Гарэцкі, павінны шырока, усебакова, праўдзіва паказаць жыццё, побыт, духоўны свет, маральнае аблічча працоўнага беларуса, яго гістарычнае мінулае, абудзіць яго чалавечую годнасць, натхніць яго на барацьбу з сіламі цемры і прыгнёту.

«А трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жыве, няможна, гэткага жыцця няможна трываць...

І трэба яшчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён — *чалавек*, і што ён павінен мець свой чалавечы гонар, і павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленнем [...].

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён мае слаўнае прошлае, што яго дзядоўшчына nараўні з крапчэйшымі старонкамі пад сонцам была і што карані нашы родныя беларускія не згнілі, трывалы і цягучы, маюць жывы сок і жывую сілу і ўжо добрыя адросткі к небу гоняць, а з часам над імі крэпкія, высокія, прыгожыя дрэвы закрасуюцца...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што за чалавек той, каторы спіць без канца-краю, якой вартасці такі чалавек і што жджэць яго ў будучыні...

І трэба паказаць са сцэны беларусу, у які бок кіравацца яму, па якому «шляху жыцця» пайсці і якім чынам сілы фізічнай і духоўнай набрацца [...].

Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам зямным, што за народ такі ёсць беларусы, што маюць яны не толькі «очень смешные анекдоты и весьма странные суеверия», а і нешта палепш ад жарту і забабонаў, нешта гэткае, прад чым прыемна адчыніцца агульналюдская скарбніца векавечных здабыткаў культуры і цывілізацыі, а не то што...»

Перш за ўсё М. Гарэцкім, як бачым, падкрэслена грамадска-выхаваўчая, асветная роля тэатра. Тэатр — гэта кафедра, з якой павінны гучаць палымяныя словы праўды пра чалавека і яго жыццё. Недапушчальна, каб тэатр стаў «бруднай стайняй Аўгія» або «кутом дурнога скалазубства». Відаць, Гарэцкі адчуваў рэальную пагрозу таго, што пры адсутнасці належных традыцый дух сацыяльнасці, праўды, высокі грамадзянскі пафас, якія павінны панаваць на сцэне, могуць быць заменены невысокага гатунку забаўкамі, прыземленай гумарыстыкай, «дурным скалазубствам».

Разам з тым Гарэцкі палічыў патрэбным абвергнуць магчымае меркаванне, нібыта тэатр «павінен мець кірунак толькі практычна карысны». Такое вузка ўтылітарнае разуменне мэт

і задач тэатра не прымаецца аўтарам артыкула. Гарэцкі гаворыць і аб тым, што тэатр павінен задавальняць усе густы, у тым ліку і прыхільнікаў «мастацтва для мастацтва». Склалася традыцыя, паводле якой дадзеная фармуліроўка разглядаецца як выдаткі палемічнай завостранасці, а не як свядомы ідэйна-эстэтычны прынцып пісьменніка. Трэба прызнаць, што ў падобных меркаваннях зашмат непатрэбнай перасцярогі, беспадстаўнай боязі прынізіць Гарэцкага. На самай справе ніякага прыніжэння тут няма. М. Гарэцкі, перакананы прыхільнік рэалістычнага, сацыяльна дзейснага мастацтва, быў далёкі ад таго, каб уніфікаваць літаратурную творчасць, пазбаўляць мастака права выбару, свабоды творчасці. Ён выступаў тут за адкрытае творчае спаборніцтва розных напрамкаў. Іх прадстаўнікі павінны былі на практыцы сцвярджаць уласную перавагу.

У артыкуле М. Гарэцкага праблема ўзбагачэння тэатральнага рэпертуару непасрэдна звязваецца з развіццём беларускай мовы. Менавіта драматургі, працаўнікі сцэны павінны пасур'ёзнаму паклапаціцца пра «гучнасць і чыстату мовы», «як дарагі камень, кождае слоўца зважыць, абмеркаваць і ўцяміць сілу яго». «Пісьменнікі беларускія! — усклікае аўтар артыкула.— Пільней прыслухівайцеся к мове людзей нашых на рынку, на кірмашы і ўсюдых-усюдых, і тыя, што жывіцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гавораць на яе ўсходзе, а ўсходнія пабывайце на захадзе. Як кругаварот крыві ў целе чалавечым дае здароўе арганізму, так гэты пераліў нашых сіл на Беларусі аджывіць арганізм Беларусі і зробіць яго дужэйшым».

Гарэцкі быў адным з першых, хто ў дакастрычніцкі час на прынцыповы ўзровень узняў пытанне аб неабходнасці рашуча пашырыць жанравыя межы беларускай літаратуры, у якой, як вядома, пануючае месца займалі паэзія і кароткае апавяданне. Думаецца, невыпадкова, што іменна пісьменнік эпічнага складу, эпічнага мыслення раней за іншых адчуў наспелыя патрэбы беларускай літаратуры ў буйных эпічных формах, якія маюць магчымасць паўней, глыбей адлюстраваць супярэчнасці сацыяльнай рэчаіснасці таго часу. Жыццё настойліва патрабавала ад літаратуры новых, больш змястоўных форм і сродкаў пазнання:

«І ці не даволі засыпацца разнаколерным канфеці з вершыкаў і дробных малюнкаў [?]

Ці не пара б нашым пісьменнікам напісаць што даўжэйшае?

Ці не дадуць нам к дзесяцілеццю «Наш.[ай] нівы» нашы літаратары добры *раман*?

Хаця б з сучаснага жыцця раман? Аб тым, як трухлее старое і патроху, у муках, расце маладое? А можа б, якую гістарычную повесць, драму?

Я не раблю заказ, а думкамі супакойваю сябе ў жаданні найпатрэбнейшага.

Здаецца, праўду кажу?

Прозы, прозы, добрай, мастацкай прозы беларускай дайце нам!

Каб на стале ў нас каля тоўстай кніжкі вершаў «Шляхам жыцця» ляжала б не ценейшая кніжка прыгожай прозы...»

М. Гарэцкі ўпэўнена глядзеў уперад, прадказваючы беларускай літаратуры вялікую будучыню. Ён верыў у тое, што «пры добрых варунках» у асяроддзі беларускіх пісьменнікаў народзяцца мастакі сусветнага значэння. «Скранулася Беларусь, узварухнуліся яе спрадвечныя імшары, і я з вялікай надзеяй жду беларускіх Дастаеўскіх, Ул. Салаўёвых і т. п.».

Непазбежнасць з'яўлення «беларуса — усясветнага пісьменніка» ўжо нават у першай палове XX стагоддзя Гарэцкі тлумачыў багатымі, але яшчэ нявыяўленымі духоўнымі здольнасцямі народа, які паступова абуджаўся да новага жыцця. Маючы быць узровень беларускай літаратуры Гарэцкі вымяраў маштабнай меркай — меркай Дастаеўскага, Гогаля, Шаўчэнкі. Ён упэўнена адводзіў пярэчанні і сумненні скептыкаў: «мне скажуць недаверкі: ці ж?..— шпарка палетуцелі: азірніцеся на вашу цяперашнюю «літаратуру»... Гаварыце! А я скажу: гарджуся я тым, што ўжо маем! Гарджуся, і ёсць чым гардзіцца, гарджуся гордасцю не грэшнаю, а тут належнаю...»

Асабліва плённа працаваў М. Гарэцкі як даследчык літаратуры і крытык у паслякастрычніцкі час. Жанравы аспект яго літаратурна-крытычных і гісторыка-літаратурных матэрыялаў багаты і разнастайны. Найбольш ахвотна звяртаўся М. Гарэцкі да формы артыкула, блізкага сваім зместам да крытыка-біяграфічнага нарыса («Творчасць Міхася Чарота», «Творчасць Я. Нёманскага», «Аркадзь Моркаўка», «Сымон Баранаў», «Платон Галавач» і інш.). Гэтак жа паспяхова асвойваў ён і іншыя формы. Сярод іх літаратуразнаўчыя артыкулы, дзе закранаюцца пытанні тэарэтычнага характару («Беларускае драматычнае пісьменства»), гісторыка-літаратурныя нарысы («Белорусская литература. Краткий очерк», «Беларускі тэатр у палове XIX веку»), экскурсы гісторыка-літаратурнага характару («Чатырыста гадоў друку на Беларусі», «Культурнае свята. 400 гадоў друку на Беларусі»), аглядныя артыкулы («Беларуская літаратура пасля «Нашае нівы». Агульны агляд»), літаратурныя нататкі («Якуб Колас пасля Кастрычніка», «Бядуля пасля Кастрычніка»), навуковыя даклады і выступленні («Збіранне і апрацоўка фальклору», «Нашаніўскі перыяд у беларускай літаратуры»), выступленні з нагоды юбілеяў выдатных дзеячаў культуры і вядомых пісьменнікаў («Доктар Францыск Скарына», «На ўгодкі па

М. Багдановічу», «Вінцук Дунін-Марцінкевіч. 1807—1885 гг.», «Уладзіслаў Галубок», «Лявон Гмырак. 1891—1915», «75 гадоў оперы «Сялянка»), рэцэнзіі («Апошняе спатканне» У. Галубка», «Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова»), водгукі на новыя тэатральныя пастаноўкі («Пісаравы імяніны» У. Галубка, «Аб Галубковых спектаклях» — «Ветрагоны»), прадмовы да ўласных твораў і навуковых прац (прадмова да «Хрэстаматыі беларускай літаратуры. XI век — 1905 г.»), прадмовы да слоўнікаў, артыкулы-нарысы («Мсціслаўшчына», «Смаленск — Менск — Вільня»), прывітальныя прамовы («Прывітальнае слова XI з'езду Камуністычнай партыі Беларусі», «Выступленне на Першым з'ездзе БелАПП»), літаратурныя фельетоны («Пустаслоўе на пустаслоўе»).

І ў кожным з гэтых жанраў М. Гарэцкі выявіў свой яскравы самабытны талент, талент сур'ёзнага вучонага, праніклівага даследчыка, тонкага крытыка, прадэманстраваў шырыню поглядаў на задачы будаўніцтва нацыянальнай культуры і развіццё мастацтва, навукі. Яго меркаванні і ацэнкі вызначаюцца глыбінёй і ўдумлівасцю. М. Гарэцкі ніколі не падладжваўся пад існуючыя погляды, а заўжды выказваў сваё ўласнае разуменне той ці іншай грамадскай ці літаратурнай з'явы, навуковай праблемы.

Асаблівую цікавасць сёння выклікаюць тыя матэрыялы, дзе ёсць выхад да тэарэтыка-метадалагічных праблем. Так, у прыгаданым вышэй артыкуле «Беларускае драматычнае пісьменства» (1919) закранута надзвычай актуальнае для першых паслякастрычніцкіх гадоў пытанне, якое можа быць сфармулявана як «рэвалюцыя і літаратура». Разглядаецца пытанне на матэрыяле драматычных твораў. Гарэцкі звярнуў увагу на вельмі ўсцешны факт: калі раней у беларускім прыгожым пісьменстве галоўнае месца займалі паэтычныя і празаічныя жанры, дык у апошні час становішча змянілася ў лепшы бок. Выхад драматычных твораў У. Галубка, Ф. Аляхновіча, Я. Коласа, Я. Купалы, К. Вясёлага, М. Грамыкі пэўным чынам зліквідаваў прыкрую дысгармонію ў літаратурным развіцці. Але радасць ад новых п'ес была няпоўнаю, бо іх аўтары не змаглі «сагнацца са шпаркім лёсам жыцця, маючы сілы, дадзеныя ім». Ім болей удаліся творы пра мінулае, а рэвалюцыйная сучаснасць узноўлена эскізна. Адлюстраваць веліч і маштаб падзей рэвалюцыі беларускія пісьменнікі не здолелі. Як бачым, з высокімі эстэтычнымі крытэрыямі падыходзіў М. Гарэцкі да ацэнкі беларускай савецкай літаратуры! «За час апошняй рэвалюцыі, не маючай прыкладу ў гісторыі ўсяго свету, не з'явілася ніводнага мастацкага твора, каторы па сваёй глыбіні саўсім ба адпавядаў вялізнасці моманту, які перабывае чалавецтва».

Чым вытлумачвае крытык такое становішча? Аб'ектыўнымі цяжкасцямі спасціжэння такой грандыёзнай з'явы, як рэвалюцыя і народжаная ёю новая рэчаіснасць. «Трэба ж быць

асілкам з цвёрдай скалы, каб не апынуцца захопленым набягаючымі валамі бушуючай стыхіі рэвалюцыі і, быўшы ў ёй, быць *па-за ёю* нагэтулькі, каб бачыць дый чуць *цэлае* і зла-віць самыя дробненькія дэталі і ў строгім размежаванні пера-весці тое і другое на мову ўласных пачуццяў.

Сучаснасць такіх асілкаў не мае».

Фактычна тут М. Гарэцкім сфармуляваны ягоны погляд на творчы працэс, разуменне сутнасці вобразнага пазнання аб'ектыўнай рэальнасці. Толькі сапраўдны геній, знаходзячыся ў гушчы падзей, можа ўзняцца над імі і спасцігнуць іх унутраны сэнс, а іменна, схапіць жыццё як цэлае і ў той жа час здолее гэта цэлае паказаць праз канкрэтнае, прапусціць праз уласную душу, праз сваё непаўторнае ўспрыманне жыцця. Тэзіс наконт адсутнасці ў беларускай літаратуры выдатных твораў, зместам і пафасам раўнавялікіх рэвалюцыі, М. Гарэцкі абгрунтоўваў, у прыватнасці, спасылкай на драму «Раскіданае гняздо». Выбар крытыка трэба прызнаць не вельмі ўдалым, але гэта не змяншае тэарэтычнай важкасці вывадаў, да якіх ён прыйшоў.

Праўда, артыкул, у якім размова ідзе пра п'есу Я. Купалы, адносіцца да 1919 года, і погляд М. Гарэцкага на гэтую унікальную з'яву беларускай літаратуры істотна змяніўся. Каб пераканацца ў эвалюцыі эстэтычных поглядаў Гарэцкага-крытыка, дастаткова параўнаць чатыры выданні яго «Гісторыі...» (1920, 1921, 1924, 1926) [1]. Але для нас зараз важна зразумець вытокі стрыманых адносін М. Гарэцкага да «Раскіданага гнязда». Яны — у непрыманні нерэалістычных форм мастацтва. І як вынік, аўтар артыкула да рамантычнай драмы, у якой вызначальнае месца займае філасофскі, сімваліка-алегарычны план, падышоў з меркамі, прыдатнымі для рэалістычнага мастацтва. «Раскіданае гняздо» Я. Купалы,— сцвярджае М. Гарэцкі,— «гэта мешаніна рэалізму з сімвалізмам, разам з чым сімвалы новага часу абгорнуты нейкім туманам няпоўнай усвядомленасці, і дзеля таго яны, падманяючы прынаднасцю думкі, выйграюць, але, маючы ўшчэрбу ў сочнасці фарбаў побач з рэалізмам, многа губяць». «Аўтар дужэйшы ў рэалізме»,— піша М. Гарэцкі. Але такі вывад не адпавядае сапраўднасці, ён сведчыць хутчэй аб тым, што гэта крытык гатовы быў аддаць перавагу рэалістычным формам адлюстравання жыцця перад умоўна-сімвалічнымі, алегарычнымі і г. д.

М. Гарэцкі ў 1919 годзе лічыў, што калі мецъ на ўвазе змест «Раскіданага гнязда», дык драмы ва ўласным значэнні слова не атрымалася. Я. Купала апісаў тое, што ён бачыў напярэдадні рэвалюцыі, але не паказаў ні сучаснага яму жыцця, ні «загадкавых контураў заўтрашняга». «Справа яс-

---

[1] Гл.: Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады.— Мн., 1975. С. 65—88, 138—147.

ная: драму напісаў да сацыяльнай рэвалюцыі паэт-земляроб, каторы развязвае сацыяльныя праблемы сваім уласным індывідуалістычным спосабам, як бы так сказаць — з тутэйшых народных поглядаў». А гэтага для драмы і ўвогуле для сапраўднага мастацкага твора яшчэ недастаткова.

Як ужо зазначана, погляды Гарэцкага-крытыка на «Раскіданае гняздо» не заставаліся застылымі. І гэта зразумела, бо мянялася, удакладнялася ўся яго гісторыка-літаратурная канцэпцыя. Асновай гэтых удакладненняў была жывая творчая практыка беларускіх пісьменнікаў, няспынны рух літаратуры, рух жыцця. Адпаведна сацыяльна-палітычным, грамадскім зменам мяняўся і светапогляд Гарэцкага-крытыка, даследчыка.

Увогуле, да разгляду спадчыны Гарэцкага-крытыка і літаратуразнаўцы, як і Гарэцкага-публіцыста, да напісанага ім у дакастрычніцкі час і ў 20-я гады трэба падыходзіць з канкрэтна-гістарычнымі меркамі, не пераносячы механічна на матэрыялы даўніх гадоў пазнейшыя крытэрыі ацэнкі. І паводле зместу, і паводле формы крытычныя артыкулы Гарэцкага адметныя. А народжана гэта адметнасць узроўнем крытычнай думкі 20-х гадоў, станам беларускага літаратуразнаўства, станам выдавецкай і школьнай справы. Адсутнасць нават школьнага падручніка па літаратуры, адсутнасць хрэстаматый, дапаможнікаў прымушала кожнага, хто браўся за крытычны ці гісторыка-літаратурны артыкул, у тым ліку і М. Гарэцкага, выступаць адначасова ў некалькіх іпастасях. З сучаснага пункту гледжання, напрыклад, не было патрэбы даваць падрабязную бібліяграфію твораў таго ці іншага пісьменніка і крытычнай літаратуры аб ім. Таксама, здавалася б, неабавязкова анатаваць амаль кожны з прыгаданых у артыкуле твор. Ці не лепей было б падрабязней разгледзець адзін-два найболей характэрных, цікавых? Але М. Гарэцкі абіраў іншы шлях. Ён прыводзіў як мага болей поўную бібліяграфію, запрашаючы тым самым кожнага чытача да самастойнага разгляду творчасці пісьменніка. М. Гарэцкі свядома імкнуўся ўзброіць чытача, маючага быць даследчыка, настаўніка неабходным матэрыялам. Прычым — поўным! Бо паколькі не было сістэмнага разгляду творчасці, дык трэба мець пад рукамі ўсе выданні пісьменніка, каб зрабіць аб'ектыўныя вывады адносна эвалюцыі, напрамку творчых пошукаў. Як бачым, зыходнымі прынцыпамі Гарэцкага-крытыка і даследчыка былі крытэрыі паўнаты, аб'ектыўнасці. Гарэцкі не апярэджваў навуковага вывучэння творчасці пэўнага пісьменніка, не спяшаўся расставіць усе кропкі над «і». Наадварот, ён запрашаў да шырокага, непрадузятага вывучэння, да аб'ектыўнага разгляду.

Зразумела, і сам Гарэцкі не ўхіляўся ад пэўнай ацэнкі. Па сутнасці, кожны яго артыкул — гэта кароткі крытыка-біяграфічны нарыс творчасці пісьменніка, лаканічны, але змястоўны накід магчымага манаграфічнага даследавання, бо тут фактычна ёсць усё, што павінна быць у гісторыка-літаратурнай працы: дакладныя, дакументальныя звесткі біяграфічнага характару, разгляд творчасці са спробамі ўстанаўлення пэўных этапаў творчага развіцця. А галоўнае, дзейнасць пісьменніка разглядалася не ізалявана ад агульнага гісторыка-літаратурнага працэсу, нават калі пра апошні даследчык гаварыў вельмі скупа. Усё роўна агульналітаратурны і грамадска-літаратурны кантэкст заўжды адчуваецца. І ў гэтым — вялікая вартасць артыкулаў М. Гарэцкага. А перадаць сувязь пэўнага пісьменніка са сваім часам, з канкрэтнай эпохай удавалася перш за ўсё таму, што ён меў сваю канцэпцыю развіцця беларускай літаратуры, намечаную ў «Гісторыі...».

Артыкулы, такім чынам, не проста дапаўнялі новым матэрыялам гэта сур'ёзнае навуковае выданне, якой была «Гісторыя...», яны ўзбагачалі яе матэрыялам бягучага літаратурнага працэсу. Невыпадкова М. Гарэцкі так багата пісаў менавіта пра сучасных яму пісьменнікаў, паколькі «Гісторыя...» у асноўным грунтавалася на матэрыяле мінулага, а сістэматычны разгляд паслякастрычніцкага перыяду адсутнічаў.

Да ліку такіх вось лаканічных крытыка-біяграфічных нарысаў, змест якіх без асаблівых цяжкасцей можна разгарнуць у шырокае гісторыка-літаратурнае даследаванне, з поўным правам мы адносім «Творчасць Міхася Чарота», «Творчасць Я. Нёманскага», «Сымон Баранаў», «Платон Галавач» і многія іншыя артыкулы. Канкрэтызуем сказанае вышэй, звярнуўшыся да першага артыкула — у структурным плане тыповага для літаратурна-крытычных матэрыялаў М. Гарэцкага. Тут ёсць усё, што патрабаваў крытыка-біяграфічны нарыс. Пералічыўшы ўсе зборнікі і кнігі М. Чарота, М. Гарэцкі накрэслівае этапы, якія прайшоў М. Чарот у сваім развіцці. Пры гэтым хоць ацэнкі і лаканічныя, але змястоўныя, пэўныя. У іх няма зададзенасці, прадузятага падыходу, вузкай тэндэнцыі, няма імкнення празмерна ўзняць ці, наадварот, раскрытыкаваць пісьменніка. Вядучы прынцып аўтара — аб'ектыўнасць разгляду творчасці, узятай у развіцці, у руху: «У яго вершах першага перыяду (1919—1922 гг., «Завіруха») яшчэ многа слабізны, тут ён часам і пераймае старэйшых, нацыянал-адраджэнцкіх паэтаў, жадаючы адпіхнуцца ад іх ідэалагічна і знайсці зусім свой самастойны шлях».

Не абмяжоўваючыся ўстанаўленнем пэўных этапаў, аўтар артыкула спрабуе паказаць іх якасныя адрозненні, г. зн. напрамак пошукаў М. Чарота, а таксама дамінуючыя матывы творчасці ў кожным з этапаў: у вершах пачатковага перыяду

«два галоўныя матывы: 1) адкрыты, часам афішаваны матыў — гэта адбітак рэвалюцыі, заклік да рэвалюцыі, 2) прыхаваны матыў — гэта нацыянальны, беларускі...». Што датычыць творчасці другога перыяду, пачатак якога прыпадае на 1922 год, дык тут ужо «больш самастойнасці і арыгінальнасці, цвёрда выяўляецца пралетарская ідэалогія і даецца вельмі мастацкая форма, а калі паэт часам мімаволі каго і пераймае, дык гэта расійскіх савецкіх паэтаў».

Ужо адзначалася, што М. Гарэцкі як аўтар крытычнага разгляду ахвотна выкарыстоўваў прыём анатавання. Ён піша: «У зборніку «Веснаход» змешчаны такія апавяданні: 1) «Пасля буры...» — рамантыка змагання з польскімі войскамі. 2) «Да сонца» — рэвалюцыйная рамантыка, радасць вызвалення, першамаёвая радасць... 12) «Апошняя ноч» — бандытызм, дэзерцірства; эфектоўны сюжэт, але меладраматызм. 13) «Талачка-шкрабалачка» — рэвалюцыя і інтэлігенцыя; канца няма, сюжэт незакончаны. 15) «Галя» — каханне, былыя людзі, тэндэнцыя аўтара тут досыць незразумелая». Нават з прыведзенага — па неабходнасці ў скарочаным выглядзе — урыўка відаць, што Гарэцкі не задавальняўся кароткім вызначэннем тэмы твора, ён ішоў насустрач чытачу, дапамагаючы яму ўласнай ацэнкай, наштурхоўваючы яго на самастойны разгляд. Там жа, дзе гаворка ішла пра складаныя пытанні, звязаныя з паэтыкай, выяўленчымі сродкамі, там крытык ужо болей разгорнута выкладаў сваю думку, ацэньваў вартасці і недахопы пэўнага твора. Вось як разглядаецца структура паэм М. Чарота: «Паэмы ў яго, як было казана, выглядаюць даўжэйшымі лірычнымі вершамі, цыкламі, нізкамі лірычных вершаў з болей-меней агульным зместам. Сюжэта ў іх фактычна няма, або сюжэт выступае ў іх толькі агульным контурам». Тлумачыцца бессюжэтнасць паэм тым, што ў іх «рэвалюцыйная радасць такая вялікая і мімаволі напышлівая (пафас), што не дае яму магчымасці звярнуць увагу на распрацоўку сюжэта».

М. Гарэцкі лічыў неабходным спыніцца таксама і на такіх складаных момантах, як стыль, паэтыка, рытміка М. Чарота. «Напісана паэма вольным вершам (неаднакавыя стопкі і неаднакавы лік іх у рытмічных радках). Строфіка (звароткі) таксама вельмі вольная, часам нічым не звязаная і наогул неўгрунтаваная, скрозь асанансы і алітэрацыі, сугучнасць галосных і зычных гукаў. Паэма дужа гучная, галосная». Увага аўтарытэтнага пісьменніка і крытыка да праблем майстэрства, да мастацкай формы мела вялікае значэнне ў справе развіцця маладой беларускай крытыкі, у фарміраванні яе метадалогіі, прынцыпаў аналізу.

Трэба сказаць і яшчэ пра адну характэрную асаблівасць даследчай манеры Гарэцкага — пра імкненне ўлічваць усё тое, што выказвалася раней у друку іншымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі, спасылацца на думкі і меркаванні папя-

раднікаў. Гэтым М. Гарэцкі таксама закладваў трывалы падмурак навуковага падыходу да літаратуры. «І герой ува ўсіх паэмах (М. Чарота.— *М. М.*) таксама адзін, як гэта першы сказаў А. Бабарэка». Навуковая этыка патрабавала таго, каб слова, сказанае ўпершыню, па праву належала таму, хто яго сказаў.

Глыбокай змястоўнасцю, аналітычным пафасам прасякнуты і іншыя артыкулы М. Гарэцкага. У іх мы бачым тое ж імкненне да канкрэтнай размовы, імкненне вызначыць дамінуючую рысу творчасці, індывідуальны твар, адметнасць стылёвай манеры пісьменніка. І гэта метадалагічная ўстаноўка крытыка — да пазнання агульных заканамернасцей праз аналіз індывідуальна-непаўторнага — павінна быць ацэнена па вялікім рахунку: Гарэцкі прышчэпліваў маладой беларускай крытыцы па-сапраўднаму навуковыя прынцыпы аналізу. Так, у артыкуле «Творчасць Я. Нёманскага» М. Гарэцкі характарызуе галоўную тэму пісьменніка як «злом жыцця, пераход ад старога да новага і змаганне за гэты пераход». Падкрэслена, што Нёманскі «па сваёй натуры» належыць да тых мастакоў слова, якія «не могуць пісаць аб тым, чаго самі беспасрэдна не наглядалі». М. Гарэцкі ўхваляе індывідуальную манеру Я. Нёманскага, схільнасць пісьменніка да прастаты, праўдзівасці, яго нежаданне карыстацца прыёмамі прыгодніцкай літаратуры, як гэта рабілі некаторыя маладыя пісьменнікі. Драматызм у творах Нёманскага не надуманы, ён вынікае са зместу падзей, якія пісьменнік узнаўляе, з характару герояў.

Нягледзячы на абмежаваную плошчу артыкулаў, М. Гарэцкі знаходзіў месца для пэўных супастаўленняў і аналогій паміж сюжэтам, вобразам, характарам герояў у творах розных аўтараў. І гэтыя пачаткі навуковай тыпалогіі таксама мелі вялікае значэнне для беларускай крытыкі і літаратуразнаўства 20-х гадоў. Яны выводзілі навуковую думку са сферы апісальніцтва, нуднай канстатацыі, культывавалі ў ёй шырыню погляду, схільнасць да абагульнення. «Між іншым, Алеся (апавяданне «Маці».— *М. М.*) мае ў сабе тое, што так сімпатычна выяўляецца ў асобе Дашы ў «Цэменте» Ф. Гладкова. Ёсць жа на свеце такія слаўныя жанчыны! І ёсць жа аўтары, якія ўмеюць знайсці іх і паказаць у сваёй літаратурнай творчасці. Маці варта параўнаць з маці ў апов.[есці] Горкага «Мать». У Горкага бацька і сын, у Нёман.[скага] на месцы бацькі — Міхась, на месцы сына — Рыгор, а вобраз маці мае шмат агульнага, і тут і там — у перажываннях маці адбітак рэвалюцыйнага змагання».

Паколькі М. Гарэцкі як аўтар гісторыка-літаратурных матэрыялаў часта ставіў перад сабой адначасова некалькі задач — навукова-даследчую, вучэбна-педагагічную, культурна-асветную, папулярызатарскую, дык і форма выканання заўжды была своеасаблівая, абумоўленая тым, якая задача ба-

чылася галоўнай. Вось, напрыклад, у артыкуле «Доктар Францыск Скарына» М. Гарэцкі знаёміць чытача з жыццём і дзейнасцю вялікага асветніка, у папулярнай форме раскрывае сэнс велічнага подзвігу Скарыны. «Глыбока запала яму думка паслужыць роднаму гасударству выкладаннем кніг. Першнаперш кніг для набажэнства. Мусі быць, той жа працы чакалі ад Скарыны і віленскія грашавітыя ды радавітыя людзі, што дбалі аб развіцці культуры на Русі-Літве і што памаглі некалі грашмі Скарыне. Цяперака яны памаглі грашмі, яшчэ й матэрыяламі». І паколькі артыкул звернуты да шырокай аўдыторыі, аўтар усур'ёз заклапочаны формай выкладу. Адсюль — амаль што мастацкая стылёвая манера, эмацыянальна ўзрушаная танальнасць, шырокае выкарыстанне экспрэсіўных сродкаў: «І няўжо ж на далёкай чужыне не летуцеў ён, не думаў ён аб родным Полацку з яго равамі, валамі, вежамі, брамамі і вулкамі, кірмашовым гулам на рынку людской таўпы з роднаю крывіцкаю гаворкай, вячэрнім магутна-гучным спевам звонаў і спрадвечным плёскам глыбокай, шырокай Дзвіны з гандлёвымі лайбамі; няўжо не летуцеў ён аб бязмерных родных абшарах і дрымучых пушчах з валатоўкамі, гарадзішчамі, камянямі прырэчнымі, прыдарожнымі — памяткай старадаўшчыны, дзе тама ды тута жыў родны народ роднага свайго княства, народ лагодны, прыемны, але яшчэ цёмны, што не меў нават па чым вучыцца, па чым маліцца?»

Наіўна было б думаць, быццам усе ацэнкі М. Гарэцкага, яго выказванні бясспрэчныя. Няма патрэбы кананізаваць кожнае палажэнне ці вывад крытыка, рабіць з яго носьбіта ісціны ў апошняй інстанцыі. Тут важна іншае — вытлумачыць прычыны, паводле якіх Гарэцкі-крытык ці даследчык прыходзіў да тых ці іншых высноў. А высновы гэтыя нярэдка былі абумоўлены канкрэтнымі абставінамі часу, у які жыў і працаваў М. Гарэцкі. І ён, здаралася, вымушаны быў ставіць празмерны акцэнт на класавых пачатках, на ідэалагічнай каштоўнасці твора, як рэчах быццам бы першаступенных у параўнанні з мастацкім узроўнем. І ў яго артыкулах можна сустрэць выразы, накшталт таго, што твор, маўляў, дасканалы па форме, але ў ідэалагічным сэнсе яшчэ не дацягвае да запатрабаванняў часу. Сённяшні чытач павінен улічваць вось гэты момант і не ставіцца грэбліва да пэўнага сацыялагізатарскага перабору, што меў месца ў артыкулах М. Гарэцкага.

Гэты перабор найболей прыкметны ў матэрыялах другой паловы 20-х гадоў. У пачатку ж дзесяцігоддзя заўважалася іншая крайнасць — празмернае завастрэнне ўвагі на эстэтычнай каштоўнасці твора. Так, у кароткай нататцы «На ўгодкі па М. Багдановічу» (1919) М. Гарэцкі так вызначае сутнасць творчасці выдатнага мастака слова: «Паэзія М. Багдановіча

разнаабразная, але ўся яна — чыстае мастацтва; характар яе пераважна сумна-прыгожы». Міф пра Багдановіча як песняра чыстага мастацтва, прыхільніка тэорыі мастацтва дзеля мастацтва даволі доўга трымаўся ў беларускім літаратуразнаўстве. Як бачым, да стварэння гэтай легенды меў дачыненне і Гарэцкі. Легенда, бясспрэчна, збядняла ўяўленне пра творчасць самабытнага, арыгінальнага мастака, перашкаджала бачыць сапраўдныя параметры яго багатай, шматграннай творчасці. Але ці маем мы права кідаць тут дакор Гарэцкаму-крытыку за ягоныя «памылковыя» сцверджанні і перабольшванні? Каб «памылкі» сталі відавочнымі, хтосьці спярша павінен іх выказаць, абгрунтаваць, г. зн. павінен падштурхнуць даследчыка на роздум, дапамагчы яму выпрацаваць новы, інакшы погляд. Апрача таго, «памылковыя» высновы сур'ёзнага крытыка цікавей, чым бясспрэчныя сцверджанні, якія не вядуць да пошукаў.

Слушнасць выказанага тут меркавання яскрава пацвярджае артыкул М. Гарэцкага, прысвечаны разгляду творчасці М. Зарэцкага. Сапраўды, Гарэцкі недаацэньваў маладога празаіка. Пры разглядзе апавяданняў апошняга ім не заўсёды ўлічвалася своеасаблівасць аўтарскай задумы, стылёвая манера. Гарэцкі лічыў, што вобразы сялян у апавяданнях пісьменніка «не маюць асабліва яскравага колеру», болей удаюцца яму «чэкісты, матросы, паны, бандыты і белагвардзейцы, а наогул... яскрава выглядаюць у яго ўсякія ўдзельнікі любоўных гісторый і асабліва жанчыны». Тут нельга не ўлавіць нават пэўнай іроніі крытыка, але, думаецца, іронія ўсё ж беспадстаўная, бо ўвага Зарэцкага да тых жа «паноў, бандытаў, белагвардзейцаў» якраз і павінна быць пастаўлена яму як пісьменніку ў заслугу, бо асвятляліся гэтыя вобразы з выразных гуманістычных пазіцый.

Несправядлівым было і сцвярджэнне крытыка аб тым, што М. Зарэцкі — а гаворка ішла пра 1927 год — «яшчэ не знайшоў сябе як пісьменніка, а можа, ніколі і не знойдзе». Дзякуй богу, такое прароцтва не спраўдзілася! Ды і ў 1927 годзе суровы прыгавор гучаў неперакананьна, прынамсі, яго не пацвярджаў змест нават тых твораў, якія да таго часу ўжо выйшлі з друку — гэта зборнікі апавяданняў «У віры жыцця», «Пела вясна» (абодва — 1925), «Пад сонцам», «42 дакументы» і «Двое Жвіроўскіх», аповесць «Голы звер» (усе — 1926), пачатковыя раздзелы рамана «Сцежкі-дарожкі». Тлумачылася такая прадузятасць Гарэцкага ўжо знаёмымі нам стрыманымі адносінамі да нерэалістычных форм творчасці, у тым ліку і да твораў, напісаных у рамантычным стылявым ключы. Многія апавяданні аўтара зборнікаў «Пела вясна», «Пад сонцам» не адпавядалі цалкам паэтыцы рэалістычнага мастацтва. Гарэцкі ж, ігнаруючы рамантычную танальнасць гэтых твораў, падыходзіў да іх з рэалістычнымі меркамі, шукаў тут тыповых характараў у тыповых абставінах. Ён пісаў: «На жаль, самыя

яскравыя тыпы ў яго, калі можна назваць іх тыпамі, не характарызуюць сутнасць свайго часу або асаблівасцей свайго класа...» Зусім відавочна, што шукаць рэалістычнай тыпізацыі ў рамантычным творы — марны занятак.

Можна, аднак, выказаць меркаванне, што ацэнкі М. Гарэцкага, хоць і несправядлівыя па сутнасці, тым не менш адыгралі станоўчую ролю ў творчасці М. Зарэцкага. Яны прымусілі пісьменніка крытычна паглядзець на самога сябе і на вынікі ўласнай працы. Аўтар артыкула папракаў М. Зарэцкага тым, што адбітае ў яго творах жыццё «не мае нацыянальна-народных асаблівасцей, дзеля таго яно можа быць залічана і да беларускага і да якога хаця, адно што апісанага кніжнаю беларускаю моваю». Як сведчыць аналіз творчасці М. Зарэцкага, менавіта на той час, калі М. Гарэцкі выступаў з крытычнай ацэнкай, і прыходзіцца рашучы паварот пісьменніка да спасціжэння нацыянальна-самабытных асноў народнага жыцця. Пра гэта сведчаць некаторыя апавяданні зборніка «На чыгунцы» (1928), пачатак рамана «Крывічы» («Полымя», 1929, № 4), гістарычная драма «Рагнеда», якая павінна была друкавацца ў 1929 годзе. Відаць, на карысць маладому на той час празаіку пайшлі і крытычныя заўвагі М. Гарэцкага адносна стылёвых празмернасцей у яго творах. «Што да стылю ў Міхася Зарэцкага, дык, безумоўна, пяро тут вельмі бойкае. Але, ізноў жа, пакуль аўтар не паганяе за таннай бліскучасцю стылю, у яго тады хоць і няма асаблівай мастацкай бліскучасці, але затое ўсё ў парадку. Аднак жа і ў справе стылю ён не заўсёды можа ўтрымацца: часам ён кідае звычайны, просты, рэалістычны, а таму і добры стыль і пачынае пісаць падкрэслена-размеранымі сказамі, абрыўкамі сказаў, рознымі напамінкамі і таннымі слоўнымі фокусамі, кшталтам таго, што «кветка пажоўклая», а не «пажоўклая кветка».

Тое, што М. Гарэцкі-крытык патрабаваў ад пісьменніка дакладнага, выверанага слова, спыняючы яго ўвагу на праявах «таннай бліскучасці», безумоўна, спрыяла выпрацоўцы мастацкага стылю М. Зарэцкага, павышэнню культуры яго пісьма. Але наўрад ці можна пагадзіцца са сцверджаннем, паводле якога стыль «просты, рэалістычны, а таму і добры». А як быць, калі пісьменнік выказвае схільнасць да лірыка-эмацыянальнага, рамантычнага стылю і гэты стыль адпавядае яго творчай індывідуальнасці, яго светаўспрыманню? Няўжо ў літаратуры павінны панаваць строгая рэгламентаванасць і класіцысцкая нарматыўнасць? Ці сапраўды «пажоўклай кветцы» трэба загадзя аддаць перавагу перад «кветкай пажоўклай»? Тут патрабаванні паэтыкі рэалістычнага мастацтва М. Гарэцкі накладвае на ўсю літаратуру, якая, аднак, не зводзіцца да адлюстравання жыцця ў формах самога жыцця.

Можна адшукаць у даследчых працах М. Гарэцкага і яшчэ

некаторыя выпадкі празмерна жорсткіх, максімалісцкіх меркаванняў і вывадаў. Думаецца, не адпавядае сапраўднасці ацэнка В. Дуніна-Марцінкевіча як пісьменніка, якому пры ўсіх яго гістарычных заслугах нібыта бракавала ўсвядомленага нацыянальнага пачуцця. Марцінкевіч у трактоўцы М. Гарэцкага — пісьменнік, які толькі рыхтаваў новую беларускую літаратуру, перш за ўсё Ф. Багушэвіча. Даследчык бачыць значэнне творчасці аўтара «Гапона», «Пінскай шляхты» ў яго блізкасці да сялян. А з прычыны гэтакай блізкасці «ў Марцінкевіча пачынае прабівацца, быць можа, несвядома, нешта падобнае да нацыянальных беларускіх сімпатый». Высокая патрабавальнасць да пісьменніка і яго дзейнасці ў галіне нацыянальнай культуры — вось што прывяло М. Гарэцкага да такіх завостраных вывадаў. Але не яны вызначаюць сэнс таго, што паспеў зрабіць М. Гарэцкі ў справе развіцця беларускага літаратуразнаўства. І сапраўды! Заслугі яго выключна вялікія, бо ішоў ён дарогай першаадкрывальніка, закладваючы, разам з іншымі выдатнымі мастакамі, падмурак нацыянальнай літаратуры і літаратурнай навукі.

Апрача разгледжаных артыкулаў, у томе змешчаны, як мы часткова ўжо бачылі з ранейшых агульных пералікаў, і іншыя, самыя разнастайныя матэрыялы. Сабраныя разам, яны ствараюць даволі яскравы малюнак дзейнасці М. Гарэцкага — крытыка і даследчыка роднай літаратуры. Кожны з гэтых артыкулаў па-свойму цікавы і каштоўны, ён удакладняе ранейшыя тэзісы аўтара ці, наадварот, скіраваны на абгрунтаванне новых думак. Так, гісторыка-літаратурныя нарысы і экскурсы ў сівую даўніну («Беларускі тэатр у палове XIX веку», «Чатырыста гадоў друку на Беларусі») вызначаюцца сваёй грунтоўнасцю, уменнем даследчыка звязваць развіццё літаратуры дакастрычніцкага перыяду з канкрэтнымі сацыяльна-гістарычнымі абставінамі часу, М. Гарэцкі не задавальняецца канстатацыяй відавочнага факта — запозненага развіцця беларускага тэатра, а спрабуе ўсебакова высветліць прычыны гэтай з'явы. Адну з прычын ён бачыць у аб'ектыўных цяжкасцях, у тым, што «мастацкая драматычная творчасць з'яўляецца труднейшаю літаратурнай творчасцю». Але галоўныя прычыны не ў гэтым. «Яны ляжалі ў агульных умовах адраджэння беларускай культуры, прычым гэтыя ўмовы былі асабліва цяжкія, асабліва перашкаджалі якраз развіццю нацыянальнага беларускага тэатра, а тым самым у вялікай меры і развіццю драматычнай творчасці ў беларускай мове». Нацыянальны тэатр не мог паспяхова развівацца, пакуль у асяроддзі народа не ўзніклі яго творцы, пакуль не ўсведамлялася глыбока асноўная мэта, якую ставіць перад сабой тэатр.

Аглядным артыкуламі («Беларуская літаратура пасля «Нашай нівы». Агульны агляд») М. Гарэцкі працягваў распачатую М. Багдановічам, С. Палуянам традыцыю гадавых

аглядаў, пашыраючы іх храналагічныя рамкі. Тут выпрацоўваўся вельмі патрэбны маладому беларускаму літаратуразнаўству жанр абагульняючай характарыстыкі пэўнага этапу літаратуры з яго спецыфічнымі адметнасцямі і ўнутранымі заканамернасцямі. Чытач знаходзіў тут ацэнку творчасці многіх беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, разгляд літаратуры часоў імперыялістычнай, грамадзянскай вайны, перыяду нямецкай, потым польскай акупацыі. Разглядаюцца творы тых беларускіх пісьменнікаў, якія жылі ў Літве, Латвіі, у Сібіры, ідзе размова пра першыя крокі маладой беларускай савецкай літаратуры. Інакш кажучы, яшчэ ў 20-я гады М. Гарэцкі накрэсліваў перад беларускай навуковай думкай перспектыўны кірунак — аб'ектыўнага, усебаковага даследавання гісторыі літаратуры, уключаючы самыя складаныя і супярэчлівыя перыяды. На жаль, запавет выдатнага вучонага беларускія літаратуразнаўцы пазнейшай пары нярэдка ігнаравалі: нават у грунтоўных гісторыка-літаратурных працах заставаліся белыя плямы.

Да жанравай формы агляднага артыкула ў чымсьці блізкія літаратурныя нататкі, накшталт «Якуб Колас пасля Кастрычніка», «Бядуля пасля Кастрычніка». Уводзячы паняцце «пасля «Кастрычніка», аўтар выяўляў праблемны характар свайго даследавання, свядомую ўстаноўку на тое, каб раскрыць якасную навізну творчасці пісьменніка, яго ідэйна-мастацкую і светапоглядную эвалюцыю. «Робячы вывады з агульнага агляду твораў Якуба Коласа, напісаных пасля Кастрычніка, найперш трэба адзначыць зрух яго ад рэвалюцыйнага нацыянал-адраджанізму да выконвання заданняў, якія ставіць у нашай літаратуры пралетарская ідэалогія. З боку мастацкага, безумоўна, вышэй стаяць яго вялікія вершаваныя рэчы, але апавяданні апошняга часу таксама выяўляюць у ім спрактыкаванага майстра і прыроднага мастака».

Раскрываючы кірунак творчых пошукаў Я. Коласа, М. Гарэцкі, дзе патрабуе аб'ектыўнасць, не ўхіляўся ад крытычных ацэнак. «Найбольшая прадукцыя прыпадае на 1921—1922 гг., калі ён піша проста недазволена многа для паэта». А вось ацэнка творчасці З. Бядулі: «Вершы ў Бядулі — слабейшыя за яго мастацкую прозу. Рэвалюцыйныя вершы — слабейшыя за іншыя. У іх мала музыкальнасці і наогул лірычнасці. Прычына слабасці рэвалюцыйных вобразаў у яго, мусіць, тая, што ён перажываў цяпер ідэалагічны крызіс, ад нацыянал-адраджанізму прыйшоў да пралетарскіх настрояў, а таксама пісаў хапаючыся, у тлумных газетных абставінах. Асабліва невысока з мастацкага боку стаяць рэвалюцыйныя вершы, сабраныя ў зборніку «Буралом». Бядуля захапіўся навіною, але яшчэ не вынасіў, не выпесціў гэтых вобразаў у сваім сэрцы, не перахварэў на іх».

Гаворка, як бачым, ішла тут на прынцыповым узроўні, не зважаючы на ранейшыя заслугі і званні пісьменнікаў. Гэта

была гаворка прафесійная, далёкая ад той небяспечнай кампліментарнасці, якая набыла шырокае распаўсюджванне ў літаратурна-творчым жыцці пазнейшых дзесяцігоддзяў. Уважаванню высокага аўтарытэту крытыкі, маральнай адказнасці за слова М. Гарэцкі заўжды надаваў вялікае значэнне.

Яго вопыт з'яўляецца жывым фактарам плённага ўздзеяння на літаратурна-мастацкую практыку.

Калі М. Гарэцкі звяртаўся да такой аператыўнай жанравай формы бягучай крытыкі, як рэцэнзія («Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова», «Апошняе спатканне» У. Галубка) ці водгук на тэатральную прэм'еру («Пісаравы імяніны» У. Галубка і інш.), ён і тут нязменна выяўляў свае лепшыя прафесійныя якасці — пачуццё такту, павагу да аўтара, імкненне ўлічваць мастацкую задуму твора, жанравую спецыфіку.

Нязменнымі заставаліся аб'ектыўнасць, канкрэтнасць ацэнак. Так, разглядаючы драму Галубка «Апошняе спатканне», рэцэнзент вельмі выразна сказаў аб яе вартасцях («сцэнічна, цікаўна, даволі бойка і нават эфектна») і пэўных мастацкіх заганах: 1) «няма патрэбнага адзінства ў развіцці падзей; 2) няма патрэбнага драматызму, і яго трэба адкапываць з-пад громазду нічога не вартых без яго эфектаў». М. Гарэцкі зноў жа не абмяжоўваецца канстатацыяй станоўчага і адмоўнага, а дае вытлумачэнне: недахопы ішлі ад паспешлівасці, з якой рабілася пераробка колішняга апавядання, вартасці звязаны з багатым вопытам тэатральна-сцэнічнай дзейнасці аўтара.

Прыцягнуць увагу сучаснага чытача і палемічныя выступленні, літаратурныя фельетоны М. Гарэцкага, дзе па-свойму выявілася шматграннасць яго таленту, уменне весці вострую, дасціпную спрэчку, бараніць уласную пазіцыю.

Нават кароткі разгляд публіцыстычных і літаратурна-крытычных матэрыялаў М. Гарэцкага сведчыць, што іх аўтар упісаў вельмі змястоўную, багатую старонку ў гісторыю беларускай літаратуры. Спадчына Гарэцкага — крытыка, публіцыста, даследчыка — гэта неацэнны скарб духоўнай культуры народа.

## «АХВЯРУЮ СВАІМ «Я» ВА ЙМЯ СВЯТОГА ЎСІМ НАМ АДРАДЖЭННЯ»

Прыгаданыя словы ўзяты з ліста Максіма Гарэцкага ад 1 ліпеня 1919 года да рэдактара газеты «Беларуская думка», на старонках якой невядомы аўтар, схаваўшыся пад крыптанімам «Я», у скажоным выглядзе падаў змест апавядання Гарэцкага «Ідуць усе — іду я». Крытык угледзеў там пропа-

ведзь шкоднага «хныкання», адсутнасць бадзёрасці і цвёрдасці. Пратэстуючы супраць абразлівага тону рэцэнзіі, пісьменнік не адмаўляўся ад далейшага супрацоўніцтва з газетай, бо асабістую сваю крыўду ён здолеў утаймаваць, падпарадкаваў яе агульным інтарэсам. І, фактычна, кожны ліст, які друкуецца ў аднатомніку, мог бы пацвердзіць сказанае: М. Гарэцкі не ў асобных выпадках, а заўжды гатовы быў ахвяраваць сваім «я» дзеля агульнай справы, калі яна звязана з адраджэннем Бацькаўшчыны, з развіццём беларускай культуры, літаратуры. Хіба не пра самаахвярнасць сведчыць зварот Гарэцкага да «начальніка Сярэдняй Літвы» генерала Жалігоўскага з просьбай дазволіць выданне часопіса «кірылаўскімі літарамі»? «Пабornік свабоды слова», як называе тут Л. Жалігоўскага М. Гарэцкі, дазвол даў, але па дзевятнаццаці нумарах часопіс «Беларускія ведамасці» быў закрыты афіцыйнымі ўладамі, а выдавец пасля арышту апынуўся на Лукішках.

На жаль, выяўленая на сённяшні дзень перапіска М. Гарэцкага з грамадскімі, культурнымі дзеячамі, з калегамі па працы — колькасна нешматлікая. Лісты ў рэдакцыю «Нашай нівы», да Ц. Гартнага, А. Уласава, Я. Карскага — вось і ўсё, што адшукана да гэтага часу. Асноўную частку эпісталярыя складаюць «лісты з няволі» — лісты 1931—1932 гадоў, напісаныя ў Вятцы, куды Гарэцкі пасля беспадстаўнага арышту ў ліпені 1930 года і непрацяглага знаходжання ў мінскай турме быў высланы на пяць гадоў. Думаецца, калі б «вяткаўскія» лісты змясціць разам з адказамі адрасатаў, атрымалася б выдатная дакументальная аповесць аб трагічным перыядзе жыцця М. Гарэцкага — жыцця, тыповага для многіх беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры. Гэта быў бы яшчэ адзін суровы прысуд эпосе сталінізму і тым, хто ў гэтую змрочную эпоху тварыў злачынствы, парушаў сацыялістычную законнасць, ігнараваў прынцыпы гуманізму. Частка лістоў з Вяткі, як вядома, ужо друкавалася, але бяда ў тым, што друкавалася з купюрамі. І выкасоўванню падлягалі якраз найболей змястоўныя мясціны, дзе гаворка ішла пра цяжкае маральнае і матэрыяльнае становішча М. Гарэцкага. Зрэшты, і пакінутыя без скарачэнняў старонкі раскрываюць трагізм становішча пісьменніка-грамадзяніна, які так нечакана быў вырваны з жыцця, пазбаўлены свабоды.

Якім непадробным драматызмам павявае ад гэтых стрыманых лістоў! Часам нават здаецца, што яны напісаны бясстрасна, у іх пераважае інфармацыйнасць, бытавы план. Але гэта зманлівае ўражанне. Стрыманасць тону была вымушанай, бо належалі лісты ўчарашняму палітычнаму зняволенаму, які стаў спецпасяленцам. На самой справе за кожным словам, за сухім лаканічным паведамленнем паўстае вялікая трагедыя чалавека і пісьменніка-грамадзяніна. Трагедыя — тыповая для 30-х гадоў! Чытаючы лісты, адчуваеш, якія

звыччалавечыя намаганні спатрэбіліся М. Гарэцкаму, каб сабраць усю сваю волю, сілу духу і выстаяць, не паддацца скрусе і адчаю, не ачарсцвець душой, не расчаравацца ў жыцці. А прычын для адчаю было дастаткова! Перш за ўсё — несправядлівасць абвінавачання, абурэнне тым, што сярод людзей, якім пісьменнік заўжды верыў, знайшоўся нягоднік, што ўзяў на сябе ганебную ролю даносчыка. Расла і крыўда на тых, хто, не захацеўшы шукаць ісціну, паверыў гнюсным паклёпнікам, асудзіў невінаватага на пакуты, пазбавіў яго магчымасці для творчай працы. А з гэтай стратай М. Гарэцкі ні пры якіх абставінах не мог прымірыцца: «Часам находзіць на мяне вялікая злосць і крыўда, што фактычна адкінулі мяне ад літарацкае работы, як апошнюю непатрэбшчыну. Бо ці ж я магу ў сваіх цяперашніх умовах пісаць? А няўжо ж я так-такі нічога не варты, нават з самага левага пункту погляду? І вось надоечы напісаў у Менск начальніку ГПУ, каб вярнулі мне мае затрыманыя рукапісы. Але хто там пачуе мой голас, калі я не пісьменнік, якога б нехта цаніў як пісьменніка? Ну, нічога. Усё нічога. Усё добра будзе. Каб толькі мне напісаць гэту сваю «Хроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае» (29 красавіка 1932 г.). Дарэчы, з прыгаданага ўрыўка ў друку былі змешчаны толькі два апошнія сказы, а ўсё астатняе трапіла ў лік непажаданых звестак. У атмасферы застойнага перыяду лічылася нормай, калі непажаданыя рэчы не даходзілі да грамадскасці.

Гарэцкаму куды б лягчэй было перанесці зняволенне, калі б ён ведаў, што яго сям'я ў бяспецы. Але ж жонка з малымі дзецьмі на доўгі час апынулася ў цяжкім маральным і матэрыяльным становішчы, без сродкаў існавання, без падтрымкі. Турботамі пра блізкіх напоўнена кожная старонка ліста. «Я клапачу, што вам цяжка плата за кватэру, але рады ніякай даць не магу» (20 сакавіка 1931 г.). «Між радкоў твайго ліста прачытаў я грашовы клопат. І падумаў: як яна будзе жыць з дзяцьмі, калі выйдзе якая замінка з перакладамі?» (11 ліпеня 1931 г.). «Мне казалі, што вы мерзлі ўзімку, купляючы па возіку дроў і мяркуючы па паленцу на дзень» (Тамсама). «Сёння я даведаўся, што ты без працы, у карэктаркі не ўзялі, і што ў цябе сумны настрой. Не бядуй! Думаю, што працу знойдзеш, а пакуль што прадавай што з рэчаў...» (30 жніўня 1931 г.).

Прывядзём і яшчэ адзін урывак, які зноў-такі не трапіў у ранейшую публікацыю: «Таксама непакоіць ваша бытаванне. Што вы ясцё? Дзе знаходзіце грошы на кватэру і дровы? Ці прадала ты, Лёля, за гэты час якія рэчы? 4-га паслаў вам 40 руб., каб хоць дроў купілі» (10 лістапада 1931). Можна толькі ўявіць сабе псіхалагічны стан, душэўныя пакуты М. Гарэцкага, які не мог аказаць належнай дапамогі сям'і, бо і сам у той час быў бяспраўнай істотай. І сапраўды! Пасля выхаду на пасяленне (25 чэрвеня 1931 г.) Гарэцкі спрабуе

ўладкавацца на працу. Ён не мае прытулку і часова жыве на вышках недабудаванага дома. Надзея на тое, што яго возьмуць у «Вятскую праўду» карэктарам, не спраўдзілася. «У аддзеле народнае асветы адмовілі». Удалося атрымаць месца землякопа, потым узялі працаваць на фабрыку вучэбных дапаможнікаў. У 1932 годзе Гарэцкага прызначылі тэхнікам-каштарыснікам завода Вучпалітэхабсталявання, потым тэхнікам-калькулятарам у Вяткамбуд.

Калі з'явіўся сціплы заробак, М. Гарэцкі стаў дапамагаць сям'і, бацькам, брату Гурыку. «Адкрытку, у якой гневаешся за грошы, атрымаў. Дармо гневаешся: я ж ведаю, як яны табе цяпер патрэбны, на ўсё, і на дровы. Я не ведаю, як і што вы ясцё. А я магу абысціся»,— звяртаўся Гарэцкі ў лісце да жонкі (13 верасня 1931 г.). «У мяне навін няма. Атрымаў за ½ месяца плату 52 руб. Пасылаю 25» (26 верасня 1931 г.). У сваю чаргу і блізкія імкнуліся падтрымаць яго чым маглі. «Сёння,— піша М. Гарэцкі ў лісце ад 24 кастрычніка 1931 года,— атрымаў пальто і сухары. Дзякую вельмі. Толькі нашто было пасылаць сухары, хай бы дзеці з'елі. Я харчуюся нішто сабе. Думаю, як вы там. Рэчаў пакуль што болей не прадаваў, і з пальтом прыйдзецца пачакаць». «Я харчуюся нішто сабе» — гэта, вядома, той няхітры падман, які сведчыць пра цярплівасць М. Гарэцкага, яго здольнасць да самаабмежавання. «Я ўсё чакаў, каб падмарозіла, але цяпер мне ўжо не бяда: купіў калёшы. Праўда, на левую нагу № 15, а на правую № 12, але заплаціў усяго 5 руб. і вельмі здаволены гэтым набыткам» (10 лістапада 1931 г.).

У 1932 годзе агульнае матэрыяльна-бытавое становішча і харчовае забеспячэнне ў Вятцы значна пагоршылася, і гэта адразу адчулі спецпасяленцы, у тым ліку і М. Гарэцкі. У лісце ад 9 лютага ён паведамляе: «Увесь час стаяць вялікія марозы, да 35° (па Цэльсію). Халодна. Дровы падаражэлі. Сёння хадзіў купляць і не купіў. Абеды ў нашай сталоўцы таксама падаражэлі. І наогул усё падаражэла. А як у вас? Няўжо таксама? Як жа вы жывіцё? У блізкім часе пастараюся вам выслаць хоць рублёў 20». У лісце ад 22 красавіка — зноў тыя ж скупыя трывожныя звесткі. «У нас падняліся цэны, падаражэў хлеб, пуд мукі каштуе 40 рублёў, а служачым прадуктовых картак 1/IV у нас ужо не выдалі,— як у вас! Толькі вы пра мяне не клапаціце, мне прыбавілі пенсіі, і зарабіў яшчэ вечароваю работаю. Прадаў тое бобрыкавае паліто». Каб звесці канцы з канцамі і мець магчымасць выслаць хоць бы мізэрную суму блізкім, М. Гарэцкаму прыходзілася эканоміць на ўсім — варыць сабе ежу на прымусе, цыраваць зношаную бялізну, купляць дровы па самай таннай цане.

Якую ж, аднак, трэба было мець маральную, грамадзянскую загартоўку, як трэба было верыць у праўду жыцця, каб у такіх вось невыносна цяжкіх умовах зноў узяцца за творчую працу? «Я спрабую пісаць, але пісанне маё мне не дужа

ўдаецца. Думаю кінуць гэта, што пішу, і ўзяцца за што другое,— можа, пойдзе лягчэй» (24 верасня 1931 г.). Адарванасць ад роднага краю, маральная прыгнечанасць ад учыненай несправядлівасці, паўгалоднае і бяспраўнае існаванне, паўсядзённы, неадступны страх за лёс родных і блізкіх — усё гэта цяжкім каменем клалася на душу і сэрца пісьменніка. Пра якое ж, здавалася, творчае натхненне магла ісці гутарка? Бо нават кожнае слова пасяленца ў яго прыватнай перапісцы кантралявалася пільным вокам цэнзуры. А тут — мастацкае слова, адрасаванае грамадству, чытачу! І ўсё ж літаратурная праца неадольна цягнула да сябе, не давала спакою. «Добры вечар, Цярплівая Ласка! Добры вечар, парасткі малыя! Заўтра ў Задумекуса выхадны дзень. Зараз ляжа Задумекус у свой аблезлы човен і панясецца на выспу Патмос. У той дарозе, можа, спаткае любых сэрцу свайму, пабачыцца з імі, пагамоніць. Цёпла будзе блазеннаму, бо ў каморы ў яго сёння настрой Арктыкі і кіно-парад скарбаў жыцця перад задуманымі вачыма». Выспай Патмос называў Максім Гарэцкі літаратурную творчасць. Можа, у творчай працы і спадзяваўся М. Гарэцкі знайсці свой паратунак, забыцца пра нанесеныя яму крыўды, прыглушыць боль незагойнай раны? А можа, хацеў ён і тут, насуперак зломy лёсу, сцвердзіць сваю чалавечую існасць, споўніць свой доўг мастака-грамадзяніна? Бо збіраўся ж ён пісаць не пра другарадныя побытавыя з'явы, не пра часовае і пераходзячае, а пра спрадвечнае — пра гісторыю духоўнага быцця народа, яго веліч. Вера ў народ і была той гаючай вадой, якая жывіла душу пісьменніка і падтрымлівала яго ў цяжкія хвіліны жыцця. У кастрычніку 1931 года М. Гарэцкі звяртаецца да жонкі: «Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў» (калі іх табе вярнулі з усімі рукапісамі); можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць)». А ўжо ў лістападзе М. Гарэцкі паведамляе: «Цяпер якраз прыводжу да ладу рукапіс «Камунараў». Яшчэ канчаткова не ведаю, у якім плане напішу. Ці гэта будзе нешта падобнае да нарыса ці нейкай сыраватай повесці з розных абразкоў і сцэнак». Пісьменнік, думаецца, невыпадкова выказаў тут асцярогу адносна мастацкага ўзроўню свайго твора: у тых канкрэтных умовах не так і лёгка было дасягнуць дасканаласці, унутранай цэласнасці, да якой ён заўжды імкнуўся. Але аўтара турбавалі не толькі пытанні майстэрства, кампазіцыйная зладжанасць, але і рэчы больш складаныя: «Канчаю апрацоўваць «Камунараў». Цяжка мне іх пісаць для друку, усё баюся, каб не зрабіць якой памылкі ў асвятленні» (10 снежня 1931 г.). Вось яно, паралізуючае ўздзеянне атмасферы масавых рэпрэсій на духоўнае жыццё грамадства, на творчае адчуванне мастака, які скаваны бояззю дапусціць памылку «ў асвятленні». Тым вышэй творчы подзвіг Гарэцкага-пісьменніка, калі ён у абстаноўцы, зусім не

прыдатнай для нармальнай творчай працы, здолеў стварыць праўдзівую гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы беларускіх і літоўскіх «камунараў» і не паступіўся ісцінай у імя карыслівых мэт, хоць многія з тых, хто яшчэ заставаўся ў 30-я гады на волі, пісалі фальшывыя панегірыкі ў гонар рэвалюцыі, скажалі праўду. Аб высокай прафесійнай патрабавальнасці М. Гарэцкага сведчаць і некаторыя іншыя яго выказванні і ацэнкі ў лістах: «...канчаю апрацоўваць «Віленск.[іх] камунар[аў]». Нічога выйшаў нарыс, але папрацую яшчэ» (16 снежня 1931 г.). «Камунараў» напісаў, але нешта нездаволены ўжо. Хай паляжаць» (27 снежня 1931 г.). «Ляжалі «Камунары» аж да жніўня 1933 года, але не без руху. Паводле сведчанняў Галіны Максімаўны Гарэцкай, апрацоўка твора ішла і ў 1932 годзе, калі Максім Іванавіч жыў у прахадным пакойчыку ў дзевяць квадратных метраў на вуліцы Свабоды. У жніўні 1933 года рукапіс «Віленскіх камунараў» М. Гарэцкі паслаў у выдавецтва ў Мінск і пачаў працаваць над рускім варыянтам твора — над «Виленскими воспоминаниями», якія вясной 1935 года былі накіраваны ўжо ў Маскоўскае выдавецтва. Але надзеям пісьменніка ўбачыць свой твор надрукаваным не суджана было збыцца.

Недаравальным спрашчэнствам і праявай непавагі да светлай памяці М. Гарэцкага было б падаваць тут справу так, што, маўляў, хоць і цяжка жылося яму ў Вятцы, але працаваў ён натхнёна, плённа, і сумненні не наведвалі яго. Не, легкадумнасці і казённаму аптымізму не месца там, дзе гаворка ідзе пра лёс бяспраўнага пісьменніка, пастаўленага па-за нармальнымі ўмовамі існавання. І сумненняў хапала. Не раз думаў учарашні палітзняволены, чым займацца далей, бо не бачыў перспектывы ў сваёй пісьменніцкай працы. Быў намер вывучаць тэхнічныя дысцыпліны. І ўсё ж назаўсёды развітацца з літаратурай М. Гарэцкі не мог. У лісце, пазначаным 9 лютага 1932 г., ён зноў звяртаецца да Леанілы Усцінаўны з просьбай выслаць матэрыялы, але ўжо да другога мастацкага твора, праца над якім была распачата даўно — сшытак «Камароўскай хронікі»: «Хоць я яго троху спарадкую. Не ведаю, ці вярнулі табе мае рукапісы з успамінамі пра дзіцячыя гады, вучэнне ў Крушні і Норках. Усё гэта я пісаў там (у мінскай турме.— *М. М.*). І гэта ўсё мне цяпер бы спатрэбілася. Але нічога: калі няма, дык я напішу ізноў». Калі М. Гарэцкі даведаўся, што патрэбныя матэрыялы не прапалі, ён быў дужа ўсцешаны. «Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло да мяне ў хату. І хоць усімі сіламі хачу скарацішча, каб хутчэй, і хапаюся, але прыемна мне, і радуюся, што на лад пісанне маё патрошку пайшло» (26 лютага 1932 г.). Радасць пісьменніка зразумелая: ён глядзеў на «Хроніку» як на галоўную справу свайго жыцця, свой галоўны твор, які быў задуманы ім як шырокая мастацкая панарама. Праз гісторыю пэўнага сялянскага роду

намерваўся М. Гарэцкі паказаць не толькі працу, побыт народа, яго мары і надзеі, але і поступ самой Гісторыі. А творцамі і героямі яе былі шырокія масы працоўных.

Завяршаецца змешчаная ў аднатомніку падборка лістамі 1935—1936 гг. У гэты час М. Гарэцкі быў прызначаны настаўнікам сярэдняй школы ў г. п. Пясочня, які потым быў перайменаваны ў г. Кіраў Заходняй (пазней — Смаленскай) вобласці. Пераважная большасць лістоў адрасавана Леаніле Усцінаўне, якая захварэла і знаходзілася ў больніцы ў Вятцы. Туды ж выехаў на пэўны час і М. Гарэцкі, а потым вярнуўся зноў у Пясочню. Адбылася і яго паездка ў родную Багацькаўку. Лісты тых гадоў малююць нам яскравы вобраз клапатлівага сем'яніна, удумлівага бацькі-педагога, добрай душы, чулага, сардэчнага чалавека, які любіў жыццё і верыў у свой народ, верыў у сацыяльную справядлівасць. Менавіта такім назаўжды і застанецца незабыўны Максім Іванавіч Гарэцкі ў памяці ўдзячных нашчадкаў.

*Міхась Мушынскі*

# КАМЕНТАРЫІ

Максім Гарэцкі многія свае творы падпісваў псеўданімамі і крыптанімамі. Я. Саламевіч у кнізе «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.)» — Мн., 1983, называе наступныя: *Амстиславский, М. Б-с, Беларус, М. Беларус, Максім Беларус, Г. М., Дед Кузьма, Дзед Кузьма, Кузьмянкоў, М. Б., М. Г., Мізэрыус Монус, А. Мсціслаўскі, Мацей Мышка, Псэўдонім, Bielarus.*

Прымаючы пад увагу тое, што такімі ж подпісамі маглі карыстацца іншыя пісьменнікі, пры падрыхтоўцы матэрыялаў дадзенага выдання праведзена праца па выяўленні дакументальных крыніц, якія сцвярджаюць прыналежнасць пералічаных крыптанімаў і псеўданімаў, а таксама пазначаных імі тэкстаў М. Гарэцкаму. У тых выпадках, дзе подпісы супадаюць з пералічанымі ў «Слоўніку....», але фактычныя дадзеныя пра асобу адсутнічаюць, зроблены моўна-стылёвы і параўнальны аналіз тэкстаў з той мэтай, каб пазбегнуць механічнай прыпіскі аўтару напісанага не ім. У выніку, акрамя пералічаных вышэй псеўданімаў і крыптанімаў, сцверджана прыналежнасць М. Гарэцкаму подпісаў *Максім, П. Б-н, П. Б.* і *Я. С.*

1912—1913 гады ў творчасці М. Гарэцкага з'яўляюцца перыядам, калі ў юнака, студэнта Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча, па-сапраўднаму абудзіўся талент пісьменніка. Ён піша аб тым, што хвалюе яго, аб тым, з чым сутыкаецца ў будзённым жыцці: у вучылішчы, інтэрнаце, роднай вёсцы і навакольных мясцінах. Свае нататкі, карэспандэнцыі, апавяданні дасылае ў газету «Наша ніва», якая з'явілася для яго стартавай пляцоўкай творчага шляху. 13 верасня 1912 года М. Гарэцкі дэбютаваў на старонках газеты публікацыяй карэспандэнцыі [Г. Горкі, Магілёўская губерня]. У гэтым гаду...], якую падаў пад псеўданімам *Беларус.*

Пра тое, што подпіс і тэкст належаць М. Гарэцкаму, сведчыць рукапіс карэспандэнцыі «Навіны з Горак Магіл.[ёўскай] губ.[ерні]», пад тэкстам якой таксама пазначана — *Беларус.* Ніжэй прыведзены наступныя звесткі: «М. И. Горецкий. Горецкое з.[емлемерно]-агрон. [омическое] училище Мог.[илевской] губ[ернии]. 22/июнь 1913 г.».

На адваротным баку гэтага ж ліста паперы занатаваны яшчэ адзін рукапісны тэкст — «Маленькі фельетон. *Тое-сёе*». Ён падпісаны крыптанімам *М. Б-с.* Як выявілася ў працэсе падрыхтоўкі матэрыялаў выдання да друку, гэта была скарочаная форма псеўданіма *Максім Беларус, М. Беларус.* Прыналежнасць іх М. Гарэцка-

му сцвярджаюць рукапісны тэкст першага апублікаванага апавядання «У лазні» («Наша ніва», 1913, 25 студзеня) і карэспандэнцыі [«Шамоўская воласць, Мсціслаўскі павет Магілёўскай губерні. У вёсцы Крутой...»] («Наша ніва», 1913, 10 студзеня). Названыя рукапісныя тэксты занатаваны аўтарам у сшытку, на вокладцы якога напісана: «Максім Гарэцкі. Рукапіс апавядання «У лазні» і карэспандэнцыі да «Нашае нівы». 1913 г.». Апавяданне падпісана псеўданімам *Максім Беларус*, карэспандэнцыя — *М. Беларус.* Пад тэкстам рукапісу пісьменнік паведаміў аб сабе наступнае: «Крэсцьянін вёскі Малае Багацькаўкі Шамоўскае воласці Мсціслаўск.[ага] пав.[ета] Маг. [ілёўскай] губ[ерні]. Макс.[ім] Іван.[авіч] Гарэцкі. Адрас: Горкі Маг.[ілёўскай] губ.[ерні], каморніцка-аграпаміцкае вучылішча. М. И. Горецкому». Рукапісны матэрыял, як і папярэднія, захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе.

На працягу 1912—1913 гадоў на старонках газеты «Наша ніва» апублікавана значная колькасць матэрыялу, дасланага М. Гарэцкім. Ёсць выпадкі, калі ў адным і тым жа нумары за рознымі подпісамі змешчана па некалькі нататак ці карэспандэнцый. Для гэтага перыяду найбольш характэрныя подпісы *Беларус, Максім Беларус* і вытворныя ад іх, а таксама ад сапраўднага імя і прозвішча — *М. Беларус, М. Б., М. Г., Г. М.* Прыналежнасць пералічаных псеўданімаў М. Гарэцкаму сцвярджаюць прыведзеныя вышэй аўтарскія дадзеныя, крыптанімаў — параўнальна-аналітычны спосаб даследавання творчасці пісьменніка, за аснову якой узяты мастацкія творы. Менавіта дзякуючы ім можна прасачыць рух твора — прайсці шлях ад рукапісу ці першадруку да больш позняй яго публікацыі. Такім чынам высветлілася, што свае раннія апавяданні М. Гарэцкі абнародаваў, падпісваючы псеўданімамі і крыптанімамі, а пазней уключаў іх у зборнікі, якія выходзілі пад сапраўдным прозвішчам. Напрыклад: апавяданні «У панскім лесе» («Наша ніва», 1913, 12 верасня), «Красаваў язмін» («Наша ніва», 1913, 28 верасня) упершыню надрукаваны за подпісам *М. Г.*, апавяданне «Страхаццё» («Наша ніва», 1913, 24 кастрычніка) — за подпісам *Г. М.* У 1914 годзе пералічаныя творы ўключаны ў першы зборнік аўтара «Рунь».

Неабходна адзначыць, што крыптанімам *М. Г.* Максім Гарэцкі карыстаўся ў розныя перыяды сваёй творчасці і панёс яго праз усё жыццё. У Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі ЦНБ АН БССР захоўваюцца, напрыклад, выразкі з публікацыямі апавяданняў за гэтым подпісам — «Пабожны мешчанін» («Літаратурны дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, 15 красавіка), «Хоцімка» («Аршанскі маладняк», 1928, № 7), «Кіслая крыніца» («Звязда», 1928, 5 лютага; пад назвай «Кіслы ключ»), «Агні» («Літаратурны дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, 15 лютага). На апошніх трох тэкстах ёсць аўтарскія праўкі.

У 30-я гады М. Гарэцкі неаднаразова падпісваў сваімі ініцыяламі лісты да родных. (Гл. таксама ніжэй.)

Творчы шлях пісьменніка, як ужо адзначалася, пачаўся з «Нашай нівы». З апублікаванага на старонках газеты матэрыялу адчуваецца неспакойная душа маладога аўтара, гарачае сэрца, пільны позірк да навакольнага, аналітычны склад розуму, патэнцыяльныя магчымасці творчага росту. Амаль праз год пасля першага выступлення ў друку (9 жніўня 1913 года) рэдакцыя газеты змя-

сціла падзяку: «Максіму Беларусу. Дужа дзякуем за Вашы творы, каторыя Вы нам прысылалі ў апошнія часы. Мы верым, кажучы словамі нашых прадзедаў, што праз Вас «памножана будзе слава слаўнай айчызны нашай, калі толькі агонь, каторы гарыць у Вас, будзе далей разгарацца».

Па праву і на доўгі час заваяваў аўтарытэт супрацоўнікаў «Нашай нівы» малады пісьменнік. Яшчэ ў 1914 годзе, калі аўтар знаходзіўся «на абавязковай вайсковай службе» ў царскай арміі, на старонках газеты неаднаразова паведамлялася аб ім. 13 лістапада, напрыклад, была дадзена інфармацыя пад загалоўкам «Гарэцкі ранены»: «Наш вядомы пісьменнік М. Гарэцкі, якога фатаграфія была надрукавана ў № 37 «Нашай нівы», ранены ў нагу і цяпер лечыцца ў Вільні ў шпіталі».

Гады імперыялістычнай вайны, акопы, раненне, шпіталь не спрыялі нармальнай творчай працы пісьменніка. Аднак суровая праўда вайны з'явілася для яго «школай» жыцця, што адыграла вялікую ролю ў фарміраванні светапогляду аўтара, у станаўленні яго творчасці.

Жыццёвым і творчым пасталеннем М. Гарэцкага тлумачыцца выбар псеўданіма *Дзед Кузьма*, які паходзіць, відаць, ад імя дзеда пісьменніка і пачынае сваё існаванне са старонак смаленскіх газет. У творах, падпісаных ім, гаворка ідзе ад імя старога чалавека, умудронага вялікім жыццёвым вопытам, разважлівага, удумлівага і адначасова высокаадукаванага. Яскравым прыкладам сказанага з'яўляецца аповесць «За что?» (апошні варыянт — «Ціхая плынь»), якая ўпершыню пабачыла свет на рускай мове ў газеце «Известия Смоленского Совета», 1918, 1 мая за подпісам *Дед Кузьма*. Публікацыя аповесці пачыналася наступным тэкстам: «...Пожалуй, не занимательна она для читателей любовных романов и футуристических стихов. Ведь даже вы, мои юные друзья, выходцы из белорусской деревни, дети наших старшин и кулаков, панских кучеров и кухарок, взятые от сохи и бороны и, благодаря русской школе, вышедшие в люди, даже вы не понимаете да и не любите Успенского и не слышали о Златовратском. При чтении «Деревни» Бунина ваше сердце не сжимается от боли, но отвращение к унылой жизни грязных хат растет и окрыляется и поднимает вас в ваших собственных глазах. И я с печалью вижу, как американская корочка ваших душ, созданная литературой кинематографа и бульвара, скрывает пустоту и отделяет вас от народа. Беспомощно висят концы оторванных нитей. И от того, что могло бы их связать, вы безрассудно отвергнулись.

Народническая литература не отжила, однако. Есть обширный класс людей, который не поймет иных произведений наших дней, где преломляется цветами радуги панское дегенератство, называемое в высоком стиле утонченностью!

Этот класс найдет, надеюсь, в несложной истории Осмоловского Левки отражение своих дум и настроений».

У тым жа стылі за подпісам *Дед Кузьма* напісаны М. Гарэцкім артыкул «Будем жить» («Известия Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов», 1918, 2 сакавіка) і «Кое-что о нашем быте» («Известия исполнительного комитета Советов Западной области и Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов», 1918, 28 красавіка). Апавяданне ў іх вядзецца ад імя адной і той жа асобы. «На моих старых глазах,— гаворыць Дзед Кузьма,— по-видимому, раскроит хищная рука родную

Белую Русь. А молодые глаза довольно насмотрелись, как кроили ее и свои белорусские паны, и московские и польские угнетатели» («Будем жить»). Перакананасць у прыналежнасці М. Гарэцкаму артыкула «Кое-что о нашем быте» надае таксама апісанне Усходняй Прусіі, якое асацыіруецца са старонкамі яго дакументальна-мастацкіх запісак «На імперыялістычнай вайне». Найбольш істотнымі дэталямі, якія выяўляюць падабенства, з'яўляюцца чарапковыя стрэхі і грамафон:

| у артыкуле | у дакументальна-мастацкіх запісках «На імперыялістычнай вайне» (Зб. тв. У 4-х т. Т. 3) |
| --- | --- |
| С. 211. Сидят немцы в своем деревенском «вартехаузе», пиво пьют, трубочки курят, в журналы с картинками смотрят и граммофонного «пупхена» слушают. Домики у них кирпичные под крышами черепитчатыми. | С. 29. У чародным доме чарапковая страха разварочана снарадам.<br>С. 42. Ля самай кірхі, на адчыненым акне пустога дому, грамафон, заведзены рукою ворага, пахабным дысанансам у абставінах вайны і смерці раве мірнага «пупсіка». |

Характэрныя для лексікі М. Гарэцкага таксама багацькаўскія словы «игрища», «ханджа», якія сустракаюцца ў артыкуле і неаднаразова ўжываюцца ў мастацкіх творах.

Ідэя асветы, культуры, быту працоўнага народа чырвонай ніткай праходзіць праз усю творчасць пісьменніка. Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі надала яму веры і ўпэўненасці ў ажыццяўленні гэтай светлай мары. Таму зусім невыпадкова, што ў смаленскі перыяд жыцця і творчасці М. Гарэцкім напісаны і пералічаныя вышэй артыкулы, і артыкулы «Новая буржуазия» («Известия исполнительного комитета Советов рабочих, крестьянских и солдатских депутатов Западной Коммуны», 1918, 22 кастрычніка), «Берегите» («Известия исполнительного комитета Советов рабочих, крестьянских и солдатских депутатов Западной Коммуны и города Смоленска», 1918, 24 кастрычніка), падпісаныя псеўданімам *Максім*. Аўтарства названых артыкулаў удакладняе аднолькавая манера апавядання, якая характэрна для М. Гарэцкага і найбольш выразна адчувальная ў публіцыстычных працах 1918 года. Пры гэтым неабходна заўважыць, што праблемы жылля і быту насельніцтва, узнятыя ў артыкулах, М. Гарэцкаму былі вядомы не толькі як выхадцу з народа, але і як каменданту жыллёвага аддзела, пасаду якога ён займаў у Смаленску ў канцы 1917 года, а затым пэўны час сумяшчаў яе з працай у газеце «Известия Смоленского Совета...».

Тэкст артыкула «Смаленск — Менск — Вільня» («Звязда, 1927, 9 жніўня), падпісаны псеўданімам *Дзед Кузьма*, сцвярджае прыналежнасць не толькі гэтага подпісу М. Гарэцкаму, але і крыптаніма *П. Б-н:*

«Пасля Кастрычніка я жыў у Смаленску і ў самым канцы 1917 г., ці ў самым пачатку 1918 г., пачаў супрацоўнічаць у «Известиях Смоленского Совета».

Я даваў спачатку фельетоны і пераклады з сваіх жа апавяданняў у беларускай мове, пад псеўданімам *Дзед Кузьма.*

Агалашэнне ў снежні 1918 г. на камуністычнай канферэнцыі ў Смаленску незалежнасці Беларусі нарабіла тады гуку. І яшчэ ў Смаленску, у «Западной Коммуне», а можа быць, і ў «Звяздзе», быў змешчаны мой невялічкі артыкул аб Савецкай Беларусі з загалоўкам па-беларуску: «Няхай жыве Савецкая Беларусь!»

(М. Гарэцкі жыў і працаваў у Смаленску з канца кастрычніка 1917 года да пачатку студзеня 1919 года. Сталым супрацоўнікам газеты «Известия Смоленского Совета» з'яўляўся з канца 1917 года. Са жніўня 1918 года быў загадчыкам розных аддзелаў газеты «Звязда».)

Згодна з прыведзеным М. Гарэцкім апісаннем, артыкулам на рускай мове з загалоўкам па-беларуску з'яўляецца «Няхай жыве камуністычная Беларусь[!]», які надрукаваны ў газеце «Известия Смоленского губернского революционного комитета и Совета раб.[очих], солд.[атских] и крест.[ьянских] депут.[атов] г. Смоленска», 1919, 4 студзеня за подпісам *«П. Б-н»*.

Верагоднасць прыналежнасці гэтага крыптаніма М. Гарэцкаму надае рэцэнзія на п'есу Ф. Аляхновіча «Страхі жыцця». Яна змешчана ў газеце «Звезда», 1919, 23 лютага за аналагічным подпісам *П. Б.* Пачатак тэксту рэцэнзіі адпавядае першай палове артыкула «Беларускае драматычнае пісьменства», надрукаванага ў газеце «Беларуская думка», 1919, 5, 7 мая і пазначанага крыптанімам *М. Г.* Што названы артыкул належыць пяру М. Гарэцкага, пераконвае не толькі стыль аўтара, але матэрыял кнігі пісьменніка «Гісторыя беларускай літаратуры» (1920, 1921, 1924, 1926).

У раздзеле «Навейшая літаратура» М. Гарэцкі пры разглядзе жыцця і творчасці Ф. Аляхновіча, у прыватнасці яго п'есы «Страхі жыцця», выкарыстоўвае напісаны ім раней артыкул. Тое ж тычыцца і параграфа пра Янку Купалу, дзе ідзе гаворка аб драме «Раскіданае гняздо». Адпаведны тэкст «Гісторыі...» мае тэкставыя супадзенні абзацаў, выразаў, слоў з тэкстам артыкула. Напрыклад:

| у артыкуле | у «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920) |
| --- | --- |
| С. 226. На такое жыццё галіўся фантазёр, летучонік Сымон, што даводзіў, што маладосць — вечна, але адурэў і пагінуў ад страхаў жыцця. | С. 197. На такое шчасце галіўся фантазёр, летучонік Сымон, каторы даводзіў, што маладосць — вечная, але адурэў і пагінуў ад страхаў старасці. (У выданні за 1921 год — ад страхаў жыцця.) |
| С. 227. Лепшыя часткі драмы, а гэта — драма з пачатку да канца ў наўнейшым значэнні слова, лепшыя часткі, калі дачка першы раз прыходзіць з вуліцы і сустракае на парозе кватэры свайго каханка. Яе маналог адзначаецца незвычайнымі мастацкімі вартасцямі. Ён хапае за спод душы. Добрая мясцінка, калі Юзя, ужо хворая і выматаная вуліцаю, пытаецца ў каханка, | С. 197. Лепшыя часткі драмы — калі дзяўчына першы раз прыходзіць з вуліцы і спатыкае на парозе кватэры свайго любага. Яе маналог адзначаецца вялікімі мастацкімі вартасцямі. Ён хапае за спод душы. Яшчэ размова Юзі з любым перад смерцю, калі яго нялюдская шчырасць духоўна забівае няшчасную. |

| | |
|---|---|
| ці любіць ён яе па-ранейшаму? «Мы, мужчыны, брудныя стварэнькі,— кажа ён,— а таму вельмі любім «чыстату», і цяпер я на цябе магу глядзець толькі як на сястру». Яго шчырасць нялюдская і забівае няшчасную дзяўчыну. | |
| С. 228. ...сімвалы новага часу абгорнуты нейкім туманам няпоўнай усвядомленасці, і дзеля таго яны, падманяючы прынаднасцю думкі, выйграюць, але маючы ўшчэрбу ў сочнасці фарбаў побач з рэалізмам, многа губяць.<br>Аўтар дужэйшы ў рэалізме. Дух навізны толькі здалёку, хаця і безадступна, мітусіцца перад ім, уваходзячы ў сімвалічны, нежыццёвы і рытарычны абраз няведамага чалавека, работніка, згукаючага па гарадах і весях усіх труждаючыхся і абрамянёных на «вялікі сход».<br>Справа ясная: драму напісаў да сацыяльнай рэвалюцыі паэт-земляроб, каторы развязвае сацыяльныя праблемы сваім уласным індывідуалістычным спосабам, як бы так сказаць — з тутэйшых народных поглядаў.<br>І тып работніка незадачан. | С. 172. ...сімвалы новага часу абгорнуты нейкім туманам няпоўнай усвядомленасці, яны падманяюць нас сваёй прынаднасцю, ды застаюцца маларэальнымі, не сакавітымі на свае сапраўдныя, жудасна-рэвалюцыйныя фарбы. Дух навізны толькі здалёку, хоць і безадступна, мітусіцца тут, найвыразней уваходзячы ў рытарычны абраз невядомага чалавека, работніка, згукаючага па гарадах і вёсках гаротнікаў на «вялікі сход». Тып работніка незадачан. |

У выніку аналітычнай зверкі пададзенага вышэй матэрыялу рэдакцыйная калегія пагадзілася, што крыптанімы *П. Б-н* і *П. Б.* належаць М. Гарэцкаму, і прыняла рашэнне артыкул «Няхай жыве камуністычная Беларусь[!]» уключыць у дадзенае выданне. Разыходжанні ў назве артыкула і назве газеты тлумачацца тым, што ў 1927 годзе аўтар не меў магчымасці звярнуцца да крыніцы першадруку і прыводзіў абедзве назвы па памяці.

У смаленскі перыяд жыцця і творчасці М. Гарэцкі друкаваўся ў розных газетах. Выяўлены матэрыялы і на старонках «Западной Коммуны». 13 лістапада 1918 года, напрыклад, пад псеўданімам *Ваш Амстиславский* змешчаны артыкул «Деревня». Аб тым, што подпіс і тэкст належаць М. Гарэцкаму, сведчыць аповесць аўтара «Дзве душы», у якой пісьменнік выкарыстаў апублікаваны матэрыял у перакладзе на беларускую мову (гл. каментарыі, с. 526).

Прыналежнасць М. Гарэцкаму аналагічнага псеўданіма — *А. Мсціслаўскі*, якім падпісаны, напрыклад, артыкул «75 гадоў оперы «Сялянка» («Наша думка», 1921, 11 сакавіка), «Эндэцкія выкрутасы» («Беларускае жыццё», 1921, 14 верасня), «шматок дра-

мы» «Жарты пана Пісарэвіча» («Наша будучыня», 1922, 8 снежня) — сцвярджае поўная публікацыя п'есы «Жартаўлівы Пісарэвіч», якая надрукавана ў «Полымі», 1925, № 8 пад сапраўдным прозвішчам аўтара, у 1928 годзе выдадзена асобнай кніжкай. Пры параўнанні артыкула «75 гадоў оперы «Сялянка» з матэрыялам, які М. Гарэцкі падае пры разглядзе жыцця і творчасці Дуніна-Марцінкевіча ў «Гісторыі беларускай літаратуры», выявіліся пэўныя супадзенні тэксту. Напрыклад:

| у артыкуле | у «Гісторыі беларускай літаратуры» |
|---|---|
| С. 241. Двухактовая камедыя-опера «Сялянка» была першым беларускім творам Вінцука Марцінкевіча... | С. 79. Двухактовая камедыя-опера «Сялянка» была першым беларускім творам Марцінкевіча. |

Цалкам адпавядаюць кніжнай публікацыі наступныя сказы: «Паны гавораць па-польску, а войт Навум, Ціт і хор мужыкоў — па-беларуску». «Ідэя ў «Сялянцы» тая, што бог на небе і паноў і мужыкоў зароўна ўважае (як аб гэтым кажа панам Юлія, пераапранутая па-сялянску). Тут першы раз паказаўся марцінкевіцкі сентыменталізм і дыдактычнасць».

Без асаблівых цяжкасцяў устаноўлена прыналежнасць М. Гарэцкаму подпісаў *Псэўдонім, Мізэрыус Монус, Мацей Мышка.*

Першым з іх пазначана частка драматычнага абразка «Чырвоныя ружы», якая надрукавана ў «Вольным сцягу», 1923, 26 і 28 верасня. Пазней, у 1926 годзе, пад сапраўдным прозвішчам аўтара твор поўнасцю надрукаваны ў першым нумары часопіса «Полымя».

Рукапісны матэрыял цыкла апавяданняў, якія М. Гарэцкі меў намер выдаць пад назвай «Люстрадзён», непасрэдна ўказвае на асобу аўтара, што схавана за подпісам *Мізэрыус Монус*, пастаўленым на тытульным лістку рукапісу. Тэксты захоўваюцца ў Аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ АН БССР. Асобныя апавяданні цыкла апублікаваны ў 1930 годзе: «У Палестыне» («Прастуда містэра Рамзая») — «Чырвоная Беларусь», № 2; «Напад белагвардзейцаў» («Пагранічны інцыдэнт на Амуры») — «Маладняк», № 1.

Апошнім псеўданімам у творчасці М. Гарэцкага з'яўляецца *Мацей Мышка.* Імем галоўнага героя падпісаны рукапіс рамана «Віленскія камунары», выяўлены (дзякуючы намаганням Леанілы Усцінаўны Чарняўскай — Гарэцкай, жонкі пісьменніка) упершыню ў 1961 годзе супрацоўнікамі Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР. Тэкст захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі гэтай бібліятэкі.

Будучы ў Вятцы, М. Гарэцкі неаднаразова звяртаўся да Леанілы Усцінаўны з просьбай прысланць той ці іншы матэрыял да твора, паведамляў аб працы над ім. 16 кастрычніка 1931 года ён пісаў: «Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў» (калі іх табе вярнулі з усімі рукапісамі); можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць)». (Гл. каментарыі, с. 594.)

Неабходна адзначыць, што ў працэсе пошуку прыналежнасці названых вышэй псеўданімаў і крыптанімаў М. Гарэцкаму выкарыстаны «Спіс маіх твораў», «Храналогія маіх твораў» і «План мае творчасці». Дзякуючы гэтаму матэрыялу стала магчымым яшчэ раз пераканацца ў правільнасці вызначэння прыналежнасці таго ці іншага твора М. Гарэцкаму, а разам з тым і псеўданіма, якім ён па-

значаны пры першай публікацыі. Такім чынам, з дапамогай гэтых дакументальных крыніц было сцверджана аўтарства апавяданняў «Фантазія», «Усебеларускі з'езд 1917-га года», «Дурная галава». Іх тэксты друкаваліся пры жыцці пісьменніка. Першае апавяданне змешчана ў «Беларускіх ведамасцях», 1921, 24 кастрычніка без подпісу (М. Гарэцкі быў рэдактарам газеты), другое — у «Беларускім звоне», 1922, 1 верасня пад крыптанімам *Я. С.*, трэцяе ў гэтым жа выданні 21 кастрычніка за подпісам *Кузьмянкоў* (псеўданім, магчыма, з'яўляецца вытворным ад *Дзед Кузьма*). У «Спісе маіх твораў» назвы гэтых апавяданняў зарэгістраваны пад нумарамі 46, 70, 62. У «Храналогіі маіх твораў» «Фантазія» пазначана пад 1921 годам 8-м нумарам, «Усебеларускі з'езд...» і «Дурная галава» — пад 1922 годам 6-м і 7-м нумарамі. Апавяданне «Фантазія» ў «Плане мае творчасці» даецца М. Гарэцкім у пераліку «дробных рэчаў». «Усебеларускі з'езд 1917-га года» ў гэтым рукапісным матэрыяле названы аўтарам як адзін з пунктаў плана, складзенага да аповесці «Дзве душы» (гл. каментарыі, с. 527).

Сведчаннем прыналежнасці апавядання «Фантазія» М. Гарэцкаму з'яўляецца таксама выразка з газетнай публікацыяй тэксту твора, які расклеены на трох лістах паперы і захоўваецца ў Аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ АН БССР. На думку аб тым, што апавяданне «Усебеларускі з'езд 1917-га года» напісаў не хто іншы, як М. Гарэцкі, наводзіць таксама першы сказ твора, звесткі якога ўдакладняюць біяграфічныя дадзеныя пісьменніка пра час, калі ён жыў і працаваў у Смаленску. Немалаважнай дэталлю з'яўляюцца неаднаразова выкарыстаныя М. Гарэцкім у творах словы песні «Адвеку мы спалі». Імя галоўнага героя апавядання — Кузьма — таксама невыпадкова ўжыта пісьменнікам. Гэтае імя насіў яго дзед, псеўданімам *Дзед Кузьма* падпісваў М. Гарэцкі свае многія творы.

Істотным аргументам абгрунтавання прыналежнасці вышэйпералічаных твораў пяру М. Гарэцкага з'яўляецца адметная сутнасць стылю пісьменніка, яго своеасаблівая мастацкая спецыфіка. Яскравым доказам сказанага служаць мова аўтара, яго лексіка, характар апавядальнай манеры.

Публіцыстычна-крытычны матэрыял М. Гарэцкага, у адрозненне ад мастацкіх твораў, пры жыцці аўтара не перадрукоўваўся, не выходзіў асобнай кніжкай, у «Храналогіі маіх твораў» і «Спісе маіх твораў» не пазначаны. Як бачна са сказанага вышэй, дакладнай крыніцай сцверджання прыналежнасці многіх артыкулаў пісьменніка з'яўляюцца выяўленыя рукапісы, звесткі, дадзеныя М. Гарэцкім у сваіх публікацыях, у «Гісторыі беларускай літаратуры». Аўтарства артыкула «Якуб Колас пасля Кастрычніка», пазначанага подпісам *М. Г.* («Звязда», 1927, 23 кастрычніка), раскрывае зноска да тэксту: «З матэрыялу, пасланага аўтарам гэтага артыкула ў Маскву ў «Дзянніцу», «Зажынкі» і якое мела быць «Жніво», рэдактару Жылуновічу (Ц. Гартнаму), усё дзесь пагінула (апав. [яданне] «За што?», надрукав. [анае] цяпер пад назваю «Ціхія песні», «Кросны» і інш.), апрача аднаго маленькага абразка, надрукаванага ў «Дзянніцы». Па-першае, тое, што аўтарам артыкула з'яўляецца М. Гарэцкі, сведчаць назвы твораў аўтара, а па-другое — ліст пісьменніка да Ц. Гартнага ад 13 верасня 1918 года, дзе ён, у прыватнасці, піша: «Са Смаленска пашлю ў «Жатву»: 1) Знібее сэрца — 3 стр.; 2) Прысяга — 7 стр.; 3) Кросны — 16 стр. і 4) За што? — 36 стр. Калі ўсяго друкаваць няможна, друкуйце

«Кросны» і «За што?». (Зборнік «Жніво» быў падрыхтаваны да выдання, але свету не пабачыў. Якія творы М. Гарэцкага былі ўключаны ў яго — невядома. У «Дзяннiцы», 1918, 7 лістапада апублікавана апавяданне «Знібее сэрца».)

Дзякуючы «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага ўдакладнена аўтарства артыкула «Вінцук Дунін-Марцінкевіч», публікацыя якога ў «Беларускім жыцці», 1919, 7 верасня падпісана крыптанімам *М. Г.* З разгляду жыцця і творчасці пісьменніка, які даецца ў раздзеле «Новая літаратура», выразна адчуваецца стыль М. Гарэцкага, адпаведнасць пэўных вывадаў пры ацэнцы як асобных твораў Дуніна-Марцінкевіча, так і яго творчасці ў цэлым. У якасці пацверджання выказанай думкі можна прывесці наступныя прыклады:

| у артыкуле | у «Гісторыі беларускай літаратуры» |
|---|---|
| С. 232. В. Д.-Марцінкевіч пісаў не толькі па-беларуску, але і па-польску, аднак польскія творы яго не маюць абыякой літаратурнай вартасці, і не яны здабылі яму славу пісьменніка. | С. 79. Пісаў ён па-польску і па-беларуску, але славу пісьменніка далі яму не польскія, а беларускія творы. |
| С. 233. Гэтым творам В. Д.-Марцінкевіч хацеў давесці, каб паны пільнавалі за ўчынкамі сваіх дурных паслугачых... | С. 80. Ён навучае паноў, каб пільнавалі за ўчынкамі сваіх злосных паслугачых... |

«Гісторыя беларускай літаратуры» з'яўляецца крыніцай доказу прыналежнасці М. Гарэцкаму артыкула «Уладзіслаў Галубок», які апублікаваны ў «Беларускім жыцці», 1919, 7 лістапада пад крыптанімам *М. Г.*

| у артыкуле | у «Гісторыі беларускай літаратуры» |
|---|---|
| С. 234. Памёр рана, на 35 годзе жыцця; дзеля таго Уладзіслаў Галубок, скончыўшы ў 1893 годзе прыходскую школу і паступіўшы ў вышэйшую гарадскую, паўчыўся там толькі два гады і ў 1895 годзе мусіў кінуць навуку і зарабляць на хлеб прыказчыкам у адным з менскіх магазінаў. У 1897 годзе ён паступіў на чыгунку, дзе і праслужыў 22 гады... | С. 199. Ён памёр рана, на 35 годзе жыцця, і Галубок, дзеля гэтага, скончыўшы ў 1893 г. прыходскую школу і паступіўшы ў вышэйшую гарадскую, паўчыўся там толькі два гады і ў 1895 годзе мусіў кінуць навуку і зарабляць на хлеб прыказчыкам у адным з менскіх магазінаў. У 1897 годзе ён паступіў на чыгунку, дзе і праслужыў 22 гады... |

За подпісам *М. Г.* выяўлены яшчэ тры публікацыі, прысвечаныя творчасці У. Галубка: рэцэнзія на асобнае выданне п'есы «Апошняе спатканне» («Беларускае жыццё», 1919, № 20), рэцэнзіі на пастаноўкі п'ес «Пісаравы імяніны» («Савецкая Беларусь», 1923, 12 снежня) і «Ветрагоны» («Савецкая Беларусь», 1923, 19 снежня).

Апошні сказ артыкула М. Гарэцкага «Уладзіслаў Галубок» — «Не дужа даўно беларускае выдавецтва ў Вільні выдрукавала «Апошняе спатканне», крытычны агляд каторага будзе ў чародным нумары «Бел.[арускага] ж.[ыцця]» — дае падставу меркаваць, што тэкст рэцэнзіі напісаны таксама ім, паколькі крыніца публікацыі супадае. Поўнасцю пацвярджае аўтарства як гэтай рэцэнзіі, так і наступных дзвюх моўна-аналітычнае вывучэнне тэкстаў, паводле якога выразна адчуваецца характэрны для М. Гарэцкага стыль. Ён выяўляецца праз моўныя асаблівасці аўтара, манеру выкладання думкі, будову сказаў, што ў сваю чаргу надае тэксту своеасаблівы рытм. Яскравым пацверджаннем стылю М. Гарэцкага з'яўляюцца наступныя прыклады:

Драма «Апошняе спатканне» мае ў сабе болей ад тэатра, *чымся* ад літаратуры...; *з боку мовы*; ...глядзяцца прымітыўным гледачом з большай, можа, цікаўнасцю, *чымся* першы акт; Але не Галубкова віна ў гэтай нячыстасці: гэткае было нашае жыццё і гэткія *вымогі* ставіць тая тэатральная публіка, перад якою выступае Галубок і *дзеля* якой ён піша свае драмы і камедыі.

...і ў гэтым крыніца няшчасця *дзеля* Просі і трагедыі *дзеля* беднае маці.

П'еса ў нашым бедным рэпертуары *нязгоршая*. Усе артысты *згулялі свае ролі* вельмі добра...

Увага М. Гарэцкага да творчасці У. Галубка тлумачыцца некалькімі прычынамі. Па-першае, заклапочанасцю пісьменніка развіццём драматычнага жанру, ад якога, як лічыў аўтар, залежыць паўнакроўнае жыццё беларускага нацыянальнага тэатра. Яшчэ ў 1913 годзе ў артыкуле «Наш тэатр» М. Гарэцкі пісаў: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця,— і божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патрапіць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта — у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырока-далёкае, роднае поле вольнага жыцця».

Па-другое, М. Гарэцкі ў дзейнасці У. Галубка бачыў аднадумцу, перспектыўнага драматурга і тэатральнага дзеяча. Невыпадкова ў рэцэнзіі на п'есу «Пісаравы імяніны» аўтар адзначыў: «Строгім Галубковым крытыкам хочацца сказаць: зрабіце, сябры, пераацэнку цэннасцяў! У Галубковай літаратуры шмат спешнасці, неапрацаванасці, але шмат у ёй і сапраўды каштоўных рэчаў, маючых права на пачэснае месца ў нашай літаратуры. І калі ўсё ж з чыста літаратурнага пагляду Галубкова дзейнасць можа выклікаць спрэчкі і нападкі, дык з пагляду грамадскага, сучасна рэвалюцыйнага яна заслужвае толькі пашану, падзяку і ўсякую падмогу».

Па-трэцяе, неабходна адзначыць, што развіццё беларускай драматургіі цікавіла М. Гарэцкага не толькі як крытыка, але і як драматурга. На працягу 1913—1923 гадоў ім напісаны шэраг драматычных абразкоў. Сярод іх драматычная аповесць «Антон» (1914), п'есы «Гапон і Любачка» (1914), «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек», «Не адной веры», «Каменацёс», «Жалобная камедыя», «Чырвоныя ружы» (усе — 1922)...

На вялікі жаль, не ўсё напісанае М. Гарэцкім выяўлена на сённяшні дзень. Значная колькасць тэкстаў схавана яшчэ не толь-

кі за пералічанымі вышэй псеўданімамі і крыптанімамі, але і за некаторымі іншымі, якія патрабуюць сваёй разгадкі.

Аднак ужо тое, што зроблена па збору спадчыны пісьменніка і што прапануецца ўвазе чытача ў дадзенай кнізе, больш поўна раскрывае эвалюцыю светапогляду М. Гарэцкага, яго грамадзянскую пазіцыю, ролю і месца мастака ў беларускай літаратуры, літаратурнай навуцы, крытыцы і публіцыстыцы.

## ДЗВЕ ДУШЫ (с. 5)

Друкуецца па кнізе: Гарэцкі Максім. Дзве душы: Повесць.— Вільня, 1919, дзе ўпершыню твор апублікаваны цалкам. I—XIII раздзелы друкаваліся ў газ. «Беларуская думка», 1919, 20, 22, 25, 26, 27, 29 чэрв.; 3, 6, 9, 11, 13, 17, 19, 20, 22, 23, 24 ліп.

Датуецца 1918—1919 гг., згодна «Храналогіі маіх твораў».

У «Беларускай думцы» аповесць, відаць, мелася быць змешчанай поўнасцю. Аднак з 25 ліпеня 1919 г. публікацыя твора на старонках газеты спынілася. Першапачатковай прычынай гэтага з'явілася прапажа «кавалка рукапісу» аповесці, што звязана з вобыскам у рэдакцыі газеты. Аб дадзеным здарэнні «Беларуская думка», 1919, 27 ліпеня пісала: «... 25 ліпеня, вечарам, у памяшканні рэдакцыі «Беларускай думкі», калі не было нікога там з супрацоўнікаў, увайшоў нейкі паліцэйскі і цэлую гадзіну рабіў сам адзін обыск. Пастаронні людзі, бачыўшы гэту «работу» паліцэйскага, бачылі, што ён забіраў нейкія паперы з рэдакцыі. Паліцэйскі, забраўшы паперы, не спісаўшы пратаколу, выйшаў...» Пра тое, што частка тэксту аповесці «Дзве душы» была ўзята паліцэйскім пры вобыску, сведчыць рэдактарская зноска ў канцы XIV раздзела твора: «Кавалак рукапісу «Дзвюх душ», пачынаючы ад гэтага радка, узялі й не аддалі назад прадстаўнікі акупацыйнай улады, што рабілі рэвізію ў ліпені 1919 г. у рэдакцыі газеты «Беларуская думка», у якой повесць друкавалася».

Канчатковай перашкодай апублікавання працягу аповесці «Дзве душы» ў «Беларускай думцы» з'явілася закрыццё выдання газеты. Пасля 27 ліпеня яна больш не выходзіла.

У выніку аналітычнай зверкі надрукаваных раздзелаў твора ў газеце і ў асобным выданні выяўлены нешматлікія розначытанні моўна-стылёвага характару. Напрыклад:

С. $6^{5-6}$ замест: *...гуляла шляхецтва з усяго павету. // ...гуляла ўсё павятовае шляхецтва.*

С. $9^{2}$ замест: *парасяці // парасёнка*

$^{5}$ замест: *...сакавыя кускі. // ...сочныя кускі.*

$^{15}$ замест: *...меў ваўчыны апетыт... // ...меў сабачы апетыт...*

С. $15^{31-32}$ замест: *...што душа мае, тым і прымае. // ...чым багаты, тым і рады.*

С. $38^{43-44}$ замест: *...у начулішчы. // ...у начлежцы.*

С. $51^{43}$ замест: *Каб ногды... // Каб калі...*

Часткай XIX раздзела аповесці з'яўляецца па-мастацку апрацаваны М. Гарэцкім тэкст артыкула «Деревня», які быў апублікаваны ім 13 лістапада 1918 года ў газеце «Западная Коммуна». Падпісаны псеўданімам *Ваш Амстиславский.* У творы яму адпавядае наступны тэкст: с. 82—86. «Я ж яе люблю, але дзіўнаю любоўю ~ Пойдзем, браточкі, дамоў!»

У «Выпісах з беларускай літаратуры» (1923) змешчаны ўры-

вак з VIII раздзела аповесці. Урыўкі пад назвамі «На водах», «Дзве душы», «Сухавей», «Гаршчок», «Малання», «Іра», злучаныя паміж сабой кароткім пераказам зместу, надрукаваны ў «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры» (1927) І. Дварчаніна, якая прызначалася для старэйшых класаў беларускіх сярэдніх школ.

У хуткім часе пасля выхаду аповесці «Дзве душы» ў свет твор быў заўважаны і ацэнены крытыкай. Рэцэнзія З. Бядулі надрукавана ў газеце «Беларусь», 1920, 28, 30 мая ў раздзеле «Літаратура і жыццё».

На аснове аналізу раней напісаных апавяданняў і дадзенай аповесці рэцэнзент праўдзіва адзначае майстэрства пісьменніка, яго «самабытны стыль», «арыгінальны склад малявання чалавечай душы». У аповесці З. Бядуля падкрэслівае «метка зарысаваныя» аўтарам «штрыхі рэвалюцыі і беларускага адраджэння», «характэрна адмалёваную сялянскую псіхалогію» ў адносінах да тых складаных падзей, якія адбываюцца навокал. Рэцэнзент гаворыць, што «некалі гэта будзе цікавым гістарычным матэрыялам».

У разглядзе аповесці З. Бядуля непрыхільна ставіцца да злоўжывання М. Гарэцкім незразумелых слоў мсціслаўскага дыялекту, а таксама адзначае, што пісьменнік «не можа адарвацца ад свайго ўлюбёнага містыцызму, усадзіўшы яго і ў абрысы сучаснай рэвалюцыі». «Побач з гэтым,— піша далей З. Бядуля,— ён сыпець цэлыя страніцы чыста публіцыстычнага зместу. Тут, відаць, ён абдумана шукае новых формаў, не лічачыся з старымі законамі».

Завяршаецца разгляд аповесці наступным меркаваннем: «Бялінскі сказаў, што маляваць сучасную гістарычную эпоху вельмі цяжка, як цяжка маляваць выгляд лесу, стоячы ў ім. Трэба, каб мапачуцці і погляды сучасніка абстоіліся і выспелі, каб ён мог іх маляваць аб'ектыўна і спакойна [...] аўтар шмат болей выйграў бы, каб гэтую повесць сваю «Дзве душы» адлажыў пісаннем на пазнейшы час, не хапаючыся за гарачыя бліны.

Мы спадзяемся, што праз колькі гадоў аўтар прымецца, ужо не спяшаючыся, зноў за сучасную эпоху і напіша раман. У яго на гэта ёсць пэўныя задаткі».

*А. Л.* (Антон Луцкевіч) у рэцэнзіі на кнігу адзначае ўменне аўтара перадаць настрой чалавека, стварыць жыццёва праўдзівыя тыпы асобных герояў, па-мастацку намаляваць вёску і г. д. Аднак ён зазначае, што «псіхалагічны стан яго героя (Абдзіраловіча.— *Т. Г.)* не вынікае з «прышчэпкі» на чужы грунт і мае тысячу і адну прычыну зусім іншага характару». Застаецца не раскрытым, на думку рэцэнзента, і вобраз Васіля. Крытычную заўвагу М. Гарэцкаму робіць *А. Л.* і за празмернае ўжыванне дыялектызмаў.

Падводзячы вынік прааналізаванаму, рэцэнзент піша: «Повесць Гарэцкага, нягледзячы на яе недахваткі, цікавая і варта ўвагі. Цікавая галоўным чынам як адбіццё беларускага жыцця ў пачатку бальшавіцкага перавароту. Яна першы раз раскрывае багацце гэтага жыцця, раскрывае духоўнае хараство барцоў за беларускую нацыянальную ідэю, аб каторых шырэйшае грамадзянства йшчэ так страшэнна мала ведае і мо так жа мала іх цэніць... І вось за гэта аўтару яе належыцца шчырае дзякуй!» (Зб. «Наша ніва», 1920.)

У выніку працы па падрыхтоўцы аповесці «Дзве душы» да выдання высветлілася, што М. Гарэцкі меў намер істотна перапрацаваць твор. Пра гэта сведчыць запіс, зроблены аўтарам у «Плане мае творчасці», які датаваны 24 ліпенем 1928 г.:

«10. Дзве душы — Дзве душы + Дзве ідэі. Усебел. з'езд 1917 г. Незадача. Апостал. У 1920 г. + Ашуканец. (І працяг: «Вайна і рэвалюцыя», 1914—1928 г.) У панскай кухні».

Як бачна з плана да аповесці, многія яго пункты з'яўляюцца назвамі твораў аўтара. Цяжка сказаць, якім чынам пісьменнік меў намер спалучыць іх у аповесці, аднак, як вынікае са зместу твораў, яны паміж сабой аб'яднаны агульным матывам, агульнай ідэйнай сутнасцю.

Апавяданне «У панскай кухні» ўключана ў першы том Збору твораў пісьменніка (1984). Астатнія, якія ўдалося адшукаць («Усебеларускі з'езд 1917-га года», «Незадача», «Апостал», «У 1920 годзе»), прапануюцца ўвазе чытача ў гэтым выданні. Друкуецца таксама апавяданне «Фантазія», хоць назва яго ў «Плане...» да аповесці «Дзве душы» аўтарам выкраслена.

С. 22. *Бештáў* — ізаляваная пяцігаловая гара вулканічнага паходжання паблізу горада Пяцігорска на Паўночным Каўказе. Вышыня 1400 метраў.

С. 63. *«Добрай ночы, зара-зараніца!»* (1911).

С. 64. *Вясновая ліра, чароўная ліра ~*
*І плакалі людзі ад жалю...* — Радкі з верша З. Бядулі «М. Багдановічу» (1918).

С. 70. Эпіграф да XVII раздзела — радкі з верша К. Буйло «Не магу...» (1914).

С. 72. *А йдзі, коце, у лясок,*
*Прынясі ты Ірцы паясок...*

*Сядзела котачка на кухні,*
*У яе вочачкі папухлі...* — Беларускія народныя калыханкі-забаўлянкі для дзяцей, варыянты якіх можна знайсці ў зборніку: Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні: З мелодыямі.— Мн.: Выданне Інстытута беларускай культуры, 1928 (дадзены ў кнізе матэрыял запісаны М. Гарэцкім ад сваёй маці).

С. 74. *Я каханне маё пахаваю ў душы,*
*Спакой сфінкса на твар налажу,*
*І хоць сэрца ад болю сканае ў грудзях,*
*Я нічога табе не скажу....* — Радкі з верша К. Буйло «Не хачу я нічога казаці табе...» (1912).

С. 80. *Я надоечы нават слоўнік, маскоўска-беларускі купіў.* — Маецца на ўвазе «Руска-беларускі слоўнік», які склаў Максім Гарэцкі разам са сваім братам Гаўрылам Гарэцкім. Слоўнік выдадзены ў 1918 г. у Смаленску.

С. 97. *«Адвеку мы спалі»* — песня, аўтар слоў і музыкі якой невядомы. Яна была гімнам беларускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў.

*Аджа* — аднак жа, вот жа.

*Адылí* — а пасля, а далей; аднак.

*Азяліцца* — выйсці з нармальнага стану, як бы ап'янець (ад зелля).

*Архімандрыт* — вышэйшае духоўнае званне для манахаў, тытул ігумена, а таксама асоба, якая носіць гэта званне.

*Бáнька* — вялікае металічнае кальцо (у дзвярах ці сцяне); шпора.

*Бо́лачка* — воблачка.

*Высакасэ́рдасць* — высакамернасць, ганарыстасць, пагарда.

*Вя́тка* — натоўп, гурт.

*Гамава́ць* — стрымліваць, сунімаць, супакойваць.

*Дрыжо́ны* — ненаглядны, дарагі, любы, мілы.

*Дэмарка́цыя* — устанаўленне і абазначэнне на мясцовасці граніцы паміж сумежнымі дзяржавамі на аснове заключаных пагадненняў.

*Камлы́га* — ком, глыба зямлі.

*Клі́рас* — месца для пеўчых у царкве.

*Кастама́ры* — шырококасцявы, шырокі ў касцях.

*Лаво́ка* — дзеравяная пасудзіна, выдаўбленая часцей за ўсё з ліпавага абрубка. Служыць для захавання мёду, ссыпання мукі.

*Ла́йба* — вялікая лодка, барка.

*Ляшы́ць* — адзначаць пры насеве следам нагі ці пучком саломы, дзе лягло зерне; пакідаць ляху, след.

*Маргé́лка* — невялікая лёгкая мужчынская шапка з лямцу (воўны).

*Насну́дзіць* — настроіць, наладзіць.

*На́ўда* — гаворыцца з насмешкай у сэнсе «не вялікая важнасць», не важная асоба.

*Няўпры́цям* — непрыметна.

*Панагі́я* — нагрудны знак праваслаўных епіскапаў у выглядзе невялікай упрыгожанай іконы на ланцужку.

*Паслу́шнік* — чалавек, які жыве ў манастыры і рыхтуецца стаць манахам; прыслужнік у манастыры.

*Пра́жыць* — пячы на скавародзе.

*Ру́пата* — клопат, турбота.

## ЛІРНЫЯ СПЕВЫ (с. 108)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Гарэцкі Максім. Рунь.— Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1914.

Датуецца годам апублікавання. У «Храналогіі маіх твораў» назва апавядання зарэгістравана таксама пад паметай 1914 г.

«Лірныя спевы» пералічаны аўтарам сярод «дробных рэчаў» у «Плане мае творчасці», дзе, у прыватнасці, напісана: «Лірныя спевы. Старац (канец «Лірн. спев.» — асобна)».

Пад назвай «Старое замчышча» ўрывак з апавядання змешчаны ў кнізе «Родны край» (1921, 1927), укладальнікам якой была Л. Гарэцкая.

## У 1920 ГОДЗЕ (с. 113)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускія ведамасці, 1921, 14 верас. Апавяданне змешчана таксама ў зборніку «Беларускія ведамасці», 1921, № 1.

Дата пад тэкстам твора, а таксама ў «Храналогіі маіх твораў» супадае: 27.VIII.1921 г.

*Ханджа́* — тэхнічны спірт.

*Драчо́на* — тоўстая ляпёшка з салам.

*«Тарас на Парнасе»* — ананімная сатырычна-гумарыстычная паэма, помнік беларускай літаратуры 19 стагоддзя.

## ФАНТАЗІЯ (с. 118)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускія ведамасці, 1921, 24 кастр., дзе памета аб аўтарстве адсутнічае. Апавяданне змешчана таксама ў зборніку «Беларускія ведамасці», 1921, № 3.

Датуецца годам апублікавання.

У архіве пісьменніка (ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 23) захоўваецца выразка з тэкстам першадруку, якая расклеена на трох лістах паперы.

Назва твора зарэгістравана аўтарам у «Спісе маіх твораў» пад нумарам 46, у «Храналогіі маіх твораў» пад паметай 1921 г. і парадкавым нумарам — 8. Пералічана апавяданне і ў спісе «дробных рэчаў» «Плана мае творчасці».

С. 119. *...ляжаў пры смерці хворы з галадухі Янка Купала.*— У канцы ліпеня — пачатку верасня 1918 г. Я. Купала хварэў на дызентэрыю.

*...бяры ты сваю «Дудку» й «Смык»...*— Гаворка ідзе пра зборнікі вершаў Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» (1891) і «Смык беларускі» (1894).

С. 120. *Каб ты так іграла,*
*Каб немарасць брала!..*— Радкі з верша Ф. Багушэвіча «Мая дудка» (1891).

*...дарабіла ж «Скрыпку» Цётка.*— Маецца на ўвазе зборнік вершаў Цёткі «Скрыпка беларуская» (1906).

*Можа, хто з дзетак скруце жалейку,*
*Унучку паломанай ліры.*
*І так заіграе, што ўсенька зямелька*
*Пачуе мой одгалас шчыры...*— Радкі з верша Цёткі «Грайка» (1909).

## АПОСТАЛ (с. 121)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускія ведамасці, 1921, 25 снеж.

Дата пад тэкстам твора і ў «Храналогіі маіх твораў» супадае: 1921 г. (На лісце паперы без загалоўка, на якім пералік твораў зроблены простым алоўкам па прынцыпе «Храналогіі...», назва апавядання памылкова пазначана пад 1920 г.)

## [НЕЗАДАЧА] (с. 125)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускі звон, 1922, 18 сак. з улікам правак аўтара, зробленых простым алоўкам на выразцы з газеты. Выразка з тэкстам першадруку расклеена на пяці машынапісных лістах паперы, захоўваецца ў архіве пісьменніка: ЦНБ АН БССР, ф. 7., воп. 1, адз. зах. 26.

Датуецца 1921 г., згодна «Храналогіі маіх твораў». (На лісце паперы без загалоўка, на якім пералік твораў зроблены простым алоўкам па прынцыпе «Храналогіі...», назва апавядання памылкова пазначана пад 1920 г.)

Першапачатковая назва твора — «Незадача» — і падзагаловак пад ёй — «Быль» — у выніку аўтарскай праўкі закрэслены, тэкст

апавядання падзелены на дзве часткі, што дае падставу меркаваць аб намеры аўтара зрабіць дадзены тэкст часткай іншага твора. Скарочаны М. Гарэцкім кавалак тэксту, дапісаныя паасобныя сказы, а таксама праўкі моўна-стылёвага характару надаюць твору больш выразнае ідэйна-сэнсавае гучанне, паляпшаюць моўную структуру апавядання.

Напрыклад: С. 125[6–7] *...каб разам з тым даведацца, як ідзе рэвалюцыя ў вёсцы.*— У першадруку адсутнічае.

[13] замест: *дзяўчаты* // *дзеўкі*

[17] замест: *праз* // *скрозь*

[21] замест: *затрымаць* // *задзержыць*

[36] замест: *былы* // *быўшы*

[39–40] *...і ціханька прашаптаў: «Хай жыве рабоча-сялянская рэвалюцыя!»* — У першадруку адсутнічае.

С. 126[27] замест: *...ён, камісар рабоча-сялянскай рэвалюцыі.* // *...ён, камісар паўстаўшага пралетарыяту.*

Па ўсім тэксце публікацыі аўтарам зроблены граматычныя праўкі тыпу: *едзець* // *едзе, будзець* — *будзе, выцягіваць* — *выцягваць.* Пасля слоў: *...на чале з ім, Батрачонкавым.* (С. 127) зняты наступны тэкст: «Што мае супольнага з яго роднай пустыняй уся тая куламеса людзей, сярод якой цяпер ён, дзіця палеу і лясоў, дзівам замяшаўся?

І сярод той шумнай абстаноўкі ён у тайнасці свае душы быў дужа самотны.

Стараўся быць сумленным камуністам і дзеля таго так войстра адчуваў сваю самоту сярод сваіх таварышаў па рабоце. Іх — цэлая туча, розных сяброў калегіі, агентаў, падагентаў, служачых. Усе яны — партыйныя ці спачуваючыя, што быццам напісана ў кожнага на лобе, па грубаватай смеласці можна пазнаць. Але ніводнага добрага чалавека не чула камісарава сэрца, і ніводнага сапраўднага камуніста не знаходзіў ён.

Прыязнасць меў там толькі да ахраны, да салдатаў, бо яны былі дзеці адной з ім пустыні, сяляне, апранутыя па-салдацку, а ў тайнасцях сваіх мужыцкіх душаў не любіўшых тое самае, што не любіў і ён. Гэтая рэч адчувалася ім, а таксама імі — падсвядома і давала яму, здальнейшаму сярод іх, папулярнасць і галасы пры выбарах.

Змалку дзён не любіў не толькі паноў, але ўсіх апранутых «па-панску», значыцца, у гарадскую вопратку, усіх «у чорным».

І толькі тое, што пераняўся ідэямі камунізма і сам апрануўся ў матроскую куртку, толькі тое не давала ходу яго знялюбеласці да «чорнай» куламесы, сярод якой праз вайну і рэвалюцыю дзівам замяшаўся і працаваў.

Толькі ж чаго шукаў цяпер у жыхароў пустыні,— не знайшоў...»

*...Ля́да* — расцярэбленае месца ў лесе, падрыхтаванае для раллі.

## УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД 1917-га ГОДА (с. 128)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускі звон, 1922, 1 верас.; падпісана крыптанімам *Я. С.*

Датуецца годам апублікавання.

У «Храналогіі маіх твораў» скарочаная назва апавядання

(*«Усеб. з'езд»)* зарэгістравана пад 1922 г. 6-м нумарам. Такі ж запіс зроблены ў «Спісе маіх твораў» пад нумарам 70. «Усебеларускі з'езд 1917-га года» пазначаны аўтарам як адзін з пунктаў плана да аповесці «Дзве душы» (гл. каментарыі, с. 527—528).

Усебеларускі з'езд адбыўся 15—17 (28—30) снежня 1917 г. у Мінску.

## ЖАРТАЎЛІВЫ ПІСАРЭВІЧ (с. 133)

Друкуецца па кнізе: Гарэцкі Максім. Жартаўлівы Пісарэвіч: Сцэнкі і размовы.— Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1928.

Упершыню — Полымя, 1925, № 8.

«Шматок драмы» пад назвай «Жарты пана Пісарэвіча» апублікаваны ў газ. «Наша будучыня», 1922, 8 снеж. Падпісаны псеўданімам *А. Мсціслаўскі.*

На лісце паперы без загалоўка, на якім пералік твораў зроблены простым алоўкам па прынцыпе «Храналогіі...», М. Гарэцкім пад 1922 г. напісана: *«Жартаўлівы Пісарэвіч» (пачаткі).* Назва твора ёсць і пад 1927 г.

Тэкст урыўка з некаторымі розначытаннямі адпавядае другой дзеі твора. Заканчваецца сказам, які гаворыць жонка: «Дамоў, дамоў...» Газетная публікацыя пададзена ў 5 явах. Дзейнымі асобамі з'яўляюцца Пісарэвіч, жонка яго і гаспадыня № 13 — Мар'я Іванаўна.

Нязначныя моўна-стылёвыя і кампазіцыйныя адрозненні ёсць паміж часопіснай публікацыяй твора і яго асноўным тэкстам.

Г. М. Гарэцкая ва ўспамінах піша: «Бацька,— знаю ад маці,— вельмі любіў гэты твор. Ёсць у Пісарэвіча і яго рысы: вялікае разуменне людзей, дабрата, цярплівасць, здольнасць жартаваць нават у сумныя, цяжкія хвіліны жыцця» [1].

*Масля́нка* — масленіца, старажытнае свята сустрэчы вясны ў славян.

## [М. ГОРКІ, МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕРНЯ. У ГЭТЫМ ГАДУ...] (с. 160)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1912, 13 (26) верас. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы. (Ад нашых карэспандэнтаў)». Падпісана псеўданімам *Беларус.*

Датуецца годам апублікавання.

## [Г. ГОРКІ, МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕРНЯ. У ПЕРШЫ ДЗЕНЬ КАСТРЫЧНІКА...] (с. 160)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1912, 2 (15) лістап. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літ-

---

[1] Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы.— Мн.: Маст. літ., 1984. С. 31.

вы. (Ад уласных карэспандэнтаў)». Падпісана псеўдонімам *Беларус.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 161. *...калісь тут быў інстытут, а цяпер тры сярэдніх вучылішчы...*— Маецца на ўвазе Горы-Горацкі земляробчы інстытут (1848; першая ў Расіі вышэйшая аграпамічная ўстанова), які за ўдзел студэнтаў у паўстанні 1863—1864 гг. быў зачынены і пераведзены ў Пецярбург. У Горках засталіся земляробчая школа (вучылішча), каморніцка-таксатарскія класы (з 1909 г.— каморніцка-агранамічнае вучылішча) і сельскагаспадарча-рамеснае вучылішча. Інстытут быў узноўлены 7 красавіка 1919 г. (з 1925 г.— Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія).

С. 162. *11 кастрычніка ў тутэйшых вучылішчах святкавалі сталетні юбілей таго часу, як французаў прагналі з Масквы.*— Адступленне напалеонаўскай арміі з Масквы пачалося вечарам 6 кастрычніка 1812 г. 10 кастрычніка перадавыя атрады рускіх войск уступілі ў вызваленую Маскву.

## [ШАМОЎСКАЯ ВОЛАСЦЬ, МСЦІСЛАЎСКІ ПАВЕТ МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ. У ВЁСЦЫ КРУТОЙ...]
(с. 162)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 10 студз. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы».

Падпісана псеўданімам *М. Беларус.*

У Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе захоўваецца аўтограф карэспандэнцыі (ф. 21, спр. 150, л. 7—8), пад тэкстам якога дата: 4/I—13 г.

Дадзены рукапісны тэкст занатаваны аўтарам у сшытку, на вокладцы якога напісана: «Максім Гарэцкі. Рукапіс апавядання «У лазні» і карэспандэнцыі да «Нашае нівы». 1913 г.». Пад тэкстам усяго рукапіснага матэрыялу змешчаны наступныя звесткі: «Крэсцьянін вёскі Малае Багацькаўкі Шамоўскае воласці Мсціслаўск.[ага] пав.[ета] Маг.[ілёўскай] губ[ерні]. Макс.[ім] Іван.[авіч] Гарэцкі. Адрас: Горкі Маг.[ілёўскай] губ.[ерні], каморніцка-агранаміцкае вучылішча. М. И. Горецкому».

Газетны тэкст карэспандэнцыі ад рукапіснага адрозніваецца адзінкавымі выпадкамі стылёвых разыходжанняў. Напрыклад: *даюць лекі — даюць рады, абараніцельных прышчэпках — забараніцельных прывіўках.*

*...аб адкрыццях Пастэра...*— Гаворка ідзе аб распрацаваным метадзе засцерагальных прышчэпак супраць узбуджальнікаў шаленства і іншых заразных хвароб французскім біёлагам і хімікам, заснавальнікам мікрабіялогіі і імуналогіі Луі Пастэрам.

## «НАШЫ» (с. 163)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 1 лют. Змешчаны пад рубрыкай «Наш фельетон». Падпісаны псеўданімам *Максім Беларус.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 163. *«Як быкі, стаяць літэры».*— Радок з верша Я. Купалы «Змачу пёрка...» (упершыню апублікаваны ў зборніку «Жалейка», 1908). У Я. Купалы:

*Змачу пёрка ў атрамэнту*
*Ды як чыркну па паперы,—*
*Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—*
*Як быкі, стаяць літэры!*

*...бядулеўскае «Будуйце, браты, будуйце!»* — Артыкул Змітрака Бядулі, змешчаны ў газеце «Наша ніва», 1912, 16 (29) жн., за подпісам *З. Б.*

*Г. дума* — Дзяржаўная дума, прадстаўнічая заканадаўчая, але абмежаваная ў правах установа Расіі ў 1906—1917 гг., створаная царскім урадам паводле маніфеста 17 кастрычніка 1905 г. пад націскам рэвалюцыі 1905—1907 гг.

С. 164. *Пан Лукашэвіч (хто хоча, няхай чытае Солон, ці як інакш)...*— Гаворка ідзе, відаць, пра Л. Саланевіча, царскага чыноўніка, беспрынцыпнага журналіста-чарнасоценца. Крытычны артыкул А. Панкратава аб дзейнасці Л. Саланевіча ў перакладзе на беларускую мову змешчаны ў газеце «Наша ніва», 1912, 30 жніўня пад загалоўкам «Пан Солоневіч».

## БУДЗЁННЫЯ З'ЯВЫ (с. 164)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 7 лют. Змешчана пад рубрыкай «Наш фельетон». Падпісана псеўданімам *Максім Беларус.*

Датуецца годам апублікавання.

*Празўкаваты* — пранырлівы, дасціпны.

## НЕ ГЛЯДЗЕЛІ Б ВОЧЫ... (с. 165)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 7 лют. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Падпісана крыптанімам *М. Б.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 165. *У вёсцы М. Б-цы...*— Гаворка ідзе аб Малой Багацькаўцы, вёсцы на Магілёўшчыне, дзе нарадзіўся М. Гарэцкі.

*Ханджа́* — гл. каментарыі, с. 529.

С. 166. *...пайшла б без пары на гай...*— Маюцца на ўвазе могілкі.

Тагачаснае месца захавання каля Малой Багацькаўкі называлі гаем. Яно апісана М. Гарэцкім ва ўрыўку «На гаі» («Вольная Беларусь», 1918, 17 сакавіка), які пазней стаў раздзелам аповесці «Меланхолія» пад назвай «На могілках». (Гл. Зб. тв. У 4-х т. Т. 2. С. 104—114.)

## ВЕСТКІ З ГОРАК (с. 166)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 23 мая. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Карэспандэнцыя з'яўляецца першым друкава-

ным тэкстам аўтара, які падпісаны сапраўдным прозвішчам — *Гарэцкі.*

Датуецца годам апублікавання.

*Вялікдзень* — вясенняе царкоўна-хрысціянскае свята ўваскрэсення міфічнага Ісуса Хрыста.

*Святцы* (святкі) — святочныя дні ад каляд да вадохрышчаў (царкоўна-хрысціянскіх свят, якія адзначаліся з 25 снежня (7 студзеня) да 6 (19) студзеня).

## КРАІНА ДОБРЫХ АБЫЧАЯЎ (с. 167)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 23 мая. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Падпісана крыптанімам *М. Б.*

Датуецца годам апублікавання.

*Слаўнава* — вёска каля Малой Багацькаўкі, дзе нарадзілася Ефрасіння Міхайлаўна Гарэцкая, маці пісьменніка.

## НАВІНЫ З ГОРАК МАГІЛ.[ЁЎСКАЙ] ГУБ.[ЕРНІ] (с. 167)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 5 ліп. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Падпісана псеўданімам *Беларус.*

У Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе захоўваецца аўтограф карэспандэнцыі (ф. 21, спр. 149, л. 4), пад тэкстам якога запіс: «М. И. Горецкий. Горецкое з.[емлемерно]-агрон.[омическое] училище Мог.[илевской] губ[ернии]. 22 /июнь 1913 г.».

Газетная публікацыя адрозніваецца ад рукапісу скарочаным тэкстам і нязначнымі стылёвымі разыходжаннямі.

## МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН. ТОЕ-СЁЕ (с. 168)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе, ф. 21, спр. 149, л. 4.

Тэкст публікуецца ўпершыню. Падпісаны крыптанімам *М. Б-с.*

Датуецца 1913 г., згодна запісу, зробленаму пад аўтографам карэспандэнцыі «Навіны з Горак Магіл.[ёўскай] губ.[ерні]» (гл. каментарыі, вышэй). Абодва рукапісныя тэксты занатаваны на адваротных старонках аднаго і таго ж ліста паперы. Аб самым нязначным прамежку часу паміж напісаннем нататак сведчыць аднолькавы колер чарніла і каліграфія пісьма.

С. 169. *...наставілі карміць сваёй грудзёю шчанят...* — Разгорнуты сюжэт здарэння створаны аўтарам у апавяданні «Панская сучка» (1918) (гл. Зб. тв. У 4-х т. Т. 1. С. 221).

Верш М. А. Някрасава «Железная дорога» напісаны ў 1864 г.

*Хадзіць бывае слізка*
*Па іншым камяньках.* — Адвольна працытаваныя радкі з вершаванай палітычнай сатыры А. К. Талстога (1817—1875) (рус-

кі пісьменнік) «История государства Российского от Гостомысла до Тимашева» (1868). У А. Талстога:

*Ходить бывает склизко*
*По камешкам иным.*
*Итак, о том, что близко,*
*Мы лучше умолчим.*

## АДЗІНАЦЦАТУХА (с. 169)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 26 ліп. Змешчана пад агульнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Падпісана крыптанімам *М. Б.*

Датуецца годам апублікавання.

*Адзінаццатуха* — рэлігійнае свята, якое адзначалася ў адзінаццатую пятніцу пасля вялікадня (гл. каментарыі, с. 535).

## ЖЫВАЯ НЯБОЖЧЫЦА (с. 170)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 26 ліп. Змешчана пад агульнай рубрыкай: «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Падпісана псеўданімам *Максім Беларус.*

Датуецца годам апублікавання.

## МОДНЫЯ АБЫЧАІ (с. 170)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша ніва, 1913, 26 ліп. Змешчана пад агульнай рубрыкай: «З Беларусі і Літвы» ў раздзеле «Магілёў». Падпісана псеўданімам *Максім Беларус.*

Датуецца годам апублікавання.

## НАШ ТЭАТР (с. 171)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Калядная пісанка: 1913 год.— Вільня: Друкарня М. Кухты, 1913. (Тэкст артыкула з нязначнымі і нешматлікімі разначытаннямі перадрукаваны ў газ. «Гоман», 1916, 27, 31 кастр., 3, 7 лістап.)

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны, відаць, у сувязі з палемікай аб шляхах развіцця беларускай літаратуры, якая вялася на старонках «Нашай нівы» ў 1913 г.

С. 171. *Блажэньні алчушчые і жаждушчые праўды, яко ціі насыцяцца...*— Выраз, выкарыстаны з Евангелля: *«Блаженны алчущие и жаждущие правды, ибо они насытятся»*. Ужыты ў пераносным сэнсе: вялікім жаданні стварэння высокамастацкіх драматычных твораў пра жыццё беларускага народа, якія б садзейнічалі развіццю нацыянальнага тэатра, са сцэны якога можна «гукнуць» беларуса «да новага жыцця», абудзіць яго свядомасць.

*...гл. Ляцкі, Насовіч, Раманаў...*— Маюцца на ўвазе працы, у якіх выдадзены беларускія прыказкі і прымаўкі, сабраныя Я. А. Ляцкім («Материалы для изучения творчества и быта белорусов: Пословицы, поговорки, загадки», т. 1 (1898); І. І. Насовічам

(«Зборнік беларускіх прыказак» (1867); Е. Р. Раманавым («Беларускі зборнік», выпуск 1—9 (1886—1912).

С. 172. *Вярцёп* (вяртэ́п) — адзін з тыпаў беларускага народнага лялечнага тэатра батлейка, вядомага з 16 стагоддзя.

*...як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах.*— Падразумяваецца біблейскае паданне, згодна якому непрыступныя сцены горада Іерыхона (адзін з самых старажытных гарадоў у Палесціне, зараз тэрыторыя Іарданіі) рухнулі ў канцы другога тысячагоддзя да нашай эры ад гукаў труб заваёўнікаў.

С. 174. *...па якому «шляху жыцця пайсці...»*— Узятыя ў двукоссе словы належаць Я. Купалу. Выкарыстаны М. Гарэцкім, магчыма, паводле назвы зборніка «Шляхам жыцця» (1913).

*...тэатр — дамаская сталь, вострая з абодвух бакоў.*— М. Гарэцкі параўноўвае тэатр са зброяй, якая выраблялася з самага высокага гатунку ўзорыстай сталі (месца вытворчасці — сталіца Сірыі Дамаск), маючы пры гэтым на ўвазе не толькі прызначэнне тэатра, але і яго дзейнасць.

*Ваа́л (Баал)* — назва аднаго з старажытнаўсходніх багоў, культ якога быў шырока распаўсюджаны ў Фінікіі, Палесціне, Сірыі і ў II—I тысячагоддзях да нашай эры пашырыўся далёка на Захад (у Егіпет, Іспанію і інш.). Прызнаваўся як бог урадлівасці, вод, вайны, грому і г. д.

*Аста́рта* — грэчаская назва галоўнай фінікійскай багіні Аштарт, якая лічылася багіняй зямной урадлівасці, мацярынства і кахання, а таксама астральным бажаством.

*...а не бруднай стайняй Аўгія...*— Маецца на ўвазе старажытнагрэчаскі міф пра стайні цара Аўгія, што не чысціліся 30 год і былі вычышчаны Гераклам (героем грэчаскай міфалогіі) за адзін дзень: ён пусціў у іх воды рэк Алфея і Пенея.

*...злога бога Арыма́на...*— Грэчаская назва старажытна-іранскага бажаства А́нхра-Ма́йнью, тварца ўсяго злога, варожага, страшнага (смерці, хваробы, засухі і г. д.).

*«Мастацтва для мастацтва»* — «Мастацтва дзеля мастацтва», «чыстае мастацтва», агульная назва літаратурна-мастацкіх плыней і эстэтычных канцэпцый, якія грунтуюцца на сцвярджэнні самакаштоўнасці мастацкай творчасці і яе незалежнасці ад палітыкі, сацыяльных функцый, выхаваўчых і асветніцкіх задач грамадства.

С. 175. *...паслухайце мову «Кобзаря»...*— Маецца на ўвазе мова твораў, напісаных Т. Р. Шаўчэнкам, якія склалі яго паэтычны зборнік «Кабзар» (1840).

*...багаты славесны скарб, што сабралі дагэтуль на нашай ніве шаноўныя за гэткую працу дабрадзеі: Насовіч, Шэйн, Раманаў, Карскі...*— Маюцца на ўвазе працы па этнаграфіі, фальклору, мове, культуры, быту Беларусі, якія былі выдадзены І. І. Насовічам, напрыклад: «Слоўнік беларускай мовы» (1870), зборнік «Беларускія песні» (1873); П. В. Шэйнам — «Беларускія народныя песні» (1874), «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», т. 1—3 (1887—1902); Е. Р. Раманавым (гл. вышэй); Я. Ф. Карскім — «Беларускія песні в. Навасёлкі-Затрокскія Віленскай губерні Трокскага павета». (1889), «Беларусы», т. 1 (1903).

С. 176. *...у мове штукаркі М. ~ (словы Пронькі, «Хам»).*— Гаворка ідзе аб спектаклі «Хам» паводле аднайменнай аповесці польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі (1841—1910), прэм'ера якога адбылася

21 лістапада 1911 г. Пастаўлены спектакль Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні па інсцэніроўцы А. Бурбіса. Ролю Пронкі выконвала Ф. Мурашка.

С. 177. *Валато́ўка* — курган, у якім, паводле народных уяўленняў, пахаваны легендарныя асілкі-волаты.

*«Чачо́тачка»* — беларуская народная песня, якая пачынаецца словамі:

*Спарадзіла чачотачка семера дачок,*
*Спарадзіла невялічка семера малых...*

*...«А хто там ідзе?» ~ в труднай музыкай...* — Маецца на ўвазе верш Я. Купалы «А хто там ідзе?» (1905—1907), музыку да якога ў 1910 г. напісаў польскі кампазітар і дырыжор Л. М. Рагоўскі (1881—1954).

## РАЗВАГІ І ДУМКІ (с. 179)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Велікодная пісанка: 1914 год.— Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1914.

Датуецца годам апублікавання.

С. 179. *Пса́льма* — свецкая бытавая харавая песня-гімн 16—19 стагоддзяў на рэлігійную тэматыку.

С. 180. *«Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю».*— Афарызм, які любіў паўтараць грэчаскі філосаф Сакрат (470(469) — 399 да н. э.).

С. 184. *...«сярод лядоў, сярод жуды»...*— Магчыма, адвольна працытаваныя радкі верша А. Гаруна «Навакол» (1912). У А. Гаруна:

*Снягі, ляды,*
*абраз жуды*
*на заўсягды*
*на вечны час*
*ляглі.*

*...і ты, дзядзька Янка, і ты, дзядзька Якуб, і вы, усе другія «парнаснікі» нашы...*— «Парнаснікамі»» назваў Янку Купалу, Якуба Коласа і некаторых іншых пісьменнікаў Ю. Верашчака (В. Ластоўскі) у артыкуле «Сплачывайце доўг» («Наша ніва», 1913, 5 ліп.).

С. 186. *...«мазепінства» ўкраінцаў...*— Прыхільнасць украінцаў да ідэй С. І. Мазепы (1644—1709), гетмана Левабярэжнай Украіны (1687—1708), які прыкладаў усе намаганні, каб адарваць Украіну ад Расіі.

С. 187. *Сінедрые́н* — Савет старэйшын, вышэйшая дзяржаўная ўстанова з палітычнымі і судовымі функцыямі ў Старажытнай Іудзеі.

С. 188. *...вучоны акадэмік Северін, так няясна сабе выяўляў істоту Беларусі і беларусаў, што ў сваіх дарожных пісульках (каторыя ён пісаў, ездзячы па нашаму краю)...*— Маецца на ўвазе Севяргін Васіль Міхайлавіч, рускі мінералог і хімік, які пасля паездак у 1802 і 1803 гг. у беларускія губерні даў іх прыродазнаўчае і этнаграфічнае апісанне ў «Запісках падарожжа па заходніх правінцыях Расійскай дзяржавы...» (1803) і «Прадаўжэнні запісак...» (1804).

*...вучыцца гісторыі «не па Ілавайскаму»...*— Гаворка ідзе аб падручніках па ўсеагульнай і расійскай гісторыі для сярэдняй

школы, аўтарам якіх быў гісторык дваранска-манархічнага кірунку Дз. І. Ілавайскі.

*...Бялінскі не вірнуў глыбей у жыццё ў справе адраджэння ўкраінскай літаратуры...*— М. Гарэцкі, відаць, мае на ўвазе памылковую ацэнку В. Р. Бялінскім творчасці Т. Р. Шаўчэнкі, у прыватнасці, яго паэмы «Гайдамакі» (1841).

*...далей пераліцованых Энеід яна не можа пайсці...*— Маецца на ўвазе парадыйная паэма ўкраінскага пісьменніка Катляэрэўскага Івана Пятровіча (1769—1838) «Энеіда» (1794—1809), якая напісана на сюжэтнай аснове аднайменнай паэмы рымскага паэта Вергілія (70—19 гг. да н. э.). І. Катляэрэўскі рэалістычна, з элементамі сацыяльнай сатыры паказаў жыццё і побыт розных грамадскіх слаёў украінскага народа другой паловы 18-га стагоддзя.

С. 190. *...каб нёс ужо ён з рынку не «мілорда глупага»...*— Адвольна пераказаныя радкі з паэмы М. А. Някрасава «Кому на Руси жить хорошо» (1865—1876) (частка I, раздзел II). У Някрасава:

*Когда мужик не Блюхера*
*И не милорда глупого —*
*Белинского и Гоголя*
*С базара понесет?*

*...мачульнае выданне...*— Выданне на паперы нізкай якасці.

С. 191. *Гэта не ёсць езуіцтва, бо хаця тут «цель оправдывает средства», аднак...*— Езуіты (члены найбольш рэакцыйнага манашскага каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса», які стварыў у 1534 г. іспанскі дваранін Ігнацій Лаёла) у сваёй дзейнасці кіраваліся прынцыпам «мэта апраўдвае сродкі».

С. 192. *...«сярод маны, сярод насмешкаў»...*— Радок з верша Я. Купалы «Прарок» (1912).

С. 193. *«Шляхам жыцця»* (1913).

С. 196. *«Языкъ свой наложила она ~ и пѣснопѣніе церкви». «...пѣснею и стихомъ ~ народной...»* — Цытаты, выкарыстаныя з уступнага раздзела кнігі П. Бяссонава «Белорусские песни» (1871).

## ДОКТАР ФРАНЦЫСК СКАРЫНА (с. 199)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Вольная Беларусь, 1917, 8 жн.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны да 400-годдзя беларускага друку, пачатак якому паклаў Ф. Скарына, выдаўшы на старaславянскай мове 6 жніўня 1517 г. у Празе «Псалтыр». Асобныя незразумелыя словы кнігі тлумачыліся на палях зразумелымі беларускімі словамі.

С. 199. *Люди где зродилися и ускормлены суць па бозе, к тому месту вяликую ласку имают.*— Радкі, узятыя з прадмовы Ф. Скарыны да адной з кніг Біблii — «Юдзіф», выдадзенай ім у Празе ў 1519 г. У Скарыны:[1] *«...люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».*

*...як зваліся яго бацькі...*— Бацьку Ф. Скарыны звалі Лука (Лукаш, Лукіян). Ён быў небагатым полацкім купцом. Імя маці невядома.

---

[1] Тут і ў далейшым спасылкі даюцца па выданні: Скарына Францыск. Прадмовы і пасляслоўі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1969.

*...па акту ўжо шаснаццатага веку завецца ён яшчэ і Георгій Скарына...*— Маецца на ўвазе прывілейная грамата на лацінскай мове польскага караля Жыгімонта I ад 25 лістапада 1532 г. (гл. таксама ніжэй), дзе перад імем Franciscus замест прыметніка egregii, у значэнні выдатны, памылкова напісана слова georgii, што і паслужыла для многіх даследчыкаў падставай гаварыць пра падвойнае імя Скарыны. Гэты факт быў выкарыстапы і як довад праваслаўнага веравызнання Скарыны.

Неабходна адзначыць, што імя Скарыны ў многіх навуковых працах пра гуманіста ўжывалася ў розных формах: Францыск, Францішак, Георгій, Юрый. (Юрый было засвоена вусным шляхам у старажытнарускую эпоху ад грэчаскага паходжання імя Георгій.) У вядомых выданнях Скарыны імёны Георгій і Юрый не сустракаюцца.

*...князь Богуш быў па актах «во святом крещенію Евфімій».*— Відаць, маецца на ўвазе Богуш Ян Сестранец, які вызначыўся ў бітве з татарамі пад Клецкам (1507 г.), за што Жыгімонт і пацвердзіў яму тытул князя. Звесткі пра праваслаўнае імя Богуша — Евфімій — не выяўлены.

*...у нашым вялікім княстве да уніі...*— Відаць, маецца на ўвазе Брэсцкая царкоўная унія 1596 г., у выніку якой на Беларусі і Украіне была ўтворана уніяцкая царква, падпарадкаваная Рыму.

С. 200. *Родны дзядзька Францыска Іван...*— Іван — родны брат Францыска Скарыны.

*Сваімі выдатнымі здольнасцямі, добрым гадаваннем, выхаваннем і людскасцю звярнуў на сябе ўвагу віленскіх магнатаў, а яны і паслалі яго ў Кракаў да універсітэта...*— Гэтае меркаванне на сённяшні дзень застаецца гіпотэзай.

*Пачаў там вучыцца Скарына хіба в 1504—[150]5 года...*— Паводле запісу ў метрычнай кнізе Кракаўскага універсітэта, Ф. Скарына стаў студэнтам гэтай навучальнай установы з 1504 г.

*У ліку бакалаўраў філалагічнага факультэта Кракаўскага універсітэта...*— Факультэт, на якім займаўся Ф. Скарына ў Кракаўскім універсітэце, называўся факультэтам свабодных навук (інакш — філасофскім). Скончыў гэтую навучальную ўстанову Скарына з вучонай ступенню бакалаўра ў 1506 г. Бакалаўр — даўней у заходнееўрапейскіх і рускіх універсітэтах (зараз у Англіі) — першая вучоная ступень.

С. 201. *Лáйба* — вялікая лодка з ветразем.

*Валатбýка* — гл. каментарыі, с. 538.

*...тчэ, забыўшыся, рука,*
*Замест персідскага узора,*
*Цвяток радзімы васілька.*—

Радкі з верша «Слуцкія ткачыхі» (1912), які ўключаны ў зборнік «Вянок» (1913). У М. Багдановіча:

*І тчэ, забыўшыся, рука,*
*Заміж персідскага узора,*
*Цвяток радзімы васілька.*

С. 201—202. *...віленскія грашавітыя ды радавітыя людзі, што дбалі аб развіцці культуры на Русі-Літве і што памаглі некалі грашмі Скарыне.*— Маюцца на ўвазе багатыя віленскія гараджане Якуб Бабіч, Багдан Онькаў, магчыма, і іншыя, якія матэрыяльна і маральна дапамагалі Ф. Скарыне наладзіць справу кнігадрукаван-

ня. Пасля вяртання з Прагі ў Вільню (каля 1520 г.) у доме Якуба Бабіча Скарына заснаваў першую друкарню на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

С. 202. *...посполитаго добраго ~ паболей с тое причины, иже мя милостивы бог с таго языка на свет пустив...*— Радкі з прадмовы Скарыны да «Псалтыра». У Ф. Скарыны: *«...посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».*

*Аз... нарожаны ў руском языку,— гаворыць ён у прадмове да кнігі Данііла...*— М. Гарэцкі прыводзіць словы, выкарыстаныя з прадмовы Францыска Скарыны да кнігі «Данііла-прарока». У Ф. Скарыны: *«Аз теже, недостойный последовник их, нарожеый в руском языку...»*

*I тутака яму, праўда, некалі было ўдавацца ў крытыку матэрыялаў, поркацца па жыдоўскіх, грэцкіх, лацінскіх кнігах...*— Пры падрыхтоўцы да выдання кніг Ф. Скарына карыстаўся не толькі царкоўнаславянскімі тэкстамі, але і лацінскімі, чэшскімі, грэчаскімі, стараяўрэйскімі. Асвойваючы майстэрства кнігадрукавання, ён выкарыстоўваў вопыт заходнееўрапейскіх выдаўцоў і перакладчыкаў Біблії і адначасова ўносіў свой уклад у выдавецкую справу.

С. 203. *Детем малым — пачаток всякае добрае навукі...*— Цытата з прадмовы Францыска Скарыны да «Псалтыра». У Ф. Скарыны: *«...детем малым початок всякое доброе науки...»*

*...надрукаваў Скарына ў Празе: ~ 1519* [г.] — *10* [кніг]...— У 1519 г. у Празе Ф. Скарына надрукаваў 11 кніг.

*...всякаго тружанія и скарбов для посполитого добраго и для отчыны своея не лютовали.*— Радкі з прадмовы Францыска Скарыны да кнігі «Юдзіф».

*...у дому почцивого мужа Якуба Бабича, найстаршаго бурмистра славнаго и великаго места Виленского...*— Радкі, выкарыстаныя з пасляслоўя Ф. Скарыны да «Апостала». У Ф. Скарыны: *«...в дому почтивого мужа Якуба Бабича, наистаршего бурмистра славного и великого места Виленского».*

*У Вільні ён выдаў: Апостал і Малую падарожную кніжыцу.*— Ф. Скарына ў Вільні першапачаткова выдаў «Малую падарожную кніжку» (каля 1522) (назва ўдакладнена ў выніку даследаванняў жыцця і дзейнасці гуманіста), а пазней «Апостал» (1525).

*Анты́мінс* — пасвенчаны абрус, якім засцілаецца алтар.

*Трэ́ба* — рэлігійны абрад, які выконваецца святарамі па просьбе веруючых.

С. 203—204. *Але да часоў Скарыны яны не мелі друкаваных святых кніжак, нават малітваслоўаў...*— Славянскае кнігадрукаванне ўпершыню распачата ў Кракаве Швайпольтам Фіёлем у 1491 г.

С. 204. У склад «Малой падарожнай кніжкі», акрамя названых М. Гарэцкім частак, уваходзіў яшчэ «Саборнік».

*...ў 1532 г. выйшла нейкая ~ каралеўская грамата аб канфіскацыі маетнасці доктара Скарыны...*— У лютым 1532 г. Ф. Скарына за нявыплачаныя даўгі нябожчыка брата Івана быў беспадстаўна пасаджаны крэдыторамі ў пазнанскую турму, дзе прасядзеў больш чатырох месяцаў. Вызвалены ад турэмнага зняволення з дапамогай пляменніка Рамана 17 чэрвеня 1532 г. Версія аб канфіскацыі маёмасці Скарыны памылковая. Спецыяльнымі граматамі ад 21 і 25 лістапада 1532 г. кароль Жыгімонт I вызваляў

Ф. Скарыну ад нападаў і дамаганняў з боку розных крэдытораў, ад усіх павіннасцяў і ўлад, браў яго пад сваю апеку і абарону.

*...ахапіла яе маравое паветра.*— Эпідэмія чумы.

*У 1535 г. упамінаецца доктар Скарына ў судовай справе Івана Скарыны.*— Судовая справа была па спадчыне брата Івана паміж яго зяцямі.

С. 205. *Цюбінген* — горад у Германіі.

## БУДЕМ ЖИТЬ! (с. 206)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Известия Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов, 1918, 2 сак. Падпісаны псеўданімам *Дед Кузьма.*

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны пад уплывам складаных гістарычных падзей пачатку 1918 г., калі над маладой Савецкай рэспублікай навісла пагроза поўнай германскай акупацыі. Апублікаваны за дзень да падпісання Брэсцкага міру (гл. ніжэй).

С. 206. *Янычáры* — (ад тур. yeniceri — новае войска), у тэксце падразумяваюцца людзі, якія праяўляюць бязлітаснасць, жорсткасць пры абароне інтарэсаў буржуазіі.

С. 207. *Шайки тевтонских грабителей...*— Маюцца на ўвазе нямецкія захопнікі, носьбіты агрэсіўнай палітыкі Тэўтонскага духоўна-рыцарскага ордэна, які ў 13—15 стагоддзях здзяйсняў феадальную агрэсію ва Усходняй Еўропе.

С. 208. *Союзники поделят Россию.*— Падразумяваецца пагадненне, падпісанае Англіяй і Францыяй 23 снежня 1917 г. аб сумеснай інтэрвенцыі супраць Савецкай Расіі і падзел яе тэрыторыі, паколькі Расія пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі выйшла з імперыялістычнага блоку Антанты і вяла перагаворы аб спыненні вайны і заключэнні справядлівага дэмакратычнага міру без анексій і кантрыбуцый.

С. 209. *...заключат «похабный» мир...*— Гаворка ідзе пра маючы адбыцца мірны дагавор паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі германскага блоку (Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Турцыяй, Балгарыяй), які выкліканы неабходнасцю захавання заваёў Кастрычніка і забяспечання краіны перадышкай, нягледзячы на несправядлівыя і грабежніцкія ўмовы Германіі. Мірны дагавор падпісаны 3 сакавіка 1918 г. у Брэст-Літоўску, ануляваны 13 лістапада 1918 г. пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі, якая скінула кайзера Вільгельма II.

*...воспел дифирамбы даже присяжный миротворец Вильсон...*— Маецца на ўвазе выступленне амерыканскага прэзідэнта Вільсана 26 снежня 1917 г. (8 студзеня 1918 г.) у кангрэсе з прамовай, прысвечанай мэтам Першай сусветнай вайны і пазіцыі ЗША ў адносінах да Расіі. Выступленне вядома як «14 пунктаў» Вільсана, якія амерыканскі ўрад выдаваў за прапаганду «дэмакратычных» ідэй, «прапаганду міру». На самай справе «гэта было спекулятыўнае выступленне, накіраванае на тое, каб прыкрыць імперыялістычны характар вайны» [1].

[1] Березкин А. В. Октябрьская революция и США: 1917—1922 гг.— М.: Наука, 1967. С. 99.

*Малох* — (фінікійскае molek — ад імя фінікійскага бога сонца, агню і вайны, якому прыносілі ў ахвяру людзей) у тэксце ўжываецца як сімвал жорсткай, бязлітаснай сілы, якая патрабуе мноства чалавечых ахвяр.

С. 210. *...с полей ужасной каиновой брани...* — З палёў жудаснай братазабойчай вайны. Утварылася выслоўе на аснове біблейскага падання пра тое, як старэйшы сын міфічных прабацькоў людзей — Адама і Евы — Каін забіў свайго малодшага брата Авеля, за што бог асудзіў яго на вечнае блуканне.

— *Людзьмі звацца...* — Апошні радок верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» (1905—1907).

## КОЕ-ЧТО О НАШЕМ БЫТЕ (с. 210)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Известия исполнительного комитета Советов Западной области и Смоленского Совета рабочих, солд.[атских] и крестьянских деп.[утатов], 1918, 28 крас. Падпісаны псеўданімам *Дед Кузьма.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 211. *Ханджа* — гл. каментарыі, с. 529.

*...в своем деревенском «вартехаузе»...* — Wirtshaus (віртсхаўс) у перакладзе з нямецкай мовы — гасцініца, рэстаран, карчма.

С. 212. *«Перегородка» М. Г.* — Пісьменнік, відаць, мае на ўвазе свой твор, які ў «Храналогіі...» значыцца пад 1916 г.: «3. Па чыстай адстаўцы (Адгародка), канец IX, Гжацк». Тэкст апавядання пакуль не выяўлены.

С. 213. *...(блажен, кто верует)...* — Выраз, які стаў афарызмам, узнік, відаць, на аснове евангельскіх легенд, апавяданняў пра цудатворнае нараджэнне, жыццё і ўваскрэсенне Хрыста. Паводле камедыі А. С. Грыбаедава «Горе от ума» (1824), найбольш вядома наступнае выказванне: «Блажен, кто верует, тепло ему на свете!»

*...не ропщите на вождей, выведших вас из Египта...* — Выкарыстанае М. Гарэцкім словазлучэнне, ужыта аўтарам па асацыяцыі з біблейскім паданнем, паводле якога прарок Майсей выратаваў плямёны ізраільцян ад егіпецкага рабства, вывеўшы іх з Егіпта праз «Чэрмнае» (Чырвонае) мора, воды якога расступіліся перад ім. З-за нараканняў, якія пачаліся ў пустыні, бог забараніў ізраільцянам, а разам з імі і Майсею, ступаць на зямлю Палесціны.

## НОВАЯ БУРЖУАЗИЯ (с. 215)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Известия исполнительн.[ого] комитета Советов рабочих, крестьянских и солдатских депутатов Западной Коммуны, 1918, 22 кастр. Падпісаны псеўданімам *Максим.*

Датуецца годам апублікавання.

## БЕРЕГИТЕ! (с. 216)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Известия исполнительных комитетов Советов рабочих, крестьянских и солдатских

депутатов Западной Коммуны и гор.[ода] Смоленска, 1918, 24 кастр. Падпісаны псеўданімам *Максим.*

Датуецца годам апублікавання.

## ДЕРЕВНЯ (с. 218)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Западная Коммуна (падзагаловак: «Известия исполн.[ительного] комитета Советов рабочих, солдатск.[их] и крестьянск.[их] депутатов Западной Коммуны и Смоленского Совета раб.[очих] и красноарм.[ейских] депутатов»), 1918, 13 лістап. Падпісаны псеўданімам *Ваш Амстиславский.*

Датуецца годам апублікавання.

Тэкст артыкула ў перакладзе на беларускую мову і з некаторай мастацкай апрацоўкай выкарыстаны аўтарам у аповесці «Дзве душы» (гл. каментарыі, с. 526).

С. 219. *Экспедиция* — установа ці аддзел ва ўстанове, які займаецца рассылкай газет і іншай карэспандэнцыі.

С. 222. *...Аврам святый свойго сына нес богу на нож колоть, и то сын Исак мовчав...*— Маецца на ўвазе біблейскае паданне пра тое, як Аўраам (міфічны роданачальнік яўрэяў) па загаду бога, які вырашыў праверыць сілу яго веры, без хістанняў даў згоду прынесці ў ахвяру сына Ісаака, але ў той час, калі над отракам быў занесены нож, ангел выратаваў яго.

## НЯХАЙ ЖЫВЕ КАМУНІСТЫЧНАЯ БЕЛАРУСЬ[!] (с. 224)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Известия Смоленского губернского революционного комитета и Совета раб.[очих], солд.[атских] и крест.[ьянских] депут.[атов] г. Смоленска, 1919, 4 студз. Падпісаны крыптанімам *П. Б-н.*

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны з нагоды абвяшчэння Беларусі 1 студзеня 1919 г. суверэннай Савецкай рэспублікай.

С. 224. *...богатейший полесский помещик Скирмунт и совершенно не известный до последнего года в белорусских кругах Воронко морочат кому-то головы, выпрашивая в настоящее время «помощь белорусскому народу» в Лондоне у Вильсона и иже с ним.*— Маюцца на ўвазе Р. А. Скірмунт і Я. Я. Варонка — лідэры Рады Беларускай народнай рэспублікі (БНР), якая была абвешчана 25 сакавіка 1918 г.

10 снежня 1918 г., у першы ж дзень вызвалення г. Мінска ад нямецкіх захопнікаў, Мінскім губернскім ваенна-рэвалюцыйным камітэтам быў дадзены загад аб роспуску Рады.

Пасля паражэння Германіі (13 лістапада 1918 г.ануляваны Брэсцкі дагавор) члены БНР, як сцвярджалася ў даследчых працах па гісторыі Беларусі, свае спадзяванні ў стварэнні беларускай буржуазнай дзяржавы ўскладалі на краіны Антанты і ЗША.

Скірмунт і Варонка ў канцы снежня 1918 г. «збеглі ў Англію за падтрымкай, выдаючы сябе за прадстаўнікоў дэмакратычных

мас Беларусі, нібы задушаных сілай савецкіх войск»[1]. У гэты ж час у Лондане знаходзіўся прэзідэнт ЗША Вільсан, які прыехаў у Еўропу ў сувязі з маючай адбыцца мірнай канферэнцыяй у Парыжы (праходзіла з перапынкамі з 18 студзеня 1919 г. да 21 студзеня 1920 г.).

*Тов. Жилунович на страницах редактируемой им газеты «Дзянніца»...*— З. Жылуновіч быў рэдактарам першых пяці нумароў газеты, з шостага па дваццаць трэці — разам з Я. Нёманскім.

С. 225. *...Дмитрий Жилунович, рабочий по выделке кож (м. Копыль Минск.*[ой] *г.*[*убернии*]...— Маецца на ўвазе месца нараджэння і першапачатковая праца пісьменніка.

*...в 1906 году выпустивший сборник белорусских пролетарских стихотворений...*— Магчыма, аўтар артыкула мае на ўвазе першы зборнік вершаў Ц. Гартнага «Песні», які выйшаў у 1913 г. у Пецярбурзе ў беларускім выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца».

## БЕЛАРУСКАЕ ДРАМАТЫЧНАЕ ПІСЬМЕНСТВА (с. 225)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларуская думка, 1919, 5 і 7 мая. Падпісаны крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

Частка тэксту артыкула, змешчаная ў газеце за 5 мая: «Да астатняга часу ~ і драматычнага ў частцы» — апублікавана на рускай мове ў газеце «Звезда», 1919, 23 лютага як рэцэнзія на пастаноўку п'есы Ф. Аляхновіча «Страхі жыцця». Падпісана крыптанімам *П. Б.*

С. 225. *...за апошнія два-тры гады ~ Далі цэлы рад п'ес драматургі Галубок ~ Аляхновіч...*— У. Галубок: «Забыўся падперазацца», «Апошняе спатканне», «Пісаравы імяніны» (усе 1917), «Бязвінная кроў», «Ганка» (усе 1918); Ф. Аляхновіч: «Манька», «Калісь», «Базылішк» (усе 1917), «Чорт і баба», «Страхі жыцця» (усе 1918).

*...з'явілась некалькі драматычных невялікіх рэчаў паэта Якуба Коласа, Вясёлага, Грамыкі...*— Я. Колас: «Антось Лата», «На дарозе жыцця» (усе 1917); К. Вясёлы: «Не розумам сцяміў, а сэрцам» (1909, перавыданне 1918); М. Грамыка: «Змітрок з Высокай Буды» (1918).

С. 228. *«Раскіданае гняздо» Я. Купалы...*— Драма «Раскіданае гняздо» напісана ў 1913 г.; упершыню апублікавана ў 1919 г. асобным выданнем, пастаўлена Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі ў Мінску 10 ліпеня 1917 г.

С. 230. *Афелія* — галоўная гераіня трагедыі Шэкспіра «Гамлет» (1601).

*...слабыя пераклады А. А. Карынфскага...*— А. Карынфскі пераклаў на рускую мову наступныя вершы Я. Купалы: «Гарэлка» (1905—1907), «Каб я князем быў» (1911), «Песня сонцу» (1910), «Як у лесе зацвіталі...» (1911), «Мой дом» (1910), «Сваякам па гутарцы» (пад назвай «Землякам» (1911—1912), «Над магіламі» (1905—1907), «Хмары і думы» (1908), «Песня» («Па зімовай па дарожцы...») (1908—1910), «Да сваіх думак» («Скажыце мне, думкі») (1908—1910), «Гэй, капайце, далакопы...» (пад назвай «На родным

[1] Круталевич В. А. Рождение Белорусской Советской Республики.— Мн., Наука и техника, 1979. С. 122.

папялішчы» (1910), «Як тут весела спявацї?» (1908—1910), «Перад ночкай» (1911—1912), «Явар і каліна» (1910), «Мая думка» (1911—1912).

*...на расійскай мове ёсць надта добрыя пераклады В. Брусава, каторыя залічаюцца да 1914 г. у Вільні, дзе паэты пазналіся...*— В. Брусаў на рускую мову пераклаў: «На Купалле» (1910), «Адцвітанне» (1909), «Як у лесе зацвіталі...» (1911), «У ночным царстве» (1911—1912).

Першае знаёмства Я. Купалы з В. Брусавым адбылося на літаратурным вечары ў літоўскім клубе «Рута». Я. Купала падараваў В. Брусаву паэмы «Адвечная песня» (1908), «Сон на кургане» (1910) і зборнік «Шляхам жыцця» (1913). На апошнім ён напісаў: «Валерыю Якаўлевічу Брусаву на добрую памятку першага спаткання ў Вільні ад вучня і паклонніка Я. Купалы. Вільня. 18.VIII 1914 г.».

*...чэх Я. Урхліцкі...*— Врхліцкі Яраслаў.

*... «расцякаецца мысьлію па дрэву»...*— Выраз з тэксту выдатнага помніка літаратуры Кіеўскай Русі «Слова аб палку Ігаравым» (1187).

*«Сон на кургане»* — драматычная паэма Я. Купалы, напісаная ў 1910 г.; упершыню апублікавана ў «Маладой Беларусі», 1912 (сер. 1, сш. 1).

*«Адвечная песня»* — драматычная паэма Я. Купалы, напісаная ў 1908 г.; упершыню апублікавана асобным выданнем у 1910 г.

С. 231. *«Бязвінная кроў» Галубка...*— П'еса У. Галубка напісана і пастаўлена (Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі) у 1918 г. да гадавіны існавання тэатра і адкрыцця Народнага дома імя Максіма Багдановіча ў Мінску (гл. каментарыі, с. 547). Упершыню ў якасці акцёра ў адной з вядучых роляў выступаў сам У. Галубок.

## НА ЎГОДКІ ПА М. БАГДАНОВІЧУ (с. 231)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларуская думка, 1919, 26 мая. Падпісаны крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны да другой гадавіны з дня смерці М. Багдановіча.

С. 231. *Радзіўся ён на Беларусі, у Гродзеншчыне, але ў малых гадах быў вывезены бацькамі ў глыб Маскоўшчыны, дзе і ўзрос.*— Максім Багдановіч нарадзіўся ў Мінску 27.11 (9.12) 1891 г. Калі хлопчыку было поўных пяць месяцаў, сям'я Багдановічаў пераехала ў Гродна, дзе яны пражылі пяць гадоў. Пасля смерці маці, Марыі Панасаўны Мякота (1896), бацька, Адам Ягоравіч, з дзецьмі пераехаў у Ніжні Ноўгарад.

*Паслужыў сваім агнявым словам Беларусі 8 гадоў.*— Творчы шлях М. Багдановіча з дня першай публікацыі (гл. ніжэй) складае амаль 10 гадоў.

*Працу пачаў вершамі, якія друкаваліся ў «Нашай ніве».*— Першы друкаваны твор М. Багдановіча — алегарычнае апавяданне «Музыка», змешчанае ў «Нашай ніве», 1907, 6(19) ліпеня.

С. 232. *Каб ушанаваць яго памяць, нічога не зроблена, апрача*

*адкрыцця ў Менску Народнага дома.*— Народны дом імя Максіма Багдановіча адкрыты ў Мінску 19 мая 1918 г.

*...мае выдаваць поўны Збор твораў паэта.*— Поўны Збор твораў М. Багдановіча выдадзены не быў. У 1927—1928 гг. літаратурнай камісіяй Інбелкульта падрыхтаваны і выдадзены першы Збор твораў паэта ў 2-х тамах пад рэдакцыяй І. Замоціна.

## ВІНЦУК ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ (с. 232)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускае жыццё, 1919, № 12. Падпісаны крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 232. *Вінцук Дунін-Марцінкевіч (1807—1885)* — Вінцэнт Іванавіч Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся 23 студзеня 1808 г. (па іншых звестках — у 1807 г.), памёр 17 снежня 1884 г.

*Сярэднюю школу ён скончыў у Бабруйску...*— Маецца на ўвазе Бабруйская павятовая школа.

*Далей вучыцца паехаў у Вільню, але незабавам пераехаў у Пецярбург, дзе слухаў лекцыі на медыцынскім факультэце. Не скончыўшы універсітэцкай навукі, В. Д.-Марцінкевіч перабраўся на жыццё ў Менск...*— Згодна звестак апошняга часу, Дунін-Марцінкевіч быў спачатку ўладкаваны ў Віленскую базыльянскую бурсу, а пазней у Віленскі (па іншых дадзеных — Пецярбургскі) універсітэт на медыцынскі факультэт, які прыйшлося кінуць па стану здароўя і ўладкавацца сакратаром у прыватнае бюро Бараноўскага ў Вільні. Пасля жаніцьбы на дачцэ гаспадара (снежань 1831 г.), без згоды на тое яе бацькі, Вінцэнт Іванавіч у пошуках працы вымушаны пераехаць у Мінск.

*Кансісторыя* — падначалены архірэю калегіяльны епархіяльны орган з царкоўна-адміністрацыйнымі і судовымі функцыямі ў дарэвалюцыйнай Расіі.

*«Сялянка», опера ў 2-х актах, музыка Манюшкі...*— Музыка да оперы «Сялянка» была напісана Станіславам Манюшкам разам з К. Кжыжаноўскім (беларускі скрыпач, педагог і кампазітар сярэдзіны 19-га стагоддзя).

Упершыню ставілася на сцэне 9 лютага 1852 г. у Мінску трупай, арганізаванай В. Дуніным-Марцінкевічам.

С. 233. *...«Гапон», повесць у вершах (1855 г.).*— Годам напісання твора даследчыкі лічаць 1854 г. 18 лютага 1855 г. цэнзурай падпісаны дазвол на выданне. У гэтым жа годзе аповесць пабачыла свет.

*...«Купалле», народная повесць (1856 г.).*— Дакладная назва твора — «Купала». Датуецца вераснем 1855 г., выдадзена ў 1856 г.

*...«Шчароўскія дажынкі», повесць (1856 г.).*— Датуецца твор годам апублікавання: 1857.

*...«Пінская шляхта»* ~ першы раз друкав.[аны] у 1918 г. («В.[ольная] Б[еларусь]»).— Вольная Беларусь, 1918, №№ 30—31. У гэтым жа годзе п'еса была пастаўлена.

*...«Залёты», аперэта, муз. Кімонт, першы раз друкавалася ў «В.*[ольнай] *Бел.*[арусі] *у 1918 г.*— Камедыя «Залёты (1870) друкавалася ўпершыню ў газеце «Вольная Беларусь», 1918, № 10—12.

Значную ролю ў пастаноўцы п'есы адыграла піяністка Ячыноўская-Кімонт Марыя. Музыку да спектакля яна часткова на-

пісала сама, часткова падабрала ноты з іншых крыніц. У выкананні артыстаў Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні прэм'ера спектакля адбылася 25 студзеня 1915 г.

## УЛАДЗІСЛАЎ ГАЛУБОК (с. 234)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускае жыццё, 1919, № 20. Падпісаны крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 234. *...Уладзіслаў Галубок (праўдзівае прозвішча Голуб) радзіўся ў Менску...*— У. Галубок нарадзіўся на станцыі Лясная пад Баранавічамі.

*...скончыўшы ў 1893 годзе прыходскую школу і паступіўшы ў вышэйшую гарадскую...*— Маюцца на ўвазе царкоўнапрыходская школа ў Мінску і Мінскае гарадское вучылішча.

С. 235. *«Хціўцы»* — пад такой назвай, а таксама — «Двужэнцы», «Ветрагоны» п'еса У. Галубка ішла на сцэне. Друкавалася ў кнізе: Галубок У. Ветрагоны. Камедыя ў 4-х актах для клубных пастановак.— Мн.: Белдзяржвыд, 1930. У выкананні артыстаў Першага беларускага таварыства драмы і камедыі прэм'ера спектакля адбылася ў студзені 1920 г. у Мінску.

*Не дужа даўно беларускае выдавецтва ў Вільні выдрукавала «Апошняе спатканне»...*— Галубок У. Апошняе спатканне: Драма ў 4-х актах.— Вільня: Друкарня «Прамень», 1919.

*...крытычны агляд каторага будзе ў чародным нумары «Бел.[арускага] ж[ыцця]».*— Маецца на ўвазе рэцэнзія на кнігу «Апошняе спатканне», якая змешчана ў часопісе «Беларускае жыццё», 1919, № 22 за подпісам *М. Г.* (гл. ніжэй).

## [«АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ»...] (с. 235)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускае жыццё, 1919, № 22. Змешчана ў раздзеле «Бібліяграфія». Падпісана крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

*С. 235—236. Рэцэнзіі аб гэтай рэчы Галубка ~ з'яўляліся ў беларускіх часопісах, калі яна, яшчэ не друкаваная, была на сцэне.*— Упершыню спектакль па п'есе У. Галубка «Апошняе спатканне» быў пастаўлены Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі ў Мінску ў снежні 1917 г. Водгук на пастаноўку напісаў Р. Зямкевіч у газеце «Вольная Беларусь», 1917, 31 снежня.

С. 236. *«Тарас на Парнасе»* — гл. каментарыі, с. 529.

## ЛЯВОН ГМЫРАК (с. 237)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларусь, 1920, 7 ліп.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны да пятай гадавіны з дня смерці Лявона Гмырака.

С. 237. *...галава яго была забіта героямі Сянкевіча...*— Найбольш вядомыя творы Г. Сянкевіча 80-х гадоў — гістарычная трылогія:

раманы «Агнём і мячом» (1883—1884), «Патоп» (1884—1886) і «Пан Владыёўскі» (1887—1888).

С. 238. *...аб беларускім адраджэнні і літаратуры («Калядная пісанка», 1914 г.)...*— Маецца на ўвазе артыкул «Беларускае нацыянальнае адраджэнне», які змешчаны ў «Велікоднай пісанцы», 1914 г.

*Паэт Ясакар ~ склаў па ім у сваіх «Задушках»...*— Цыкл вершаў З. Бядулі пад назвай «Задушкі» прысвечаны памяці С. Палуяна, Л. Гмырака, М. Багдановіча, І. Буйніцкага, К. Каганца (сапр. К. Кастравіцкі), Калінкі (сапр. А. Петрашкевіч).

Тэкст цыкла выяўлены ў кнізе Я. Фарботкі «Беларусь у песнях», Мн., 1920.

*Задўшкі* — дзень памінання памёршых.

## ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЦЁ (с. 239)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша думка, 1921, 14 студз. Падпісана крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 239. *...«надта здаволена» беларуска-літоўскаю ўмоваю, зробленаю ў Коўне 12-га лістапада так званым беларускім урадам п. Ластоўскага...*— Відаць, маецца на ўвазе дагавор, заключаны 11 лістапада 1920 г. паміж «урадам» БНР (гл. каментарыі, с. 544) і буржуазнай Літвой аб сумесным супрацоўніцтве. «Урад» знаходзіўся ў Коўне, узначальваў яго В. Ю. Ластоўскі.

*Рэдактар-выдавец — п. М. Гарэцкі.*— Газету «Наша думка» М. Гарэцкі рэдагаваў з 24 снежня 1920 г. да 1 красавіка 1921 г.

*...авантурай Балаховіча.*— Маюцца на ўвазе ваенныя дзеянні, якія ў лістападзе 1920 г. разгарнула так званая «руская дабравольная армія» Булак-Балаховіча на тэрыторыі Савецкай Беларусі.

С. 239—240. *...справу з літаратурным матэрыялам, які падходзіць для той і той газеты, як, да прыкладу, вершы М. Канапніцкай...*— Інтэнсіўнае асваенне беларускай літаратурай творчасці М. Канапніцкай назіралася ў пачатку 20-га стагоддзя. Асноўныя матывы яе творчасці — сялянская нядоля, жыццё гарадской беднаты, любоў да радзімы, вера ў народ, у надыход справядлівасці і свабоды. Яе паэзіі ўласцівы дэмакратызм, спалучэнне лірычнай і публіцыстычнай плыней, блізкасць да фальклору.

## ГУРТУЙЦЕСЯ! (с. 240)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша думка, 1921, 4 лют. Змешчаны пад рубрыкай «З беларускага жыцця». Падпісаны псеўданімам *Дзед Кузьма.*

Датуецца годам апублікавання.

У Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе захоўваецца карэктурны нумар газеты за 29 студзеня (ф. 21, спр. 2262), дзе тэкст артыкула набраны пад загалоўкам «Не выбірайце ў гэты сейм нікога!»; падпісаны псеўданімам *Дзед Кузьма.* Аднак у самой газеце артыкул з прыгаданай назвай адсутнічае. Пад назвай «Гуртуйцеся!»

і з некаторымі перапрацоўкамі тэксту ён апублікаваны, як ужо вядома, 4 лютага. У карэктуры артыкул заканчваўся наступнымі радкамі: «А пакуль што ведайце, што Беларускі нацыянальны камітэт не прымае вучасця ў выбарах у Віленскі сейм.

І вы не выбірайце нікога».

С. 240. *«Стража Крэсовая»* — (ад польск. kres — вобласць, мяжа, кардон), добраахвотнае ваеннае фарміраванне на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Літвы ў час панавання буржуазнай Польшчы (1919—1939).

*Шубе́нь* — палка, зручная для кідання.

*...ў Вільні ёсць Беларускі нацыянальны камітэт...*— Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, каардынацыйны орган беларускіх партый і груповак у Заходняй Беларусі ў 1919—1936 гг.

## 75 ГАДОЎ ОПЕРЫ «СЯЛЯНКА» (с. 241)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша думка, 1921, 11 сак. Падпісана псеўданімам *А. Мсціслаўскі.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 241. *75 гадоў оперы «Сялянка»* — Маецца на ўвазе 75 гадоў з дня першага апублікавання лібрэта камедыі-оперы В. Дуніна-Марцінкевіча «Ідылія» («Sielanka»), выдадзенай асобнай кнігай у 1846 г. у Вільні. Напісаны твор у 1842—1844 гг. Гл. таксама каментарыі, с. 547.

*Ой, бяда, будзе бяда...*— У Дуніна-Марцінкевіча[1]: *«Ой, бяда ж будзе, бяда!»*

*Заказаў жа нам мацар,*
*Ясны, моцны камісар,*
*Сабраццa чы ў карчму, чы ў двор*
*Мал, вялік, стары і хвор...*—

У Дуніна-Марцінкевіча:

*Заказаў жа ж наш мацар,*
*Ясны, можны камісар,*
*Сабраццa ў карчму чы двор.*
*Мал, вялік, здароў чы хвор...*

*Хваліць толькі бога, шчыра працаваці,*
*Любіць добрых панаў, маўляў, родных браці,*—
*Вось вашае дзела...*— Радкі з народнай аповесці Дуніна-Марцінкевіча «Купала» (1855).

*...і той жа пясняр у вершы «Вясна, голад, перапала» (1860 г.)...*— У некаторых выданнях ананімны верш друкуецца пад назвай «Вясна гола перапала». Перапісаны рукой Дуніна-Марцінкевіча тэкст верша, знойдзены ў архіве пісьменніка, сведчыць, што твор напісаны не ім.

*Як сторaж, стаў смела на варце*
*Радзімых запушчаных гоняў,*
*Стаў сеяць па-свойску ўсё тое,*
*Што мы далей сеем сягоння...*— Радкі з верша Я. Купалы «Памяці Вінцука Марцінкевіча» (1910).

---

[1] Спасылкі даюцца па выданні: Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Творы.— Мн.: Маст. літ., 1984.

## ЛЮБІЦЕ ПОЛЬСКІ НАРОД (с. 242)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наша думка, 1921, 14 мая. Падпісана псеўданімам *Дзед Кузьма.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 242. *Эндэ́кі* — скарочаная назва членаў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Польшчы (1897—1945). У 1919 г. НДП (перайменаваная ў Нацыянальна-дэмакратычны саюз) увайшла ва ўрадавую кааліцыю, выступала з патрабаваннямі адкрытай і рашучай барацьбы з рэвалюцыйным рухам, за саюз з заходнімі дзяржавамі супраць савецкай Расіі і г. д.

С. 242—243. *Народ страшэнна цярпіць ад ваеннай абстаноўкі, народ цяпер відзіць, апроч таго, як жаўнеры-чужакі бяруцца за належную да беларусаў зямельку...*— Маецца на ўвазе лёс працоўных заходніх абласцей Беларусі, захопленых у выніку савецка-польскай вайны 1920 г. польскімі інтэрвентамі.

## ЭНДЭЦКІЯ ВЫКРУТАСЫ (с. 243)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускія ведамасці 1921, 14 верас. Змешчана пад рубрыкай «Агляд друку». Падпісана псеўданімам *А. Мсціслаўскі.*

Датуецца годам апублікавання.

Гл. таксама каментарыі да папярэдняга артыкула.

С. 244. *Гавэнда* — (польск. gawęda) гутарка, расказ; балбатня.

*...у школьнай беларускай граматыцы Браніслава Тарашкевіча...*— Маецца на ўвазе першая «Беларуская граматыка для школ» (1918), якую падрыхтаваў і выдаў Б. А. Тарашкевіч.

## ВЫБАРЫ Ў ПОЛЬСКІ ВІЛЕНСКІ СЕЙМ (с. 244)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларускія ведамасці, 1921, 20 снеж. Падпісана псеўданімам *Дзед Кузьма.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 244. *Прыдумалі склікаць у Вільні сейм.*— Гаворка ідзе аб маючых адбыцца «выбарах» у часовы сейм так званай Сярэдняй Літвы (тэрыторыі, захопленай увосень 1920 г. войскамі буржуазнай Польшчы пад кіраўніцтвам генерала Л. Жалігоўскага: Віленска-Трокскага і Свянцянскага паветаў Літвы і прылеглых да іх раёнаў Лідскага, Ашмянскага і Браслаўскага паветаў Заходняй Беларусі). «Выбары» былі незаконна праведзены польскім урадам 8 студзеня 1922 г. з мэтай надаць выгляд законнасці далучэнню гэтых анексіраваных зямель да Польшчы. Рашэннем сейма ад 20 лютага 1922 г. тэрыторыя Сярэдняй Літвы ўвайшла ў склад Польскай дзяржавы. Вызвалена Чырвонай Арміяй у канцы 1939 г.

*Мазу́ры* — этнаграфічная група палякаў, якая насяляла паўночна-ўсходнюю частку Польшчы.

## ПРАДМОВА [ДА «ХРЭСТАМАТЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ»] (с. 245)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Гарэцкі Максім. Хрэстаматыя беларускай літаратуры: XI век — 1905 год.— Вільня: Віленскае беларускае выдавецтва Б. Клецкіна, 1922.

Пад тэкстам: М. Гарэцкі. Вільня, Базыльянскія муры, 1921 г.— 1922 г.

«Хрэстаматыя...» прысвечана сястры пісьменніка, якая трагічна загінула ў 1922 г. На ўстаўной старонцы ў пачатку кнігі змешчаны наступны тэкст:

«З дзённіка за 1922 г., светлай памяці Ганны Гарэцкай.

«Узноў заскрабло, забалела, зашчаміла на сэрцы. І чаго толькі? Чаго баліць яно, беднае? А ці таго, што кругом відзіць няпраўду, гора, слёзы бедных людзей?»

«Ужо ўсюды ўсё красуе. Дрэвы ўжо пачынаюць раскідацца. Траўка зелянее, птушачкі пяюць. На магілках ужо паказваюцца цвяточкі з светла-зялёненькімі, нежненькімі і слабенькімі, і хіленькімі лісточкамі. Хмурымі кажуцца і красачкі на могілках, як бы і самі магілкі. Спяць у гэтых магілках людзічкі. Спіце, вечная памяць вам. Вы нічога не бачыце, што кругом вас, куды ні глянь, усё зелянее, расце, жыве і борыцца за жыццё, як калі-то баролісь і вы. Буду і я жыць, буду любіць і даражыць жыццём, і бароцца за жыццё, і памагаць жыць другім».

«Багацькаўка! Мая мілая і ўмесце з тым пастылая Багацькаўка! Люблю я цябе з тваім садком, ляском... Люблю тваіх мілых, слаўных, вясёлых дзетак, тужлівых старычкоў і вясёлых пявунняўдзевак. Ненавіджу тваю гразь, непрытульнасць. Скарэй нада набрацца сілухны і пачаць варушыць камні...»

Яе дарагому вобразу,
Як памятку на магілку
Ў чужыне, гэтую кнігу
пасвячаю.

Брат».

Са слоў Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага, брата пісьменніка, стала вядомым, што Ганна вяла дзённікавыя запісы. Тэкст дзённіка сястры ў мастацкай апрацоўцы М. Гарэцкага мог быць выкарыстаны ім у прысвячэнні «Хрэстаматыі...».

Неабходна адзначыць, што прыведзеныя вышэй урыўкі з дзённіка маюць асобныя тэкставыя супадзенні з «Марынкіным дзённікам» у «Камароўскай хроніцы» (гл. Зб. тв. У 4-х т. Т. 4. С. 166, 171).

*кніга больш-менш дапасавана да маёй «Гісторыі беларускай літаратуры».*— Першае выданне кнігі М. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» было ў 1920 г., другое — у 1921 г.

## «ПІСАРАВЫ ІМЯНІНЫ» — КАМЕДЫЯ Ў 3-х ДЗ.[ЕЯХ] ГАЛУБКА (с. 245)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1923, 12 снеж. Падпісана крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 246. ***Кажуць, быццам «Пісаравы імяніны» раней складаліся***

*з аднаго, цяпер першага акта...*— Прэм'ера спектакля па п'есе У. Галубка адбылася ў 1917 г. у Мінску ў выкананні артыстаў Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Гэтым жа калектывам п'еса ставілася па частках. М. Гарэцкі, відаць, мае на ўвазе выпадак, калі першы акт ішоў як аднаактовая п'еса пад назвай «Пісаравы іманіны», а астатнія дзеі — як самастойны твор «Залёты дзяка».

Поўны тэкст п'есы апублікаваны ўпершыню ў кнізе: Уладзіслаў Галубок: Творы.— Мн.: Маст. літ., 1983.

## АБ ГАЛУБКОВЫХ СПЕКТАКЛЯХ (с. 248)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1923, 19 снеж. Падпісана крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

*«Ветрагоны»* — гл. каментарыі, с. 548 — «Хціўцы».

## БЕЛАРУСКІ ТЭАТР У ПАЛОВЕ XIX ВЕКУ (с. 249)

Друкуецца па неаўтарызаваным машынапісе, які захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (фонд 1, вопіс 3, справа 8); пазначаны прозвішчам М. Гарэцкага.

Упершыню — Вобраз, 88.— Мн.: Маст. літ., 1988.

Пад тэкстам дата: 11/X-1924 г.

Дадзены машынапісны тэкст выяўлены ў выніку пошукаў артыкула М. Гарэцкага пад назвай «Да гісторыі нашага тэатра», звесткі аб якім прыведзены ў артыкуле Т. Я. Гаробчанка «Белорусский театр», змешчаным у кнізе «История театроведения народов СССР».— М., 1985.

Да 10-й гадавіны нацыянальнага савецкага тэатра Беларусі, як паведаміла Т. Гаробчанка, супрацоўнікамі Інстытута беларускай культуры сумесна з творчымі работнікамі БДТ-1 быў падрыхтаваны зборнік «Беларускае мастацтва», аднак кніга свету не пабачыла. Сярод асноўных матэрыялаў зборніка, якія захоўваюцца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, названы артыкул М. Гарэцкага «Да гісторыі нашага тэатра».

У выніку пошукавай працы ў архіве інстытута з дапамогай супрацоўнікаў аддзела тэатра артыкул з прыгаданай назвай знайсці не ўдалося. Пры гэтым выяўлены неаўтарызаваны тэкст М. Гарэцкага (прозвішча надрукавана над загалоўкам) «Беларускі тэатр у палове XIX веку», які складае 12 машынапісных лістоў. Чорным чарнілам прастаўлена нумарацыя лістоў машынапіснага тэксту (акрамя першапачатковай): 49—60.

Прыведзеная акалічнасць дае падставу меркаваць аб тым, што тэкст з'яўляўся часткай цэлага, магчыма, зборніка «Беларускае мастацтва». Як сведчыць Т. Гаробчанка, назва «Да гісторыі нашага тэатра», дадзеная ёй на падставе звестак тэатразнаўца С. Пятровіча (спасылка на даследчыка таксама зроблена ў 2-м томе «Гісторыі беларускага тэатра», 1985), відаць, памылковая.

С. 250. *...забраўшых паперы Паўлюка Багрыма пасля «бунту» крошынскіх жыхароў...*— Маецца на ўвазе прыезд у вёску Крошына, пасля сялянскага бунту яго жыхароў у 1828 г., рэктара Вілен-

скага універсітэта В. В. Пелікана (1790—1873) і апекуна Віленскай вучэбнай акругі сенатара М. М. Навасільцава (1768—1838), якія, справакаваўшы П. Багрыма на чытанне сваіх вершаў, забралі ў яго тры сшыткі з творамі. Праз некалькі дзён паэта ўзялі ў салдаты. Захаваўся адзіны верш, напісаны Багрымам у юнацкім узросце, «Зайграй, зайграй, хлопча малы...».

*...не было нікога, у найменшай меры падобнага да апекуноў Кальцова і Шаўчэнкі...*— Пад апекунамі А. В. Кальцова М. Гарэцкі, відаць, падразумявае М. У. Станкевіча (1813—1840) і В. Р. Бялінскага (1811—1848); Т. Р. Шаўчэнкі — К. П. Брулова (1799—1852), В. А. Жукоўскага (1783—1852) і Ф. П. Талстога (1783—1873).

С. 251. *...інтэлігентныя выхадцы з праваслаўнага духавенства (Насовіч, Шпілеўскі...*— І. І. Насовіч — з сям'і дзяка, скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1812); П. М. Шпілеўскі — з сям'і святара. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1843) і Пецярбургскую духоўную акадэмію (1847).

*...(К. Каліноўскі ў сваіх імкненнях і сваёй дзейнасці).*— Маецца на ўвазе самаахвярная барацьба Кастуся Каліноўскага супраць прыгону, насілля і несправядлівасці, яго вялікая роля ў гісторыі рэвалюцыйнага руху, грамадска-палітычнай і філасофскай думкі, літаратуры і культуры Беларусі.

С. 253. *...невядомы аўтар П. З. *** змясціў свой белетрыстычна-этнаграфічны твор «Дзяды»...*— Твор невядомага аўтара «Дзяды» надрукаваны ў газеце «Могилевские губернские ведомости», 1849, № 17.

С. 254. *«Барышня-крестьянка»* (1830).

*Дзеля таго што царскі ўрад пачаў з 1863 года праследаваць друкаванае беларускае слова ~ Марцінкевіч свае творы пасля 1863-га года не друкаваў.*— Праследаваліся не толькі творы, напісаныя на беларускай мове, але і сам Дунін-Марцінкевіч знаходзіўся пад строгім паліцэйскім надзорам. Царскі ўрад падазраваў яго ў прычаснасці да рэвалюцыйнага руху 1863 г. і пазбавіў права друкавацца на беларускай мове.

С. 255. *...«Сялянка» (1844 г.)...*— Гл. каментарыі, с. 550.

*...«Залёты» (1870 г.), трохактовая камедыя.*— Фарс-вадэвіль «Залёты» — у адным акце. Блытаніна, відаць, узнікла з-за паметы Я. Купалы пры перакладзе твора з польскай мовы на беларускую: «Смяхотная штука ў 3-х дзеях». Пераклад зроблены ў 1913 г.

*«Пінская шляхта» і «Залёты» ўбачылі сцэну і друк толькі пасля 1905 года.*— Гл. каментарыі, с. 547.

*...«Злодзей» Ядвігіна Ш.*— Драма «Злодзей», напісаная ў 1892 г., да пастаноўкі была забаронена, тэкст яе не выяўлены.

*«Янкіна жальба»* (1900).

С. 256. *...«Беларусы», т. II, ч. III...*— «Нарысы сінтаксісу беларускай гаворкі. Дапаўненні і папраўкі» (1912).

С. 260. *...як піша Янка Купала ў сваёй рэцэнзіі на «Залёты»...*— У тэксце артыкула ёсць памета аб зносцы, аднак сама зноска адсутнічае. М. Гарэцкі мае на ўвазе рэцэнзію на пастаноўку п'есы, якая змешчана ў «Нашай ніве», 1915, 6 лютага пад назвай: *«Залёты». Аперэтка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча»*; падпісана крыптанімам *К-а.*

*...у «Кастусю Каліноўскім» Е. Міровіча...*— Фальклорна-гістарычная п'еса «Кастусь Каліноўскі» напісана і пастаўлена

Е. Міровічам у 1923 г. да 60-й гадавіны сялянскага паўстання на Беларусі. П'еса сыграна артыстамі Беларускага дзяржаўнага тэатра.

С. 261. ...*«як бы смеючыся з нашага брата пісаны»...*— Словы Ф. Багушэвіча, выкарыстаныя з прадмовы да кнігі «Смык беларускі» (1894).

## МАЛАДНЯК (с. 262)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1925, 7 студз.

Пад тэкстам дата: 4-І-24 г. У ёй дапушчана памылка: замест 1925 пазначаны 1924 г.

С. 262. «Маладняк» — аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў, якое існавала з лістапада 1923 да лістапада 1928 г., узнікла як гурток маладых паэтаў пры часопісе «Маладняк».

*Надоечы ў Менску быў дужа цікаўны і мнагалюдны літаратурны вечар аб'яднання паэтаў «Маладняк».*— Літаратурны вечар адбыўся 2 студзеня 1925 г. у Доме працаўнікоў асветы. Сярод прысутных быў М. Гарэцкі. Ён выступіў на вечары як крытык.

*...т. Бабарэка прачытаў даклад аб ідэалогіі, заданнях і метадах працы «Маладняка».*— Тэкст даклада, які пазней быў пакладзены ў аснову выступлення на Пленуме ЦБ «Маладняка» 21—23 сакавіка 1925 г., змешчаны ў часопісе «Маладняк», 1925, № 7 пад назвай «Вясну радзіла восень» (Да пытання аб кірунках у сучаснай беларускай літаратуры).

*Прачытаўшы колькі выімак з Пляханава...*— Маюцца на ўвазе цытаты з прадмовы да зборніка Г. Пляханава «За двадцать лет» (1908).

С. 263. ...*«Безназоўнае» Я. Купалы (яшчэ друкуецца)...*— Маецца на ўвазе зборнік паэзіі Я. Купалы пад назвай «Безназоўнае», які выйшаў у 1925 г.

Зб. «Трэскі на хвалях» (1924) і зб. «Веснаход» (1924).

...*«Мікола» (на смерць чырвонаармейца).*— Верш апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1924, № 3 (11) з прысвячэннем «Памяці Міколы Ганчарэнкі — чырвонаармейца 217 Пугачоўскага палка 25 Чапаеўскай дывізіі».

С. 264. *«Хай выбрыкуе рытм сівагрывы»* — радок з верша «Ой ды, песні мае, цёмнавірыя!..»; упершыню — Полымя, 1924, № 4/12/.

*«І зарою аўсяніўся песень наліў»* — радок з верша «Не ўдалося ў гэта мне лета...»; упершыню — Полымя, 1924, № 4/12/.

*«Заплаканы променя вырыс»* — радок з верша «Туляўся выбоямі грэблі...»; упершыню — Полымя, 1924, № 3/11/.

*«Диалектический материализм» праф.*[*есара*] *С. Я. Бальфсона.*— Маецца на ўвазе курс марксісцкай філасофіі, выдадзены ў якасці вучэбнага дапаможніка для шэрагу вышэйшых навучальных установ, ч. 1—2, 1922 г., ч. 1—3, 6-е выд., 1926 г.

## ЧАТЫРЫСТА ГАДОЎ ДРУКУ НА БЕЛАРУСІ (с. 266)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Звезда, 1925, 11 студз.

Пад тэкстам дата: 7/І 1925 г.

Доўгі час першай кнігай Ф. Скарыны, выдадзенай пасля Пра-

гі ў Вільні, лічылі «Апостал» (1525). Па гэтай прычыне 400-годдзе друку на Беларусі адзначалі ў 1925 г., з нагоды чаго і быў напісаны М. Гарэцкім дадзены артыкул. У выніку найноўшых даследаванняў жыцця і дзейнасці беларускага вучонага стала вядома, што першым віленскім выданнем Ф. Скарыны была «Малая падарожная кніжка» (каля 1522).

Гл. таксама артыкул «Доктар Францыск Скарына», с. 199 і каментарыі да яго, с. 539.

С. 266. *...мяркуючы хоць бы па Літоўскім статуце...*— Відаць, маецца на ўвазе Першы статут (1529) Вялікага княства Літоўскага (збор законаў феадальнага права), які ўжо дзейнічаў у часы Скарыны (гл. таксама каментарыі, с. 569).

*Рэфармацыя* — (ад лац. refarmatio — пераўтварэнне, выпраўленне), шырокі і разнародны грамадска-палітычны і ідэалагічны рух у Заходняй Еўропе 16 стагоддзя, які ў цэлым меў антыфеадальны і антыклерыкальны характар і быў непасрэдна накіраваны супраць каталіцкай царквы.

С. 267. *...дзе і абараніў дысертацыю на дыплом доктара медыцыны і філасофіі.*— У Падуанскім універсітэце Ф. Скарына паспяхова вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцынскіх навук. Аб прысуджэнні навуковай ступені было абвешчана 9 лістапада 1512 г.

Вышэйшую вучоную ступень доктара свабодных навук (філасофскіх) Скарына атрымаў «у адным з еўрапейскіх універсітэтаў, магчыма, Пражскім» [1] у перыяд з 1507 па 1512 г.

*...едзе ў Нямеччыну, знаёміцца з Марцінам Лютэрам...*— Існуе меркаванне, што ў 1525 г. Ф. Скарына наведаў Вітэнберг, дзе пазнаёміўся з Марцінам Лютэрам, аднак гэтыя звесткі з'яўляюцца гіпотэзай.

*...з нейкай «Скіфіі»...*— Падразумяваюцца ўсходнеславянскія землі, дзе калісьці жылі плямёны скіфаў.

С. 268. *Толькі ў Лондане, у Брытанскім музеі, ёсць найболей поўны камплект яго кніжак.*— Найбольш багата выданнямі Ф. Скарыны Дзяржаўная публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, Дзяржаўны гістарычны музей і Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна ў Маскве.

## КУЛЬТУРНАЕ СВЯТА (с. 268)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Наш працаўнік, 1925, 27 лют.

Датуецца годам апублікавання.

С. 269. *Меў высокае вучонае званне — доктара медыцыны і філасофіі.*— Гл. вышэй.

*...у горадзе Празе ~ у 1517—1519 гг. надрукаваў Біблію на беларускай мове.*— У 1517—1519 гг. Ф. Скарына выпусціў на мове блізкай да старабеларускай 23 кнігі Бібліі.

*Пазней Скарына перанёс друкарню ў свой родны край, у Вільню.*— Гл. каментарыі, с. 540—541.

*Тут першая кніжка выйшла ў сакавіку (марцы) месяцы 1525 г.*— Гл. вышэй, а таксама каментарыі на с. 541.

---

[1] Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў.— Мн.: Навука і тэхніка, 1988. С. 10.

*Памёр Скарына каля 1550 года.*— Ф. Скарына памёр каля 1551 г.

*Найперш быў знайдзен спосаб друкаваць кніжкі — у Нямеччыне, у 15 веку, 1440 г., Іаганам Гутэнбергам.*— Узнікненне кнігадрукавання ў Еўропе адносіцца да 40-х гадоў 15 стагоддзя і звязваецца з імем Іагана Гутэнберга. Першую друкарню ён заснаваў у 1438 г. у Страсбурзе.

*У Маскве першая друкаваная кніжка выйшла ў 1564 г.*— У 1564 г. першая дакладна датаваная руская друкаваная кніга «Апостал» была выдадзена ў Маскве І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам.

*Такім чынам, у Маскоўшчыне друкаваная кніжка выйшла ў свет на 70 г. пазней, чым на Беларусі.*— Як паказвае кантэкст, пісьменнік тут адлічваў ад даты 1587 г., калі ў Маскве была аднаўлена друкарня і пачалося рэгулярнае кнігадрукаванне. На самай жа справе першая друкаваная кніга ў Маскоўскай Русі пабачыла свет прыблізна на 40 гадоў пазней «Псалтыра» Ф. Скарыны, бо ў 50-я гады XVI стагоддзя ў Маскве існавала ананімная друкарня, якая выпусціла некалькі кніг.

*...Скарына перакладаў Біблію з царкоўнаславянскай мовы на мову беларускую, зразумелую для ўсяго народа.*— Гл. вышэй, ■ таксама каментарыі на с. 539.

С. 270. *...(«добре чесьці і мовіці вучыць»)...*— Радкі з прадмовы Ф. Скарыны да «Псалтыра».

*...(яго праваслаўнае імя было — Г е о р г і й, Юрка).*— Гл. каментарыі, с. 540.

*У месяцы сакавіку (марцы) гэтага, 1925, года будзе, такім чынам, чатырыста гадоў, як на Беларусі пачалося друкаванне кніжак.*— Гл. каментарыі, с. 555—556.

*Складаецца належны зборнік, у якім з усіх бакоў будзе высветлена дзейнасць Скарыны...*— Чатырохсотлецце беларускага друку: 1525—1925.— Мн., 1926.

С. 271. *«Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўны перыяд»* (1922).

*«Беларусы», том 3-ці, частка другая* (1921).

*«Доктар Францыск Скарына»* (1888).

*«Гісторыя беларускай літаратуры», выданне 3-е* (1924).

*...ў «Гісторыі Беларусі праф.* [есара] *Ігнатоўскага...*— Відаць, маецца на ўвазе «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (1921).

Пічэта У. *«Гісторыя Беларусі»* (1924).

## МСЦІСЛАЎШЧЫНА (с. 271)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1925, 1 і 3 лют.

Пад тэкстам: Менск, 26-І-1925 г.

Мсціслаўшчына ўваходзіць зараз у склад Магілёўскай вобласці. У той час, калі М. Гарэцкім быў напісаны артыкул, Мсціслаўскі раён з'яўляўся адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай Калінінскай акругі.

С. 272. *...у «Выпісах з беларускай літаратуры» ў адрыўку «Патаёмнае».*— Маецца на ўвазе ўрывак з апавядання М. Гарэцкага «Патаёмнае» (1913), які змешчаны ў кнізе: Выпісы з беларускай

літаратуры: Новы і найноўшы кругабегі.— Мн.: Беларускае кааператыўна-выдавецкае таварыства «Савецкая Беларусь», 1923.

С. 274. *«Адвеку мы спалі»* — гл. каментарыі, с. 528.

*...ішоў бай па сцяне...* — Падразумяваецца народная дзіцячая забаўлянка «Бай», змешчаная ў «Лемантары» С. Некрашэвіча, які неаднаразова перавыдаваўся на працягу 20-х гадоў. У «Лемантары»:

*Ішоў Бай па сцяне*
*Ды ў чырвоным жупане;*
*Нёс семера лапцей:*
*І сабе, і жане,*
*І дзяцёнку па лапцёнку.*

С. 275. *...у сувязі з далучэннем да БССР...* — 13—16 сакавіка 1924 г. у Мінску адбыўся VI Надзвычайны з'езд Саветаў Беларусі, які заканадаўча замацаваў узбуйненне тэрыторыі рэспублікі. Да яе адышло 15 паветаў і асобныя валасці Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў (у тым ліку і г. Мсціслаў).

## ЗБІРАННЕ І АПРАЦОЎКА ФАЛЬКЛОРУ (с. 276)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Працы першага Усебеларускага краязнаўчага з'езда 7—11 лютага 1926 года.— Мн.: Выданне Інстытута беларускай культуры (Цэнтральнае бюро краязнаўства. Аддзел V. Серыя V. Кніга 1), 1926 г.

Датуецца 1926 г., згодна з часам правядзення з'езда. М. Гарэцкі з дакладам выступіў на дзённым пасяджэнні 9 лютага.

На з'ездзе была прынята «Рэзалюцыя па дакладзе т. Гарэцкага аб збіранні і апрацоўцы фальклору»:

1. Безадкладна распачаць даследванне беларускага фальклору як у цэнтры, так і на месцах. Распрацоўку плана гэтай працы даручыць Літаратурнай камісіі і Музычнай падсекцыі Інбелкульта.

2. Безадкладна распачаць падрыхтоўку да друку сабраных матэрыялаў, звярнуўшы асаблівую ўвагу на творы з тых мясцовасцей, якія яшчэ не прадстаўлены ў літаратуры данай галіны, і адшукаць для гэтага адпаведныя сродкі.

3. Шчыльней увязаць працу па збіранні фальклору з жыццём, падымаючы мастацкае і грамадскае значэнне фальклору ў вачах рабочых і сялян, арганізуючы народныя хоры, вечарыны з выступленнямі народных спевакоў і г. д.

4. Лічыць патрэбным уцягненне ў працу па збіранні фальклору спецыялістаў, мясцовых культурнікаў, студэнтаў БДУ, Сельскагаспадарчай акадэміі, тэхнікумаў і інш. Для кіравання гэтай працай заклікаць прафесараў БДУ.

5. У працу краязнаўчых арганізацый па збіранні фальклору ўнесці планавасць і сістэматычнасць шляхам заданняў, планаў, картаграм і г. д.

6. Пры збіранні фальклору асаблівую ўвагу звярнуць на збор песняў, гульняў і танцаў для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту.

7. Надрукаваць праграмы і інструкцыі для збірання фальклору як для падрыхтаваных, так і пачынаючых збіральнікаў.

8. Цэнтрам усяе працы па фальклоры лічыць Інбелкульт.

## МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН

### ПУСТАСЛОЎЕ НА ПУСТАСЛОЎЕ...

(с. 280)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1925, 26 лют.

Датуецца годам апублікавання.

Фельетон напісаны як адказ на фельетон Алёшы (сапр. Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч) «Пустаслоўе», які апублікаваны ў «Савецкай Беларусі», 21 лютага 1925 г.

С. 280. *«Гісторыя беларускай літаратуры»* — маецца на ўвазе кніга: Гарэцкі Максім. Гісторыя беларускай літаратуры. Выданне трэцяе, перапрацаванае і дапоўненае разглядам вуснай народнай паэзіі.— М.— Л., 1924.

## БІБЛІЯТЭКА ПАД ЗЯМЛЁЮ (с. 282)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Звезда, 1925, 12 сак.

Датуецца годам апублікавання.

## НАШАНІЎСКІ ПЕРЫЯД У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ (с. 283)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі.— Мн.: Выданне Інстытута беларускай культуры, 1927.

Датуецца 1926 г., згодна часу правядзення канферэнцыі: 14—21 лістапада 1926 г.

М. Гарэцкі з дакладам выступаў 18 лістапада.

У «Пратаколе пасяджэнняў Беларускай Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» даклад мае назву «Нацыянальны адраджанізм і паслякастрычніцкі перыяд».

Пры абгаварэнні дакладаў, у якіх зроблены агляд беларускай літаратуры, У. Дубоўка, напрыклад, адзначыў: «Пажадана, каб прэзідыум канферэнцыі сапраўды пастараўся больш дакладна інфармаваць дэлегатаў канферэнцыі аб сучасным стане беларускай літаратуры. Бо аб стане яе да Кастрычніцкай рэвалюцыі або за першыя гады ўсякі можа азнаёміцца па друкаваных матэрыялах, а аб сучасным перыядзе матэрыялы не друкаваны, а затым дэлегаты могуць атрымаць няпоўнае ўражанне».

Адносна даклада М. Гарэцкага было заўважана наступнае:

**Д. Жылуновіч**

«Апошні (М. Гарэцкі.— *Т. Г.*), пэўна, меў намер зрабіць дасканалы агляд беларускай літаратуры пад ухілам сацыяльнага метаду. Сапраўды ж з гэтага атрымалася няўдала прачытаная лекцыя па палітграмаце. М. Гарэцкі ў гэтай лекцыі хацеў паправіць сваю «Гісторыю беларускай літаратуры», уставіўшы яе на марксісцкі фундамент, але не здолеў належна і дыялектычна зрабіць вывады. Гэтак, у некаторых месцах свайго даклада ён супярэчыць нават з т. Пляханавым, адным з вялікіх марксісцкіх тэарэтыкаў. Таксама т. Гарэцкі, хочучы падмацаваць свой марксісцкі метад прыкладамі з нашаніўскага перыяду, усіх пісьменнікаў [падганяе] пад

рубрыку «нудачы» і незалежнікі. Гэта ўжо занадта «па-марксісцку». Т. Чаржынскі ў сваёй прадмове адкінуў падобныя замахі да галаслоўнасці. Нашаніўскі перыяд безумоўна і фактычна ёсць адным з бліскучых перыядаў жыццёвасці і грамадзянскага натхнення ў гісторыі беларускай літаратуры.

Следам, як бы ў развіццё сваіх новых поглядаў, т. Гарэцкі даводзіць, што зараз наша маладая літаратура выраўнялася з еўрапейскаю, а ранейшая (разумей) была нічога нявартай. Дзеля прыкладу я падкажу на Янку Купалу і на яго збор вершаў «Шляхам жыцця». Ці не складаюць яны найпякнейшых і найдасканальнейшых твораў, якія па сваёй мастацкасці апераджаюць еўрапейскую літаратуру? Нездарма на іх была звернута ўвага і чэшскай, і польскай, і ўкраінскай крытыкі, і нездарма расійскія песняры В. Брусаў, Карынфскі, Белавусаў рабілі пераклады на расійскую мову з гэтага зборніка Янкавых твораў...»

**Я. Пушча**

«Ён (М. Гарэцкі.— *Т. Г.*) зазначыў у сваім дакладзе, што ў сучасны момант нараджаецца дробная буржуазія і адпаведна гэтаму адбываецца дыферэнцыяцыя і сярод пісьменнікаў. Пажадана, каб ён у заключным слове зазначыў, у якой ступені з'яўляецца гэтая дыферэнцыяцыя характэрнай для беларускіх пісьменнікаў і хто з іх у сваёй творчасці адбіў дробнабуржуазныя настроі і імкненні?»

**Д. Жылуновіч**

«На гэты раз я хацеў бы заўважыць аб трох момантах, якія выявіліся ў ранейшых і сённяшніх спрэчках аб дакладах па гісторыі беларускай літаратуры. Па-першае, гэта ўсё ж аб «нашаніўскім шавінізме» М. Гарэцкага. Дзіўлюся, што ў М. Гарэцкага знайшлося смеласці аб гэтым казаць, не маючы на тое жадных падстаў. Няхай ён не забывае, што кіраўніцтва «Нашай нівою» цалкам знаходзілася ў руках сацыял-дэмакратаў, як: А. Навіна, Ян Луцкевіч, А. Бурбіс і інш., і вялікая большасць пісьменнікаў нашаніўцаў таксама належалі да гэтае партыі, як-та: Ц. Гартны, С. Палуян, Ф. Шантыр, А. Гурло, Хв. Чарнушэвіч, Я. Лёсік і да іншых сацыялістычных партый — А. Гарун, Л. Лобік, Л. Гмырак і інш. Як-та магло стацца, як бы яны былі шавіністамі ў час, калі ўвесь беларускі рух укладаўся выключна ў рамкі рэвалюцыйнасці. Гэта тайна тав. М. Гарэцкага, у якога наогул многа цудоўных асабістасцей у падыходзе і да кожнага пісьменніка і да кожнай з'явы ў гісторыі беларускай літаратуры.

Да прыкладу — яго адносіны да М. Багдановіча: чамусьці М. Гарэцкі лічыць, што М. Багдановіч з'яўляецца найвыдатнейшым беларускім пісьменнікам, які характарызуе беларускую літаратуру. Як довад за гэта, т. Гарэцкі апіраецца толькі на мастацкасць М. Багдановіча. Мне думаецца наадварот, што М. Багдановіч выключны пісьменнік, мала звязаны з істотаю беларускай літаратурнай рэчаіснасці. Не адкідаючы яго здольнасці, усё ж трэба заўважыць, што М. Багдановіч унёс у беларускую літаратуру імпрэсіяністычныя ўплывы і ідэалагічны струмень ад тагачаснай заняпалай расійскай літаратуры. М. Багдановіч не меў сувязі з Беларуссю, мала быў знаёмы з сацыяльна-палітычнымі планамі беларускай грамадскасці і нават слаба ведаў беларускую мову. Усё гэта зрабіла так, што ён быў сам па сабе, а беларуская літаратура сама па сабе.

І, нарэшце, некалькі заўваг адносна думак М. Гарэцкага аб герОі майго рамана «Сокі цаліны» — Рыгоры. Па М. Гарэцкаму, гэ-

та не тыповы рабочы; гэткіх рабочых нібы ў Беларусі не было: беларускія рабочыя былі ў той час (гэта ў 1913—[19]14 гг.) цёмнымі, несвядомымі, забітымі. Вось дык дагаварыўся М. Гарэцкі. Скажу смела, што ён у такім разе зусім не ведае беларускіх рабочых, якія да рэвалюцыі 1917 г. складалі сабой авангард у палітычным руху. Беларускія рабочыя па сваёй палітычнай свядомасці пайшлі многа наперадзе ад рабочых фабрычных цэнтраў Расіі. Дазвольце мне знаць гэта як рабочаму, што вынес сярод беларускіх рабочых розных беларускіх гарадоў і мястэчак пяць год працы. Рыгор — тыповы беларускі перадавік-рабочы 1913—[19]14 гг. А бачыць ваду ў асобах рамана таму, што яны аднакава гавораць, па-мойму, недарэчнасць. Агульнасць мовы і сказаў заўсёды з'яўляецца ў пераважнай большасці людзей данай нацыі, данага стану і данага ўзроўню свядомасці, якія гавораць данай мовай. Толькі людзі з ненармальнасцямі іначай, асаблівей ад іншых гавораць. І па-мойму, галоўная адзнака кожнага героя складаецца ў яго ўнутраным складзе-настроі, светапоглядзе, імкненнях ды інш.— і ў яго надворным выглядзе. А гэта ў маім рамане калі і не дасканала, то больш-менш добра выканана».

**Заключнае слова М. Гарэцкага:**

«На заўвагу т. Дубоўкі скажу, што аб творчасці апошніх гадоў я не мог сказаць болей дзеля кароткасці данага мне часу.

На запытанне т. Пушчы скажу, што дробнабуржуазныя настроі часам яшчэ адбіваюцца на творчасці ўсіх нас патроху, бо не можам мы адразу перарадзіцца і выяўляць 100%-ную пралетарскую ідэалогію. Але мы ў значнай меры гарантаваны ад пашырэння такіх твораў, бо ў БССР няма буржуазіі, якая б чытала па-беларуску, і няма таго выдавецтва, якое б друкавала іх.

На заўвагу т. Жылуновіча, што мой даклад быў няўдалай лекцыяй палітграматы, ад якой рабілася яму сорамна, нічога не магу сказаць, бо т. Жылуновіч не паказаў на фактах, у чым была гэтая няўдаласць.

На яго заўвагу, што я нават адвяргаў «самога» Пляханава, скажу, што або т. Жылуновіч недачуў, або я не зусім дакладна сфармуляваў сваю думку, або тут проста нейкае непаразуменне. Аб Пляханаве я сказаў у сувязі з тым месцам у дакладзе праф.[есара] Піятуховіча, дзе гаварылася аб антыэстэтызме твораў Багушэвіча. Я сказаў, што можна *следаваць* Пляханаву і пры разглядзе з боку мастацкасці некаторых нашых сучасных твораў, але ўсё ж такі можам знаходзіць пры гэтым мастацкае значэнне гэтых твораў для *нашага часу*. Магчыма, што непаразуменне стварылася дзеля няўдалай канструкцыі маёй фразы. Меў я на ўвазе «Песні працы і змагання» Ц. Гартнага, «Буралом» З. Бядулі-Ясакара і некаторыя творы маладзейшых паэтаў і пісьменнікаў.

На другую заўвагу т. Жылуновіча скажу, што я не хацеў ні «бараніць» нашаніўцаў, ні «выкрэсліць» іх з гісторыі літаратуры. Я казаў тое, што лічыў патрэбным сказаць, каб зразумець нацыянал-адраджанізм і яго сувязь з паслякастрычніцкім перыядам. Канец свайго даклада я скамечыў таму, што не разлічыў часу, бо звычайна кажу вельмі хутка, а тут казаў павольна па просьбе стэнаграфістак. Таму я і не паспеў сказаць пра «маладзейшых» столькі, колькі сказалася пра «старэйшых».

На заўвагу т. Жылуновіча, што пакрыўдзіў Рыгора Нязвычнага з рамана «Сокі цаліны», ізноў скажу, што Цішка Гартны, як мне здаецца, не дае ў рамане мастацкіх тыпізацый, а спісвае з нату-

ры; і калі натура тыповая, тады выходзіць добра, а не — дык і не. У рамане, безумоўна, ёсць лішнія асобы і няма вельмі патрэбных асоб».

С. 284. *«Гісторыя Беларусі XIX—XX стст.»*— Маецца на ўвазе «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця» (2-е выд., 1926).

С. 285. *«Над Нёмнам»* — упершыню верш надрукаваны ў зборніку «Шляхам жыцця» (1913).

*«Курган»* — фальклорна-рамантычная паэма, напісаная ў 1910 г. Упершыню — Наша ніва, 1912, 21 чэрвеня.

С. 287. *«Маладняк»* — гл. каментарыі, с. 555.

*«Узвышша»* — творчае аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў, якое існавала з 26 мая 1926 г. да снежня 1931 г.

С. 288. *...жменю вершаў, напісаных у 1918 годзе ў надзвычайна прыгожай форме (санеты ў «Спадчыне»)...*— Маюцца на ўвазе вершы, якія ўключаны ў зборнік «Спадчына» (1922): «Для бацькаўшчыны», «Свайму народу», «На сход!», «На прызбе», «Час!», «У вырай», «Пчолы», «Сон», «Званы», «Млечны шлях», «У досвітак», «Забытая карчма», «Буралом», «Спадчына», «Рунь», «Першы снег», «Паязджане» і інш.

*«Тутэйшыя»* — гл. каментарыі, с. 571, 575.

*У 1924 годзе з далучэннем да БССР усходняй Беларусі...*— Гл. каментарыі, с. 558.

*...нізку вершаў «Безназоўнае».*— Маецца на ўвазе зборнік «Безназоўнае» (1925), які адкрываўся вершам «О так! Я — пралетар!..».

Радок *«Мне бацькаўшчынай цэлы свет»*, які М. Гарэцкі цытуе ў артыкуле, у зборніку надрукаваны: *«Мне бацькаўшчына цэлы свет»*.

С. 289. Пра ўсё, што патрабуе тлумачэнне аб жыцці і творчасці Я. Коласа ў дадзеным артыкуле, гл. артыкул «Якуб Колас пасля Кастрычніка», с. 308 і каментарыі да яго, с. 565.

*...«Сокі цаліны», асабліва ў другой частцы, напісанай якраз пасля Кастрычніка...*— Раман Ц. Гартнага «Сокі цаліны» складаецца з чатырох квадраў-кніг, другая кніга — «На перагібе» (1926).

*«Босыя на вогнішчы», «Марына»* — гл. каментарыі, с. 563.

С. 290. Зб. «Песні працы і змагання» (1922) і зб. «Буралом» (1925).

## СМАЛЕНСК — МЕНСК — ВІЛЬНЯ (с. 290)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Звязда, 1927, 9 жн. Змешчаны пад агульнай рубрыкай «Дзесяцігадовы юбілей «Звязды». Падпісаны псеўданімам *Дзед Кузьма.*

Пад тэкстам: 1927 г., Горкі.

С. 290. *Пасля Кастрычніка я жыў у Смаленску і ў самым канцы 1917 г., ці ў самым пачатку 1918 г., пачаў супрацоўнічаць у «Известиях Смоленского Совета».*— М. Гарэцкі жыў у Смаленску з кастрычніка 1917 г. да пачатку студзеня 1919. У газеце «Известия Смоленского Совета» супрацоўнічаў з канца кастрычніка 1917 г. да жніўня 1918 г. У далейшым загадваў рознымі аддзеламі газеты «Звязда» (да 19 красавіка 1919 г.).

*Агалашэнне ў снежні 1918 г. на камуністычнай канферэнцыі ў Смаленску незалежнасці Беларусі...*— 30 снежня ў Смален-

ску адбылася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), якая пастанавіла абвясціць самастойную Сацыялістычную Рэспубліку Беларусь у складзе Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай і Смаленскай губерняў і аб'явіла сябе 1-м з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. 1 студзеня 1919 г. Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі абнародаваў маніфест, які абвяшчаў Беларусь суверэннай Савецкай Рэспублікай і дэклараваў поўнае вызваленне беларускага народа ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

*І яшчэ ў Смаленску, у «Западной Коммуне», а можа быць і ў «Звяздзе», быў змешчаны мой невялічкі артыкул аб Савецкай Беларусі з загалоўкам па-беларуску: «Няхай жыве Савецкая Беларусь!»* — Гл. артыкул «Няхай жыве камуністычная Беларусь [!]», с. 224 і каментарыі да яго, с. 544.

С. 291. *Літоўская тарыба* — Літоўскі савет, орган улады ў Літве, створаны 18—22 верасня 1917 г. Складаўся з прадстаўнікоў розных буржуазных партый, вёў барацьбу супраць Савецкай улады, разам з нямецкімі акупантамі ўдзельнічаў у падаўленні яе ў краіне ў гады грамадзянскай вайны.

С. 292. *...на Вільню наляцелі легіёны пана Пілсудскага.*— Маецца на ўвазе акупацыя горада 21 красавіка 1919 г. войскамі буржуазнай Польшчы, якімі камандаваў «начальнік дзяржавы» Ю. Пілсудскі.

## ТВОРЧАСЦЬ МІХАСЯ ЧАРОТА (с. 292)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Звязда, 1927, 9 і 12 кастр. Змешчаны пад агульнай рубрыкай «Літаратура — крытыка — мастацтва».

Датуецца годам апублікавання.

С. 293. *...У. Ігнатоўскі. «Матывы лірыкі М. Чарота» (выд. 1922 года)...*— Ігнатоўскі У. Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1922.

*А. Б. Рэц.[энзія] на «Выбраныя вершы» («Маладняк», № 10 (1), 1926 г.)...*— Маецца на ўвазе рэцэнзія А. Бабарэкі «Зарунела, зарунела аксамітам».

*Л. Трыер* — адзін з псеўданімаў Плашчынскага Іосіфа Паўлавіча, які найбольш вядомы пад псеўданімам Язэп Пушча. У каментарыях да зборніка: Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы.— Мн.: Маст. літ., 1984, аўтарам рэцэнзіі на паэму «Ленін» памылкова названы Максім Лужанін (Аляксандр Амвросьевіч Каратай), які меў такі ж самы псеўданім.

*Дагэтуль з'явілася ў друку ~ шэсць закончаных паэм: «Босыя на вогнішчы» (1923 г.), «Чырванакрылы вяшчун» (1923 г.), «Ленін» (1924 г.), «Марына» (1925 г.), «Беларусь лапцюжная» (1925 г.) і «Карчма» (1926 г.)...* — Паэмы апублікаваны (адпаведна) — у «Савецкай Беларусі», 1921, 6 лістапада; «Полымі», 1923, № 7—8; 1924, №1(9); 1925, № 2; «Маладняку», 1925, № 6, «Савецкай Беларусі», 1925, 17, 18, 19 ліпеня.

*...нясконч.[аная] повесць «Грышка-свінапас» (пачатая друкам у «Маладняку» з 1923 г.).*— Нясконччаны твор М. Чарота пад назвай «Свінапас» апублікаваны ў часопісе «Маладняк», 1923, № 1; 1924, № 2—3, 4.

*...п'ескі дзеля дзяцей «Пастушкі» (час.[опіс] «Зоркі», № 1 і 2)...*— П'еска «Пастушкі» надрукавана ў часопісе «Зоркі», 1921, № 1—2.

*Музыкальная драма «На Купалле» ішла шмат разоў у Дзяржаўным тэатры з вялікім поспехам, але ў друку не была.*— Прэм'ера спектакля ў выкананні артыстаў Беларускага дзяржаўнага тэатра адбылася 20 лістапада 1921 г. Пад назвай «Кветка шчасця» ў жніўні 1923 г. ставілася ў Маскве.

Тэкст п'есы «На Купалле», адноўлены артыстамі К. Пуроўскім і К. Кулаковым, апублікаваны ўпершыню Т. С. Дабралюбавай у часопісе «Полымя», 1982, № 2.

С. 294. *...А. Бабарэка (гл. яго рэферат на Першым Усебеларускім з'ездзе «Маладняка», 25.XI.1926 г. «Бюлетэнь з'езда», стар. 63).*— Першы Усебеларускі з'езд «Маладняка» праходзіў з 25 да 29 лістапада 1926 г. А. Бабарэка выступіў з дакладам «Творчы шлях «Маладняка». (Бюлетэнь 1-га Усебеларускага з'езда «Маладняка».— Мн.: Выданне ЦБ «Маладняка», 1926.)

С. 296. *...рэц.[энзію] Л. Каплана ў «Савец.[кай] Беларусі», № 294 за 1926 г.).*— Названы нумар газеты выйшаў 25 снежня. Рэцэнзія змешчана пад загалоўкам «Сіла перамагла сілу».

## ТВОРЧАСЦЬ Я. НЁМАНСКАГА (с. 301)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1927, 9 і 12 кастр.

Датуецца годам апублікавання.

С. 301. *...ды ў рэцэнзіях на зборнік «На зломе» (напр.[ыклад] «Полымя», № 1, 1926 г.).*— У часопісе «Полымя» надрукавана рэцэнзія М. Байкова, якая змешчана ў раздзеле «Кнігапіс».

С. 305—306. *«Паўлінка»* (1912), *«Раскіданае гняздо»* (1919), *«У палескай глушы»* (1921—1922), *«Сокі цаліны» (1914—1929)*, *«Цемент»* (1925), *«Мать»* (1906—1907).

С. 308. *...статэчны (стар. 132), але гэта ў мове Ядзі...*— Прыведзенае аўтарам артыкула слова належыць Гукоўскаму, а не Ядзі. У Я. Нёманскага: — *Калі нельга людзям паказацца ў статэчным выглядзе — то хоць дома трэба пабыць чалавекам. Ці ж ты нездаволена будзеш, калі я табе скажу, што хачу табе даставіць прыемнае?*

*Андуфэльт* — слова, якое мае зневажальны, абразлівы адценак.

*Усцішша* — страх.

*Спонкі* — кнопкі.

*Бома* — вялікі кол з зачэсаным плоскім канцом (у лесарубаў, плытагонаў); вага, рычаг.

*Кангаз* — на ўказанай М. Гарэцкім старонцы — адсутнічае. Ёсць слова *канчар*, што абазначае канец чаго-небудзь. У тэксце Я. Нёманскага гэта канец ланцуга.

На 167 старонцы зборніка ёсць слова *сумелася*. У названым аўтарам слове — *сумелая* — дапушчана, відаць, друкарская памылка.

Памылкова названы аўтарам артыкула старонкі: *настаяшчы (135)* — патрэбна 130, *усцішша (167)* — слова сустракаецца на 90, 101, 107, 116, 185 старонках..., *асабіста (17)* — патрэбна *171*, *астатнія (171)* — патрэбна 120.

*...спадабаецца (зам.[ест] падабаецца, стар. 160, у мове Ядзі)...*— Прыведзенае слова сустракаецца ў мове Гукоўскага, а не Ядзі. У Я. Нёманскага: — *Ну, як табе спадабаецца, Ядзечка?*

## ЯКУБ КОЛАС ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА (с. 308)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Звязда, 1927, 23 кастр. Змешчаны пад агульнай рубрыкай «Літаратура — крытыка — мастацтва». Падпісаны крыптанімам *М. Г.*

Датуецца годам апублікавання.

С. 308. *У пачатку 1918 г. Якуб Колас быў адпушчаны з войска як настаўнік.*— З 20 верасня 1917 г. Я. Колас атрымаў вайсковы адпачынак па стане здароўя «(жаўтачка, ліхаманка, пачатак працэсу ў лёгкіх)» [1], жыў з сям'ёй у г. Абаянь Курскай губерні. Вызвалены ад вайсковай службы як настаўнік ён быў у пачатку 1918 г. па дэкрэту Савецкага ўрада. У гэты час Я. Колас знаходзіўся на працы недалёка ад Абаяні.

*...калі прыйшоў Дзянікін, ён мусіў уцякаць і хавацца.*— У сувязі з наступленнем дзянікінскіх войск (да 26 лістапада 1919 г.) Я. Колас разам з сям'ёй пераехаў з сяла Ліпавец, дзе выконваў абавязкі сакратара камуністычнай ячэйкі, у г. Абаянь, па той прычыне, што ў горадзе было лягчэй схавацца сярод людзей. Пасля таго як у лістападзе Абаянь і Ліпавец былі вызвалены ад белагвардзейцаў, Я. Колас вярнуўся на ранейшае месца працы.

С. 309. *...У Менску выйшла з друку паэма «Сымон-музыка» (першыя тры часткі).*— Маецца на ўвазе асобнае выданне паэмы, якое выйшла ў Мінску ў 1918 г. з надзагалоўкам: Казка жыцця. Паэма ў 6-ці ч. Сш. 1-шы, ч. 1, 2, 3.

*...абразка, надрукаванага ў «Дзянніцы».*— Маецца на ўвазе апавяданне М. Гарэцкага «Знібее сэрца», апублікаванае ў «Дзянніцы», 1918, 7 лістапада.

*... быў школьным інструктарам.*— На пасаду раз'язнога школьнага інструктара Альшанскай і Пярэсыпскай валасцей Абаянскага павятовага аддзела народнай асветы Я. Колас зацверджаны 12 лютага 1920 г.

*У 1919—1920 гадах творы яго друкуюцца нумарах у двух «Дзянніцы».*— У «Дзянніцы», 1919, 16 студзеня змешчаны вершы «Сябру-бедаку», «У дарозе» («Не прытульна, невядома»), «Навальніца» («Не пужайся, чалавеча»); алегарычнае апавяданне «Чортаў камень» апублікавана ў «Беларускай думцы», 1919.

*А напісаў ён у 1919—1920 гадах, за два гады, апрача некалькіх лірычных вершыкаў, усяго два раздзелы «Новай зямлі» («Зіма ў Парэччы» і «На рэчцы»).*— 22 кастрычніка 1919 г. напісаны вершы «На чужыне» і «Год за годам уцякае...»; 25 снежня — «Дай зірну ў сваё ваконца...». У гэтым жа годзе напісаны 18-ты раздзел паэмы «Новая зямля» — «Зіма ў Парэччы» і верш «У імгле». 19-ты раздзел паэмы «Новая зямля» — «На рэчцы» — напісаны ў лютым 1920 г.; верш «Ну, якіх жа прыгод...» — 22 кастрычніка.

*У травені месяцы 1921 г., з дапамогаю Народнага каміса-*

---

[1] Тут і ў далейшым звесткі аб жыцці і творчасці Я. Коласа ўдакладнены па кнізе: Мушынскі М. І. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці.— Мн.: Маст. літ., 1982.

*рыята асветы БССР, Якуб Колас пераязджае нарэшце ў Менск...*— У Мінск Я. Колас вяртаецца 15 мая.

*...яго родная вёска засталася пад Польшчаю...*— Відаць, маецца на ўвазе засценак Акінчыцы (вёска, дзе нарадзіўся Я. Колас), які ў складзе заходніх раёнаў Беларусі, паводле Рыжскага мірнага дагавора, ад 18 сакавіка 1921 г., застаўся пад уладай буржуазнай Польшчы.

*У 1921 г. творы Якуба Коласа друкуюцца ў «Вольным сцягу» (працяг «Сымона-музыкі»)...*— Маюцца на ўвазе другі — пяты раздзелы апошняй (пятай) часткі паэмы, апублікаваныя ў «Вольным сцягу», 1921, № 3, 4.

*...яшчэ ў «Зорках»...*— «Зоркі», 1921, № 1 — апавяданне «Страшнае спатканне»; № 3 — вершы «Спатканне і знаёмства», «Храбры певень», апавяданне «Наталька, Джон і муха»; № 4 — верш «Юрка і кот», апавяданне «Рыбакі»; № 6 — апавяданне «Чоран».

*«Казкі жыцця»* (1921).

*...спяшаецца дапісаць старыя рэчы («Новую зямлю»)...*— У 1921 г. Я. Колас напісаў сем раздзелаў паэмы: 9 («Новы ляснічы»), 10 («На панскай службе»), 13 («Падгляд пчол»), 21 («Таемныя гукі»), 22 («На глушцовых токах»), 23 («Панская пацеха»), 24 («Вялікдзень»).

*...(«У палескай глушы»)...*— Маюцца на ўвазе 1—7 раздзелы аповесці, апублікаваныя ў «Вольным сцягу», 1921, № 6.

С. 310. *«Хаім Рыбс»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1921, 21, 25 і 28 верасня.

*У 1922 г. ~ «Курская анамалія», напісаная ў Менску ў глыбокую восень...*— Магчыма, дата напісання апавядання «Курская анамалія» М. Гарэцкім названа памылкова. Вядома, што Я. Колас прачытаў яго 2 снежня 1923 г. на пасяджэнні навуковага таварыства пры БДУ, прысвечанаму творчасці пісьменніка. Упершыню апублікавана апавяданне ў «Полымі», 1924, № 2 (10).

*...частка аповесці «У палескай глушы».*— Відаць, маюцца на ўвазе 8—25-ты раздзелы аповесці, апублікаваныя ў 1922 г. у весніку Інбелкульта «Адраджэнне», сш. 1.

С. 310—311. *«Крывавы вір», «Дачакаўся», «Сяргей Карага»* — упершыню — Полымя, 1923, адпаведна — № 7—8, № 5—6, № 3—4; падпісаны псеўданімам *Тарас Гушча.*

С. 311. *У 1924 г. выходзяць зборнікі даўніх і новых апавяданняў Якуба Коласа: «На рубяжы», «У ціхай вадзе», «Крок за крокам», «Першыя крокі»...*— Усе пералічаныя зборнікі выйшлі з друку ў 1925 г.

*...ў «Маладняку» друкуецца яго цікавая казка «Што яны страцілі?»...*— Маладняк, 1924, № 2—3.

С. 312. *«Пракурор»* — упершыню — Полымя, 1925, № 3; падпісана псеўданімам *Тарас Гушча.*

*«Туды, на Захад»* — упершыню апублікавана ў зборніку «На прасторах жыцця» (1926). Пазнейшая назва апавядання «Туды, на Нёман!».

*...першую частку аповесці «На прасторах жыцця» («На пarозе»)...*— Апублікавана ў «Полымі», 1925, № 7.

*«Царскія грошы», «Называецца зарабіў»* — упершыню — Беларуская вёска, 1925, адпаведна — 18 жніўня, 11 верасня; падпісаны псеўданімам *Тарас Гушча.*

*«З боку ад жыцця»* — упершыню апавяданне надрукавана пад назвай «З боку жыцця» ў газеце «Беларуская вёска», 1925, 9 кастрычніка; падпісана псеўданімам *Тарас Гушча.*

*«Агатка»* — упершыню — Беларуская вёска, 1925, 25 снежня; падпісана псеўданімам *Тарас Гушча.*

*У гэтым жа годзе напісаў ён «Казкі жыцця» — «Ноч, калі зацвітае папараць» і «Купальскія светлячкі».*— Маюцца на ўвазе алегарычныя апавяданні «Ноч, калі папараць цвіце» і «Купальскія светлякі», якія ўпершыню апублікаваны ў другім дапоўненым выданні зборніка «Казкі жыцця» (1926). У «Змесце» зборніка першае апавяданне памылкова названа: «Ноч, калі зацвітае папараць». 28 мая 1925 г. у Інбелкульце на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы, Я. Колас чытаў апавяданне пад назвай «Ноч, калі цвіце папараць».

*...з'езд настаўнікаў-беларусаў, што быў 9-га ліпеня (ст. ст.) 1906 г. За падобную рэвалюцыйную дзейнасць і сам аўтар пасядзеў у астрозе 3 гады.*— Нелегальны настаўніцкі з'езд адбыўся 9—10 ліпеня 1906 г. у вёсцы Мікалаеўшчына. За ўдзел у з'ездзе і нелегальную работу Я. Колас, паводле прыгавору судовага пасяджэння Віленскай судовай палаты ў Мінску ад 15 верасня 1908 г. (прыгавор у канчатковай форме аб'яўлены 19 верасня), засуджаны на 3 гады зняволення (адбываў у Мінскім астрозе).

*Напісаў вершаваную казку «Рак-вусач» (друкавалася ў «Белар.[ускай] вёсцы»)...*— Упершыню вершаваная казка апублікавана ў «Беларускім піянеры», 1926, № 4—7.

*Напісаў ~ колькі раздзелаў аповесці «У глыбі Палесся»...*— Відаць, маюцца на ўвазе ўрыўкі з аповесці, змешчаныя ў «Асвеце», 1926, № 1 пад загалоўкамі «Рэдактар», «Панямонскія ведамасці», «Па мястэчку» «Трохі фантастыкі».

*Напісаў ~ частку паэмы «На шляхах волі».*— Урывак з паэмы «Ідуць роты мерным крокам» надрукаваны ў «Савецкай Беларусі», 1926, 23 лютага; 2-гі раздзел паэмы апублікаваны ў «Полымі», 1926, № 3.

*...Савет Народных камісараў Беларусі падкрэсліў яго заслугі ў рэвалюцыйным руху на Беларусі і надаў званне народнага паэта рэспублікі.*— Пастанова СНК БССР прынята 18 кастрычніка 1926 г.

С. 314. *«Калектыў пана Тарбецкага»* — упершыню — Полымя, 1926, № 4; падпісана псеўданімам *Тарас Гушча.* Пазнейшая назва апавядання «У двары пана Тарбецкага».

## ПЭЎНЫ ГВАЛТ (с. 315)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Савецкая Беларусь, 1927, 13 лістап.

Датуецца годам апублікавання.

С. 315. *...драма «Зьмітрок з Высокай Буды» (друк.[авалася] у «Вольн.[ай] Белар.[усі]», 1918 г.)...*— Вольная Беларусь, 1918, 29 верасня, 6 і 13 кастрычніка.

*...вершы «Крылан»...*— Вызначэнне жанру твора ў альманаху — паэма.

*...драма з жыцця Францыска Скарыны...*— Гістарычная п'еса М. Грамыкі «Скарынін сын з Полацка» пастаўлена Першым Бе-

ларускім дзяржаўным тэатрам у 1926 г. пад назвай «Скарына — сын з Полацка».

*...вершы «Гвалт над формаю»...* — У часопісе пад назвай твора пазначана: нібы паэма.

*Скуткі* — вынікі.

С. 316. *«Двенадцать»* (1918).

*«Босыя на вогнішчы»* — гл. каментарыі, с. 563.

*«Варожба»* (1914), «засцянковая аповесць» у вершах; упершыню — Вольная Беларусь, 1917, 19 лістапада.

## АБ ТВОРЧАСЦІ МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА (с. 317)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Звязда, 1927, 13 лістап. Змешчаны пад агульнай рубрыкай «Літаратура — крытыка — мастацтва».

Датуецца годам апублікавання.

С. 317. *«Сцежкі-дарожкі»* — упершыню— Полымя, 1927, № 1—7.

*«Чаплюк»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 15 лютага.

*«Мар'я»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 25 лютага, 1, 2, 3 сакавіка.

*«Бацькаў сын»* — упершыню — Беларускі піянер, 1924, № 1.

*«Ворагі»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 19—24, 26—28 чэрвеня.

*«Адна партыя ў шашкі»* — упершыню — Полымя, 1924, № 4 (12).

*«42 дакументы»* — упершыню — Маладняк, 1925, № 9.

*«У Саўках»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1922, 29 снежня.

*«Ноччу»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 29—31 сакавіка, 1 красавіка.

С. 318. *«У віры жыцця»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 14, 16, 17 студзеня.

*«Цішка Бабыль»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1922, 19, 22 лістапада.

*«Гануля»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1924, 21, 22 сакавіка.

*«На маладое»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1924, 23—26, 28, 30 кастрычніка, 1, 2, 5 лістапада.

*«Бель»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1924, 4—8, 10, 12, 13, 15, 17, 19 чэрвеня.

*«Дзіўная»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1925, 18, 19, 21, 22 лютага.

*«Спакуса»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1923, 24 лютага.

*«У велікодную ноч»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1925, 18 красавіка.

*...апав.[яданне] «Голы звер»...* — Жанравае вызначэнне твора — аповесць. Упершыню апублікавана ў аднайменным зборніку М. Зарэцкага, які выйшаў у 1926 г.

*«Двое Жвіроўскіх»* — упершыню — Маладняк, 1926, № 12 (3).

*«Кветка пажоўклая»* — упершыню — Полымя, 1925, № 5.

*«Смерць»* — упершыню апублікавана ў зборніку М. Зарэцкага «Пад сонцам» (1926).

*«Як Настулька камсамолкай зрабілася»* — упершыню — Маладняк, 1925, № 7.

С. 321. ...*піша Я. Кудзер у рэц.[энзіі] на збор.[нік] «Пела вясна»*...— Савецкая Беларусь, 1925, 11 кастрычніка.

С. 321—322. *Аўтар фельетона аб апов.[есці] «Голы звер», нейкі П. Б.* ...— Гаворка ідзе пра артыкул «Голы звер» Міхася Зарэцкага, апублікаваны ў газеце «Савецкая Беларусь», 1926, 12 жніўня за подпісам *П. Б.*

## [ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА XI З'ЕЗДУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ] (с. 322)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Стэнаграфічная справаздача.— Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1928, дзе змешчана ўпершыню.

Датуецца лістападам 1927 г., згодна даты правядзення XI з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, які праходзіў з 22 да 29 лістапада 1927 г.

М. Гарэцкі з прывітальным словам ад імя навуковых супрацоўнікаў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі выступіў 26 лістапада.

С. 322. ...*праф.[есар] Фралоў*...— Член дэлегацыі ад Сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках.

## БЕЛОРУССКАЯ ЛИТЕРАТУРА (с. 324)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Октябрь, 1928, № 4.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул надрукаваны з наступнай заўвагай ад рэдакцыі: «Максим Горецкий — известный белорусский критик и беллетрист. Им написаны: «Гісторыя беларускай літаратуры» (единственная книга на эту тему, являющаяся пособием в белорусских школах), сборники рассказов «На імперыялістычнай вайне», «Ціхія песні», «Досвіткі» и ряд других произведений. М. Горецкий не входит ни в одно из существующих в Белоруссии лит.[ературных] объединений. В изданиях «Молодняка» печатаются его статьи и рассказы. Кроме печатаемого общего очерка о белорусской литературе, в «Октябре» будет помещена в ближайших №№ статья, посвященная творчеству белорусского «Молодняка», входящего в ВАПП».

С. 325. ...*в известном Литовском статуте (рукописные издания 1529 и 1566 гг. и печатное издание 1588 г.)*.— Маюцца на ўвазе першы, другі і трэці Статуты Вялікага княства Літоўскага, якія з'яўляліся зборамі законаў тагачаснага (феадальнага) права краіны.

*Літоўскі статут* — выдатны помнік культуры беларускага і літоўскага народаў.

...*повесть о Трое, Александрии, истории об Атилле, короле угорском, повесть о славном рыцаре Тристане, повесть о Бове*...— Маюцца на ўвазе рыцарскія ананімныя раманы антычнага цыкла свецкай перакладной літаратуры Беларусі XVI—XVII стагоддзяў — «Аповесць аб Троі», «Александрыя», «Аповесць аб Трышчане», «Аповесць аб Баве» і гістарычная аповесць «Гісторыя аб Атыле, каралю ўгорскім».

*Реформация* — гл. каментарыі, с. 556.

*...памятники общественной сатиры (например, «Речь Ивана Мелешко»).*— «Прамова Мялешкі» — найбольш значны ананімны твор палітычнай сатыры другой чвэрці 17 стагоддзя.

С. 326. *...Франциск Скорина (приблизительно 1490—1550 гг.).*— Гл каментарыі, с. 557.

*...а к 1525 году основывает он в Вильне первую во всей восточной Европе типографию.*— Францыск Скарына вярнуўся з Прагі ў Вільню каля 1520 г. Друкарня ім абсталявана, відаць, да 1522 г., бо прыблізна ў гэты час ужо была выдадзена «Малая падарожная кніжка», а ў 1525 г.— «Апостал».

*...Василий Тяпинский (около 1540—1603 гг.)...*— Па апошніх дадзеных прыводзяцца наступныя гады жыцця: 1530-я або пачатак 1540-х — 1603 (?).

*...по закону белорусский язык был государственным языком в Литве и Белоруссии до конца XVII в. ...*— Афіцыйнае прызнанне беларуская літаратурная мова таго часу атрымала ў 14 стагоддзі і выконвала функцыі агульнадзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. Была забаронена для афіцыйнага ўжытку рашэннем сейма 1696 г.

*...(до первого раздела Польши)...*— Маецца на ўвазе першы раздзел Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў 1772 г.

*...Витúя* — прамоўца, надзелены талентам красамоўства.

*...Леон Карпович в Вильне (1581—1620).*— Па апошніх дадзеных прыводзяцца наступныя гады жыцця: 1580—1620.

*...трехактная комедия второй половины XVIII в., написанная Каэтаном Морашевским...*— Відаць, маецца на ўвазе «Камедыя», напісаная ў стылі школьнага класіцызму на беларускай і польскай мовах у 1787 г.

*Театр марионеток* — лялечны тэатр.

*Батлейка, вертеп* — гл. каментарыі, с. 537.

*«Царь Максимильян»* — народная драма пачатку XVIII стагоддзя. У 1924 г. была сыграна Беларускай мастацкай студыяй у Маскве. Другім беларускім тэатрам (БДТ-2) пастаўлена ў канцы лістапада 1926 г. у Віцебску.

С. 327. *...присоединение Белоруссии к Российской империи...*— Маецца на ўвазе ўз'яднанне Беларусі з Расіяй у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай: у 1772 г., 1793 г. і 1795 г.

*В начале века выходит, по примеру украинской «Энеиды навыворот», белорусская Энеида...*— Паэма ўкраінскага пісьменніка І. Катлярэўскага мела назву «Энеіда» (1794—1809). Пад яе ўплывам напісаны беларускія ананімныя творы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» (Гл. таксама каментарыі, с. 529, 539.)

*...авторство которой одними приписывается ~ Томашу Маньковскому.*— Аўтарства беларускай ананімнай паэмы «Энеіда навыварат» прыпісвалася Манькоўскаму Ігнату Антонавічу (каля 1765—1832), аднак новыя даследаванні гэтага не пацвярджаюць.

*...Яна Борщевского (1790—1851)...*— Па апошніх дадзеных прыводзяцца наступныя гады жыцця; 1790 ці 1796—1851.

*...Яна Чечота (1797—1847).*— Па апошніх дадзеных прыводзяцца наступныя гады жыцця: 1796—1847.

*...выдержавшую три издания за границей (последнее — в Лондоне в 1835 г.) балладу «Нячысцік»...*— Першае выданне — Парыж, 1852, другое — Познань, 1853.

*...Викентий Дунин-Марцинкевич (1807—1884)...*— Гл. каментарыі, с. 547.

С. 328. *...приближающихся реформ 60-х годов и подготовки восстания 1863 г. ...*— Маецца на ўвазе рэформа адмены прыгоннага права на Беларусі (1861), якая абумовіла неабходнасць іншых рэформ дзяржаўнага ладу: школьную рэформу (1864), цэнзурную рэформу (1865), судовую рэформу (1866) і г. д.

Паўстанне на Беларусі і Літве, кіраўніком якога быў Кастусь Каліноўскі, адбылося ў 1863—1864 гг.

*...повстанец-революционер Константин Калиновский, казненный Муравьевым-Вешателем...*— Віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў, які патапіў паўстанне 1863—1864 гг. у моры крыві, быў празваны сучаснікамі «вешацелем». К. Каліноўскі па яго загаду быў павешаны ў Вільні 10 сакавіка 1864 г.

*...издавал в 1863 г. в Белостоке подпольную белорусскую газету «Мужицкая правда».*— Газета выходзіла ў розных мясцовасцях Гродзенскай губерні, куды ў той час уваходзіла і частка сённяшняй Беласточчыны (ПНР).

*...(в 1886 г. вышла его грамматика белорусского языка)...*— Відаць, маецца на ўвазе кніга: Карский Е. Обзор звуков и форм белорусской речи. М., 1885.

С. 329—330. *...Антон ~ судимый в настоящее время в Польше по делу Белорусской рабоче-крестьянской громады.*— З 23 лютага да 22 мая 1928 г у Вільні праходзіў судовы працэс над кіраўнікамі і актывістамі Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ, масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя ў Заходняй Беларусі ў 1925—1927 гг.), які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «працэс 56». Нягледзячы на тое, што Антон Луцкевіч быў прыцягнуты да суда ўладамі буржуазнай Польшчы, да турэмнага зняволення ён прыгавораны не быў, бо «не з'яўляўся членам Грамады» [1]. (Гл. таксама ніжэй.)

С. 331. *После Октября им написана комедия «Тутэйшыя», т. е. «Здешние».*— Сатырычная камедыя завершана Я. Купалам 31 жніўня 1922 г. (гл. таксама каментарыі, с. 575).

*В настоящее время Белорусское государственное издательство печатает полное Собрание его сочинений...*— Маецца на ўвазе Збор твораў у пяці тамах (1925—1932).

У кнізе, названай аўтарам у зносцы, пераклады К. Д. Бальмонта адсутнічаюць. Тэксты вершаў складаюць 112 старонак.

*«Новая зямля», «Сымон-музыка»* — гл. каментарыі, с. 576.

*...повести из 90-х и 900-х годов: «В полесской глуши» и «В глуби Полесья».*— Маюцца на ўвазе 1-я і 2-я часткі трылогіі «На ростанях». Першая выйшла ў 1923 г., другая ў 1927.

С. 332. *...Максима Богдановича (1892—1917).*— Дакладныя гады жыцця М. Багдановіча: 1891—1917. Гл. таксама каментарыі, с. 546.

*...Ядвигин Ш. (Антон Левицкий, 1866—1922)...*— Дакладныя гады жыцця пісьменніка: 1868—1922.

С. 333. *Начиная с 1921 г., по окончании войны...*— Маецца на ўвазе заканчэнне грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі.

*«Босые на пожарищах» ~ написанная и напечатанная в*

---

[1] Казбярук У. На крутых паваротах гісторыі.— Літ. і мастацтва, 1989, 2 чэрв.

*1922 г.*— Паэма «Босыя на вогнішчы» напісана і надрукавана ў 1921 г. У 1922 г. твор выдадзены асобнай кніжкай. (Гл. каментарыі, с. 563.)

С. 333—334. *В этом же году осенью вышел первый номер толстого литературного белорусского журнала «Полымя», с большой полемикой об этой поэме.*— Часопіс «Полымя», 1922, № 1 выйшаў у снежні. У ім змешчаны артыкул З. Жылуновіча (Ц. Гартнага) «Аб крытыцы «Босыя на вогнішчы» і яшчэ аб саміх «Босыя на вогнішчы» М. Чарота».

С. 334. *Осенью 1926 г. часть молодняковцев выходит из «Молодняка» ~ и создает новую организацию — «Узвышша»...*— Літаратурнае аб'яднанне «Узвышша» створана 26 мая 1926 г. у выніку першага выхаду з «Маладняка» групы пісьменнікаў.

М. Гарэцкі неаднаразова ў сваіх артыкулах упамінае, што «Узвышша» створана *восенню 1926 г.* Пісьменнік лічыць, відаць, датай аснавання літаратурнай арганізацыі не дзень расколу «Маладняка» (26 мая 1926 г.), а час, з якога яна пачала дзейнічаць як сфармаваная арганізацыя (вырасла колькасна, выпрацавала свой «Камунікат...» — апублікаваны ў газеце «Савецкая Беларусь», 1926, 15 снежня, пачала рыхтаваць да друку часопіс «Узвышша» — першы нумар выйшаў у пачатку 1927 г. ...).

*«Белорусская литературная коммуна»* — «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна», літаратурнае аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў у Мінску. Існавала з верасня 1927 г. да красавіка 1928. Створана ў выніку выхаду з «Маладняка» групы маладых пісьменнікаў.

*...напоминающих отчасти русских лефовцев.*— ЛЕФ, Левы фронт мастацтваў, літаратурна-мастацкая група. Існавала ў Маскве ў 1922—1929 гг.

*«Молодняк» на последнем своем съезде, в начале 1928 г., постановил войти в ВАПП.*— Рашэнне аб уваходзе «Маладняка» ва Усесаюзную асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў было прынята на Усесаюзнай канферэнцыі «Маладняка», якая адбылася ў Мінску 15—18 лютага 1928 г. У артыкуле канферэнцыя памылкова названа з'ездам.

С. 335. *...грамматика Тарашкевича...*— «Беларуская граматыка для школ» (1918).

*...Тарашкевича, судимого в настоящее время в Польше по делу Белорусской рабоче-крестьянской громады.*— Паводле прыгавору ад 22 мая 1928 г. па справе кіраўнікоў і актывістаў грамады (гл. вышэй), Б. Тарашкевіч як старшыня Цэнтральнага Камітэта БСРГ быў асуджаны на 12 гадоў турэмнага зняволення.

Прыцягнутых да адказнасці абвінавачвалі ў тым, што яны «ў перыяд ад 1926 да паловы студзеня 1927 г. прымалі ўдзел у змоўніцкай арганізацыі пад назвай Беларуская сялянска-рабочая грамада, заснаванай з мэтай ажыццяўлення замаху на ўстаноўлены законным шляхам дзяржаўны лад Польшчы, а таксама на цэласнасць яе тэрыторыі праз увядзенне дыктатуры пралетарыяту, савецкага ладу і адрыву ад Польшчы з дапамогай паўстання паўночна-ўсходніх ваяводстваў, далучэння іх да Савецкай Расіі; прычым для ажыццяўлення гэтай мэты мелі склады са зброяй» [1].

С. 336. *«Ленін», «Марына», «Карчма»* — гл. каментарыі, с. 563.

---

[1] Палуян У. А. Беларуская сялянска-рабочая грамада.— Мн.: Навука і тэхніка, 1967. С. 193.

*«Салавей»* — упершыню аповесць надрукавана ў часопісе «Узвышша», 1927, № 1, 2, 3, 4.

*«Сокі цаліны».* — гл. каментарыі, с. 562, 564.

*Несколько хороших революционных стихотворений написал в тюрьме в Вильне молодой поэт Сологуб.*— У 1924 і 1927 гг. за ўдзел у рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі А. Салагуб быў пасаджаны ў віленскую турму Лукішкі. Зборнік вершаў пад назвай «Лукішкі» выдадзены ў Мінску ў 1929 г.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПАСЛЯ «НАШАЙ НІВЫ» (с. 336)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Маладняк, 1928, № 4.

Пад тэкстам дата: 29.II.1928 г.

Артыкул апублікаваны з заўвагай ад рэдакцыі: «Рэдакцыя не згаджаецца з дадзенай аўтарам ацэнкай некаторых пісьменнікаў».

С. 337. *...«Песні вайны» (гл. збор.[нік] «Спадчына»)...*— Цыкл антываенных вершаў Я. Купалы «Песні вайны» напісаны ў 1914 г.; па раздзелах упершыню апублікаваны ў «Нашай ніве», 1914, 2, 5, 9, 21, 23 кастрычніка, 1, 6, лістапада, 18, 25 снежня; цалкам уключаны ў зборнік «Спадчына», які выйшаў у 1922 г.

*«За што лілася кроў людская?»* — Першы радок верша Я. Коласа «Ворагам» (1916); упершыню — Вольная Беларусь, 1917, 23 лістапада.

*«Волат», «Ад крыві чырвонай», «Арліхі», «Рассеяўся туман», «Кат»* — вершы З. Бядулі, апублікаваныя ўпершыню ў газеце «Наша ніва», адпаведна — 1914, 25 верасня, 9 кастрычніка, 16 кастрычніка, 12 снежня; 1915, 13 лютага; падпісаны псеўданімам *Ясакар*.

*Алесь Гарун і Язэп Лёсік, што былі тады ў высланні ў Сібіры.*— Алесь Гарун быў арыштаваны ў 1907 г. за антыўрадавую дзейнасць і сасланы ў Іркуцкую губерню. Язэп Лёсік сасланы ў Сібір у 1906 г. за ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг. У Беларусь яны вярнуліся ў 1917 г.

С. 338. *«На Антокалі»* (1914—1915), *«Манька»* (1917), *«Базылішк»* (1917).

*«На прызбе»* (1918, 1924).

*«Граматыка беларускай мовы»* (1918).

С. 339. *...наладзіць працу ў Ленінградзе...*— У дадзеным артыкуле і некаторых наступных ідзе гаворка аб часе, у які *г. Ленінград* меў назву *Петраград*. На 2-м з'ездзе Саветаў СССР (26 студзеня — 2 лютага 1924 г.) Петраград быў перайменаваны ў Ленінград у гонар увекавечання памяці У. І. Леніна. Відаць, гэтай прычынай і тлумачыцца выкарыстанне апошняй назвы горада М. Гарэцкім.

С. 340. *З восені 1916 г. тут жыў Багдановіч, але вясною 1917 г. ён пакідае працу назаўсёды...*— М. Багдановіч жыў у Мінску з верасня 1916 г. да лютага 1917. Цяжкахворым ён паехаў адсюль на лячэнне ў Ялту, дзе і памёр 25 мая 1917 г.

*У 1917 г. беларусы спраўлялі 400-годдзе беларускіх выданняў, што выдаў Францыск Скарына ў Празе, у Чэхіі...*— Гл. артыкул «Доктар Францыск Скарына», с. 199 і каментарыі да яго, с. 539.

*У канцы месяца лютага 1918 г. немцы забралі Менск і потым пасунуліся далей, аж да Оршы.*— Мінск быў захоплены ў першыя дні наступлення германскіх і аўстра-венгерскіх дывізій, якое пачалося 18 лютага. Наступленне ворага на лініі Орша — Магілёў — Гомель спынена к пачатку сакавіка 1918 г. Савецкая рэспубліка не мела сіл, каб абараняцца, і мусіла 3 сакавіка падпісаць грабежніцкі Брэсцкі мір, паводле якога большую частку Беларусі захапіла Германія. Мінск быў вызвалены Чырвонай Арміяй 10 снежня 1918 г. (Гл. таксама каментарыі, с. 542.)

С. 341. *Гарун, як вядома, памёр у Кракаве, таксама ў 1920 г., змагаючыся супроць Савецкай Расіі.*— Алесь Гарун памёр у Кракаве 20 ліпеня 1920 г. Аднак звесткі пра яго змаганне «супроць Савецкай Расіі», як гэта высветлілася ў апошніх даследаваннях [1], памылковыя. На той час, калі М. Гарэцкі пісаў артыкул, яму, як і шырокай грамадскасці, не было вядома, што на самай справе А. Гарун вёў падпольную барацьбу супраць польскіх акупантаў. У Польшчу пісьменнік быў вывезены цяжкахворым пры адступленні войск праціўніка з Мінска на пачатку ліпеня (да 11) 1920 г.

*«Зажынкі»* — зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў, якія выйшаў у 1918 г. у Маскве.

С. 342. *А ў пачатку 1919 г. блізу ўся Беларусь пабыла ў кучы, «адзіная і недзялімая», савецкая, в абвешчанаю незалежнасцю.*— Гл. каментарыі, с 562—563.

*Потым пачынаецца польская акупацыя.*— Наступленне войск буржуазнай Польшчы пачалося ў канцы лютага 1919 г.

*...улетку, калі палякі забралі Менск...*— Мінск быў захоплены войскамі буржуазна-памешчыцкай Польшчы 8 жніўня 1919 г.

*У «Беларусі» друкавалася аповесць Ядвігіна Ш. «Золата»...*— Незакончаны раман Ядвігіна Ш. «Золата» (адна з першых спроб у беларускай літаратуры стварыць эпічны твор) друкаваўся ў 1920 г. у газеце «Беларусь» на працягу лютага — чэрвеня.

*«Раскіданае гняздо»* — гл. каментарыі, с. 545.

С. 343. *Пасля міру ў Рызе (1921 г.)...*— Маецца на ўвазе Рыжскі мірны дагавор 18 сакавіка 1921 г. паміж РСФСР (і па ўпаўнаважанню ўрада БССР) і УССР, з аднаго боку, і Польшчай, з другога, аб спыненні савецка-польскай вайны 1920 г. і нармалізацыі адносін. Паводле дагавору заходнія раёны Беларусі засталіся пад уладай буржуазнай Польшчы.

С. 344. *У 1922 г. у Вільні памёр Ядвігін Ш.*— Ядвігін Ш. памёр 24 лютага 1922 г.

*У «Савецкай Беларусі» ў 1927 г. была змешчана гэткая нататка: «У Дзвінску ў беларускай гімназіі 6-га лістапада ~ падрыхтоўвае да друку зборнік сваіх твораў «На світанні».*— Савецкая Беларусь, 1927, 13 лістапада. Нататка надрукавана пад рубрыкай «Весткі адусюль» і загалоўкам «Беларусы ў Латвіі».

*«На світанні»* (1929).

*Цяпер у Сібіры працуе маладая пяснярка, сяброўка «Маладняка», Зіна Бандарына...*— Зінаіда Бандарына ў 1927—1928 гг. працавала настаўніцай у беларускай школе для перасяленцаў у сібірскім пасёлку Медзякова.

---

[1] Казбярук У. Цярністы шлях паэта.— Літ. і мастацтва, 1987, 31 ліп.

...*«Вандраванне Васіля» (друкавалася ў Полымі»...*— Полымя, 1924, № 2 (10), 1926, № 1.

С. 345. ...*беларускі слоўнік Ластоўскага.*— «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924).

*У гэтым жа, 1921-м, годзе пераязджае з чужыны ў Менск на сталае жыццё Колас і піша свае першыя творы на савецкія тэмы, (напр.[ыклад], апав.[яданне] «Хаім Рыбс»).*— Гл. каментарыі, с. 566.

*«Босыя на вогнішчы»* — гл. каментарыі, с. 563.

С. 346. ...*арганізавалася ўсебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк»...*— Гл. каментарыі, с. 555.

*У 1924 г. друкуецца ў «Полымі» п'еса Купалы «Тутэйшыя»...*— Полымя, 1924, № 2 (10) і 3 (11).

*У 1924 г. ~ выходзяць зборнікі апавяданняў «На рубяжы» Коласа...*— Гл. каментарыі, с. 566.

*У канцы года арганізуецца Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі.*— Беларускае дзяржаўнае выдавецтва створана ў чэрвені 1924 г. на базе выдавецтваў Белтрэстдрук і кааператыўнага выдавецтва «Савецкая Беларусь».

*У 1925 г. ~ Выходзяць ~ паэмы «Сымон-музыка» Коласа і «Марына» Чарота...*— Маецца на ўвазе трэцяя рэдакцыя паэмы «Сымон-музыка». Паэма «Марына» асобным выданнем выйшла ў 1926 г. Упершыню — Полымя, 1925, № 2.

*Адбываецца характэрны з'езд «Маладняка»...*— Гаворка ідзе пра Першы Усебеларускі з'езд літаратурнага аб'яднання «Маладняк», які праходзіў з 25 да 29 лістапада 1925 г.

*Увосень утвараецца літаратурнае згуртаванне «Узвышша»...*— Гл. каментарыі, с. 562, 572.

...*адбываецца Акадэмічная канферэнцыя...*— Відаць, маецца на ўвазе Першая беларуская акадэмічная канферэнцыя, прысвечаная рэформе беларускага правапісу і алфавіту, якая праходзіла з 14 да 20 лістапада 1926 г.

С. 347. *«Салавей»* — гл. каментарыі, с. 573.

*«Сястра»* — упершыню раман надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1927, № 2—6; 1928, № 1—4.

*У Менску ў расійскай газеце «Рабочий» друкаваўся пераклад доўгай рэчы белетрыста Зарэцкага «Сцежкі-дарожкі»...*— У 1927—1937 гг. газета «Советская Белоруссия» мела назву «Рабочий». Раман М. Зарэцкага «Сцежкі-дарожкі» ў перакладзе *А. Ф.* на рускую мову друкаваўся на працягу жніўня, верасня, кастрычніка і пачатку лістапада 1927 г.

...*(па-беларуску рэч друкавалася ў «Полымі», у гэтым жа годзе).*— Гл. каментарыі, с. 568.

...*адрывак аповесці Чорнага «Вецер і пыл» у часопісе «Полымя».*— Полымя. 1927, № 3. Першы раздзел аповесці друкаваўся як апавяданне ў часопісе «Чырвоны сейбіт», 1927, № 6—7 пад загалоўкам «Снегавыя дарогі». Аповесць засталася няскончанай.

*Орган Кампартыі Беларусі «Звязда» з восені перайшоў на беларускую мову...*— Са жніўня 1927 г. газета друкуецца на беларускай мове.

*На мяжы 1927 і 1928 гг. утварылася літаратурнае аб'яднанне «Полымя»...*— Літаратурнае аб'яднанне пісьменнікаў БССР «Полымя» існавала ў Мінску з снежня 1927 г. да 27 мая 1932 г.

*«Беларуская літаратурна-мастацкая камуна»* — гл. каментарыі, с. 572.

С. 348. *Найперш вылецеў рой з «Маладняка»...* — Маецца на ўвазе выхад групы пісьменнікаў з літаратурнай арганізацыі «Маладняк» 26 мая 1926 г., у выніку чаго было створана новае творчае аб'яднанне «Узвышша». Гл. таксама каментарыі, с. 562, 572.

С. 349. *Што ж да «Маладняка», дык ён, як паказаў яго з'езд у лютым 1928 г. ...* — З 15 да 18 лютага 1928 г. у Мінску адбылася Усебеларуская канферэнцыя «Маладняка», якая памылкова названа аўтарам з'ездам.

С. 350. *«Адна партыя ў шашкі», «42 дакументы»* — гл. каментарыі, с. 568.

С. 351. *...без усякіх асаблівых «гвалтаў над формаю»...* — Падразумяваецца паэма М. Грамыкі «Гвалт над формай» (1922). Гл. тэкст артыкула «Пэўны гвалт», с. 315 і каментарыі да яго, с. 567.

С. 352. *«Урачыстасць»* — відаць, маецца на ўвазе паэтычны зборнік Ц. Гартнага, выдадзены Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі ў 1925 г.

С. 353. *...дапісаныя цяпер паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка»...* — Праца над паэмай «Новая зямля» распачата ў сакавіку 1911 г., скончана 5 студзеня 1923 г.; над паэмай «Сымон-музыка» Я. Колас пачаў працаваць у лістападзе 1911 года. Канчаткова твор завершаны ў маі 1925 г.

*«Кляновыя лісты», «Студэнт»* — упершыню ў зборніку У. Дубоўкі «Трысцё» (1925).

*«Хвоі гавораць»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1926, 9 мая.

*«Сокі цаліны»* — гл. каментарыі, с. 562, 564.

*«Суд»* — упершыню п'еса апублікавана асобным выданнем у Мінску ў 1920 г. Пастаўлена Трупай беларускіх артыстаў пад загадам Галубка 10 жніўня 1920 г.

*«Пісаравы імяніны»* — гл. каментарыі, с. 552.

С. 354. *У працягу аповесці «У палескай глушы», што выйшаў пад назваю «У глыбі Палесся»...* — Маюцца на ўвазе асобныя кнігі першай і другой частак будучай трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Першая аповесць «У палескай глушы» выдадзена ў 1923, 1927, 1928 гг., другая — «У глыбі Палесся» — у 1927 г.

С. 354—355. *Зб. «Спадчына» (1922), «Безназоўнае» (1925), «На рубяжы» (1925), «На прасторах жыцця» (1926), «На зачарованых гонях» (1923), «Апавяданні» (1926), «Танзілія» (1927).*

## КОЛЬКІ СЛОЎ АБ ТВОРАХ І МОВЕ М. ЛЫНЬКОВА (с. 356)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Маладняк, 1928, № 6.

Датуецца годам апублікавання.

С. 359. *...але ж гузік цяпер не адарвеш...* — У М. Лынькова: ...але ж і гузік цяпер не адарвеш...

С. 362. *...за табакеркай (-па табакерку), 35...* — У зборніку с. 34—35.

*...бацька Рывы (88—89)...* — У зборніку с. 73.

## БЯДУЛЯ ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА (с. 364)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Аршанскі маладняк, 1928, № 7, дзе змешчаны ўпершыню.

Датуецца годам апублікавання.

С. 365. *«Салавей»* — гл. каментарыі, с. 573.

С. 366. *...біблейнае «Песні песень»...*— «Песня песень», збор яўрэйскіх лірычных песень, які ўключаны ў канон іудзейскай Бібліі ў якасці яе 17-й кнігі.

С. 368. *...лямантацыйі урада Пілсудскага аб аздараўленні жыцця ў Польшчы.*— Маецца на ўвазе дыктатарскі рэжым у Польшчы, агульнавядомы пад назвай «Санацыя» (лац. sanatio — аздараўленне), які быў устаноўлены Ю. Пілсудскім і яго памагатымі ў 1926 г. (існаваў да 1939 г.). Назва рэжыму паходзіць ад дэмагагічнага лозунга «аздараўлення» палітычнага і эканамічнага жыцця. Фактычна рэжым абараняў інтарэсы зямельных магнатаў польскага і замежнага манапалістычнага капіталу, што выклікала неаднаразовыя народныя выступленні супраць яго.

## АРКАДЗЬ МОРКАЎКА (с. 369)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Полымя, 1928, № 9. Змешчаны пад агульнай рубрыкай «Творчасць маладнякоўцаў».

Датуецца годам апублікавання.

С. 369. *...нарадзіўся 26 студзеня (ст. ст.)...*— Названая дата нараджэння пададзена М. Гарэцкім па новым стылі. Па старым — 14 студзеня.

*...у вёсцы Зазер'е, 15 вёрст ад м. Рудзенска, на Чэрвеншчыне.*— Зараз Пухавіцкі раён Мінскай вобласці.

*М. Каспяровіч. «Вывучэнне віцебскай літаратуры і мастацтва» («Маладняк», № 6, 1927 г.).*— У часопіснай публікацыі, звесткі аб якой дадзены ў зносцы, артыкул мае назву: «Матэрыялы для вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва».

С. 370. *«Аршанскі маладняк», № 8, 1927 г., стар. 63.*— У зносцы, дадзенай аўтарам, памылкова пазначаны нумар часопіса. Рэцэнзія П. Фралова змешчана ў «Аршанскім маладняку», № 6.

С. 371. *Я не маю роскашы чырвонцаў ~ Аб чым звоніць яе брат і сын.*— Верш «Я не маю роскашы чырвонцаў...».

С. 372. *...аб смерці Сака і Ванцэці...*— 23 жніўня 1927 г. італьянскія эмігранты, рабочыя-рэвалюцыянеры ў ЗША Н. Сака і Б. Ванцэці пакараны смерцю на электрычным крэсле. На падставе паказанняў ілжэсведак яны былі абвінавачаны ў забойстве. Судовы працэс працягваўся з чэрвеня 1920 г. Каб выратаваць жыццё барацьбітоў супраць капіталістычнага ладу, перадавая грамадскасць ЗША і ўсяго свету арганізавала ў 1921 г. «Камітэт абароны». Аднак Вярхоўны суд ЗША зацвердзіў несправядлівы прыгавор, і жыццё Н. Сака і Б. Ванцэці было абарвана.

С. 375. *...«узняла на шмат паверх» (86)...*— У зборніку «Дым жыцця» (1928), с. 36.

С. 376. *«Павукі і мухі»* — назва брашуры В. Лібкнехта. У перакладзе Ф. Ш. (Фабіяна Шантыра) на беларускую мову выдадзена ў Смаленску ў 1920 г. выдавецтвам ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі.

## СЫМОН БАРАНАЎ (с. 378)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Чырвоная змена, 1928, 7 кастр., дзе апублікаваны ўпершыню, змешчаны пад рубрыкай «Творчыя сілы маладнякоўцаў».

Датуецца годам апублікавання.

С. 378. *...Самахвалаўскага раёна, на Меншчыне.*— Зараз Уздзенскі раён Мінскай вобласці.

*...Сымон Баранаў піша толькі апавяданні.*— На той час, калі М. Гарэцкім напісаны артыкул, С. Баранаў быў вядомы як пісьменнік жанру апавядання. Пазней ім будуць створаны аповесці «Чужая зямля» (у 1929 г. друкавалася пад назвай «На абрэзках зямлі»), «Межы» (1929—1930), «Новая дарога» (апублікавана ў 1931—1932 гг. пад назвай «Два канцы»), «Пастка» (1934). У 1935—1936 гг. з-пад пяра пісьменніка выйдзе раман «Калі ўзыходзіла сонца».

*«Начныя цені»* — упершыню — Маладняк, 1928, № 10.

С. 379. *«У маладзіковую нядзелю»* — упершыню — Чырвоны сейбіт, 1928, № 2.

*«Каля Гіляровай студні»* — упершыню — Чырвоная змена, 1927, 23 снежня.

*«Раніцаю»*— упершыню — Чырвоная змена, 1927, 26 чэрвеня.

*«Боты»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1928, 2 верасня.

*«На вяселлі»* — упершыню — Чырвоная змена, 1927, 1 снежня.

*«Лявон Чэмер»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1928, 8 ліпеня.

*«Моцька»* — упершыню — Чырвоны сейбіт, 1928, № 4—5.

*«Плямы»* — упершыню — Чырвоная змена, 1927, 29 мая.

С. 380. *«Аблігацыя»* — упершыню — Чырвоная змена, 1927, 16 ліпеня.

*«Хлопчык Петручок»* — упершыню — Беларускі піянер, 1927, № 21.

*«Не пашанцавала»* — упершыню — Беларускі піянер, 1928, № 4.

*«Злосць»* — упершыню — Беларускі піянер, 1928, № 15.

## ІЛАРЫ БАРАШКА (с. 382)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Чырвоная змена, 1928, 14 кастр. Змешчаны пад рубрыкай «Творчасць маладнякоўцаў».

Датуецца годам апублікавання.

С. 382. *...у 1915—[19]16 гг., давялося зазнаць гора на ўцякацтве ад вайны.*— Знаходзіўся ў бежанстве ў Ніжнім Ноўгарадзе.

*...і ён цяпер студэнт педфака Белдзяржуніверсітэта.*— Універсітэт закончаны не быў.

*...У 1926 г. выйшаў зборнік яго мастацкай прозы «Прасторы».*— У 1926 г. выдадзены зборнік: Барашка Іл. У прасторы: Проза.— Мн.: Выданне ЦБ «Маладняка», 1926.

*...апавяданне «Сельсаветчыца Параська» — была надрукавана ў 1924 годзе ў часопісе «Беларуская работніца і сялянка».*— Беларуская работніца і сялянка, 1925, № 5.

*Некаторыя рэчы перакладзены на ўкраінскую мову, як апавяданні «Іерогліфы Яэля» (пераклаў А. Піліпенка), «Нататкі пра Украіну».*— Гл. адпаведна: «Плужанін», 1926, № 6—7 і «Литературна газета», 1928, 30 ліпеня, 20 жніўня, 1, 15 верасня.

*«Іерогліфы Яэля»* — упершыню — Маладняк, 1926, № 11 (2).

*«Нататкі пра Украіну»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1928, 10, 12, 13, 17, 20, 21, 22, 27, 28, 29 ліпеня, 2, 3, 5, 9, 10 жніўня.

С. 383. *«Пяты год», «Бяда», «Ліпнёвыя дні»* — упершыню ў зборніку апавяданняў пісьменніка «У прасторы» (1926).

*«Дэзерцір»* — упершыню — Беларуская работніца і сялянка, 1927, № 9.

*«Модны шляхцюк»* — камедыя, напісана і пастаўлена на сцэне ў 1910 г. У гэтым жа годзе выйшла асобным выданнем у Пецярбурзе.

*«Брат, родны мой брат!»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1927, 19 ліпеня.

С. 384. *«Лайдачка», «Прузына-ленінка»* — упершыню ў зборніку апавяданняў пісьменніка «У прасторы» (1926).

*«Праблема»* — упершыню — Працаўнік асветы, 1928, 22 красавіка і 6 мая.

*«Кантрасты і сугучнасць»* — урыўкі з цыкла «Кантрасты і сугучнасць» (Якубу Коласу) змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь», 1926, 23 лістапада.

*«Красуня і васількі»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1926, 4 красавіка; «Малады араты», 1926, № 18.

*«Замак на возеры»* — паданне з цыкла «Замак на возеры» надрукавана ў часопісе «Чырвоны сейбіт», 1926, № 4.

## ПЛАТОН ГАЛАВАЧ (с. 385)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Чырвоная змена, 1928, 18 лістап. Змешчаны пад рубрыкай «Творчасць маладнякоўцаў».

Датуецца годам апублікавання.

С. 385. *«Сон на кургане»* — драматычная паэма, напісаная ў 1910 г.; упершыню — Маладая Беларусь, 1912 (сер. 1, сш. 1).

С. 386. *«Загубленае жыццё»* — упершыню — Савецкая Беларусь, 1925, 4, 5, 10, 11, 12, 13, 14 лістапада.

*«Бывае й так» (1927 г.)...*— упершыню — Маладняк, 1926, № 7—8.

*«Дзве сцежкі»* — упершыню — Маладняк, 1927, № 1, 2, 3.

*«Кнак»* — упершыню — Маладняк, 1928, № 1.

*«Дасужая»* — упершыню — Маладняк, 1928, № 2, 3.

*«Уцякач»* — упершыню — Чырвоная змена, 1927, 6 снежня.

*«Уяўленая»* — дакладная назва апавядання «Яўленая».

## ПАЖАДАННІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА (с. 389)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Маладняк, 1929, № 1.

Датуецца 1928 г., згодна часу правядзення Першага з'езда БелАПП: 25—28 лістапада 1928 г.

М. Гарэцкі быў абраны ў прэзідыум з'езда. Выступіў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным пяцігоддзю літаратурнага аб'яднання «Маладняк» (гл. каментарыі, с. 555), якое адбылося 28 лістапада.

*Асінбуд* — Асінаўскае будаўніцтва. У 1927 г. на тарфяных масівах Асінаўскіх балот было распачата будаўніцтва раённай электрастанцыі (БелДРЭС). У сувязі з гэтым вялася таксама праца па ўзвядзенні іншых аб'ектаў.

С. 390. *«Полымя»* — гл. каментарыі, с. 575.

*«Узвышша»* — гл. каментарыі, с. 562, 572.

# 1913

## 1. У КНІЖНЫ СКЛАД «НАШАЙ НІВЫ» (с. 394)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе, ф. 21, спр. 149, л. 1.

Датуецца па змесце.

Ліст напісаны ў той час, калі М. Гарэцкі заканчваў Горацкае землямерна-агранамічнае вучылішча.

*«Словарь белорусского наречия»* (1870).

## 2. А. М. УЛАСАВУ (с. 394)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе, ф. 21, спр. 149, л. 2.

Публікуецца ўпершыню.

*Ш. П.!* — Шаноўны Пан! Маецца на ўвазе рэдактар-выдавец газеты «Наша ніва», пасаду якога з 8 снежня 1906 г. да 7 сакавіка 1914 г. займаў А. Уласаў (1874—1941).

*28 мая ~ я паслаў ужо адкрытку з пытаннем...* — М. Гарэцкі паслаў паштоўку ў кніжны склад «Нашай нівы» 29 мая (гл. папярэдні ліст).

*«Шляхам жыцця»* (1913).

# 1918

## 3. Ц. ГАРТНАМУ (с. 395)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР у Мінску, ф. 4, воп. 1, спр. 19, л. 38.

Упершыню апублікаваны В. У. Скалабанам у газ. «Літ. і мастацтва», 1983, 25 лют.

Ліст адрасаваны Цішку Гартнаму як загадчыку выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята, дзе ішла падрыхтоўка да выдання зборніка твораў беларускіх пісьменнікаў пад назвай «Жніво» («Жатва»), у які і прасіў уключыць свае творы М. Гарэцкі. Кніга была падрыхтавана да выхаду, але свету не пабачыла. Якія творы аўтара былі змешчаны ў ім — невядома. (Гл. таксама каментарыі да аповесці М. Гарэцкага «Ціхая плынь»: Зб. тв. У 4-х т. Т. 2. С. 400.)

Ліст напісаны ў той час, калі М. Гарэцкі знаходзіўся ў сваіх бацькоў, якія жылі ў вёсцы Малая Багацькаўка, што на Магілёўшчыне.

*выдаваць беларуска-рускі слоўнік.*— Маецца на ўвазе «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік», які выйшаў у Вільні ў 1919 г.

*«Знібее сэрца»* — апавяданне, напісана М. Гарэцкім у 1917 г. Упершыню апублікавана ў газеце «Известия Смоленского Совета», 1918, 9 сакавіка пад назвай «Щемит сердце» ў перакладзе аўтара на рускую мову.

*«Прысяга»* — апавяданне, напісана М. Гарэцкім у 1916 г. Упершыню апублікавана ў газеце «Наша ніва», 1920, 28 кастрычніка, 1, 12, 16 лістапада.

*«Кросны»* — апавяданне, напісана М. Гарэцкім у 1917 г. Упершыню апублікавана ў часопісе «Беларускае жыццё», 1919, № 10, 11, 12. Пад назвай «Калоніі» ўключана ў апошні раздзел аповесці «Меланхолія». (Гл. каментарыі да твора: Зб. тв. У 4-х т. Т. 2. С. 383—384.)

*«За што?»* — Магчыма, маецца на ўвазе першы беларускі варыянт аповесці «Ціхая плынь», які на рускай мове апублікаваны ў газеце «Известия Смоленского Совета», 1918, 1 мая пад назвай «За что?»; падпісаны псеўданімам *Дед Кузьма.* (Гл. каментарыі да аповесці: Зб. тв. У 4-х т. Т. 2. С. 400—402.

### 4. У САВЕТ ПРАФЕСАРАЎ СМАЛЕНСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ МАСКОЎСКАГА АРХЕАЛАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА (с. 395)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Маскве, ф. 376, воп. 1, спр. 944, л. 1.

Публікуецца ўпершыню.

Ліст дасланы са Смаленска, дзе М. Гарэцкі працаваў у газеце «Звязда». Просьба аб заліку слухачом лекцый па гісторыі мастацтваў была задаволена, аднак у сувязі з тым, што рэдакцыя газеты, у якой працаваў Гарэцкі, у студзені 1919 г. пераехала ў Мінск, куды для супрацоўніцтва ў пачатку года быў запрошаны і М. Гарэцкі, наведванне лекцый было спынена.

## 1919

### 5. У МАСКОЎСКІ АРХЕАЛАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ (с. 396)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Маскве, ф. 376, воп. 1, спр. 944, л. 2.

Публікуецца ўпершыню.

*...регистрационную карточку (кажется, за № 39), выданную приемочной комиссией Смоленского уездного воинского комиссариата в начале октября 1918 г.*— Гл. тэкст папярэдняга ліста.

Адрас, пазначаны пад тэкстам просьбы (г. Мінск, Юрьевская ул., д. № 35, кв. № 6), і дата (7/II-19 г.) сведчаць аб тым, што ў лютым 1919 г. у адной кватэры з М. Гарэцкім жыў Я. Купала, які таксама прыехаў са Смаленска.

## 6. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» (с. 396)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларуская думка, 1919, 2 ліп.

У лісце М. Гарэцкі звяртаецца да рэдактара газеты, пасаду якога займаў У. Знамяроўскі.

Напісаны ліст у сувязі з публікацыяй невядомага аўтара *Я ў* газеце «Беларуская думка», 1919, 1 ліпеня пад рубрыкай «У Вільні» рэцэнзіі-анатацыі на другі нумар часопіса «Беларускае жыццё». У гэтым жа нумары часопіса было апублікавана і апавяданне М. Гарэцкага «Ідуць усе — іду я», якому рэцэнзент дае адмоўную ацэнку, фальсіфікуе ідэйны сэнс апавядання.

## 1921

## 7. Л. ЖАЛІГОЎСКАМУ (с. 397)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе, ф. 21, спр. 149, л. 11.

Публікуецца ўпершыню.

Ліст да генерала Жаліґоўскага напісаны як да вярхоўнага правіцеля Сярэдняй Літвы, якім ён абвясціў сябе 12 кастрычніка 1920 г. пасля захопу войскамі буржуазнай Польшчы Вільні і Віленскай вобласці. (Гл. таксама каментарыі, с. 551.)

Просьба М. Гарэцкага «выдаваць і рэдагаваць тыднёвы часопіс «Беларускія ведамасці» была задаволена. Толькі гэта перыядычнае выданне з'яўлялася штотыднёвай грамадска-палітычнай і літаратурнай газетай, якая выдавалася на беларускай мове ў Вільні з 14 верасня 1921 г. да 15 студзеня 1922 г. Выйшла 19 нумароў. Газета крытыкавала каланізатарскую палітыку ўлад так званай Сярэдняй Літвы і буржуазнай Польшчы ў дачыненні да беларускага народа, змагалася за школы на роднай мове, асвятляла поспехі нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва ў Беларускай ССР. Закрыта ўладамі Сярэдняй Літвы за апазіцыйныя выступленні. М. Гарэцкі быў арыштаваны і пасаджаны ў Лукішскую турму (гл. каментарыі да запіскі № 9).

*...я, як першы па часе рэдактар «Нашай думкі»...*— Гл. каментарыі, с. 549.

*...часопіс пры маім рэдактарстве, у № 3—1921 г., пісаў ~ «...генерал, паборнік свабоды слова, друку...»* — Гаворка ідзе пра арты-

кул М. Гарэцкага «Свабода слова», які змешчаны ў газеце за 22 студзеня; падпісаны псеўданімам *А. Мсціслаўскі.*

*...артыкул «Любіце польскі народ» (№ 19—1921 г.)...*— Гл. тэкст, с. 242 і каментарыі, с. 551.

*...вмяшчала падзяку беларускіх вучыцялёў ашмянскаму школьнаму інспектару ~ (№ 25—1921 г.)...*— Падзяка настаўнікаў Палачанскай і Лебедзеўскай валасцей апублікавана ў газеце за 24 чэрвеня пад рубрыкай «Пісьмы ў рэдакцыю».

## 8. Я. Ф. КАРСКАМУ (с. 398)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Архіве Акадэміі навук СССР у Ленінградзе, ф. 292, воп. 2, адз. зах. 37, л. 1—2.

Ліст напісаны з Вільні, дзе з 1919 г. жыў і працаваў пісьменнік.

Перапіска Я. Карскага з М. Гарэцкім завязалася, магчыма, у сувязі з працай Яфіма Фёдаравіча над 3 ч. 3 т. «Белорусов» («Художественная литература на народном языке»; 1922). Па гэтай прычыне вучоны мог звярнуцца да М. Гарэцкага як аўтара «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920) і пісьменніка з просьбай даслаць матэрыял па сваёй творчасці, а таксама па творчасці іншых беларускіх аўтараў.

У раздзеле «Новейшая белорусская литература» кнігі Я. Карскім зроблены кароткі агляд творчасці М. Гарэцкага.

Пра «Гісторыю беларускай літаратуры» (1920), на якую неаднаразова спасылаўся даследчык у томе, сказана наступнае: «Как первый опыт она имеет немало недостатков».

*«Белорусы»* (т. 1—3, 1903—1922).

*...пасылаю Вам «Гіст.*[*орыю*] *бел.*[*арускай*] *літ.*[*аратуры*]*»...*— Гаворка ідзе, відаць, пра кнігу: Гарэцкі Максім. Гісторыя беларускай літаратуры.— Выданне другое (папраўленае).— Вільня: Віленскае (беларускае) выдавецтва Б. Клецкіна, 1921.

*Рэваль* — Ре́вель, назва горада Таліна (сталіца Эстонскай ССР) да 1917 г.

*...«Белорусы», III, 2 — «Старая западнорусская письменность»...*— Маецца на ўвазе другая частка трэцяга тома, якая выдадзена ў Петраградзе ў 1921 г.

*...летась увосень выйшла некалькі №№ «Нашай нівы»...*— Восенню 1920 г. была спроба ўзнавіць выданне «Нашай нівы», якое існавала з 1906 да 1915 г. у Вільні. У 1920 г. першы нумар газеты быў выпушчаны 28 кастрычніка. Выйшла дзевяць нумароў. У гэтым жа годзе быў выдадзены зборнік «Наша ніва».

*...перад калядамі стала выходзіць «Наша думка» (спачатку пад маёй рэдакцыяй)...*— Гл. каментарыі, с. 549.

*Каля́ды* — царкоўна-хрысціянскае свята Хрыста, якое адзначалася 25 снежня (7 студзеня) і ў наступныя дні да вадохрышчаў.

*Цяпер я з вялікім трудам дастаў дазвол на «Беларускія ведамасці», газету інфармацыйную і нацыянальна-культурную...*— Гл. тэкст ліста № 7 і каментарыі да яго.

*«Польская акупацыя ў Беларусі»* (1920).

*...кніжачкі па кааперацыі Станіслава Чыжэўскага...*— У 1921 г. у Вільні выйшлі: «Кааператары. Апавяданне з жыцця беларускіх кааператываў», «У аб'яднанні — моц і іншыя апавяданні з жыцця беларускіх кааператываў». У гэтым жа годзе С. Чыжэўскім апра-

цавана і выдадзена кніга «Першыя крокі ўрада спажывецкага таварыства (кааператыва)».

*...II выданне «Маскоўска-белар.*[*ускага*] *слоўніка» братоў Гарэцкіх...*— «Маскоўска-беларускі слоўнік» (1920), які падрыхтавалі Максім Іванавіч Гарэцкі і яго брат Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі (гл. таксама каментарыі да ліста № 13).

*...хоць вінаваты, праўда, не столькі браты Гарэцкія, колькі слоўнік І. І. Насовіча...*— Пры падрыхтоўцы «Руска-беларускага слоўніка», выдадзенага ў Смаленску (1918), «браты Гарэцкія» абапіраліся на матэрыял слоўніка І. Насовіча «Словарь белорусского наречия» (1870). Па гэтай прычыне некаторыя недакладнасці і пагрэшнасці, дапушчаныя Насовічам, мелі месца і ў іх выданні.

*«Сцэнічныя творы»* (1921).

*«Uspaminy»* (1921).

*...другое выданне «Гісторыі Беларусі» У. Ігнатоўскага...*— «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (1921).

*...грам.[атыка] Б. Тарашкевіча...*— Маецца на ўвазе трэцяе выданне «Беларускай граматыкі для школ», якое выдадзена ў Вільні ў 1920 г.

*...пераклад «Алгебры» Кісялёва...*— «Элементарная алгебра паводле А. Кісялёва. Прытарнаваная да вымогаў беларускіх сярэдніх школ» (1921). Пераклад А. Луцкевіча.

*...«Rodny krai» Л. Гарэцкай, IV выданне (лацінкаю) і цяпер «Родны край» — 3 і 4 ч. ...*— кнігі, складальнікам якіх была жонка пісьменніка — Леаніла Усцінаўна Гарэцкая. Яны былі выдадзены ў Вільні ў 1921 г. і прызначаліся для навучання ў пачатковых класах (гл. таксама каментарыі да ліста № 9).

*У польскай газеце (па духу — літоўскай) «Nawiny Wileńskie» друкуецца мой «Кароткі агляд гіст.*[*орыі*] *бел.*[*арускай*] *літ.* [*аратуры*]*»...*— «Nowiny Wileńskie», 1921, 27, 28, 30 жніўня, 26 верасня, 10 кастрычніка.

*У рукапісе ляжыць мая «Хрэстаматыя» да «Гіст.[орыі] бел.*[*арускай*] *літ.*[*аратуры*]*»...*— *«Хрэстаматыя беларускай літаратуры*: XI век — 1905 г.» выдадзена ў Вільні ў 1922 г. «Гісторыя беларускай літаратуры» выйшла ў Вільні 1920 г.; другое папраўленае выданне.— у 1921.

*...кнігу праф.[есара] Владимирова аб Скарыне...*— Гаворка ідзе пра кнігу П. Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (1888).

*...«Песні» Чачота...*— Беларускія народныя песні, сабраныя і апублікаваныя Я. Чачотам у шасці зборніках, выдадзеных у 1837—1846 гг.

*...знайшоў вучыцельнае Евангелле Каліста...*— Відаць, маецца на ўвазе «Евангелле вучыцельнае» (1616), якое выйшла на беларускай мове ў Еўінскай друкарні (мястэчка Еўе — г. Вэвіс Літоўскай ССР).

*...кнігу І. Пацея...*— Якую дакладна кнігу знайшоў М. Гарэцкі, вызначыць не ўдалося. І. Пацей — аўтар шэрагу палемічных твораў на польскай і беларускай мовах у абарону уніі: «Унія...» (1595), «Размова берасцяніна з братчыкам» (1603), «Уваскрэшаны Налівайка» (1607), «Ерасі, невуцтва і палітыка паноў і мяшчан віленскага брацтва» (1608), «Гармонія...» (1608) і інш.

*Паэт Алесь Гарун памёр 28 ліпеня 1920 г. ...*— Алесь Гарун памёр 20 ліпеня 1920 г.

## 9. ДА РОДНЫХ (с. 401)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 44.

Публікуецца ўпершыню.

Датуецца канцом студзеня ці пачаткам лютага 1922 г., згодна «Летапісу жыцця і творчасці М. Гарэцкага» (Зб. тв. У 4-х т. Т. 4. С. 361).

З 19 на 20 студзеня 1922 г. пісьменнік быў арыштаваны беларускімі ўладамі і пасаджаны ў адзіночную камеру на Лукішках (да гэтага часу ён жыў і працаваў у Вільні). Два тыдні не было допыту. Абвінавачаны «ў прыналежнасці да партыі камуністаў, у арганізацыі тайных баявых дружын з мэтаю замаху на дзяржаўную ўладу, у друкаванай і вуснай прапагандзе» з 4 па 5 лютага «без суда, са здзекам, быў выкінуты з Вільні ў нейтральны пас паміж польскім і літоўскім фронтам» — горад Коўна (зараз Каўнас).

Тэкст запіскі напісаны на шматку грубай абгортачнай паперы вострым прадметам. На адваротным баку чорным алоўкам, відаць, супрацоўнікамі архіва напісана: 1922 г. З Лукішак.

Галіна Максімаўна, дачка пісьменніка, ва ўспамінах піша: «Перадатчыца ў Лукішскай турме панна Кастуся папярэдзіла маму па-польску: «Паглядзіце, ці ўсё ў парадку Вам вярнулі». Знайшлася гэтая запіска» [1].

Леаніла Усцінаўна Чарняўская і Максім Іванавіч Гарэцкі звязалі свой лёс 16 ліпеня 1919 г. Леаніла Усцінаўна працавала настаўніцай малодшых класаў у Беларускай віленскай гімназіі, Максім Іванавіч выкладаў у гэтай жа ўстанове, а таксама на беларускіх настаўніцкіх курсах.

Сапраўдным сябрам і памочнікам Максіма Гарэцкага была Леаніла Усцінаўна. Яна дапамагала яму ў літаратурнай рабоце, аказвала маральную і духоўную падтрымку ў нялёгкія часы 20-х і 30-х гадоў. Гэтых моцных духам людзей яднала не толькі сямейныя адносіны, але і агульнасць інтарэсаў, род заняткаў.

Леаніла Чарняўская пісала творы для дзяцей і дарослых. Яе першае апавяданне — «Мікітка» (1919). Яна з'яўляецца аўтарам зборнікаў «Дзіцячыя гульні» (1919), «Апавяданні» (1930), «Лявонка» (1932), «Жук» (1960), «Казёл Мэка і Кудла» (1979). Асобнымі кніжкамі выйшлі апавяданні «Варка» (1928), «Андрэйка», «Бяздзетуха», «Валуй — камісар часоў керанщчыны», «Падарожніца» (усе — 1930), «Перамога» (1932), «Сталёвы конь» (1933)...

М. Гарэцкі ў лістах называе жонку Лёляй, Цярплівай Ласкай. З прысвячэннем ёй напісана М. Гарэцкім апавяданне «Калоніі», якое друкавалася ў «Беларускім жыцці», 1919, № 10, 11, 12 (гл. каментарыі да Зб. тв. У 4-х т. Т. 2. С. 383—384). «Леаніле Гарэцкай (Чарняўшчынцы)» прысвячаецца першае выданне «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920).

У нясконачаным рамане-эпапеі «Камароўская хроніка» Леаніла Усцінаўна з'яўляецца прататыпам гераіні твора — Ласкі, якую аўтар таксама называе Лёляй, Мілай.

---

[1] Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы.— Мн.: Маст. літ., 1984. С. 23.

## 1923

### 10. Я. Ф. КАРСКАМУ (с. 401)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Архіве Акадэміі навук СССР у Ленінградзе, ф. 292, воп. 2, адз. зах. 37, л. 3.

«Беларусы», т. 1 («Уводзіны ў вывучэнне мовы і народнай славеснасці»): навуковы зборнік «Виленский временник» (1904).

## 1927

### 11. Я. Ф. КАРСКАМУ (с. 402)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Архіве Акадэміі навук СССР у Ленінградзе, ф. 292, воп. 2, адз. зах. 37, л. 4—5.

*Надоечы перaслалі мне Вашу поўную цёплай ласкі адкрытачку з Менска, з Інбелкульта.*— У 1927 г. М. Гарэцкі працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках.

Паштоўка была даслана на Інстытут беларускай культуры па той прычыне, што з 16 студзеня 1925 г. М. Гарэцкі з'яўляўся яго правадзейным членам.

*...ленінградскі вучоны пасланец на Акадэмканферэнцыю, дац.*-[энт] *Гарчынскі, праз так доўгі час не перадаваў Вам пасланай мною кніжкі.*— Дацэнт Ленінградскага універсітэта П. Гарчынскі прымаў удзел у Акадэмічнай канферэнцыі, прысвечанай рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая праходзіла ў Мінску з 14 да 21 лістапада 1926 г. і была склікана Інстытутам беларускай культуры. М. Гарэцкі на канферэнцыі выступіў з дакладам «Нашаніўскі перыяд у беларускай літаратуры». Кніга, перададзеная пісьменнікам,— «Гісторыя беларускай літаратуры» (1926).

*...а потым не па-людску аблаялі («Полымя» за 1926 г., № 8, рэц. Дорндорфа — як кажуць, псеўданім Жылуновіча).*— Рэцэнзія змешчана ў раздзеле «Кнігапіс». Напісана на першае (Вільня, 1920), трэцяе (Менск, 1924) і чацвёртае (Менск, 1926) выданне кнігі М. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры». Дорндорф — у перакладзе з нямецкай мовы — вясковая калючка.

Пры аналізе выданняў падручніка З. Жылуновіч папракае аўтара ў паспешнасці, неаб'ектыўнай (на яго погляд) ацэнцы творчасці асобных пісьменнікаў, крытыкуе кампазіцыйную будову «Гісторыі...». Аднак ён справядліва пры гэтым адзначае, што «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага з'яўляецца пакуль адзіным падручнікам у гэтай галіне ведаў. Дзякуючы гэтаму значна павінны быць паменшаны тыя патрабаванні, якія вымагаюць ад данага падручніка і яго аўтара. Як-ніяк, а большая і нават вялікая заслуга павінна быць аддадзена М. Гарэцкаму за яго пачатак у гэтым кірунку. Боязна, што не будзь бы яго працы, мы і дагэтуль цярпелі б ад адсутнасці гэтага, вельмі патрэбнага зараз у беларускай школе, падручніка».

*...з'яўлення Вашай працы ў перакладзе на нямецкую мову.*— Маецца на ўвазе кніга Я. Ф. Карскага «Geschichte der weisrussischen Volksdichtung und Literatur. Slavischer Grundriss». Berlin und Leipzig, 1926 («Гісторыя беларускай народнай творчасці і літаратуры. Нарыс па славістыцы»).

## 1928

### 12. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» (с. 403)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Сав. Беларусь, 1928, 7 крас.

Пад тэкстам ліста памылкова напісаны год: замест 1928—1927.

Ліст напісаны ў той час, калі М. Гарэцкі працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках.

Публікацыя ананімнага аўтара ў «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь» выклікала абурэнне грамадскасці. На дыспуце «Літаратура і мастацкая крытыка», які адбыўся 2 красавіка 1928 г., загадчык аддзела друку ЦК КПБ(б) А. А. Сянкевіч даў адмоўную ацэнку надрукаванаму. У прыватнасці, ён адзначыў, што «нават у «Хроніцы» зводзяць асабістыя рахункі з М. Гарэцкім[1].

Тэкст ліста М. Гарэцкага, дасланы ў рэдакцыю газеты, перадрукаваны ў часопісе «Аршанскі маладняк», 1928, № 7. Тут жа змешчана «Выпіска з пратакола агульнага сходу Аршанскай філіі «Маладняка» ад 10/IV-28 г.», дзе, у прыватнасці, сказана:

«Слухалі: Аб літаратурным дадатку да «Савецкай Беларусі», № 5.

Пастанавілі: Перадрукаваць ліст Максіма Гарэцкага, змешчаны ў газеце «Сав. Беларусь» ад 7 красавіка 1928 года.

Лічыць неабходным рашуча звярнуць увагу пралетарскага грамадства на тыя злосніцкія ананімныя інсінуацыі, якія часамі дапушчаюцца на старонках нашай прэсы.

Пара скончыць абзываць пісьменнікаў «мяшчанамі, борзапісцамі, контррэвалюцыянерамі» і т. д. з мэтаю ўтаптаць іх у гразь дзеля свае персанальнай альбо гуртковай выгады.

Трэба змагацца не лаянкай, а аб'ектыўным доказам, адкрыўшы твар перад масай, а не лякліва схаваўшыся за чужую спіну альбо за псеўданім».

*У № 78 «Савецкай Беларусі» (1 красавіка 1928 г.) напісана ~ Арбыццам паэма «Тарас на Парнасе» «з'яўляецца творам нейкага Арцёма Вярыгі-Дарэўскага».*— Маецца на ўвазе нататка «Хто з'яўляецца аўтарам паэмы «Тарас на Парнасе», змешчаная пад рубрыкай «Культурныя навіны».

Даследаваннямі апошняга часу аўтарства «Тараса на Парнасе», якое доўгі час прыпісвалася Арцёму Вярыгу-Дарэўскаму, не пацверджана.

## 1930

### 13. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 404)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 1.

Ліст напісаны з санаторыя «Джаліта», дзе М. Гарэцкі знахо-

---

[1] Звязда, 1928, 4 крас.

дзіўся з канца чэрвеня да сярэдзіны ліпеня 1930 г. (15 ліпеня ён быў ужо ў Мінску).

*Ці паехала мама? Ці бываеце ў Гаўрылы?* — Ефрасіння Міхайлаўна Гарэцкая (1864—1935), маці пісьменніка, прыязджала наведаць сваіх дзяцей. У Мінску жыў таксама яе меншы сын Гаўрыла. У некаторых лістах М. Гарэцкі называе брата Гурыкам або проста — Гур. У «Камароўскай хроніцы», як і ў аповесцях «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», дакументальна-мастацкіх запісках «На імперыялістычнай вайне», ён з'яўляецца прататыпам Лаўрыка.

*Ці ўсё добра ў вас на новым месцы.*— Незадоўга да ад'езду М. Гарэцкага ў санаторый сям'я пераехала на новую кватэру з вуліцы Шпітальнай на вуліцу Заслаўскую, д. 5, кв. 1 (на паштоўцы адрасант памылкова пазначае нумар дома: замест 5—3).

Згодна «Камароўскай хронікі», с. 274: «13 чэрвеня перавёз рэчы на новую кватэру».

*Лёня* і *Галя* — дзеці Максіма Іванавіча і Леанілы Усцінаўны.

*Галіна Максімаўна Гарэцкая* (н. 1921), педагог. Захавальніца творчай спадчыны бацькоў. Матэрыялы сямейнага архіва М. Гарэцкага падараваны ёй і Леанілай Усцінаўнай Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа АН БССР і захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі.

Галіна Максімаўна самы актыўны памочнік і кансультант па падрыхтоўцы да выдання спадчыны М. Гарэцкага. У «Камароўскай хроніцы» яна паслужыла прататыпам Таццянкі, якую ў творы аўтар яшчэ называе Аляй і Валяй.

*Леанід Максімавіч Гарэцкі* (1922—1944) загінуў на Ленінградскім фронце 18 лютага 1944 года. Да вайны скончыў тры курсы Ленінградскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. Лісты Леаніда Гарэцкага з фронту апублікаваны ўпершыню ў часопісе «Маладосць», 1974, № 9.

Па той прычыне, што ў сям'і хлопчыка звалі Леня і Лёня, у лістах бацькі захавана двайное напісанне імя.

У «Камароўскай хроніцы» ён з'яўляецца прататыпам Іванькі (ён жа ў творы Лявон, Лявох, Лёўка).

*Кра́лі* — каралі, пацеркі.

## 14. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ (с. 405)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 2.

## 15. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ (с. 405)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1 адз. зах. 45, л. 3.

*Мне пісала дзядзіна Анісся. Баба даехала добра.* — Гарэцкая Анісся Рыгораўна (н. 1901), жонка малодшага брата пісьменніка Парфіра (1896—1980). Іх сям'я жыла ў Малой Багацькаўцы ў адной хаце разам з бацькамі. Анісся Рыгораўна ў лісце паведаміла аб вяртанні Ефрасінні Міхайлаўны з Мінска.

## 16. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 406)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 4.

Публікуецца ўпершыню.

*Гаўрыла ўжо заехаў на месца.*— Маецца на ўвазе дом адпачынку «Хоста» на Каўказе, куды прыехаў Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі.

*Вітаю з Леневымі нарадзінамі!* — Дзень нараджэння Леаніда Гарэцкага 15 ліпеня. У гэтым годзе (1930) яму спаўняецца восем гадоў.

# 1931

## 17. ДА РОДНЫХ (с. 406)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 5.

Публікуецца ўпершыню.

19 ліпеня 1930 г. Максім Гарэцкі па лжывым даносе быў арыштаваны органамі НКУС і пасаджаны ў мінскую турму. У канцы красавіка ці пачатку мая 1931 г. сасланы ў г. Вятку (з 1934 г.— г. Кіраў Кіраўскай вобласці РСФСР), дзе прыйшлося жыць да жніўня 1935 г. У жніўні (пасля таго як М. Гарэцкі звярнуўся ў абласны аддзел народнай адукацыі г. Смаленска) ён быў прызначаны выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе гарадскога пасёлка Пясочня (з 1936 г.— г. Кіраў Смаленскай (цяпер Калужскай) вобласці РСФСР). Нядоўга давялося працаваць настаўнікам. У ноч на 5 лістапада 1937 г. М. Гарэцкага арыштавалі паўторна.

На працягу двух гадоў Леаніла Усцінаўна неаднаразова звярталася ў адпаведныя інстанцыі, каб даведацца пра лёс мужа, аднак намаганні былі дарэмнымі. Толькі 1 лістапада 1939 г. ёй быў дадзены адказ, што М. Гарэцкі памёр 20 сакавіка 1939 г. у Комі АССР.

Пасля гэтага спатрэбілася яшчэ 19 гадоў, каб імя адданага сына сваёй Бацькаўшчыны, выдатнага пісьменніка, вучонага, які ўнёс вялікі ўклад у скарбніцу беларускай літаратуры, навукі і культуры, было рэабілітавана.

*Лара* — Гарэцкая (Парфяновіч) Ларыса Іосіфаўна (н. 1902), жонка брата М. Гарэцкага — Гаўрылы. У «Камароўскай хроніцы» яна з'яўляецца прататыпам Вары.

## 18. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 407)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 6.

Публікуецца ўпершыню.

## 19. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 407)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 7—8.

Публікуецца ўпершыню.

Датуецца па змесце папярэдняга і наступнага лістоў.

Запіска напісана на двух абрыўках ад канверта, сінім чарнілам.

*Ці выйшаў мой пераклад М. Горкага?* — Маецца на ўвазе пераклад М. Гарэцкага (пад псеўданімам *А. Мсціслаўскі*) на беларускую мову апавяданняў М. Горкага «Зброднік», «Канавалаў», «Чалкаш», якія выйшлі асобнай кнігай у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі ў 1930 годзе.

## 20. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 407)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 9.

Публікуецца ўпершыню.

Раманы: *«Разгром»* (1927) А. Фадзеева; *«Госпожа Бовари»* (1857) Г. Флабэра; *«Верноподданный»* (1914) Г. Мана.

*Юля* — Папова Юлія Канстанцінаўна (н. 1908), стрыечная сястра М. Гарэцкага.

*Маня* — Іваноўская Марыя Раманаўна (н. 1912), зямлячка пісьменніка. Працавала ў той час у Мінску на фабрыцы «Камунарка». Герой Сацыялістычнай Працы (1966).

*Клаўдзя* — пляменніца М. Гарэцкага, дачка брата Івана (1913—1982).

## 21. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 408)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 10.

Публікуецца ўпершыню.

## 22. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 408)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 11.

Публікуецца ўпершыню.

## 23. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 409)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 12.

*Славік* — старэйшы сын Гарэцкага Гаўрылы Іванавіча — Усяслаў Гаўрылавіч (н. 1924), педагог-метадыст, загадчык сектара пачатковай адукацыі ў Навукова-даследчым інстытуце школ Міністэрства асветы РСФСР.

*Я вельмі клапаціў пра Гурыка, што нічога ніхто не мог мне пра яго сказаць.*— М. Гарэцкі быў занепакоены лёсам брата, па-

колькі ўжо ведаў, што Гаўрыла Іванавіч арыштаваны органамі НКУС. Як вынікае са слоў самога Гаўрылы Гарэцкага, гэта здарылася 20 ліпеня ў доме адпачынку «Хоста».

## 24. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 409)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 13.

## 25. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 410)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 14.

Публікуецца ўпершыню.

*І прачытаў гэтую навіну пра Гурыка...*— Маецца на ўвазе прыгавор, вынесены Гаўрылу Іванавічу ў Маскве, паводле якога вышэйшая мера пакарання была заменена дзесяццю гадамі зняволення ў спецлагеры горада Кемь Карэльскай АССР.

*Карпа, Калугіны выехалі...*— Згодна «Камароўскай хронікі», с. 276: *«Цяпер тут* [у Камароўцы (Малой Багацькаўцы).— *Т. Г.*] *быў калгас імя Чырвонай Арміі. ...Карпа быў раскулачаны і высланы. Ён прыслаў ліст з-пад Уралу».*

## 26. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 411)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 15—16.

Публікуецца ўпершыню.

*...хоць тыя сшыткі, што ў партфелі («Хроніка»).*— Гаворка ідзе пра рукапісны матэрыял да «Камароўскай хронікі».

*Допра* — дом прымусовых работ.

## 27. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 412)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 17.

Публікуецца ўпершыню.

## 28. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 413)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 18—19.

*...як там пойдуць далей багацькаўскія справы.*— М. Гарэцкі, са слоў Гаўрылы Іванавіча, відаць, мае на ўвазе выключэнне сваіх бацькоў з калгаса, якія ў хуткім часе пасля адмены рашэння зноў сталі членамі калектыўнай гаспадаркі.

*Дзе жыве Маня і яе сястра?* — Сёстры Іваноўскія, Марыя і Вольга,— зямлячкі пісьменніка. Яны часова жылі на кватэры ў Леанілы Усцінаўны Гарэцкай.

*Чаму ездзіў у Воршу Іван, а не тата?* — На адным з перасылач-

ных пунктаў (г. Орша) зняволеным, у ліку якіх знаходзіўся і Гаўрыла Іванавіч, была дазволена сустрэча. Аб такой магчымасці Ларыса Іосіфаўна паведаміла бацькам. На спатканне прыехалі маці, брат Іван, а таксама Ларыса Іосіфаўна. Па якой прычыне не прыехаў бацька, высветліць не ўдалося.

## 29. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 416)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 20.

Публікуецца ўпершыню.

Ліст напісаны чырвоным чарнілам і простым алоўкам. Пасля сказа: *«Рой, прыблізна, пасярод горада, цягнецца ў бок ракі Вяткі».*— Начэрчаны план часткі горада, аб якім М. Гарэцкі піша ў лісце.

## 30. І. К. ГАРЭЦКАМУ (с. 417)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 21.

*Іван Кузьміч Гарэцкі* (1856—1945), бацька пісьменніка. У «Камароўскай хроніцы» ён з'яўляецца прататыпам Стахвана Батуры.

*...Гурык быў ужо ў Віцебску.*— Гаворка ідзе пра знаходжанне Гаўрылы Іванавіча ў Віцебску, як вязня на адным з перасылачных пунктаў.

## 31. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 417)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 22.

Публікуецца ўпершыню.

*Ад цябе атрымаў адкрытку з Масквы і адкрытку з Воршы.*— Леаніла Усцінаўна ў жніўні месяцы, да 16-га, ездзіла ў Вятку да мужа. Аб гэтым сведчаць змест ліста ад 16 жніўня, у прыватнасці, сказы: *«Без цябе тры разы ўжо разводзіў прымус, свой, з дапамогаю «Крывой». Учора прыехала Еўдакія Міхайлаўна, прасіла цябе вітаць»* і ліст ад 18 жніўня, а дакладней — сказ: *«Як тваё здароўе пасля дарогі?»* Паштоўкі з Масквы і Оршы былі пасланы ёю па дарозе назад. Згодна «Камароўскай хронікі», с. 276: *«Ласка ездзіла к Кузьме* (Максіму.— *Т. Г.*). *...10 жніўня раніцою Ласка выехала з Крутагорску. ...11 жн.[іўня] яна прыехала ў Камар.[оўку]».*

*«Крывая»* — Шубіна Елізавета Аляксандраўна; настаўніца, суседка М. Гарэцкага па кватэры.

*Крутагорск* — г. Вятка, гл. таксама каментарыі да ліста № 77.

*Еўдакія Міхайлаўна Гуліна* (1896—1977) з мужам і дачкой жылі ў адным доме з М. Гарэцкім, былі суседзямі па пакоях. Гэта мясцовыя жыхары. Еўдакія Міхайлаўна працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе № 6. *Георгій Аляксеевіч* (1892—1975) — у гадавальніку пры Пермскай чыгунцы, дзе вырошчвалі саджанцы для пасадак усцяж чыгуначнага палатна.

*БАН* — Беларуская акадэмія навук.

*Гольцман* — гаспадар кватэры на Шпітальнай вуліцы ў Мінску, дзе ў 1928—1930 гг. жыў М. Гарэцкі з сям'ёй. Доўгу, які Гольцман быў вінават жыльцам, ён так і не аддаў.

*У «Праўдзе» быў артыкул пра Мурман, дні чатыры таму, там пісана і пра Хібінагорск.* — Правда, 1931, 11 жніўня. Артыкул І. Вераўцава «Мурман», змешчаны на 3-й старонцы, на 4-й надрукавана інфармацыя карэспандэнта газеты пад загалоўкам «В Хибиногорске пущена в ход обогатительная фабрика». Гэты матэрыял прыцягнуў увагу М. Гарэцкага па той прычыне, што ў тых мясцінах павінен быў жыць брат пісьменніка Гаўрыла Іванавіч. А яшчэ, магчыма, і таму, што ведаў аб дазволе брату выступіць у Хібінагорску (з 1934 г.— г. Кіраўск) на пасяджэнні мясцовага краязнаўчага гуртка (па хадайніцтву прафесара Чырвінскага) з дакладам аб апошніх дасягненнях вывучэння антрапагенавых адкладаў у басейне рэчкі Кемі і Колы (са слоў Гаўрылы Гарэцкага).

## 32. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 418)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 23.

## 33. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 419)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 24.

*Шубіны* — суседкі М. Гарэцкага па кватэры, пажылыя настаўніцы Елізавета, Юлія і Вера Аляксандраўны.

*Ці прыехаў Лёня?* — Лёня павінен быў прыехаць у Мінск ад дзеда з бабай з Малой Багацькаўкі. Згодна «Камароўскай хронікі», с. 277: *Яна* (Ласка.— *Т. Г.) паехала ў Камунац.[энтр]* (Мінск.— *Т. Г.*) *з Тацянкаю, а Іванька захацеў застацца, каб потым прыехаць з дзядзькам Пракопам* (Парфірам.— *Т. Г.*). *...Перад 1 верасня паехаў у Камун.[ацэнтр] Пракоп і павёз з сабою Кузьмовага Іваньку. ...1 верасня прыехаў у Камунац.[энтр] Іванька з дзядзькам Пракопам.*

## 34. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 420)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 25.

Публікуецца ўпершыню.

## 35. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 421)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 26.

Публікуецца ўпершыню.

М. Гарэцкі паслаў для сям'і паштовы перавод на 30 рублёў.

### 36. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 421)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 27.

Публікуецца ўпершыню.

### 37. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 422)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 28.

*Учора ўгодкі па Ганначцы.*— 19 верасня споўнілася дзевяць гадоў з дня трагічнай смерці ў Маскве адзінай сястры М. Гарэцкага — Ганны (1902—1922). У «Камароўскай хроніцы» яна з'яўляецца прататыпам Марыны Батуры (Задумы).

### 38. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 423)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 29.

*...ліст з паведамленнем аб нешчаслівым выпадку.*— У лабараторыі, дзе працавала жонца пісьменніка, адбыўся выбух, у выніку якога Леаніла Усцінаўна атрымала траўму галавы.

Згодна «Камароўскай хронікі», с. 248: *«...у верасні, яна* (Ласка.— *Т. Г.*) *паступіла на работу, лабаранткаю, і на другі дзень, калі яна стаяла пры сушыльнай шафцы, ад няспраўнае работы прымуса набралася ў шафцы шмат газаў і здарыўся выбух. Медзяны корак трапіў ёй у левае вока... Вока засталося цэлым, толькі ад моцнага ўдару закрылася павека...»*

*«Сямейная хроніка»* — «Камароўская хроніка».

### 39. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 424)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 30.

Публікуецца ўпершыню.

### 40. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 424)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 31.

*...ехала з дзяцьмі Бабарэчыха. Я бачыў іх і дапамог ім перасесці на слабадскі.*— Бабарэка Ганна Іванаўна (1902—1982) з дочкамі Элеанорай і Алесяй ехала да мужа Бабарэкі Адама Антонавіча, які ў гэты час жыў у горадзе Слабадскім, што ў кіламетрах 35 ад Вяткі.

*«Крама старажытнасцяў»* (1841).

*...нататкі пра «Віленскіх камунараў» ~ я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць).*— Пасля завяршэння працы раман «Віленскія камунары» ў 1933 г. быў пасланы М. Гарэцкім у Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. У 1935 г. рускі варыянт твора — «Виленские воспомина-

ния» — адпраўлены ў Маскву. Аднак пры жыцці аўтара ні адзін з варыянтаў свету не пабачыў Упершыню раман «Віленскія камунары» апублікаваны ў 1963 г. у часопісе «Полымя», № 3, 4.

*...усялілі яшчэ адну старую настаўніцу...*— Мышкіну Вольгу Аляксееўну.

### 41. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 425)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 32.

### 42. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 426)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 33.

Публікуецца ўпершыню.

### 43. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 426)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 35.

*Ну, а як жа Парфір? Дзе ён жыве?* — Пасля заканчэння бухгалтарскіх курсаў Парфір Іванавіч працаваў бухгалтарам і жыў на прыватнай кватэры.

### 44. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 427)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 36.

### 45. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 428)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 37.

*«Камунараў» атрымаў...*— Маецца на ўвазе рукапісны матэрыял да рамана «Віленскія камунары».

### 46. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 428)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 38.

Публікуецца ўпершыню.

### 47. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 429)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 34.

М. Гарэцкі паслаў для сям'і паштовы перавод на 50 рублёў.

У тэксце адрасантам памылкова пазначаны месяц: замест XII — XI. Рэдактарская дата ўстаноўлена паводле паштовага штэмпеля.

## 48. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 429)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 39.

## 49. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 430)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 40.

*«Гісторыя цывілізац.[ыі] у Англіі* (1857—1861).

*А дзе вучыцца Славік?* — Славік, сын Гаўрылы. Ён пэўны час жыў у сям'і М. Гарэцкага і вучыўся ў адной школе з яго дзецьмі.

*...аддайце Вы той чэрап у школу...* — У багацькаўскім садзе быў выкапаны чэрап невядомага чалавека. Гаўрыла Іванавіч забраў гэтую знаходку ў Мінск і захоўваў яе ў сябе на кватэры.

Згодна «Камароўскай хронікі», с. 279: *«Чый невядомы чэрап выкапаў бацька на гародзе, гародзячы леску? Чэрап той быў у Лаўрыка на этажэрцы — і з надпісам на ім па-латыні стэнаграфіяй: «Памятуй пра смерць!»*

*Леска* — плеценая агароджа з арэхавых ці яловых дубцоў (пруцікаў).

## 50. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 432)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 41.

*Вулька* — стрыечная сястра М. Гарэцкага (па мужу Калугіна).

У «Камароўскай хроніцы» яна з'яўляецца прататыпам Вусцінкі Батуры (Задумы), жонкі Цераха Саладухі.

# 1932

## 51. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 432)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 43.

*...і ў той жа вечар ён заехаў да мяне.*— Іван Гарэцкі ў канцы снежня 1931 г.— пачатку студзеня 1932 г. ездзіў наведаць сваіх братоў Гаўрылу і Максіма.

Згодна «Камароўскай хронікі», с. 284: *«...паехаў Раман* (Іван.— *Т. Г.*) *да Лаўрыка, пабыў у Лаўрыка. Там у гэты час якраз была і Вара. Лаўрык паслаў Кузьме праз Рамана «Вопросы ленинизма» Сталіна і шахматы, а Вара кавалак туалетнага мыла. ...А з двара прывёз Раман Кузьме кавалак сала, пару кілбас і цёплыя панчохі і рукавічкі (матчынае работы). Кузьма быў дужа рад Раману».*

*Мама твая, Славічак, скора прыедзе, а можа, ужо прыехала...*— Ларыса Іосіфаўна Гарэцкая ездзіла да мужа ў Мядзведжую Гару (Мядзведжагорск). Іх сын Славік у гэты час жыў у Леанілы Усцінаўны.

Згодна «Камароўскай хронікі», с. 284: *«18 снежня, раніцою, прыехала Вара ў Логава. Сустракаў муж... Выглядам яго зусім зда-*

*волена. Здаецца, будзе здаволена і яго настроем. Знайшоў тут ён пакойчык. Будуць разам жыць. Зараз ён на працу, а яна пойдзе ў с. с. рэгістравацца. Пашукае сталоўку. А 4-й канчае работу. Яна па яго зойдзецца. Ужо ведае, дзе працуе. І ўрэшце возьме яго за руку, пойдуць у горы і будуць гаманіць, гаманіць... Аж не верыцца ёй, што яны разам. Мясцовасць тут, сапраўды, прыгожая і здаровая...»*

## 52. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 433)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 44.

## 53. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 433)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 45.

*Феня і Паўлюк* — дзеці Ульяны (Вулькі) Калугінай.

*...казаў ці думаў Жартаўлівы Пісарэвіч.*— Жартаўлівы Пісарэвіч — галоўны герой аднайменнай п'есы М. Гарэцкага.

## 54. ГАЛІ ГАРЭЦКАЙ (с. 434)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 46.

*...прыслаў бы вам пра Задумекуса.*— Маецца на ўвазе герой задуманага М. Гарэцкім твора, але не напісанага ім.

## 55. ЛЕНЮ ГАРЭЦКАМУ (с. 435)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 47.

*Ніна* — пляменніца М. Гарэцкага, дачка старэйшага брата Івана.

## 56. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 436)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 48.

Публікуецца ўпершыню.

*Фах* — рамяство, праца.

## 57. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 437)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 49.

*...ты пішаш для дзяцей пра трактар...*— Пад назвай «Сталёвы конь» кніжка Л. У. Чарняўскай для дзяцей выйшла ў Мінску ў 1933 г. Пазнейшая назва — «Першы трактар».

*А ці выйшла твая кніжачка пра свінаводчую станцыю...*— Нарыс Л. У. Чарняўскай пад назвай «Жывая машына» (пра тое, як гадуюць і даглядаюць свіней у свінаводчым інстытуце) апублікаваны ў часопісе «Іскры Ільіча», 1932, № 13—14.

## 58. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 438)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 50.

*...вучэнне ў Крушні і Норках.*— Крушняю М. Гарэцкі называе сяло Вольшы, дзе ён вучыўся ў 1903—1905 гг. у «образцовой второклассной школе» і дзе працягваў вучобу ў 1905—1908 гг. у настаўніцкіх класах. Норкамі — Горы-Горкі, дзе ён у 1909—1913 гг. вучыўся ў каморніцка-агранамічным вучылішчы.

*«Мяшчанскае каханне», «Джаліта» «Маруся», «Вяселле»* — творы М. Гарэцкага, тэксты якіх не адшуканы.

## 59. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 439)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 51.

*«Штось трывожны свет і людзі...»* — Апошні радок першага раздзела цыкла вершаў Я. Купалы «Песні вайны» (1914).

## 60. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 440)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 52.

Публікуецца ўпершыню.

М. Гарэцкі паслаў для сям'і паштовы перавод на 20 рублёў.

## 61. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 440)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 53.

*«У чым яго крыўда?»* — аповесць, асобнае выданне якой было ў 1926 г.

*«На імперыялістычнай вайне»* — дакументальна-мастацкія запіскі, выдадзеныя асобнай кнігай у 1926 г.

## 62. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 441)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 54.

Публікуецца ўпершыню.

## 63. ЛЁНЮ ГАРЭЦКАМУ (с. 441)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 55.

*Курманава* — вёска ў кіламетрах двух ад Малой Багацькаўкі.

*...прывітанне Галі і ў дзень яе нарадзін будзь з ёй...* — 13 сакавіка Галі Гарэцкай споўніцца 11 год.

## 64. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 442)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 56.

*...і мне прыйшлося складаць вялізарную ведамасць для заявак на матэрыялы на [19]32 г., па нормах [19]32 г.* — Відаць, другая лічба названа памылкова. Заяўкі на матэрыялы на 1932 г. хутчэй за ўсё рабілі па нормах 1931 г.

*А дзе ж гэта будуць жыць Ларыны бацькі? З вамі?* — Бацькі Ларысы Іосіфаўны Гарэцкай перад ад'ездам сям'і М. Гарэцкага ў Вятку пэўны час жылі разам з імі на вуліцы Заслаўскай, 5. Тут жа жыла Ларыса Іосіфаўна з дзецьмі.

*...Ларын ліст з Зазер'я...* — Ларыса Іосіфаўна пэўны час працавала аграномам-селекцыянерам у Беларускім навукова-даследчым інстытуце земляробства, цэнтр эксперыментальнай базы якога знаходзіўся недалёка ад Мінска — у вёсцы Зазер'е.

*Якое доўгае апавяданне ты збіраешся пісаць?* — Л. Чарняўская працавала ў той час над аповесцю «Кутніца», якая засталася не закончанай.

## 65. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 443)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 57.

М. Гарэцкі паслаў для сям'і паштовы перавод на 30 рублёў.

*...куды падаваць заяву...* — Маецца на ўвазе хадайніцтва Л. У. Гарэцкай аб пераводзе мужа бліжэй да Беларусі.

## 66. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 443)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 58.

Публікуецца ўпершыню.

*«Дырыжаблі»* — твор М. Гарэцкага, тэкст якога, як і адзначаных вышэй — «Мяшчанскае каханне», «Джаліта», «Маруся», «Вяселле»,— не адшуканы.

## 67. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 444)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 59.

*«Гаявата»* — паэма «Спеў аб Гаяваце» (1855).

## 68. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 445)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 60.

Публікуецца ўпершыню.

М. Гарэцкі паслаў для сям'і паштовы перавод на 30 рублёў.

## 69. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 445)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 61.

Публікуецца ўпершыню.

## 70. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 446)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 62.

Публікуецца ўпершыню.

М. Гарэцкі паслаў для сям'і паштовы перавод на 10 рублёў.

## 71. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 446)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 63.

## 72. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 447)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 64.

Паштоўка адрасавана «Леаніле Усцінаўне Горы-Гарэцкай».

*Лявон* — М. Гарэцкі. Ён з'яўляецца прататыпам галоўнага героя ў аповесцях «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», дакументальна-мастацкіх запісках «На імперыялістычнай вайне» і незавершаным творы «Камароўская хроніка».

*...калі верыць аўтару той повесці пра Ядвісю.*— Маецца на ўвазе першая частка трылогіі Я. Коласа «На ростанях» — «У палескай глушы» (1921—1922).

*...стаяў доўга і ўспамінаў свой 1914 год.*— Аўтар успамінаў франтавое жыццё ў час службы ў царскай арміі. Аб перажытым і ўбачаным пісьменнікам-салдатам за гэты час можна прачытаць у яго кнізе «На імперыялістычнай вайне».

## 73. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 448)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 65.

*Усе гэтыя выкрутасікі ў адрасе зрабіў я дурэючы.*— Паштоўку М. Гарэцкі адрасаваў «Леониле Устиновне Горе-Го́рецкой». У прозвішчы перадаў своеасаблівае каліграфічнае напісанне літар «Г», «Ц» і «Й». У адваротным адрасе назваў сябе «Левониусом За-

думекусом», які жыве ў горадзе «Крутогорске, ул. Свободы, 109, кв. 4». (Гл. ліст № 54 і каментарыі да яго.)

*...куды ж паехаў Іван.*— Іван Гарэцкі паехаў на пошукі працы ў Ленінград. Праз некаторы час ён там уладкаваўся дворнікам і забраў з Багацькаўкі сваю сям'ю.

### 74. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 449)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 66.

Публікуецца ўпершыню.

### 75. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 450)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 67.

*А сваю кніжачку ты мне так і не прыслала.*— М. Гарэцкі, відаць, мае на ўвазе адну з дзвюх кніжак Л. Чарняўскай для дзяцей, якія выйшлі ў 1932 г.: зборнік апавяданняў «Лявонка» ці асобнае апавяданне «Перамога».

*Хіба да жонкі М. Горкага («Чырвоны крыж»).*— Жонка М. Горкага, К. П. Пешкава (Волжына; 1876—1965), у 30-я гады працавала ў «Палітычным Чырвоным крыжы», які дапамагаў палітычным зняволеным і іх родным (ліквідаваны ў 1937 г.). Размяшчалася ўстанова ў Маскве на вуліцы Кузнецкі мост, 24. Тут можна было атрымаць прадукты, бялізну, адзенне для тых, каго адпраўлялі па этапе ў ссылку. Родныя маглі звярнуцца за дапамогай росшуку месцазнаходжання асуджанага і г. д. Аднак многія з тых, хто звяртаўся за дапамогай, пазней былі арыштаваны.

*А ці маеш ты мой артыкул (1928 г.?) у «Маладняку» (агляд белар.*[*ускай*] *літар.*[*атуры*] *пасля «Наш.*[*ай*] *н.*[*івы*]*)?* — Артыкул М. Гарэцкага «Беларуская літаратура пасля «Нашай нівы» надрукаваны ў часопісе «Маладняк», 1928, № 4.

*У падполлі выдана кніжачка майго перакладу «Хто такія камуністы?» (Мініна, здаецца)...*— Брашура С. Мініна «Хто такія камуністы?» у перакладзе М. Гарэцкага на беларускую мову выдадзена падпольна ў 1920 г. у Вільні выдавецтвам ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі.

### 76. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 450)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 68.

У правым верхнім куце паштоўкі М. Гарэцкім намалявана мужчынская палысеўшая галава ў профіль. Над верхам малюнка напісана: «Лыска». Побач з малюнкам — «Лёня, угадай, хто гэта?».

### 77. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 451)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 69.

*...горад Вятка, а паводле Салтыкова-Шчадрына — г. Крутагорск.*— У 1848—1855 гг. Салтыкоў-Шчадрын жыў у Вятцы, куды быў сасланы Мікалаем I за «вредный образ мыслей и пагубное стремление к распространению идей, потрясших уже всю Западную Европу...» [1]. Вятку Салтыкоў назваў Крутагорскам, аб якім напісаў цэлы цыкл твораў.

*Памёрла Піліпіха.*— Жонка аднавяскоўца М. Гарэцкага — Піліпа Шнарскага.

*Ці надоўга паехала Лара?* — Ларыса Іосіфаўна ездзіла наведаць мужа. Згодна «Камароўскай хронікі», с. 291: *«29 мая прыехала к Лаўрыку Вара з большым сынам. ...Пабылі яны ў Лаўрыка з 29/V да 13/VI. Сумна было ёй ехаць, тым больш сумна, што ехала яна скарэй, каб праводзіць Ласку. Сумна было пры думцы, што застанецца адна. Але яна была рада за Кузьму і Ласку. Жадала ім «доўга, доўга жыць разам, не разлучацца болей».*

## 78. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 452)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 71.

Публікуецца ўпершыню.

*«Нехацімцы»* — жыхары вёскі Малой Багацькаўкі, якія не хацелі ўступаць у калгас.

## 79. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 453)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 70.

Публікуецца ўпершыню.

# 1935

## 80. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 453)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 72.

## 81. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 453)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33. л. 1.

Публікуецца ўпершыню.

*...цётка Адаміха з дачкою...*— Жонка Адама Бабарэкі Ганна Іванаўна з дачкой Алесяй.

---

[1] Макашин С. Салтыков-Щедрин: Биография.— М., 1951. С. 294.

### 82. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 454)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33, л. 2.

Публікуецца ўпершыню.

*Сітчыхіна, Суворава, Поля* — супрацоўніцы дзіцячага сада № 1, у якім працавала Леаніла Усцінаўна выхавальніцай, калі жыла ў Вятцы.

*Тараймовічы* — знаёмыя Гарэцкіх, якія жылі ў Вятцы ў ссылцы.

### 83. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 454)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33, л. 3.

*У Маскве заедзеце да Ул.[адзіміра] Іванавіча...*— Пічэты.

*Камсод* — камітэт садзейнічання.

### 84. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 455)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33, л. 4.

*Г.[анна] Ад.[аміха]* — жонка Адама Бабарэкі («Адаміха»).

*Г.[еоргій] Ал.[яксеевіч]...*— Гулін.

*...але Максімаву хочуць усадзіць.*— Гаворка ідзе аб жаданні Гуліных пасяліць у пакой Гарэцкіх, пасля іх пераезду ў Пясочню, сваю знаёмую — Максімаву.

### 85. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 456)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33, л. 5.

Публікуецца ўпершыню.

*Жакт* — жыллёва-арэнднае кааперацыйнае таварыства.

*Наташа* — нянечка з дзіцячага сада № 1 г. Кірава (б. Вяткі), якая ляжала ў адной палаце з Леанілай Усцінаўнай.

### 86. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 456)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33, л. 6.

Публікуецца ўпершыню.

### 87. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 457)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 33, л. 7.

Публікуецца ўпершыню.

*Бабарэкі па ордэр пойдуць сёння.*— А. Бабарэка атрымаў ор-

дэр на пакой, у якім да пераезду з Кірава (б. Вяткі) у Пясочню жыла сям'я Гарэцкіх: вуліца Свабоды, 109, кв. 4.

## 88. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 457)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 73—74.

Публікуецца ўпершыню.

*...спаткалі Еўдакію Міхайл.[аўну]...*— Гуліпу.

## 89. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 457)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 75—76.

Публікуецца ўпершыню.

*Вл.[адимир] Ив.[анович]* — Пічэта.

*Ніч.[ыпар] Фёд.[аравіч]* — Чарнушэвіч.

## 90. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 458)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 77.

Публікуецца ўпершыню.

## 91. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 459)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 78.

*...памёр дзядзька Касцюк...*— Дзядзька М. Гарэцкага Папоў Канстанцін Міхайлавіч. Прататып Паўлюка Ваяводы ў «Камароўскай хронікі».

*Тата пытаецца, як яму далей жыць.*— Зварот Івана Кузьміча за парадай да дзяцей «як яму далей жыць» выкліканы смерцю жонкі, маці пісьменніка. Ефрасіння Міхайлаўна памерла 4 сакавіка 1935 года.

## 92. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 460)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 79.

## 93. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 461)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45, л. 80.

Публікуецца ўпершыню.

У тэксце ліста М. Гарэцкім памылкова пазначаны месяц: замест XI напісаны X. Дапушчаная недакладнасць выяўлена са зместу, а таксама па паштовым штэмпелі.

## 94. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 461)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 34, л. 1.

Публікуецца ўпершыню.

Паштоўка адрасавана: гор. Киров Западной области, ул. Ленина, д. 54. Максиму Ивановичу Горецкому. Тэкст ліста прызначаны Л. У. Гарэцкай.

У чэрвені месяцы М. Гарэцкі разам з дачкой наведаў Малую Багацькаўку, дзе Галя засталася на час летніх канікул.

*Цёмны Лес* — чыгуначная станцыя на лініі Орша — Крычаў у кіламетрах 15 ад Малой Багацькаўкі.

## 95. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 462)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 34, л. 2.

*Шура́* — садовыя ягады ірга.

## 96. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 463)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 34, л. 3.

У ліпені месяцы М. Гарэцкі ездзіў у М. Багацькаўку разам з сынам.

*Пуця́ты* — вёска непадалёку ад Малой Багацькаўкі.

## 97. Л. У. ГАРЭЦКАЙ (с. 463)

Друкуецца па арыгінале: ЦНБ АН БССР, ф. 7, воп. 2, адз. зах. 34, л. 4.

*Домна* і *Таццяна* — сёстры Аніссі Гарэцкай.

*...жыве адна Галя ў Клаўдзі.* — Галя і Клаўдзя — пляменніцы М. Гарэцкага, дочкі брата Івана. Клаўдзя жыве ў М. Багацькаўцы.

*Гапка* — стрыечная сястра М. Гарэцкага Агата Раманцэвіч, прататып Даркі ў «Камароўскай хроніцы».

## Паказальнік лістоў па адрасатах [1]

Гартнаму Ц.— 3.
Гарэцкай Галі — 54.
Гарэцкай Л. У.— 13, 16, 18—29, 31—53, 56—62, 64—97.
Гарэцкаму І. К.— 30.
Гарэцкаму Лёню — 14, 15, 55, 63.
Да родных — 9, 17.
Жалігоўскаму Л.— 7.
Карскаму Я. Ф.— 8, 10, 11.
У кніжны склад «Нашай нівы» — 1.
Уласаву А. М.— 2.
У Маскоўскі археалагічны інстытут — 5.
У рэдакцыю газеты «Беларуская думка» — 6.
У рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь» — 12.
У Савет прафесараў Смаленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута — 4.

[1] Лічбы адпавядаюць нумарам лістоў.

# Анатаваны паказальнік імёнаў

*Адамовіч Аляксандр Фаміч* (1900—1937), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР.— 282.

*Азбукін Мікалай Васільевіч* (1894—1943), беларускі савецкі географ, краязнавец, грамадскі дзеяч.— 413.

*Александровіч Андрэй Іванавіч* (1906—1963), беларускі савецкі паэт. Член-карэспандэнт АН БССР (1936). Адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк».— 263, 290, 336, 347.

*Алёша — гл.* Вольны Анатоль.

*Аляксандр I* (1777—1825), расійскі імператар (1801—1825).— 188.

*Аляксюк Павел Паўлавіч* (1892—?), удзельнік беларускага нацыянальнага руху, адзін з лідэраў яго правага крыла.— 399.

*Аляхновіч Францішак* (1883—1944), драматург, празаік, паэт, публіцыст, тэатральны дзеяч, акцёр. У час Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічаў з нямецка-фашысцкімі акупантамі — выдаваў газету «Беларускі голас» (Вільня). Забіты партызанамі.— 225, 226, 292, 332, 338, 342, 353, 399.

*Арсеньева Наталля Аляксееўна* (н. 1903), паэтэса, перакладчыца. У час Вялікай Айчыннай вайны жыла ў Мінску, друкавалася ў газетах і часопісах, якія выдаваліся нямецка-фашысцкімі акупантамі. Жыве ў ЗША.— 336, 343, 398.

*Астрожскі Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч* (1527—1608), палітычны і культурны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, абаронца праваслаўя, магнат. Заснавальнік школ у Слуцку, Тураве (1572), Уладзіміры-Валынскім (1577), школы і друкарні ў Астрозе (каля 1580).— 199.

*Аўрамій Смаленскі*, царкоўны прапаведнік, кніжнік Кіеўскай Русі. У канцы 12 — першай трэці 13 стагоддзяў смаленскі манах. Вызначаўся высокай адукаванасцю і рознабаковымі здольнасцямі.— 324.

*Бабарэка Адам Антонавіч* (1899—1938), беларускі савецкі пісьменнік і крытык. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша».— 262—265, 272, 273, 283, 290, 293, 294, 413, 457.

*Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры.— 201, 231, 232, 263, 332, 337, 339, 340, 369, 372, 375.

*Багрым Паўлюк* (Багрым Павел Восіпавіч; 1813—1891), беларускі паэт.— 250, 327.

*Багушэвіч Францішак Бенядзікт Казіміравіч* (1840—1900), беларускі паэт, празаік, публіцыст і перакладчык.— 234, 255, 261, 329, 335.

*Балаховіч* — гл. Булак-Балаховіч.

*Бальмонт Канстанцін Дзмітрыевіч* (1867—1942), рускі паэт, адзін з ранніх прадстаўнікоў сімвалізму ў рускай паэзіі, перакладчык, літаратуразнавец.— 331.

*Бандарына Зінаіда Аляксандраўна* (1909—1959), беларуская савецкая пісьменніца.— 344.

*Баранаў Сымон Якаўлевіч* (псеўд. Баранавых Сымон; 1900—1942), беларускі савецкі пісьменнік.— 378—381.

*Барашка Іlары* (Іларыён Мацвеевіч; 1905—1968), беларускі савецкі пісьменнік.— 382—385.
*Баршчэўскі Ян* (1794, паводле іншых крыніц 1790 ці 1796—1851), беларускі і польскі пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.— 327.
*Барычэўскі Яўген Іванавіч* (1883—1934), беларускі савецкі літаратуразнавец. Прафесар (1928).— 283.
*Баторый (Batory) Стэфан* (1533—1586), трансільванскі князь, польскі кароль.— 400.
*Блок Аляксандр Аляксандравіч* (1880—1921), рускі паэт.— 316, 369, 370, 372, 375.
*Бокль (Buckle) Генры Томас* (1821—1862), англійскі гісторык і сацыёлаг-пазітывіст, прадстаўнік геаграфічнага дэтэрмінізму.— 431.
*Брусаў Валерый Якаўлевіч* (1873—1924), рускі савецкі паэт. Народны паэт Арменіі (1923). Прафесар (1921). Ганаровы член Інбелкульта (1923).— 230, 331, 370, 375.
*Будны Сымон* (1530(?) — 1593), гуманіст і асветнік, тэолаг і рэлігійны рэфарматар, філосаф, гісторык, філолаг, паэт Вялікага княства Літоўскага.— 266.
*Будзька Адварды* (Эдуард Адамавіч; 1882—1958), беларускі паэт і выдавец.— 339.
*Буйло (Калечыц) Канстанцыя Антонаўна* (1899—1986), беларуская савецкая паэтэса. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968).— 332, 369, 399.
*Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч* (1883—1939), адзін з кіраўнікоў контррэвалюцыі ў часы грамадзянскай вайны.— 239, 341.
*Бунін Іван Аляксеевіч* (1870—1953), рускі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).— 370, 372, 375.
*Быліна Янка* (Семашкевіч Іван; 1883—1955), беларускі паэт.— 338.
*Бядуля Змітрок* (Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941), беларускі савецкі пісьменнік.— 163, 238, 263, 289, 290, 300, 318, 332, 334, 336, 337, 339, 340, 342, 345—348, 351, 353, 355, 364—369.
*Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848), рускі літаратурны крытык, філосаф, публіцыст.— 188.
*Бярозка Юры* (Георгій Сяргеевіч; 1905—1982), рускі і беларускі савецкі пісьменнік.— 351.
*Бяссонаў Пётр Аляксеевіч* (1828—1898), рускі гісторык літаратуры, фалькларыст-славіст, публіцыст. З 1879 г. прафесар кафедры славянскіх гаворак Харкаўскага універсітэта.— 196, 197, 251.
*Вазнясенскі Аляксандр Мікалаевіч* (1888—1966), рускі і беларускі савецкі літаратуразнавец. Прафесар (1927).— 283, 351.
*Вальфсон Сямён Якаўлевіч* (1894—1941), беларускі савецкі філосаф. Прафесар (1921). Акадэмік АН БССР (1928).— 264.
*Варонка Язэп Якаўлевіч* (1891—1954), удзельнік беларускага нацыянальнага руху.— 224.
*Відук Янка* (Скрыган Іван Аляксеевіч; н. 1905), беларускі савецкі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Заслужаны работнік культуры БССР (1985).— 375.
*Вільгельм II* (1859—1941), германскі імператар і прускі кароль у 1888—1918 гг.; актыўна садзейнічаў развязванню першай сусветнай вайны (1914—1918).— 207.

*Вільсан, Уілсан (Wilson) Томас Вудра* (1856—1924), дзяржаўны дзеяч ЗША. У 1912—1921 гг. прэзідэнт Злучаных Штатаў ад Дэмакратычнай партыі.— 209, 224.

*Власт* — гл. Ластоўскі Вацлаў.

*Вольны Анатоль* (Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч; 1902—1937), беларускі савецкі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1935).— 262, 263, 280—282, 347.

*Верхліцкі (Vrehlický) Яраслаў* (Эміль Фрыда; 1853—1912), чэшскі паэт, драматург, перакладчык.— 230.

*Вярыга-Дарэўскі Арцём Ігнатавіч* (1816—1884), беларускі пісьменнік-дэмакрат.— 404.

*Вясёлы Касьян* (Аўдзей Вікенцій Іосіфавіч; 1886—1916), беларускі пісьменнік.— 225.

*Галавач Платон Раманавіч* (1903—1937), беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч.— 336, 380, 385—389.

*Галка Міхалка* (Пігальскі Міхаіл Пятровіч). Друкаваўся ў «Нашай ніве» (1912, 1914), у «Вольнай Беларусі» (1918), у «Дзянніцы» (1919), у «Вольным сцягу» (1921), у зборніку «Зажынкі» (1918).— 341.

*Галубок* (Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; 1882—1937), беларускі савецкі пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак. Народны артыст БССР (1928). Адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра.— 225, 231, 234—237, 245—249, 332, 339, 353.

*Гародня А.* (Функ Алесь Эраставіч; 1899—1944), беларускі савецкі пісьменнік, крытык.— 370—372, 374, 375.

*Гартны Цішка* (Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937), беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамнаце РСФСР. Старшыня Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі (1919). Акадэмік АН БССР (1928).— 224, 225, 263, 289, 290, 293, 296, 305, 309, 311, 315, 332—334, 336, 337, 339—341, 346, 347, 349, 351—353, 355, 370, 403.

*Гарун Алесь* (Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 1887—1920), беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч.— 316, 332, 337, 339—341, 343, 375, 400.

*Гарэцкая-Чарняўская Леаніла Усцінаўна* (1893—1976), беларуская савецкая пісьменніца, перакладчыца, педагог.— 399.

*Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч* (1900—1988), беларускі савецкі геолаг. Акадэмік АН БССР (1928).— 399, 405, 406, 409, 410, 412, 413, 415, 417—420, 422, 423, 425—428, 431, 433, 437, 439—441, 443, 444, 446, 447, 449, 455, 458.

*Гжымала-Седлецкі* — Siedlecki Grzymała Adam (1876—1967), польскі літаратурны крытык, драматург.— 243, 244.

*Гладкоў Фёдар Васільевіч* (1883—1958), рускі савецкі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР (1950, 1951).— 306.

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969), беларускі савецкі паэт. Акадэмік АН БССР (1957).— 336.

*Глыбоцкі Тодар* — гл. Дудар Алесь.

*Гмырак Лявон* (Бабровіч Мечыслаў; 1891—1915), беларускі крытык, публіцыст і празаік.— 237—239.

*Гогаль Мікалай Васільевіч* (1809—1852),— рускі пісьменнік.— 198, 444.

*Горкі Максім* (Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936), рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч, заснавальнік літаратуры

сацыялістычнага рэалізму, пачынальнік савецкай літаратуры. Першы ганаровы акадэмік АН БССР (1932).— 306, 407, 450.

*Грамыка Міхайла* (Міхаіл Аляксандравіч; 1885—1969), беларускі савецкі пісьменнік і вучоны.— 225, 263, 315—317, 347.

*Гурло Алесь* (Аляксандр Кандратавіч; 1892—1938), беларускі савецкі паэт.— 263, 339.

*Гушча Тарас* — гл. Якуб Колас.

*Гутэнберг (Gutenberg) Іаган* (1400—1468), нямецкі вынаходнік, стваральнік еўрапейскага спосабу друкарства рухомымі металічнымі літарамі.— 269.

*Дабравольскі Уладзімір Мікалаевіч* (1856—1920), беларускі і рускі этнограф, фальклярыст, краязнавец, лексікограф.— 328.

*Дантэ Аліг'еры* (Dante Alighieri; 1265—1321), італьянскі паэт, папярэднік літаратуры Адраджэння, пачынальнік італьянскай літаратурнай мовы.— 336.

*Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч* (1821—1881), рускі пісьменнік.— 198.

*Даўгяла Дзмітрый Іванавіч* (1868—1942), беларускі савецкі археограф і гісторык.— 402.

*Дзікенс (Dickens) Чарлз* (1812—1870), англійскі пісьменнік, выдатны прадстаўнік англійскага крытычнага рэалізму 19 стагоддзя.— 424.

*Дзянікін Антон Іванавіч* (1872—1947), генерал царскай арміі, галоўнакамандуючы контррэвалюцыйных войск Паўднёвай Расіі ў час грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі ў 1918—1920 гг.— 308.

*Дзяржынскі У.* (Чаржынскі Уладзіслаў Вікенцьевіч; 1897—1974), крытык, літаратуразнавец, аўтар даследаванняў па праблемах беларускага рамантызму.— 284, 292, 301, 315—317, 355.

*Доўнар-Запольскі Мітрафан Віктаравіч* (1867—1934), беларускі гісторык, этнограф і фальклярыст. Прафесар (1902).— 328.

*Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900—1976), беларускі савецкі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Янкі Купалы (1962).— 263, 287, 290, 334, 335, 346, 347, 351, 353, 355, 375, 378.

*Дудар Алесь* (Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч; 1904—1937), беларускі савецкі паэт і крытык.— 263, 290, 336, 347.

*Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт* (Вікенцій) Іванавіч (1808, паводле іншых звестак — 1807—1884), беларускі паэт, драматург, тэатральны дзеяч.— 188, 232—234, 241, 242, 249, 252—261, 297, 327.

*Езавітаў Канстанцін* (1893—1944), у 20—30 гг. дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Латвіі. У час Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічаў з нямецка-фашысцкімі акупантамі.— 344.

*Еўлашоўскі (Еўлашэўскі) Фёдар Міхайлавіч* (1546 — пасля 1616), беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік. З літаратурнай спадчыны пакінуў дыярыуш — самы ранні помнік мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры канца 16 — пачатку 17 стагоддзя.— 325.

*Ефрасіння Полацкая* (свецкае імя Прадслава; 1110(?) — 1173), князёўна, ігумення манастыра святога Спаса ў Полацку, асветніца перыяду Кіеўскай Русі, першая жанчына на Русі, якую царква кананізавала ў святыя.— 324.

*Жалігоўскі Люцыян* (1865—1947), польскі палітычны і ваенны дзеяч.— 397.

